Падпісны індэкс: **74813**
Чытайце «Дзеяслоў» у Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**



Ілюстрацыі на вокладцы Усевалада Свентахоўскага
з праекта «Літары і словы Францыска Скарыны».



Пасведчанне аб рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 631 ад 28 жніўня 2009 г., выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Заснавальнік — ГА «Літаратурна-мастацкі фонд «Нёман».
Юрыдычны адрас: вул. Кузьмы Чорнага, 18–2, 220012, Мінск.

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31–906, 220012, Мінск.
e-mail: dzieja@tut.by
www.dziejaslou.by
Тэл.: 200-80-91.

Здадзена ў набор 20.02.2019 г. Падпісана да друку 25.03.2019 г.
Фармат 70х108 $^1/_{16}$. Папера афсетная. Друк афсетны.
Аб’ём — 22 ул.-выд. арк. Наклад 700 асобнікаў. Заказ №

Паліграфічнае выкананне: сумеснае таварыства з абмежаванай адказнасцю «Медысонт».
№ 2/34 ад 23.12.2013, ЛП № 02330/20 ад 18.12.2013.
Вул. Ціміразева, 9, 220004, Мінск.

Кошт нумара – па дамове.
Для дзяцей, старэйшых за 16 гадоў.



№2 (99)
/сакавік-красавік/ 2019

дзеяслоў

ЗМЕСТ

Ігар Бабкоў



...Калі памірае мова

Птушкі не вяртаюцца з выраю

І сны гарчэюць...

# Вершы Францішка

У мяне ёсць тэчка, якую я дастаю ў асаблівыя моманты свайго жыцця. Яна ляжыць у шафе, на самым дне, разам з іншымі паперамі, у якіх сабраныя *артэфакты эпохаў*.

Дастаткова грубая, калі не сказаць разбухлая.

Там многа ўсяго. Запісы размоваў, выпадковыя нататкі. Старонкі часопісаў з публікацыямі, выцінкі з газетаў. Фотаздымкі.

Энцыклапедыя прамінулага, дзе сабраныя шмат якія выпадковыя і невыпадковыя рэчы. Я люблю пераглядаць яе змесціва: перачытваць чарнавыя накіды, класіфікаваць, шукаць забытыя скарбы.

Як я ўжо казаў, я дастаю тэчку ў асаблівыя моманты: не толькі тады, калі штосьці не так, ці ўжо занадта добра. Часам гэта лёгкае хваляванне перад новым. Альбо адваротна, адчуванне тупіка. Ці трывога.

А часам проста хочацца прынюхацца да самога сябе – іншага, штосьці спраўдзіць, зразумець.

Я ведаю дакладна, што калі дастаю і пераглядаю ўсё гэта, са мной абавязкова нешта здараецца. У самай найбліжэйшай будучыні.

Тэчка падпісаная “Вершы Францішка: выпісы і адхіленні”.

Яго вершы там таксама *знаходзяцца*.

* * *

Сляпы паэт дажывае жыццё ў Вільні
Горадзе, у якім паветра мае гісторыю

Ён прачынаецца, прыгадвае галасы дрэваў
Дакранаецца да ценяў, ідзе па калідоры на кухню

Гатуе каву, вяртаецца з ёй у пакойчык
Бярэ адну з нялічаных кнігаў

Што прыгожа і з гатовасцю стаяць на паліцах
Сядае ў фатэль, адгортвае на выпадковай старонцы

І ўглядаецца ў верш, пра тое, што лепш не бачыць
Як час за вокнамі глытае пыл чалавечы

* * *

Штосьці пячэ ўнутры
як быццам колы павярнуліся
слабасць стала як сіла
а сіла слабасцю

каштаны і клёны
ўбраліся ў чырвань часу
і вецер за вокнамі
пяе пра жоўтае сонца

* * *

Час шапоча пеаны
Шэпча шэрыя сутры

Крокі
Крывёю расквеціць

Альбо
Пакіне ў спакоі

У Шоргат
Верыць не верыць

Крочыць альбо захавацца

Шэрай крывёй захлынуцца
Шэптам сказаць даволі

* * *

Прадзіраючыся праз коміксы,
Што падсоўвала ім эпоха

Праз чэргі ў супермаркетах,
Распродажы сноў
У прыгарадных электрычках

Праз шэлегі, леі і франкі,
Што прыходзілася выпрошваць у Часу

Праз вусціш пустых світанкаў,
Праз адчай пурпуровы

Паміраючы, уваскрасаючы,
Падыходзячы да самага скраю

У самым сэрцы начы,
Яны разумелі:

Наступала новая яснасць

* * *

Лялечныя мінатаўры
Пад халодным небам
Эдэма

Абазнаныя
У прыходах поўні
У раптоўнай восені, снах, перапынках

Майстры
Няпэўнасці, самоты

Адчаю зеленавокага
Светлай тугі напрадвесні

Чакаюць вецер з усходу

Не ведаюць
Хто з іх Эдып, хто Тэзэй
А хто Арыядна

* * *

Больш непатрэбны словы, каб гаварыць
Слёзы, каб плакаць

Аблокі, каб любіць вецер
І ветразь, каб плыць у акіяне

Толькі сны
Толькі абуджэнні

Толькі самотны шпацыр
Па самым скраі

Заблытанай, ледзьве бачнай сцежкі
Жыцця і смерці

### *Стары валацуга Куан Дэ (狂德) ўглядаецца ў сваё сэрца*

Вядомы падарожнік па мянушцы Куан Дэ –
дасканалы ў шаленствах
Не выходзіць з дому апошнія пяць стагоддзяў
Гартае на дасвецці старыя забытыя кнігі
І ведае ўсё, што будзе – да самых дробных драбніцаў

Любіць размаўляць з журавамі пра веснавыя танцы
Даглядае на гародзіку гарбузы і рэпкі
Часам строіць гучанне свірысцёлачкам і жалейкам
Але збольшага цікавіцца майстраваннем сэрца

* * *

Мудрае сэрца падобнае крыху да флейты
Грае пяшчотна, калі ў душы вецер
І крыху да куфра – бо ўсё, што ні ёсць пад небам,
можа схавацца і будзе там у бяспецы

Малое сэрца рыхтык, як птушанятка
корпаецца ў найбліжэйшым, сочыць за кожным гукам
цешыцца сярод дробязяў, але з вялікаю верай
У цеплыню і міласць, і ў дасканаласць свету

* * *

Вялікае сэрца хаваецца ў бязмежным
У золаце надвячорка, сярод белапенных хваляў

Гоіць і суцяшае, верыць і спадзяецца
У кожным Тваім імгненні, у цёплым Тваім дыханні

* * *

Брыль у дарогу
Майструе з апалага лісця
Стары валацуга

### *Куан Дэ чытае Бгагаватгіту*

Што мне тады адказаў Крышна, я не помню
Было горача, з абодвух бакоў ляцелі стрэлы

Потым адразу: канец лета, стары парк, рака
І жанчына камусьці шэпча: *маё дзіцянятка*

Калыска сярод каштанаў, птушыныя галасы
Сэрца б’ецца ўнутры трапяткім камячком,
нібы ў палоне

Вецер заблытаўся сярод густой духмянай травы
І яшчэ дзесяць тысяч год расці дрэвам

### *Куан Дэ перапісвае Шэкспіра*

Ён не спяшаўся апранаць маску, хвіліну запаволіў
На бакавым калідоры, перад тым, як выйсці на сцэну

П’еса ішла даўно і падышла да развязкі
Кароль прымаў дары на вяршыні славы

Каралева сядзела за кроснамі, пляла інтрыгі
Прынцэса, у таварыстве сяброўак, чакала прынца

З будкі суфлёра спяваў хор менестрэляў
І ўсе як адзін па сюжэце ўдавалі шчаслівых

Яго роля была надзвычайна простай
Увайсці на сцэну, раптоўна, у апрычоны момант

Сказаць праўду: паўсюль здрада, усё падвісла на нітцы
Ворагі зусім блізка, пільнуюць ля самых межаў

Урэшце ён падаў на падлогу, з нажом у сэрцы
І ўсе пляскалі – у радасным шале – ад смерці героя

Ён мусіў чакаць, пакуль не празвінелі званочкі
Але гэтым разам было не так, як звычайна

У вялікай залі было ціха і цёмна
На крэслах партэру сядзелі хіжыя птушкі

Месяц схаваўся за хмары, сціх вецер
І хтосьці Незнаёмы на небе падмалёўваў зоры

Потым ён ішоў па пустой дарозе у адсутнасць
Думаў пра *яе сны*, пра значэнне слова *навонкі*

Дакранаўся да зорак, слухаў галасы і шэпты
І крыху шкадаваў, што забыў назву тэатра

***Куан Дэ думае пра родную мову***

Жалейка мая, свірысцёлачка
Сястра мая, маё шчасце

Твае гукі чыстыя
Тоны незамутнёныя

Са мной, праз сны і аблокі
Са мной, у жыцці і ў смерці

У халодным чэрвені
І ў трывожным лістападзе

Грай, не спыняйся

* * *

Звар'яцелы падарожнік Куан Дэ
Марыць прайсці праз свет як меч праз фіранку
І выйсці на той бок – у гаючую пустэлю
Дзе ўжо няма справы да слоў – і сноў – Амітабхі

Крыху хвалюецца, ці не надта гэта нахабна
І ці не будзе парушана тонкая раўнавага дхармаў

І хто тады, калі *Я* не ўбачыць сябе ў люстэрку
Возьме пэндзаль і туш і занатуе гэтыя словы

* * *

Калі памірае мова
Птушкі не вяртаюцца з выраю
І сны гарчэюць

* * *

Як быццам падышлі да скраю
І там адкрылася мора
І цяпер можна плакаць, смяяцца
Можна ісці як ветразь

Збіраць па беразе камні:
Ракаўкі і каралі
Быць як птушкі, як неба
І не баяцца смерці

* * *

Калі не застаецца *Я*
Хто цябе ўбачыць, вецер?!



Людміла Рублеўская



...Пачынаюць папракаць –
цытуй Біблію.
Скардзяцца на ўціск –
спасылайся на волю Божую...

# Пад залатымі трубамі

***Кінааповесць-фантасмагорыя па матывах гістарычных хронік***

Імчыць вершнік. Мільгаюць магутныя дрэвы, узгоркі, палі...

Вершнік у ваўчынай скуры, накінутай на плечы, у скураным шлеме з рагамі час ад часу падносіць да вуснаў медны паляўнічы рог – на ім сляпуча ззяе адбітак сонца, – закідвае галаву і трубіць. Гукі ўрачыста ўзлятаюць у неба. Над вершнікам кружляе чорны арол, які суправаджае яго.

– Так наш далёкі продак, найбліжэйшы радца вялікага князя Альгерда, за параду будаваць слаўны горад Вільню атрымаў ва ўладанні столькі зямлі, на колькі будзе чуваць гук ягонага рога цягам дня... І герб наш адгэтуль – "Трубы"... І чорны арол – знак наш...

Вершнік працягвае свой шлях. Узнімаецца ў неба труба, на якой ззяе сонца... Кружляе ў небе чорны арол.

Высокі худы чалавек з груганом на плячы, захутаны ў манаскі чорны плашч з каптуром, з нянавісцю глядзіць на арла, які кружляе ў небе.

– Замнога табе гонару, паганец. Ніколі не дарую. Заўсёды буду стаяць на тваім шляху.

З пляча Вялікага Інквізітара зрываецца чорны груган. Узлятае ўверх, туды, дзе кружляе арол.

Зноў гучыць труба. Яе залаты бляск асляпляе, нагадвае кругі на вадзе... І застывае малюнкам на гербе "Трубы", які вісіць над камінам.

1529 год. Гербавая зала ў палацы Радзівілаў.

Юры Радзівіл па мянушцы Геркулес, магутнага складу мужчына з рудаватымі валасамі і барадой, адкінуўшыся ў фатэлі з высокай спінкай, гартае цяжкі фаліянт. У Радзівіла перавязана рука – ён толькі што пасля чарговай бітвы. Вакол яго сядзяць і ўважліва слухаюць дзеці – Мікалай Радзівіл Руды і ягоны стрыечны брат Мікалай Радзівіл Чорны, абодва падлеткі, трохі маладзейшая за іх Ганна Радзівіл, і анёлак дзевяці гадоў – Барбара Радзівіл. У крэсле сядзіць жонка Юрыя Радзівіла, Барбара Кола, уладная жанчына з цяжкім падбароддзем і бляклымі блакітнымі вачыма, яна вышывае. Паволі праступаюць на белым шоўку цяжкія гронкі рабіны, бы кроплі крыві. Ля крэсла стаіць паж, Міхал Рашчынскі, які па звычаі трымае малітоўнік сваёй пані і ўважліва прыслухоўваецца да размовы ля каміна. Міхал трохі па-падлеткаваму няўклюдны, але відаць, што вырасце вялікім, дужым, у ім адчуваецца незвычайная моц: і дзікая, мядзвежая сіла, і шчырасць, наіўнасць простай натуры. Ягоны позірк увесь час спыняецца на Ганне Радзівіл, танклявай, гожай, дзёрзкай, якая сядзіць збоку на лаўцы, і адзіная з усіх дзетак круціцца, відавочна нудзіцца ўрокам генеалогіі.

Радзівіл Геркулес працягвае аповед:

– Паводле легенды, наш продак, жрэц князя Гедыміна Ліздзейка, убачыў у прарочым сне Жалезнага Ваўка... Які паказаў месца для пабудовы Вільні.

Мікалай Чорны, хлопец з тонкімі рысамі твару, з "фамільным" радзівілаўскім гарбатым носам, па звычаі падмячае тое, на што іншыя не звярнулі ўвагі:

– Дык што, дзядзечка Юры, Радзівілы паходзяць ад паганскага жраца?

Геркулес паблажліва ўсміхаецца.

– Гэта толькі легенда. Насамрэч першым прыняў герб "Трубы" ваш прадзед, баярын Осцік... Ад назвы маёнтка Трабы. І было гэта пры слаўным князе Вітаўту... І няма, і не будзе роду мацней за наш... Пакуль Радзівілы трымаюцца разам. Як калісьці трымаліся мы – я, мой брат Ян, мой брат Мікалай, мая сястра Ганна Мазавецкая. Адзін я застаўся з іх. Ваш час. Ты, мой сын, Мікалай Руды, і ты, мой пляменнік, Мікалай Чорны, будзеце, як лязо і дзяржальна аднаго мяча.

Браты абменьваюцца позіркамі: адкрыты, шчыры твар гарачага па натуры Мікалая Рудога, засяроджаны, хітраваты – Чорнага.

Увесь гэты час Ганна круціцца на месцы, паглядае за вакно, дзе за ўзорчатымі рамамі пагойдваецца голле дрэў. Тузае на шыі медальён – срэбны арол са смарагдавымі вачыма. Дзяўчынка азіраецца на маці – тая прыдрамала ў крэсле, вышыўка з барвовымі гронкамі рабіны ляжыць на каленях. Пакуль бацька размаўляе з братамі, Ганна ціхенька ўстае. Барбара, якой таксама не вельмі цікава, спалохана глядзіць на сястру. Ганна жэстам кліча яе з сабой. Барбара адмоўна круціць галавою. Ганна ціхенька выслізвае з пакоя. Мікалай Чорны кідае пільны хуткі позірк убок – але не выдае сястру. Уцёкі Ганны заўважае і паж Міхал.

Ганна выходзіць у сад. Прабіраецца між дрэў і кустоўя, расхінае голле,

усыпанае квеценню, захоплена сочыць за матылькамі. У траве ёй трапляецца здохлая варона – дзяўчынка не выяўляе грэблівасці, схіляецца, тыцкае ў птушку прутком, заглядае ў мёртвае вока... Ёй цікава – што такое смерць? Відовішча дзіўнае: дзяўчынка-анёлак у белай сукенцы – і мёртвая варона... За княжной, хаваючыся за кустамі, крадзецца Міхал, які таксама пакінуў свой пост, скарыстаўшыся тым, што княгіня заснула. Міхал паглядае з-за голля, як маленькая танклявая княжна ў белай сукенцы гуляе па чароўным садзе. Відаць, што сад і ўвогуле палац толькі будуюцца. Там-сям груды камення, чуваць гукі будоўлі.

Між тым Ганна выходзіць на невялікую палянку, пасярод якой высіцца незразумелае збудаванне. Штосьці высокае, абстаўленае жэрдкамі. Гэта яшчэ не дарobленая эолава арфа – вельмі складаная па задуме канструкцыя. Блішчаць паміж жэрдак яе пазалочаныя струны, але яшчэ не гучыць музыка ветру... Так, асобныя дзіўныя гукі, падобныя да жаласных крыкаў птушкі. Ля пастамента пакінутыя рабочымі інструменты, чарцяжы.

Збудаванне ўвенчвае выява арла, таксама не дарobленая. Адно залатое пёрка дрэнна замацаванае, амаль адвалілася. Ганна спрабуе яго дастаць, ускараскваецца па жэрдках...

Усё збудаванне са страшэнным грукатам і звонам абрушваецца, Ганна з крыкам спрытна адскоквае – Міхал не паспеў кінуцца на дапамогу.

Да абрушанай эолавай арфы збягаюцца слугі, урэшце прыходзіць сама княгіня, Барбара Кола.

– Зноў шкода ад цябе, Ганна! Твой бацька ўлучыў вам увагу, нягледзячы на свае раны. А ты не цэніш. Цяпер не адкруцішся ад розгаў.

Ганна бялее. Наперад выходзіць Міхал:

– Ваша княская мосць, гэта мая віна. Я тут усё разбурыў выпадкова.

Барбара Кола грэбліва падціскае вусны:

– Ты? Што тут робіш? Здаецца, мой муж памыліўся, калі ўзяў цябе да свайго двара, Міхал. І каб не тое, што твой бацька загінуў, ратуючы князя... Спадзяюся, справядлівае пакаранне стане табе добрай навукай.

Спыняе позірк на медальёне, які ўпрыгожвае шыю Ганны.

– І колькі разоў табе казала. Не карыстайся гэтым ўпрыгожваннем. Яно... не пасуе юнай дзяўчыне.

Сад у замку Радзівілаў. Няўклюдны дзівакаваты вучань замкавага лекара Варакса Семяновіч падыходзіць да зруйнаванай эолавай арфы. Хапаецца за галаву, войкае... Перабірае ламачча. Асабліва пяшчотна збірае рэшткі арла, разглядае, дастае з кішэні чарцяжы, нешта звярае. З кустоў за ім назіраюць дзве камерысткі – Магдаленка і Зоська. Смяюцца. Магдаленка трапна прыцэльваецца і кідае Вараксу ў галаву сарваную з куста шыпшыніну. Варакса недаўменна азіраецца. Дзяўчаты, смеючыся, збягаюць.

Палац Радзівілаў. Пакой з вузкім вітражным вакном завешаны паліцамі з кнігамі і прыборамі для хімічных доследаў. Гаспадар пакоя, лекар Якаб Магнус, хударлявы, змрочны чалавек, за сталом, застаўленым колбамі з рэактывамі, пераліваe штосьці з адной колбы ў другую. Дзверы раптоўна расчыняюцца, рука лекара ўздрыгвае, адна кропля праліваецца міма колбы. У пакой забягае Варакса.

– Настаўнік! Усё парушана! Гэты мядзведзь Міхал Рашчынскі! Эолаву арфу зваліў! Арла! Я не паспеў адладзіць механізм...

Магнус скрушна ўздыхае.

– Ты занадта мітуслівы для чалавека навукі, Варакса. Я табе колькі казаў – любы няўдалы дослед мусіць стаць пачаткам новага.

Варакса працягвае бедаваць.

– Яшчэ трохі, і я пабачыў бы, як удасканалены мною арол ганарліва крычыць і ўзмахвае крыламі!

Лекар асцярожна ставіць шкляніцу на стол.

– Яшчэ раз паўтару – ты невук, Варакса Семяновіч. І вучыцца не хочаш, хоць завеш мяне настаўнікам. Забыўся, як запускаў у сажалку механічную рыбу, якая адразу патанула? А як цудоўна стрэліў вынайдзены табою арбалет – на тры сажні, у спадніцу паненцы Магдаленцы?

Варакса чырванее.

– Гэта выпадкова! Я ўсё адно даб'юся! Мяне зробяць галоўным механікам каралеўскага двара!

Магнус незадаволена круціць галавой.

– Выкінь з галавы, недарэка! Цяпер бяспечней у звярынцы з адчыненымі клеткамі, чым пры каралеўскім двары, які запаланілі італьянцы. Штукароў ды забойцаў Сфорца ты не пераўзыдзеш.

На вучня перасцярогі не робяць уражання.

– Я ўсе іх штучкі разгадаю. Ды ў мяне самога столькі ідэй...

Хлопец дастае з-за пазухі стос спісаных паперак, перабірае з гонарам.

– Жалезны павук. Ён будзе замест крэсла і зможа насіць гаспадара з пакоя ў пакой... Масянжовае вуха, з дапамогай якога будзеш чуць за тры вярсты...

Магнус перабівае вучня.

– Досыць! Тваё шчасце, што ніхто цябе ўсур'ёз не ўспрымае, Варакса. За такую прагу ўдасканальваць Божыя стварэнні можна патрапіць у сутарэнні на прэнт і дыбу.

Варакса асцярожна перапытвае:

– А праўду кажуць, настаўнік, што вы там пабывалі?

Магнус глядзіць на сваё запясце, на якім назаўжды застаўся след ад ланцугоў.

– Прага да ведаў можа шмат куды прывесці, хлопец, у нашы цёмныя часы.

Дзверы з грукатам расчыняюцца. Уваходзіць Юрый Радзівіл. Варакса спалохана кланяецца і выбягае, прыціснуўшы да сэрца свае схемы.

– Зноў падаслалі. На гэты раз прыкінуўся куафёрам. Адкуль каралева іх бярэ толькі, паўзуць, як гадзюкі...

Князь кідае на стол маленькую бутэлечку. Магнус бярэ яе спецыяльнай пальчаткай, асцярожна адкаркоўвае, капае змесціва ў адну з колбаў. Вадкасць мяняе колер.

– Паўтараюцца. Такім вас ужо спрабавалі атруціць.

Геркулес глуха ўдакладняе:

– Брата майго Яна такім жа?..

Магнус схіляе галаву.

– Так, ваша мосць...

– А... сястру Ганну з дзецьмі?

– Мяркуючы па тых сімптомах, што вы апісалі... Атрута, ад якой загінула княгіня Ганна Мазавецкая, была падобнай, але трохі іншай.

Радзівіл Геркулес тужліва глядзіць у вакно, за цьмянымі слюдзянымі шкельцамі гайдаюцца дрэвы, нібыта просяць дапамогі.

– Сястра патрабавала, каб яе называлі каралевай. Яна і была каралевай. Ганарыстай да немагчымага. Прыўкраснай да немагчымага.

1515 год. Макуў-Мазавецкі. Палац князёў Мазавецкіх.

Вялікая светлая зала, нягледзячы на прысутнасць людзей, здаецца пустой. Паўсюль на доўгіх ваўняных нітках і срэбных ланцужках падвешаныя страўсіныя яйкі – найлепшы сродак ад сурокаў. Яны гойдаюцца ад скразняку. Пасярэдзіне пакоя – доўгі стол, застаўлены срэбным посудам. На чале стала, у крэсле з высокай разьблёнай спінкай, сядзіць Ганна Мазавецкая з Радзівілаў. Прыгожая ўладная жанчына з ганарыстым спакойным тварам. На яе грудзях – медальён у выглядзе арла, той самы, што мы бачылі ў яе пляменніцы Ганны Радзівіл. Княгіня есць смажаную перапёлку, акуратна, не спяшаючыся адшчыквае мяса, час ад часу апускае запэцканыя пальцы ў місу з вадою, якую паспешліва падносіць лёкай, што стаіць за крэслам. За спінаю княгіні, на сцяне – партрэт ейнага памерлага мужа, князя мазавецкага Конрада III Рудога. За сталом сядзяць прыціхлыя дзеці Ганны – падлеткі Станіслаў і Ян, а таксама іх старэйшыя сёстры Сафія і Ганна. Яны амаль не ядуць, намагаючыся схаваць спалох. Крэсла ля адной з талерак, справа ад гаспадыні, пустое, неахайна адсунутае. Той, хто мусіў там сядзець, фаварыт княгіні Анджэй Жэлінскі, прыгожы мужчына з нервовым капрызным тварам, узбуджана ходзіць па пакоі, падалей ад вокнаў. Некалькі лёкаяў ля сцен стаяць ціха, апусціўшы вочы, таксама спалоханыя, гатовыя ўцячы, як, відаць, зрабіла большасць прыслугі і ўсе прыдворныя. Карузлік у стракатым аксамітным уборы ў зялёна-чырвоныя ромбы, з велізарным карункавым каўнерам-жорнавам, раскладае на падлозе карты, ён адзіны, хто таксама, як і каралева, спакойны. Спалох прысутных зразумелы: праз вокны даносіцца гуд абуранага натоўпу, пагрозлівыя выкрыкі.

Ганна Мазавецкая ўладна звяртаецца да фаварыта:

– Сядзь, Анджэй. Трымайся, як належыць рыцару.

Той адказвае раздражнёна:

– Няхай прабачыць ваша княская... каралеўская мосць, але мне цяжка захоўваць спакой, чуючы, што мяне патрабуюць разарваць коньмі. А яшчэ, здаецца, пасадзіць на палю, спаліць... І што там яшчэ прыйшло ў галаву вашым... пачцівым падданым.

Ганна адказвае спакойна-насмешна.

– Мог меней красці, ваша мосць. Не абражаць маіх пачцівых падданых.

Анджэй Жэлінскі ўскідваецца.

– Вушам не веру! Ты раней так са мной не размаўляла.

Старэйшы з сыноў, Станіслаў, юнак з прыгожым, але разбэшчаным, абліччам стукае па стале даланёй, з нянавісцю глядзіць на каханка маці.

– А ты, Жэлінскі, забыўся, з кім размаўляеш?

Анджэй, хаваючы гнеў, кланяецца.

– Даруйце, ваша вялікасць.

Звон пабітага шкла. У пакой залятае арбалетная страла, застрае ў адным са страўсавых яек, што вісяць у адмысловых срэбных сетачках. Гуд раз'ятранага натоўпу ў пакоі ўзмацняецца. Чуваць, як дзесьці б'юць цяжкім у дзверы. Усе ўздрыгваюць, толькі Ганна Мазавецкая быццам не чуе, працягвае няспешна есці, ды карузлік раскладае ды зноў змешвае карты. Наверсе ўвесь час апынаецца карта "вісельнік".

Жэлінскі спалоханы.

– Можа, варта кінуць ім костку? Пакажыцеся... Хоць з вакна. Паабяцайце, што выканаеце штось з іх патрабаванняў... Зменшыць падаткі...

Ганна не перапыняе абед.

– Я іх уладарка. Мусяць цярпець.

– Ваша вялікасць, гэта неразумна...

– Неразумна было зашмат дазваляць табе. Чаму я не слухалася брата свайго Юрыя...

Раптам крычыць на Жэлінскага.

– Сядзь!

Жэлінскі ўздрыгвае, пакорліва сядае, але кавалак не лезе яму ў рот.

Станіслаў Мазавецкі гнеўна азіраецца на вакно, за якім не сціхаюць крыкі.

– Пані маці, я магу...

– Не можаш.

Станіслаў хавае гнеў. Усе працягваюць моўчкі есці пад строгім паглядам уладаркі. Разбіваецца яшчэ адно вакно. Страўсавыя яйкі ўсё больш разгойдваюцца на тоненькіх ланцужках. У паветры кружляе чорнае пяро гругана. За вакном гук бойкі, крыкі натоўпу трохі аддаляюцца.

Раздаюцца паспешлівыя крокі. Шырока расчыняюцца дзверы. У пакой забягае задыханы слуга.

– Ваша вялікасць, ліст ад вашага брата! Голуб толькі што прыляцеў...

Ганна з нецярплівасцю ківае. Слуга падае ёй маленькую цыдулку. Княгіня чытае, яе твар змяняецца ад нейкай злавеснай радасці. Усе, хто сядзіць за сталом, назіраюць за валадаркай з трывогай. Ганна заканчвае чытаць.

– Дзеці, пакіньце нас адных.

Усе паспешліва падымаюцца. Станіслаў Мазавецкі незадаволены.

– Ваша мосць, я цяпер паўналетні. Я князь Мазавецкі. Маю права...

Ганна ўладна перарывае:

– Ідзіце, мой сын. Што вам трэба будзе ведаць – я перакажу.

Станіслаў сыходзіць. Княгіня абводзіць паглядам слуг – тыя, спяшаючыся, выбягаюць за дзверы, карузлік пакідае на падлозе раскладзеныя карты. Наверсе – усё той жа Вісельнік і Дама Кубкаў. Жэлінскі запытальна глядзіць на каханку.

Ганна ўстае, хавае пераможную ўсмешку.

– Каралева памерла.

Жэлінскі пачціва хрысціцца, мармыча пацеры.

– Requiem aeternam dona eis, Domine, et lux perpetua luceat eis. Requiestcant in pace. Гэта зменіць нашы планы, мая пані?

– Так. Я стану каралевай Польшчы.

Анджэй у непаразуменні глядзіць на каханку.

– Ты звар'яцела?

– Жыгімонт Стары заўсёды паглядам мяне лашчыў. Ён любіць маё таварыства. Цяпер, калі я прапаную яму ў пасаг Мазовію... Бунтаўнікоў у крыві патаплю...

Анджэй у разгубленасці, хавае гнеў і страх.

– Што ты вярзеш?

Княгіня няспешна ходзіць па пакоі, разважае, нібы сама з сабою.

– Я слабая ці моцная... Слабая ці моцная... Барбара Запальянка не пакінула каралю спадчынніка. Жыгімонт ведае, што я магу нарадзіць дужых, здаровых сыноў. Я – Радзівіл. Браты падтрымаюць. Трон мой!

Жэлінскі падыходзіць, бярэ яе за плечы.

– Ганусю, а як жа я? Што з табой сталася? Дзе тая дзяўчынка, якую выдалі замуж за старога, брыдкага караля? Якую я аднойчы знайшоў у слязах на вежы і адаграваў яе рукі пацалункамі? З якой мы лічылі знічкі і ламалі бэз?

Анджэй асцярожна лашчыць Ганну, нібыта спрабуе прыручыць. На імгненне жанчына паддаецца, у рысах твару сапраўды праяўляецца тая юная дзяўчынка... Але зараз жа ўладарка вылузваецца з абдымкаў.

– Тая дзяўчынка памерла, калі сёлета няўчасна зазірнула ў альтанку за бэзам....

Жылінскі збянтэжаны.

– Ганусю... Усё не так... Тая дурніца...

З-за вокнаў даносяцца выкрыкі “Жэлінскага на палю!”, “Адабраць у каралевы ўладу!”

Ганна абмервае позіркам Анджэя.

– Кінуць костку ім, кажаш...

Фаварыт здагадваецца, аб чым думае каралева, адступае ў жаху, закранае страўсавыя яйкі, адхінае іх рукамі, заблытваецца ў ланцужках.

1516 г. Кракаў. Звярынец каралеўскага палаца. Пад дрэвам, ля клеткі, у якой мітусяцца малпы, застылі трое: Юры Радзівіл Геркулес, Ян Радзівіл Барадаты, прыгожы мужчына з тонкімі рысамі твару і цёмнай бародкай, і каралеўскі святар Ян Ласкі. Мужчыны напружана сочаць за парай, якая прагульваецца між клетак: Жыгімонт Стары і Ганна Мазавецкая. Нават здалёк чуваць звонкі смех Ганны, і заўважна, як зацікаўлены ёю кароль.

Ян Ласкі задаволены.

– Яго вялікасць прыслухаўся да маіх парадаў. З усіх кандыдатак Ганна Радзівілянка – першая.

Ян Барадаты не спяшаецца радавацца.

– Каб не сарвалася...

Геркулес прамаўляе з незразумелай тугою:

– Наша сястра – як салодкая мальвазія. Немагчыма адмовіцца, немагчыма не ап’янець. Жыгімонт ажэніцца.

Ласкі трывожна азіраецца на братоў.

– Паны абяцаюць, што з Жэлінскім скончана?

Геркулес ківае галавою.

– Скончана. Будзьце пэўныя, ваша правялебнасць.

Малпы кідаюцца на прэнты, трасуць іх, мітусяцца, адбіраюць адна ў адной ежу, штурхаюцца... Зусім як удзельнікі прыдворных інтрыгаў.

Ганна Мазавецкая і кароль стаяць каля клеткі з ільвом. Ганна фліртуе з Жыгімонтам, кароль не адводзіць ад яе вачэй.

– Я чытала ў бестыярыі, што леў – адзіны са звяроў, хто можа глядзець на сонца, не міргаючы...

Жыгімонт падхоплівае гульню.

– А з птушак такой якасцю валодае арол. Сімвал вашага роду.

Кароль падносіць да вуснаў руку Ганны. Тая гладзіць вольнай рукою свой медальён.

– Арол – мой знак... Леў – сімвал караля... Абодва не баяцца глядзець на сонца...

Жыгімонт пазірае ў вочы жанчыны.

– Яны шмат змогуць разам.

Ганна ўсміхаецца з абяцаннем.

– Несумненна. Я веру, што ў вашай вялікасці хопіць мудрасці... Пад вашым апякунствам, вядома... Але пакінуць у Мазовіі згодна звычаям кіраваць апошняга Пяста, майго сына. Як магутны леў, вы дапаможаце ўтаймаваць бунтаўнікоў, што насмеліліся выступіць супраць сваёй уладаркі... Я дам спіс... Дваццаць завадатараў трэба пакараць горлам... Думаю, плаха – найлепш... Сорак тры вартыя ганебнага слупа.

Ганна гаворыць усё гучней, яе вочы разгараюцца, грудзі ўсхвалявана ўздымаюцца... Жыгімонт адступае на крок, ён перастае чуць голас жанчыны, які раптам ператвараецца ў клёкат, яе вочы падаюцца яму палаючымі жоўтым агнём, твар і постаць змяняюцца... Кароль на імгненне ў жаху бачыць перад сабой жанчыну-птушку, вялізарную арліцу, якая б'е крыламі, разяўляе дзюбу і гатовая разадраць...

Кароль трасе галавой і праганяе ачмурэнне. Ганна Мазавецкая зноў міла ўсміхаецца...

Але ў Жыгімонта бясследна знік настрой да фліргу. Леў у клетцы заціснуўся ў кут. Ганна працягвае руку да караля.

– Пакажыце ж мне адзінарога, ваша мосць... Мне расказвалі пра яго ўсялякія дзівосы...

Жыгімонт кранае вуснамі руку дамы, але не працягвае ў адказ сваю руку.

– Баюся, адзінарог не пакажацца нам, мая пані. Ён занадта пераборлівы ў сваіх знаёмствах.

1518 г. У малой зале Кракаўскага каралеўскага палаца сабраліся самыя важныя людзі каралеўства. Гэта першы прыём для эліты, у якім удзельнічае новая каралева – Бона Сфорца.

Уваходзіць кароль Жыгімонт Стары, ён вядзе Бону Сфорцу. Яна прыгожая, з залатымі валасамі, трымаецца ганарліва. У яе сукенкі моднае глыбокае дэкальтэ. Дамы перашэптваюцца, ківаючы на такі выклік мясцовым звычаям.

– Грудзі вываліла... Сораму няма... У іх у Італіі што, усе кабеты так ходзяць?

Кароль і каралева ўсаджваюцца. Усе схіляюцца перад каралеўскай парай. У першых шэрагах – Радзівіл Юры, ягоныя браты Ян Барадаты і Мікалай Радзівіл і сястра Ганна Мазавецкая. Непадалёк Альбрэхт Гаштольд, Канстанцін Астрожскі. Вылучаецца купка італьянскай світы каралевы.

Сярод іх – радца Боны Сфорца, лекар Луіджы Сфорца, у якім пазнаецца Вечны Інквізітар. Сфорца займае месца за крэслам каралевы.

Кароль паварочваецца да Боны:

– Тут сабраліся толькі самыя лепшыя і блізкія да трону. Дазвольце прадставіць вам, каралева, маіх верных паплечнікаў, першых людзей дзяржавы. Альбрэхт Гаштольд, ваявода полацкі... Першым клічу яго, бо толькі што вярнуўся ён з радаснай весткай – яго багатыры разбілі войска вялікага князя маскоўскага!

Да рукі каралевы падыходзіць Альбрэхт Гаштольд. Усе крычаць “Віват!”, твар Юрыя Радзівіла крывіцца.

– Канстанцін Астрожскі, вялікі гетман літоўскі! Ён прынёс нам слаўную перамогу пад Воршай!

Канстанцін Астрожскі падыходзіць да рукі каралевы пад “Віваты” прыдворных.

– Мікалай Радзівіл, ваявода Віленскі, вялікі канцлер, уладальнік тытула князя Святой Рымскай імперыі на Мядзелі і Ганёндзах!

Да каралевы падыходзіць Мікалай Радзівіл.

– Юры Радзівіл, мой даўні сябар, па мянушцы Геркулес. Ніводнай бойкі ён яшчэ не прайграў. Няхай жа і ў бойцы за сяброўскія пачуцці маёй каралевы ён не прайграе.

Радзівіл Геркулес падыходзіць да каралевы. Тая зацікаўлена паглядае на магутнага, віднага сабою рыцара. Геркулес прыкладаецца да яе рукі. Гаворыць па-італьянску:

– Рады служыць маёй каралеве!

Каралева кідае скосы позірк на Луіджы Сфорца, той ледзь заўважна ківае.

– Мне вельмі патрэбны сябры пры маім новы двары.

Радзівіл пільна глядзіць у вочы каралеве.

– Маё сэрца адкрытае для шчырых пачуццяў.

Жыгімонт Стары працягвае прадстаўляць арыстакратаў.

– Наша добрая суседка, княгіня Ганна Мазавецкая, уладарка слаўнай Мазовіі.

Ганна Мазавецкая ганарыста падыходзіць, нізка кланяецца каралю і толькі лёгка ківае галавой каралеве, як ніжэйшай. Бона Сфорца ўгневаная.

Ганна вяртаецца да братоў. З нянавісцю паглядае на каралеву.

– Гэта я павінна быць на яе месцы. Я не разумею, чаму ён выбраў не мяне. Я прыгажэй. Я магла б прынесці яму ў пасаг Мазовію.

Ян Барадаты ўсміхаецца.

– Можа, каралю не спадабалася гісторыя з тваім каханкам Жэлінскім, сястра? Ты дала той нікчэмнасці такую ўладу, што падданыя паўсталі!

– Я іх уладарка. Я маці двух каралевічаў, удава Конрада Мазавецкага. Яны мусілі цярпець.

Геркулес скептычна круціць галавой.

– А вось кароль не хоча цярпець чыіхсьці выбрыкаў. Хаця з гэтай кабетай...

Юры сустракаецца позіркам з Бонай.

– Думаю, ён пашкадуе, што выбраў не цябе.

Луіджы Сфорца нешта шэпча на вуха каралеве, і тая ўтаропліваецца позіркам у Ганну Мазавецкую. Ганна з выклікам сустракае яе погляд. Блакітныя вочы і брунатныя вочы гараць аднолькавай нянавісцю.

Ганна няголасна кажа братам:

– Я ўсё адно не адступлю. Я слабая ці моцная? Італьянка вызваліць трон для мяне.

Юры Радзівіл пяшчотна прыабдымае сястру, нешта шэпча ёй на вуха. Ганна сціскае яго руку ў пошуку падтрымкі. Бона заўважае гэта. Яе твар на імгненне змяняецца ад гневу. Бона пераводзіць позірк на караля і бачыць, што ён таксама глядзіць на Ганну Мазавецкую з нейкай тугою.

Бона шэпча Вечнаму Інквізітару.

– Гэтая жанчына занадта шмат сабе дазваляе. Не спускай з яе вачэй.

Між тым у зале пачынаюцца больш вольныя гаворкі. Каля караля і каралевы ўтвараецца кола просьбітаў і лісліўцаў, астатнія госці пачынаюць хадзіць па зале, размаўляць між сабою. Канцлер Мікалай Радзівіл – ля караля. Каралева час ад часу шукае позіркам Юрыя Геркулеса.

Да Яна, Юрыя і Ганны падыходзіць Альбрэхт Гаштольд. Ён звяртаецца да Яна з ледзь прыхаванай нянавісцю:

– Як ваша сямейнае жыццё, пан Ян?

Барадаты насцярожана глядзіць на Гаштольда.

– Дзякуй, ваша мосць, я шчаслівы.

– Цаной жыцця маёй няшчаснай сястры, вашай былой жонкі?

Ян бянтэжыцца.

– Паслухай, Альбрэхт... Ты несправядліва судзіш. Прысягаю, я не вінаваты ў смерці Лізаветы. Ты ж ведаеш, яна была слабая здароўем...

Гаштольд крывіць вусны.

– Слабая... Не надта ты думаў пра яе, калі з'ездзіў у сваты да Кішак, і замест таго, каб высватаць брату іх дачку, закахаўся ў яе сястру!

– Альбрэхт, у імя былога нашага сяброўства...

– Наша сяброўства з'елі паўтары гады турмы, куды мяне паклёпам засадзіў ваш брат Мікалай. І я нізавошта не паверу, што гэта проста супадзенне – калі ў той самы час ты пачаў пагарджаць маёй сястрой і адкрыта заляцацца да другой кабеты...

Твар Яна Барадатага, разумны, с тонкімі рысамі, адлюстроўвае сапраўдную пакуту.

– Усё не так...

Гаштольд пазірае з нянавісцю.

– Не дарую.

Сыходзіць. Юры Геркулес спачувальна кладзе руку на плячо брату, Ганна Мазавецкая кладзе яму руку на другое плячо. Зверху, невядома адкуль, спускаецца, кружляе пяро ругана.

1529 г. Палац Радзівілаў. На стале лекара Якаба Магнуса ў закаркаванай колбе павольна плавае, круціцца пяро ругана.

Магнус ціха пытаецца ў гаспадара замка:

– Ваша мосць Юры, вы носіце пры сабе безаар, які я вам даў?

– Нашу. Не грэбую. Не дарэмна ж я цябе, чарнакніжнік, з дыбы інквізітарскай у Фларэнцыі зняў. І тую тваю чорную вадкасць у віно сабе капаю. Псую добры смак. Мне ж іх вырасціць трэба... Дзяцей... Пляменнікаў... На злосць Боне Сфорцы, Гаштольдам, Астрожскім... Не дам ссячы дрэва роду майго...

Магнус падыходзіць да ўладара.

– Дайце яшчэ пагляджу вашу рану, пан Юры. Якраз намяшаў цікавую мазь...

Радзівіл Геркулес неахвотна здымае жупан.

– Зноў вядзьмарыш?

Магнус напружваецца.

– Я займаюся толькі навукай, ваша княская мосць. Прасвятой дзевай клянуся...

Радзівіл Геркулес з дапамогай лекара здымае кашулю, сядае ў крэсла. Магнус асцярожна прыбірае павязку, схіляецца над ранай. Радзівіл сціскае зубы, каб здушыць стогн.

– Не пераймайся, Якаб, я табе веру... Вось радца каралевы, Луіджы Сфорца, відаць, не верыць... Распытваў пра цябе... Што за ведзьмака Радзівілы прытулілі...

Рукі Магнуса, якія займаліся княскай ранай, на імгненне застываюць.

– Калі б мне давялося выбіраць паміж кампаніяй трохгаловага Цэрбера, раз'ятранага аспіда і сіньёра Луіджы, ён апошні, каго б я выбраў, ваша

княская мосць. Упэўнены – гэтая бутэлечка, што вы мне сёння прынеслі, пабывала ў ягоных руках.

Геркулес задумліва глядзіць на пяро крумкача, што па-ранейшаму круціцца ў закаркаваным слоіку.

– Так і жывем, чарнакніжнік. Паміж цэрберам, аспідам і Сфорца. Складзі мне гараскоп назаўтра... Кароль кліча. Быць новай вайне. Хай будзе пракляты той дзень, калі на нашу зямлю ступіла нага італьянкі.

Магнус асцярожна забінтоўвае рану князя.

– Кажуць, напачатку Бона вас літасцівіла...

Геркулес сумна ўсміхаецца.

– Літасцівіла...

1521 г. Ноч. Прусія. Туман клубіцца, варушацца травы, крычаць начныя птушкі. З прывідных абрысаў вымалёўваюцца дзіды... Сілуэты людзей... І вось яны ўжо бягуць – моўчкі, з дзідамі і агаленымі мячамі.

Перад імі – варожы лагер тэўтонцаў. Нечаканы напад заканчваецца сечай, за пешымі налятае конніца. Чуваць спалоханыя выкрыкі на нямецкай мове, запознены гук баявой трубы... Гучыць баявы вокліч Радзівілаў – “Гэй, ліцвіны, Бог нам радзіць!”

Узначальвае нападнікаў Юры Радзівіл Геркулес. Ён выглядае сапраўды велічна, лёгка ўздымаючы цяжкі меч. Лязгаюць мячы аб мячы, льецца кроў, сцелецца туман, хаваючы людзей па пояс, нібыта бойка адбываецца на аблоках, у якой-небудзь Вальхале. Каля Геркулеса б’юцца два простыя воі з яго войска – Сымон Жух і Гальяш Рашчынскі. У нейкі момант Гальяш з крыкам “Бог нам радзіць!” захінае сабой Геркулеса і прымае ўдар мячом, які патрапляе яму ў бок.

Тэўтонцы бягуць. Чуваць крыкі: “Слава Юрыю Геркулесу! Слава непераможнаму! Бог нам радзіць!”

У небе кружляе арол.

1521 г. Кракаў. Каралеўскі палац. Баль. На падлозе валяюцца тэўтонскія штандары, па якіх усе з задавальненнем топчуцца. Грае музыка. Прыдворныя танчаць. Відаць, што весялосць ужо ў апошняй стадыі – людзі нападпітку, размовы гучнеюць, кавалеры заляцаюцца да паненак. Да Юрыя Радзівіла, які стаіць з кубкам ля калоны, незаўважна падыходзіць дама ў масцы.

– Ваша мосць, з вамі хочуць пагаварыць. Будзе ласкавыя ісці за мной.

Геркулес не кранаецца з месца.

– Такім чынам запрашаюць альбо туды, дзе чакае стылет пад скабы, альбо палкія пацалункі.

Дама не крыўдуе.

– Выбіраць вам.

Юры Радзівіл глядзіць у блакітныя вочы, якія ззяюць праз прорэзі маскі, лёгка дакранаецца да залацістай пасмачкі, што выбілася з-пад капюшона. Радзівілу мрояцца даўно знаёмыя рысы...

– Mia bella signora... Una signora con i capelli d’oro...

Дама мімаволі цягнецца за яго ласкай. Радзівіл трасе галавой, скідаючы ачмурэнне.

– Вы моцна рызыкуеце, мая каралева. Не хачу, каб пайшлі нядобрыя чуткі. Вам варта быць каля караля.

– Не ведала, што непераможны Геркулес баіцца жанчын.

Сыходзіць. Геркулес задумліва глядзіць ёй услед, падносіць кубак да вуснаў.

1521 г. Белавежская пушча. Каралеўскае паляванне.

Маладая каралева падае з каня, які ашалеў ад спалоху. Жанчыну падхоплівае на рукі Юры Геркулес. Побач б'ецца ў агоніі цела дзіка, у якім застыла дзіда Геркулеса. Вялікія блакітныя вочы каралевы глядзяць на выратаваўцу з сапраўднай жарсцю.

– Гэта лёс... Я так даўно чакала... Мой рыцар. Мой Геркулес. Ты ні разу не згадзіўся на мае просьбы аб спатканні. Мне так патрэбны свой чалавек ля трону... А можа, пасля... і побач са мной. На троне...

Бона цягнецца да Юрыя, але той цвёрдай рукой адхінае яе.

– Я прысягаў каралю.

Бона Сфорца ўсведамляе, што гэты жаданы мужчына яе адпрэчыў.

– Каралю? Ці замест мяне ты зараз хочаш бачыць сваю зводную сястру? Відаць, праўдзівыя чуткі, што паміж вамі – не тое, што мусіць быць між сястрой і братам...

– Змоўкні, дачка міланскага купца!

– Ты разумееш, што адгэтуль я буду помсціць табе і тваім нашчадкам да апошняга калена?

– У такім выпадку ваш род перарвецца раней, чым наш.

Промні прасяваюцца праз густыя шаты так, што здаецца, вочы каралевы свецяцца, як у драпежнага звера.

– На што ты спадзяешся? Вам ніколі не ўдасца ўзысці на трон. Я ведаю, што вы пра гэта марыце. Ведаю пра сястру тваю, Ганну, якая так намагалася легчы пад Жыгімонта і распаўсюджвае пра мяне брыдкія плёткі з дапамогай брата-канцлера. Ведаю, колькі ў вас улады – столькі мусіць быць толькі ў караля. Апошні раз прапаную – будзь са мной. Ці я знішчу ўвесь ваш род.

– Мне дакладалі, што смерць майго брата, біскупа віленскага Войцэха, выглядала падазрона... Твая рука?

– Ты ніколі пра гэта не даведаешся. Хіба што... калі знікне апошні з вашага роду.

Радзівіл рашуча адхіляе ад сябе жанчыну.

– Мы – Радзівілы, ваша каралеўская мосць. Мы будзем вечна.

Варшава. Палац князёў мазавецкіх.

Невялікі паўцёмны пакой. Гараць свечкі. Ганна Мазавецкая за маленькім столікам раскладвае і змешвае карты Таро. Насупраць яе брат, Юры Радзівіл, з чарай у руцэ. Ганна бярэ з калоды карту Вісельнік, падносіць да свечкі на стале. Карта ўспыхвае, Ганна кладзе яе на срэбную талерку, глядзіць, як малюнак курчыцца. Твар Вісельніка нагадвае твар Жэлінскага.

– Я мусіла даўно прагнаць яго. Але я была такая самотная...

– Кожны ўладар самотны і моцны.

– Я не ведала, моцная я ці слабая... І цяпер не ведаю. Моцная... Слабая... Мая сям'я кінула мяне старому каралю, як кідаюць бяззубаму сабаку кавалак хлеба. Яго валасы пахлі павуціннем, у яго дыханні была магільная гніль, а скура на пальцах шорсткая, быццам кара...

– Дзякуючы яму ты стала каралевай. І... я быў зусім юны. Што я мог?

– Часцей прыязджаць...

Ганна нейкі час моўчкі раскладае карты.

– Ты дапаможаш мне? Ці па ранейшаму твая слабасць – залатаваласыя італьянкі?

Юры Геркулес адпівае віна, каб змагчы хваляванне.

– Яна зусім іншая. Але ты разумееш, наколькі небяспечная твая задума? Нашага брата Войцэха яна ўжо звяла са свету.

Твар Ганны робіцца жорсткім.

– Мікалай і Ян згадзіліся. Мы зганьбім каралеву так, што давядзецца яе адаслаць. Калі кароль не хоча мяне, я прапаную яму сваю дачку. Ты на маім баку?

Устае, падыходзіць да брата, бярэ яго за плечы.

Юры Геркулес адстаўляе кубак, абдымае Ганну за талію, прыціскаецца тварам да яе жывата.

– Я заўсёды на тваім баку. Мы – Радзівілы.

Палац Радзівілаў. Застолле з нагоды перамогі над тэўтонцамі. Гучаць выкрыкі “Віват Геркулесу, гетману польнаму!”, “Віват ягонай мосці канцлеру Мікалаю!” Грае музыка, скачуць блазны. Усе тры браты Радзівілы тут, вясёлыя, упэўненыя. Ганна Мазавецкая побач з Юрыем Геркулесам. На яе час ад часу нядобразычліва касавурыцца Барбара Кола, жонка Геркулеса.

Мікалай Радзівіл дэманструе ўсім двузубы відэлец.

– Уявіце сабе, гэтая італьянка прывезла з сабою цэлую скрыню гэткіх д’ябальскіх вілаў і змушае ўсіх есці з іх дапамогай!

Ян Барадаты падхоплівае здзек:

– Відаць, гэтая смешная прылада нагадвае ёй пра месца, адкуль яе ўзялі – чысцец, дзе грэшнікаў паруць віламі.

Госці гучна смяюцца. Мікалай Радзівіл насмешліва збіраецца прадэманстраваць, як карыстацца нязвычнай прыладай. З удаванай цяжкасцю, пад ухвальны смех, наколвае на відэлец кавалак мяса. Кладзе ў рот з блазенскімі штукарствамі, пражоўвае.

Раптам яго вочы спыняюцца, дыханне пераймае. Рука выпускае відэлец, які са звонам знікае пад сталом. Канцлер падае тварам на талерку. Яго рука ўздрыгвае, на ёй праяўляюцца чорныя плямы.

Радзівіл Геркулес кідаецца да брата, спрабуе прыўзняць... На талерку апускаецца чорнае пяроругана.

У пакоі страшэнна надымлена – паляцца араматычныя свечкі. У ложку пад пышным балдахінам нерухомы бледны чалавек з чорнай барадой, тонкія рысы твару. Ён закрыты да падбароддзя шчыльнай парчовай коўдрай. Гэта мёртвы Ян Радзівіл па мянушцы Барадаты. Чаляднікі стаяць наводдаль, час ад часу заціскаючы насы. Жонка нябожчыка ўкленчыла і плача, ля яе двое маленькіх дзяцей – Мікалай Радзівіл Чорны і яго сястра Сафія. Да ложка хуткімі цяжкімі крокамі падыходзіць Юрый Радзівіл Геркулес.

– Падыміце коўдру.

Слуга нясмела пярэчыць:

– Ваша мосць, не варта... Смурод...

Радзівіл Геркулес гнеўна сціскае сківіцы.

– Адкрыць!

Двое слуг неахвотна набліжаюцца, хрысцяцца, адварочваюцца ад нябожчыка, адхінаюць коўдру... Геркулес рашуча адштурхоўвае іх, разрывае на грудзях памерлага брата кашулю, бачыць чорныя плямы на скуры. Дастае з-пад ягонай спіны нешта цёмнае... Круціць у руках... Гэта пяро шугана. Ламае яго, кідае на падлогу і хуткім крокам сыходзіць.

Кракаў. Каралеўскі палац.

Бона сядзіць у крэсле, захутаная ў футра. Яна цяжарная. Каля яе – Луіджы Сфорца. Перад Бонай, пакорліва схіліўшы галаву, стаіць прыгожая дзяўчына. Каралева кідае словы, як міласціну.

– Назавіся.

Дзяўчына намагаецца стрымаць спалох.

– Катажына Радзяеўская, ваша мосць. Плоцкая ваевадзянка.

Вечны Інквізітар холадна ўдакладняе:

– Пазашлюбная дачка ваяводы плоцкага. Нядаўняя прыдворная дама княгіні Мазавецкай.

Бона ўладна глядзіць на госцю:

– Гэта праўда, што Ганна цябе выгнала з-за любошчаў са сваім сынам?

Катажына ўздрыгвае:

– Як перад Богам – нічога ганебнага я не дазволіла...

Бона перабівае.

– Бастардка. Жабрачка. Хочаш узняцца – дазволіш усё. Пакруціся... Хачу цябе лепей разгледзець.

Катажына, трохі збянтэжыўшыся, паварочваецца. Бона глядзіць ацэньваючы.

– Расшпілі сукенку.

Катажына разгубленая. Вечны Інквізітар падыходзіць, уладна расшпільвае карсаж, агаляе дзяўчыну да пояса, не выяўляючы ніякага мужчынскага інтарэсу. Бона аглядае яе халодным позіркам.

– Што ж, тваё цела дастаткова прыгожае. Пастарайся зачараваць сыноў Ганны, апошніх Пястаў. Мы дамо табе такую магчымасць.

Катажына паспешліва апранаецца.

– Абаіх, ваша вялікасць?

– Абаіх.

Вечны інквізітар абыякава глядзіць на прыгажуню.

– Будзеш выконваць усё, што скажам. Ці памрэш.

Катажына пакорліва схіляе галаву.

Макуў-Мазавецкі. Палац князёў Мазавецкіх.

Цёмны пакой. Гарыць у падсвечніку на стале самотная свечка.

Ганна Мазавецкая нерухома сядзіць за сталом, усыпаным перамяшанымі картамі Таро. Глядзіць у люстэрка, якое вісіць перад ёю на сцяне. Твар адбітка здаецца злавесным, у пачварных цёмных плямах. Ганна моўчкі здымае з сябе медальён у выглядзе арла, кладзе на стол. Адпівае віно з кубка. Адбітак у люстэрку зусім страшны, мёртвы.

Перад палацам князёў мазавецкіх – расталы снег, перамяшаны з брудам. Юры Радзівіл моўчкі глядзіць, як выносяць з брамы труну, ставяць на багата аздоблены катафалк. На зямлі ў падталым снезе застаюцца чорныя сляды. Крычаць вароны.

– Стойце...

Радзівіл падыходзіць да труны. Там ляжыць ягоная сястра. Юры гладзіць сястру па шчацэ, кранае валасы. Заўважае пад падушкай, на якой ляжыць галава нябожчыцы, нешта чорнае. Гэта пяро372 ругана. Геркулес, спяшаючыся, бярэ мёртвую руку, адцягвае рукаў – на белай скуры нябожчыцы чорныя плямы.

Спачывальня. Гарацъ свечкі. Побач з ложкам з балдахінам – столік, застаўлены рэшткамі добрай вячэры: графін з рэшткамі віна, пустыя кубкі, талеркі. На ложку – малодшы сын Конрада Мазавецкага Ян, на ім аголеная Катажына Радзяеўская плаўна рухаецца ў танцы кахання.

У пакой заходзіць старэйшы брат Яна Станіслаў Мазавецкі, пабліжаецца да парачкі, якая займаецца любошчамі, з сілай тузае Катажыну за валасы, так, што тая звальваецца з ложка.

– Ты, брат, вырашыў даядаць за мной недаедкі?

Ян ускоквае з ложка.

– Не твая справа!

– Маці памерла, думаеш, ніхто над табой больш не ўладны?

Станіслаў паварочваецца да Катажыны:

– А ты, самадайка, не змагла мяне акруціць, узялася за малодшага? Зараз загадаю адрэзаць нос і выкінуць голай на вуліцу!

Аднак на здзіўленне дзяўчына ні на імгненне не палохаецца.

– Не варта гневацца, што ў маім сэрцы – Ян, а не вы.

Ян захінае сабой каханку, пагрозна глядзіць на брата:

– Паспрабуй толькі! Я не цікаўлюся, хто ў тваім ложку, Стась, і ты не лезь у мой.

Нейкі час браты мераюцца позіркамі. Катажына злосна ўсміхаецца. Станіслаў разумее, што брат гатовы на ўсё, каб абараніць каханку.

– Дурань.

Станіслаў сыходзіць. Катажына пяшчотна абдымае Яна, шэпча яму на вуха.

– Ты будзеш лепшым каралём!

1526 г. Замак Радзівілаў у Дубінках. Фехтавальная зала.

Юры Геркулес у ятрасці камечыць атрыманы ліст, шпурляе на каменную падлогу. Хапае з падстаўкі меч і пачынае апантана біць па саламяных манекенах. Спыняецца, прыхіляецца галавой да манекена, спрабуе стрымаць плач.

– Вось і апошняга сына твайго няма, Ганна...

Апусцелая зала палаца князёў Мазавецкіх, дзе калісьці палуднавала княская сям'я. Пабітыя слюдзяныя вокны. Гайдаюцца на ланцугах страўсавыя яйкі. Амаль усе яны таксама пабітыя. Падлога з чорна-белых плітак засмечана. Мэбля вынесена. Няма стала, няма крэслаў. Толькі партрэт Конрада III змрочна паглядае са сцяны. Перарваўся род Пястаў.

Пасярод пакоя на падлозе сядзіць карузлік у трохі выцвілым уборы з зялёна-чырвоных атласных шматкоў і раскладае на плітах карты. Адну за другой пераварочвае выявы тварамі ўніз. Апошняя карта застаецца – Смерць.

– Шасцёра з нашага роду, Магнус. Ужо шасцёра. Каб не ты – было б больш...

Юры Геркулес тужліва ўглядаецца ў выяву чорнага арла. Лекар Магнус задумліва ківае:

– Я абавязаны вам жыццём, ваша мосць. Зраблю ўсё, каб у вашай сям'і не здарылася наступнай смерці ад атруты.

Варакса, стаіўшыся ля дзвярэй кабінета Магнуса ў каморцы, заваленай лабараторным рыштункам, трымае ля вуха нейкую дзіўную прыладу з мосенжу – відаць, тое самае штучнае вуха, ад яго цягнецца нейкі шнур да сцяны. Ясна, што вынаходнік падслухоўвае гаворку ў кабінеце. Пачутае моцна ўражвае яго, хлопец жахаецца, хрысціцца.

Ганна і Барбара крадма, схаваўшыся за кустамі, назіраюць, як гайдук Сымон Жух ля стайні б'е бізуном Міхала, які ляжыць на адмыслова прыстасаванай для пакарання слуг лаўцы, прывязаны за рукі. Міхал церпіць, сціскаючы вусны.

Сымон Жух прыгаворвае:

– Бацька, светлай памяці Гальяш Рашчынскі, табе б яшчэ не так усыпаў. Колькі казаў табе, Міхал – не знайся з княжычамі. Будзь падалей. Не роўня яны табе.

Барбара цягне Ганну прэч, тая адмоўна круціць галавой. Дзяўчынка сама не можа зразумець, што ў гэты момант адчувае – можа, трохі грэблівую цікаўнасць, як да той мёртвай вароны, можа, трохі шкадобы, але найперш – такое прыемнае пачуццё ад усведамлення, што хтось гатовы за яе пакутваць. Паўз месца пакарання праязджаюць на конях браты Руды і Чорны.

Мікалай Чорны кідае позірк туды, дзе б'юць Міхала.

– Ведаеце, ваша мосць, мой брат, калі выправімся на вайну, я б раіў вам узяць за збраяносца Міхала Рашчынскага.

Руды не звяртае ўвагі на экзекуцыю:

– Таго, што за княгіняй малітоўнік носіць? З чаго б? Мядзведзь пушчанскі...

Мікалай Чорны прамаўляе з горыччу:

– Мала верных людзей, пан брат. Да канца адданых, да смяротнай чашы. Калі б ля бацькі майго такія былі, ён жыў бы.

Руды здзіўлена паціскае плячыма – ён не разумее, пра што такое складанае гаворыць стрыечны брат. Яму хочацца аднаго – волі і славы.

Ён прыспешвае каня. Чорны даганяе яго. Яны імчаць у поле, Руды і Чорны, над імі кружляюць арол і груган.

Ганна і Барбара бегма вяртаюцца ў свой пакой. На выхадзе з саду іх заўважае Юры Геркулес.

– Падыдзіце.

Дзяўчаты пакорліва падыходзяць, прысядаюць у паклоне.

– Ваша маці распавяла мне пра тваю пракуду, Ганна. Не думай, што я не разумею, хто сапраўды вінаваты.

Юры падносіць руку да медальёна, які вісіць на шыі Ганны.

– Ты ведаеш, адкуль у цябе гэта?

– Так, ваша мосць. Ад маёй цёткі, яснавяльможнай Ганны Мазавецкай.

Юры Геркулес гладзіць пальцам срэбра.

– Яна прасіла аддаць гэты сімвал нашага роду маёй старэйшай дачцы.

Каб яе ўчынкамі заўсёды кіраваў гонар роду. А не дзявоцкія капрызы. Ты зразумела?

Ганна пакорліва нахіляе галаву.

– Так, ваша мосць.

Юры Геркулес неахвотна адводзіць руку ад медальёна, адступае:

– Ідзіце.

Дзяўчаты сыходзяць, намагаючыся рухацца паважна, як належыць высакародным дамам.

Юры Геркулес тужліва глядзіць ім услед:

– Шкада, што ёй самой кіраваў не гонар, а сэрца. Слабая... І моцная...

Міхал прытуліўся да сцяны замка, пад кустоўем, скурчыўся... Раптам аднекуль зверху яму на галаву падае штось невялікае, але цяжкое.

Міхал падымае з травы залатое пёрка, круціць у руках.

Задзірае галаву ўверх. Там вакно – ніхто з яго не выглядае, але Міхал ведае, ад каго падарунак. Залатое пёрка радзівілаўскага арла пяшчотна прыціснутае да сэрца.

Варакса Семяновіч у сваёй каморцы, высалапіўшы язык, майструе нейкую дзіўную рэч са шкляных слоікаў, дроту, кавалачкаў тканіны і скуры.

– Павінен быць сродак, які затрымлівае любую атруту... Без яго больш за стол тут не сяду... Алхімія, магія... Купрум, аргентум, ферум... Пан Магнус адстаў ад сапраўднай навукі! Механіка – вось сіла!

Раптам праз вакенца проста на стол з прыладамі плюхаецца жаба. Варакса палохаецца, ускоквае, яго вынаходніцтва разлятаецца на кавалкі. За вакенцам чуваць звонкі дзявочы смех. Гэта Зося і Магдаленка.

– Ненавіджу гэтых шылахвостак!

1529 г. Кракаў. Па вузкай вуліцы перад каралеўскім палацам вельмі марудна рухаецца дзіўная працэсія.

Людзі ў белым адзенні, запырсканым крывёй, босыя, з аголенымі спінамі, пакрытымі крывавымі шнарамі. Паперадзе нясуць скульптурную выяву Багародзіцы, белы пастамент ахутаны чырвонымі стужкамі. Людзі пяюць пакаяльны псалом. Кожны трымае бізун, якім час ад часу б'е сябе па спіне. Крычыць груганнё. Усе аканіцы зачынены. Толькі нейкі дзівак апынуўся на вуліцы, выштурхнуты ў спіну з дзвярэй. Невядома, ці гэта чыйсьці жорсткі жарт, ці спроба змусіць баязліўца выканаць сваю прысягу і далучыцца да працэсіі? Небарака, прыгорблены, няўклюдны, мітусіцца, спрабуючы размінуцца з працэсіяй. Раптам ён падае, ягоная калашына задзіраецца, і бачна, што на назе праступіў крывавы пот – прыкмета ангельскай гарачкі. Людзі ў працэсіі заўважаюць гэта, хтосьці кідаецца ўбок, хтосьці працягвае фанатычна ісці і сцябаць сябе, напяваючы пакаянны псалом. Чалавек курчыцца, трасецца... Крывавы пот выступае на ягоным твары.

Каралева Бона Сфорца нервова хутаецца ў футра і глядзіць праз вакно, як унізе рухаецца працэсія флагелянтаў. За яе спінай – Луіджы Сфорца, Вечны Інквізітар. Па пакоі спалохана лётаюць, мітусяцца дробныя птахі.

– У пакой каралевіча птушак запускалі?

Вечны інквізітарківае галавой:

– Так, ваша вялікасць. Яны сваімі крылцамі разгоняць благое паветра. Ангельская гарачка не прабярэцца ў ягоны пакой.

Бона не адрывае вачэй ад страшнага відовішча ўнізе.

– Я гатовая сама далучыцца да гэтых вар'ятаў з бізунамі, абы каралевіч не захварэў. Абы чырвоная стужка не запаўзла ў ягоны ложак. Калі наш адзіны сын памрэ... Асабліва пасля таго, як наш другі сын нядаўна памёр... Мяне з'ядуць, Луіджы.

Нейкі час у пакоі пануе маўчанне, толькі чуваць ускрыкі людзей і свіст бізуноў.

– Кароль загадаў, калі скончыцца ангельская гарачка, падабраць Аўгусту світу, – горка зазначае Бона. – Юнакоў ягонага ўзросту з дзяцей магнатаў. Яны ўсе ненавідзяць мяне.

Вечны Інквізітар холадна ўсміхаецца:

– Ангельская гарачка звычайна доўжыцца два тыдні, ваша вялікасць. Гэтага часу дастаткова, каб нарабіць... венецыянскіх таблетак.

Бона выдыхае скрозь сціснутыя зубы:

– Як жа я баюся, што майму сыну не дадуць заняць трон. Сколькі спроб было давесці, што ён – не сын Жыгімонта... Мярзотнікі. Спадзяюся, Альбрэхт Гаштольд не забыўся пра нашу дамову... І падтрымае каранацыю Аўгуста.

Вечны Інквізітар выяўляе зацікаўленасць:

– Кароль згодны?

Бона холадна ўсміхаецца:

– Я ўмею ўгаворваць. Згадзіўся зрабіць Аўгуста вялікім князем літоўскім, згодзіцца і аддаць карону.

– Не баіцеся, донна, што Гаштольд занадта шмат запросіць за дапамогу?

Каралева адыходзіць ад вакна:

– Нават не сумняюся, што запросіць. Але ж у нас ёсць... венецыянскія таблеткі.

Магнус мажа спіну Міхалу лекавай маззю.

– Чаму адразу не прыйшоў, навошта цярпеў, пакуль не ўтварылася запаленне?

Міхал неахвотна адказвае:

– Шляхціц не мусіць зважаць на боль. Тым больш такі.

Лекар дакорліва бурчыць:

– Цела – твой інструмент. Ты павінен сачыць за ягоным станам, як сочыш за вастрынёй свайго мяча.

Міхал уздыхае.

– Дзякую, пан Магнус. Вы заўсёды былі добрым да мяне.

– Дабрыня – рэчыва, якое немагчыма здабыць з адных душ і немагчыма вычарпаць у другіх.

Лекар заканчвае сваю працу, выпростваецца.

– Чаму закінуў заняткі лацінай?

Міхал устае, апранае кашулю.

– Я рыцар...

Магнус хмурыцца.

– У такім выпадку будзь ласкавы прачытаць, што піша пра вайсковую навуку Плутарх. Калі хочаш быць не проста бязмозглым мясам, якое кідаюць на чужыя мячы. Праз тыдзень раскажаш, што зразумеў. На лаціне.

Шпурляе Міхалу цяжкі том. Міхал ловіць кнігу, разгублена ўздыхае, але не наважваецца пярэчыць.

Маладыя рыцары трэніруюцца ў фехтаванні на драўляных мячах. Радзівіл Чорны ў пары са шляхціцам са сваёй світы, Станіславам Давойнам, таўсманым юнаком з невыразным тварам. Радзівіл Руды – з Міхалам Рашчынскім. Чорны б'ецца нервова, часта губляе меч. Руды і Міхал – зацята, па-майстэрску, але відаць, што Міхал куды больш моцны. З галерэі палацаназіраюць дзяўчаты – Ганна, Барбара і іх камерысткі Зося і Магдаленка, са смехам лічаць, хто колькі разоў выпусціў меч.

Унізе за бойкай уважліва назірае Сымон Жух, які адказвае за вайсковую падрыхтоўку моладзі. Да яго падыходзіць Радзівіл Геркулес, ягоная рука ўжо не на перавязі.

– Ну як поспехі маладых рыцараў?

Сымон Жух кланяецца, але не дагодліва, так, нахіляючы галаву – ён стары вой, не яму запабягаць перад сваім баявым камандзірам.

– Па-рознаму, ваша княская мосць. Руды – сапраўдны вой, увесь у вас. Чорны, ваш пляменнік, не так здатны да баявой справы. Яму нібыта нешта не дазваляе нанесці ўдар у поўную сілу. Хаця ўхіляцца добра ўмее.

Геркулес гмыкае, не адрываючы позірку ад бойкі.

– Брат мой Ян таксама саступаў мне ў бойцы на мячах.

Жух пасля некаторай паўзы асцярожна прамаўляе:

– Ваш сын выказаў жаданне ўзяць Міхала Рашчынскага за збраяносца. Гэта правільна. Міхал – чалавек надзейны, як і ягоны бацька быў. І моцы нябачанай вырасце. Не ў крыўду вашай княскай мосці сказана.

Радзівіл няўважна ківае:

– Што ж, няхай служыць.

Крычыць:

– Руды і Чорны, падыдзіце!

Бойка спыняецца, Руды і Чорны падбягаюць да Геркулеса.

– Трэцяга чысла адпраўляецеся да каралеўскага двара. Будзеце ў світе каралевіча Жыгімонта Аўгуста.

Руды і Чорны радасна пераглядаюцца.

Геркулес паблажліва глядзіць на братоў.

– Так, вы будзеце ствараць уласную будучыню і будучыню ўсяго нашага роду. Як у свой час мы з Янам патрапілі ў світу да маладога Аляксандра Ягелончыка і назаўсёды захавалі ягонае сяброўства. Якое трывае нават пад ціскам клятай італьянкі. Асцерагайцеся яе.

Мікалай Руды нецярпліва перапытвае:

– Пан бацька, а калі вы дазволіце нам пайсці на вайну разам з вамі?

Геркулес паблажліва ўсміхаецца:

– Вайны яшчэ ніхто не пазбег, калі ўмее трымаць у руках меч. Прыйдзе і ваш час.

Старэйшы Радзівіл сыходзіць. Мікалай Руды кліча да сябе Міхала:

– Скажы, каб рыхтавалі нашы рэчы. Едзем у Кракаў, ты са мной. Арбалет галандскі не забудзь пакласці.

Маладыя княжычы вяртаюцца ў дом, на хаду радасна перамаўляючыся.

– Трэба адпаведнае адзенне... Каб не выглядаць смешнымі. Пры двары цяпер новая мода.

На такія разважанні Чорнага Руды толькі моршчыцца.

– Ты як дзеўка. Хто з нас насмеліцца пасмяяцца? На месца нахабаў ставіць!

Да Міхала, які збірае зброю і час ад часу касавурыцца на галерэю, дзе сядзяць дзяўчаты, падбягае Вараксa. Вынаходнік злосна зрывае з шапкі Міхала залатое пёрка.

– Злодзей! Гэта ад майго механізму, які ты парушыў!

Міхал адной рукой бярэ хударлявага Вараксу за каўнер і адрывае ад зямлі. Яго твар спакойны, але ў ім такая моц і пагроза, што Варакса страшэнна пераляканы. Ён прыладжвае дрыжачай рукой залатое пёрка зноў на шапку Міхала.

– На, на! Падумаеш! Гэта ж нават не золата! Так, пазалочаная медзь! Я яшчэ зраблю!

Міхал акуратна ставіць Вараксу на месца і моўчкі сыходзіць, падабраўшы мячы. Дзяўчаты ў вакне пляскаюць у ладкі.

Варакса абражаны.

– Мядзведзь пушчанскі... Трэба паспець паказаць майго арла да ад'езду княжычаў...

1529 г. Геранёны. Замак Гаштольдаў.

Гаспадар замка Альбрэхт Гаштольд, змрочны, не вельмі прыемны барадаты тыпус, даволі мажны, з запалымі вачыма, і сівымі доўгімі валасамі, дзелавіта збівае кулакамі і нагамі просьбіта ў простым каптане. Выштурхоўвае яго за дзверы. У куце пакоя за экзекуцыяй назірае спадчыннік Альбрэхта, адзіны сын гаспадара Станіслаў Гаштольд, хлопчык з тонкімі рысамі твару і трохі сплоханы.

– Лярва! Пагражаць рокашам хлопаў! Падаткі ім вялікія! Брахун!

Твар Альбрэхта чырвоны ад злосці.

– Але, пан бацька, я сам бачыў, як нашы сяляне закідалі камянямі карэту... І яны былі страшныя... Худыя, счарнелыя...

Альбрэхт усаджваецца за стол, на якім ляжыць вялізарны стос спісаных папер.

– Запомні, сын, як толькі ты дабраахвотна ад чагосьці адмовішся – у цябе паступова адбяруць усё. Ніколі не адмаўляйся ад магчымасці штосьці дадаць да свайго багацця, славы і ўлады.

Станіслаў паныла глядзіць у падлогу.

– Нас паўсюль праклінаюць, пан бацька...

Старэйшы Гаштольд толькі ўсміхаецца:

– Няхай. Калі табе плююць у спіну, значыць, ты наперадзе.

Але сын яшчэ не выказаў усё, што набалела:

– Яны кажуць, Гаштольды не маюць літасці... Хцівыя і акрутныя... Нас не любяць...

Альбрэхт паблажліва глядзіць на яшчэ нявопытнага спадчынніка:

– Пачынаюць папракаць – цытуй Біблію. Скардзяцца на ўціск – спасылайся на волю Божую. Адшкадуй на кляштар – станеш святым. Думаеш, я дарэмна наняў гэтага доктара Францыска Скарыну з Полацку напісаць наш радавод? Ён ужо знайшоў нам продка – рымскага князя Палямона... Хто заплаціць пісцу – застанецца героем. Сёння мы, Гаштольды – самыя багатыя ў гэтым краі. Мы запячатваем лісты чырвоным воскам, а не зялёным. Адны Радзівілы могуць з намі зраўняцца... Толькі таму, што іх шмат. Пакуль яшчэ шмат.

Падыходзіць да сына, кладзе рукі яму на плечы.

– Ты едзеш у Кракаў, да каралеўскага двара. Увойдзеш у світу каралевіча.

Станіслаў радасна ўскідваецца:

– Калі?

Альбрэхт задумваецца:

– Пошасць у Кракаве скончылася... Так што... трэцяга дня наступнага месяца. Пастарайся пасябраваць з Аўгустам. Адкрыю таямніцу... Да канца года каралевіч падзеліць з бацькам трон. А я стану ягоным намеснікам у Вялікім Княстве Літоўскім.

Станіслаў з асцярогай:

– А калі я каралевічу не спадабаюся?

Адказ бацькі гучыць жорстка:

– Пастарайся спадабацца. Галоўнае, каб клятыя радзівіляняты не сталі да яго бліжэй, чым ты. Не паўтарай маёй памылкі, сыне. Не пасябруй з радзівілаўскімі вырадкамі, як я ў свой час.

Станіслаў праз нейкі час наважваецца папытацца:

– А чаму ты іх так не любіш, пан бацька?

Альбрэхт глядзіць у вакно.

– Ёсць за што...

1506 г. Вільня. Каралеўскі суд.

Альбрэхта Гаштольда, нягледзячы на супраціў, выводзяць з залы каралеўскія жаўнеры. Гаштольд азіраецца, працягвае крычаць да кагосьці ў зале, дзе віруе зацятая сварка:

– Я не быў у змове з Глінскім! Гэта паклёп!

Услед за Гаштольдам выходзіць Мікалай Радзівіл.

– Проста маскоўскі цар яшчэ недастаткова прапанаваў, а ваша мосць хацеў абабраць абодвух гасудароў.

Гаштольд пaглядае з нянавісцю:

– Ілжэц! Не дарую!

1519 г. Крэўскі замак.

Унізе, пад сценамі замка, ідзе бойка. Лятуць стрэлы. Страляюць гарматы. Альбрэхт Гаштольд, ухапіўшыся за мур змерзлымі пальцамі, напружана ўглядаецца ў далеч скрозь завіруху. Да яго падыходзіць ваяр з учарнелым ад стомы тварам.

– Ваша мосць, дапамога не прыйдзе. Выведнікі даклалі – віленскі ваявода не разаслаў каралеўскія лісты.

Гаштольд сціскае ў гневе кулакі:

– Кляты Радзівіл...

1520 г. Пад Полацкам ідзе бойка з войскамі Івана Грознага. Юры Радзівіл, увесь у гразі, стамлёна абапіраецца на меч, які ўторкнуты ў грудзі забітага ім жаўнера. Да Геркулеса падбягае ягоны ваяр:

– Ваша княская мосць, дапамогі няма! Войскі трокскага ваяводы ўсё яшчэ стаяць у засоцы!

Радзівіл сціскае сківіцы:

– Кляты Гаштольд...

Альбрэхт Гаштольд самазадаволена стукае рукой па стосе паперы на стале.

– Адзінае, за што я ўдзячны канцлеру Мікалаю Радзівілу – пакінуў мне ў спадчыну падрыхтаваны Статут... Закон нашай дзяржавы, сын!

Станіслаў недаверліва заўважае:

– Ты так доўга пішаш яго...

Альбрэхт здзекліва смяецца:

– Ну, можна сказаць, і пішу. Спасылкі на святое пісанне ніколі не лішнія. Па праўдзе, Мікалай усё завяршыў перад смерцю, сем год таму. Але раз я ўжо дамогся гэтай пачэснай працы... Нашто спяшацца? Кожны год кароль плоціць мне за гэта добрыя грошы. І ў гісторыю ўвойдзе, Стасю, што Статут Вялікага Княства Літоўскага склаў Гаштольд! Помні, Станіслаў: усё – на карысць роду! Мы пішам законы. Мы – самі закон.

У замку Радзівілаў Магнус збірае ў адмысловы куфар зёлкі і мікстуры. Варакса ўважліва назірае і робіць паметкі ў сшытку. Лекар пахмурна паглядае на нягеглага вучня:

– Каб можна было паслаць каго больш кемнага з княжычамі... Спадзяюся, ты хоць нешта засвоіў падчас нашых урокаў. Вось тут – лекі ад англійскай гарачкі, памажы, святы Антоній, каб не вярнулася. А тут – ад атруты. Правяраць будзеш кожны кавалак, кожны глыток, які ім пададуць. Які колер пакажа рэагент на аканіт?

Варакса ахвотна адазвае:

– Сіні, настаўнік. Калі адбылося атручванне – даць белую гліну.

Магнус працягвае іспыт:

– Цыкута?

– Рэагент будзе колеру дзіцячай мачы. Даваць атручанаму настойку кірказона, як раіў вялікі Тэафраст.

– Ягіпецкі пыл?

Варакса бадзёра прамаўляе:

– Чорны. Абясшкоджваецца слязамі саламандры.

Магнус скрушна ўздыхае:

– Сам бы адправіўся... Ды мне на вочы Луіджы Сфорца пакуль паказвацца нельга. Да італьянцаў не лезь... Вынаходніцтвамі сваімі не хваліся...

Варакса асцярожна цікавіцца:

– Настаўнік, а што вы скажаце пра мой апарат для адфільтроўкі ядаў?

Магнус працягвае пакаваць рэчы:

– Скажу, што пясок ён адфільтруе. А вось арсінакон – наўрад.

Варакса страшэнна пакрыўджаны:

– Я яшчэ дакажу ўсім...

На стале ў Магнуса працягвае круціцца ў закаркаванай колбе чорнае пяро ругана.

У садзе Радзівілаўскага палаца тлумна. Эолава арфа яшчэ не дробленая, абкружаная жэрдкамі. Але арол на яе вяршаліне ззяе пер'ямі. Вакол арфы сабраліся гледачы – Радзівіл Геркулес, Радзівіл Руды, Радзівіл Чорны, князёўны Ганна і Барбара, іх камерысткі Зося і Магдалена, Сымон Жух, Міхал Рашчынскі, Якаб Магнус. Паглядаюць даволі скептычна. Варакса вельмі хвалюецца, кусае вусны. Націскае з сілай на падважнік унізе збудавання. Арол ажывае, уздымае крылы, распроствае пёркі. Яго дзюба адкрываецца... І адтуль вылятае несамавітае курлыканне-кудахтанне. Гледачы заходзяцца ад смеху.

Юры Геркулес першы перастае смяяцца.

– Хопіць ганьбіць сімвал нашага роду. Ніякай мяханікі, ніякіх штукарстваў. Зрабіць з цэльнага металу.

Варакса ўцякае праз кусты, глытаючы слёзы.

Міхал Рашчынскі набліжаецца да Ганны Радзівіл.

– Ваша мосць дазволіць развітацца? Я заўтра еду ў Кракаў з братамі вашай мосці...

Ганна намагаецца быць як мага болей фанабэрыстай:

– З чаго васпан узяў, што мяне цікавіць ад'езд збраяносца майго брата?

Міхал маўчыць нейкі час, адказвае задумліва:

– У нашым доме ў Белавежскай пушчы проста пад вакном расце шыпшына. Калючае голле, і такія пяшчотныя кветкі. Я ніколі не рваў іх.

У голасе Ганны нервовая насмешка:

– Таму што баішся калючак?

– Таму што мне дастаткова любавацца на прыгажосць. Яна ёсць... За гэта можна памерці.

Міхал спакойна глядзіць на дзяўчыну. Ганна бянтэжыцца, і ад гэтага раздражняецца:

– Мядзведзі нічога не разумеюць у кветках.

Сыходзіць. Міхал глядзіць ёй услед. Таму заўважае, калі яна кідае на яго позірк цераз плячо, намагаючыся зрабіць гэта незаўважна. У адказ Міхал ветліва кланяецца. Ганна, яшчэ больш раззлаваная ад таго, што слуга ўгледзеў яе цікавасць, прыспешвае крок.

1529 г. Кракаў. Сад пры каралеўскім палацы. Радзівіл Геркулес падводзіць да каралевіча Жыгімонта Аўгуста малодшых Радзівілаў.

– Ваша высокасць, дазвольце вам прадставіць майго сына Мікалая і майго пляменніка Мікалая...

Хлопцы цырымонна кланяюцца.

Чорны весела, па-змоўніцку падміргвае каралевічу:

– Мікалай ды Мікалай – можна пераблытаць, ваша каралеўская высокасць... Але ёсць добры і відочны выхад: ён – Мікалай Руды, а я – Мікалай Чорны.

Весела тузае сябе за валасы.

– Руды і Чорны – дакладна не пераблытаеце.

Каралевіч усміхаецца. Ён відавочна прасякнуўся прыязнасцю да Чорнага.

– Мне сказалі, Радзівілы жывуць у самых нетрах, у пушчы. Вы палявалі на зуброў?

Мікалай Руды з гонарам пацвярджае:

– Яшчэ як, ваша мосць! Пойдземце, раскажу!

У маленькім пакоі кракаўскага каралеўскага палаца сядзіць Варакса Семяновіч і праганяе рэчывы праз свае хітрыя прыстасаванні. У адной з колбачак забулькатала вадкасць і набыла зялёны колер.

– Дзейнічае! Цяпер засталося дадумаць схему крэсла-павука.

Бона Сфорца глядзіць праз вакно, як каралевіч Жыгімонт Аўгуст гуляе з новымі сябрамі. За яе левым плячом – Луіджы Сфорца, які таксама назірае за сцэнай у садзе.

– Я не змагла пераканаць караля, што юныя Радзівілы – не лепшая кампанія для майго сына.

Вечны Інквізітар адыходзіць ад вакна, нібыта яму не цікава.

– Гэта часовая непрыемнасць, ваша каралеўская вялікасць. Пакуль магнаты грызуцца між сабою, яны вам не страшныя.

Бона паварочваецца.

– Прынёс?

Вечны Інквізітар ставіць на столік куфэрак, падобны да маленькай шафы. Націскае на розныя выпукласці тонкай разьбы.

Куфэрак расчыняецца, унутры мноства маленькіх шуфлядачак, аддзяленняў, дзе захоўваюцца мініяцюрныя бутэлечкі.

– Наяўнасць гэтых рэчываў немагчыма выявіць, мая каралева. Гэта можа толькі адзін чарнакніжнік, я ведаў яго па Фларэнцыі. Цяпер яму далі прытулак Радзівілы. Але я вырву гэты гнілы зуб.

Бона глядзіць праз бутэлечку на святло:

– Як мала трэба, каб чалавек ступіў у човен Харона... Ты ведаеш, Луіджы, як ператвараецца найлепшае, празрыстае рэчыва ў атруту? А як ператвараецца шчырае, палкае каханне – у нянавісць? Сэрца прыпадабняецца алхімічнаму атанару, паліць і пячэ, і ніколі не астывае...

Вечны Інквізітар усміхаецца:

– Дарэчы, пра каханне... Звярніце ўвагу на гэтае аддзяленне...

Паказвае яшчэ адну патаемную шуфлядку.

– Рэчывы адсюль дапамогуць вам заўсёды быць жаданай для караля. Зялёная бутэлечка – вам, чырвоная – яму. Дастаткова кроплі...

Бона злуецца:

– На Геркулесе не спрацавала...

Яе суразмоўца паціскае плячыма:

– Моцны чалавек можа пераадолець юр.

Бона задумваецца, нейкі час глядзіць на свайго вернага паплечніка:

– Паслухай, Луіджы... А хто ты такі?

Вечны Інквізітар адступае на крок:

– Не разумею вашай мосці... Я – ваш сваяк...

Бона перабівае:

– Так сказаў мне мой бацька, калі ты з'явіўся ў нашым доме. Тады мой партрэт пісаў Леанарда з Вінчы. І ён збялеў, пабачыўшы цябе. І сказаў штосьці пра гругана... Хто ты?

Вечны Інквізітар нізка кланяецца:

– Ваш верны паплечнік у барацьбе з Радзівіламі.

Бона нейкі час углядаецца ў твар свайго названага сваяка і адварочваецца, падобна, ёй непамысна. Рознакаляровыя бутэлечкі злавесна блішчаць у куфэрку.

Станіслаў Аўгуст, Мікалай Руды, Мікалай Чорны і некалькі іншых юных прыдворных са смехам бегаюць і кідаюць адзін аднаму колца, якое трэба злавіць на палку, падобную да драўлянай шпагі. Станіслаў Гаштольд з палкай у руцэ – збоку, нібыта і ўдзельнічае ў гульні, але ніяк не можа злавіць колца. Урэшце, засмучоны, зусім адыходзіць. Часцей за ўсё колца апынаецца на палцы ў каралевіча, не без старанняў партнёраў па гульні. Старэйшыя прыдворныя, якія назіраюць збоку за забавай, хорам лічаць: “Дваццаць чатыры! Дваццаць пяць колцаў у яго высокасці!”

Жыгімонт Аўгуст весела крычыць:

– Здавайцеся! Я хутка буду каралём!

Да Станіслава, улучыўшы вольны ў гульні момант, падыходзіць Мікалай Чорны з прыветнай усмешкай.

– У мяне таксама не адразу атрымалася. Давай удваіх патрэніруемся...

Станіслаў Гаштольд падазрона глядзіць на “радзівілянятка”, але не можа ўстаяць супраць шчырай усмешкі. Нясмела ківае галавою і ўсміхаецца.

Юры Радзівіл Геркулес выходзіць з параднай залы кракаўскага каралеўскага палаца ўгневаны. Разам з ім Канстанцін Астрожскі, немалады, шырокаплечы, з сівой барадой. У залу, штурхаючы магнатаў, наперабой шчэмяцца ўсхваляваныя прыдворныя, якія жадаюць засведчыць пашану новаму каралю.

Геркулес з болем кажа Астрожскаму:

– Не магу паверыць, што яна ўтварыла гэта. Пры жывым каралі... Аддаць карону смаркачу...

Астрожскі таксама засмучоны.

– Ганьба... Але хіба не вы, ваша мосць, год таму ўгаворвалі мяне падтрымаць каранаванне малога Аўгуста на вялікага князя літоўскага?

Радзівіл хмурыцца:

– Гэта было на карысць княства. Наша зямля не мусіць залежаць ад кароны. Павінна мець свайго ўладара. А цяпер, калі гэтае дзіця стала каралём... Стары Жыгімонт глядзіць у рот італьянцы. Канец краіне.

Да магнатаў падыходзіць задаволены Альбрэхт Гаштольд.

– Хіба панства не выкажа сваю любоў да новага караля?

Геркулес адказвае скрозь зубы:

– Думаю, нашаму новаму каралю больш цікавыя цацачныя жаўнерчыкі, чым жывыя немаладыя ваяры.

У тоне Гаштольда чуваць здзек:

– Ай-яй-яй, няўжо панства гатовае здрадзіць прысязе?

Геркулес ледзь стрымлівае гнеў:

– Здрайца той, хто думае найперш не пра краіну, а пра сябе, ваша мосць. Вы не ведаеце такіх сярод нас?

Альбрэхт адказвае перабольшана ўзвышана:

– Гасподзь бачыць у сэрцах, пане Юры. Маё проста палае любоўю да караля і айчыны.

Канстанцін Астрожскі з пагардай адзываецца:

– Не спаліце ж той любоўю краіну, ваша мосць.

1530 г. Кракаў. Каралеўскі замак. Пасярод пакоя накрыты на чатырох чалавек стол. Міхал Рашчынскі трывожна пільнуе ля дзвярэй, каб не зайшлі староннія. Варакса прыладзіў на стале груваcткую прыладу, куды па чарзе апускае кавалачкі кожнай стравы.

Міхал шэпча:

– Хутчэй. Іх мосці зараз прыдуць на абед. Хіба не дастаткова макнуць у кожную страву рог адзінарога? Ці змусіць слугу пакаштаваць?

Варакса не перапыняе працы:

– Ты нічога не кеміш у тонкай навуцы, пушчанскі мядзведзь. Не гавары пад руку.

Заканчвае, выпростваецца.

– На гэты раз чыста.

Хавае прыладу па частках у куфар.

Міхал з нецярплівасцю глядзіць, як Варакса спрабуе падняць цяжкую валізу, выхоплівае ў яго, лёгка нясе да патайной дзверцы ля каміна. Варакса спыняецца:

– Чакай, трохі безаару не пашкодзіць... А то раптам зноў Руды дзесь па дарозе хлебануў віна, і зноў падсунулі з атрутай... Я тады ледзь увесь запас белай гліны не звёў.

Сыпле з адмысловай срэбнай бутэлечкі парашок у чатыры кубкі. Парадныя дзверы ў гэты час злёгку прыадчыняюцца, нібыта самі па сабе.

Міхал здзіўляецца, калі Варакса сыпле парашок у чацвёрты кубак.

– І Станіслава Гаштольда аберагаеш, сына ворага нашых паноў?

Варакса павучальна тлумачыць:

– Усе стварэнні Божыя маюць права на жыццё. А калі адзін за сталом атруціцца, хіба не падумаюць на тых, хто застаўся здаровы? Эх, мядзведзь ты пушчанскі...

Выходзяць з пакоя. Зараз жа расчыняюцца галоўныя дзверы, зазірае слуга з абыякавым тварам, падобным да недапечанай булкі, сустракаецца позіркам з Міхалам, які затрымаўся ў патайных дзвярах, ківаюць адзін аднаму. Міхал зачыняе за сабой дзверы, слуга расчыняе парадныя. Заходзяць маладыя княжычы – Руды, Чорны, Станіслаў Гаштольд і каралевіч. Падлеткі гучна смяюцца. Аўгуст працягвае расповед:

– А тады фрэйліна маёй маці, тая, што бародаўку на носе замазвае бялілами, як паслізнецца на абгрызку... І як гахнецца на ўсе свае спадніцы...

Радзівіл Геркулес, вельмі напружаны, у пакоі свайго доктара сядзіць за сталом, заваленым паперамі і застаўленым бутэлечкамі. Перад ім вельмі сур'ёзны Магнус.

– Ты ўпэўнены, што ўсё гатова? Нам ёсць што прад'явіць каралю?

Магнус кланяецца:

– Доказы неабвержныя, як нябесная маланка. Подпісы сведкаў, атрутныя рэчывы...

Радзівіл глядзіць, як круціцца ў закаркаванай колбе чорнае пяро ругана.

– Я перамог у трыццаці бойках. Аднойчы прайграў. Жанчыне. Я быў юны, я знаходзіўся на чужыне, дзе вінаградныя гронкі свяціліся сонцам, а белы мармур награваўся так, што апякаў босыя ногі... Менавіта яна папрасіла мяне вызваліць цябе з лап інквізіцыі.

Магнус уздрыгвае:

– Вы мне не казалі.

Голас Радзівіла гучыць мройна і тужліва:

– Яна заколвала свае залатыя валасы такой вось... доўгай срэбнай шпількай...

Магнус узрушаны:

– Я ведаю, пра каго вы гаворыце... Я думаў, яна забылася на мяне... Яна...

Радзівіл перапыняе яго:

– Т-сс... Не называй іменаў... Не кажы, што цябе з ёю звязвала. Хто ты ёй. Я тады не пытаўся – я проста зрабіў усё, што яна загадала. А потым... Потым яна прагнала мяне, сказаўшы, што я дурны хлапчыска. А калі я паспрабаваў залезці да яе праз балкон...

На залітым сонцам мармуровым балконе, абвітым вінаградам, юная прыгажуня заколвае ў высокую прычоску валасы. Малады Юры Геркулес спрабуе залезці да яе, але жанчына вельмі спрытна валіць яго за парэнчы, а калі той спрабуе зачапіцца, дастае з валасоў доўгую шпільку і наносіць удар.

Сталы Юры Геркулес расшпільвае каўнер кашулі, паказвае доўгі вузкі шнар на сваіх грудзях, гладзіць яго.

– Ведаеш, я нікога больш так не кахаў.

Магнус адварочваецца ад князя, з ягоных заплюшчаных вачэй коцяцца слёзы.

Геркулес працягвае гаварыць глуха і ўсхвалявана:

– Колькі ў мяне пасля было кабетаў... Яны прапускалі праз свае тонкія пальцы мае рудыя валасы і называлі мяне Геркулесам, Апалонам, аддаваліся мне, як аддаецца вінаградная лаза сонцу... А я ўсё памятаю той балкон з белага мармуру, і лозы, якія яго абвілі, падобна змеям, і цёмныя пагардлівыя вочы... І сваю ганебную рэтырацыю. Я тады зразумеў, што магу прайграць толькі жанчыне. Ведаеш, на нейкую хвілю, калі я ўбачыў Бону, я ўспомніў... Мне падалося, яны падобныя... Ці не сталася тая міжвольная, грахоўная жарынка, імгненне юру – прычынай усіх гэтых смерцяў?

Магнус спрабуе змагчы хваляванне:

– Калі я вісеў на дыбе ў сутарэннях інквізіцыі, ваша княская мосць, я зразумеў, што невінаватых людзей няма. Кожны пры пэўных абставінах можа прыняць на сябе ўсе грахі сусвету. Але гэтак жа няма і бязгрэшных. Ёсць боль – ёсць надзея. Вы не прайграеце каралеве.

Гергулес горка пасміхаецца:

– Каралеве – так... А вось абражанай жанчыне... Срэбная шпілька ў маім сэрцы, Магнус.

1530 г. Прыслужніца Магдаленка скончыла заплятаць косы Ганне Радзівіл. Ганна чытае лісты. Барбара сядзіць побач у крэсле і гуляе ў дзіўную гульню – падкідвае і ловіць дошчачкай шарык на вяровачцы.

Ганна незадаволена заўважае:

– Хопіць стукаць... Яшчэ адна прыдворная замежная забаўка.

Барбара працягвае гуляцца.

– Нічога заганнага. Іначай брат не даслаў бы.

– Глядзі, каб бацька не заўважыў.

Магдаленка ўмешваецца ў размову паненак:

– Цяпер усе ў трык-трак гуляюць, ваша мосць. І каўнеры замаўляюць, як у каралевы. З галандскіх карункаў. Пані Любамірская, пані падканцлерава, пані чашнікава...

Ганна моршчыцца.

– Не стракачы.

– Яшчэ не ачунялі ад застуды, ваша мосць? Галава баліць? Я прынясу мікстуры, якую вядзьмак Магнус для вас зварыў.

Магдаленка выбягае з пакоя.

Барбара, карыстаючыся тым, што няма прыслугі, хуценька пытаецца:

– Ганна, ад каго другі ліст? Няўжо ад збраяносца?

– З чаго б просты шляхціц мне пісаў?

Памаўчала, неахвотна працягнула:

– Даслаў малюнак. Шыпшына. Дзікая ружа. Не ведаю, навошта.

1530 г. Кракаў. Каралеўскі палац. Жыгімонт Стары незадаволена ўсаджваецца ў крэсла. Перад ім – Радзівіл Геркулес і Якаб Магнус, які трымае куфэрак.

– Я згадзіўся на гэтую сустрэчу ў памяць нашага старога сяброўства, Юры. Але я не памяняю свайго слова. Пасада канцлера, якая вызвалілася пасля смерці твайго брата, будзе належаць Альбрэхту Гаштольду. Радзівілы і так маюць уладу большую за маю.

Геркулес апускае вочы, каб не выдаць гнеў.

– Але Радзівілаў на гэтым свеце застаецца ўсё менш, ваша каралеўская мосць. Я прашу толькі аб каралеўскім правасуддзі.

Азіраецца на Магнуса. Алхімік выходзіць наперад, адчыняе куфэрак.

– Мы сабралі доказы таго, што смерці іх мосцяў Ганны Мазавецкай з Радзівілаў і яе двух яе сыноў, канцлера Мікалая Радзівіла, кашталяна Троцкага Яна Радзівіла не былі выпадковымі. Вось сведчанні... Вось вынікі даследванняў целаў... Вось выяўленая мною ў кожным выпадку атрута... Вось сведчанні, што атруту перадавалі са світы каралевы, а замаўляў такія рэчывы ў Фларэнцыі дарадца каралевы Луіджы Сфорца...

Жыгімонт Стары незадаволена прымае паперы, пачынае чытаць.

Расчыняюцца дзверы, у пакой, ганарыста закінуўшы галаву, заходзіць Бона Сфорца. За ёй – Луіджы Сфорца, Вялікі Інквізітар, і Альбрэхт Гаштольд. Магнус пры поглядзе на Інквізітара бялее.

Кароль у гневе:

– Як вы насмеліліся?

Бона рашуча бліскае блакітнымі вачыма:

– Мой кароль, я не змагла застацца ў баку, калі даведалася пра змову супраць вас і нашага сына!

Вечны Інквізітар паказвае на Магнуса:

– Вы ў небяспецы, ваша вялікасць! Гэты чалавек – вядзьмак! Ён быў асуджаны да спалення на вогнішчы і ўцёк невядомым чынам. З дапамогай д’ябла ён здольны звесці са свету любога нават на адлегласці!

Альбрэхт Гаштольд паказвае на Магнуса:

– Я абвінавачваю гэтага чалавека ў тым, што ён па загадзе свайго гаспадара, кашталяна троцкага Яна Радзівіла, атруціў ягоную жонку, маю сястру Лізавету! Гэты вядзьмак прыязджаў нібыта лячыць яе, а сам звёў у магілу. Чаму таксама ёсць сведчанні...

Падае каралю світкі.

Каралева дадае:

– І самае страшнае – разам з маладымі княжычамі Радзівіламі, якія ўвашлі ў давер да нашага сына, прыехаў вучань гэтага ведзьмака, які ўвесь час падсыпае атруту ў ежу яго высокасці Жыгімонта Аўгуста!

Па знаку каралевы ў пакой зацягваюць звязанага Вараксу. Той дужа перапалоханы, стаіць на каленях.

– Я ўсяго толькі правяраў ежу на адсутнасць атруты! Клянуся прасвятой Багародзіцай! Маладых Радзівілаў ужо сем раз спрабавалі тут атруціць! Прысягаю!

У пакой уносяць і кідаюць на падлогу прыбор, вынайдзены Вараксам для адфільтроўкі атруты, ягоную прыладу для падслухоўвання, а таксама нейкую дзіўную канструкцыю, што нагадвае павука. Да жаху прысутных, адна з “лапак” механізму пачынае згінацца і разгінацца з непрыемным скрыгатам.

Вечны Інквізітар пераможна паказвае на застрашлівы механізм:

– Што гэта, як не чараўніцтва?

Магнус са стогнам закрывае твар рукой, убачыўшы вырабы вучня.

Варакса плача:

– Прысягаю... Толькі навука... Толькі дзеля здароўя іх мосцяў... Я добры хрысціянін... Я пасціцца буду...

Вечны Інквізітар расцягвае вусны ва ўсмешцы:

– Думаю, на допыце гэты грэшнік раскажа ўсё, як ёсць.

Варакса трасецца ад жаху. Бона пераможна глядзіць у вочы Радзівілу Геркулесу. Той з прыкрасцю кусае вусны, бо разумее, што нядошлы Варакса падчас катавання пацвердзіць усё, што яму будуць падказваць.

У дзверы прарываецца Міхал Рашчынскі, параскідаўшы ахову. Падае на калені.

– Ваша каралеўская мосць, справядлівасці! Хай будзе ардалія, Божы суд! Я – збраяносец ягонай мосці Мікалая Радзівіла, і я сведчу, што гэты чалавек усяго толькі спрабаваў засцерагчы сваіх уладароў ад атруты. Я сам дапамагаў яму правяраць ежу. Варакса не мае рыцарскага звання і не зусім добрага розуму, вам любы пацвердзіць.

Варакса пры гэтых словах моцна ківае галавой у пацверджанне. Міхал цвёрда заяўляе:

– Праверце мяне Божым судом.

Жыгімонт Стары задумліва глядзіць на маладога рыцара:

– Што ж, так ужо было. Мой дзед Ягайла ўсумніўся ў вернасці каралевы Соф'і Гальшанскай. Падазрэнне ўпала на рыцара Генрыка з Рогава. Але той змог вытрываць усе выпрабаванні агнём, жалезам і вадой і пацвердзіў, што каралева не здраджвала каралю. Такім чынам мой бацька не быў з-за гнюснага паклёпу пазбаўлены трона як бастард. Хай будзе Божы Суд. І мы ўсе станем прысутнічаць.

Магнус, уздыхнуўшы, выходзіць наперад.

– Ці варта сячы кусты, калі трэба пачынаць з дрэва? Пры чым тут мае вучні? Вам патрэбны я.

Альбрэхт Гаштольд ускліквае са злой радасцю:

– Так, менавіта ты, вядзьмак! Ніякіх займеннікаў!

Варакса разгублена ўстае з каленяў.

– Чакайце... На ардалію пойдзе настаўнік? Гэта... несправядліва! Ён стары! У яго... здароўя ж ніякага! А ён жа столькі людзей вылечыў! Мяне падабраў дзіцем паўмёртвага, калі ўся вёска ад пошасці вымерла, в*ы*хадзіў! Не, ён не павінен пакутваць! Лепш ужо... лепш ужо я!

Вечны Інквізітар здзіўлены.

– Што ў вас такое ёсць, Радзівілы, што за вас гатовыя ісці на пакуты ўсе гэтыя людзі?

Радзівіл Геркулес сціскае кулакі.

– Я гатовы выйсці з мячом супраць кожнага, хто абвінаваціць мяне ці гэтых маіх людзей!

– Майго дазволу не будзе, – важка прамаўляе кароль.

Магнус глядзіць амаль весела на Вялікага Інквізітара.

– Ну, сіньёр Луіджы, вы ж менавіта гэтага дамагаецеся... Давайце завершым тое, што не скончылі ў Фларэнцыі...

Вечны Інквізітар злавесна ўсміхаецца:

– Так, гэта будзе правільна.

– Я гатовы.

Радзівіл Геркулес глядзіць у вочы Боне.

– Калі вы пакалечыце ці заб'еце доктара, я не дарую...

Кароль моршчыцца:

– Мы абяцаем, што гэтага не здарыцца.

Міхал і Варакса крычаць, перабіваючы адзін аднаго:

– Я першы выклікаўся на ардалію!

– Гэта мае вынаходніцтвы!

Кароль раздражнёна ўстае, абводзіць суровым поглядам пакой, усе сціхаюць.

– Воляй сваёй загадваю захаваць справу ў таямніцы – пакуль не будзе даказана чыясьці віна. Абрыдла мне ваша варажнеча. І вось што... Пасля той гісторыі з Генрыкам з Рогава пана Гневаша, які распаўсюджваў ілжывыя чуткі, змусілі залезці пад лаўку і брахаць.

Радзівіл, Гаштольд і Вечны Інквізітар абменьваюцца ненавіснымі поглядамі, але не наважваюцца на каментары.

У сутарэннях Кракаўскага каралеўскага палаца паходні разганяюць змрок, але не жудасць. На драўляным станку для катаванняў – Якаб Магнус. Відаць, што яму вельмі балюча, але ён не крычыць, толькі сціскае зубы і стогне, ды пот сцякае па твары. Каля яго пільна назірае за працэсам катавання Луіджы Сфорца. У крэслах сядзяць Жыгімонт Стары і каралева Бона Сфорца. Таксама назіраюць за катаваннем Радзівіл Геркулес, яго сыны – Руды і Чорны, Альбрэхт Гаштольд і яго сын Станіслаў, Міхал Рашчынскі і Варакса Семяновіч. Апошні ўвесь час хрысціцца і мармыча малітвы:

– Госпадзе, клянуся, я выкіну ўсе свае механізмы... Больш ніколі...

Стогны Магнуса ўзмацняюцца.

Радзівіл Геркулес гучна заяўляе:

– Хопіць! Вы ўпэўніліся, што мой лекар гаворыць праўду! Ніводзін чалавек не змог бы сылгаць пасля такіх пакутаў!

Бона холадна адказвае:

– Толькі не вядзьмак. У ведзьмакоў ёсць абарона ад болю.

Геркулес стрымлівае гнеў.

– Ды вы ўжо святой вадой яго наскрозь вымачылі! Рытуал экзарцызму правялі!

Бона ўладна загадвае:

– Працягвайце.

Вялікі Інквізітар ківае, ягоны памочнік мацней закручвае кола, якое напінае вяроўкі, што расцягваюць Магнуса. Лекар здушана ўскрыквае.

Радзівіл раз'юшана глядзіць у вочы Боне.

– Спыніцеся!

Бона вытрымлівае ягоны позірк:

– Ваша мосць мяне не спыніць!

Варакса кідаецца на калені перад каралём:

– Ваша вялікасць, мой настаўнік памірае! У яго слабое сэрца! Зірніце... Цыяноз... *Difficultatem spirandi*...

Магнус выгінаецца, з яго горла вырываецца страшны хрып, тады сціхае. Відаць, што алхімік страціў прытомнасць.

Жыгімонт раздражнёна адводзіць вочы.

– Сапраўды. Хопіць. Я пераканаўся, што слугі Юрыя Радзівіла не спрабавалі нікога атруціць.

Альбрэхт Гаштольд абураны.

– Яшчэ рана!

Вечны Інквізітар таксама незадаволены.

– Ваша вялікасць, я не выкарыстаў адзін спосаб...

Кароль устае.

– Спраўдзі яго на сваім груганe.

Выходзіць з катавальні. За ім вельмі незадаволеная Бона, якая абменьваецца поглядамі нянавісці з Радзівілам Геркулесам. Да Магнуса кідаюцца Варакса і Міхал.

Варакса ў адчаі.

– Яго сэрца не б'ецца!

За дзвярыма катавальні Альбрэхт Гаштольд даганяе Радзівіла Геркулеса.

– Можа, яго вялікасць і паверыў. Але я – не. Наша справа не скончана.

1534 г. Сад палаца Радзівілаў. Ганна і Барбара, ужо падрослыя, ля эолавай арфы. Цяпер арфа ва ўсёй прыгажосці, распраствае крылы залаты арол на навершы, і вецер грае на струнах дзівосную мелодыю. Дзяўчаты падпяваюць, кожная на свой лад. Барбара пачынае трэніравацца ў складаных бальных танцах, прысядае, круціцца, падае руку ўяўнаму кавалеру. Гворыць какетліва-халодна:

– Ваша мосць не павінны так палка пазіраць на мяне, мая сукенка зараз загарыцца ад позірку вашае мосці...

Ганна падыгрывае малодшай сястры, падае ёй руку ў фігуры танца:

– Ах, я б усё аддаў, каб той агонь, які паліць маё сэрца, хоць трохі адагрэў ваша...

Барбара насмешнічае:

– Толькі калі вы не просты бедны шляхцюк-цяльпук з Белавежскай пушчы, падобны да мядзведзя...

Ганна злосна выпростваецца, зразумеўшы намёк.

– Мне няма ніякай справы да нейкага збраяносца.

– А хто табе футра белай лісіцы прынёс?

Ганна намагаецца гаварыць холадна-грэбліва:

– Справа слугі – паляваць для гаспадароў.

Барбара хітра прыжмурваецца:

– А хто заглядаўся на таго мядзведзя пушчанскага, калі той рыцарскую карусель выйграў?

Старэйшая сястра адварочваецца, каб схаваць румянак.

– Гэта нічога, нічога не значыць! Чуеш?

Увагу дзяўчат адцягвае вершнік, які імчыць у замак.

Чорны плашч лунае за ім, а ў небе вершніка суправаджае чорны груган.

Барбара тужліва прагаворвае:

– Ад каралевы... Зноў...

Ганна злосна кусае вусны:

– У чарговы раз у суд бацьку пацягнуць. Калі тая Бона нашай зямлі наесца?

Барбара спалохана азіраецца, шэпча:

– Кажуць, яна прывезла з сабой з Італіі такія сукенкі, што відаць усе грудзі... І змушае прыдворных есці за сталом вострымі маленькімі віламі... Дае патрымаць куфэрак, а з яго выскоквае атручанае джала... Укол – і чалавек памірае.

Ганна глядзіць услед вершніку:

– А раптам зноў – на вайну... А нашы толькі вярнуліся з Лівоніі...

У прыбудове палаца Радзівілаў ляжаць параненыя – хто на кінутым на падлогу сенніку, хто проста на голых, сплямленых крывёй дошках. Чуваць стогны. Моцна кульгаючы, абапіраючыся на кульбачку, ідзе Магнус. За ім Варакса з валізай з доктарскім рыштункам.

Магнус азіраецца вакол.

– Вось, Варакса, сапраўдны твар вайны. Не там, у параднай зале, дзе вітаюць Радзівілаў-пераможцаў, а тут, дзе гніюць раны і кружляюць зялёныя мухі. Падай драўляны алей...

Варакса падае шклянку, Магнус пачынае апрацоўваць рану стогнучага хворага. Той на імгненне ачуньвае, пазнае Магнуса і слабымі рухамі намагаецца яго адагнаць.

– Не, не, не трэба мне тваіх д’ябальскіх лекаў...

Магнус сумна глядзіць на параненага, які зноў страціў прытомнасць.

– А гэта сапраўдны твар нашага часу. Лізаць боты тым, хто адпраўляе цябе на смерць, і пагарджаць тымі, хто спрабуе захаваць тваё жыццё.

Варакса не хоча ўдумвацца ў сумны сэнс словаў.

– Настаўнік, я амаль дарабіў крэсла-павука...

Забягае Міхал. Ён шукае параненых са свайго атрада. Заўважае Магнуса і Вараксу.

– Варакса! Пан Магнус! Вы ўжо ачунялі!

Доктар усміхаецца.

– Душа чамусь учапілася ў гэтае нямоглае цела, і ніяк не хоча вызвалення.

Міхал хітра прыжмурваецца.

– Часта ўспамінаў паміж бітвамі вашага Плутарха. Падчас бойкі, праўда, пра іншае думаў.

Ва ўсмешцы лекара заўважаецца туга.

– Навучыўся добра забіваць?

Міхал сур’ёзнее.

– Часам мне здаецца, што я для гэтага народжаны.

Сумна абводзіць вачыма параненых, што ляжаць проста на сене.

Магнус ціха прамаўляе:

– Ніхто не народжаны забіваць, Міхал. Ніхто.

Малады рыцар схіляецца над параненым, якога толькі што лекаваў Магнус.

– Як ён? Гэта з майго атраду, Антон Кудзелька. Ён добры вой.

– Жыць будзе. Калі не будзе надалей лічыць свайго лекара д’яблам.

Вочы Міхала гарэзна блішчаць.

– Прабачце, пан Магнус. Я, калі малым быў, таксама думаў, што вы вядзьмак. Мы вас баяліся так, што, калі трэба было да вас наблізіцца, сціскалі ў кулаку зубок часныку.

Міхал паварочваецца да Вараксы, стукае яго па плячы, той ажно прысядае.

– Варакса! Што новага вынайшаў?

Вучань лекара незадаволена, з выклікам бурчыць:

– Пабачыш хутка.

З прыхаванай зайздрасцю акідвае вокам ладную постаць Рашчынскага.

– Як ёсць мядзведзь...

Да Ганны і Барбары, якія застылі ў трывозе ля эолавай арфы, падыходзіць Мікалай Руды, за якім ідзе Міхал.

– Бацька кліча. Сур'ёзная справа.

Ганна дэманстратыўна не заўважае Міхала, які не адводзіць ад яе вачэй.

– Навошта ты ўзяў з сабой гэтага... мядзведзя?

Мікалай Руды паціскае плячыма.

– Між іншым, ён брату нашаму жыццё выратаваў пад Старадубам.

Ганна адказвае перабольшана холадна.

– Гэта гонар для слугі.

Міхал апускае з горыччу вочы. У пальцах ён круціць залатое пёрка.

Княжыч і яго сястра сыходзяць. Да Міхала набліжаецца Сымон Жух. Радасна абдымае Міхала.

– Вярнуўся, Міхалка! О, які ладны рыцар! Вось бацька парадваўся б! Чуў, ты павышэнне атрымаў?

– Так, я цяпер дзясяцкі, дзядзька Сымон.

– Малойца! Ваяр! Глядзіш, соцкім станеш, а там і палкоўнікам... Галоўнае, глядзі, не забывайся, хто ты. Магнат сёння золатам абсыпе, заўтра бізунамі. Як там, пад Старадубам, было? Горача? Чуў, ты Чорнага выратаваў?

Міхал сумна апускае вочы.

– Горача было, дзядзька Сымон.

1534 г. Старадуб. Войска Юрыя Радзівіла Геркулеса ўзяло горад. Азвярэлыя жаўнеры забіваюць усіх, хто трапляецца пад руку. Гінуць жанчыны, старыя, дзеці. Хтосьці з жаўнераў здзірае адзенне з дзяўчыны. Сцелецца чорны дым пажарышча. Чуваць выкрыкі: "Слаўся, Юры Радзівіл Геркулес! Вікторыя! Вікторыя!"

Маладая жанчына з успоратым жыватом ляжыць, прыціскаючы да сябе немаўля, якое крычыць, крычыць, залітае крывёй... Мікалай Чорны застыў у жаху, апусціўшы меч. Яго здранцвелыя вусны шэпчуць:

– Не жывёла чалавек... Бо душу мае і міласэрнасць... Не мусіць Божая істота праліваць кроў іншае Божае істоты... Дарунак Божы – чалавечае жыццё, на якое пасягаць права не маем...

На Мікалая Чорнага, які не заўважае нічога вакол сябе, налятае з шабляй рускі стралец. Ворага пераймае магутны Міхал Рашчынскі. Міхал, увесь у варожай крыві, захінае сабой Чорнага, забівае стральца, потым – двух іншых... На шлеме Міхала блішчыць прычэпленае залатое пёрка радзівілаўскага арла. Нарэшце падбягаюць на дапамогу жаўнеры войска Вялікага Княства Літоўскага. Узначальвае іх рыцар на кані. Ён прыўзнімае забрала. Гэта – Мікалай Руды. На яго шаблі – варожая кроў, крывёй запырсканыя латы, вочы захоплена блішчаць.

– Гой-гой, слаўная сеча! Рад, што ты жывы, браце! Памятай – дзяржальна і лязо! Мы разам!

Мікалай Чорны ціха прамаўляе сам сабе, не адрываючы вачэй ад скрываўленага немаўляці.

– Не лязо я, Руды. Не лязо...

Руды імчыць далей, выхапіўшы шаблю. Чорны рашуча ступае наперад і бярэ на рукі немаўля.

У садзе палаца Радзівілаў Варакса выпрабоўвае сваё чарговае вынаходніцтва. Ён сядзіць у незразумелай жалезнай канструкцыі, якая сапраўды нагадвае павука. Сабраліся гледачы – чэлядзь замка, у першых шэрагах Зоська і Магдаленка, заўсёдныя насмешніцы.

– Гэта, напэўна, крэсла з чыстца! Для пакарання грэшнікаў, якія не станавіліся на калені падчас месы!

– Ці тых цельпукоў, што не ўставалі пры набліжэнні высакароднай дамы!

Варакса, хвалюючыся, моцна тузае падважнік... “Лапы” крэсла-павука зрушваюцца з месца з непрыемным скрыгатам, гледачы спалохана вішчаць. Варакса працягвае тузаць падважнікі... Але нешта ідзе не так, адна “лапа” застрае, і ўся канструкцыя валіцца набок, пад смех натоўпу.

У зале палаца Радзівілаў госці за балявальным сталом падымаюць келіхі за гаспадароў палаца. Крычаць “Віват! Слава Радзівілу Геркулесу! За яго трыццаць перамог!” Грае музыка, бегаюць блазны з бразготкамі. Адзін з гасцей, у строгім чорным адзенні, з вялікім крыжом на грудзях – Вечны Інквізітар. За сталом таксама Чорны і Руды Радзівілы. Мікалай Руды есць з апетытам, п’е, але на жаніхоў сясцёр і іх світу паглядае ганарыста. Чорны, наадварот, на ежу не налягае, усміхаецца, вядзе ветлівыя размовы, па звычцы ўсё прыкмячае і наладжвае сувязі. Месца на чале стала пакуль пустое. Юры Радзівіл Геркулес, перад тым, як усесціся побач з Барбарай Кола, якая на яго запытальна паглядае, гаворыць убаку з Ганнай і Барбарай.

– Будзьце прыветнымі са сваймі жаніхамі.

Ганна абурана азіраецца на гасцей:

– Са Станіславам Гаштольдам? Гэтым... слімаком? Сынам Альбрэхта, нашага ворага? Ён мяне ненавідзіць!

– Ты – Радзівіл! Гонар найперш пачуцця. Мы мусім выканаць загад караля. Ніхто не рады. Але бачыш – сядзіць пасланец каралевы, гэты паганец Луіджы Сфорца. Ён нічога не прапусціць.

Ганна паглядае па Вечнага Інквізітара і выпадкова сустракаецца з ім позіркамі. Дзяўчыну скаланае.

Кракаў. Каралеўскі палац. Жыгімонт Стары сядзіць у высокім крэсле. Твар заклапочаны. Па правую руку ад яго – каралева Бона Сфорца. На яе вуснах ветлая ўсмешка, а вочы з нянавісцю сузіраюць магнатаў, якія стаяць, намагаючыся адзін да аднаго не набліжацца – Юры Радзівіл Геркулес і Альбрыхт Гаштольд з сынам Станіславам. Побач з каралевай, за спінкай яе крэсла – Вечны Інквізітар, вядомы пры польскім каралеўскім двары як далёкі сваяк каралевы Луіджы Сфорца.

Кароль аб’яўляе:

– Я не хачу больш чуць скаргі яе вялікасці. Гарадзенскае староства перадаю ёй.

Бона хавае пераможную ўмешку. Гаштольд таксама зласліва крывіцца.

Раптам дзверы расчыняюцца. У пакой, ганарыста закінуўшы галаву і спрабуючы паводзіцца ўпэўнена, заходзіць малады каралевіч – Жыгімонт Аўгуст. Ён хоча сесці ў вольнае крэсла.

Бона звяртаецца да сына мякка, але за гэтай мяккасцю – сталь.

– Ваша высокасць, мой сын, вы яшчэ занадта юны для такіх сумных размоў, што тут вядуцца. Не напружвайце сваё слабое здароўе.

Каралевіч чырванее ад гневу і ўсведамлення сваёй бездапаможнасці.

– Але я...

Бона перабівае сына:

– Вы яшчэ паспееце ўзваліць на сябе цяжар дзяржаўных клопатаў, а пакуль даверце іх несці сваім бацькам.

Аўгуст кідае запытальны позірк на бацьку, але кароль толькі хмурыцца і паказвае жэстам, каб каралевіч сыходзіў. Жыгімонт Аўгуст, угневаны і прыніжаны, устае, спрабуе годна трымацца, калі выходзіць з залы.

Радзівіл Геркулес ступае наперад:

– Ваша вялікасць, дазвольце нагадаць, што гарадзенскае староства мне дасталося ва ўзнагароду за перамогу над тэўтонцамі, здабытую дарагой цаной!

Кароль, хаваючы няёмкасць, кідае хуткі позірк на каралеву.

– Такая каралеўская воля.

Радзівіл Геркулес не стрымлівае дзёрзкіх слоў:

– Несправядлівая воля, ваша мосць!

Альбрэхт Гаштольд таксама ступае наперад:

– Дазвольце напомніць, пан Юры, што калі пасада канцлера мусіла стацца ўзнагародай маім подзвігам, ваш брат Мікалай навёў на мяне паклёп, я паўтары гады адседзеў у вязніцы за здраду, якой не ўчыняў... Вы нічога не скажаце пра гэтую несправядлівасць?

Бона задаволена назірае, як пачынаецца чарговая звада паміж магнатамі.

Жыгімонт Стары ўскідваецца рашуча:

– Хопіць! Мне надакучыла варажнеча паміж першымі асобамі майго каралеўства! Я хачу мець надзейную зброю, а не тую, што ў любы момант выслізвае з рукі, каб нанесці ўдар самой сабе. Час аб'яднаць роды. У цябе, Юры, дзве дачкі. Абедзве, здаецца, дасягнулі шлюбнага ўзросту. Адна стане жонкай твайго сына, Альбрэхт...

Гаштольд і яго сын Станіслаў абураныя.

– Другую дачку аддасі за сына яго мосці гетмана Астрожскага. Я сам яму паведамлю.

Бона выглядае ўзрушанай гэтай навіной – муж праявіў сваволю.

– Ваша мосць, ці не стане гэта паспешлівым крокам?

Кароль адказвае з націскам:

– Такая мая воля. Усё. Аўдыенцыя закончана.

Да раззлаванай Боны схіляецца Вечны Інквізітар, нешта шэпча ёй на вуха. Магнаты не наважваюцца спрачацца, па чарзе падыходзяць да манархаў, кланяюцца, развітваючыся. Юры Геркулес таксама схіляецца перад Бонай.

Бона ціха гаворыць яму:

– Я нічога не забываю, ваша мосць. Я пастараюся, каб з вамі абышліся па справядлівасці.

Жыгімонт Аўгуст падыходзіць да сваіх сяброў, Рудога і Чорнага, якія чакаюць яго ля вакна каралеўскага палаца.

Руды не вытрымлівае:

– Ну, што?

Жыгімонт Аўгуст намагаецца падацца спакойным.

– Прагнала.

Чорны асцярожна заўважае:

– Ваша высокасць заслугоўвае большай увагі з боку каралевы-маці.

Абурэнне каралевіча выплёхваецца:

– Ды лепш бы яе не было зусім, той увагі! Жыву, як заціснуты між двума шкельцамі... Таго няможна, гэтага няможна, вы яшчэ юны...

Руды кладзе руку на плячо сябра.

– Плюнь, Аўгуст! Паехалі лепш у Белавежу. На паляванне! Памятаеш, як у карчомцы посуд білі...

Маладыя людзі дружна рагочуць.

Каралевіч змрачнее.

– Калі адпусціць. Яна супраць, каб я быў з вамі. Але я мужчына! Пайшлі адсюль.

У палацы Радзівілаў працягваецца пір з нагоды заручын сясцёр Радзівілянак. Ганна азіраецца: побач з Вечным Інквізітарам сядзіць малады Станіслаў Гаштольд. Яго прыгожы нервовы твар выказвае грэблівасць, у бок Ганны ён пазірае з сапраўднай агідай. Станіслаў нічога не есць і не п’е, пакуль ягоныя прыбліжаныя не пакашуюць. Час ад часу Луіджы Сфорца штосьь шэпча яму на вуха, Станіслаў паглядае на Ганну з яшчэ большай грэблівасцю.

Барбара азіраецца на свайго жаніха – Іллю Астрожскага. Той сядзіць панылы, ні на каго не глядзіць.

Маршалак застолля Станіслаў Давойна ўстае:

– Ушануйма ж старым звычаем слаўных продкаў! Няхай прап’юць нявесты чары са сваймі жаніхамі! Віват!

Госці падхопліваюць “Віват!” Пад суровым позіркам Геркулеса Ганна і Барбара выходзяць на сярэдзіну залы.

Давойна ўрачыста аб’яўляе:

– Іх вяльможныя мосці пан Станіслаў Гаштольд і гетманаўна Ганна Радзівілянка!

Да Ганны падыходзіць Станіслаў Гаштольд. Падае кубак з віном. Дзяўчына злёгку дакранаецца вуснамі і аддае жаніху. Яе галава горда прыўзнятая, вочы паглядаюць ганарыста. Станіслаў адпівае і незаўважна для гасцей, але заўважна для нявесты, дэманстратыўна выплёўвае адпітае назад. Віно, як кроў, на ягоных грэблівых вуснах. Ён відавочна ўгневаны непакорлівым выглядам нявесты.

Маршалак робіць наступную абвестку:

– Ягоная мосць яснавяльможны пан Ілля Астрожскі, намеснік браслаўскі і вінніцкі, і ягоная мосць гетманаўна Барбара Радзівілянка!

Барбара выходзіць наперад, пераадольвае збянтэжанасць, ганарыста ўздымае галаву. Выкрыкі ў зале: “Пекната!”, “Анёл! Чыста анёл!”, “А што будзе, як гэта ружа расквітнее!”

Барбара і Ілля Астрожскі выконваюць цырымонію без асаблівай ахвоты, не гледзячы адно на аднаго, але пакорліва.

Твар Міхала, які стаіць у куце разам з іншымі дробнымі прыдворнымі, не запрошанымі за стол, выказвае пакуту.

Пакой лекара. Магнус перадае Вараксу бутэлечку з празрыстай вадкасцю.

– Удасканалены рэагент... Як толькі заўважыш, што Луіджы Сфорца ці ягоныя слугі штосьці дзесь пакінулі, да чагось датыкаліся – правярай.

Варакса хавае бутэлечку за пазуху.

– Не хвалюйцеся, настаўнік! Не спушчу з гадзюкі вачэй.

Позні вечар. Знерваваная Ганна хуткім крокам ідзе па знаёмай сцежцы сада, да эолавай арфы. За ёй спяшаюцца Зоська і Магдаленка, не вельмі задаволеныя тым, што змушаныя сысці з балю. Азіраюцца, перашэптваюцца.

Магдаленка абураецца:

– Лепш засталіся б, патанчылі...

– А ты бачыў, як жаніх на нашу панну зыркае? Я б пабаялася яму руку падаць.

Прывіднае святло паходняў пераўтварае сад у чароўны, але трывожны, свет. З боку палаца чуваць шум застолля. Выкрыкі, нават стрэлы, музыка...

Раптам з кустоў на дзяўчат кідаюцца некалькі чалавек у шляхецкіх вопратках. Прыслужніцы ўцякаюць. Ганну моцна ўхапіў яе жаніх, Станіслаў Гаштольд.

– Не вельмі ветліва ўцякаць з уласных заручын, вам не здаецца, ваша мосць?

Ганна вырываецца, ён амаль удаецца гэта, але Гаштольду дапамагае адзін з ягоных сяброў.

– Вось сучка шалёная, ваша мосць... Дужая...

Дзяўчына дарэмна тузаецца ў руках шляхціцаў са світы Гаштольда.

– Гэта вы ашалелі! Што вы сабе дазваляеце?

Станіслаў невясёла ўсміхаецца.

– Тое, што можа дазволіць жаніх, мая красунька. А жаніх мае права не быць зганьбаваным. Жаніх мае права да вяселля праверыць цнатлівасць сваёй нявесты. Асабліва калі ёсць сумнівы.

Сябры Гаштольда з цяжкасцю стрымліваюць Ганну, якая працягвае вырывацца.

– Праўду кажа італьянец – дасведчаная кабета, а не дзеўка...

Чуваць гучнае насмешнае крумканне варон.

Ганна адчайна крычыць:

– Мой бацька вас заб'е!

Станіслаў Гаштольд паблажліва паціскае плячыма.

– За што? Мы нічога супраць звычаяў не робім! Вось і сведкі ёсць нашага шлюбнага ложка... А вось і ложак...

Валачэ Ганну да лаўкі ля эолавай арфы. Ганна крычыць, але што яе крыкі на фоне шляхецкай гульбы і страляніны! Гаштольд разрывае на ёй сукенку, задзірае спадніцу...

І адпраўляецца ў палёт у кусты, падкінуты штуршком неверагоднай сілы. Гэта Міхал Рашчынскі. Ён – адзін, але незвычайна дужы і незвычайна ўгневаны. Раскідвае нападнікаў, як мядзведзь – шчанюкоў.

Жаніх выхоплівае шаблю:

– Ты пасмеў падняць руку на Гаштольда! Скуру злуплю!

Міхал, страшны ў сваёй сіле і ўменні ёю карыстацца, ухіляецца ад зброі княжыча і выбівае ў яго зброю. Прыкладвае поўхай так, што Станіслаў Гаштольд валіцца і замаўкае. Міхал лёгка падхоплівае Ганну, якая трасецца ад рыданняў, на рукі і хуткім крокам рушыць у бок палаца.

Пасланнік каралевы прыадхінае цяжкія парцьеры, глядзіць, як Міхал нясе прыкрытую ягоным плашчом князёўну. Насмешна гмыкае.

Устрывожаны Варакса пaглядае на Магнуса, які ўсхвалявана ходзіць па пакоі.

– Вось што я скажу, мой вучань... Нікому не прызнавайся, быццам нешта ведаеш пра падзеі гэтай ночы... Калі хочаш жыць. Каму трэба – усё ведаюць... У Луіджы Сфорца шпегі... Мікалай Чорны таксама прыродную здольнасць мае да інтрыгаў. Радуйся, што цябе з тваймі масянжовымі вушамі ды крэслам-павуком лічаць за дурнячка. Не спяшайся падацца разумным. Маўчы. Калі што – бяжы да мяне.

Юрый Радзівіл Геркулес вельмі ўгневаны, ён ходзіць туды-сюды перад Ганнай, якая захінае на грудзях парваную сукенку і ўсё яшчэ ўсхліпвае. Яе твар і рукі – у барвовых плямах і драпінах.

– Заручыны разарваць – з каралём пасварыцца. Рашчынскага не пакараць – Гаштольд у суд пацягне... Зняславіць. Гэх... Шылахвостка ты... Чаго пацягнулася сярод ночы ў сад, дзе поўна п’яных бэйбусаў?

Ганна, нібыта не даючы веры пачутаму, глядзіць на бацьку.

– Няўжо пасля такога... ты змусіш мяне пашлюбавацца з гэтым мярзотнікам?

Голас Радзівіла Геркулеса гучыць жорстка.

– Вось калі пасля такога ён на табе не жэніцца – табе ў кляштар толькі застаецца ісці.

У пакой уваходзіць Мікалай Радзівіл Чорны.

– Перагаварыў... Уладзіў...

Радзівіл Геркулес нецярпліва паварочваецца да пляменніка:

– Ну? Якія ўмовы?

– Пра тое, што адбылося насамрэч, усе пагадзіліся маўчаць. Мы не падаем у суд за гвалт над нявестай. Гаштольды не падаюць у суд за скалечанне адзінага спадчынніка. Заручыны захоўваюцца. Пасланец каралевы, дарэчы, ужо распытваў... Але мае людзі сказалі ўсё, як трэба. Ганны ў садзе не было. П’яны афіцэр Міхал Рашчынскі без прычыны напаў на князя Станіслава Гаштольда. За што будзе сурова пакараны. Горлам.

Ганна ўздыхае ад жаху.

– Ён жа абараніў мяне... Не даў згвалціць...

Мікалай Чорны сурова глядзіць на сястру.

– Думаю, ён гатовы і аддаць жыццё за гонар сваіх гаспадароў. Такая ўмова.

Геркулес ківае.

– Мы добра аддзячым сваякам за ягоную вернасць.

Ганна з горыччу прагаворвае:

– У яго нікога няма... Але што – нам... Мы – Радзівілы... Пан брат, вядома, забыўся, што Міхал выратаваў яму жыццё.

Чорны не апускае позірк.

– Я ніколі нічога не забываюся, сястра. І ніколі не кідаю справу на паўдарозе.

Ганна нервова ходзіць па пакоі. Барбара з жахам пaглядае на яе здрапаныя рукі, збіты твар.

– А што пані маці?

Ганна з горыччу смяецца.

– Налаялася. Мушу ладзіць з жаніхом. Прыгразіла – калі ўздумаю заступацца за Міхала ды апавядаць пра гвалт – зараз жа адправяць у кляштар.

Барбара ціха і трохі вінавата кажа:

– Астрожскі добры. Падарыў мне пярсцёнак.

Ганна ласкава ўсміхаецца Барбары.

– Ты прыгажэйшая за мяне, сястра. Ты сапраўды – як анёл... Цябе немагчыма не любіць.

Барбара кідаецца да Ганны, абдымае:

– Цябе таксама палюбяць... Гаштольд зразумее...

Ганна нервова смяецца.

– Ён ніколі не перастане мяне ненавідзець. А я ніколі не дарую яму. І з-за сябе, і што з-за яго загіне Міхал... А я нават развітацца не магу...

Вызваляецца ад абдоймаў сястры, рашуча прыкусвае губу.

– Чаму ж не... Ніхто не перашкодзіць мне развітацца з тым, хто аддасць за мяне жыццё.

Кідаецца да куфра, дастае плашч.

Барбара ў жаху шэпча:

– Ты шалёная!

Ганна захутваецца ў аксамітную накідку з каптуром.

– Што мне губляць? Мой жаніх ужо назваў мяне шалёнай. І да таго ж самадайкай.

Зачэрпвае з куфэрка пярсцёнкі. Выслізвае за дзверы, апусціўшы капюшон плашча. Барбара ў жаху апускаецца на калені і пачынае маліцца.

Спрацаваныя пальцы гайдука Сымона Жуха задумліва круцяць пярсцёнак.

– Як загадае ваша княская мосць. Богаўгодная справа – развітацца з асуджаным... Што ж, няхай небараку Міхалу будзе суцяшэнне апошняе. Добра, што бацька ягоны не дажыў...

Ганна аддае яму яшчэ адзін пярсцёнак.

– Нікому не гаварыце.

Сымон Жух незадаволена хмурыцца і не бярэ пярсцёнак.

– Не першы год служу вашым княскім мосцям. Але толькі дзеля няшчаснага Міхала... Пойдземце, ваша княская мосць.

Поўня свеціць праз краты. Ляскаюць засаўкі. Хтосьці ўваходзіць у камеру. Дзверы за ім адразу зачыняюцца. Міхал уздымаецца.

– Хто тут?

Голас яго ўздрыгвае – ён не можа не пазнаць сваю даму нават у прыцемку.

– Навошта, Ваша мосць? Небяспечна...

Ганна адказвае з горкай насмешкай.

– Небяспечна... Ты ведаеш, што цябе задумалі караць горлам?

Міхал, памаўчаўшы, гаворыць амаль мройна.

– Рыцар і смерць... Едуць яны на адным кані, вечна. Памятаеце, у дзяцінстве мы разглядалі малюнак у старой кнізе?

Ганна ў адчаі сціскае рукі.

– Я нічога не магу змяніць...

– Вы прыйшлі. Гэта бясконца многа. Запэўніваю, буду маўчаць пра тое, што адбылося ў садзе.

Дзяўчына скаланаецца.

– Я не для таго... Слухай... Я не належу сабе. Я – маёмасць роду. Але так не будзе.

Рашуча скідае з сябе накідку. Набліжаецца да Міхала. Кладзе руку яму на грудзі.

– Ты бачыў, якая чакае мяне шлюбная ноч. Не хачу, каб ён... Гаштольд... быў маім першым. Не хачу ніколі не даведацца, як гэта – калі цябе кахаюць.

Міхал адхінаецца.

– Пра што вы...

– Пра тое, што сваім сэрцам і сваім гонарам я хачу распарадзіцца сама.

Ганна зноў дакранаецца да Міхала. Той затрымлівае яе руку.

– А да мяне прыйшлі таму, што нябожчык ужо нічога не раскажа?

Ганна пачынае гаварыць усё больш ціха, яе словы нагадваюць заклён.

– Таму, што бачыла ўсе твае позіркі, на якія не адказвала. Чула біццё твайго сэрца... Ты ведаеш, што калі набліжаўся да мяне, тваё сэрца так калацілася, што я магла чуць яго паскораны крок?

Прыкладае руку да сэрца Міхала, намацвае пад кашуляй штосьці цвёрдае, выцягвае – гэта залатое пёрка на ланцугу.

– Таму што смерць дае волю. Пазбаўляе фальшывай пазалоты.

Праводзіць пальцам па шчацэ Міхала.

– Таму што гэта ноч волі. Тваёй і маёй. Апошняя. Адзіная.

Прапускае між пальцаў пасмы густых валасоў Міхала.

– Скажы, што пра гэта не марыў.

Міхал, пераадольваючы сябе, з пакутай адказвае:

– Не скажу. Вышэй маіх сіл... Саладзей маіх сноў... Прабач, Госпадзе...

Прыцiскае да сябе Ганну. Вусны дваіх зліваюцца ў пацалунку. Міхал і Ганна апускаюцца на падлогу.

У месяцовым святле, якое прабіваецца скрозь краты, двое кахаюць адно аднаго. Як у апошні раз. Дзесь іграе дзівосныя мелодыі эолава арфа.

Мікалай Чорны глядзіць у вакно, як ягоная сястра, захутаная ў плашч, вяртаецца хуткім крокам у свой пакой.

– Што ж ты нарабіла, сястра...

Вечны Інквізітар перастрэў Магнуса ў калідоры палаца Радзівілаў.

– А я ўжо думаў, з’еду, не развітаўшыся са сваім старым знаёмцам. Тваё цела яшчэ захоўвае неверагодную моц, Якаб Магнус. Пасля ўсіх маіх высілкаў ты працягваеш паганіць сваёй прысутнасцю Божы свет.

Магнус цвёрда глядзіць на ворага.

– Свет паганяць такія, як вы, ваша мосць. Колькі бязвіннай крыві на вашых руках?

– Толькі гнілая кроў грэшнікаў. Такіх, як гаспадары гэтага замка.

Вочы Магнуса ўспыхваюць гневам.

– Я не дам вам іх звесці са свету, як у Фларэнцыі звялі род Манучыні.

Вечны Інквізітар здзекліва ўсміхаецца.

– А, ты ўсё яшчэ памятаеш вядзьмарку Лаўру?

– Не пэцкайце яе імя сваім паганым ротам.

Луіджы Сфорца рады, што змог дастаць у лекара да жывога.

– Пэцкаюць імёны ўчынкі... А колькі ўсяго цікавага адбудзецца ў хуткім часе тут, Магнус! Буду сачыць за падзеямі, як у тэатры з уласнай ложы...

Магнус здзекліва кідае:

– Шкада, я не прысутнічаў у тым тэатры, калі ваша мосць за словы паклёпу супраць Радзівілаў выяўляла з сябе сабаку.

Вечны Інквізітар бялее пры згадцы пра ганьбу, якую давялося зведаць, калі яго змусілі гаўкаць па-сабачы за недаказанае абвінавачванне. Зразумела, што не забудзе і не даруе.

У сваім пакойчыку ў палацы Радзівілаў Варакса зноў працуе над хітрым механізмам крэсла-павука.

Дэталі час ад часу падаюць, Варакса незадаволена лаецца.

Забягае Магдаленка.

– Варакса, для яе мосці Ганны патрэбны адвар ад нястрававання.

Варакса не адрывае вачэй ад сваёй працы.

– Добра, зраблю...

Магдаленка не спяшаецца сыходзіць.

– А бялілы і чырванілы для мяне? Ну, Варакса, ты ж абяцаў...

Варакса гэтак жа заняты працай.

– Будзе час...

– Ну, Варакса... Ну калі ласачка...

Магдаленка цмокае хлапца ў шчаку. Той так здзіўляецца, што перапыняе працу.

– Зробіш? Ну што табе варта?

Варакса хавае збянтэжаннасць, зноў бярэцца за механізм.

– Заўтра прыходзь

Магдаленка какетліва пазірае:

– Прыбягу!

Калі яна сыходзіць, Варакса ў разгубленасці кранае пальцам месца, куды Магдаленка яго пацалавала. Злёгку мройна ўсміхаецца. Потым ягоны твар змрачнее.

– Ад нястрававання, значыць... Трэба настаўніку сказаць...

У пакоі Радзівіл Геркулес, Ганна і Мікалай Радзівіл Чорны.

Чорны аб'яўляе:

– Не скажу, што гэта далося мне лёгка, два месяцы перагавораў... Але... Як ні дзіўна, паспрыяў Луіджы Сфорца. Станіслаў Гаштольд нарэшце пагадзіўся прабачыць Рашчынскага. З умовай, што той будзе біты ля ганебнага слупа і адпраўлены служыць як далей.

Ганна ледзь стрымлівае крык радасці.

Геркулес задаволена ківае:

– Што ж, справядліва – захаваць жыццё такому слаўнаму вою... Ачуняе пасля пакарання – адправіць у войска ў Лівонію. Соцкім.

Князь кідае сярдзіты позірк на Ганну.

– А ты бяры прыклад з сястры. Маліся, менш на людзях бывай.

Ганна горача просіць:

– Ваша мосць, а дазвольце мне з'ехаць у кляштар да вяселля.

Геркулес пагаджаецца:

– Добрая думка. Хай сунімуцца плёткі.

Сымон Жух б'е пугай прывязанага да слупа Міхала Рашчынскага.

– А я ж казаў табе... Падалей ад паноў... Не давядзе да дабра... сяброўства з магнатамі... І з магнаткамі асабліва...

З-за кустоў, як калісь у дзяцінстве, назірае за экзекуцыяй Ганна. Адна яе рука прыціснутая да жывата.

Пакой лекара. Магнус зноў мажа зраненую спіну Міхалу. На гэты раз Міхал скалечаны нашмат сур'ёзней.

– Цяпер будзеш ляжаць тыдзень.

– Не, мне трэба...

– Калі б ты лепей адрозніваў, што табе трэба, а што ты можаш сабе дазволіць, ты б не ляжаў тут. Як пачуваецца князёўна Ганна?

Міхал спрабуе ўзняцца, але са здушаным стогнам болю падае на ложак.

– Чаму вы пытаецеся...

Магнус змрочны.

– У яе нестрававанне. Нічога падазронага. Няхай. А што вы будзеце рабіць праз некалькі месяцаў? Чым ты ўвогуле думаў, хлопча?

Міхал разумее, што лекар усё ведае, глуха гаворыць.

– Я думаў, што мушу памерці... Я гатовы дзеля яе...

Магнус сумна перапыняе.

– Ведаю, ведаю... Я сам у свой час зрабіў падобнае глупства. Яна была высокага роду, а я ўсяго толькі малады доктар... Я паддаўся спакусе – і вось ужо дваццаць гадоў жыву на чужыне, на ўскрайку чужога гнязда. А яна... загінула. Я дапамагу вам.

Міхал зноў робіць спробу ўстаць.

– Я вечна буду маліцца за вас...

У садзе ля эолавай арфы. Да Ганны падыходзіць Міхал. Абдымкі, пацалункі... Князёўна шэпча:

– Ты скора ў войска... А заўтра я з'язджаю...У манастыры лягчэй будзе схаваць... тое, што здарыцца ў сакавіку.

Міхал шэпча:

– Магнус нам дапаможа. Вер яму. А я ніколі не пакіну цябе і дзіця... Вярнуся нават з пекла...

Эолава арфа плача.

Кракаў. Каралеўскі палац. Перад каралевай Бонай схіляецца Вечны Інквізітар.

– Яны ніколі не аб'яднаюцца. Гаштольды, Астрожскія і Радзівілы. Вашы ворагі працягваюць знішчаць адно аднаго. Вяселлі адкладзеныя.

Бона прыжмурвае вочы.

– Не супакоюся, пакуль не знікне апошні атожылак праклятага роду Радзівілаў.

У пакой заходзіць Жыгімонт Аўгуст.

– Ваша вялікасць, я хачу з'ездзіць на паляванне ў Белавежскую пушчу.

Бона ласкава, але цвёрда кажа:

– Вы яшчэ не ачунялі ад апошняй застуды, мой сын. А Радзівілы – не самая лепшая кампанія для вас.

Жыгімонт Аўгуст угневаны, аднак не наважваецца пярэчыць, кланяецца і сыходзіць.

Кляштар пад Гародняй. Цёмны пакой у сутарэннях.

Ганна нараджае. Ёй дапамагае Магнус. Барбара сядзіць побач з ложкам, трымае сястру за руку. Ганна заціскае рот хусткаю, каб не крычаць.

Нарэшце нараджаецца дзяўчынка. Яе адразу ж укладваюць у кошык, Магнус выносіць дзіця з пакоя.

Барбара жагнаецца.

– Слава Госпаду... Цяпер можна забыцца на гэты жах. Вярнуцца ў Нясвіж. Зрабіць выгляд, што нічога не было...

Знясіленая Ганна знаходзіць позіркам сястру.

– Няўжо ты... думаеш... што я забудуся на сваё дзіця, сястра?

Барбара ў адчаі:

– Ты шалёная!

Лівонія. Поле. Відаць, толькі што тут завершылася крывавая сеча. Ляжаць забітыя, чуваць адчайныя крыкі нейкай жанчыны. Стамлёны Міхал прысеў спінай да дрэва, кладзе побач меч. Дастае беражліва з-за пазухі ліст. Перачытвае, цалуе... На яго твары мройная ўсмешка.

Пакой лекара Магнуса ў замку Радзівілаў. Ганна Радзівіл стаіць, аголеная да пояса. Магнус моцна перацягвае палатном яе грудзі. Ганна моршчыцца.

– Як бы я хацела сама карміць сваё дзіця...

Магнус заканчвае працу.

– Яшчэ тыдзень, і малако знікне. Будзеце піць адвар, які прынясе Варакса.

Мікалай Радзівіл Чорны страляе з арбалета па мішэнях. Хоць меч ён трымае слаба, аднак у стральбе досыць трапны. Збаны з намаляванымі на іх смешнымі тварамі разлятаюцца адзін за адным. Каля Радзівіла стаіць на каленях Магдаленка.

– Ваша мосць, я праўда нічога не ведаю... Іх мосці Ганна і Барбара не ўзялі мяне з сабою манастыр. Яе мосць Ганна больш не давярае мне...

Мікалай Чорны зноў прыцэльваецца, страляе.

– А шпег каралевы табе давярае, значыць? Хіба не ты ўзяла ў яго ўчора ў карчме дваццаць залатых дынарыяў?

Магдаленка з жахам заломвае рукі.

– Ваша мосць, не пагубіце! Я бедная дзяўчына, сірата! Як я магла адмовіць пасланніку каралевы!..

– Будзеш дакладаць Сфорца толькі тое, што я табе кажу. Ясна?

Чорны ўмее кіраваць людзьмі, ад яго сапраўды сыходзіць небяспека. Магдаленка гэта адчувае, і аж трасецца ад жаху перад гэтым маладым, не дужа моцным чалавекам з пільным позіркам.

– Слухаюся, ваша мосць...

– Расказвай пра Ганну... Будзеш ілгаць – адразу зразумею.

Страляе ў мішэнь, Магдаленка ўздрыгвае.

– Княжна моцна змянілася...

У пакоі двух дачок гаспадара замка, Юрыя Радзівіла па мянушцы Геркулес, цёмна і ціха. Дрогкае святло свечкі. Даносіцца шум балявання, п’яныя выкрыкі, музыка. Старэйшая сястра, Ганна Радзівіл, сядзіць на ложку, схілілася над маленькім дзіцём, якое спіць. Барбара сядзіць ля дзвярэй на крэсле, уся напятая.

Ганна шэпча дзіцяці:

– Яшчэ хвілечку... Яшчэ праменьчык святла... Зорачка мая...

Барбара пагойдваецца ў крэсле, мармыча:

– Ты шалёная. Ты шалёная. Ты шалёная...

Ганна працягвае шаптаць:

– Не слухай цётку. Цётка добрая. Яна цябе лю-біць... Лю-біць...

Барбара нервова рэагуе:

– Нашу маленькую смерць? Любіць? Ты шалёная.

Дзіця ўскрыквае праз сон. Ганна нахіляецца ніжэй, Барбара скаланаецца.

– Тс-ссс... Люлі... Люлі... Прылятуць гулі... Прынясуць штосьці... Для маленькай Зоські...

Паварочваецца да Барбары.

– Не тузайся так. Міхал даў ёй макавы адвар.

Унізе крычаць асабліва гучна. Да крыкаў і музыкі далучаецца спрадвечная мова зброі.

Барбара ўскоквае, прыкладаецца вухам да дзвярэй.

– Сіл няма... Колькі я дапамагала табе хавацца з тваімі любошчамі... Пану бацьку маніла... Маці... Братам... Чула, ад цябе зноў жаніх адмовіцца хоча.

Ганна не адрываецца ад дзіцяці.

– Мне ўсё адно... Праўда, зорачка?

Барбара нервуецца.

– Табе ўсё адно – за сваім ляснічым свету не бачыш... А я гінуць не хачу. Не хачу! Ні ў кляштар, ні за драбязу якую выходзіць...

Ганна звяртаецца да соннага дзіцяці.

– Не слухай цётку, твой татусь – не ляснічы, ён рыцар. Ён проста родам з Белавежскай пушчы. Ваяр.

Барбара насмешна кідае:

– Слуга.

Ганна з’едліва адказвае, працягваючы размову з дзіцём:

– А цётачка ў нас будзе каралевай. Не менш. Паглядзім, што з ёй станецца, калі пакахае. Калі з’явяцца ў самой дзеткі...

Барбара пагардліва кідае:

– У шлюбе. Не бастарды.

Чуецца ціхі ўмоўны стук у дзверы. Барбара, спяшаючыся, адчыняе засаўкі. Азіраючыся, уваходзіць высокі плячысты шляхціц, Міхал.

– Ганусю, час...

Ганна асцярожна падае яму дзіця, Міхал цалуе і моцна абдымае іх абодвух... На нейкі час яны застываюць. Барбара глядзіць на іх з зайздрасцю. Міхал і Ганна асцярожна ўкладваюць дзіця ў кошык з накрыўкай.

– Яна прачынаецца... Хутчэй...

Міхал хавае кошык пад плашчом, выходзіць... Але адразу ж бегма вяртаецца. На калідоры шум, па каменнай падлозе гулка стукаюць абцасы некалькіх чалавек. Сёстры хаваюць Міхала ў цяжкую шафу, падобную да маленькага палаца. Мужчына прытульвае да сябе дзіця, якое пачало круціцца і хныкаць.

Дзверы з грукатам расчыняюцца. Першым уваходзіць Юрый Радзівіл Геркулес, за ім – Мікалай Радзівіл Руды і Мікалай Радзівіл Чорны. Геркулес угневаны. Ягоны сын раззлаваны яшчэ больш. Мікалай Чорны захоўвае раўнавагу, аглядае ўсё пільным позіркам.

Геркулес звяртаецца да дачок:

– Віншую, пустадомкі. Абедзве атрымалі гарбуза.

Ганна і Барбара недаўменна сустракаюцца поглядамі.

– У мяне толькі што быў Ілля Астрожскі. Патрабуе скасаваць заручыны з табой, Барбара.

Барбара гнеўна прыкусвае губу. Мікалай Руды таксама ўгневаны:

– Ганьба на ім, не на нас! Закахаўся ў пазашлюбную дачку караля – от жа вартая падстава! Сястра ні ў чым не вінаватая!

Радзівіл Геркулес раздражнёна гмыкае.

– Яно б і так, каб учора не атрымаў пасланне ад праклятага Гаштольда – патрабуе разарваць заручыны свайго сына з Ганнай. За яе непрыстойныя паводзіны.

Шпурляе на падлогу скамечаны ліст і стамлёна ўсаджваецца ў крэсла.

– Піша, што ты нагуляла дзіця.

Ганна спрабуе схаваць жах.

– Паклёп.

Мікалай Руды горача пацверджвае:

– Вядома, паклёп. Выклікаць на двубой... Слізкія, сквапныя Гаштольды... Не разумею, як ты мог сябраваць з імі, Мікалай?

Пільны позірк Мікалая Чорнага між тым слізгае па пакоі, спыняецца на карункавым дзіцячым каптурыку, які выглядае з-пад ложка. Барбара заўважае, куды скіраваны позірк стрыечнага брата, жахаецца... Мікалай шматзначна ўсміхаецца і адводзіць погляд.

– З вашага дазволу, ваша мосць дзядзечка, пан-брат і мае шаноўныя сёстры, выйсця няма толькі тады, калі ты заўважыў, што з тваіх грудзей паказваецца лязо варожага мяча, загнанага ў спіну. Думаю, шлях ёсць... Кароль па-ранейшаму да нас міласэрны...

Геркулес выбухае гневам:

– Каб не гэтая клятая італьянка! Без каралевы не абыйшлося! Мала патруціла Радзівілаў! Няшчасная сястра мая з дзецьмі, княгіня Мазавецкая, твой, Мікалай, бацька, брат мой Ян, светлай памяці... Усіх звяла ў магілу Боначка, каб ёй мячом павячэраць...

Чорны астуджае дзядзьку:

– Атрута і меч – апошняе, да чаго трэба звяртацца. Я сам бяруся перагаварыць з каралём...

З шафы даносіцца нейкія гукі. Ганна і Барбара кідаюць у той бок трывожныя позіркі, Мікалай Чорны таксама паварочваецца, каб зірнуць на шафу.

Між тым Міхал спрабуе не даць дзіцяці закрычаць, усё шчыльней прытуляе да сябе...

Чорны асцярожна разважае:

– Магу прапанаваць такі ход... Раз Станіслаў Гаштольд не хоча жаніцца з Ганнай з-за нейкай... надуманай... прычыны, няхай пашлюбіцца з Барбарай. А Іллі Астрожскаму прапанаваць Ганну. Усё адно каралева ніколі не дазволіць яму ажаніцца з Беатай Касцялецкай. У жылах той каралеўская кроў, а раптам нашчадкі будуць на трон прэтэндаваць? Самі ведаеце, як Бона Сфорца пільнуе сваю ўладу. Яшчэ пагрозы няма – а яна выпраўляе кагось на той свет. Так што прыціснуць Астрожскага... Нікуды не дзенецца.

Геркулес глядзіць на дачок.

– Можа, і выгарыць...

Ганна з горыччу вымаўляе:

– Нас, вядома, ніхто не пытаецца?

Чорны ціха адказвае:

– Ну, мы ж не дапытваемся, наколькі праўдзівыя плёткі пра цябе, дарагая сястрыца.

Кідае шматзначны позірк на дзіцячы каптурык. Ганна бялее. У шафе зноў штось шаргоча.

Руды сціскае кулакі.

– Усё-ткі гэта несумленна... Мяняцца нявестамі... Як жупанамі. Толькі ардалія! Божы суд! Біцца, пакуль хтось не паваліцца!

Чорны павучальна гаворыць:

– Гасподзь не любіць, калі праліваюць кроў, у той час як дастаткова праліць словы. І вы, дзядзечка, каб у маладосці адказалі на схільнасць італьянкі, не адпрэчылі яе...

Геркулес бліскае вачыма, усё яшчэ сінімі, як вечаровае неба.

– Язык прытрымай, пляменнік! От парода... Увесь у Яна ты, Мікалай... Той таксама хітрыў, з ворагамі сябраваў... Але добра, няхай будзе па-твойму.

Падыходзіць да дачок, кожную абдымае, цалуе ў лоб. Ганна ўсё больш нервуецца.

– Нічога... Мы – Радзівілы! Мы – сіла!

Мужчыны выходзяць з пакоя. Мікалай Чорны ідзе апошнім, азіраецца, ківае Ганне. Барбара кідаецца зачыняць дзверы.

– Ён ведае... Чорны заўсёды ўсё ведае...

Ганна імкліва тузае дзверцы шафы.

Міхал сядзіць нерухома, глядзіць перад сабой поўнымі жаху вачыма, нібыта ў нікуды. Яго рука па-ранейшаму захінае твар дзіцяці. Міхал прыбірае руку, галава дзіцяці бязвольна абвісае.

Сад ля палаца Радзівілаў. Восень. Дрэвы неахвотна губляюць лісце. Пад старой ліпай жанчына ў багатай сукенцы ніцма ляжыць на апалым лісці, абдымаючы грудок зямлі. Побач стаіць маладая дзяўчына, гожая, з рахманым выразам твару. Яна спалохана азіраецца.

– Ганна, час ісці... Госці збіраюцца... Мне не паспеюць надзець вясельны ўбор... І так хапае розгаласу – малодшая сястра ідзе да алтара раней за старэйшую. Прашу цябе, пойдзем... І ўсміхайся, усміхайся... Нібыта ты за мяне рада.

Жанчына цяжка ўздымаецца, абтрасае спадніцу, выцірае твар тонкай рукой.

– Няхай хаця б табе пашчасціць, сястрыца. Хай ніколі не будзе ў тваім жыцці такой магілы. На якой нельга напісаць нават сапраўднае імя.

Здымае з сябе срэбны медальён на ланцужку – залаты арол блішчыць у промнях восеньскага няпэўнага сонца, – становіцца на калені і закопвае ўпрыгожванне ў зямлю.

– Няма шчасця пад залатымі кры́ламі, Барбара.

У сінім восеньскім небе ціха кружляюць груганы.

*Ліпень-жнівень 2018, Готланд.*



паэзія

Ігар Сідарук



...Сэрца не верыць –
ні ў боль, ні ў расстанне...

# Я думаў, ты верасень чысты...

*Вершы – прысвячаюцца. Трымценню агню, які не згасае. Шолаху траў, што сцелюцца пад нагамі. Няспешнай лістоце, якая кружляе, якая ліецца золатам. Мігатлівым зоркам. Жанчыне. У якой ёсць душа, у якой ёсць імя.*

*І якой даравана наталіцца, якая даруе натхненне. Паэт – не адрозніць першага ад другога. Як дзень першы ад дня апошняга, што пражыў ён з абранай сваёй, – не адрозніць таксама. Паколькі немагчыма падзяліць, раскласці на часткі ейны подых і ажынавы спеў, ейнае цела і тапалёвую пругкасць, ейныя строгія вусны і ўсмешлівае світанне...*

* * *

Я думаў, ты – верасень чысты,
Такі прахалодна-імглісты
І сцішана-залаты.
Дзе вочы – цяплынь употай,
І рукі – пяшчота й клопат,

А валасы – лістота...
Я думаў, верасень ты.

А потым я думаў, ты – снежань.
Такі спакушальна-бязмежны!
І, нібы Каляды, святы.
Які ў вершалінах вечных
Збівае белыя вежы!
Пеючы завейную песню.
Я думаў, што снежань ты.

Я думаў яшчэ, ты – ліпень.
Спякотна-сонечна-сіні;
Світаннямі – ля вады...
Што цёплымі ліўнямі сыпле
І кветам да вуснаў ліпне,
І смакам духмяным сыціць.
Я думаў, што ліпень ты.

Я думаў, што ты... Ды толькі
Я так памыляўся горка!
Ты, мілая, усё ж сакавік.
Што чуйна прыжмурыць вейкі,
Пацягнецца лісцікам клейкім,
Раскрые дотыкам рэкі,
Усмешкай аблашчыць знекуль!
І вечнасцю стане міг.
Сакавік ты мой, сакавік...

*11.04.18*

* * *

А я скрозь дрэвы так глядзеў упарта!..
Ля ног сядзеў сабака нерухома.
Аднак, аднак... Была ты зноў занятай,
І не магла зноў вырвацца ты з дома.

І мы вярталіся пустэльнаю сцяжынай...
Наперадзе – не бачылі нікога.
Ў маёй руцэ – аранжык не астыне,
Як і радкі... Якіх яшчэ так многа

Складу табе я ў нашым ціхім парку,
Калі ты зноў не зможаш выйсці з дома.
Я ж буду зноў – глядзець у змрок упарта!
Ля ног – сядзець сабака нерухома.

Хоць прабіраць нас будзе халадэча,
І з дрэў сняжынкі – сыпацца на вочы.
Што, сябра мой?! І ты гатовы вечна
Чакаць каханую са мной ад дня да самай ночы?!.

*04.02.18*

* * *

Я выпальваў цябе са свайго сэрца,
Я стаяў гадзінамі на марозе.
Толькі, мілая, зноў няма куды дзецца!
Толькі, родная, свінцом цякуць слёзы.

Я ўзыходзіў на вогнішча двойчы і тройчы.
І сякераю сек свае рукі і пальцы.
Каб яны не цягнуліся да цябе днём і ноччу,
Каб адчайны загад мой чулі: баяцца!

Нават не думаць у тваім напрамку,
Нават, дзе дыхаеш, не варушыцца.
Толькі зноў збірае душа астанкі.
Перасохлае горла – хоча напіцца.

А счарнелыя вочы – цябе пабачыць.
Можа, хоць зблізу, а можа, здалёку.
Толькі зноў цішыня... І я болей не плачу.
І я не забіты. Ні маўчаннем, ні токам.

Як і ты для мяне – застаешся жывою.
Той маленькай дзяўчынкай, якая баіцца
Што ноччу маўклівай, часінаю злою –
Для мяне ўжо ніколі – ані не прысніцца...

*27.02.18*

* * *

Што значыць згубіць цябе? Гэта значыць
Болей ні неба, ні ветру не бачыць.
Подыху ружы – не адчуваць.
Крылы у птушкі – жыўцом адарваць.

Што значыць згубіць цябе? Гэта ўранні
З думкай прачнуцца: цябе болей не стане?!
Выйсці на вуліцу ў жорсткі мароз,
Лёдам з вачэй – ручаіны ад слёз.

Што значыць згубіць цябе? Гэта раптам –
Сэнс і жыццё ўсё паставіць на карту
І – да апошняе рэшты прайграць.
У пекле – без скуры сябе адчуваць...

Што значыць згубіць цябе? Гэта ў шэрань
Выбіць наросхрыст у доме ўсе дзверы!
Сэрца жывое – вырваць зубамі,
Біцца й такім – яно не перастане.
Сэрца не верыць – ні ў боль, ні ў расстанне.

Гладзіш ты зноў маю шчэць на світанні...

*03.02.18*

* * *

Да цябе толькі крок
Застаецца.
Лета ў твой твар
Смяецца.

Сыплюцца зоры
Ў вочы.
Іду да цябе
Скрозь ноч я.

І чыстай сукенкай –
Травы.
Табе ўсяго неба –
Мала.

На прасцінах тваіх –
Рамонкі.
Водар мёду ад кос
Такі тонкі!

Хутка ўжо выспее
Жыта.
Вецер з целам тваім
Зліты.

А дожджык цалуе
Плечы.
Кахаць цябе буду
Вечна.

*07.06.18*

* * *

Летні дождж, летні дождж...
Змые ўсё, што забыць немагчыма.
Да апошняе кроплі... І ўсё ж –
Зноў глядзіць ён вачыма тваімі.

І кранае сваёй цеплынёй,
Вечаровай, лёгкай, вільготнай.
Бы гуляе няспешна са мной, –
Так няспешна гучаць твае крокі

Усё далей і далей... І ты –
Хутка знікнеш у сініх валошках.
Прападзеш ў каласах залатых,
На далёкіх сцяжынах-дарожках...

Толькі будзе ісці летні дождж.
Так няспынна, павольна, празрыста...
На аблоках малюючы ўсё ж –
Вобраз твой, бездакорны і чысты.

*09.07.18*

* * *

Ты сыходзіш нячутнымі крокамі,
Так няўмольна і так паволі.
Па прымятых травах высокіх,
Па-над краем вільготнага поля.

Ты сыходзіш туды, дзе захад
Развітальнай згарае свечкай.
Дзе ў хаціне забытай плача
Ды скуголіць шчаня недарэчна.

Ты сыходзіш... Па свежых росах,
Па зарослай імхом сцяжыне.
...Стане кропкаю постаць босая,
У вадзе хутка сонца астыне.

Ты сыходзіш, сыходзіш... І вецер –
Так адчайна мне ў твар – лістотай!..
І на тым, і на гэтым свеце:
Зноў сяброўка мая – самота.

Ды чародамі – успаміны...
І надзея, што блізкая восень
Наталіць святлом зорак павінна
Твае дзіўныя вочы ў просінь.

*30.06.18*

* * *

Я ніколі не быў у маленькім Манака
І ніколі не бачыў Міжземнага мора.
Тых шыкоўных гатэляў, начных клубаў і паркаў,
Дзе я буду не хутка, дзе я буду не скора...

І дзе я ў казіно ўсе грошы пастаўлю;
Можа, выпадзе цот, ці зеро хіжым зверам.
Дзе на пірсе жанчына ў чырвонае шалі
Будзе ціха чакаць, будзе ў лепшае верыць...

І пад раніцу я, без манеты ў кішэні,
Праважаць выйду боліды аўтагонак,
Што па вулках ляцяць! Рассякаючы пэўна
Мне жыццё напалову, так жорстка і звонка.

І не будзе жанчыны... Ды пырскі марскія –
Мне па твары, па твары!.. І толькі ўспаміны,
Цёплынёй нашых слоў мне дасюль дарагія,
Будуць лоб асушаць, нібы жарам з каміну.

Што ж, чакайце! І мора, і яхты, й Манака.
І тэатр, дзе выбітныя сёння музыкі
Пачалі ўжо запісваць у нотныя знакі
Родны голас твой – чаіцы лёгкія крыкі...

*26.07.18*

* * *

Аркестроўкаю звонкага лета,
Сярод лесу, у словах сагрэтых,
Так хвалююча і меладычна,
Патаемным ключом скрыпічным,
Чыстай песняй гучала ты.
Менуэт танцавалі аблокі
У блакітных нябёсах высокіх!..
Дадаваў лёгкі дождж пералівы...

І гудзеў, і смяяўся шчасліва
Хмельны чмель ў валасах залатых.

І ляцелі над соснамі рукі,
Бы валторнаў кранальныя гукі,
І твае, бы званочкі, каралі
Лёгкі такт ва ўнісон паўтаралі,
І крануцца іх вецер хацеў.
Каб самому сыграць урачыста,
І прапасці ў валошках іскрыстых,
Ці растаць сярод зорных кілімаў,
І адтуль ужо, так неадрыўна,
І так доўга глядзець на цябе.

І па-лёгкаму буду зайздросціць
Таму ветру, які проста ў госці
Да цябе можа зноў заляцець.
Я ж нячутна так, каля дрэва,
Пасяджу... І ў разлітых напевах –
Адшукаю адзінае слова,
Што шаптаць табе вечна гатовы...
Як і захад наш – вечна гарэць.

*04.08.18*

* * *

Паслухай, мілая, паслухай!
Як яблыкі у травы ноччу
Так ціха падаюць-грукочуць.
І ў садзе нашым – ані руху...
Паслухай, мілая, паслухай!

Ты паглядзі, як сёння хмары
Абклалі неба... За парогам –
Нібы павеў самога Бога...
Скрозь ноч і шарыя абшары,
Што прыхавалі сёння хмары.

І ты адчуй, як звонкі месяц
Святлом касмічным прагна льецца
Нам цераз вочы далей – ў сэрцы,
Што б'юцца сотняй мегагерцаў,
Іх нараджае – звонкі месяц.

І ў ноч ты выйдзі, азірніся:
Там цень знаёмы... Каля клёну.
У тым святле заўсёды тоне,
Што твае рукі, нібы лісце,
Бясконца, лёгка і бяздонна
Дажджынкамі струменяць з высі.
Ты выйдзі ў ноч. І азірніся...

*15.09.18*

* * *

Ты не ў мінулым, не.
Ты там, дзе і належыць.
Гарчынкаю ў віне,
Каметай у бязмежжы.

Ты кропелькай расы
На верасовых травах.
Ты нервам, што дрыжыць
На захадзе крывавым.

Ты ў шолаху начным,
У шоргаце лістоты.
Ты там, дзе светлы дым...
І пахнуць мёдам соты.

Дзе хвошча праліўны
Твой дождж без перастанку!
Дзе сустракаем мы
Світанне цёплым ранкам.

Ты там, дзе не забыць,
Як на павеках іней
Сапфірамі дрыжыць...
І пахне снег малінай.

Ты проста там, дзе сны
Змяшаліся наяве
З днём лета ці вясны,
Дзе зоркай ты растала.
Маім мінулым, не,
І сёння ты не стала.

*24.09.18*

* * *

А ведаеш, будзе сумна,
Калі мае сны пакінеш.
У розных падзеях тлумных,
Бы ветразь у шторм, ты згінеш...

А знаеш, будзе журботна,
Калі ў вераснёвых далях,
Ты прывіднай станеш кропкай,
Якую я ўжо не ўзгадаю...

І будзе так адзінока,
Калі надвячоркам росным
Праніжа раптоўна токам,
Ды сцісне крык сэрца: “Позна!..”

А знаеш, будзе балюча,
Калі без цябе ў тым полі
Я крапівой пякучай
Пайду ратавацца ад болю.

І будзе так горка, адчайна,
Бязлітасна і немагчыма,
Калі наша ціхая тайна
Развеецца лёгкім дымам...

І ў небе аблокамі стане,
Каб цёплым, пяшчотным словам
Праліцца з дажджом на світанні
І ўсё распачаць нанова.

*18.09.18*

* * *

Зноў падаюць яблыкі з грукатам спелым
У мох, у траву, у дзедаву студню.
Зноў сонцам працята ўсё тваё цела,
Якому пяе вечаровая лютня...

Аб дзён павуце і аб тых успамінах,
Што лёгкім дымком з гарчынкай празрыстай
Застацца ў восеньскіх далях павінны,
Ды адлятаюць пялёсткамі чыстымі

Ў тую вясну, дзе ўсмешлівы травень
Усё перайначыў і з кветам ўсё зблытаў.
І зблытаў дазвання чаканне з расстаннем;
І плыць дзьмухавец па вадзе паслаў плытам...

Туды, дзе ў кастрычніку ўсё тваё цела
Шчымліва спявае чароўнаю лютняй...
Дзе падаюць яблыкі з грукатам спелым
У мох, у траву, у дзедаву студню.

*07.09.18*

* * *

Мне сёння верасень шаптаў
Тваё імя пад шум дубровы.
Дзе я шукаў, дзе я губляў
Маіх прызнанняў к табе словы.

Там сёння і дасюль гарыць
Наш захад, што павек не згасне.
Там кацянём ў траве ляжыць
І лапкі ціха грэе шчасце.

Там шпацыруем паміж дрэў
У раз каторы – мы з табою.
Там падарыць табе паспеў
Святло і неба залатое.

І ўсё захоўваць будзеш ты,
Дзе сокал зыркі ўжо не ўбачыць,
Што нас паперадзе ляціць
І крыллем ахінае. Значыць,

Наш ліставей – ізноў ідзе,
Блішчыць на сонцы павуцінне.
І ўжо нішто не прападзе
І за туманамі – не згіне.

*19.09.18*

* * *

А я хачу табе сказаць,
Што гаварыць даўно не маю права.
Як клёны адзінотаю гараць.

Нам да яе – ужо не прывыкаць.
І пасярод аблок – на жаль, не плаваць.

А я сказаць адной табе хачу,
Як у самоце патанае вечар.
І толькі ветру тое я шапчу,
Аб чым з табой ужо даўно маўчу,
Маўчанне што ж, таксама добра лечыць.

Яшчэ хачу сказаць табе адно,
Як на ваду нячутна так лістота
Кладзецца й не спяшаецца на дно.
Вакол змярканне... Ды яшчэ відно.
І птушкі пошчак... выпадковай нотай.
А ў небе стужка, ад твайго палёту.

Ну вось, здаецца, што хацеў – сказаў.
Не апускай, прашу, свае ты вочы.
Жыць без цябе, як сёння я спазнаў, –
Бы сам сябе – ушчэнт я абакраў.
І толькі верш – суцехай сярод ночы.

*20.09.18*

* * *

Я ратавання не шукаў
У цемры ночы сярод вуліц.
У самагубцы я не краў
Яму прызначаную кулю.

І я збавення не прасіў
У гушчары хмызоў і лесу.
І слёз пякучых там не ліў,
Дзе той апошні дзень закрэсліў.

Насустрач сонцу я не бег,
Калі згасала раптам сонца.
Не фарбаваў крывёю снег
У час сваёй тугі бясконцай.

І ўпарта следам не глядзеў,
Як ты ў касых дажджах знікала.
Бязгучны і тужлівы спеў
Падранкам-птушкай пакідала.

Я проста ведаў, што агні
Дзён новых зноў цябе сагрэюць.
І ўсё, бы фільмам, прамільгне,
І ветрам па палях развее...

І толькі доўга ля вады
Стаяць ты будзеш нерухома.
Мае нябачныя сляды –
І праз гады, ля твайго дома.

*28.09.18*

* * *

Я не шкадую ні аб чым!..
Што мы з табой тады знайшліся,
Што крыху лёсы не сышліся,
Што нас кружляў салодкі дым,
І верасень спяваў дваім
І за каўнер шпурляў нам лісце!..
Я не шкадую ні аб чым.

Я не шкадую ні на міг,
Што да канца мне наглядзецца
У сінь вачэй – не давядзецца...
І смех душы тваёй, і крык –
Я да вынятку не спасціг.
Таму і рве самота сэрца.
Хоць не шкадую – ні на міг.

Я не шкадую, ты павер,
Што ўжо табой – не надышацца,
Не цалаваць у змроку пальцаў,
Не думаць: дзе і з кім цяпер?
Хоць п'е так прагна з вены звер –
Ды ўпарта буду я ўсміхацца.
Я не шкадую, ты павер!

Прашу й цябе: не шкадаваць
Аб тым пяшчотным і харошым,
Што так складалася прыгожа!
Бы ў тым выслоўі: на ўсе "пяць"!
І што вяргінямі гараць
Зноў успаміны ноччу, Божа!
Прашу цябе: не шкадаваць...

*11.09.18*



Леанід Дранько-Майсюк



...улада праўды кароткая,

а страху – доўгая...

# У Вільні і больш нідзе

**«...Усе бачылі нястачу віна...»**

*Аповесць пра Адама Станкевіча*

*Шчыра прысвячаю свой твор цудоўнаму віленскаму сябру Сігітасу Саладжынскасу*

*Працяг.*

*Пачатак у*
*№4 (41) за 2009 г.;*
*№4 (47) за 2010 г.;*
*№3 (52) за 2011 г.;*
*№1 (62) за 2013 г.;*
*№2 (81) за 2016 г.;*
*№3 (82) за 2016 г.*

## АДАМ СТАНКЕВІЧ У ВІЛЬНІ 12 КРАСАВІКА 1949 ГОДА

Па Полацкай ісці і па Зарэчнай[1],
Здзіўляцца прыгажосці кожны раз –
Яна таму заўжды здаецца вечнай,
Што боль не выстаўляе напаказ!

Філёры скрозь. Не знаючы спачыну,
Сваю работу ведаюць на яць,
Аднак яшчэ пакінута магчымасць
У Вільні па-над Вільняй[2] пастаяць.

А краявід навокал дасканалы –
Храм Багародзіцы, як візантыйскі госць...
Абрыс Міхала[3] – ясны і трывалы...
І лёгкасць Ганны[4] – лініі наскрозь...

Каб лёгкасць меў, то б узляцеў над хмарай
І праз хвіліну нейкую ці дзве
Знайшоў бы там паветраны фальварак,
Каб думаць зноў аб родным харастве.

І станецца праява дарагая,
Пашле мне Бог дарунак – з вышыні
Касцёл святога ўбачыць Мікалая
Упершыню, і скажа так: «Зірні

Яшчэ і на касцёл святой Тэрэзы...
Ты іх не бачыў з неба, дык убач
Перад пакутай, што байкальскім лесам
Завершыцца пад мат і енк, і плач...»

Убачыць зверху роднае і досыць –
Святыні, дзе служыў я і служу,
І Вільню ўсю ў чырвоным адгалоссі,
І ў чырвань гвалтам гнаную душу.

У Бога і ў людзей адна дарога,
І той дарозе моліцца душа,
Калі душы патрэбна дапамога,
Дык пэўна што – апошняя імша...

З ёй не задоўжыцца, таму спакойны...
Ёй абаронены, таму жыву...
І Вільню стратай, ранай незагойнай,
І ў дні апошнія не назаву.

Сябры літоўскія, жывіце з Вільняй,
Вам і за тое дадзена яна,
Каб ад імя Літвы шалёны вір нёс
У нашу кроў усходні сатана.

І забіраць мяне, сябры, скажу я,
На форме строгай робячы акцэнт,
Бадзёры прыйдзе лейтэнант Бушуеў[5] –
Літоўскай дзяржбяспекі афіцэр.

І пісаны, нібыта нейкай сажай,
Цяжкі, нібы каменны фаліянт,
121-шы ордэр мне пакажа
Літоўскай дзяржбяспекі лейтэнант.

У глыбіні ягонага планшэта –
Галгофы цень увесь, як і святло,
І лёд, і дрот, і пот, і кроў Тайшэта,
Дзе ў мёртвы чэрап уваб'юць кайло.

*26 жніўня 2015 г., серада, 19 г. 36 хв.; Менск.*

## 1. Прымірыць Візантыю з Рымам

Пясняр Янка Купала[6] ў вершы «Жняя» параўнаў працавітую дзяўчыну з сонцам, а святар Адам Станкевіч у манаграфіі «Хрысціянства і беларускі народ»[7] з сонцам параўнаў Хрыстову навуку.

І тут святар выступіў як пясняр – пясняр хрысціянства, якое, на яго думку, дапамагло нам стаць беларусамі, стварыла нашу інтэлігенцыю, дало нацыянальнаму пачуццю сілу, родную мову зрабіла мовай рэлігіі і наогул «...запаліла небасяжныя зоры ідэалу разьвіцьця над беларускім народам...»[8]

Прадстаўнік лацінскага каталіцтва ксёндз Адам Станкевіч быў прыхільнікам аб'яднання каталікоў і праваслаўных – то-бок, стаяў за Унію царкоўную, без якое (так цвёрда лічыў!) наш народ не выжыў бы.

Дарэчы кажучы, у 1930-х гадах польскамоўныя віленскія публіцысты іншы раз падкрэслівалі: хрысціянства само па сабе больш важнае, чым падзел на каталікоў і праваслаўных[9].

З'яўляючыся адэптам рэлігійнага адзінства, Адам Станкевіч, вядома, згаджаўся з такой пазіцыяй віленскіх публіцыстаў, аднак марыў пра самастойную беларускую царкву, якая была б, як ён сам пісаў, незалежнай ад «расейскага Рыма» і «Рыма польскага», і прызнавала б духоўную ўладу адной толькі Апостальскай сталіцы – то-бок, сапраўднага Рыма.

Тут лёгка ўбачыць ягоную еўрапейскую (заходнюю) накіраванасць, але трэба ведаць: славянскія малітвы ўсё ж расчульвалі яго больш, чым лацінскія.

«Рускую» веру і «польскую» веру трактаваў як падман хрысціянства і сцвярджаў: расійскі імперыялізм з папамі-русіфікатарамі і польскі нацыяналізм з ксяндзамі-паланізатарамі робяць Беларусі вялікую шкоду; усходні цэнтралізм і заходні месіянізм вядуць да згубы...

Ці шукаў з гэтае пасткі выйсце?

Шукаў, бачыў ратунак у аб'яднанні рэлігійных і нацыянальных асноў і ў адстойванні свайго ўласнага хрысціянства.

Дарэчы, шмат хто з нашых дзеячаў марыў пра нацыянальную царкву.

Антон Луцкевіч[10] высноўваў:

«...ідэя стварэньня беларускае нацыянальнае царквы ў пастаці Уніі /.../ лунала ў галовах беларускіх адраджэнцаў...»[11]

Пра сваю родную рэлігійную арганізацыю дбаў і паэт Казімір Сваяк[12] – ён жа ксёндз Кастусь Стаповіч.

У аднаўленні Уніі, да якой з Варшавы чулася абыякавая хітрасць, а з Масквы дзейсная нянавісць, Казімір Сваяк бачыў аднаўленне нашай нацыянальнай сутнасці, – аб'яднанне ж усходняга крыжа з крыжам заходнім называў Беларускім Уніянізмам.

І, безумоўна, зусім невыпадкова тое, што грэчаскае слова сінтэз (аб'яднанне, злучэнне) – любімае паняцце ў творчай практыцы сяброў Адама Станкевіча і Казіміра Сваяка; паплечнікі па адной працы, яны йшлі

па адной дарозе, маючы адну мэту, але розныя страхі – над Адамам Станкевічам навісаў страх то польскай, то савецкай дзяржавы (апошняя загнала ў магілу), а над Казімірам Сваяком – страх невылечнай хваробы...

У траўні 1926 года паэт памёр (так рана спачыў!), і, праводзячы па ім у Віленскім касцёле святога Мікалая хаўтурнае набажэнства, Адам Станкевіч прысвяціў дарагому сябру прачулую малітву-клятву, галоўная думка якой – трэба й далей працаваць над рэлігійным аб'яднаннем вернікаў.

Ад гэтага святога клопату не адмовіўся і ў апошні свой дзень.

Займаючыся пастырскай дзейнасцю, даючы людзям спакой і аддаляючы іх ад спакусы, усё жыццё імкнуўся ў душах парафіян прымірыць Візантыю з Рымам.

Думаю, для яго гэтыя вобразы мелі не толькі рэлігійны, але і палітычны сэнс, гэтак жа, як, скажам, для адваката Казіміра Петрусевіча[13].

Абараняючы «Грамаду»[14] на «Працэсе 56-ці», К. Петрусевіч гаварыў пра Візантыю і Рым, як пра сілы Усходу і Захаду, якія змагаюцца за Беларусь[15].

Жорстка змагаюцца, і ў іхнім змаганні каб жа ўцалелі нашы мяккія душы, якія, кажучы па-сялянску, ні клямкай, ні зашчапкай не бразнуць!

Адам Станкевіч, цкаваны воўк, усведамляў: рэчаіснасць заўсёды мацнейшая за мару, аднак жа песціў надзею на прымірэнне і вельмі хацеў, каб уніяты, праваслаўныя і каталікі адчувалі сябе перш за ўсё хрысціянамі, а не раскіданымі па канфесіях сіратлівымі вернікамі.

Трэба думаць, за такую лагодную філасофію яго шанавалі памяркоўныя парафіяне, а ў непамяркоўных, вядома, была іншая пазіцыя...

Рэлігійныя пытанні хвалявалі не самі па сабе, а ў звязку з нацыянальнымі клопатамі, і Адам Станкевіч прагнуў адасобіць закаснелы касцёл ад дзяржавы, бо такі касцёл існаваў, як застыглы маналіт, і ў ім, акрамя польскай мовы для прамаўлення павучанняў, іншай мове не было месца...

Касцёл незалежны ад дзяржавы?!

Польскамоўным віленскім публіцыстам гэта не падабалася; яны лічылі: беларускі нацыяналізм спрыяе камунізму, каталікі з партыі Беларуская хрысціянская дэмакратыя (БХД; хадэкі), да якой належаў Адам Станкевіч – людзі даволі дзіўныя, бо імкнуцца аддзяліць святое ад святога, а менавіта: касцёл ад дзяржавы[16].

Дарэчы, да таго ж імкнулася і «Грамада».

У наступным раздзеле адзначана: і хадэкі, і сам Адам Станкевіч непрыхільна ставіліся да «Грамады», аднак іншы раз іхнія пазіцыі супадалі, і яны станавіліся амаль саюзнікамі.

І варта памятаць: мара Адама Станкевіча пра Беларусь была блізкай імкненню грамадоўцаў, але кожны йшоў да агульнай мары сваёй дарогай.

Айцец А. Станкевіч бачыў Беларусь у саюзе з Коўнам; компас жа «Грамады», як вядома, паказваў на Менск, дзе панавала шалёная дактрына класавай барацьбы.

Такога нялюдскага вучэння прыняць не мог, бо лічыў: наш народ не мае класавых супярэчнасцяў, і не проста лічыў, моўчкі разважаючы, – гаварыў пра гэта!

Магчыма, дажыў бы да старасці, каб шанаваў правіла: «Мой голас – маўчанне...», аднак жа не дажыў, бо не маўчаў...

«...Дух мой рвецца і ляціць...» – прамаўляў Якуб Колас[17], і ўслед за любым творцам гэтак жа прамаўляў і Адам Станкевіч, бо і ягоны дух таксама ляцеў і рваўся...

Святар пісаў малітоўнікі і сустракаўся з камуністамі, мог рызыкаваць і прымаць небяспечныя для сябе прапановы; быў рашучы, не млеў перад вышэйшым клірам, таму царкоўная іерархія сваёй велічнай незгаворлівасцю не адбірала ў яго волю і жаданне змагацца.

Шануючы іерархію, не баяўся яе – не палохаўся тых, хто стаяў над ім, таму, напрыклад, годна гаварыў пра рэлігійныя патрэбы народа Апостальскаму нунцыю.

Дарэчы, і самі людзі, вядома ж, натхнёныя сваім духоўным правадыром і ягонымі паплечнікамі, пісалі ў Варшаву Апостальскаму нунцыю, прасілі службы ў касцёлах па-беларуску[18].

Упэўнены, што родная мова ўзбагачае дадатковае набажэнства, і, прагнучы, каб яна гучала з амбону, летам 1918 года айцец А. Станкевіч прапаведаваў па-беларуску ў Дзісенскім павеце; за гэта касцельная ўлада пакарала – восенню таго ж года паслала з берагоў Заходняй Дзвіны служыць на берагі Заходняга Буга (далёка за межы цэнтральнай Беларусі!) у мястэчка Драгічын, і там, на чужыне, разважаў сябе не толькі малітвамі, але і вершамі Якуба Коласа.

Быў з характарам, упарты ў сваіх дамаганнях, таму не зважаў на нездаволенасць царкоўных уладароў і свецкіх цэзараў і ўсё рабіў дзеля таго, каб у касцёле жыла беларушчына.

Паводле ўласнага прызнання, гадаваўся ў атачэнні польскага каталіцызму, быў беларусам-католікам польскае культуры, аднак гэта не закрыла яму родны свет.

У іншым сваім творы[19] сцвярджаў:

«...Праслаўляць Бога і лепш пазнаваць, маліцца да Яго, жыць жыццём сапраўды Божым, апавяшчаць Бога другім – можна толькі карыстаючыся роднай зразумелай мовай...»[20]

Думка відавочна адрасавана ўладарам і цэзарам, і яна празрыстая, яна пра тое, што беларусы маюць сваю мову...

Францішак Аляхновіч[21] даваў такую ацэнку Адаму Станкевічу:

«...неўтаміма працуе над распалячаньнем каталіцкага касцёла на Беларусі... Нягледзячы на ўсю злосьць польскіх ксяндзоў, пачаў гаварыць у касьцёле казаньні па-беларуску...»[22]

Ф. Аляхновіч, мусіць, першы ўвёў у нашу мову гэтае адметнае паняцце – «распалячанне», а ў той час распалячваць касцёл значыла – адправіўшы імшу па-лацінску, казаць для вернікаў павучанні па-беларуску.

Клопат небяспечны...

25 сакавіка 1921 года ў Віленскім касцёле Баніфратраў Адам Станкевіч правёў святочную беларускую службу, і такім чынам адбылася вельмі важная падзея – святыня Баніфратраў упершыню з вуснаў святара пачула нашу мову!

Як і трэ было чакаць, тут жа выбухнула злосць польскіх шавіністаў (як толькі не лопнулі яны?!): касцёл – гэта й ёсць Польшча, у касцёле не павінна гучаць нейкая там тутэйшая гвара[23]!

Што дадаць да гэтага, каб не пакрыўдзіць далікатную варшаўскую душу?

Апроч таго, што хай яна не крыўдзіцца, бо ці варта тут крыўдзіцца, – нічога й не дадасі.

Нашы заходнія суседзі заззвычай не любяць такіх непрыемных напамінаў, а мы ў пераважнай большасці сваёй саромеемся аб тым напамінаць.

Дык не трэба нам саромецца...

Лёгка здагадацца, як польскія шавіністы ўспрынялі кнігу «Хрысціянства і беларускі народ»; вельмі верагодна тое, што тут іхні імпэт супаў з імпэтам супрацоўнікаў Міністэрства дзяржаўнай бяспекі Літоўскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі (МДБ ЛССР).

Спадзяюся, мая здагадка не перабольшаная.

У Вільні, у літоўскім асобым архіве[24], захоўваюцца дзве следчыя, дзве назіральныя і адна маёмасная справы – бальшавіцкая фабрыкацыя на Адама Станкевіча; праца «Хрысціянства і беларускі народ», вядома ж, згадваецца ў той фабрыкацыі.

Калі ў красавіку 1949 года айца А. Станкевіча другі раз арыштавалі, то праз два з паловай месяцы 30 чэрвеня ў ягонай кватэры адбыўся дадатковы ператрус, і згаданую кнігу першай упісалі ў пратакол канфіскаваных выданняў[25].

У манаграфіі дастаткова крытыкі чырвонага рэжыму; мяркую, сталіністы адразу ж падкрэслілі месца, дзе гаворыцца, што камунізм асуджаны Апостальскай сталіцай, аднак жа для следчай справы пераклалі два фрагменты з першага раздзела «Веліч і значэнне Хрысціянства»:

«...дачакаліся беларусы вялікага юбілею – 950-годдзя свайго хрышчэння. Святкуем мы гэты вялікі[26] юбілей, на жаль, толькі тут, па гэтай старане савецка-польскай граніцы, бо там, у БССР, святкаваць гэтага юбілею няможна, так як няможна вызнаваць, верыць і служыць Хрысту, няможна там усяго гэтага, бо там – о, іронія! – «найбольшая на свеце свабода, бо там найідэальнейшая на свеце дэмакратыя...»[27]

І другі перакладзены ўрывак:

«...Сяньня для нас найвялікшыя ворагі – гэта бязбожны камунізм, які ёсьць запярэчаньнем усякай свабоды і праўдзівай культуры, а такжа запярэчаньнем усякай нацыянальнасьці. Ня меншым зьяўляецца для нас ворагам і ўсякі зьвярыны нацыяналізм (расізм, фашызм і скрайні нацыяналізм), якія такжа не прызнаюць над сьветам Бога, не прызнаюць правоў адзінкі і правоў слабейшым нацыям на іх свабоднае існаваньне, а прызнаюць толькі фізычную сілу – дзяржаву, якой павінна служыць і падпарадкоўвацца ўсё...»[28]

Подпіс перакладчыка невыразны, але, здаецца, пераклала жанчына (старшы лейтэнант[29]), бо нечытэльныя разгоністыя кручкі пастаўлены пасля ўдрукаванага на машынцы дзеяслова жаночага роду – «перевела».

## 2. Жыццё без адпачынку

У касцёле, праводзячы імшу, настройваўся:

«...Трэба кожнага паважаць, і з кожным гаварыць на зразумелай мове...»

За межамі касцёла згаджаўся, калі раптам чуў:

«...Каб зберагчы народ, адной царквы мала, трэба яшчэ – сваё мужнае грамадства і свая дзяржава з арміяй...»

Работу рабіў з розумам і сэрцам, таму зробленае дыхала сэнсам і верай, і заўсёды бараніўся пэўнасцю: хрысціянства дае і злому часу лагоду, – і праз гэта здабываў сабе цярплівасць.

Быў невысокага росту, з шэрымі вачыма і мужным тварам, не слабы з выгляду, аднак здароўе не заўсёды цешыла – меў хворыя ныркі і ў красавіку 1937 года нават лячыўся ў Трускаўцы.

Праўда, на сваё здароўе мала зважаў і, здаецца, не ведаў, што такое

спакой, жыў па сутнасці без адпачынку – хіба што адпачываў, даваў сабе малую палёгку тады, калі маліўся Богу.

Займаў даволі віднае становішча, бачыў і душой – не толькі вачыма, ніколі не ўдаваў з сябе зацікаўленага, а быў заўсёды зацікаўлены і касцёлам, і жыццём, таму людзі слушна меркавалі: іхні ксёндз меў сілы і на біскупа, і на арцыбіскупа, словам, варты быў вышэйшага духоўнага звання.

А наогул жа абсяг дзейнасці Адама Станкевіча ўражвае: душпастыр і рэлігійны пісьменнік, ён ствараў беларускія гурткі, рэдагаваў газеты і часопісы, засноўваў друкарні, выдавецтвы і культурна-асветныя арганізацыі, з'яўляўся сакратаром выхаваўчай рады Віленскай беларускай гімназіі (ВБГ) і чальцом яе бацькоўскага камітэта, выкладаў гімназістам-каталікам рэлігію і лацінскую мову.

Не думаў, што наўкол шмат дзеячаў і мала працаўнікоў, проста быў працаўніком – і ўсё, таму і ўваходзіў у Таварыства беларускай школы (ТБШ)[30], у камітэт дапамогі пацярпелым ад вайны, у Беларускае навуковае таварыства (БНТ) – не цураўся ніякай работы...

20 жніўня 1924 года на сходзе кіраўніцтва БНТ разглядалі пытанне пазыкі дзеля куплі дому для Беларускага музея і пастанавілі:

«...Прасіць мітрапаліта Андрэя Шаптыцкага[31], эвэнтуальна[32] ўкраінскія арганізацыі ў Львове, пазычыць да дзесяці тысяч даляраў. Выслаць у гэтай справе дэлегацыю дзеля атрыманьня грошай і падпісаньня адпаведных актаў ад імя Таварыства (БНТ. – *Л. Д.-М.*). У склад дэлегацыі вызначыць гр. Антона Луцкевіча і кс. А. Станкевіча...»[33]

У нашых гістарычных даследаваннях адзначана[34] – у Львоў ездзіў А. Станкевіч, а А. Луцкевіч прысвяціў яму вельмі добрыя словы ў сваім лісце да львоўскага мітрапаліта.

Ксяндзу ўдалося пазычыць не дзесяць тысяч, а тысячу даляраў, што таксама было няблага, аднак жа дзеля сумнай праўды нагадаю:

«...падарожжа кс. Станкевіча /.../ не дала пажаданага выніку, і справа куплі дому сарвалася...»[35]

У 1924 годзе Антон Луцкевіч і Адам Станкевіч яшчэ супрацоўнічалі, а пазней, на жаль, толькі варагавалі...

Гаворачы далей пра абсяг дзейнасці айца Адама, не забуду адзначыць, крыху забягаючы наперад, што быў ён і дэпутатам (паслом) польскага Сейма, працаваў нейкі час у аддзеле па замежных справах, а ў нашай нацыянальнай фракцыі Беларускім пасольскім клубе (БПК) з'яўляўся намеснікам Браніслава Тарашкевіча[36]...

Паводле Аляксандры Бергман[37] старшыня БПК сацыял-дэмакрат Б. Тарашкевіч яшчэ да заснавання «Грамады» займаў прыкметныя левыя пазіцыі, а хрысціянскі дэмакрат А. Станкевіч кіраваў у клубе правым крылом.

У сваёй тактыцы палітык А. Станкевіч быў строгі, супрацоўніцтва з «чужымі» амаль пазбягаў; так замацавалася ягонае палітычнае крэда: найперш мы павінны адстойваць свае нацыянальныя правы і рабіць мусім самі, без чужой дапамогі...

У тыя свае пасольскія гады, трэба думаць, спрычыніўся таксама і да заснавання Беларускага каапэратыўнага банка, бо вось якую невыпадковую акалічнасць удакладняў падпракурор Роберт Раўзэ ў сведкі Вячаслава Багдановіча[38] на «Працэсе 56-ці» ў сакавіку 1928 года:

«...Раўзэ. Вы паказалі, што банк заснавалі Ярэміч[39] і кс. Станкевіч. Чаму яны адышлі ўбок?

Багдановіч. Узніклі спрэчкі. Як самы энергічны, застаўся Астроўскі[40]...»[41]

Заўсёды Адам Станкевіч знаходзіўся ў палітычным полі, – абіраўся ў ЦК БХД, стаў таксама віцэ-старшынёй прэзідыума гэтай партыі; ва ўсе гады цесна кантактаваў з Беларускім нацыянальным камітэтам (БНК).

Тут, праўда, варта нагадаць: у 1927 годзе пэўныя палітыкі (у тым ліку і хадэкі) выйшлі з БНК і стварылі сваю арганізацыю, на іх думку, далёкую ад грамадоўскіх уплываў, але пасля таго, як прайшоў суд над «Грамадой», у чэрвені 1928 года адбылося вяртанне – то-бок, аб'яднанне БНК.

Хадэкі лічылі: «Грамада» разбівае адраджэнскі рух, яна небяспечная і шкодная для Беларусі: «...бо кірунак яе вядзе да бальшавізму. «Грамада» замест ідэі беларускае, падсовуе /.../ народу ідэю яму чужую й шкодную нацыянальна й соцыяльна. Гэткім парадкам «Грамада» да значнай меры ліквідуе беларускаю сьвядомасьць, а гэтым і беларускі рух...»[42]

Замах на беларускую свядомасць, а тым болей – рух, «Грамада», вядома ж, не рабіла, наадварот – яна сама была гэтым рухам, але не з'яўлялася самастойнай.

Гісторыкі слушна адзначаюць: Чырвоны Усход кіраваў ёю, вызначаў стратэгію, нават улазіў у драбніцы – скажам, хацеў змяніць назву «Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада» на «Сялянска-рабочая Грамада Заходняй Беларусі», а ў 1926 годзе лідар «Грамады» Браніслаў Тарашкевіч стаў камуністам, падначаліўся чырвоным дырэктывам...

Пазбегнуць уплыву Чырвонага Усходу – такі быў палітычны напрамак Адама Станкевіча, і гэты напрамак яскрава адлюстроўвае характар ягонай палітычнай дзейнасці.

І тут звярнуся і да рукапіснага фонду нашай гісторыі...

Неаднойчы працуючы ў архівах, я часта лавіў сябе на тым, што, на жаль, шмат неабходнага пайшло ў глум, але як жа добра, што захаваліся, скажам, гэтыя патрэбныя менавіта табе каштоўныя рукапісныя старонкі!

Падам колькі фактаў.

4 снежня 1919 года Адам Станкевіч атрымаў ад Цэнтральнай Беларускай Рады Віленшчыны і Гродзеншчыны (ЦБРВГ) пасведчанне дэлегата на Раду БНР, на якой прадстаўляў БНК[43].

Праз дзевяць дзён, 13 снежня, яго, ужо як дэлегата, у Менску кааптавалі ў Раду БНР, а назаўтра, 14-га чысла, у менскай капліцы Дабрачыннасці ён адслужыў імшу і казаў па-беларуску казанне.

У апошнія дні ліпеня (а верагодней – у жніўні) 1920 года разам з Міхалам Кахановічам[44] і Ф. Ярэмічам ездзіў у Коўна на перамовы «...з літоўскім урадам па палітычных пытаннях...»[45]

Прыкладна ў той жа час касцельная ўлада хацела адправіць яго на новае месца службы, але кіраўніцтва ЦБРВГ звярнулася да біскупа Ю. Матулевіча[46] з просьбай пакінуць ксяндза ў Вільні[47].

Біскуп згадзіўся.

Абставіны хутка змяняліся, і трэ было ўсё рабіць, каб паспяваць за імі, і Адам Станкевіч паспяваў – у верасні 1920 года ад імя ЦБРВГ разам з М. Кахановічам вёў ужо новыя перамовы са старшынёй літоўскага ўрада[48]; на парадку дня стаялі ўсё тыя ж палітычныя пытанні.

Дарэчы, сярод іншых функцый ЦБРВГ выконвала яшчэ і натарыяльныя абавязкі – так 11 кастрычніка 1920 года супрацоўнік Рады засведчыў сапраўднасць подпісу Адама Станкевіча[49].

А што да рэальнай палітыкі, то менавіта ў той час якраз і ўзышла палітычная зорка нашага святара.

Праўда, на адным з допытаў у ліпені 1949 года пераконваў крамлёўскага следчага: не, ён тады не палітыкай займаўся (гэтак спрабаваў ратавацца ад небяспекі!)[50], а проста прасіў у прэзідэнта Аляксандраса Стульгінскіса[51] грошы для віленскіх беларускіх школ, аднак жа не атрымаў ніякай дапамогі, бо (даў такое тлумачэнне) тая літоўская дзяржава была вельмі бедная...

Скажу крыху шырэй пра сеймавую дзейнасць.

У жніўні 1922 года Варшава абвясціла выбары ў Сейм (на 5 лістапада) і Сенат (на 12 лістапада), – разгарнула кампанію на тры месяцы, – і ў Вільні ўзнік Беларускі цэнтральны выбарчы камітэт (БЦВК).

Выбары давалі пэўныя шансы, таму пастанавілі скарыстаць легальную трыбуну народнага прадстаўніцтва, з якой можна было б заявіць і ўсёй Польшчы, а то і ўсяму свету, што ёсць такі народ – беларускі, а таксама ўжо на новым (вышэйшым!) узроўні выступіць супраць паланізацыі і асадніцтва, а яшчэ заклікаць Варшаву даць дзяржаўную дапамогу ўцекачам, якія ў гэты час якраз вярталіся з далёкай Расіі ў родную Заходнюю Беларусь.

Адам Станкевіч увайшоў у БЦВК у якасці скарбніка – такую ж пасаду займаў у БНТ[52] і ў БНК; дарэчы, у чэрвені 1926 года стаў скарбнікам і Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры (БІГК), з'яўляючыся старшынёй Віленскага аддзела гэтай установы.

А восенню 1922 года ў выніку пэўнага раскладу і неабходных камбінацый[53] святарова імя з'явілася ў спісе кандыдатаў у дэпутаты ад хаўрусу нацыянальных меншасцяў за нумарам «10» па Лідскай і за нумарам «1» па Свянцянскай акругах.

І вось менавіта па гэтай, Свянцянскай, акрузе і быў абраны ў Сейм, – так для айца А. Станкевіча пачалося новае жыццё, якое на іншым узроўні яшчэ ярчэй выявіла даўно засвоенае правіла: думкі апанента амаль заўжды не такія, як твае думкі, а чалавек наогул даволі смешны, бо зазвычай імкнецца паказаць сябе не такім, які ён ёсць...

У парламенце лічыў сябе прадстаўніком вясковага люду і дэпутатам быў неспакойным, не адседжваўся, не ўмеў злавацца моўчкі, – па важных пытаннях выступаў, не хаваўся.

Кажучы па-сялянску, калі зжынаў жыта, браўся і за авёс!

Напрыклад, у снежні 1925 года востра крытыкаваў закон, паводле якога сяляне маглі сплочваць падаткі натурай, – недасканалы закон рабіў людзям крыўду.

А праз паўгода, у ліпені, папярэджваў: змены ў канстытуцыі прывядуць да благіх вынікаў (да панавання адной асобы!) і ўдакладніў: маршалак Пілсудскі[54] са сваім урадам паволі пераймае вопыт Мусаліні[55] – то-бок, фашызм.

Тут, відавочна, святар паўтарыў думку Б. Тарашкевіча, які перад гэтым заявіў у Сейме пра неаспрэчную падобнасць Пілсудскага і Мусаліні.

Дарэчы, тады ж, у ліпені 1926 года, завяршаючы выступленне, Адам Станкевіч падаў рашучы голас у абарону ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага[56], засуджанага на два гады турмы за беларускую дзейнасць.

Нашы дэпутаты ў той час асабліва не думалі пра абачлівасць, не дбаў пра яе і айцец Адам, таму іншы раз браў на смех увесь парламент – так

у верасні 1926 года прамовіў, што залежны (!) ад урада Сейм вельмі баязлівы, бо добра памятае, як Пілсудскі пагражаў яму, Сейму, бізуном...

Але найбольш святар бараніў правы беларускай школы і царквы, а таксама ж заступаўся і за суседзяў – калі палякі закрылі ў Свянцянах літоўскую гімназію, ён (літвафіл і знаўца літоўскай мовы) шчыра выступіў у лютым 1924 года ў абарону гэтай гімназіі.

Наогул жа, змаганне за сваю школу, за адукацыю на роднай мове, за ўвядзенне самакіравання, за допуск у органы самакіравання мясцовых жыхароў, за справядлівае рашэнне балючага зямельнага пытання, за аўтаномію – было асноўным клопатам для беларускіх дэпутатаў, ці, як тады іх называлі, паслоў...

Палітыкі ж самага высокага рангу цанілі аўтарытэт пасла Адама Станкевіча.

9 кастрычніка 1927 года ў Вільню прыехаў Пілсудскі; ён правёў некалькі нарад, на якіх абмяркоўваліся «рэпрэсіі» ковенскай Літвы супраць польскай меншасці.

Назаўтра, 10 кастрычніка, на гутарку да Пілсудскага быў запрошаны ксёндз Адам – знаўца літоўскіх спраў.

Пілсудскі, безумоўна, ведаў, што тут, у Вільні, праз два дні, 12-га чысла, па справе «Грамады» будзе арыштаваны Антон Луцкевіч.

І, ведаючы гэта, перад тым, як абгаварыць літоўскае пытанне, мог (дазволю сабе такое дапушчэнне) успомніць, нібыта між іншым, знарок не акцэнтуючы на тым увагу, пра асуджанага на турму знакамітага беларускага дзеяча – маўляў, ці можна яму верыць, калі ён заяўляе, што не з’яўляецца кіраўніком «Грамады»?!

Адзначу: ворагі А. Луцкевіча з пэўнымі намерамі навязвалі яму сумніўную ролю правадыра «Грамады» – партыі, якая вяла Заходнюю Беларусь пад сцяг чырвонага Менска; то-бок, з пункту гледжання Варшавы, «Грамада» штурхала грамадзян да дзяржаўнай здрады.

Не разумець небяспеку такой з’явы А. Луцкевіч (грамадзянін Польскай рэспублікі!), вядома ж, не мог, таму заўсёды і ўсяляк адмаўляўся ад навязанага правадырства.

І вось таленавітаму езуіту маршалку Пілсудскаму па гэтаму казусе цікавы быў бы адказ Адама Станкевіча, які заўсёды чуў у А. Луцкевічу свайго непрыяцеля.

Мяркую, шматлікія памочнікі данеслі маршалку, што ў святара найбольш складаныя адносіны менавіта з ім, А. Луцкевічам.

І яшчэ мяркую, – маршалак загаварыў бы з такой адцягненай абыякавасцю, пад уздзеяннем якой і сам д’ябал не здагадаўся б, што паслязаўтра дэфензіва забярэ А. Луцкевіча, таму дзяржаўны сакрэт застаўся б сакрэтам, і святар нічога благога не адчуў бы, а раз так, то і не папярэдзіў бы свайго непрыяцеля, што яму пагражае небяспека.

А можа, маршалак і не спытаўся б пра А. Луцкевіча, і наогул паўсюдная тады праблема «Грамады» пры той сустрэчы, як тэма, магла б і не ўзнікнуць...

Дарэчы, згаданая праблема – гэта не толькі ціск Варшавы, правакацыі Менска і недальнабачнасць Б. Тарашкевіча, які, на жаль, не адразу ўцяміў, адкуль напаўзала большая небяспека – з Усходу ці Захаду.

Праблема «Грамады» – гэта яшчэ і варожасць, злосць сваіх...

«...усялякая перамога Палякоў над хоць-бы якой беларускай арганіза-

цыяй, а значыцца і над такой, як «Грамада», ёсьць перамогаю польскай над Беларусамі, і цешыцца з гэтага зусім не маем патрэбы. «Грамаду» ў інтарэсах беларускай справы трэба перамагчы, але павінны яе перамагчы Беларусы, але не Палякі...»[57]

Вось так, «Грамаду» павінны былі перамагчы не палякі, а самі беларусы – гэтак пісалі свае...

Аднак вярнуся да той сустрэчы, на якой імя А. Луцкевіча як «галоўнага грамадоўца» магло б і не прагучаць.

Перад тым, як абгаварыць літоўскае пытанне, Пілсудскі, памятаючы, што перад ім святар, коратка (ці не коратка!) мог паразважаць на багаслоўскую тэму, скажам, што важней – строга пільнавацца ў касцёле абраду, ці шчыра пільнавацца ў душы веры...

Канечне, гутарку пра веру ксёндз Адам падтрымаў бы, і калі б з вуснаў Пілсудскага не пачуў бы імя А. Луцкевіча, – і нават калі пачуў бы, – то, пагаварыўшы пра А. Луцкевіча, яшчэ прамовіў бы імя і айца В. Гадлеўскага.

Скарыстаўшы такі зручны момант, папрасіў бы выпусціць з-за кратаў В. Гадлеўскага, які знаходзіўся тады ў Макатоўскай турме ў Варшаве...

Я не сцвярджаю, адно кажу «папрасіў бы...», бо не маю дакументальнага сведчання, ці падымаў Адам Станкевіч перад Пілсудскім пытанне пра долю сабрата, ці не, хоць і ўпэўнены: падымаў!

Зрэшты, думаць-уяўляць тут можна па-рознаму, як той казаў, і так, і гэтак, але пакіну гэту цікавую кінасцэну для глыбейшага пісьма будучаму сцэнарысту і дадам: вызвалены па амністыі В. Гадлеўскі ў нядзелю 15 ліпеня 1928 года ранішнім цягніком прыехаў з Варшавы ў Вільню і асталяваўся не дзе-небудзь, а на кватэры ксяндза Адама...

І, бадай, апошняе да сцвярджэння: «...палітыкі самага высокага рангу цанілі аўтарытэт беларускага святара».

У канцы 1939 года Адам Станкевіч, як роўны з роўным, сустракаўся з Антанасам Смятонай[58].

Толькі што Сталін аддаў літоўцам Вільню, і беларусам, якім пашчасціла ўнікнуць маскоўскай апекі, у такой нечаканай сітуацыі было вельмі важна ўсё зрабіць дзеля таго, каб у родным горадзе пры ковенскай уладзе засталіся (ці з'явіліся новыя!) свае інстытуцыі.

Чалавек разважны, Адам Станкевіч умеў весці дыпламатычныя размовы і пераканаў літоўскага кіраўніка ў тым, што ў Гедзімінавай сталіцы павінна захавацца беларуская культурная прастора.

Зразумела, А. Смятона дбаў аб лаяльнасці віленцаў да сябе, таму задаволіў просьбу нашага святара, які, дарэчы, прыхільна ацэньваў далучэнне Вільні да ковенскай Літвы, і зноў жа (падкрэслю!) А. Смятону не магло не спадабацца – паважаны просьбіт звяртаўся да яго па-літоўску.

Магчыма, кіраўнік Літвы памятаў і аб тым, як у лістападзе 1926 года Адам Станкевіч публічна заявіў: у Вільні павінен быць помнік Яну Басановічу[59].

Такая заява пры польскім рэжыме, бясспрэчна, з'яўлялася дружалюбным да літоўцаў учынкам.

Дарэчы, мінулі гады, і бронзавы помнік вялікаму вучонаму ў Вільні паўстаў – і не дзе-небудзь, а на тым месцы, на Вастрабрамскай, дзе некалі знаходзілася кнігарня Станіслава Станкевіча[60]...

Дык вось, пасля гутаркі з кіраўніком Літвы ўзніклі Беларуская пачатковая школа і хор, аднавілася выданне газеты «Крыніца», а пры касцёле святога Мікалая адкрылася прагімназія, якую ўзначаліў ён – Адам Станкевіч.

А яшчэ са снежня 1939 і да лета 1940 года святар кіраваў «Беларускім цэнтрам у Літве» (БЦЛ) – вядомай тады ў Вільні асветнай установай, якая дбала і пра эканамічныя правы нашых людзей...

І сапраўды ж, будзе мець рацыю той рамантык, які ўзнёсла прамовіць:

«Адам Станкевіч умеў мэтазгодна і з карысцю для беларускага ўяўлення размяркоўваць свой час!»

Кожны авалодае такой навукай (мэтазгоднае размеркаванне часу), калі зразумее: улада праўды кароткая, а страху – доўгая; кожны даможацца свайго, калі звыкнецца з думкай: заўсёды нешта ў жыцці павінна быць не так!

## 3. Аднабокі кірунак

Адам Станкевіч – працаўнік, які ніколі не спадзяваўся на манну нябесную і які заўсёды шчыра дбаў аб тым, каб жыло свядомае нацыянальнае пачуццё, якое без ахвярнасці існаваць не магло і, дарэчы, існаваць не можа.

Атуляючы малітвай сялян і мяшчан, святар (чалавек высокай мэты) больш, здаецца, і думаў пра людзей высокай мэты – арыстакратаў духу, людзей самаадданых.

Скажам, вывучаючы дзейнасць Кастуся Каліноўскага[61], ці шлях народавольца Ігната Грынявіцкага[62], ён знаходзіў існае: жыццё – плата за высокую мэту!

Ён і сам быў гатовы да гэтага, і галгофа не мінула яго, але тут адразу адзначу: у сваёй аповесці я далёкі ад таго, каб ружова захапляцца асобай Адама Станкевіча і ствараць з яго ікону.

Ягоны характар і ягоная праца (іншых вялікіх беларусаў таксама!), напісанае ім і сказанае пра яго – не так для пакланення (вядома, для пакланення таксама!), як для разумення (і гэта найперш!): чаму ў нашай прасторы найбольш «...дабро мяшаецца са злом...»[63]?

Чаму пануе бяздум'е і бясконцая крыўдлівасць?

Урэшце – чаму адраджэнская дарога і па сённяшні дзень застаецца з глыбокімі выбоінамі?

Дарогу знішчалі і знішчаюць хітрамудрыя чужынцы, але, праўду кажучы, мы і самі неаднойчы, ахопленыя згубнай гарачкай, на радасць ім, чужынцам, і на шкоду сабе глыбока перакопвалі і перакопваем яе.

Звычка самадурская: «Як не я, то няхай і брат не едзе па ёй...»

Так, магчыма, умеем ладзіць, толькі, здаецца, усё ж такі больш умеем сварыцца, нібыта сварка лепей рухае кроў у жылах!

Маючы завышаную самаацэнку, мала верым (а то і зусім не верым!) сваім, больш падазраем іх, – і так амаль заўсёды, у любую часіну звыкла пэцкаем дзёгцем вышыты чырвоным колерам белы ручнік.

Скажам, калі ў верасні 1933 года Францішак Аляхновіч вярнуўся з Салаўкоў, то злаязычнікі адразу пастанавілі: ён – камінтэрнаўскі агент!

Пастанавілі, зразумела, найперш тыя падкіраўнікі, якія любымі сродкамі выбіваліся ў кіраўнікі, часам выбіраючы дзеля таго слізкі, але самы кароткі шлях – канкурэнтаў трэба тапіць!

Выходзіць, і ў салавецкім пакутніку Францішку Аляхновічу ўбачылі суперніка...

На выбоістай дарозе спакою не было, – амаль усе люта сварыліся, адзін на аднаго казалі ўсякае ліха, за ўсялякую драбязу пагражалі судом, а то і

абвінавачвалі адзін аднаго ў сувязях з тайнымі службамі і забягалі ў такія змрочныя куты, апыналіся ў такіх нетрах, што нават 25 сакавіка святкавалі паасобку – Цэнтрасаюз[64] ладзіў гэты ўрачысты дзень сабе, а хадэкі сабе.

А потым у газетах (Цэнтрасаюз у «Беларускім звоне»[65], хадэкі ў «Беларускай крыніцы») лаяліся гэтак, што ажно гай гуў, і выходзіла: хто ні гаварыў – той і падманваў!

А лепей бы маўчалі, бо наогул жа чалавек багата чаго не павінен гаварыць і пра сябе, і пра людзей, аднак жа пачыналі гаварыць і тым самым рабілі прыкрасці, якія таілі ў сабе небяспеку.

Пераважна дзеці сялян, людзі выхавання простага, таму ў кожнага язык моцна свярбеў, каб адно пажадаць свайму ворагу: «Ах, каб ты дня не дачакаў!»

Дарэчы, польскамоўныя выданні («Кур'ер Віленскі», напрыклад) адзначалі згубную завядзёнку нашых перыёдыкаў – у спрэчках не шкадаваць праціўнікаў, у сварках – агідна зневажаць.

Зазначу: і «Беларускі звон», і «Беларуская крыніца», і тая ж «Сялянская ніва», цытаты з якой ужо прыводзіліся, былі вельмі патрэбныя, яны друкавалі шмат карыснага для народа, аднак жа поўніліся і пасквілямі, у якіх зазвычай кропля праўды знікала ў цэбры хлусні.

Ананімныя аўтары (зрэшты, і тыя, якія не хавалі сваіх імёнаў!) часам не пільнаваліся аніякіх нормаў паводзін, таму чытаць іхнія допісы непрыемна.

Але што зробіш, у нас яно гістарычна так – калі ўжо не біркі, то ці гузікі з гаплікамі расшпільваць – усякі раз адно і тое ж, таму з веданнем такім і пайду ад выняткі да выняткі...

«Беларуская Крыніца» – орган вядомага ўсім кс. А. Станкевіча апошнімі часамі аж пеніцца ад бязсільнае злосьці... «Беларуская Крыніца» сталася цяпер – бруковай шкумацінай. Кожны нумар гэтае шкумаціны запаўняецца выключна плёткамі, якія творацца на шляху: ад Людвісарскай[66] да Мікалая[67], ад Мікалая да Полацкай[68]... Замест высокае палітыкі лепш, «высокопаважаны» Адаме, зьвярні ўвагу на тую клёаку, якую завёў на Полацкай[69]...»[70]

Такое пісанне цярпець яшчэ можна было, але надыходзіла крайняя гадзіна, а яна часта надыходзіла, і ўжываліся недаравальныя прыёмы:

«...Адам Станкевіч... у часе барацьбы польскага ўраду з Грамадой даставаў ад польскіх уладаў – праз пасярэдніцтва пасла Ярэміча – па тры тысячы злотых месячна на друкаваньне «Сялянскае Нівы» дзеля таго, каб «дабіваць» Грамаду... Станкевіч разам з Ярэмічам і Рагуляй[71] так шчыра паслужылі за гэтыя грошы, што ня толькі цішком, але і публічна данасілі на быўшага тады яшчэ на волі грам. Луцкевіча, як на «камуніста», і дабіліся таго, што грам. Луцкевіч быў арыштаваны і суджаны разам з Грамадой, а пракурор у сваім абвіненьні карыстаўся якраз гэнымі публічнымі, да таго-ж сьвядома ілжывымі даносамі...»[72]

Тут пад «...публічнымі... даносамі...» «Беларускі звон» меў на ўвазе перш за ўсё артыкул пасла В. Рагулі «Раскрытыя карты», які з'явіўся ў «Сялянскай ніве» ў траўні 1927 года.

Адвакат К. Петрусевіч на «Працэсе 56-ці» заявіў, што падпракурор Р. Раўзэ, абвінавачваючы А. Луцкевіча, карыстаўся артыкулам «...палемічнага беларуса новай фармацыі Рагулі...»[73]

Артыкул В. Рагулі, трэба сказаць, даволі цёмны, пра яго яшчэ згадаю, а пакуль што зраблю акцэнт на пытанні: ці верылі чытачы такой «праўдзе»

пра Адама Станкевіча, асабліва тыя чытачы, вернікі, якія прыходзілі ў касцёл святога Мікалая слухаць свайго ксяндза?!

А раптам верылі, думаючы: «О, дык тут выйшла наверх, што ён злодзей...»

Зрэшты, пытанне маё дакладнага адказу мець не можа...

А газетная вайна між тым доўжылася, ніколі не заціхала...

«...У працягу значнага часу... орган кс. Адама Станкевіча «Беларуская Крыніца»... (друкаваў. – *Л. Д.-М.*) няпраўдзівыя ведамасьці аб розных... выдуманых грамадзка-палітычных праступленьнях грам. Луцкевіча, чалавека, што ўсё сваё жыцьцё пасьвяціў справе Беларускага Народу.

Сярод гэтых несправядлівых нападаў, найнягоднейшым было фальшывае ўдаваньне грам. А. Луцкевіча ў тым, што быццам быў ён арганізатарам і кіраўніком зьліквідаванай «Грамады»...»[74]

У раздзеле «Жыццё без адпачынку» я пісаў: А. Луцкевіч усяляк адмаўляўся ад навязанага правадырства і неаднойчы заяўляў, што не ствараў «Грамаду» і не ўзначальваў яе (яго заявы, як ужо гаварылася, даходзілі нават да самога Пілсудскага), аднак намёкі шырыліся – маўляў, грамадоўскія паслы на чале з Б. Тарашкевічам амаль кожнае сваё рашэнне ўзгадняюць з ім, А. Луцкевічам[75].

А іншы раз і без ніякіх намёкаў – адкрыта гучала: А. Луцкевіч «...кіруе «Грамадой» – беларускай партыяй...»[76]

У адказ прымаліся нястрымныя звароты:

«...Гэтае і да яго падобнае фальшывае ўдаваньне не магло не прычыніцца да арышту 12.X.1927 г. грам. А. Луцкевіча польскай уладай, чым быў нанесены ўдар Беларускаму Нацыянальнаму Руху.

Ганьба правакатарам, што дзеля сваіх асабістых мэтаў сьвядома-фальшыва ўдавалі ідэйнага павадыра Беларускага Руху!..»[77]

У прыведзеным звароце правакатарам называецца не толькі Адам Станкевіч (Ф. Ярэміч і В. Рагуля таксама, а яшчэ і А. Більдзюкевіч[78]), аднак жа яму, айцу А. Станкевічу, як значнай постаці, даставалася найбольш.

Скажам, паводле «Беларускага звону» святар асабістае ўзвышае над нацыянальным, а ягоная «Крыніца» – атручаная, і сам ён у палітыцы смешны «айцец Адамскі (у міры Полацкі)»[79]; так, ён – «незалежнік», але толькі не беларускі, а літоўскі, бо родную Беларусь і родную Вільню хацеў аддаць пад уладу ковенскай Літвы.

Як правадыра хадэцыі яго вінавацілі ў зламысным жаданні падзяліць Беларусь, – ухапіліся за цытату з «Крыніцы» (ад 26 чэрвеня 1921 г., № 20):

«...Незалежная Літва (магчыма з найбольшай беларускай тэрыторыяй) са сталіцай у Вільні... – вось разьвязка Віленшчыны...»[80]

А яшчэ святару закідалі і тое, што сваёй палітычнай дзейнасцю ён раз'ядноўвае, разбурае цэласнасць у нацыянальным руху і тым самым адыгрывае фатальную ролю, бо нішчыць рух; прычым сцвярджалася: раз'ядноўвае беларусаў не толькі ў Польшчы – у Латвіі таксама.

Добра, што хоць на планетах Марс і Месяц гэтым не займаўся!

У сваёй нелюбові да айца А. Станкевіча (і наогул да людзей у сутанах!) «Беларускі звон» заходзіў далёка, пісаў у недапушчальным тоне, скарыстоўваў часам тыя выразы, якія цяжка вымавіць уголас – напрыклад, абзываў святара «зласьлівым шкоднікам»[81], а то і «...нацыянальным шкоднікам...»[82]

Пераемнік «Звону» «Родны край» доўжыў небяспечны словаспад:

«...як слабелі атакі на беларускія гімназіі... камуністаў, барацьбу з беларускімі школамі пераняла Хадэцыя... хадэкі карысталіся... даносамі... Павадыр Хадэцыі кс. Станкевіч падаў руку ведамаму “дэфэнзыўнаму” дзеячу Акіньчыцу[83]...»[84]

Гэта «публіцыстыка» 1930-х, аднак жа аб тым, што хадэкі звязаны з дэфензівай і змагаюцца з нашымі школамі, пісалі ў сярэдзіне 1920-х, таксама не прыводзячы пераканаўчых доказаў, і грамадоўскія выданні.

А ў той час (ды, відаць, і ў нашы дні?!) друкаванае слова моцна ўплывала на даверлівыя душы.

Пэўна ж, пад уплывам прачытанага неабачлівыя грамадоўцы, збіраючыся ў гуртках, брыдка гаварылі пра каталіцкіх святароў і зусім па-дзіцячы не дбалі аб тым, што амаль у кожным такім гуртку аціраецца канфідэнт.

У выніку іхнія выказванні тут жа даходзілі да паліцэйскіх вушэй і нават узбагачалі змест пракурорскіх абвінавачанняў.

Вось, напрыклад, якое сцвярджэнне прагучала з вуснаў Р. Раўзэ ўсё на тым жа «Працэсе 56-ці»:

«...Валошын[85] гаварыў гэтак: “Розніца паміж ксяндзом і паліцыянтам толькі ў адным – першы мае крыж, а другі зброю...”»[86]

Сумна, але трэба шчыра прызнаць: малады заходнебеларускі лагер, не ўмацаваўшыся, даў расколіну, і ці не ўсе ў гэтым лагеры трацілі спакой.

Так, чалавек разважны, але ў гневе – палітык Адам Станкевіч таксама траціў спакой.

Справядліва ўгадваючы ў газетных несамавітых нападках свайго антыпода А. Луцкевіча, плаціў яму тою ж манетай – атэставаў пазіцыю апошняга як «...звычайнае лгарства, ці правакатарства...»[87]

Відаць жа, не аспрэчваў і тое, што «паланафіл» А. Луцкевіч і ягоныя паплечнікі з Цэнтрасаюза абіваюць парогі аддзела бяспекі Віленскага ваяводства[88].

Святар быў перакананы: А. Луцкевіч як адзін з кіраўнікоў Цэнтрасаюза (арганізацыі, мэта якой наладзіць адносіны з дзяржаўным кіраўніцтвам) з’яўляецца стаўленікам Варшавы і наогул імкнецца стварыць адзіны польска-беларускі фронт.

Каб яшчэ і сатырычна завастрыць надуманае, «Крыніца» пісала: А. Луцкевіч знаходзіцца на беларуска-польскім сметніку.

Палітычная смерць працаўніка дае свабоду малоць любую лухту, а раз так, то мэта сатыры зразумелая: наблізіць гэту смерць.

Зрэшты, можна й не набліжаць, разносячы глупства адразу: маўляў, А. Луцкевіч «...цераз пасярэдніцтва дэфэнзыўшчыка Ваявудзкага[89] прадаваў інтарэсы... народу...»[90]

Як бачна, і той, і гэты бок абвінавачвалі адзін аднаго перш за ўсё ў кантактах з тайнай паліцыяй: наносілі самы цяжкі ўдар.

Тут варта адзначыць і наступнае: Адам Станкевіч паслядоўна замоўчваў той неаспрэчны факт, што А. Луцкевіч з’яўляецца стваральнікам гістарычнага Акта 25 сакавіка, што «...калі абвяшчалася незалежнасць Беларусі, у той зале, дзе засядала Рада БНР... хадэкаў не было...» (А. Сідарэвіч).

У кніжцы «Да гісторыі беларускага палітычнага вызвалення»[91] айцец А. Станкевіч згадвае А. Луцкевіча толькі як дзеяча, які ўвесь час кіраваўся польскімі інтарэсамі[92].

А іншыя нават ішлі далей:

«Пасьля таго, як была абвешчана незалежнасьць Беларусі, дык польскі

ўрад прэтэндуючы на яе – ніяк ня меў адвагі адкрыта скасаваць Беларускую Свабоду, яму неабходна трэ' было зрабіць гэта ўскосным шляхам і вось, угаварыў тагачаснага Старшыню Беларускай Рады Міністараў А. Луцкевіча, каб ён узяўся за гэта. У гэтых мэтах А. Луцкевіч прыехаў з Парыжа, дзе ён быў на эміграцыі (?) і ўзяўся праводзіць палёнафільскую палітыку...»[93]

Аказваецца, А. Луцкевіч у 1919 годзе ў Парыж проста эміграваў, а не прыехаў ад імя Беларусі ўдзельнічаць у мірнай канферэнцыі!

Вось так «Сялянская ніва» ўводзіла чытачоў у небяспечны зман, па сутнасці даводзячы: Антон Луцкевіч і не ствараў нашу дзяржаву, а зусім наадварот – знішчаў яе!

«Сялянская ніва», скажам, ведала (не магла не ведаць, бо аб тым паведамлялася[94]), што 1 лістапада 1920 года ўлада[95] арыштоўвала Антона Луцкевіча як аўтара антыпольскай (!) брашуры[96], аднак усё адно А. Луцкевіч заставаўся для газеты «палёнафілам».

«Сялянская ніва» падрывала аўтарытэт выдатнага палітыка, называла яго каралём маны і хворым шляхціцам, які хаваецца «...за плячмі іншых асоб...»[97]

Гэтак бэсцілі чалавека, які перад любой уладай (царскай, кайзераўскай, бальшавіцкай, сярэднелітоўскай, бельведэрскай) стаяў на сваім, аднак жа мусіў слухаць пра сябе яшчэ і большую абразу і лаянку.

Даходзіла й да такога: А. Луцкевіча дакаралі, што ў студзені 1927 года ён не быў арыштаваны па справе «Грамады», а калі ў кастрычніку таго ж года ён усё-ткі апынуўся ў астрозе на Лукішках, то зрабілі акцэнт: арыштаваныя грамадоўцы «...прасядзелі шмат больш у вастрозе за Луцкевіча...»[98]

Але ў змроку непрымірымай варожасці артыкул В. Рагулі «Раскрытыя карты», здаецца, перасягнуў немагчымае – сярод іншага прагучала абвінавачанне і ў фінансавых злоўжываннях!

У апавяданні «Не знаць перад карай страху»[99] я пісаў, як сціпла жыў А. Луцкевіч; калі ў верасні 1939-га яго забіралі сталінскія малойчыкі, ён меў на руках толькі 24 злотыя, – як і ягоны брат Іван[100], не паклаў у сваю кішэню з грамадскіх грошай ніводнай капейкі.

Арыстакратам беларускае думкі назваў А. Луцкевіча пастар Ян Пятроўскі[101], але штó нейкія там арыстакраты «беларусу новай фармацыі» мужыку В. Рагулю, калі ў сэрцы мужыка не чулася павагі...

У маладым заходнебеларускім лагеры сварка і разлад прайшлі праз усе адведзеныя гісторыяй скупыя гады; удзельнікі руху дзялілі не грошы, маёмасць і славу, а перш за ўсё мелі розныя светапогляды.

Шырокі ў сваім кругаглядзе А. Луцкевіч, скажам, хваліў Леніна і цаніў Кальвіна[102], які сваімі навучаннямі па-сутнасці стварыў падмурак для капіталізму; Адам жа Станкевіч вышэй за Кальвіна, капіталізм і Леніна ставіў Ісуса Хрыста.

Айцец А. Станкевіч лічыў: палітыка, якую праводзіў А. Луцкевіч і, напрыклад, падпольны камуніст Б. Тарашкевіч, мяжуе з небяспечным летуценнем, з авантурызмам; нацыянальная работа не павінна адыходзіць ад хрысціянства.

Зрэшты, біліся нават не за ідэі, бо ідэя была адна – Беларусь; кожны біўся за свой партыйны гурт; нястомна, бясконца змагаліся за лідарства, хацелі пад свой уплыў узяць нацыянальны рух – словам, амаль кожны прагнуў забраць у свае рукі справу.

І тут, шчыра скажу, Адам Станкевіч мог бы адысці ўбок, таму што і

па ўзросце, і па вопыце грамадскай дзейнасці, і па зробленым, і па дзяржаўных здольнасцях, і па вядомасці ў Еўропе Антон Луцкевіч – лідар беларускага Рэнесансу[103] – меў большае права быць адзіным кіраўніком нашага руху ў міжваеннай Польшчы.

Нават і дробныя факты на карысць маёй думкі: напрыклад, у 1922 годзе на агульным сходзе адбыліся перавыбары ва ўрад БНТ – за Антона Луцкевіча было пададзена 19 картак, за Адама Станкевіча толькі 14[104]...

Аднак Юліяна Вітан-Дубейкаўская[105] сведчыла, што Антон Луцкевіч «...не меў кіруючых уздальненняў і пачуцця ў палітыцы...»

А Паўліна Мядзёлка[106] ў сваіх успамінах наогул стварыла непрывабны партрэт:

«...спецыяльнасцю Антона Луцкевіча было распраўляцца з "инакомыслящими" метадам аблівання чалавека граззю...»[107]

Зрэшты, не толькі мужчынам – і яркім жанчынам уласціва аднабокасць ацэнак...

У 1937 годзе ў артыкуле «У аспекце сацыяльнай справядлівасці» Адам Станкевіч вызначаў:

«...агулам няможна згадзіцца з усякім аднабокім кірункам чалавечай думкі...»[108]

Правільна вызначаў, аднак жа (вольны ад прагнасці!) часта згаджаўся з такім кірункам.

## 4. Адрас: места Вільня, вуліца Полацкая, дом 9, кватэра 4

Не ведаю, ці жыла рэдакцыя «Сялянскай нівы» паводле засцярогі: дзейнічаць трэба так, каб не нарабіць сабе ніякай шкоды!

Аднак жа рэдакцыя думала, здаецца, пра сваё імя, дбала аб рэпутацыі, таму, не пакідаючы ваяваць з «Грамадой», іншы раз лічыла патрэбным удакладніць (то-бок, звярнуць увагу простага люду, а найперш, мяркую, улады), што «...ў ніводным сваім нумары не пісала, што "Грамада" ёсьць фактычна камуністычнай арганізацыяй...»[109]

Так абачліва рэдакцыя адказвала польскамоўным віленскім публіцыстам, якія сцвярджалі – маўляў, такія выданні, як «Сялянская ніва» («Крыніца» таксама!), ці не ў кожным сваім нумары гавораць пра «Грамаду» менавіта, як пра арганізацыю камуністычную.

Намёкі пра гэта на старонках «Сялянскай нівы» траплялiся, але паколькі паняцце «камунізм» было на падазрэнні ў Варшавы, то рэдакцыя па-дзіцячы капрызіла: адчапіцеся, панове, не лічыце нас даказчыкамі, нагаворшчыкамі, мы ні на што не намякалі...

Камуністы вадзілі за сабою небяспеку.

З даследаванняў пра Заходнюю Беларусь можна даведацца аб тым, што камуністы заклікалі да байкоту ўрадавых устаноў, польскамоўных школ, вайсковай службы, а таксама заклікалі не плаціць падаткі.

Яны высмейвалі і хадэкаў: «Вы толькі марыце пра дадатнае развязанне нацыянальнага пытання, а ў БССР гэтае пытанне ўжо вырашаецца!»

Пад іхнім уплывам частка насельніцтва павалі схілялася да левых поглядаў, і хадэкі лічылі – гэта прывядзе да бяды...

Адам Станкевіч добра ведаў, чаго вартыя апантаныя паслядоўнікі Леніна-Сталіна, аднак жа не пазбягаў іх, нават прымаў у сваім доме.

Дарэчы, пра ягоны дом...

У прыгожа выдадзеным альбоме-даведніку[110] я прачытаў: ксёндз Адам Станкевіч жыў на вуліцы Полацкай у доме 9.

На фота ўбачыў – жоўты атынкаваны будынак, першы паверх якога падзелены цеснай (толькі легкавушцы ўехаць) аркай; злева ад аркі – дзверы і два акны, і справа – дзверы з двума вокнамі.

Над аркаю, на другім паверсе, квадратны вялікі балкон, застаўлены вазонамі і аздоблены фігурнай агароджаю травяністага колеру.

Па абодва бакі ад балконных дзвярэй значылася па тры акны, а завяршаўся будынак даволі адметным у форме лука франтонам з датаю ў крузе – 1938...

З даху ад франтона, абдымаючы і балкон, і арку, спускаліся да ходніка дзве пагнутыя бляшаныя вадасцёкавыя трубы.

На нейкім сайце (шкада, не запомніў на якім) коратка бліснула інфармацыя: каб трапіць у кватэру айца А. Станкевіча, у арцы трэ павярнуць налева і націснуць на агульных дзявярах кнопку з лічбаю чатыры.

Гэты адрас (Полацкая 9–4) неаднойчы згадваецца ў архіўным крэмзанні чэкістаў: скажам, у тым жа пратаколе допыту // kvotos protokolas, пісаным на літоўскім бланку 9 снежня 1944 года[111].

А вось у ордэры на арышт ад 11 красавіка 1949 года адрас удакладнены: Полацкая, А9, кв. 4[112].

Удакладненне «А9» з'явілася, здаецца, толькі ў гэтым дакуменце – прынамсі, у іншых паперах я ніякага «А» ля дзявяткі не бачыў...

Спачатку падумалася, што гэта ўсё ж не літара «А», дарэчы, вельмі выразна ўчарніленая, а значок №, які зазвычай ставяць заместа слова «нумар», аднак Зоф'я (гаворка пра гэту жанчыну ў наступным раздзеле) пацвердзіла: была і нумарацыя з літарай «А»...

Дык вось, на Полацкую 9–4 завітвалі самыя розныя госці, часам і рызыканты, за якімі сачыла паліцыя (тыя ж дзеячы КПЗБ[113], напрыклад), і тады гаспадар Адам хваляўся, ці не прывялі яны за сабою агентаў дэфензівы?!

Тут бывалі Рыгор Шырма[114] і Валянцін Таўлай[115], а восенню 1939-га (пасля 17 верасня!) забягаў Алесь Кучар[116].

Заходзіў і Максім Танк[117]...

1 жніўня 1944 года ён пісаў у дзённіку:

«Наведаў[118] ксяндза Адама Станкевіча. Кіра[119] расказвала, што ён уратаваў ад расправы групу камсамольцаў і памог вызваліць з нямецкіх лап В. Таўлая. У айца Станкевіча застаў Янку Шутовіча[120]. Вельмі цёпла яны мяне сустрэлі, хоць і адчувалася ў іх нейкая трывога, разгубленасць: што будзе з імі? І не дзіва, бо за кватэрай сачылі. Калі я чытаў ім сваю паэму «Янук Сяліба», у пакой уварваўся нейкі тып, каб праверыць у прысутных дакументы, але маё пасведчанне змусіла яго рэціравацца. Развітаўшыся з А. Станкевічам і Я. Шутовічам, я і сам падумаў, што сітуацыя складаная і невядома, што іх чакае...»

Максім Танк меў пасведчанне, падпісанае П. Панамарэнкам[121], і як толькі мог, дапамагаў, каму пагражала небяспека.

Але сілы і магчымасці паэта, на жаль, былі абмежаваныя – праз некалькі месяцаў, у лістападзе, тайная паліцыя саветаў забрала і А. Станкевіча, і Я. Шутовіча.

Пра астрожны лёс айца А. Станкевіча падрабязнае апавяданне чакае

наперадзе, а Янка Шутовіч, пасаджаны за калючы дрот на дзесяць гадоў, вярнуўся з Караганды ў родную Вільню толькі ў 1956 годзе...

Мусіць жа, каб хоць крыху развеяць трывогу, яны папрасілі што-небудзь прачытаць, і паэт разгарнуў «Янука Сялібу»:

На скрыжаванні палявых дарог
Здаўна стаіць сяло Чырвоны Лог.
На ўсход – падковай векавечны бор,
На захад – край імшараў і балот,
Дзе ў тоні таямнічыя азёр
Глядзяцца толькі неба ды чарот...

Пра першую паэму Максіма Танка «Нарач» Адам Станкевіч напісаў артыкул, той самы – «У аспекце сацыяльнай справядлівасці», – у якім назваў аўтара «Нарачы» найвыдатнейшым стыхійна беларускім паэтам[122].

На допытах у студзені 1945 года айцец А. Станкевіч згадваў Максіма Танка і не толькі яго – гаварыў пра свае сустрэчы з Кучарам, Шырмам, Таўлаем, вядома ж, спадзеючыся, што ягоныя адносіны з камуністамі яму дапамогуць[123].

Ратаваўся, як той казаў, на гвалт...

## 5. Зоф'я

Адрас – места Вільня, вуліца Полацкая, дом 9, кватэра 4 – часам я прамаўляў самому сабе, як вершаваны радок, і пры гэтым, без ніякага пафасу ўжываючы высокія словы, уздыхаў: «Адам Станкевіч служыў народу, будаваў родную прастору, аднак жа народ, вечна заняты сваімі неадольнымі клопатамі, амаль не заўважаў ні ягонага служэння, ні ягонага будавання...»

Утаймоўваючы ў душы такую горкую выснову, мяккім надвячоркам 6 жніўня 2015 года зайшоў у цесную запаветную арку, міжволі адзначыўшы: «І праўда, сюды можа праціснуцца толькі легкавушка...»

І яна (форд), нібы для доказу гэтага, услед за мной і праціснулася.

Я саступіў убок.

Бліснуўшы літоўскім нумарам FHC 174, форд марудна праехаў у двор, а я з трывожнай радасцю ў сэрцы націснуў на выслізганую металічную кнопку «4».

Адказу не было, я пачакаў крыху, абцягнуў на сабе сваю вандроўную камізэльку, націснуў на халодную кнопку яшчэ раз і зноў займеў тое ж – ні гуку.

Я не траціў надзеі, падбадзёрыўся, нават па-птушынаму прысвіснуў, пэўна ж, натхнёны гэтым празрыстым надвячоркам, аднак і на трэці мой званок ніхто не адгукнуўся.

З аркі яшчэ не выветрыўся аўтамабільны дымок...

Настроены злёгку на філасофскі лад (адчыняць – будзе добра, не адчыняць – таксама ж нічога благога не здарыцца) – словам, ніякай прыкрасці не адчуў, але ж нечым хоць на хвіліну якую трэ было сябе заняць, і я ўспомніў, як перад гэтым, удзень, спускаўся з Вялікай Пагулянкі[124] на Завальную[125] і ад рускага (у мінулым – польскага) тэатра паўглядаўся ў бачную далячынь; ад франтона францысканскага касцёла вачыма павёў да вежаў касцёла Місіянераў і спыніў позірк на кароне Казіміра[126].

З месца, з якога глядзеў, закінутыя і ўчарнелыя ад часу вежы касцёла

Місіянераў выглядалі ссунутымі адна да адной, нібыта і гэтым сведчылі – каталіцкая царква неаддзельная ад вернікаў.

І вось, стоячы ў арцы і, здаецца, марна чакаючы, што з кватэры №4 пададуць голас, я, як і ўдзень, паўглядаўся – гэтым разам у блізкую глыбіню двара, туды, дзе спыніўся форд.

Бліжэй да аркі двор быў пакрыты асфальтам, далей – вымашчаны (ці не мікашэвіцкай!) пліткай, якая даходзіла да прысадзістага неатынкаванага двухпавярховага дома з шасцю дахавымі вокнамі і з уваходам пад аблезлым бляшаным брылём, падобным на ўваход у старасвецкую мукамольню.

Дом быў складзены з цэглы ядавіта-жоўтага колеру, з якой у самым пачатку XX стагоддзя ўзвялі і славутую Лукішскую турму, і гэта значыла: дому сама меней гадоў сто, але дахавыя вокны на ім надбудавалі ўжо ў наш сайдзінгавы час.

Зусім блізка шумела рачулка Вільня, яна ж – Вялейка і яна ж – Вілейка...

І вось адтуль, з-за дома, ад рачулкі раптам з'явіліся дзве жанчыны – маладзейшая і старэйшая; размаўляючы па-руску, яны падступілі да ўвахода.

Я тут жа прайшоў у двор, прывітаўся і, махнуўшы рукой на маўклівыя дзверы ў арцы, звярнуўся да маладзейшай:

– Ці жывуць у чацвёртай кватэры?

– А вы спытайцеся ў цёткі Зоф'і, яна ведае ўсё! – прыязна адказала маладзейшая, паказала на сваю старэйшую кампаньёнку, развіталася з ёю і знікла ў пад'ездзе.

Цётка Зоф'я (жыццёвага выгляду жанчына) мякка ўсміхнулася мне – яна была ў свабодным хатнім халаце і, здавалася, пахла агародам; ёй (няцяжка было заўважыць!) вельмі спадабалася, што маладзейшая сяброўка сказала пра яе: «Цётка Зоф'я ведае ўсё!»

Я назваўся, паясніўся, што хачу, і жанчына ахвотна завяла са мной гаворку, папрасіўшы звяртацца да яе проста – Зоф'я...

Мяне чакаў поспех, – Зоф'я чула пра ксяндза Адама Станкевіча, і не толькі чула, а з сынам жыве ў ягонай кватэры!

Я ўзрадаваўся, не мог не ўзрадавацца, і тут жа даведаўся, што патрэбная мне кватэра знаходзіцца не ў тым доме, які фасадам выходзіць на Полацкую і ў які я так і не патрапіў, а ў гэтым, у двары, ля якога стаім.

– Вось мая кватэра... Маё жыллё! – Зоф'я паказала на чатыры акны з сучаснымі шклопакетамі на першым паверсе справа ад мукамольнага ўвахода.

Першыя два акны ад ганка – кухонныя, паміж імі са сцяны на двор выходзіла пр́одуха-трубка.

Я спытаў пра нумар будынка.

– Дзявяты...

– І той дзявяты, і гэты?!

– Некалі яны належалі аднаму гаспадару, таму й маюць аднолькавы нумар.

– А быў жа яшчэ будынак А9?! – мне ўспомніўся ордэр на арышт.

– Быў! – пацвердзіла Зоф'я. – Ён стаяў у тым вось кутку і выходзіў на Полацкую. У ім жылі дзве манашкі. Таго дамќа даўно ўжо няма.

Я паглядзеў на «той вось куток», на які паказала жанчына, і падумаў: «Выходзіць, тады, у красавіку 1949-га, сталінскія злачынцы спачатку прыйшлі да манашак і толькі там і ўцямілі, што ў ордэры пазначаны не той дом, таму ў іншых сваіх паперах ужо ніякага «А» перад лічбаю «9» не ставілі...»

– А нумар вашай кватэры чацвёрты?
– Не, не чацвёрты, а восьмы...
– Восьмы?!
– Так, восьмы... Нумарацыю змянілі пры Хрушчове...
«Таксама цікава!» – здзівіўся моўчкі і, зусім не саромеючыся, напрасіўся ў госці.
Быў ужо ўпэўнены, – Зоф'я не адмовіць.
Мне спадабалася яна – невысокая, чарнявая і, здаецца, дружалюбная, а галоўнае – па-добраму гаваркая; за свой немалы век (бачна было!) жанчына спазнала, што такое жыццё і нялёгкае шчасце сваё ляпіла не з чужой, а сваёй гліны.
Пасля верасня 2009 года, калі я пахаваў маці, такія сталага веку жанчыны ўсё часцей пачалі нагадваць мне (голасам, рухавасцю, спакоем, вачыма, нават маўклівай прысутнасцю!) тую незваротную пару, якая імянуецца шчаслівым нязмоўчным дзяцінствам.
Я не памыліўся, – мне не адмовілі.
– Калі ласка, заходзьце, я не баюся гасцей! – Зоф'я паказала на ганак.
У мяне пацяплелі грудзі, – на хвіліну па-юнацку здалося нават, што зараз пашанцуе зазірнуць у нешта вельмі блізкае да таямніцы.

## 6. У кватэры Адама Станкевіча

Мы ўвайшлі ў пад'езд, адначасова асветлены электрыкай і надвячоркавым бляскам.
З левага боку на другі паверх вяла колішняя жалезная лесвіца з высокімі парэнчамі і адламанымі паміж прыступкамі фрагментамі ўзорнага ліцця, а проста перад намі з правага боку віднеліся старадаўняй работы дзверы.
Па цэментавых сходах пад'езда мы падышлі да іх – масіўных, маркоўнага, ці, праўдзівей, буравата-цаглянага колеру, з лічбай «8» на правай дзверыне, на чатырох надзейных завесах і двума электрычнымі званкамі.
На пабеленай сцяне, бліжэй да лічбы «8», чарнеў званок з чырвонай кнопкай для выкліку Зоф'і, а на левым вушаку, амаль у самым кутку, бялеў званок з чорнай кнопкай для выкліку Зоф'інага сына.
Пра гэтыя званкі (няхай сабе й асобныя для родных людзей у адно жытло) можна было б і не згадваць, не такое ўжо гэта й дзіва, – сыны ж і дочкі не заўсёды любяць матчыных ці бацькавых гасцей і наадварот, – але як тут не згадаеш пра іх, калі пад Зоф'іным званком было яшчэ адно гукавое прыстасаванне (цудоўны працяг тэмы!) – ручны званок, які застаўся ад дзён Адама Станкевіча, і ён – сусед электрычных – дзейнічаў!
Трэба думаць, на яго Зоф'ін сын не адгукаўся, таму з дазволу гаспадыні я далікатна пацягнуў за пафарбаваны ў белы колер гузік жалезнага стрыжня, які навылёт праходзіў праз усю сцяну, і там, за дзвярыма, адразу ж паслужліва здрыгануўся падвешаны на ланцугу звонік, і па кватэры пабегла чутнае званенне.
Ці не гэтак званілі айцу А. Станкевічу ў тыя трывожныя часы і свае, і чужыя...
Захавалася і яшчэ адна колішняя прылада – кавальскай работы падстаўка для газавай лямпы.
Прыўзнятая над падлогай недзе на метр і прымацаваная ў левым кутку

ад дзвярэй паміж вушаком і бляшанымі блакітнага колеру паштовымі скрынкамі, падстаўка гэтая святлела, як сапраўдная музейная рэч!

Менавіта музейная!

На нейкае імгненне пад'езд уявіўся мне жывой істотай, якая валодала гандлярскай хітрасцю, таму ўмела паказаць свой тавар лепшым бокам, як і ўмела сказаць у вочы праўду...

Зоф'я тым часам адчыніла дзверы, за якімі цямнелі яшчэ адныя дзверы, паміж сабой надзейна злучаныя доўгай трывалай зноў жа кавальскай работы зашчапкай.

Жытло складалася з трох прасторных пакояў і мела высокую столю; у кожны пакой вялі такія ж, як і ўваходныя, старыя і моцныя, толькі пакрытыя белай фарбаю, дзверы.

Іх, дзякуй Богу, за доўгія дзесяцігоддзі не памянялі, яны засталіся ад айца А. Станкевіча.

З таго часу таксама засталася і выдатная (дошкі-пяцёркі!) роўная, без ніякіх шчылін падлога (яна пад нагамі і не думала рыпець!); захаваліся й дзве белыя кафляныя грубы з адмысловым шакаладным дэкорам пад самай столлю, і цагляная пліта на кухні з арнаментнымі каласамі на ўзорыстых верхніх большых і ніжніх меншых дзверцах – тры буйнейшыя злакі аздаблялі верхнія, а драбнейшы каласок ажыўляў ніжнія дзверцы.

А завяршаў гэтую кухонную печ кафляны комін-выцяжка ў форме куба...

З таго часу дайшлі і дзве адзежныя васковыя па афарбоўцы шафы, – адна з іх як быццам выхвалялася вялікім, амаль да самай падлогі люстэркам.

Агледзеў я і ссунутыя дзве кніжныя шафы колеру цемнаватага жолуда; Зоф'я паясніла: адна з іх – падарунак Янкі Шутовіча сваёй сястры Марыі, якая служыла ахмістрыняй у Адама Станкевіча.

Вось як – сястра Янкі Шутовіча вяла тут хатнюю гаспадарку!

І я ўспомніў словы Кузьмы Чорнага[127]:

«...Гэтая жанчына вельмі прыемная асоба, тыповая яшчэ нашаніўка...»[128]

Далей напішу пра той трывожны клопат, які прывёў Марыю Шутовіч да Кузьмы Чорнага, а пакуль вярнуся да свайго агляду.

Архіўна падрыхтаваны, я згадаў, што ўсяго было пяць кніжных шаф.

Існуе вопіс арыштаванай маёмасці, складзены на літоўскім бланку 13 красавіка 1949 года; над вопісам з чорным алоўкам гарбелі падпалкоўнік Масленікаў і два старшыя лейтэнанты Казлоўскі і Сакалоў.

У 25-м пункце адзначана: «...книжные шкафы, опечатанные с книгами под стеклом – 5 (пять штук)...»[129]

Трох шаф не хапала, і на маё пытанне: «Дзе яны могуць быць?» – Зоф'я адказала: «Іх забралі пляменнікі Марыі Шутовіч у Павільнюс...»

Я не ўдакладніў, калі забралі – трэба думаць, пасля спачыну спадарыні Марыі, – то-бок, пасля 1975 года.

Дарэчы, згаданы 25-ты пункт абведзены чырвоным кружком, – іншыя пункты (а іх усяго трыццаць пяць) не абведзены; вядома, гэты выразны чырвоны кружок трэба ўспрымаць, як знак таго, што на кнігі (найбольш на беларускія!) звярталася асаблівая ўвага.

Калымскі вязень Масей Сяднёў[130] у сваім творы «Раман Корзюк» невыпадкова заўважыў:

«...кнігі на беларускай мове забіралі, не гартаючы, усе, колькі было...»[131]

Але пазней, пасля вайны, забіралі, здаецца, толькі тую літаратуру,

якую лічылі антысавецкай і якую маглі з карысцю для свайго следства «падшыць» у справу.

Цікава й тое, што працавітыя аўтары вопісу даволі старанна вызначалі колькасць і якасць арыштаванай маёмасці; у адпаведнай графе адзначалі, скажам: «...1. Костюм (тройка) черный шевиот – один – старый[132]... 16. Туфли мужские черные хромовые – одна пара – новые[133]...»; часцей жа крэслілі скарочанае «б/у»[134].

І 25-ты пункт завяршылі гэтым сухім «б/у» – тым самым паказалі, што шафы не новыя, не ўчора зробленыя.

Дарэчы, толькі ў двух радках вопісу не было ацэнкі рэчаў:

«32. Картин разных в рамах разных размеров – 15 (пятнадцать).

33. Пояс кожаный с пряжкой желтого металла – один[135]...»

Пра карціны, што яны «б/у», зразумела, не скажаш – усё-такі творы мастацтва, а што да скуранога пояса, то, вывучаючы яго, мусіць жа, разышліся ў ацэнцы – стары ён ці новы...

Разабраўшыся з шафамі, Зоф'я ўсё адно як пахвалілася, паказаўшы на стол з точанымі ножкамі і белай стальніцай авальнай формы, а таксама на два лёгкія венскія крэслы побач – маўляў, і стол, і крэслы памятаюць свайго гаспадара.

У гэтым жа пакоі ля акна знаходзілася засланае адамашкавым абрусам бюро; гаспадыня адкінула доўгі абрус, і я ўбачыў файны арэхавы столік, – зноў жа колеру цемнаватага жолуда, – з адной тумбай на дзве шуфлядкі.

– Гэта бю́рко[136]! – Зоф'я ўспомніла, як Марыя Шутовіч расказвала, што Адам Станкевіч любіў за гэтым «бю́рком» пісаць свае творы.

Трэба думаць, не толькі пісаў ад рукі, але й друкаваў (ці яму друкавалі!), бо меў жа і дзве машынкі фірмы «Рэмінгтон».

Як сказана ў вопісе (пункты 23, 24)[137]: першая машынка – партатыўная з футаралам – серыі В № 376746, а другая – з металічнай накрыўкай – серыі З № 202743...

І тут я яшчэ больш верыў вядомаму...

Ручны званок, падстаўка для газавай лямпы, дзверы, падлога, кухонная пліта, грубы, шафы, стол, крэслы, бюро – я верыў: сапраўды, памяць рэчаў мацнейшая за чалавечую памяць!

А быў жа яшчэ і дубовы стол з пяццю прыстолкамі, і мармуровы чарнільны прыбор на ім, і зялёная плюшавая канапа, і кніжная сасновая этажэрка[138]!

Магчыма, таксама пляменнікі забралі...

А тыя пятнаццаць карцін?!

Што гэта за творы і дзе яны цяпер?

Мо здадзены ў музей?!

Музейных квітанцый у справе няма, але, што цікава, ёсць іншыя квітанцыі...

Тады, 13 красавіка 1949 года, Масленікаў і ягоныя лейтэнанты, пішучы ўжо блакітным атрамантам (чорны аловак, напэўна, спісаўся), склалі яшчэ і пратакол вобыску на сямнаццаць пунктаў, дзе пералічылі тыя прадметы, якія з кватэры Адама Станкевіча перавезлі ў МДБ ЛССР; між іншых рэчаў там былі і такія:

«...12. Золотая монета достоинством 15 (пятнадцать) рублей дореволюционной чеканки – одна.

13. Кольцо из желтого металла с гравировкой: 1908 год – одно...»[139]

Бясспрэчна, «кольцо из желтого металла» – залаты пярсцёнак.

14 красавіка 1949 года капітан Трубачыстаў[140] на адвароце згаданага пратакола цьмяным алоўкам чыркнуў: пашпарт А. Станкевіча, ягонае пасведчанне, асабістае ліставанне, фотаздымкі, рукапісы, газеты, брашуры, нататнікі, часопісы, кнігі, газетныя выразкі і г.д. ён, Трубачыстаў, атрымаў за выняткам пярсцёнка і залатой манеты[141].

Не, названыя капітанам каштоўнасці не згубіліся, і іх не ўкралі, як укралі Луцкевічавы 24 злотыя (аб чым я расказаў у тым жа сваім апавяданні «Не знаць перад карай страху») – пярсцёнак і залатую манету здалі ў банк ці ў нейкі фінансавы аддзел дзяржбяспекі, аб чым і сведчыць квітанцыя №00879: «...кольцо желтого металла, внутри цифра 1908...» прыняў скарбнік Каўбаеў[142].

У другой квітанцыі, нумар якой 00878, можна прачытаць: «...золотая монета царской чеканки достоинством 15 рублей...» прынята тым жа Каўбаевым[143].

Адам Станкевіч меў бібліятэку на 2000 тамоў, і багата цікавага было ў ягоным шматмоўным кніжным зборы – ад працы Сталіна «Марксізм і нацыянальнае пытанне» на польскай мове і да нейкага (на жаль, у пратаколе вобыску не сказана, што гэта за томік!) асобнага выдання па-нямецку, якое 1 снежня 1919 года падараваў маёр Ружанцоў[144].

Па той ці іншы навуковы матэрыял да айца А. Станкевіча звярталіся этнографы, музыказнаўцы, гісторыкі.

А вось з набыткаў Мамоны ксёндз меў толькі адзін залаты пярсцёнак і толькі адну залатую манету...

Зоф'я адцягнула мае думкі ад архіўных успамінаў; з прыкметным захапленнем і адначасова з такім жа прыкметным расчараваннем сказала пра кафляныя грубы – ім больш за сто гадоў, некалі давалі здаровае цяпло, а цяпер ужо не служаць, таму ў кватэры праведзена газавае ацяпленне.

Гаспадыня памяняла і вокны, заместа колішніх драўляных рам, якія, напэўна ж, за доўгі свой век збуцвелі, уставіла сучасныя шклопакеты.

А што да саміх сцен, то яны ўражвалі сваім выглядам; у аконных прахонах я ўбачыў іхнюю па-сутнасці цытадэльную моц шырынёю больш за метр.

Фундаментальныя сцены!

## 7. Гаворка на кухні

Пакуль я, прыцмокваючы языком, аглядаў звыштрывалыя сцены, Зоф'я за папяровай шырмай хутка пераапранулася, агародны халат памяняла на святочны, завяла мяне на кухню і пачаставала кавай з мёдам.

А я ўспомніў пра свой гасцінец.

Ідучы на Полацкую, на ўсякі выпадак паклаў у шырокую кішэню сваёй вандроўнай камізэлькі пушачку цукерак і от жа недарма тое зрабіў, цукеркі спатрэбіліся, – здаецца, неблагі падарунак прыветнай гаспадыні.

За кухонным сталом пачалася тая частка нашай гаворкі, з якой даведаўся, як Зоф'я апынулася тут, на беразе рачулкі Вільні, і як стала ўладальніцай ладнай кватэры.

Калі карыстацца скупой анкетнай мовай, то карціна складвалася такая: нарадзіўшыся ў 1938 годзе, Зоф'я гадавалася на хутары Алёкса, што на беразе Віліі, вучылася ў Пабрадзе, – пасля вайны скончыла там сем польскіх класаў.

Чамусьці ўдакладніла, падсоўваючы бліжэй да мяне блакітны сподак з мёдам:

– Тады мне думалася, што галоўнай мовай будзе польская, але ж не, выйшла не так...

Мне спадабалася такое жыццёвае паясненне, у ім жыла простая непасрэднасць, і я слухаў далей з немалой цікавасцю.

Зоф'ін бацька Чэслаў Ермаковіч быў мулярам з Кемелішак, а дзед-каваль меў сваю кузню.

Кладучы грубу ці печ, ці выводзячы падмурак пад чыю-небудзь будучую хату, бацька мог раптам адкласці кельню ўбок, закурыць і сказаць: «Хітрыя ўсе... Нават і тыя хітрыя, якія, як быццам, і няхітрыя...»

І дзед, перацягваючы, скажам, якое-небудзь кола, мог таксама адкласці яго, сесці ля кавадла і задумацца, нягледзячы на пільны клопат.

«І пра што думаў дзед?» – гадала ўнучка і не магла ўгадаць, і бегла з двара да дзічкі, якую трусілі хлопцы, і кулём кідалася ў траву па дробныя грушкі, каб хаця ўварваць якую...

А стары каваль мог думаць пра ўсё, – пра сваё кавальства, напрыклад, якім займаўся з маладога веку, і пра тое, як і калі паміраць давядзецца, а мо і такое наплывала думанне (хто знае?!): спачуванне – тая ж цяжкая работа, і калі чалавек не спачувае чалавеку, які варты спачування, то ён – лайдак...

Словам, і бацька, і дзед у Зоф'і былі крыху і філосафамі, а вось маці мела найбольш практычную натуру; яна не хацела, каб дачка засталася ў калгасе, і летам 1955 года адправіла яе ў Вільню да сваёй стрыечнай сястры Марыі Шутовіч – то-бок, у дом Адама Станкевіча...

Ішоў якраз шосты год, як гаспадара дома не было ў ліку жывых, але шмат што абуджала памяць аб ім, і перш за ўсё (паводле Зоф'і) апламбаваныя кніжныя шафы і тая немалая рэшта кніг, якая была ўроскід звалена ў адрыне, што стаяла ў двары; літаратура, выкінутая ў адрыну, мусіць жа, на думку магільшчыкаў, не мела для крымінальнае справы ніякага значэння.

Спадарыня Марыя ці не штодня шэптам загаворвала пра айца А. Станкевіча, а яшчэ (бачна было па яе тужлівых вачах) успамінала і моўчкі.

Так, толькі шэптам і толькі моўчкі, па-іншаму нельга было, бо з 1949 года жыла не адна, у кватэру з намерам падсялілі сям'ю нейкіх Ташкевічаў.

Здаецца, правільней будзе не Ташкевічаў, як сказала Зоф'я, а Тышкевічаў – прынамсі, такое напісанне гэта прозвішча мае ў тым жа вопісе арыштаванай маёмасці; у дакуменце адзначана, што ён складзены ў прысутнасці хатняй гаспадыні Шутовіч Марыі Іосіфаўны і Тышкевіч Сцепаніды Міхайлаўны[145], а на другой староны ёсцека і даволі чытэльны подпіс, а менавіта праз «ы»: С. Тышкевіч[146]...

Колькі было гэтых Тышкевічаў, я не высвятляў; людзі, відаць па ўсім, падазроныя, яны, не хаваючыся, не адзін год сачылі за ахмістрыняй, аднак жа калі ўлада страціла вострую цікавасць да спадарыні Марыі, мусілі былі выбрацца на нейкую іншую кватэру, а мо і наогул пакінулі места...

Адразу ж па асталяванні Зоф'я пайшла на свой хлеб, – знайшла працу ў ваенным шпіталі, адкуль яе накіравалі на курсы медсясцёр, на якіх знаходзілася восем месяцаў, а тады ўжо на іншых курсах вывучылася і на радыётэлеграфістку.

Як бачна, уся ў маці, пераняла яе практычнасць.

Тут, у Вільні, і выйшла замуж, узяўшы сабе прозвішча мужа-беларуса –

Лось, а ў 1975 годзе, калі Марыя Шутовіч памерла, Зоф'я і стала гаспадыняй кватэры.

Такі вось нескладаны – а мо і складаны, хто ведае! – жыццяпіс...

Мы яшчэ трохі паразмаўлялі пра спадарыню Марыю...

У 1937 годзе яна адлічыла на гранітны помнік Ядвігіну Ш.[147] тры злотыя і, дарэчы, гэтак заўсёды і жыла – ад прыватнага ахвяравання грашыма да неабходнасці ахвяраваць сваім каханнем, часам, сямейным шчасцем і спакоем.

І (варта памятаць!) доўгія гады знаходзілася пад савецкім прымусам.

Улада прымушала ў якасці сведкі прысутнічаць (разам з нейкім «Дюняшевым») пры вобыску[148] (што й казаць, не адзін быў такі вобыск!); улада цягала па страшных калідорах і кабінетах, загадвала адказваць на недарэчныя пытанні, падпісваць нязвыклыя паперы, у выніку чаго трэ было спаўняць у сваёй жа хаце бязглуздыя патрабаванні...

«Сохранная расписка

гор. Вильнюс, 13 апреля 1949 года.

Я, Шутович Мария Иосифовна, прожив. в гор. Вильнюс по ул. Полоцкой д. 9, кв. 4, даю органам МГБ ЛССР настоящую сохранную расписку в том, что беру под свою сохранность все вещи и имущество, указан. в описи имущества от 13 апреля 1949 года, лично принадлежащее арестованному Станкевичу Адаму Викентьевичу, проживающему по ул. Полоцкой 9, кв. 4, и обязуюсь последнее сохранить, не портить и не продавать.

Об ответственности за нарушение расписки предупреждена.

M. Śutowić (Шутович)[149]».

Чыноўная рука бойка накрэсліла распіску блакітным атрамантам, спадарыня Марыя пакінула пад ёй уласны подпіс – лацінскімі літарамі...

Жанчына не саступіла са свайго шляху, – да апошняга клапацілася пра Адама Станкевіча.

З траўня 1949 года ў заяве на імя начальніка турмы прасіла прыняць для арыштаванага падаянку, у якой сярод мізэрных дазволеных грамаў мяснога і салодкага і такіх жа дазволеных мізэрных грамаў харчовага тлушчу былі яшчэ – зубны парашок, чатыры цыбуліны і дзесяць цыгарэцін.

Лічбы б'юць проста ў сэрца!

Які ж гэта чулы чырванасцяжнік, майстар мяняць гаршкі на гліну, склаў дырэктыўку, паводле якой кінутаму за краты дастаткова мець толькі чатыры цыбуліны і толькі дзесяць цыгарэт, а, скажам, на адну штуку болей – гэта ўжо занадта?!

Зрэшты, дазволілі яшчэ і мучное, сухары і булку, разам – амаль чатыры з паловай кіло.

Дзякуй і за гэта.

Дарэчы, пра курыва, – папяросы за кратамі патрэбны былі для абмену: я табе, мой сябар па няшчасці, даю тытунь, а ты мне месца ля акна, каб хоць трохі вальней падыхаць...

Раптам з лёгкай прастадушнасцю ў голасе Зоф'я адкрыла сапраўдную таямніцу: у Марыі Шутовіч быў раман са спеваком Міхасём Забэйдам-Суміцкім[150].

О, а гэта файны паварот размовы!

І сярод тых пятнаццаці канфіскаваных карцін самым большым было, напэўна ж, адлюстраванне спевака?!

П. Мядзёлка невыпадкова адзначыла: першае, што ёй кінулася ў вочы,

калі ўпершыню трапіла ў кватэру Адама Станкевіча, – вялізны на сцяне алейны партрэт М. Забэйды-Суміцкага[151]; артыстка не назвала аўтара партрэта, але, мяркуючы па ўсім, гэта быў твор Пётры Сергіевіча[152]...

Спявак часта выступаў у сталіцы Заходняй Беларусі, і Марыя Шутовіч бывала на ўсіх ягоных творчых імпрэзах.

Аднойчы ён падараваў ёй фота, нібы дадатак да алейнага партрэта:

«Вельмі паважанай пані Марыі Шутавічанцы на памятку аб канцэрце 8 мая 1938 г. у Вільні. М. Забэйда. 15.V.1938»[153].

Подпіс даволі стрыманы.

На здымку артыст акружаны моладдзю; сярод усмешлівых дзяўчат і яна – Марыя Шутовіч, а сярод хлопцаў найбольш пазнавальны Максім Танк.

Як бачна, канцэрт адбыўся 8 траўня, а здымак падараваны праз тыдзень, 15 числа – значыць, у траўні 1938 года спявак і Марыя сустракаліся, як мінімум, двойчы.

Зоф'я ўздыхнула: праз гэтае сваё каханне яна так і не выйшла замуж...

Аднак жа і М. Забэйда-Суміцкі ўсё сваё доўгае жыццё заставаўся адзін і памёр у адзіноце!

Што яму не дало ўзяць шлюб з Марыяй?

Не кахаў яе?

Ці тое, што яна была ўсяго толькі ахмістрыняй?

А мо ён меў іншую, да якой не стрымліваў пачуццяў?

Калі верыць эмацыянальнай Ларысе Геніюш[154], спявак са сваім каханнем набіваўся да яе – замужняй жанчыны.

У 1963 годзе М. Забэйда-Суміцкі выступаў у Мінску, і Марыя Шутовіч, узяўшы Зоф'ю, прыехала з Вільні, каб хоць на хвіліну пабачыцца.

Так яно й сталася, на сустрэчу й выпала кароткая хвіліна, – спатканне адбылося ў ліфце!

– У ліфце?! – я ажно вочы вялікія зрабіў.

– А па-іншаму й нельга было, бо за панам Міхалам пільна глядзелі!

– А ў якім ліфце? У якім будынку? – хацеў я даведацца.

– А ўжо й не памятаю дзе... У гатэлі, мусіць... Пакуль той ліфт ехаў, мы ўтраіх у ім так і прастаялі...

– Хоць слова якое сказалі?!

– Хіба што слова...

І такімі спатканні бываюць...

На мой адыход Зоф'я зноў правяла мяне па кватэры і расказала, што кнігі, якія ляжалі ў адрыне, паехалі ў Мінск (гэта яе слова: «...паехалі...»), іх забралі нашы навукоўцы.

Пачутае праясню: у свой час Адам Мальдзіс[155] параіў кіраўніцтву бібліятэкі нашай Акадэміі навук набыць у Марыі Шутовіч уцалелыя кнігі і рукапісы, кіраўніцтва добрай рады паслухалася, кнігі і рукапісы набыло і заснавала фонд А. Станкевіча.

Зоф'я ўспомніла таксама Сержука Вітушку[156], які некалькі разоў наведваў яе, і падказала, як дзейнічаць мне далей – завітаць у блізкі адсюль касцёл святога Барталамея, бо ксёндз Казімір Гваздовіч, які служыць там, можа расказаць пра айца Адама значна больш, чым расказала яна.

Праўда, сёння позна ўжо, касцёл на замку, і, мусіць, таму, што храм замкнуты, а такому дапытліваму госцю, як я, хочацца ўслужыць, хочацца яшчэ нешта памыснае прапанаваць, – Зоф'я раптам зусім па-свойску кранула мяне за локаць:

– Калі жадаеце, то можаце забраць гэта!

І паказала на ўсё той жа гарнітур мэблі – на стол з точанымі ножкамі і белай стальніцай авальнай формы і на два лёгкія венскія крэслы побач.

– Шчыра дзякую... – толькі й адказаў я, не збіраючыся тлумачыць, што забраць гэтыя памятныя рэчы пакуль не маю ніякай магчымасці...

Моўчкі ацэньваючы маю разгубленасць, Зоф'я, пэўна, зразумела, што паспяшалася крыху са сваёй шырокай прапановай.

Я ж тым часам думаў ужо пра іншае...

Згадка пра М. Забэйду-Суміцкага кранула мяне; айцец А. Станкевіч любіў слухаць спевака, высока цаніў яго, называў Праметэем[157], – гэта значыць, выдатнейшым дзеячам, – натхнёна пісаў пра ягоную творчасць, а на допытах у снежні 1944-га мусіў быў прызнацца, што і ў «Беларускім голасе»[158] змясціў дзве рэцэнзіі на канцэрты артыста[159]...

Аднак мы выйшлі з кватэры ў пад'езд, і я яшчэ раз агледзеў ручны званок – такія бачыў толькі ў кіно! – і зноў жа палюбаваўся падстаўкай для газавай лямпы...

А ў двары плыло ўжо лёгкае змярканне...

Нейкі мужчына ў фетравым капелюшы, стоячы плячыма да форда і выцягнуўшы перад сабою правую руку, фатаграфаваў самога сябе.

– Мой сусед з другога паверха, – шапнула Зоф'я, – любіць здымацца...

Пaздароўкалася з ім па-літоўску, а мне зноў шапнула: «Усякі выглядае блазнам, калі фатаграфуе сябе...»

Я ўсміхнуўся: а Зоф'я пайшла не толькі па маці, пераняўшы яе практычнасць, а ўзяла яшчэ і філасофскага таленту ад бацькі і дзеда!

Умее трапна сказаць!

Бо гэта ж праўда: той, хто здымае сябе, вельмі часта выглядае дурнем, але... выглядае чалавекам, калі яго фатаграфуюць гвалтам...

І я не мог не ўспомніць турэмныя фотаздымкі Адама Станкевіча...

– А што там, за домам? – на астачу разабрала мяне і такая цікавасць.

– А там ляжыць мой гарод...

Задаволеная гаспадыня павяла мяне, паслухмянага і цікаўнага, паказаць свае грады.

Па даволі стромым беразе Вілейкі агарод, лежачы, спускаўся да самай вады, а з таго боку рачулкі, якая па-дзявочы сакатала, прыкметна ўзвышаўся цьмяны, нібыта пакрыты сасновай карой, купал закінутага касцёла візітак.

Максім Багдановіч[160] у апавяданні «Марына» сказаў пра жвавую Вілейку, што яе зеленаватая вада падмывала гарыстыя берагі.

Як мала цяпер вады (вераб'ю па калена!), а некалі гэтая плыткая рэчка сапраўды мела неспакойны хвосткі нораў.

Вясною 1931 года газеты паведамлялі пра «...нябывалае разводзьдзе ў нашым краі...»:

«...малая, але бурная Вялейка нарабіла больш шкодаў, чым вялікая, але павальнейшая Вільля. Падмыўшы пяшчаныя горы, яна зруйнавала цэлы рад дамоў – драўляных і каменных, сярод якіх і адну камяніцу ў 3 паверхі – на вуліц.[ах] Зарэчнай, Бекешовай, Піярскай, Сафіянавай...»[161]

Гэты ж будынак, у якім знаходзілася кватэра ксяндза (трывалая мукамольня!), устояў, страшнай вадой у 1931 годзе яго не змыла, і наогул пра вуліцу Полацкую ў тым газетным допісе не згадалі.

Заклаўшы падмурак дома на крутым рачным схіле, архітэктар здабыў пэўны эфект, таму камяніца мела адсюль, з агарода, не два, а тры паверхі...

А змялелая Вілейка тым часам не змаўкала, і я ўспомніў радкі Якуба Коласа:

...У берагах сваіх высокіх,
Па камянях, бы тая змейка,
Вілася шумная Вілейка
І, закруціўшыся дугою,
Знікала зараз за гарою...[162]

Уніз да яе вечаровай вады можна было сысці і па старых каменных сходах.

– Гэта сходы Адама Станкевіча, – Зоф'ін голас прагучаў надзвычай прыгожа, – а тут, дзе мае соткі, у вайну хадзілі козы...

– Козы?

– Пры немцах Адам Станкевіч трымаў коз...

## 8. Пры немцах

Ніхто са старэйшых людзей і ў маім Давыд-Гарадку пра акупацыю 1941 – 1944 гадоў не казаў: жылі пры Германіі, ці пры Нямеччыне; заўсёды гаварылі так, як сказала Зоф'я: пры немцах.

Пра польскае панаванне, заўважу, казалі: жылі пры Польшчы, ці за Польшчай, а не пры паляках.

Што да расійскай улады, то існаваў гэткі выраз: жылі за царом, а не за Расіяй, пры Сталіну, а не пры СССР, аднак жа – во моўнае дзівацтва! – не пры Пілсудскім, а пры Польшчы і не пры Гітлеры, а пры немцах...

Дык вось, пры немцах Адам Станкевіч увайшоў у Беларускі камітэт, на кароткі час узначалены доктарам медыцыны Станіславам Грынкевічам[163].

Чым займаўся згаданы камітэт?

Абараняў інтарэсы беларусаў, клапаціўся пра іхні быт, выдаваў усялякія рэкамендацыі і пасведчанні, праводзіў перапіс насельніцтва; думалі ў камітэце і пра дзяцей школьнага ўзросту, – гэта значыць, думалі пра нацыянальную школу, таму пераглядалі старыя падручнікі, рыхтавалі да друку рукапісныя вучэбныя дапаможнікі, але паводле ксяндза Адама так нічога і не выпусцілі; у 1943 годзе выйшла «Беларуская граматыка для школ» Б. Тарашкевіча, але аб выданні гэтай кнігі паклапацілася, здаецца, іншая арганізацыя, і з'явілася граматыка не ў Вільні, а ў Мінску...

Падкрэслена грамадскі (не палітычны) характар дзейнасці доўжыўся месяцы тры, у лістападзе 1941 года С. Грынкевіч перадаў кіраванне камітэтам Вацлаву Іваноўскаму[164] і Баляславу Грабінскаму[165] – работа з уладай стала больш цеснай, і Адам Станкевіч выйшаў з арганізацыі, бо ў яго «...какой-либо симпатии к немцам, каких-либо надежд на немцев не было...»[166]

Да партрэта ж Б. Грабінскага дадам неабходную рысу – ён быў шчодрым чалавекам.

«...Слухалі... 2. Даклад А. Луцкевіча аб атрыманьні ад доктара Грабінскага цэннага дэпазіту: арнату, пашытага са слуцкага пояса... ...Пастанавілі... 2. Дэпазіт прыняць з падзякай...»[167]

Неўзабаве В. Іваноўскі заступіў у Мінску на пасаду бургамістра, і Б. Грабінскі, застаўшыся ў кіраўніцтве адзін, дзейнічаў паводле таго, што прыносілі абставіны.

А па-іншаму ж і нельга было, таму Б. Грабінскі, не забываючы пра цывільны люд і школы, рабіў яшчэ і нешта іншае – скажам, сфарміраваў будаўнічы батальён, адкрыў вярбовачны пункт, прызначаў сваіх людзей на розныя пасады, заступаўся за арыштаваных, даваў паведамленні ў «Беларускі голас»...

А што ксёндз Адам?

Акупацыйныя парадкі хоць у малой ступені, але давалі магчымасць весці неабходную работу, і ён карыстаўся такой магчымасцю, – пісаў і друкаваў артыкулы, працуючы ў беларускай гімназіі, займаўся выхаваннем моладзі, выкладаў беларускую мову ў каталіцкай семінарыі, служыў у касцёле святога Міхала, клапаціўся пра захаванасць музея імя Івана Луцкевіча...

У лістападзе 1942 года немцы параілі не ўжываць у касцёле польскую мову.

– У храм прыходзяць не толькі беларусы, палякі таксама! – адказаў святар.

У траўні 1943 года зноў паклікалі на гаворку, цікавіліся, дзеля блізіру, ягоным жыццём і ягоным кнігазборам (магчыма, заходзіла мова і пра тое нямецкае выданне, якое падараваў маёр Ружанцоў!), і раптам папракнулі, што ён ухіляецца ад нацыянальнай работы.

– Я ўхіляюся ад палітыкі! – адказаў святар...

У снежні 1943 года ў Мінску тэрарысты забілі В. Іваноўскага.

Адам Станкевіч атрымаў загад ехаць на пахаванне, яму падпісалі дазвол на праезд, паведамілі ў Мінск, і там ужо чакалі, падрыхтавалі нумар у гатэлі, на вакзал нават паслалі машыну, аднак святар не паехаў, вынаходліва спаслаўся на тое, што біскуп М. Рэйніс[168] забараніў яму, каталіцкаму пастыру, удзельнічаць у хаўтурах, бо нябожчык В. Іваноўскі з'яўляўся пратэстантам – кальвіністам...

У чэрвені 1944 года прапанавалі ехаць у Мінск на кангрэс Беларускай Цэнтральнай Рады; святар адмовіўся: я не ўдзельнічаю ў палітычных мерапрыемствах!

Бальшавіцкаму следству паведаміў, што меў сувязь з партызанамі, што асабістыя рэчы адной віленскай камуністкі (відаць жа, па яе просьбе) захоўваў у сябе дома на Полацкай.

І, здаецца, найбольш акцэнтаваў на тым, што ездзіў у Ашмяны абараняць камсамольцаў, якіх немцы збіраліся знішчыць.

Ды ўсё дарэмна.

Капітан Трубачыстаў наслініў аловак:

«...Во время оккупации Литовской ССР немцами выступал (Адам Станкевіч. – *Л. Д.-М.*) в костеле с чтением антисоветских пасторских посланий епископа Вильнюсской епархии Рейниса...»[169]

А яшчэ раней свой аловак наслініў лейтэнант Бушуеў:

«...Станкевич з разрешения немецких властей создал в городе Вильнюс «Белорусский национальный комитет», где проводил свою антисоветскую националистическую деятельность, добиваясь от немцев создания «Независимого буржуазного Белорусского государства».

За сотрудничество с немцами Станкевич немецкими оккупационными властями немечался к выдвижению на пост генерального викария белорусской католической церкви...»[170]

Так, Адама Станкевіча меркавалі вылучыць і на вікарыя, і на біскупа, толькі не акупанты клапаціліся аб тым, а нашы падзвіжнікі.

Яны думалі пра выхаванне маладых святароў, таму імкнуліся адкрыць у Мінску духоўную семінарыю і намагаліся вярнуць з-за мяжы сваіх ксяндзоў – асабліва друйскіх айцоў марыянаў, якія спазналі цкаванне Варшавы.

Спрабуючы зменшыць на вернікаў уплыў чужога духавенства, нашы патрыёты жадалі ўвесці ў храмы родную мову.

15 жніўня 1941 года з'явіўся пісьмовы зварот беларускіх рыма-каталікоў Вільні, адрасаваны Апостальскаму пасаду і, вядома ж, накіраваны і ў акупацыйную адміністрацыю[171].

Паведамлялася, што ў Беларусі аднавіла сваю дзейнасць грэчаская царква, а раз так, то павінна аднавіцца й рымская царква (з касцельнай службай па-беларуску).

Гаварылася пра неабходнасць місіянерства сярод праваслаўнага люду і рабіўся акцэнт: у Мінск трэ прызначыць біскупаў рымскага і ўсходнеславянскага абрадаў; на пасаду першага і быў названы Адам Станкевіч.

А яшчэ выказвалася жаданне мець у Вільні свайго арцыбіскупа, які б загоіў раны, прычыненыя нашаму касцёлу шавіністам Р. Ялбжыкоўскім[172]...

Тут варта даць невялікае тлумачэнне, і пачну са станоўчага.

Віленскі мітрапаліт Р. Ялбжыкоўскі – сама цвёрдасць, перад небяспекай не згінаўся, за свой светапогляд не баяўся пайсці на пакуту, падтрымліваў і антынямецкі, і антысавецкі рух; за мітрапалітам неаднойчы зачыняліся брамы нацысцкіх і бальшавіцкіх турмаў.

Касцёл з'яўляўся для яго ўсім: і небам, і зямлёй, і агнём, і вадой, але (станоўчае тут канчаецца) служыў архіпастыр больш палітыцы, чым веры, і для нас гэты доктар тэалогіі вядомы перш за ўсё з благога боку – не кіем, дык палкаю выганяў з храма беларускую мову.

А яшчэ з радасцю хваліўся, што «...ў ягонай дыяцэзіі за пяць гадоў «місійнай працы» ўдалося перавярнуць з праваслаўя на каталіцтва звыш 60000 душ...»[173]

Ялбжыкоўскі забараняў ксяндзам удзельнічаць у выбарах у Сейм і Сенат, заклікаў каталікоў не ўступаць у БХД, не браць у рукі «Беларускую крыніцу» і не працаваць у рэдакцыі гэтага выдання.

Беларусаненавісніцтва – ягоная закаранелая звычка, і ён жыў і дзейнічаў акурат паводле яе: то не дазваляў у Віленскай духоўнай семінарыі выкладаць нашу мову, то для паланізацыі дзяўчат і юнакоў засноўваў усялякія таварыствы каталіцкай моладзі.

Няўжо не разумеў – паланізацыя штурхае моладзь у чырвоную пастку?!

Адмовіўся Ялбжыкоўскі прызнаць і беларуска-літоўскі камітэт, створаны 4 траўня 1930 года; дзеячы, якія ўвайшлі ў гэты орган, марна прасілі ўвесці ў беларускіх парафіях у дадатковыя набажэнствы беларускую мову, а ў літоўскіх парафіях – літоўскую.

Што да Уніяцкай царквы ў Заходняй Беларусі, то яна для мітрапаліта была «ўсходняй схізмай», таму ён выступаў супраць уніяцтва і караў тых нашых святароў, якія праводзілі службу ва ўсходнім абрадзе.

Агульнавядомы ўдзел утрапёнага пана Ялбжыкоўскага і ў разгроме кляштара беларускіх айцоў марыянаў у Друі.

У ліку іншых духоўных дзеячаў ад такога цемрашальства цярпеў і Адам Станкевіч, які быў упэўнены: сваім нацыяналізмам Ялбжыкоўскі знішчае каталіцызм і наогул «...Сьмярдзіць старым польскім казлом. Каталіцызму ў ім не чуваць...»[174]

Адам Станкевіч не баяўся народных дакладных слоў і не толькі выказваўся

імі ў сваім патаемным сшытку, а дзейнічаў – скажам, восенню 1944 года папрасіў Марыю Шутовіч паведаміць Кузьму Чорнаму пра вялікую шкоду, якую робіць Беларусі заняты мітрапаліт.

Сам убачыцца з пісьменнікам не мог, быў, як вядома, пад пільным наглядам.

І вось у тыя трывожныя дні Кузьма Чорны адзначаў:

«...7 кастрычніка заходзіла да мяне невядомая мне дагэтуль Марыля Шутовіч з Вільні /.../ Яна прыехала ў Мінск, каб дайсці тут якое-небудзь рады: /.../ пілсудчык Ялбжыкоўскі садзіць усюды па Беларусі на парафіі палякаў ксяндзоў, якія і прапаведуюць з амбоняў, што ўсе беларусы каталікі ёсць чыстыя палякі /.../ Да мяне прыйшла (Марыя Шутовіч. – *Л. Д.-М.*) з просьбай надаць усяму гэтаму не рэлігійны, а палітычна-нацыянальны характар і так падаць у адпаведныя рэспубліканскія органы...»[175]

Ужо арыштаваны, у студзені 1945 года Адам Станкевіч даводзіў следству пра апантанага царкоўніка:

«...Всех белоруссов католиков он считал поляками...»[176]

Дык вось, у жніўні 1941 года нашы вернікі прасілі замест ненавіснага **чужога** даць ім роднага архіпастыра і называлі імя Андрэя Цікоты[177], які ў тыя дні з'яўляўся Апостальскім адміністратарам у далёкім Харбіне.

Дарэчы, каб Ватыкан адклікаў свайго адміністратара з Манчжурыі, то, магчыма, выратаваў бы яго, а так архімандрыт Андрэй Цікота быў арыштаваны ў снежні 1948 года кітайскімі камуністамі, перададзены ў СССР і ў лютым 1952 года згінуў у Сібіры...

А яшчэ нашы вернікі прасілі даць магчымасць вывучаць у Віленскай духоўнай семінарыі беларускую мову, літаратуру, гісторыю і адкрыць беларускае каталіцкае выдавецтва.

Праз год, 11 жніўня 1942 года, узнік новы пісьмовы зварот пад умоўнай назвай «Становішча каталіцкай царквы ў Беларусі»[178], паводле якога: польскія святары ў сваёй большасці з'яўляюцца польскімі нацыяналістамі, па-сутнасці – палітычнымі прадстаўнікамі Варшавы[179]; замест іх у нашых касцёлах павінны служыць нашы ксяндзы, замест польскіх павінны гучаць нашы рэлігійныя песні, і наогул каталіцкай царквой мусіць кіраваць беларуская адміністрацыя, якую неабходна стварыць.

Кіраўнічы клопат якраз і меркавалася ў ліку іншых святароў ускласці і на Адама Станкевіча, яго імя ў дакуменце згадваецца двойчы – у якасці кандыдата на пасаду беларускага біскупа і ў якасці кандыдата для генеральнага вікарыята ў Баранавічах[180].

Асобным пунктам прапісана просьба адкрыць у Мінску духоўную каталіцкую семінарыю[181].

Зварот ад 11 жніўня 1942 года – жорсткі, мэта яго відавочная – карыстаючыся нямецкай акупацыяй, знішчыць варшаўскі ўплыў.

Польскія ксяндзы называюцца ў дакуменце адкрытымі агентамі генерала Сікорскага[182]; пра іх рашуча заяўлена, што яны праводзяць шкодную варожую работу, таму павінны быць зараз жа высланы з Беларусі[183]...

Магчыма, пазней за іншых, але і нашы самаадданыя працаўнікі зразумелі: будзь жорсткі з тым, хто век быў жорсткі з табой!

*18 лютага 2019 г., панядзелак, 13 г. 15 хв.; Менск.*

*(Працяг будзе.)*

[1] Полацкая, Зарэчная – віленскія вуліцы.
[2] Вільня – назва віленскай рачулкі.
[3] Маецца на ўвазе касцёл святога Міхала.
[4] Гаворка пра касцёл святой Ганны.
[5] Оперупаўнаважаны аддзела «О» міністэрства дзяржаўнай бяспекі Літоўскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі ( МДБ ЛССР).
[6] Янка Купала (1882 – 1942) – народны пясняр, стварыў нібыта асабіста для мяне ўзорны твор «Алеся» (1935).
[7] Кніга выдадзена Беларускім каталіцкім выдавецтвам у Вільні ў 1940 г.
[8] Вынятка з артыкула А. Станкевіча «Alma mater...» (1944).
[9] Нарыс пад крыптанімам J «Drogowskaz wśród puszczy» («Дарожны ўказальнік сярод нетраў»): газета «Słowo» («Слова»), № 261 (4467), Вільня, серада, 23 верасня 1936 г.; с. 3.
[10] Антон Луцкевіч (1884 – 1942) – беларускі палітык, ініцыятар і тварэц Акта 25 сакавіка 1918 г., старшыня Рады народных міністраў БНР, дырэктар Беларускага музея ў Вільні, аўтар самага дакладнага артыкула пра Сталіна «Цень Азэфа» (1930); як літаратурны крытык, выдаў кнігу «Адбітае жыцьцё» (1929).
[11] Вынятка з выдання: Антон Луцкевіч. Барацьба за вызваленьне. Укладаньне, навуковая рэдактура, пераклады, камэнтары і прадмова: Анатоль Сідарэвіч. Вільня, Інстытут беларусістыкі; Беласток, Беларускае гістарычнае таварыства, 2009 г.; с. 371. Далей: А. Луцкевіч. Барацьба за вызваленьне. 2009 г.
[12] Казімір Сваяк (1890 – 1926) – беларускі паэт і духоўны дзеяч, аўтар заўсёды надзённага нарыса «Алкаголь» (1913).
[13] Казімір Петрусевіч (1872 – 1949) – беларускі грамадскі дзеяч, прафесар Віленскага ўніверсітэта.
[14] Беларуская сялянска-работніцкая грамада – легальная палітычная партыя, заснаваная 24 чэрвеня 1925 г.
[15] «Słowo», № 107 (1718), Вільня, пятніца, 11 траўня 1928 г.; с. 3; газета «Kurjer Wileński» («Кур'ер Віленскі»), № 107 (1154), Вільня, субота, 12 траўня 1928 г.; с. 3.
[16] Нататка «Злоўжыванне хрысціянскімі лозунгамі»: «Słowo», №279 (1890), Вільня, аўторак, 4 снежня 1928 г.; с. 3.
[17] Якуб Колас (1882 – 1956) – народны пясняр, аўтар маёй любімай арфічнай паэмы «Сымон-музыка» (1925).
[18] «Kurjer Wileński», № 117 (1164), Вільня, пятніца, 25 траўня 1928 г.; с. 3.
[19] Маецца на ўвазе кніга «Родная мова ў святынях» (1929).
[20] Вынятка з выдання: Адам Станкевіч. Выбранае. Укладанне, прадмова і каментар Уладзіміра Конана. Мінск, «Кнігазбор», 2008 г.; с. 122. Далей: А. Станкевіч. Выбранае. 2008 г.
[21] Францішак Аляхновіч (1883 – 1944) – беларускі драматург, нарадзіўся ў Вільні, дзе і ствараў свае знакамітыя п'есы.
[22] Газета «Беларускі звон», № 27 (52), Вільня, серада, 18 кастрычніка 1922 г.; с. 2.
[23] Гвара (*польск.* gwara) – дыялект, гаворка.
[24] Lietuvos Ypatingasis Archyvas – літарнае скарачэнне LYA.
[25] LYA, f. K – 1, ap. 58, b. P – 12505, b.b., l. 9. Вобыск праводзілі супрацоўнікі 1-га аддзела следчай часткі МДБ ЛССР старшы следчы маёр Пырыкаў і следчая малодшы лейтэнант Алеіна.
[26] У перакладзе гэта слова прапушчана.
[27] А. Станкевіч. Выбранае. 2008 г.; с. 28; пераклад гэтага фрагмента на рускую мову: LYA, f. K – 1, ap. 58, b. P – 12505, l. 223 – 21.
[28] Вынятка з выдання: Адам Станкевіч. З Богам да Беларусі. Укладаньне, навуковая рэдактура, напісаньне камэнтароў і прадмовы: Алесь Пашкевіч, Андрэй Вашкевіч. Вільня, Інстытут беларусістыкі, 2008 г.; с. 334. Далей: А. Станкевіч. З Богам да Беларусі. 2008 г.; пераклад прыведзенага ўрыўка на рускую мову: LYA, f. K – 1, ap. 58, b. P – 12505, l. 223 – 21.
[29] Супрацоўніца 2-га аддзела следчай часткі МДБ ЛССР.
[30] У 1926 г. выйшаў з ТБШ, як з арганізацыі, якая з'яўлялася экспазітурай «Грамады» (газета «Сялянская ніва» № 48, Вільня, субота 25 снежня 1926 г.; с. 4).
[31] Андрэй Шаптыцкі (1865 – 1944) – галава Украінскай грэка-каталіцкай царквы ў 1900 – 1944 гг., мітрапаліт Галіцкі, «...найвыдатнейшы прадстаўнік украінскае інтэлігенцыі...» (А. Луцкевіч).
[32] Эвэнтуальна (*польск.* ewentualnie) – ці; магчыма; у выпадку чаго.
[33] Lietuvos Centrinis Valstybes Archyvas (далей – LCVA), f. 281, ap. 2, b. 9, l. 15. Пратаколы Беларускага навуковага таварыства.
[34] Андрэй Вашкевіч «Ксёндз Адам Станкевіч»: часопіс «Куфэрак Віленшчыны» №1 (10), 2005 г.; сс. 4 – 35.

[35] А. Луцкевіч. Барацьба за вызваленьне. 2009 г.; с. 439.

[36] Бранiслаў Тарашкевiч (1892 – 1938) – беларускі грамадска-палітычны дзеяч, перакладчык, аўтар «Беларускай граматыкі для школ» (1918), пасол Сейма Польшчы, першы старшыня БПК, акадэмік АН Беларусі (1928); з 1933 года жыў у Маскве, асуджаны сталіністамі на смерць.

[37] Аляксандра Бергман (1906 – 2005) – беларускі і польскі гісторык, уваходзіла ў структуры КПЗБ, аўтар шматлікіх грунтоўных артыкулаў пра беларускіх дзеячаў; напісала кнігу «Sprawy białoruskie w II Rzeczypospolitej» (1984).

[38] Вячаслаў Багдановіч (1878 – 1941 /?/) – беларускі палітык, рэлігійны праваслаўны дзеяч, сенатар польскага парламента.

[39] Фабіян Ярэміч (1891 – 1958) – беларускі палітык, дэпутат польскага Сейма, віцэ-старшыня БПК, кіраўнік Беларускага сялянскага саюза (БСС); у другім Сейме кіраваў Беларускім нацыянальным клубам.

[40] Радаслаў Астроўскі (1887 – 1976) – дырэктар Беларускага кааператыўнага банка ў Вільні ў 1925 – 1926 гг., у «Грамадзе» меў пасведчанне за нумарам 50; старшыня беларускага ўрада ў час нямецкай акупацыі ў 1943 – 1944 гг.

[41] Рэпартаж «9 дзень працэсу над «Грамадой», падпісаны крыптанімам (іг): «Kurjer Wileński», № 61 (1108), Вільня, чацвер, 15 сакавіка 1928 г.; с. 3.

[42] Артыкул без подпісу «Адказ грамадаўскай рэдакцыі»: «Сялянская ніва» № 33, Вільня, чацвер 14 кастрычніка 1926 г.; с. 1.

[43] LCVA, f. 281, ap. 2, b. 37 (кніга выбываючых папераў ЦБРВГ; запіс № 957).

[44] Міхал Кахановіч (1882 – 1934) – беларускі палітычны дзеяч, публіцыст; скончыў Харкаўскі ўніверсітэт (1910), першы дырэктар ВБГ (1919 – 1920), кіраўнік школьнага аддзела ЦБРВГ (1919), дэпутат польскага Сейма (1922 – 1925). Выехаў у БССР і ў 1934 годзе знішчаны савецкай уладай.

[45] LCVA, f. 281, ap. 2, b. 37 (кніга выбываючых папераў ЦБРВГ; запіс № 161).

[46] Юры Матулевіч, Юргіс Матулайціс (1871 – 1927) – рыма-каталіцкі царкоўны дзеяч; заўсёды падтрымліваў беларускіх ксяндзоў.

[47] LCVA, f. 281, ap. 2, b. 37 (кніга выбываючых папераў ЦБРВГ; запіс № 164 ад 31 жніўня 1920 г.)

[48] LCVA, f. 281, ap. 2, b. 37 (кніга выбываючых папераў ЦБРВГ; запіс № 256 ад 27 верасня 1920 г.)

[49] LCVA, f. 281, ap. 2, b. 37 (кніга выбываючых папераў ЦБРВГ; запіс № 281).

[50] LYA, f. K – 1, ap. 58, b. P – 12505, b.b. L. 105; пратакол допыту ад 2 ліпеня 1949 г., допыт вёў маёр Пырыкаў.

[51] А. Стульгінскіс (1885 – 1969) – другі прэзідэнт Літоўскай рэспублікі (чэрвень – снежань 1920 г.) і з 21 снежня 1922 г. па 7 чэрвеня 1926 г. 16 лютага 1918 г. А. Стульгінскіс у ліку іншых палітыкаў падпісаў акт незалежнасці Літоўскай дзяржавы.

[52] LCVA, f. 281, ap. 2, b. 9, l. 13. Пратаколы Беларускага навуковага таварыства.

[53] Пра палітычны і фінансавы змест гэтых камбінацый можна больш падрабязна даведацца з грунтоўнага нарыса гісторыка Аляксандра Пашкевіча «Як немцы з яўрэямі аб'ядноўвалі славян»: часопіс «Наша Гісторыя» № 1 – 2018 г.; сс. 26 – 29.

[54] Я. Пілсудскі (1867 – 1935) – польскі дзяржаўны дзеяч; у 1919 – 1922 гг. – начальнік дзяржавы; пасля траўня 1926 г. – фактычны кіраўнік краіны, прэм'ер рады міністраў.

[55] Беніта Мусаліні (1883 – 1945) – кіраўнік італьянскай фашысцкай партыі, старшыня рады міністраў Італіі ў 1922 – 1943 гг.

[56] Вінцэнт Гадлеўскі (1888 – 1942) – беларускі каталіцкі святар і палітык; быў пробашчам у Жодзішках. Найвышэйшы суд зацвердзіў вырак над В. Гадлеўскім 18 студзеня 1927 г., праз два месяцы, у сакавіку, святара арыштавалі ў Жодзішках і вывезлі ў Варшаву. У 1942 г. В. Гадлеўскага знішчылі нацысты.

[57] Артыкул Максіма Прынскага «Наш пагляд і дамаганьне»: «Сялянская ніва» №34, Вільня, чацвер 21 кастрычніка 1926 г.; с. 1.

[58] А. Смятона (1874 – 1944) – скончыў юрыдычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта; прэзідэнт Літвы ў 1919 – 1920 гг. і ў 1926 – 1940 гг.; 16 лютага 1918 г. падпісаў Акт незалежнасці Літоўскай дзяржавы.

[59] Ян Басановіч (1851 – 1927) – літоўскі гісторык, фальклярыст, публіцыст, пачынальнік літоўскага адраджэння; сабраў і выдаў 9 тамоў народных казак і песень; ініцыятар склікання і ўдзельнік Віленскага сейма (4-5 снежня 1905 г.); заснаваў Літоўскае навуковае таварыства (1907); падпісаў Акт аб незалежнасці сваёй краіны (1918). «...Імя д-ра Басановіча – гэта быццам сцяг, за якім у працягу паўсотні гадоў ішлі літоўскія адраджэнцы...» (А. Луцкевіч).

[60] Станіслаў Станкевіч (1886 – 1964) – беларускі грамадска-культурны дзеяч, паэт і выдавец; арыштоўваўся органамі НКУС, адбываў дзесяцігадовую высылку на паўночным Урале.

[61] Кастусь Каліноўскі (1838 – 1864) – нацыянальны герой Беларусі, палітычны дзеяч; выдаваў «Мужыцкую праўду», кіраваў паўстаннем 1863 – 1864 гг.

[62] Ігнат Грынявіцкі (1855 – 1881) – заснавальнік беларускай фракцыіі «Народнай волі»; забіў цара Аляксандра II.

[63] Словы Адама Станкевіча.

[64] Цэнтрасаюз (Цэнтральны саюз культурных і гаспадарчых арганізацый) – установа, створаная ў 1930 г.; яе заснавальнікі, сярод якіх і А. Луцкевіч, схільныя былі да супрацоўніцтва з Варшавай.

[65] Не блытаць з «Беларускім звонам», які ў 1921 – 1923 гг. рэдагаваў Францішак Аляхновіч.

[66] На гэтай віленскай вуліцы знаходзілася друкарня хадэкаў.

[67] У Віленскім касцёле святога Мікалая айцец А. Станкевіч служыў.

[68] На гэтай вуліцы знаходзілася кватэра Адама Станкевіча.

[69] Было прынята лічыць, што кватэра Адама Станкевіча з'яўлялася партыйным штабам хадэкаў. А яшчэ на Полацкай месцілася рэдакцыя «Сялянскай нівы» і сядзіба БСС, якія былі пад уплывам айца А. Станкевіча.

[70] Допіс «Бязсільная злосьць Беларускай Хадэцыі», падпісаны псеўданімам «Блізкі»: «Беларускі звон», Вільня, 30 сакавіка 1931 г., №7; с. 4.

[71] Васіль Рагуля (1879 – 1955) – беларускі палітык, з 1922 г. пасол польскага Сейма, з 1928 г. – сенатар, адзін з заснавальнікаў БСС, а са снежня 1926 г. – старшыня БСС. У 1941 – 1944 гг. – старшыня Беларускага валаснога камітэта, бургамістр Дзятлаўскага раёна.

[72] Артыкул без подпісу «Праца – ці лякайства»: «Беларускі звон», Вільня, 10 красавіка 1931 г., № 8; с. 1.

[73] «Kurjer Wileński» № 107 (1154), Вільня, субота 12 траўня 1928 г.; с. 3.

[74] Газета «Наша праца» № 5, Вільня, субота 15 кастрычніка 1927 г.; с. 3.

[75] Публікацыя «Маленькі фельетон (Тарас каецца)» за подпісам «Стары Хасенв»: «Сялянская ніва» № 41, Вільня, серада 1 снежня 1926 г.; с. 2.

[76] Допіс «Адбой ці провокацыя?» за подпісам «Н-ш Гонар»: «Сялянская ніва» №44, Вільня, субота 11 снежня 1926 г.; с. 2.

[77] «Наша праца» №5, Вільня, субота 15 кастрычніка 1927 г.; с. 3.

[78] Адам Більдзюкевіч (1895 – 1952) – беларускі дзеяч, віцэ-старшыня ЦК БСС; скончыў гандлёвую акадэмію, адзін з заснавальнікаў і старшыня цэнтральнага ўрада БІГК, аўтар кнігі «Асновы грамадскай гаспадаркі» (1926).

[79] Зняважлівая алюзія на імя святара і вуліцу, на якой ён жыў.

[80] Артыкул без подпісу «Лепей позна, чым ніколі»: «Беларускі звон», Вільня, 22 студзеня 1932 г., № 3 (28); сс. 1, 2.

[81] Артыкул без подпісу «На ўсенародны суд»: «Беларускі звон», Вільня, 13 траўня 1932 г., № 14 (39); с. 1.

[82] Артыкул без подпісу «Палеміка» кс. Станкевіча»: «Беларускі звон», Вільня, 27 траўня 1932 г., № 15 (40); с. 1.

[83] Фабіян Акінчыц (1886 – 1943) – беларускі палітык, скончыў юрыдычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта (1913), узначальваў юрыдычны аддзел «Грамады»; з 1933 г. стварае Беларускую нацыянал-сацыялістычную партыю.

[84] Артыкул без подпісу «Даць адпор шкоднікам»: газета «Родны край», Вільня, 10 чэрвеня 1933 г., № 12; сс. 2, 3.

[85] Павел Валошын (1891 – 1937) – беларускі палітык, адзін з заснавальнікаў «Грамады», пасол польскага сейма; знішчаны сталінскай уладай.

[86] Рэпартаж «46 дзень працэсу над Грамадой»: «Kurjer Wileński» № 103 (1150), Вільня, аўторак 8 траўня 1928 г.; с. 3.

[87] Допіс «Ліст да рэдакцыі»: «Сялянская ніва» №41, Вільня, серада 1 снежня 1926 г.; с. 3.

[88] «Беларуская крыніца» №41, Вільня, чацвер 17 снежня 1931 г.; с. 3.

[89] Сільвестр Ваявудскі (1892 – 1938) – пасол польскага Сейма, заснавальнік Незалежнай сялянскай партыі, блізкай да «Грамады». Пра Ваявудскага пісалі, што ён – правакатар і афіцэр 2-га аддзела Генштаба.

[90] Допіс «Гангрэна», аўтар якога «Піліп Нікель»: «Сялянская ніва» №24 (75), Вільня, субота 12 сакавіка 1927 г.; с. 1.

[91] Выданне 1935 г.

[92] Праўда, у гэтым сваім творы А. Станкевіч скарыстоўвае цытаты з «Палітычных лозунгаў беларускага руху» – працы Антона Навіны (пад такім псеўданімам выступаў А. Луцкевіч).

[93] Допіс «Аб маральным брудзе», аўтар якога «Піліп Нікель»: «Сялянская ніва» №29 (80), Вільня, субота 26 сакавіка 1927 г.; с. 3.

[94] Допіс без подпісу «Арышт беларускага дзеяча»: газета «Наша ніва» №3, Вільня, панядзелак 12 лістапада 1920 г.; с. 2.

[95] Ваенная адміністрацыя «Сярэдняе Літвы».

[96] «Польская акупацыя ў Беларусі» (Вільня, 1920 г.).

[97] Допіс без подпісу «Цень ворагаў»: «Сялянская ніва» № 17 (68), Вільня, субота 19 лютага 1927 г.; с. 2.

[98] Артыкул без подпісу «Нашыя апякуны»: «Сялянская ніва» № 84 (135), Вільня, серада 16 лістапада 1927 г.; с. 1.

[99] Газета «Народная воля» № 10 (3853), пятніца 7 лютага 2014 г., с. 3; часопіс «Тэрмапілы», Беласток, № 18, 2014 г.; сс. 102 – 114.

[100] Іван Луцкевіч (1881 – 1919) – беларускі палітык, археолаг, калекцыянер; вучыўся ва ўніверсітэтах Пецярбурга і Вены; заснаваў у Вільні газету «Наша ніва» і беларускую гімназію. Заклаў падмурак Беларускага музея ў Вільні.

[101] Ян Пятроўскі (1905 – 2002) – пратэстанцкі рэлігійны дзеяч, прапаведнік метадысцкай царквы, перакладчык; складальнік грэцка-беларускага, англа-беларускага і беларуска-англійскага слоўнікаў.

[102] Жан Кальвін (1509 – 1564) – французскі рацыяналіст, аскет; рэфарматар каталіцкай царквы.

[103] Атэстацыя пастара Я. Пятроўскага.

[104] LCVA, f. 281, ap. 2, b. 9, l. 12. Пратаколы Беларускага навуковага таварыства.

[105] Юліяна Вітан-Дубейкаўская (1886 – 1970) – беларуская мемуарыстка, аўтар кнігі «Мае ўспаміны» (напісана ў 1953 г., надрукавана ў 1994 г.)

[106] Паўліна Мядзёлка (1893 – 1974) – дзяячка беларускай культуры, артыстка, настаўніца; аўтар мемуараў «Сцежкамі жыцця» (1974 г., частка другая надрукавана ў 1993 г.; апошняе выданне: Мінск, «Лімарыус», 2018 г.).

[107] Вынятка з выдання: Паўліна Мядзёлка. Сцежкамі жыцця. Укладанне, прадмова, каментары: Ганна Запартыка. Мінск, «Лімарыус», 2018 г.; с. 114. Далей: П. Мядзёлка. Сцежкамі жыцця. 2018 г.

[108] А. Станкевіч. Выбранае. 2008 г.; с. 324.

[109] Допіс без подпісу «Аб «Грамадзе»: «Сялянская ніва» № 47, Вільня, серада 22 снежня 1926 г.; с. 4.

[110] «Сучасная беларуская прысутнасць у Вільні // Gudai ir ju gyvenimas dabarties Vilniuje», Вільня, 2009 г.; с. 48.

[111] LYA, f. K – 1, ap. 58, b. P – 12505, b.b. L. 169.

[112] LYA, f. K – 1, ap. 58, b. P – 12505, b.b. L. 4.

[113] КПЗБ – камуністычная партыя Заходняй Беларусі.

[114] Рыгор Шырма (1892 – 1978) – беларускі харавы дырыжор, фальклорыст, публіцыст; заснаваў нацыянальны хор, у Вільні дапамагаў беларускім паэтам, пад псеўданімам Р. Баравы напісаў прадмову да зборніка вершаў Максіма Танка «На этапах» (1936).

[115] Валянцін Таўлай (1914 – 1947) – беларускі паэт, дзеяч КПЗБ, доўгія гады правёў у польскіх турмах, аднак не згубіў творчай дужасці: «Адчыняе камеру стражнік // і збанок падае вады, – // бліскавіца-спакуса дражніць: // вырваць ключ, а яго – сюды...»

[116] Алесь Кучар (1910 – 1996) – беларускі крытык і кінадраматург. Сярод мноства напісанага А. Кучарам – сцэнарый да мастацкага фільма «Гадзіннік спыніўся апоўначы» і артыкул «Пра адну рэакцыйную аповесць» (Кузьма Чорны – «Лявон Бушмар»).

[117] Максім Танк (1912 – 1995) – народны паэт Беларусі, першыя свае кнігі выдаў у Вільні і там жа, у Вільні, тройчы трапляў на Лукішкі. Мой самы любімы твор ансамбля «Песняры» – песня У. Мулявіна на верш Максіма Танка «Завушніцы».

[118] Сустрэча адбылася 27 ліпеня 1944 г. (А. Станкевіч. З Богам да Беларусі. Збор твораў. 2008 г.; с. 848).

[119] Кіра – жонка Валянціна Таўлая.

[120] Янка Шутовіч (1904 – 1973) – беларускі грамадскі і культурны дзеяч, рэдактар-выдавец часопіса «Калосьсе»; скончыў Віленскі ўніверсітэт з дыпломам магістра права, з'яўляўся апошнім дырэктарам Беларускага музея ў Вільні. Жонкай Янкі Шутовіча была літоўская паэтка Она Міцютэ.

[121] П. Панамарэнка (1902 – 1984) – першы сакратар ЦК камуністычнай партыі Беларусі ў 1938 – 1947 гг.

[122] А. Станкевіч. Выбранае. 2008 г.; сс. 324, 333.

[123] LYA, f. K – 1, ap. 58, b. P – 12505, b.b. LL. 183, 184.

[124] Цяперашняя вуліца Яна Басановіча.

[125] Цяперашняя вуліца Пііма.

[126] Маецца на ўвазе касцёл святога Казіміра.

[127] Кузьма Чорны (1900 – 1944) – беларускі празаік, аўтар майго любімага рамана «Сястра» (1927 – 1928); з 14 кастрычніка 1938 г. па 8 чэрвеня 1939 г. знаходзіўся ў чырвонай катоўні.

[128] Дзённік. Запіс ад 11 кастрычніка 1944 г. Кузьма Чорны. Збор твораў у шасці тамах. Том пяты. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1990 г.; с. 381. Далей: Кузьма Чорны. Збор твораў. 1990 г.

[129] LYA, f. K – 1, ap. 58, b. P – 12505, t. b., l. 1 ap.

[130] Масей Сяднёў (1913 – 2001) – беларускі паэт, празаік; аўтар яркай аповесці пра даваеннае жыццё ў БССР «Раман Корзюк» (1985) і адметнага рамана пра Другую сусветную вайну «І той дзень надышоў» (1987); у 1936 г. М. Сяднёва арыштавалі і этапіравалі на Калыму, перад самай вайной вярнулі ў Менск на перагляд справы; з 1944 г. – паэт на эміграцыі.

[131] М. Сяднёў. Раман Корзюк. 1985 г.; с. 173.

[132] LYA, f. K – 1, ap. 58, b. P – 12505, t. b., l. 1.

[133] LYA, f. K – 1, ap. 58, b. P – 12505, t. b., l. 1 ap.

[134] «Б/у» (скарачэнне ад руск. – бывшее в употреблении) – ужыванае.

[135] LYA, f. K – 1, ap. 58, b. P – 12505, t. b., l. 2.

[136] Biurko (*польск.*) – пісьмовы стол.

[137] LYA, f. K – 1, ap. 58, b. P – 12505, t. b., l. 1 ap.

[138] Тамсама.

[139] LYA, f. K – 1, ap. 58, b. P – 12505, s. b. (196), l. 5.

[140] Старшы следчы 1-га аддзела следчай часткі МДБ ЛССР.

[141] LYA, f. K – 1, ap. 58, b. P – 12505, s. b. (196), l. 5 ap.

[142] LYA, f. K – 1, ap. 58, b. P – 12505, b. b., l. 12.

[143] LYA, f. K – 1, ap. 58, b. P – 12505, b. b., l. 13.

[144] Аляксандр Ружанцоў (1893 – 1966) – беларускі вайсковы дзеяч, літаратар, вучыўся ў маскоўскім універсітэце; у 1919 г. – камандзір Беларускага асобнага батальёна ў літоўскім войску; памёр у ЗША.

[145] LYA, f. K – 1, ap. 58, b. P – 12505, t. b., l. 1.

[146] LYA, f. K – 1, ap. 58, b. P – 12505, t. b., l. 2.

[147] Ядвігін Ш. (*сапр.* Лявіцкі Антон Іванавіч; 1869 – 1922) – беларускі пісьменнік, вучыўся ў маскоўскім універсітэце, аўтар рамана «Золата» (1920). Ядвігін Ш. пахаваны ў Вільні на могілках Росы. Маё любімае ягонае апавяданне «З маленькім білецікам» (1912).

[148] LYA, f. K – 1, ap. 58, b. P – 12505, b. b., l. 9.

[149] LYA, f. K – 1, ap. 58, b. P – 12505, t. b., l. 3.

[150] Міхась Забэйда-Суміцкі (1900 – 1981) – беларускі спявак, тэнар, з майстэрствам і любоўю выконваў нашы народныя песні, у 1930-я гады стажыраваўся ў міланскім оперным тэатры «Ла Скала». Пахаваны ў Празе на Альшанскіх могілках.

[151] П. Мядзёлка. Сцежкамі жыцця. 2018 г.; с. 466.

[152] Пётра Сергіевіч (1900 – 1984) – беларускі мастак, вучыўся ў Вольнай школе малюнку і жывапісу ў Вільні, у Акадэміі мастацтваў Віленскага ўніверсітэта, у кракаўскай акадэміі мастацтваў. У 1938 г. мастак падарожнічаў па Італіі, памёр і пахаваны ў Вільні на могілках, што на Антокалі.

[153] Паведамленне ў фэйсбуку С. Панізніка ад 21.04.2018 г.

[154] Ларыса Геніюш (1910 – 1983) – беларуская паэтэса, аўтар вершаваных зборнікаў «Ад родных ніў (1942), «Невадам з Нёмана» (1967), «На чабары настоена» (1982). Асаблівую цікавасць у чытачоў набыла кніга ўспамінаў паэтэсы «Споведзь» (1993). Л. Геніюш жыла ў Празе, у 1947 г. па загаду з СССР была арыштавана, доўгія гады знаходзілася ў лагерах Комі і Мардовіі.

[155] Адам Мальдзіс (1932 г.н.) – беларускі гісторык і пісьменнік, аўтар мноства змястоўных твораў, у ліку якіх прываблівае чытачоў і цікавае даследаванне «На скрыжаванні славянскіх традыцый» (1980).

[156] Сяржук Вітушка (1965 – 2012) – беларускі грамадскі дзеяч, гісторык, кіраўнік таварыства «Талака».

[157] А. Станкевіч. З Богам да Беларусі. 2008 г.; с. 319.

[158] «Biełaruski hołas» – штотыднёвая газета, выходзіла ў Вільні лацінскімі літарамі ў 1942 – 1944 гг. пад кіраўніцтвам Францішка Аляхновіча.

[159] LYA, f. K – 1, ap. 58, b. P – 12505, b. b., l. 175 ap.; пратакол допыту ад 9 снежня 1944 г.; допыт вялі – начальнік аддзялення 2 аддзела НКДБ ЛССР капітан дзяржбяспекі Голасаў і старшы оперупаўнаважаны 2 аддзела НКДБ ЛССР старшы лейтэнант дзяржбяспекі (прозвішча нечытэльнае).

[160] Максім Багдановіч (1891 – 1917) – беларускі пясняр, прысвяціў Вільні шэраг твораў; увёў нашу паэзію ў сусветную літаратурную прастору.

[161] «Беларускі звон», Вільня, 30 красавіка 1931 г., №10; с. 1.

[162] Радкі з паэмы «Новая зямля» (раздзел XXIX «На Замкавай гары»).

[163] Станіслаў Грынкевіч (1902 – 1945) – беларускі пісьменнік, перакладчык, навуковец, грамадскі дзеяч; скончыў медыцынскі факультэт Пазнанскага ўніверсітэта; 30 ліпеня 1944 г.

арыштаваны савецкай спецслужбай. Кузьма Чорны і Максім Танк прасілі за С. Грынкевіча, але ўсё марна – праз год беларускага патрыёта расстралялі.

[164] Вацлаў Іваноўскі (1880 – 1943) – беларускі палітычны дзеяч, доктар тэхналагічных навук; скончыў Санкт-Пецярбургскі тэхналагічны інстытут, заснаваў Беларускую рэвалюцыйную партыю, міністр асветы ва ўрадзе БНР, прафесар Варшаўскага палітэхнічнага інстытута; з 1942 г. – бургамістр Мінска.

[165] Баляслаў Грабінскі (1899 – 1991) – беларускі грамадскі дзеяч, скончыў медыцынскі факультэт Віленскага ўніверсітэта, пасля вайны жыў у ЗША.

[166] LYA, f. K – 1, ap. 58, b. P – 12505, b. b., l. 184.

[167] LCVA, f. 281, ap. 2, b. 20, l. 12. Пратакол № 13, 23 кастрычніка 1938 г. Пратаколы Беларускага навуковага таварыства за 1938 год.

[168] Мечыслаў Рэйніс (1884 – 1953) – біскуп рыма-каталіцкай царквы, скончыў імператарскую духоўную акадэмію ў Пецярбурзе, магістр філасофіі, вучыўся ў Страсбургскім універсітэце; у 1925 – 1926 гг. з'яўляўся міністрам замежных спраў Літвы. Знішчаны сталінскім рэжымам.

[169] LYA, f. K – 1, ap. 58, b. P – 12505, b. b., l. 32. Пастанова аб прад'яўленні абвінавачання ад 28 красавіка 1949 г.

[170] LYA, f. K – 1, ap. 58, b. P – 12505, s.b. (196), l. 2. Пастанова на арышт ад 16 сакавіка 1949 г.

[171] LYA, f. K – 1, ap. 58, b. P – 12505, b. b., l. 223 – 26, 27; «Зварот беларускага народа да Папы Рымскага». На нямецкай мове. Дакумент канфіскаваны 30 чэрвеня 1949 г. – LYA, f. K – 1, ap. 58, b. P – 12505, b. b., l. 11 (пункт 13).

[172] Р. Ялбжыкоўскі (1876 – 1955) – царкоўны дзеяч Польшчы, віленскі арцыбіскуп; праводзіў антыбеларускую палітыку.

[173] Газета «Наша праца» № 1, Вільня, субота 1 кастрычніка 1927 г.; с. 3.

[174] «Каляндарныя нататкі». Запіс ад 7 жніўня 1944 г. Адам Станкевіч. З Богам да Беларусі. Збор твораў. 2008 г.; с. 848.

[175] Дзённік. Запіс ад 11 кастрычніка 1944 г. Кузьма Чорны. Збор твораў. 1990 г.; с. 381.

[176] LYA, f. K – 1, ap. 58, b. P – 12505, b. b., l. 200.

[177] Андрэй Цікота (1891 – 1952) – беларускі рэлігійны дзеяч, скончыў Пецярбургскую мітрапалітальную духоўную каталіцкую акадэмію; з 21 ліпеня 1933 г. – генерал ордэна айцоў марыянаў. Замардаваны ў сталінскім канцлагеры.

[178] LYA, f. K – 1, ap. 58, b. 12505, l. 223 – 38. Мяркуючы па адзнаках на першай старонцы, дакумент быў накіраваны ў аддзел III B камендатуры паліцыі бяспекі і СД ў Мінску.

[179] LYA, f. K – 1, ap. 58, b. 12505, l. 223 – 40.

[180] LYA, f. K – 1, ap. 58, b. 12505, l. 223 – 41.

[181] LYA, f. K – 1, ap. 58, b. 12505, l. 223 – 42.

[182] Уладзіслаў Сікорскі (1881 – 1943) – польскі ваенны і палітычны дзеяч, з 16 снежня 1922 г. па 26 траўня 1923 г. узначальваў польскі ўрад. Паводле Б. Тарашкевіча, палітыка Сікорскага была беспраграмная, у «...яго былі шчырыя намеры, не хапала толькі грамадзянскай мужнасці...» А яшчэ Б. Тарашкевіч заяўляў у Сейме, што ўрад Сікорскага прынёс беларусам шматлікія беды. У 1939 – 1943 гг. генерал У. Сікорскі з'яўляўся кіраўніком польскага ўрада ў Лондане. Загінуў 4 ліпеня 1943 г. у авіякатастрофе над Міжземным морам. У тым самалёце знаходзілася і ягоная дачка Зоф'я Лесьнёўская.

[183] LYA, f. K – 1, ap. 58, b. 12505, l. 223 – 43.

Віктар Слінка



...паглядзі на гэта
інакш, – кажуць тыя, каторыя
аддалі сваю ўладу
над уласнымі днямі
за няўвагу да ўласных дзён...

# Болей – ніякіх сцен

* * *

Ты толькі й робіш, што корміш
Свае акуляры.
Жонка глядзіць тэлескрыню, заплываючы ў сон.
У цвёрдае рэчыва рук апранаюцца мары.
Раструшчанае, ляж побач. Ты – стань ля вакон.
Акварыум – там?.. Ці – дзе ты?
*Шнары на жабрах рыбін.*
Цярплівымі быць не даволі? Ім – шкло не разбіць?..
Падводны тут не знайсці
чароўны лекавы грыб ім.
Ды за адно ўжо дзякуй: ты ўбачыш, я́к гэта – жыць.

...Пальцы мае вастрэюць; хутка разрэжу вокны.

Ламлю
Акуляры...

*Снежань 2016*

* * *

пісаць на паштовых бланках
вобмаль чыстай паперы
лепшая школа ашчаднасці

слухаць празрысты голас
трывалая нерашучасць
і – побач адвага: падталы лёд

чалавечае цела
такі набытак

немінучая неўміручасць
як абавязак
выклікае сумнеў

але

*тыя вішні каторых ніхто не ссячэ*
*і цвіценне чыё ты не здольны забыць –*
*часам файна пачуць нечы голас яшчэ –*
*як народжаны ты то павінны – забіць?..*

< ... >

* * *

робіць толькі часцей агароджу
дрэўца на фоне кратаў жалезнага плота
калі ты ў паркавай цемрадзі
перад святлом завулка
стаіш за снежным шчытом прасторы
ў марознай брані
хочаш адхукаць не падлічваючы выдаткі
неадгукальны голас
не думаючы як гэта зробіш
у час калі трэба дыхаць
цяпер

< ... >

* * *

“Колькі нас, адпраўленых лістоў,
Недасяжнасць прыме без падзякі!..” –

Падпісацца пад такім гатоў,
Хто вачэй пазычыў у сабакі.

...Люстрана́я пространь характва.
Выцвіласць адсеяных імгненняў.
Пазачасавасці – не схаваць
Повязяў удзячнасці, – ўзаемна...

*2016*

## *БАЛАДА*

Скончыцца дом – і пачнецца двор,
А потым – скончыцца двор.
Каляін утравелых стужка, – яна
Для следу – сіло і схрон.
Попел – зямля. І ўчора, за міг
Да поўначы, – і да нас,
Абгары-Далонь засынаў...
Падобна змяняе сузор'я строй
Нябачны раней пульсар.
У сне загадаў, – і выйшла прыйсці,
Хаця – не было куды.
Сын каваля, Абгары-Далонь,
Тут сцежку не адшукаць.
Сын лесніка – па тваіх слядах, –
Неадцвітай-Камель.
Поле – засне, гай – на мяжы
Лагчыны; дзе іх туман?
Сын каваля, Абгары-Далонь,
Сцежка схавалася ў крык.
*Прачнуцца* няпроста, але ж яму
І гэтае па руцэ.
А вы, хто ў руках цвярдзее сваіх, –
Дзеля чаго нам тут
Пакінуты трактар, жалеза ржа,
Ламачча на паплавах?
Снягі ён можа нават адняць
Ад будучыні дажджу
І вылічыць суму нашых часін,
Адбітую на душы.
Сын лесніковы, вечнасць – чыя,
Неадцвітай-Камель?
Дзеля чаго дапамогуць нам
Хвіліны – як абцугі?

Радыус – знешні? Падобна, як
З зуба вывінчваюць нерв,
А потым – рыўцом наверх. І тады
Ты ўжо свабодны сам.
Вольнае месца для нас. А камусь
Будзе пустым заўжды.
Прастора, жывая спаруда, цвердзь;
Ачольвае, хто пачуў.

*2015*

* * *

наступная станцыя – метэастанцыя
менавіта там просьба аб вызваленні дзвярэй
папярэднічае вызваленню
людзьмі валізак
ад старых іртутных тэрмометраў
зламаных флюгераў-ветрачкоў
ды іншага гломазду
вось так нехта
адшпільвае крылы [іх сімулякр]
альбо – зразае сапраўдныя
выгадаваныя з уласнае скуры
выкідвае ў сметніцу поўную слыхавых
прылад
“ці бывае трэцяе вуха як трэцяе вока?” –
аб тым разважае знячэўку знямелы дыджэй
пасля перамогі на праслухоўванні
у тутэйшай радыёстанцыі
дзе толькі добрыя навіны замест
бірушаў
і заўсёды на іншых частотах
доўгачаканая вестка

*2016*

## З ДЗЁННІКА-2

Матэрыю, што ўтрымлівае
дотык – і твар, і адсутна-прысутны
голас,
калясардэчную сумку
тваю – і
збег

выпадковых сцяжын,
прыблізнасць
варожасці і сяброўства, –

усё неадменна
нясеш;

але: дарэчнасць
заўсёды святога жадання левай нагі
і неатрыманую прышчэпку ад старасці, –
поўны камплект, дзедзіну кожнага

ты – а д п р э ч, пакінуўшы сабе
цеплыню
абвугленае галінкі.

Толькі тады, мабыць, станеш на ногі
свае.

*2014*

* * *

сенцы ейнае хаты застаўленыя
неакоранымі цурбакамі
(каб не пакралі з двара)
прама ля печы згрувашчаныя
паколатыя за бутэльку суседам дровы
былая вясковая настаўніца
(цяпер на пенсіі) жыве ў сялянскай хаце адна
у печы распальваецца дрэнна але шчыруе
для сяброўкі юнацтва што прыехала ў госці
прывезла ў падарунак новыя боты
радая
не ботам але сяброўцы
збірае на стол дзеліцца навінамі
сын працуе на трактары
неяк жывецца
колішняя вучаніца аддала паліто
яшчэ неблагое
гаворыць пра гэта спакойна ўспрымае
як належнае
разам жылі ў інтэрнацкім пакоі
сорак пяць год назад
сорак пяць год назад і наперад

і ва ўсе бакі
ва ўсе часткі свету ва ўсіх
кірункаў нябёс
можна спытацца
і атрымаць адказ
што таямніцы не з’едзены моллю
але жыццё патрачанае на жыццё
ёй (гаспадыні) тады студэнтцы
выкладчык казаў:
“ты даб’ешся многага альбо нічога”
так і сталася
а сяброўка сама расправіла крылы
ніхто
не дапамагаў

цяпер жа – час каб разам нібы заўсёды
глядзець у вакно за якім цямнее паветра
пакой застаецца ў святле
абняцца
крыламі і рукамі
выпіць віна для няма
ні кроплі воцату
шчасця

*2017*

* * *

Не паспелі?
Не пасмелі

Выцвілых старонак разгарнуць.

Трэба скеміць,
Што за тэма

Хоча вас
Забраць
І праглынуць?..

Хіба страшна
Крочыць
Страсцю?

Бо пасля
На іншае хвіліны

Ты патраціш,
Хоць і не павінны.

*2017*

* * *

Прысутная адсутнасць
Ці адсутная прысутнасць?
(Робіцца выгляд, што ты – тут,
А насамрэч – у месцы іншым,
Хоць не цялесна.)
Адстароненасць – альбо
Увязненасць
Часткі ў цэлым; і – па-над –
Бела-шэрае вока
Сонца з-за хмар.

“Паглядзі на гэта
Інакш,” – кажуць тыя, каторыя
Аддалі сваю ўладу
Над уласнымі днямі
За няўвагу да ўласных дзён,
За пяшчотны дотык да ран,
Нанесеных тымі ж, хто лекуе. –
“Паглядзі на гэта
Нібыта ўдзельнік гульні”.

А нехта
Перадае прывітанне
Ўласнае
Звярынай сям’і, – калі
На паляванні ваўчыца
(Хоць можна і памыліцца).
Але ўсё адно... – прапахнуць
Логвішчам іхным,
Укласці пальцы абедзвюх рук
У бяззубыя пашчы

Адурэлых ад голаду
Ваўчанят.

*2018*

* * *

Там нам будзе што есці ды будзе што піць
Але тут вам не будзе без нас як пражыць

Бо мы вашая ежа і ваша піццё
І без нас дзень не дзень і жыццё не жыццё.

Нейкай рыскаю нешта пракралася ў твар
Ці то пільная ўвага
як сонечны ўдар
Ці Гарынь у паводку
ці крок у слаце
Быццам весці сляпога каня па жарсцве.

Нас вам кінулі косткай –
над косткай дрыжаць
Дзе ж такі парасон каб закрыў сенажаць?
Бо галодныя пасткі без ежы грызуць
Ржою ўласныя зубы;
хвіліны растуць.

Бо імгненне пасаджана ў нас нібы плод
Кожны плод па сабе ды прыносіць прыплод
Нат калі мы бяздумна ўзыходзім на лёд
Ці над прорваю крылы
прадбачыць палёт.

Будавалася хата з балотных імхоў
Пазычалі лучыну для свежых грахоў
Але толькі далоням было не ўтрымаць
Што патрэбна было падарункам прыняць.

*19 лютага 2018*

* * *

На лінолеуме падлогі –
светлая пляма вакна.
Па ніжнім краі
няспынна
прабягае цёмная хвалька, –
гарачае паветра
в і д а ц ь.
Чаму
па ніжнім краі,
па-над рысай, праведзенай ценем,
чапляючыся
за святло?

*2 красавіка 2014*

* * *

Я іду на святло – але гэта ў вачах
Адбіваецца воўчых агеньчыкаў жах.
Я іду на маўклівасць, іду на званы,
Хоць не знаю, навошта склікаюць яны.
Нехта нож
з-за халявы сваёй дастае,
Нехта стол накрывае ў маёй старане.
Нехта рупіцца продкаў сабраць на Дзяды –
Толькі каб не ў манкурта пазычыў яды.
Дзе свянцонай вады пралілі на парог,
Дзе на свята дзялілі з нядужным пірог,
Дзе за вёскаю крыж абярэжны паўстаў
І зайздросцілі зоры, што ранак настаў.

*16 снежня 2018*

* * *

Калоны трымаюць
Дах храма.
Болей – ніякіх сцен.
Толькі паветра, калоны і дах,
А таксама прастора, абкружаная
Портыкамі.
Жанчына ў туніцы, сколатай на плячы
Іклам цмока,
Стаіць ля ахвярніка, трымаючы за руку
Падлетка.
Шалёны бык, які напаў на гімнасій учора,
Пакінуў жывым яго аднаго.
Рытар, прапораты рогам,
Жывёлу схапіў за капыт, – раз'ятраная, дабіла.
Хлопчык чакае, – і хутка стане вядома,

Што вырашылі багі.

*1 лютага 2019*

Мікола Гіль



...трэба жыць, але гэтак, каб у рэшце рэшт
пра цябе сказалі: ён быў дарэчны чалавек...

# Апошнія

***Аповед-згадка пра адну сустрэчу***

*Светлай памяці цешчы Сцепаніды Мацвееўны*

Калі ўспамінаю тую неспадзяваную і нечакана цікавую сустрэчу, дык перш-наперш чамусьці згадваецца славуты пушкінскі радок: “Невольно к этим грустным берегам меня влечет неведомая сила...” Так ужо сталася, што і Пушкін, нароўні з Купалам, Коласам ды Багдановічам, жыве ў маім сэрцы, і пры нагодзе ягонае слова таксама ўсплывае з прадоння памяці і трывожыць душу...

Быў я тады дома, у роднай вёсцы, у запаветным куточку роднае зямлі, дзе нарадзіўся, убачыў свет і спакваля спазнаваў яго, усё шырэй вокам і ўяўленнем рассоўваючы ягоныя далягляды. Не скажу, што за свае сем дзясяткаў гадоў часта апынаўся я далёка ад, зноў жа па-пушкінску, “отеческих пределов”, хоць сям-там, як кажуць, пабываў і сёе-тое пабачыў. І цаню харошую ўсмешку нашага слын-

нага і незабыўнага Янкі Маўра (меў шчасце асабіста ведаць яго і нават гутарыць з ім): “Зірні на Неапаль – і памірай!” – усё роўна, маўляў, большай, ці лепшай красы каб і хацеў – не ўбачыш! Яно, па ўсім, сапраўды гэтак, ды, як заўважыў другі слаўны расійскі паэт: “Но все же, все же, все же...” Так, усё ж ёсць на зямлі мясціна, якой нават і ніякі Неапаль не засціць і не зацьміць. Гэта – у кожнага – свой родны кут. У Коласа – ягоны, а ў мяне – мой. І часта, з гадамі ж усё часцей, к яму “я ў думках залятаю, і там душою спачываю”. І не толькі ў думках (як паэт), але і наяве.

Ды побач з радасцю душу штораз агортвае і той самы вялікі пушкінскі сум, туга, жаль і боль. Бо – наўкол, куды ні кінь вокам, “няма таго, што раньш было” (гэта ўжо і Багдановічавы словы прыбеглі на падмогу). Нічога таго, ранейшага, сапраўды – амаль ні знаку. Ні людзей, ні дрэў, ні дарог, ні сцежак. Нават цэлых пагоркаў-узлобкаў. Бо вось жа! Была паблізу маёй роднай вёскі гара надзвычай правільнай круглай формы ды з мілагучнаю назваю – Лежнеўка, а яшчэ – з легендаю, што нібыта калісь стаяла там прыгожая царква, ды за нейкую людскую правіну правалілася скрозь зямлю, і цяпер толькі ў велікодную ноч, калі ўзыйсці на гару і прыкласці вуха да зямлі, можна ўчуць сумны звон і тужлівы спеў. Вывезлі Лежнеўку самазвалы дарэшты, разам з падножжам, і зараз замест прыгожай і легендарнай гары – досыць глыбокая ўпадзіна, у якой збіраецца дажджавая і снегавая вада.

Пэўна, кожны чалавек у старым узросце зведвае тужліва-балючыя пачуцці пры наведанні роднага бацькоўска-матчынага кута. Такія балючыя, што хтосьці з вялікіх нават выгукнуў у роспачы ці са спачуваннем да самога сябе: каб не раніць збалелае старэчае сэрца – лепш не ездзіць туды!

Толькі ж мы ўсё адно ездзім. І будзем ездзіць. Да змогі. Да канца сваіх дзён. Такая ўжо наша чалавечая планіда. Гэтак – і я. Езджу дадому (так, насуперак усялякай логіцы, пражыўшы болей за паўвека ў Мінску, – дадому!) амаль штотыдзень. Прынамсі, цяплейшымі часінамі года. Літаральна кожныя выхадныя. Езджу, хоць і папраўдзе ўжо амаль няма там ні тых людзей, якія былі ў маёй дзіцячай і юначай біяграфіі, ні шмат чаго іншага, у тым ліку і згаданай Лежнеўкі, і незгаданага вялікага качынага балота, густа зарослага лазняком ды бярэзнікам, якое мела звонкае і амаль што баявое імя – Буй. Берагі маленства ды юнацтва сапраўды сумныя, нават тужлівыя, – паэт, як заўжды, і тут надзвычай дакладны і трапны ў выказванні. Ды, зноў жа, усё адно вабіць, цягне мяне сюды тая ж, таксама дакладна акрэсленая паэтам, нязнаная, непадуладная веданню сіла...

Няйначай яна, гэтая сіла, і выправіла мяне аднойчы – там, дома – у дарогу. Не надта й даўно, мо нейкі дзясятак гадоў таму, ужо за сённяшнім акупацыйным рэжымам, калі я чарговым разам прыехаў у адведкі да бацькоўскага котлішча. Закарцела прайсціся сцежкамі бліжэйшага наваколля роднае вёскі, схадзіць хоць бы туды, куды сягае вока ў нашым дзівосна і чароўна пагоркавым краі. Ды прайсціся ў рэшце рэшт не рашыўся – хадок з мяне ўжо быў не той, што ў маладосці, узяў на падмогу двухколавага “каня”: ён хоць і не мае аніякае ўласнае сілы, каб несці седака, але на роўнай дарозе ды з горкі дае яму добрую палёгку плюс хуткасць, як нішуць газетчыкі, перамяшчэння.

Наважыўся праехацца ў бок Янушкавічаў, мо нават і да саміх іх, куды тры гады запар хадзіў у школу. Там я вучыўся на самым пачатку другой паловы дваццатага стагоддзя з восьмага класа па дзясяты. Да Янушкавічаў ад нашае Слабады добрых сем кіламетраў. Цяпер ужо як і не верыцца, што калісьці перамерваў іх пешкі двойчы на дзень (туды і назад) ажно

цэлыя тры гады, у тым ліку ў восеньскую слоту і ў зімовыя завірухі. І выправіўся ў дарогу – па абедзе, каб не ў самую спёку – не па шашы праз Гайну, а праз Роўніцу і Зубаву гару, як хадзіў калісь.

Праз Роўніцу ды Зубаву гару і тады, паўвека назад, дарога была благая, не наезджаная: мала хто рашаўся адольваць з возам тыя галаваломныя спускі і крутыя пад'ёмы. Але ўсё ж дарога была, і калі мала па ёй ездзілі, дык затое нямала хадзілі, бо ўсё ж яна напрасткі вяла да Янушкаўскай гравійкі. Цяпер жа выдавала на тое, што тут даўно ўжо ніхто не толькі не ездзіў, але й не хадзіў: за Зубавай гарой наогул ніякага следу не было, паўсюль густа стаяў гонкі алешнік ды бярэзнік.

Вяртацца назад не хацелася, і я са сваім, у такіх варункам цалкам лішнім "канём", ці не паўгадзіны прадзіраўся праз гушчар. Выбіўшыся ўрэшце на поле, на ім таксама аніякіх адзнак колішняй дарогі не знайшоў. Шаша, робячыся ў свой час асфальтоўкай, таксама памяняла сваё, так бы мовіць, дарожнае рэчышча. Так што сотню-другую метраў і тут давялося свайго "каня" валачы ледзь не на сабе. Затое, дапяўшы нарэшце да шашы, "конь" мой ужо лёгка нёс мяне, каціўся вольна і шпарка, ажно я тварам і грудзьмі пачаў адчуваць прыемна астуджвальны супраціў густога і водарнага летняга паветра.

Ехаў я і... мала што пазнаваў паўзбоч гэтай новай, сучаснай, як быццам зусім чужой для мяне дарогі. Аказваецца, час сапраўды змяняе не толькі чалавека – маладога, крамяна-ружовага баравічка-мацачкаператварае ў нягеглага, кволага, маршчыністага смарчка. Час мяняе ўсё і ў прыродзе: і хаты, і дрэвы, і сам ландшафт, шмат што пры гэтым згладжваючы, а то й наогул знішчаючы, руйнуючы. Амаль нічога не засталося ад пасёлка Нова-Слабада, дзе некалі, прынамсі, за маёй вучобаю, было з добры дзясятак хат; нічога не ўгадвалася за дрэвамі ў блізкім ад яго Равячыне; не ўгледзеў аніякага следу ад колішняга Масцішча: адны прысадкавыя – ды й тыя лічаныя – дрэвы стаялі ў полі...

А да Канікавічаў, наступнай на маім колішнім шляху да школы вёсачкі, я не даехаў – запыніла кабета, а папраўдзе бабуля, што пасвіла пры дарозе карову, гукнуўшы мне напярэймы:

– Не скажаце, колькі ўжо часу?

Я злез з "каня", зірнуў на свой і тады ўжо "экзатычны" – з "Пагоняй" на цыферблаце – гадзіннік, спаважна, амаль па-старэчы адказаў:

– А якраз роўна палова на пятую.

– А божачкі, як вы дзіўна кажаце – палова на пятую, – нечакана здзівілася бабуля. І ўдакладніла: – Як даўней. Настаўнік наш некалі, да вайны яшчэ, гэтак гаварыў: а сёмай вечара, чвэртка на другую...

Я ўсміхнуўся:

– Па-беларуску гаварыў, як і трэба. Раней настаўнікі ўмелі гаварыць правільна і прыгожа. І мае, пасля вайны ўжо, таксама яшчэ ўмелі.

– Праўда ваша! – з ходу пагадзілася бабуля, з выгляду на ўсе восемдзесят, але яшчэ жвавая, нават порсткая. – І радзіва па-нашаму красіва гаварыла, не тое што цяпер: слухаць не хочацца. – Памаўчаўшы трошкі, нечакана спытала: – А вы, часам, не сын Сымона Гілевічавага са Слабады?

Я знячэўку ці не папярхнуўся, сцепануў плячыма і не знайшоў нічога іншага, як адказаць шчыра, хоць і запытаннем:

– Падобны на бацьку ці проста здагадаліся?

– А й тое, і другое, – як абрадавалася мая неспадзяваная суразмоўніца. – Як вы загаварылі не па-гарадскому, дык чамусьці адразу й падумалася пра Гілевічавых хлапцоў. Казалі ж, што не толькі старэйшы, якога ўсе

ведаюць даўно ўжо, а й малодшы ад яго таксама нешта піша, кніжкі складае, таксама пісьменнік.

Я не стаў пярэчыць ці аднеквацца, але прамаўчаў. Зрабілася нейк трохі непамысна, нават прыкра. От ужо доля! Самая што ні ёсць праклятая! Дома, можна сказаць, але цябе пазнаюць ужо не таму, што на бацьку падобны, а таму, што размаўляеш не па-гарадскому. Пісьменнік, значыцца! Бо ўжо толькі яны, пісьменнікі беларускія, і гавораць па-беларуску – акурат гэтак зласловяць недалёкія абываталі і рознай масці ненавіснікі і нядобразычліўцы беларушчыны.

Бабуля ж маё задоўжанае маўчанне ўспрыняла па-свойму, падумала, пэўна, што чуць мне пра яе здагадку надзвычай прыемна, бо загаварыла яшчэ з большай, чым раней, абрадаванасцю, і ўжо не запытальна, а сцвярджальна:

– Дык гэта вы гэтай дарогаю хадзілі ў школу ў Янушкавічы. І з пасёлкаў, і з Канікавічаў дзеўкі, помню, казалі, што з імі вучыўся Гілевічаў Коля... А бацьку вашага я ведала. Яго ўсе ведалі. Дарэчны быў чалавек. Паважалі яго людзі. Казалі: справядлівы. І ніколі не мацюкаўся, як іншыя.

Пачуццё прыкрасці, непамыснасці апошнія словы бабулі трохі прыглушылі. Прыемна было пачуць добрыя словы пра бацьку. У вайну ён партызаніў, а да вайны і пасля яе быў старшынёй нашага Слабодскага сельсавета, і ў навакольных вёсках людзі яго, канечне, ведалі і сапраўды паважалі, чаму і сам быў часам сведкам. Добра, вядома, што яго і дасюль памятаюць. Але я ўсё ж паспяшаўся перавесці гаворку на іншае і, бадай, дзеля адчэпу папытаў, перш чым рушыць далей:

– Захварэла карміцелька, што не пусцілі ў поле, а на павадок узялі?

– Вой, як вы зноў добра сказалі: карміцелька!.. Анягож! Яна мяне корміць, а я – яе во!.. А поля ж у нас даўно ўжо нямашака. Адна мая Красуля толькі й засталася, якое ж поле? Пасу от. Павадок на рогі – і пайшлі: яна – на пашу, я – на шпацыр. І ёй добра, і мне пры ёй.

Можна было ехаць далей, але штосьці мяне стрымлівала. Бабуля пачынала выклікаць сімпатыю. Звычайная, па ўсім, вясковая жанчына, не надта, пэўна, і адукаваная, мо толькі таго і ўмее, што чытаць ды пісаць як-кольвек, а от жа нечым прываблівала. Нечакана закарцела пагаманіць з ёю і яшчэ аб чым-небудзь.

– Не сумна вось гэтак цэлы дзень – сам-на-сам з каровай? – спытаў, не знайшоўшы зачэпкі папытацца пра нешта іншае.

А бабуля як бы чакала акурат гэтага пытання, бо азвалася хуценька і ахвотна:

– А мы з ёй не на цэлы дзень выбіраемся. Нядужа я ўжо на цэлы дзень. Спачатку ранічкай, па халадку, падыбаем, а потым па абедзе, калі спякота трошкі спадзе. А пра сум вы дарэмна. З ёй, каб і хацеў, не засумуеш. Мы з ёй і пагамонім, і пасварымся, і памірымся. За гадзіну-другую дык я і сваё ўсё жыццейка перакажу-ўспомню, і яе ўсіх папярэдніц пайменна, усіх ад пачатку, ад першае свае пасажнае цялушачкі...

Я сумеўся:

– Якіх папярэдніц? Усіх сваіх ранейшых кароў памятаеце?!

– Анягож! Я ж і кажу. Успомню, гамонячы з ёю, усіх: ад першай, што тата з мамаю ў пасаг далі, да гэтай во ласухі. Ійш, вуха навастрыла, чуе, што пра яе кажу...

Я, па нараджэнні вясковы чалавек, ведаў, што карова для гаспадыні, у сялянскай гаспадарцы і ў сям'і заўсёды шмат значыла і значыць. Памятаю, як мама казала: "Была кароўка, дык я штодня разгаўлялася: у мяне і маселка,

і смятанка, і тваражок, і сыракваша да бульбіны. А як збыла яе, дык адразу і запусцілася на самы што ні ёсць пост...” Таму і рупілася аб карове кожная гаспадыня. І гаспадар – таксама, бо карова, да ўсяго, і гной давала – зямельку ўкормліваць. І сянца кароўцы мурожнага накосіць, зімой сечкі нарэжа, не забудзе вядро-другое вады прынесці – трэба ж і напаіць жывёліну, бо і яна, як чалавек, пасля яды піць хоча. Гэтак, як кароўку, вясковы чалавек мо толькі яшчэ каня шанаваў, бо ад яго спраўнасці таксама дабрабыт сям'і залежаў... Але ж от каб гэтак, што ўсіх па імёнах памятаць?!

Не стрымаўся, спытаў:

– А колькі ж іх у вас было, усіх?

– А ўсяго шасцёрачка. Не так і шмат, як на чалавечы век. Во гэта, я Красуляй яе заву, акурат шостая. І ўжо апошняя. Шкода гэтак, ажно сэрца шчыміць, але ў зіму пускаць ужо не буду. Няма сіл. Як во тупаю побач з ёю, дык яшчэ неяк варушуся, а сяду, ці, дома, прылягу калі, дык падняцца не магу, качаюся з боку на бок, ні рукі не слухаюцца, ні ногі... Шкода, ды што паробіш? Усяму прыходзіць канец, кожнаму цвету свая пара цвісці і адцвітаць...

Мяне яшчэ больш забірала цікавасць. Ну не даводзілася раней чуць ці чытаць дзе, каб жыццё чалавечае вымяралася... каровамі. Хоць стой, хоць валіся, а факт няйначай з разраду фантазійных. Яно, вядома, можна мераць чым хочаш. У мульціку, вунь, даўжыню удава мералі папугаямі. Але ж тут нешта зусім іншае, тут жыццё чалавечае. І яго, аказваецца, можна вымераць каровамі! Жанчына мела адну кароўку, ёй на змену прыдбала другую, замест той – трэцюю... І вось на схіле дзён пасвіць шостую, па ўсім – апошнюю. Атрымліваецца акурат гэтак, як у яе сказалася: шэсць каровак – і ўвесь яе жаночы, чалавечы век. Ці амаль увесь: ад маладосці да старасці, да ўжо недалёкага жыццёвага фінішу... Каб і хацеў прыдумаць нешта падобнае, дык – ці прыдумаў бы?

– Ці ж памятаеце, як звалі вашу першую, пасажную цялушачку? – спытаў, хоць ужо не сумняваўся, што – жанчына памятае.

– Букеткай звалі. Чырвонай масці была, толькі на лобе і на пярэдніх нагах белыя латкі. Добрая кароўка з яе выйшла. Удойная. Пасля першага целю шчодра даілася, а пасля другога ўжо паўнюткую даёначку надойвала!.. Я ж, каб вы ведалі, перад саменькай вайной замуж выйшла. З Айнаравіч на пасёлак. Хлапец добры наўрэўся. Мне ніколі слова благога не сказаў, не тое каб замахнуўся. Дык жа – згінуў. Без следу. Пайшоў на вайну і прапаў. Ніхто не ведае, дзе і калі, ніхто не чуў і не бачыў. Прапаў, дзіцяткі свайго, дачушкі, не пабачыўшы – яна нарадзілася ў студзені сорак другога. Мы ж асобна жылі, свёкар паставіў сыну хацёну, і хлеў скідаў, і пуньку... Хапіла мне ў вайну з малою, глытнула горачка, але ж Ірка мая, дзякаваць Богу, выкачалася, вырасла. Харошай дзеўкай стала, ад хлопцаў адбою не было – цугам хадзілі. А Букеткі ў вайну не зберагла. Ад паліцаяў адкупілася і раз, і другі, як забраць хацелі, немцам рэшата яечак дала, дык таксама адпусціліся. Паі малаком свайго кіндара, сказалі. А партызаны прыйшлі ноччу, вяроўку на рогі і павялі з хлява. Колькі ні прасіла, як ні галасіла – не памагло. Яшчэ і стрэльбу на мяне адзін наставіў, прыгразіў: маўчы, баба, не лямантуй, бо вазьму грэх на душу! Разумее твая дурная галава, што ў атрадзе галодныя нас чакаюць? У цябе – адно дзіця, а ў іншых па трое, па пяцёра, паняла? Паняла, кажу, чаму ж не паняла: няма маёй Букетачкі, і цяпер нам з малой Іркай поснай сухамяцінай давіцца...

Змоўкла бабуля, панікла-панурылася, бы гэтую ейную Букетку павялі

ў лес от зараз, толькі што. Адчуванне ў яе, няйначай, папраўдзе было такое ж, як тады: і жаль, і роспач, і крыўда, і бяссілле. Магутная гэта сіла – уяўленне. Успомніла бабуля даўняе, уявіла тое, што тады дзеелася, і ўбачыла ўсё, бы наяве, і разам з гэтым апанавала, абшчапіла-ашчарэпіла душу зведаная тады роспач, пекануў у сэрца тадышні боль...

Памкнуўся супакоіць, суцешыць яе.

– Не бярыце тое гэтак блізка да душы, было, ды мінулася, – кажу бабулі. – Лепш згадайце, што далей было.

– Ваша праўдачка. Але ж – кожан раз гэтак. Успомню – і быццам зноў тое вяртаецца, душу гняце-выварочвае, проста радачкі няма... А далей што? Немца пратурылі, пабеду адсвяткавалі, а лепей жа не зрабілася. Калгас вярнулі адразу ж, як нашы прыйшлі, а што абагульняць было? Парка-другая коней ды столькі ж калёсаў дабітых, некалькі плугоў і барон паламатых... Добра, што каваль наш на вайне ацалеў, дык хоць звон у кузні напамінаў, што жыве, не памёр пасёлак... Рабіць трэба, а на каго малую пакінуць? З сабой брала і ў поле, і на сенажаць. Як падрасла трошкі, адну пачала дома пакідаць. Гэта ж Бог уратаваў, пасёлак наш не згарэў, а вёскі ж вакол ці не ўсе пагарэлі, вы ж ведаеце. Ага, хата ацалела, але што адна баба, хай і маладая, там зробіць? Хата ж догляду просіць. Страха пацякла – лезь, баба, на страху. Шыбка ў вакне разбілася – чым і як зашкліць? Далонямі сваімі хіба... Свёкар, царства яму нябеснае, спачатку памагаў, пасабляў мне, як мог, але пасля, як дзіцятка ў мяне знайшлося, – адвярнуўся і нават пальцам ні разу не паварушыў...

– Замуж другі раз выйшлі? – спытаў, падахвочваючы да аповеду.

– Не. Дзіцятка, хлопчык, так знайшоўся, без шлюбу. Як ведала, што не будзе мне Ірка апірышчам у старасці, – так закарцела другое дзіцятка нарадзіць. А памагло – ліха, бяда, што на мяне, дурную, звалілася. Гэта ж я баранчыка ўкрала. У калгасе авечкі паявіліся. Узімку акоты пайшлі. К вясне ў поле выйшлі ўжо ладненькія авечачкі і баранчыкі, а к восені, на траўцы ад'еўшыся, ужо вунь як падбрыквалі. Я падпільнавала, калі пастух адхінуўся, і злапала аднаго падпаху, пыску заціснула, каб не мэкаў, і – дадому. Прыбегла, хуценька зарэзала, шкурку здзёрла і закапала, усё замыла-выцерла – каб ні следу нідзе. Было і не было... Вы не пытаецеся, чаму я на такое рашылася?

– І чаму ж? – кажу.

– А дайшлі мы з Іркай на нішчымніцы, – спакойна, нават нейк быццам абыякава прамовіла бабуля. – Яна ўся свіціцца, як васковая, і я ледзь ногі цягаю, духі падцяўшы. От і наважылася. І ані не баялася. Зловяць, думала, пасадзяць – ну і хай сабе. Ірку тады ў дзетдом забяруць, а там хоць накормлена будзе... – Сказала, ды тут жа сама сабе запярэчыла, ажно рукамі замахаўшы: – Ай, ды гэта я так, у злосці на сябе, думала...

– І што? – мяне падганяла ўжо цікавасць нецярпення.

– Вынюхалі мяне. Як сабакі, што след узялі. Мусіць, нехта ўсё ж угледзеў і збрахнуў. Бо прыйшлі з вобыскам не да каго-небудзь – напрасткі да мяне. Міліцыянер з раёна і наш рахункавод калгасны. А я вазьмі ды не разгубіся. Рахункаводу цішком пляшку самагонкі ў рукі, шапнула: выйдзі, знікні, пачне клікаць – вернешся, а не... А сама міліцыянера за стол, а на стол таксама пляшку, і палову сцягенца баранчыкавага з тушанай бульбай, агурочак маласольны...

І раптоўна змоўкла, бы зніякавела, ці засаромелася. Але не надоўга. Адно толькі, каб уздыхнуць глыбока ды прадоўжыць аповед:

– От пасля таго вобыску і знайшоўся ў мяне Міша. Імя дала такое ж, якое мужык мой меў. Атрымаўся ў мяне, як падрос, Міхаіл Міхайлавіч... А зладзейства маё прыкрылі: напісалі, куды трэба было, што нагавор быў, злосны паклёп на сумленную і працавітую калгасніцу, салдацкую ўдаву з малалетняй дачкою...

– А другая кароўка? – зноў знецярпліўся я.

– Вы пра Падласку? – Перапытала, ані ў знак не збянтэжыўшыся, бабуля, нібы я ведаю, што пытаюся акурат пра Падласку. – Дык жа яе свёкар даў, неўзабаве пасля таго вобыску, малым цяляткам. Палавая такая цялушачка была, а брушка і саўсім беленькае. Яе Ірка і ахрысціла за гэта Падласкаю. Два гадкі мы яе гадавалі, паілі-кармілі, што самі елі, тое і ёй, ласоніцы нашай. Яна ў нас і пабегала з цягам часу, і ацялілася. І займелі мы з Іркай, а ўжо і з Мішам кароўку... А першае цялятка ад яе свёкар сабе забраў – не мог мне дараваць, што ў мяне малы Мішка знайшоўся... Падласка была ў нас даўгавата, дзесяць цялятак прывёўшы. Добрая кароўка была: і ўдойная, і малако тлустае, салодкае, і сама рахманая, спакойная – дзіця можа падаіць. І цялілася лёгка. Бачу, што ўжо добра значыць, вось-вось ацеліцца, пільную-пільную, а – прыйду ў хлеў, а ля яе ўжо цялятка трэцца, ссе матку. Адзін раз толькі, здаецца, памагала ёй, цялятка за ножкі цягнула. Ото ўжо яе берагла я. Вясною ў двор выпушчу, каб на сонейку пагрэлася, дык абавязкова каснічок на рог завяжу – ад нядобрага вока. І ў хляве іконку павешу... Во, я ж яе яшчэ й Бязрожкаю звала. Вясною, выйшаўшы з хлява на сонца, прыгрэлася і, мусіць, скура пад старой поўсцю надта ж у яе засвярбела. Пачала чухацца аб сцяну хлява. Ды так заўзята, што рогам ударыла аб вугал. І зламаўся ражок. Правы, пэўна на трэць. Дык я ўжо часам і Бязрожкай яе назаву. Так і састарэла ў нас. Урэшце здалі яе на базу. Самой рэзаць ды прадаваць мяса – не магла, рукі не падымаліся. І дзеці не дазвалялі – гэтак прывыкшы былі да яе... За выручаныя грошы, прыклаўшы трошкі сабраных – за самагонку, цяпер ужо не боязна і не сорамна пра тое казаць, недзе праз год купіла ажно ў Даўгінаве першацёлачку – Зорку. Гэта ўжо было ў шэсцьдзесят другім, калі Іры дваццаць стукнула і калі яна крутнулася замуж за свайго узбека...

– За узбека? – перапытаў, бы не дачуўшы. – І дзе ж яна яго напаткала?

– Вядома, дзе: у Мінску. Яна ж, шаснаццаці не было, у Мінск пайшла, у вучылішча пры тонкасуконным камбінаце. Пасля там і рабіць стала, у інтэрнаце жыла. І да іх туды хлопцы цягаліся. Казала мне: разбэшчаныя дзеўкі былі, у адкрытую гулялі, сёння – з адным, заўтра – з другім. Многія – знарок, каб дзіцятка займець ды на кватэру спадзявацца. Мая – бераглася. Я не хвалюся – ведаю, яна па мне пайшла, а я гонар уга які мела! І каб не бяда тая, каб не боязь, што ў турму сяду, а Ірка ў сіроцкі прытулак трапіць, нізавошта б не пайшла ў пасцель з тым міліцыянерам... Не, не, я сама сабе не пярэчу: хацела я дзіцятка другое, а толькі ж – не такім чынам, а каб па-людску, па любові...

Бабуля мая зноў змоўкла, і зноў раптоўна – як язык прыкусіла. І гэтым разам доўга маўчала. Я ўжо быў падумаў, што не даслухаю аповеда пра папярэдніц ейнае Красулі. Ажно – не. Гэта была ўсяго толькі паўза – для перадышкі пасля непрыемнае згадкі пра сваё колішняе, няхай сабе і вельмі даўняе грэхападзенне.

– Дык я пра Ірку, пра абшчажыцце яе. Салдаты туды прыходзілі, і быў сярод іх узбек адзін, і ўлюбіўся ён у Ірку маю. Прысмактаўся, як

клешч. Яна дзеўка відная была. Не ў мяне пайшла – у бацьку. А бацька прыгожы быў. Я й не верыла, што мяне сярод іншых дзевак выбярэ... А ўжо ж, чалавеча, і забылася, які быў. Карткі не засталося ж. Па вайне яшчэ помніла: і з твару які, і як хадзіў ці рабіў што. А цяперачкі згадаю і ажно скамянею: не помню, сцёрлася ўсё з памяці. І сябе той пары ўжо не помню, і яго... А Ірка мая адбрыквалася, не падпускала да сябе, пасля здалася. Мусіць, прывыкла. А прывыкнуўшы, і палюбіла. А неўзабаве і пажаніліся. Вяселле тут рабілі, на пасёлку. Не надта шумнае, галаснoе, але й не горш, чым у людзей. А як скончыў Арык службу, дык не схацеў тут заставацца, закарцела яму дадому. І мая Ірка, хоць не надта й хацела, паехала з ім, з Арыкам сваім... Імя яго не саўсім такое, надта ж ненаскае, Арыкам яго хлопцы ў арміі назвалі, дык і для нас з Іркай Арыкам стаў. І як паехала, дык, лічы, назаўсёды. Парачку разоў усяго і прыязджала. А пасля дзецьмі абсыпалася – гэта ж, ці паверыце, шасцёра ў яе, унукі пайшлі, Арык пачаў хварэць і памёр, от і Ірка мая як памёрла для мяне – даруй мне, госпадзе! Ужо наўрад ці ўбачу. Тады, як агулам жылі, дык хоць спадзеў быў, а цяперака дык і надзея знікла...

Я ўжо даўно сядзеў побач з бабуляю на трохі паджоўклай прыдарожнай траве. Красуля таксама, ці то здаволіўшыся гэтай ўсё ж не пыльнай пры асфальтоўцы травою, ці то ўгамоненая гаспадыніным аповедам, даўно ўжо стаяла, не парываючыся ні ўзад, ні ўперад, адно лянотна адмахвалася ад назойлівых мух, а ўрэшце, пакруціўшыся сюд-туд, няйначай выбіраючы зручнейшае месца, апусцілася на калені і цяжкавата, шумна ўздыхнуўшы, лягла.

– Ну хіба ж не хітрае стварэнне? – кіўнула мая субяседніца на сваю спадарожніцу. – За сабаку разумнейшая. Вы пагаманіце, калі вам гэтак конча трэба, а я паляжу, бо і для мяне, хоць я і не карова, у нагах праўды няма! – Бабуля добра, нават замілавана засмяялася ціхім грудным смехам і, бы ўспомніўшы, з чаго завязалася наша гаворка, вярнулася да Зоркі – трэцяй сваёй карміцелькі. – Ага, дык слухайце, калі вам тое цікава. Зорка ў мяне зусім мала пабыла. Купіла яе, як казала ўжо, першацёлачкай, а прывяла яна мне ўсяго аднаго бычка і адну цялушачку. Цялушачку ў калгас здала, цялушачак рэзаць ці збываць каму не дазвалялася, не здасі ў калгас, дык шыш палучыш, а не сена, нават іржоння накасіць не дазвалялі. А з бычкамі па-рознаму было: каторых здавалі ў той жа калгас, каторых прадавалі, каторых самі спажывалі. Забылася чамусьці, якая доля таго Зорчынага бычка была. Мусіць, падгадавалі ды зарэзалі... З першымі дзвюма кароўкамі мне ручыла, і з трэцяй, з Зоркаю той, – нібы таксама. Нічога благога пра яе не скажу. Шанавала яе і глядзела, як магла. Іду даіць – лустачку хлеба, ці праснака, ці бліна якога ў руку, бо, ведаю, будзе прынюхвацца, пысаю ў кішэню лезці, каб ласунка знайсці. Улетку ў нас пашы хапае, па равох ды кустох – травы заваліся, пасі толькі, хоць пасвіць і нялёгка, сачыць трэба штохвілінна. На павадку па кустах не будзеш яе трымаць, а без павадка на хвіліну задумаешся, а яе ўжо і не відаць – кідайся ды шукай, гукай, каб азвалася. За лета вунь як даецца ў косці тая паша! Але ж і зімой не лягчэй. І сена прынесці, і вады. А сечкі нарэзаць? Сячкарні ў мяне не было, сякеркай на калодцы бульбоўнік сяку, ці іржонне тое самае. Цэбар у хаце трымала, запарвала: і лушпайку туды кінеш, і міску якую туды ж спаласнеш. А зацягнуць яго пасля ў хлеў? Гэта ж духі падарваць. Мішу ж не заўсёды дапросішся. Ды не бяды, неяк

жа было, не наракала асабліва на каго ці на што, – маладая была. Бо без кароўкі – яшчэ горш. І не ведаю, колькі б гадкоў была ў мяне Зорка, што было б з ёю, калі б не бяда з сынам. Вучыцца не хацеў, ленаваўся, а за цехнікай – прападаў. Чатырнаццаці не было, а ўжо за трактарам сядзеў. Трактарыст у цяньку ляжыць, а Міша мой – арэ, ці баранue. А перад арміяй ужо сам рабіў на трактары. І ўсё мо і добра было б, каб не піў. Дык жа – рассабачыўся: ні стыда ні сораму. Дапіўся, што ўжо і за трактар п'яным садзіўся. І кульнуўся аднoечы, едучы ноччу па самагонку – мала было. От і паляцеў потырч на нашых гурбяках ды равах. Сам, дзякаваць Богу, не загінуў, нават і не скалечыўся, а трактар пабіў. Ну і пайшла мая Зорачка на рамонт. І не толькі яна. Усё, што мела, што з капеек сваіх адкладвала, – як спрахла, прапала пропадам: усё пайшло на той трактар. А Мішу майму – не ў навуку. Піць не перастаў. Забралі ў армію, дык там нейкую траўку курыць навучыўся і нешта там, ачмурэлы, утварыў, што й судзіць хацелі, ды пашкадавалі, што матка адна, дык гапвахтай аддзелаўся...

Я ўжо змог больш пільна разгледзець сваю гэтак нечакана напатканую гаваркую і шчырую апавядальніцу. Выглядала яна папраўдзе на ўсе восемдзесят, хоць і зберагала яшчэ сякія-такія адзнакі былой жаночай вабнасці. Прынамсі, была не ўсохлай, выпетрахлай – скура ды косці – да ўсяго яшчэ і ўчарнелай бабулькай, а ўсё яшчэ досыць мажной, з даволі поўным ружовым тварам жанчынай. Маладзілі яе вочы – яшчэ не збляклыя ад часу, а з жывым бляскам, глыбокія, учэпістыя, а таксама коратка падстрыжаныя, па ўсім нават трохі падфарбаваныя валасы, какетліва змацаваныя плеценым з саломкі абручыкам. І апратка на бабулі таксама была досыць модная: летні гарнітур з шырокай, вольнага крою квятастай кофтай са штучнага тонкага трыкатажу паверсе такой жа шырокай і квятастай спадніцы турэцкага, хутчэй за ўсё, паходжання. Дапаўняла гэты гарнітур палатняная сумка-торба цераз плячо, таксама набытая відочна ў тых жа гандляроў-чаўнакоў. А на нагах былі лёгкія мацерчатыя кеды. Цалкам сённяшняя вясковая бабуля, што з нейкае пары практычна нічым не адрозніваецца ад сваёй гарадской равесніцы. Асабліва – калі не аціраецца ля хаты ці ў гародзе, а выходзіць хоць бы вось у такія – пастух пры дарозе – “людзі”.

Падумалася чамусьці пасля гэтага, што бабуля жыве адна, што нейкага іншага клопату, як аб сабе ды аб кароўцы, у яе, хутчэй за ўсё, няма. Ну от прыйшла нечакана гэткая думка. А яна тут жа пацягнула за сабой другую: а дзе ж сын, яе Міхаіл Міхайлавіч? Ірка, апынуўшыся гэтак далёка, як памёрла для яе, а сын? Але пытацца пра яго напрасткі не рашыўся, спытаў іншым чынам:

– Дык Зорку, трэцюю сваю ўлюбёніцу, вы ахвяравалі на рамонт трактара пасля сынавай аварыі напярэдадні ягонай армейскай службы... Адслужыў жа, вярнуўся?

Дзіўна, але бабуля адгукнулася не адразу, а памаўчаўшы, і перш чым адгукнуцца, уздыхнула зусім нявесела:

– І адслужыў, і вярнуўся, ды радасці з таго было мала... Піў мой Міша. І чым даўжэй, тым больш. Пачаў трактарыстам рабіць, як і да арміі, ды неўзабаве пратурылі. Ведама, каму патрэбен такі работнік, калі ён не за работай глядзіць, а дзе б гэта смагу прагнаць? У Мінску год-другі пааціраўся – трохі падсобнікам, трохі бульдазерыстам, трохі яшчэ там некім

на будоўлях розных, але таксама не прыжыўся, не прыкарэў да працы. Мо каб жанчына якая наўрэлася ды прытуліла-прыгрэла? Але якой бабе патрэбен п'яніца! Каціўся мой Міша ўніз ды каціўся, пакуль на матчыну шыю зноў не сеў. Кармі, матка, а йшчэ й паі! І куды дзенешся?! Карміла, вядома ж... І брала грэх на душу – і паіла. Горкімі слязьмі плача, бывала, – гэтак жаласліва просіць. Не вытрываю, дам на чарніла. Пра дзевак ці жанчын яму не кажы – не трэба яму ўжо ні дзеўкі, ні бабы. Усё гарэлка засляпіла. Усё адабрала. Пятнаццаць гадочкаў сам мучыўся і мяне мучыў. Думаў, як кожны з п'яніц думае, што адолее гарэлку, а гарэлка яго самога адолела. Замерз мой Міша. Першы раз, як знайшлі яго на снежнай дарозе, дык толькі пальцы на левай руцэ адмарозіў. Выстаўлена была левая рука, а другая пад ватоўкай была, дык ацалела. А другі раз, як адкапалі яго ў сумяі, дык ужо спруцянелым быў, не адышоў, як тыя дактары ні стараліся...

І зноў змоўкла мая субяседніца. Змоўкла, каб няйначай дух перавесці, бо, пэўна, і дасюль не зажыла рана ў матчыным сэрцы. А яно і праўда, бо – хрыплавата, ціха прызналася:

– Я й сёння па ім плачу. Ляжу часам ноччу і плачу. Во, ляжу адна, як калода гнілая, нікому непатрэбная. А каб жа сынок быў, ды нявестка пры ім, ды дзеткі? От бы й я калодай не была. Дык жа не даў Бог. Думаю так, думаю, ды ўжо й скажу сабе часам: і нашто я яго нарадзіла? Мусіць, і праўдачка тая, што не будзе шчасця таму, хто з грэху пайшоў. Не яго – сябе кляну. Мінутная слабасць адолела. Ат, думала, ніхто й нічога ведаць не будзе, а сынок ці дачушка пры мне выкачаецца, падымецца, а я ж яго ці яе нічому дрэннаму не навучу, адно любоў сваю нерастрачаную бабскую і мацярынскую аддам. От і аддала...

Адвярнулася ад мяне бабуля на хвіліну, гэтак, быццам хацела слязу няпрошаную з вачэй змахнуць, і далей свой аповед павяла:

– Бачыць Бог, яго я не кляну... Але ж гэта ён, Міша мой, спрычыніўся, што мая Аўтарэня без пары і віны загінула...

– Чацвёртую кароўку Аўтарэняй звалі? І што ж з ёй здарылася, якая бяда?

– Ну так, чацвёртая мая цялушачка. Купіла яе, ужо як Міша з арміі прыйшоў. Ну такая ўжо добрая кароўка была – свет не бачыў. Не малако давала, а вяршкі: за пяць працантаў тлустасць была. І сама такая ўжо дарэчная, акуратная. Ніколі не наробіць там, дзе ляжыць ці есць. І не памаўзлівая: пастухі ніколі слова благога не сказалі пра яе, не мела моды ў шкоду ўлезці. Я нарадавацца не магла. А да ўсяго – адных цялушачак прыводзіла. І дзіва дзіўнае: усе яе ўласнай масці – чорна-белыя. І адзін год, і другі, і трэці, і пяты... Усе яны ў калгас пайшлі. Я й пазнавала іх пасля, як калгасны статак бачыла. Усе на маю Аўтарэню падобныя, як у людзей дочкі – на матку. Ну, але загаварылася я... Убачыла неяк, што загарадка для свінні падгніла і ледзь ліпіць. Кажу Мішу: вазьмі аполкаў таўсцейшых, дошак якіх ды зрабі новую загарадку, бо паваліцца, чаго добрага. Паслухаўся, пайшоў, паваландэўся там, але зрабіў. Мне не зусім спадабалася, як зрабіў, але, думаю, такой бяды, няхай, абы свінчо ад каровы было адгароджана. Не спадабалася, бо, падалося, надта ж шырока дошкі папрыбіваў, шчыліны між імі такія, што калі малое, дык і свінчо тое вылезе. І от жа, аказваецца, не дарэмна тое, што як ні прыйду ў хлеў, усё мне нешта быццам муляе, замінае. Усё на тыя шчыліны зірну ды зірну. І дайце веры – як сама сабе начаравала. Прыходжу аднойчы ранічкою, ледзь развіднівалася яшчэ,

і спачатку дацяміць не магла: чаго гэта мая Аўтарэня разляглася тут, што і ў хлеў не ступіць? Прыгледзелася лепш, ажно, дайце радачкі, галава яе ў свінячай загарадцы, ды неяк надта ж дзіўна выкручана. Я да Аўтарэні, нагою лёгенька таўхель – уставай, чаго тут выкацілася, як дурная?! А яна і знаку аніякага не падае. Я рукою хапілася: божачкі, халодная! Загаласіла я, зараўла – пэўна, і суседзі пачулі. Няма маёй Аўтарэнькі, няма маёй рабенькай, маёй чысцюолькі-акуратысткі... Мусіць, захацела пакаштаваць таго, што ў карыце свінячым было, і неяк даўмелася прасунуць туды галаву. А назад вылузацца не змагла, ні бокам – ні скокам, галава ў адзін бок, а сама завалілася на другі, так і задушылася, бедная... Такое гора на мяне звалілася. І ні спажыць, ні прадаць. Добра, падказалі людзі ў Корань пазваніць, там звераферма была, мо яна й цяперака ёсць, не ведаю, дык узялі за бясцэнак чарнабуркам на корм... Такая ліхая доля, чалавеча, напаткала маю чацвёртую карміцельку... – І знячэўку спытала: – Чаму так адбываецца? Вы ж вучоны чалавек, мо ведаеце, чаму так выходзіць, што як чалавеку век сёння не спрыяе, гэтак і жывёле, што пры чалавеку?

– Мо якраз і таму, што пры чалавеку, – кажу з ходу тое, што прыйшло ў галаву. – Карову тую самую вазьміце. Вы ж самі кажаце, што ладзіце між сабою, без слоў сваю Красулю разумееце, як і яна вас.

– А нягож! – пагадзілася бабуля. – Нашто ёй тыя словы, калі ёй і аднаго майго пагляду досыць? Зірну, бывае, не так, не лагодна, як зазвычай, а злосна, калі не ў настроі, дык яна адразу ж наструніцца і ўжо на мяне зіркае сваімі бельмакамі: што здарылася, чаго палохаеш мяне?

– Ну дык і таму! Вы і Красуля ваша – ужо як бы адна істота ў двух іпастасях, даруйце. Таму і атрымліваецца: што вам, тое і ёй, і наадварот.

– Мо й праўду кажаце. Два ў адным, як у той абрыдлай рэкламе крычаць... Ну дык вось. Здарылася бяда тая ў восемдзесят восьмым. Адразу ж купіць новую кароўку не выстарчала – не было за што. Два гады амаль збірала, капейку да капейкі, ад Мішы хаваючыся, у суседкі трохі пазычыла і нарэшце прыдбала кароўку – трэцім целем была. Звалі яе Рагуляй. Не падабалася мне імя такое, ды што зробіш, калі яна ўжо звыклася, акурат на яго азываецца? Ат, думаю, Рагуля дык Рагуля, малако ж не з імя, а з вымя. І нічога благога пра яе не скажу. Людзі, што прадавалі яе, праўду казалі, не хлусілі: і не наравістая, і не пераборлівая, і спакойная, і малако лёгкае, цыцкі не трэба цягаць, сілу прыкладаючы. Міша, яшчэ жыў быў, бы віну сваю адчуваючы перад яе папярэдніцай, за Рагуляй упадаў – ведама, як цвярозы быў. Ні крыкам на яе, ні дубцом. І п'яненькі, бывала, ідзе да яе з блінам ці скібкай хлеба, але яна як разумела, што ён п'яны, і не любіла, адварочвалася ад ласункаў. Не, я ж кажу: разумнае стварэнне. За сабаку разумнейшае... Сабак я не люблю, псіну іхнюю не выношу. Нейкі час быў у мяне цюцька, малы такі звягала, дык жа займеў моду: як ні выйду на двор, дык каб абавязкова палашчыцца, пацерціся аб мяне, аб мае ногі, спадніцу. А каб цябе пранцы, кажу, гэтак церлі, як ты ля мяне трэшся! Пасля дзе ні іду, дзе ні сяду, а ўсё мне выдае, што ад мяне псінай патыхае. Добра, што знайшоўся чалавек, забраў яго ад мяне. Абыдуся я ўжо без такога вартаўніка, няма ў мяне чаго красці. Во, хіба Красулю толькі...

Расповед бабулін блізіўся да канца. Рагуля, да якой дайшла ў ім чарга, была ў жанчыны пятай. А шостая – гэта ўжо Красуля, што ляжала і спакойна жавала жуйку, лічы, побач. Але ўжо і сонца прыкметна паніжэла, ды і бабуля мая, па ўсім было відаць, прытамілася, час быў развітвацца. Таму ўзяў я ў гэтым на сябе ініцыятыву. Папытаў, як падагнаў усё роўна:

– І ці доўга ж была ў вас Рагуля, ці ж ручыла вам з ёю?

– Як вам сказаць, – развяла бабуля рукамі. – Каб мала, дык і не, але і каб надта доўга – таксама не. Век свой каровін, як і Аўтарэня, у мяне не зжыла. І не па маёй віне. А Мішы ўжо тады не было, як з Рагуляй тая бяда здарылася.

– І што за бяда?

– Ат, не кажыце. На рог напаролася. Ну не сама, ведама, – прапаролі. Другая карова ў полі рогам пуза прабіла. У пахвіне. Думалі, зажыве, і ветэрынар казаў, што трэба спадзявацца, ажно – не, не на спадзеў было. Ёй усё горш і горш рабілася, тэмпература паднялася, есці перастала. От і давялося дарэзаць. Мяса ў калгас узялі. Якраз тады шабашнікі кароўнік новы ставілі, вось яны маю Рагулю і з'елі, хай ім будзе добра... А тым годам, дарэчы, тым жа летам, у нас і яшчэ адна бяда з каровай здарылася. І падобная, і не падобная. Карова рогам машыну прапарола. Яна дарогу пераходзіла, а таму карцела хутчэй праехаць. Піпікаў і сунуўся карове напярэймы. Дык яна ў злосці ці проста так, ад мух адмахваючыся, матлянула галавой і рогам прабіла пярэднія дзверцы. Не наскрозь, а толькі верхнюю бляху. Добрую такую дзірку зрабіла. Дык той шафёр выскачыў з машыны з нейкай жалязякай і карове раз, другі, трэці па галаве. От карова і ногі выпрастала. А той сеў сабе і панёсся далей. Пакуль сёе ды тое, пакуль гукнулі гаспадара і прывезлі ветэрынара, дык яна і духі аддала. Во як было, чалавеча. І ў мяне рог, і там таксама рог...

Я падняўся з зямлі першым. Бабуля – следам. Значыць, і яна таксама чакала гэтага моманту? Паставіўшы на ногі свайго каня, сказаў і сам сабе, і бабулі:

– Думаў, даеду да Янушкавічаў, даўно не быў, пагляджу, што там ды як, але ўжо хіба іншым разам...

– І мне пара падымаць Красулю ды клыпаць у бок хаты, – адгукнулася бабуля. – Казала Паланея – не паранее.

– Дзякуй вам за расповед пра вашых карміцелек! Не дарэмна ўсё ж я выбраўся ў дарогу. Каб пачуць такое, варта было б і куды далей паехаць.

– Ай, што вы ўжо такое там пачулі! Я ж не выдумляла нічога. Жылося і вялося гэтак, от і ўсяго.

– Ну не скажыце! Пражыць жыццё – адно, а перажыць яго – зусім іншае, не кожны на гэта здатны, – не пагадзіўся я і дадаў: – Дзякуй яшчэ раз! Здароўя вам! Пажывіце яшчэ, патрымайцеся! Разам са сваёй кароўкаю!

– Дзякуй і вам на добрым слове! Здароўечка вам і ўсяго найлепшага!

Дарога дадому, незалежна, доўгая яна ці кароткая, кажуць, заўжды лягчэйшая. А тым больш – з апошняга пагорка перад Канікавічамі. Адсюль яна бяжыць амаль без пад'ёмаў – усё з гары ды з гары, ажно, лічы, да самае хаты. Ехаў я няспешна, лёгка, зрэдзь часу націскаючы на педалі. Ехаў і думаў пра пачутае ад бабулі, пра яе самую. Мо трэба было б спытаць, дзе яна жыве зараз – у Канікавічах, бо ад пасёлкаў і следу не засталося, ці вярнулася нейкім чынам у родныя свае Айнаравічы? Зрэшты, гэта не так і важна. Важна тое, што яна ёсць, жыве яшчэ, што яшчэ наогул жывуць побач з намі такія вось старыя людзі, якія на сваіх плячах вытрымалі, вынеслі і тую самую вайну, і пасляваенныя нягоды, і пазнейшыя свае і грамадскія беды і ўдары лёсу. Быў і ёсць у іх нейкі стрыжань, што не даў і не дае зламацца, сагнуцца, панікнуць духам і ачарсцвець душою. Не наракаюць ні на жыццё,

ні на людзей. Так жылося, так вялося – навошта ж нешта выдумляць ці дамысліваць, няма ў тым сэнсу. Жыццё само па сабе – вялікі і неацэнны Боскі дар, і мусіць папраўдзе наракаць на яго не трэба. Трэба жыць, але гэтак, каб у рэшце рэшт пра цябе сказалі: ён быў дарэчны чалавек.

Гэтак добра яна сказала пра майго бацьку – дарэчны быў чалавек. Бацькі даўно няма, а людзі яго памятаюць і шануюць гэтую памяць. Ці скажа хто пра мяне гэтаксама праз колькі дзясяткаў гадоў, калі мяне не будзе?...

Думаў пра ейнага Мішу, які так і не стаў Міхаілам Міхайлавічам. Колькі падобных трагічных лёсаў у хлапцоў і мужчын ягонага і наступных пакаленняў! Гены вінаватыя? Першародны грэх бацькоў і мацярок? Грамадскія і сацыяльныя скруты і перакруты? Не без гэтага. Ды галоўная прычына ў тым, што калісь была забіта, знішчана духоўнасць, вера ў святасць і неацэннасць самога жыцця. А калі гэтага няма, тады дазволена ўсё, як пісаў расійскі класік нашага, беларускага паходжання. Усё добрае пачынаецца з павагі да чалавека, а ўсё благое – з непавагі да яго. Непавага, сцвярджэнне нікчэмнасці і таннасці чалавека ўзгадоўваюць лёкайства, падхалімства, зайздрослівасць, халуйства, прадажнасць, несумленнасць, двурушніцтва, безадказнасць, абыякавасць і – тое ж п’янства. Доўгія гады нам казалі, што чалавек – гэта гучыць горда, а самі рабілі зусім іншае, відочна паказваючы і сцвярджаючы, што чалавек – гэта казюрка, чарвяк, шрубачка, пылінка, нішто. І людзі выраслі казюркамі, чарвякамі, шрубкамі. Бедны Міхаіл Міхайлавіч, пазашлюбны сын п’янтоса і сквалыгі-міліцыянера і змучанае нішчымніцай, бояззю, бяспраўнасцю і роспачлівасцю стараннае калгасніцы, – ці мог ты ўзгадавацца, вырасці іншым? Наўрад...

Яшчэ ці не з большым болем думалася пра бабуліну Ірку ў далёкім, проста недасяжным сёння Узбекістане. Ёсць дзеці, унукі, нібыта і не трэба больш нічога для шчасця. Ды няма вакол чалавека, да якога можна было б звярнуцца з родным словам, заспяваць родную песню, паплакацца ўголас, калі сціснуць душу і сэрца незразумелыя сум і боль. Вядома ж, Ірка не навучыла сваіх дзяцей матчынай мове: рабіць гэтага красуні-беларускі, сёння жаданыя нявесты для мужчын з усяго свету, не ўмеюць. А ў заўсёднай рупнасці і турботлівасці неўпрыкмет падкралася старасць. Яна ж заўсёды прыносіць з сабою настальгію па тым часе, калі дрэвы былі вялікімі, і па тых мясцінах, дзе тыя дрэвы раслі. Бедная Ірына Міхайлаўна, дачка шчаслівай маладой жонкі і любячага, ласкавага і пяшчотнага мужа, якім суджана было сысціся і пабрацца на самым пачатку вялікай і жорсткай вайны, у выніку якой бацька не пабачыў свайго дзіцяці, а маці вымушана была цягнуць мазольнае і невыпрэжнае ярэмца маладой удавы, – як ты там, на сваёй і не сваёй радзіме? Што табе сніцца, якія песні і які водар прыносіць табе стэпавы вецер, які сугрэў цела і душы дорыць табе спякотнае паўднёвае сонца? Пэўна ж, бачыш у сне свае родныя зялёныя пагоркі і духмяныя лагчыны-лугі, ціхія лясныя баравіковыя мясціны і студню з высокім асверам над ёю, людзей, сярод якіх падрастала, хлапцоў і дзяўчат, з якімі гуляла і вучылася, – і тады цэлы дзень сумуеш і нудзішся, і ўсё ў цябе валіцца з рук, і сноўдаешся ты па хаце і ля хаты, як непрыкаяная. Ці прыедзеш закрыць вочы старой маці, што ўберагла цябе і выгадавала ў невыносна цяжкія ваенныя і паваенныя часіны? Не чуваць адказу...

Ты заўсёды нясі мяне, мой “конь”, дадому. Дома – добра.



Тадора Шпілька



...І звужаецца мой сусвет
да памераў утульнай кухні...

# Хачу стаць словам для цябе...

* * *

Бяздонне травы, неба дыван.
З раскрытымі крыламі страказа,
над полем завіс кукурузнік “Ан-2”.
Марудна плыве між аблокаў, нібы па-за

мяжою рэальнасці. А пад ім
гірляндаю з матылёў
парашуты. ...Выйграць двубой
са страхам сваім
і – скочыць за борт, у прорву лугоў!

...Спінай падаеш, вечнасць ляціш,
покуль рэзкі штуршок не падкіне ўгору.
Усё быццам сон, але ты не спіш.
І сэрца малоціць і разбівае прастору.

Ды німбам выратавальны купал па-над галавой
і стропы – як ніці лёсу ці марыянеткі,
што там, на нябёсах, трымае Той,
Хто загадзя ведае, як упадзе
падкінутая манетка.

* * *

Ні маяком, ні музай, ні кумірам,
ані салодкіх згадак рэхам –
хачу стаць словам для цябе –
гаючым, жыццядайным, шчырым,
нібы ахоўным абярэгам.

Такім, каторае ўтрымае
над хцівай пашчаю адчаю,
суцешыць у нямой журбе.
Хачу стаць словам для цябе...

* * *

Над горадам паўзе ляніва сонца. Зіма...
Ні вершаў новых, ні натхнення няма.
Ні змятай прасціны, ні сна ў руцэ,
ні мёду ў малацэ...

Затое працы больш, чым дастаткова,
каторую – хоць трупам ляж,
хоць трупам стань між кніжак на стэлаж
зрабіць – абавязкова.

* * *

Адзіная зорка над горадам ззяе.
Над шляхам сутонным, над лёсаў сувоем.
Гляджу на яе без жадання прысвоіць,
хоць бляск яе зімны – усё, што я маю...

* * *

Аджывае леташняя восень у вясне.
Матылямі лісце прэлае імкне
і да ветра лашчыцца з мальбою:
забяры, прашу, мяне з сабою.
Апячыся сонцам і загінуць
лепей, чым зямля – маруднай дамавінай.

...Кружыць вецер крыламі сухімі,
цуд палёту падзяліўшы з імі.
Міг, здавалася б, адно імгненне, сон,
толькі ў вечнасці не знікне ён.
Будзе паўтарацца скрозь яе нязменна
парасткам праз глебу, хвалямі праз сцены...

* * *

*Па матывах творчасці Святланы Явар*

Калі нясцерпна жыць,
але ў пятлю – няможна,
душа – як на крыжы
і свет – як кут астрожны,

у храм іду, нібы дамоў,
паставіць свечкі за любімых.
Мой Бог, прашу, абарані іх
ад непадымнае тугі акоў.

І на душы знявечанай святлее,
нібы яе кранулася лілея
з рукі Марыі з абраза
ці света горняга краса.

* * *

Ёсць тое, чаго не відаць
і пра што не сказаць,
бо не патрабуе адзення ў словы.

І што нават вецер не можа крануць рукамі,
шнарачы між дамамі,
хоць яно і не шыецца ў сховы.

* * *

Шэрая раніца. Быццам дождж,
гукі старэнькага піяніна
па-за свядомасцю, па-за
ўчорашніх страхаў спінай.

Абмяжоўваецца далягляд
думкамі аб табе і ўспамінамі,
што б ні сустрэў пагляд...

І звужаецца мой сусвет
да памераў утульнай кухні.
Ні эйфарыі, ні суму, ні скрухі.

І, здавалася б, светла і хораша быць павінна,
але...
Хочацца проста купіць білет
як далей...
У Перу альбо ў Аргенціну.

* * *

Як толькі могуць адначасова
суіснаваць у адным
два супрацьлеглыя станы:
спустошанасць з болем?

Як толькі можа быць
большая за самую сябе
рана?

...Нешта той механізм запускае,
быццам на "ПУСК" націскае:
круцяцца шасцярэнькі,
зажоўваюць жылкі і нервы,
эмоцый старонкі,
ламаючы крохкія косткі настрою.

Роспачы крык даастатку
запаўняе прастору
*inside my mind*
і робіць яе пустою...

І па-за тым нічога
ні ў перспектыве, ані ў прагрэсіі,
за што б зачапіцца
па вертыкалі ўніз, на дно
(дзе там ужо яно?)
дэпрэсіі...



Алесь Гізун



...чапай

нечапанае...

# Дзень апошняга яблыка

***Апавяданне***

*Памяці Яна Збажыны*

**I**

Пакуль не мінаў *той дзень*, Мірак пачуваўся збольшага шчаслівым чалавекам.

Дарма што звонку Міракава жыццё выглядала не надта прывабна, ён жыў у злагадзе з сабою, бо меў галоўнае – час. Тое, што бальшыня няспынна й няўхільна губляла, марнуючы дарогаю жыцця, хіба зрэдку ды гэтак жа марна наракаючы на змушаныя акалічнасці.

Мірак вызнаваў, што не існуе настальгіі па месцы, ёсць толькі настальгія па часе. І нават калі, здаецца, мы тужым па нейкім горадзе, краіне або ўзбярэжжы – насамрэч мы тужым па тым часе й па тым стане, у якіх знаходзіліся. І часцяком, калі нам шчасціць вярнуцца

ў той самы край, мы раптам не пазнаем яго, знаходзім яго іншым, нібы бачым яго зусім іншымі вачыма. Не такім, якім захавала яго наша памяць. Знаёмае, любае месца ўжо не дае нам ранейшых адчуванняў й не жывіць звязаных з імі надзеяў. Бо заўжды можна вярнуцца на старое месца. Але ніколі нельга патрапіць у былы час і ў былыя станы.

Гэтая немагчымасць уяўлялася Мiраку татальнаю і фатальнаю, што й акрэсліла для яго найвышэйшую каштоўнасць свайго часу ў складанай іерархіі чалавечых каштоўнасцяў. Часу – няхай імгненнаплыннага, амаль няўлоўнага, існага хіба ў момант яго асэнсавання. І разам з тым, здавалася, адзінага магчымага, сапраўднага. Цяперашняга. Таму Мірак не мог прыняць у жыццё нічога, што забірала б у яго час.

Калісьці Мірак жыў не адзін. Але што можна сказаць пра мінулае ды пра ўсе звязаныя з ім "чаму"? Хіба марнаслоўе. Як і пра будучыню.

У яго пакуль заставаліся сябры. Яны яшчэ памяталі пра Мірака й перыядычна наведваліся да яго. Ён прасіў іх прыносіць толькі каву й цыгарэты. Хаця, вядома ж, сябры прыносілі і ежу і, натуральна, алкаголь... А Мірак частаваў усіх сваёй цудоўнай гарбатай з ферментаванага сунічніку, рамонку й скрыпеню, па якія штосезон выбіраўся ў вакольныя лясы.

Адны любілі Мірака як вялікае й разумнае дзіця, ішлі да яго як на паклон да Апошняга Паэта, другія цураліся, хаця цішком зайздросцілі ягонаму пісьменніцкаму таленту, трэція толькі кпілі ды імкнуліся хутчэй выкінуць з памяці гэты "суцэльны сумбур і хаос". Магчыма, усім Мірак нагадваў іх уласныя нерэалізаваныя існасці – згубленыя, здушаныя альбо занядбаныя.

Прыходзілі яшчэ студэнты. Мірак пісаў ім працы па гісторыі, сацыялогіі, філасофіі. Ён меў багатую бібліятэку. Зёлкі і кнігі – вось і ўсё Міракава багацце. Даўней усе ягоныя грошы да капейчыны сыходзілі на кнігі. Цяпер – на алкагольны чад, у якім ён перабываў галоднае ліхалецце сваёй сталасці.

Мірак даўно пераканаўся, што жыццё чалавечае – нішто іншае, як назапашванне кепскіх звычак. Калі кожнаму даросламу зладзіць вочную стаўку з самім сабою ў маленстве – яму няшмат чаго будзе сказаць у апраўданне свайго доўгага й шчаслівага жыцця:

"Ну, жыццё яно такое, Мірачак, – кажа Міраслаў, – па-іншаму ніяк не атрымліваецца. А як так, дык жывеш – мірыся".

І Мірак мірыўся, па-свойму.

Ну, а як жа іншыя? Так, сапраўды, не ўсе ж спрэс пілі і співаліся. Іншыя выключна елі. Чалавечынку. А яшчэ іншыя (і такіх навокал з'яўлялася ўсё болей) выдатна сумяшчалі адно й другое. Што ж, набор жыццёвых шляхоў чалавекаў насамрэч небагаты.

Сябры казалі яму: "Мірак, не засмучайся заўчасна".

Ён адказваў: "Я ведаю, да чаго з часам усё ідзе, таму й засмучаны".

Хто-ніхто з сяброў разумеў і пагаджаўся з ім, спрабуючы, праўда, выхапіць Мірака з уласнага кону:

"Так, Мірак, але нічога з тым не паробіш!.."

"А я нічога й не раблю".

Ягоны розум ужо адмаўляўся бачыць розніцу паміж тымі, хто нешта стварае, і тымі, хто ўсё разбурае, усведамляючы й прымаючы хіба выдасканалены цынізм за ўсеагульную каштоўнасць эпохі. Каштоўнасць, што без вынятку яднала ўсіх галоўных актораў сучаснасці – усіх гэтых палітыкаў, менеджэраў, журналістаў ды іншых вынаходнікаў атамных бомбаў.

Сярод гэтага тыпу ёсць падтып людзей, якія праз уласную ляноту, боязь, няздольнасць або нейкую кан'юнктуру часова альбо паслядоўна застаюцца па-за вялікімі працэсамі, яны нічога не ствараюць / не разбураюць. Яны толькі абслугоўваюць. Калі іхніх больш увішных і паспяховых супляменнікаў можна ахарактарызаваць "актыўным дзеяннем", дык гэтых – "дзеяннем пасіўным".

На жаль, тыя "актыўныя" маюць вялікую спакусу залічваць у шэрагі "пасіўных" зусім іншы тып людзей – тых, што сузіраюць. Сузіральнікі вонкава сапраўды могуць быць падобнымі да "пасіўных" стваральнікаў/разбуральнікаў, хаця ўяўляюць сабою абсалютна іншую існасць. "Пасіўнаму дзеянню" ("бяздзеянню") адных супрацьстаіць "не-дзеянне" другіх. Другі тып прадугледжвае штосьці зваротнае самаму панятку "дзеяння", штосьці, што адмаўляе яго, выключае самую яго магчымасць.

Гэтая структура прыгнятала, але была занадта яснаю й мела даволі рэзкія абрысы ў галаве, так што Мірак не мог ігнараваць яе. Безумоўна, ён знаходзіўся там, дзе нічога не-дзеецца. Сузіральнік. Тып другога парадку. Яго непакоіла і мардавала вечнае атаясамленне адных з другімі. I ён болей не верыў у магчымасць іх плённай камунікацыі.

**II**

Калі надыходзіла зіма і набліжаўся *той дзень*, Мірак ведаў, што хутка будзе галадаць.

Узімку сябры не наведваліся. Здаецца, халады і шэрасць горада праціналі нутро ягоных жыхароў даастатку, і кожны перажываў персанальную зіму сам-насам, у сваім наглуха засыпаным снегам доме. На самоце перажываў свае зімы й Мірак. Чакайце, як зваўся той глухі гарадскі завулак, дзе стаяла ягоная хата? Здаецца (Завочны), завулак (Паўчалавечны)... Паўночны!

Калі выпадаў снег, Мірак амаль не выходзіў з хаты. I сцежка ад ганка зацярушвалася хутчэй, чым паспявала пазначацца. Мірак дапіваў каву, што заставалася яшчэ з восені, выпальваў цыгарэты, якія гэтай часінаю з'яўляліся немавед адкуль, ды даядаў яблыкі з уласнага саду.

Мірак вельмі любіў яблыкі. I (о!) ён ведаў іх кошт! Асабліва ўзімку, калі болей есці амаль нічога не было. Мірак еў яблыкі, як ядуць іх птушкі і мышы, выядаючы нават сярэдзіну з зярняткамі, у якіх, чулася, было багата карыснага ёду. Ён драў іх на тарцы і пасыпаў цукрам, калі цукар знаходзіўся. Пёк яблычныя аладкі, калі знаходзілася мука. Запякаў цэлымі галовамі або сушыў парэзаныя чаўночкамі ў печы.

Яблыкі зазвычай далежвалі да новага года. I калі на дне скрыні з травеньскім сенам заставаўся апошні – тады й надыходзіў *той дзень... Дзень апошняга яблыка.*

Гэта было прыватнае, таемнае Міракава свята. Свята, пра якое ніхто, апроч яго, не ведаў. Ды нават уведаўшы, напэўна, з цяжкасцю паверыў бы. Паверыць у абсалютную рэальнасць гэткае хваравітае, малапрывабнае вобразнасці ў такі моцны й здаровы час? Паверыць, што дзесьці вось тут, зусім побач з намі, за змерзлымі й заснежанымі сценамі звычайнае гарадское хаты, а не ў нейкім паралельным свеце, з няўмольнай цыклічнасцю разгортваецца такое дзіўнае, страшнае існаванне? Не... Не!

### III

Сёлета апошні яблык далежаў ажно да сярэдзіны зімы. Мірак дужа ашчаджаў яго, каб як мага адцягнуць *той дзень*, за якім навальваліся вялікі голад і чорная бездань неадольнай апатыі з перыядычнымі сполахамі болю й відзежамі.

Чырвоны, у рэдкую чорную кропку, з павыбіранымі гнілінкамі, акуратна парэзаны скрылікамі яблык ляжаў на сподачку й чакаў свае святочнае гадзіны. Але яна ніяк не надыходзіла. І калі Мірак нарэшце пакаштаваў скрылік, яму раптам паблажэла.

Можа, гэта таму, што астатнімі днямі ён зусім нічога не еў. Здаецца, апошнюю каву ён дапіў з тыдзень таму. Недзе тады ж даеў і апошні хлеб. А ці было што пасля? Здаецца, заставалася яшчэ некалькі цыгарэт...

Ён мог бы выйсці ў свет і расстарацца хаця б хлеба, але ўжо не мог даць сабе рады пакінуць хату. Можа, месяц, а можа, крыху меней ці болей – ён дакладна не ведаў. Наўздзіў, той, хто мае свой час, часцяком страчвае ўсялякую здольнасць ягонага ўліку. Фізіка часу не адмаўляецца, але пераадольваецца. Час нібы рака: ты стаіш у ёй, яна адчувальна, але несувымерна цячэ паўз цябе, ціхая й магутная плынь вады. Пакуль ты ў вадзе – ты ў сваім часе, ты – частка яго. Чапай нечапанае. Чэрпай невычэрпнае. Сузірай і асэнсоўвай. Але варта выйсці на бераг, далучыцца да ўсеагульнае гонкі – і твой час незаўважна й незваротна сплывацьме па-за табою...

Напэўна, яму ўсё ж не варта было штучна адкладаць сваё свята. Ды якая цяпер ужо святочнасць? А як файна было часам, калі да свята, бывала, знаходзілася яшчэ й пляшка! Цяпер Мірак ужо нічога не мог пакласці ў рот, але гэта яго зусім не хвалявала. Ён ужо ведаў, што сёлетні *Дзень апошняга яблыка* будзе апошні.

Мірак ляжаў на падлозе, бо так, здаецца, лягчэй было паладзіць з болем, што пачаў даймаць яго дзесьці пад страўнікам. Чамусьці яму здавалася таксама, што за вокнамі цяпер ясны зімовы дзень, што вось тут, зусім побач з ім, на адлегласці некалькіх выцягнутых рук цяпер ходзяць людзі, магчыма, мінаюць хату ягоныя сябры, не здагадваючыся...

Мірак не мог ведаць усяго гэтага. Ён толькі адчуваў, што ў яго ёсць ягоны час і што ён ёсць у сваім часе. Ці не зашмат чалавеку і гэтага?

Ён плыве з ціхай плынню ракі. Вада нясе яго, неверагодна лёгкага, нібы высахлую яблыкавую семку, кудысьці наперад, да вусця. Там – велізарная зіхоткая прастора. Паабапал яе ў сувоях туману, ужо працятага сонечнымі прамянямі, лунае ягоны сад. Старыя каржакаватыя яблыні, як пакручаныя бязлітасным часам веліканы, моцна хістаючыся, нібы калекі, спешна пакідаюць сад, сыходзяць са сваіх тумановых берагоў і знікаюць у прамяністай сонечнай далечыні.

Там чалавек – ужо за межамі сваёй хаты, саду, цела, болю.



Вадзім Корань



...думкі мае
даляцяць
да цябе
праз прастору і час...

# Existenz

***Трыпціх***

***I***

Марыя!

Ты бачыла,
як забівалі
Твайго Сына,
як Ён заходзіўся
ад нясцерпнага
болю.
Да гэтага часу
кроў у жылах
стыне,
ты глядзела
і крыкнуць не магла:
“Даволі!”

Змяшаліся ў адно
сонца, месяц, зоры,
зямля, вада, агонь,
прысутных злосныя твары.
Нават слёзы твае
пасівелі
ад бясконцага гора,
а плечы
сагнуліся
пад невымерным
цяжарам.

Словы
распаліся
на асобныя гукі,
думкі –
зблытаныя старонкі
з розных кніг.
Хто бачыў,
як ты сабе
заломвала рукі
і стаяла,
нібы памерлая
сярод жывых?

Кажуць,
што гэта было
дзве тысячы гадоў таму
ў далёкай краіне
пад палкім
і няшчадным сонцам...
Марыя!
Я цяпер ведаю,
ведаю чаму
вясельнае віно
ператварылася ў воцат

і раптоўна аслеплі
тыя, хто меў
добры зрок –
яны
шукаюць
навобмацак
страчаныя
святыні.
А ў пустэльні без назвы

блукае
апошні
прарок,
які і слядоў
на гарачым пяску
не пакіне.

Дзве тысячы гадоў –
гэта вельмі доўга.
Гэта
вельмі
доўга
і вельмі
балюча.
Накрытая туманам
нязведаная дарога
бясконцая,
як Вечнасць,
і з небасхілам
спалучаная.

І мы ідзем па ёй
стамляемся,
падаем.
Зноў ідзем.
Усё вышэй
у нябёсы бяздонныя.
І то сонца пячэ,
то мокры снег з градам...
А мы валачэмся,
нібыта
ваеннапалонныя –

ахвяры чарговай
сусветнай
вайны,
у якой няма
ні пераможцаў,
ні пераможаных.
У зацішы схаваліся
знямелыя званы,
а яны ж
па нас
павінны званіць,
па кожным.

Я шукаю
Паўля Боймера
сярод бясконцых
аблiччаў
шэрых.
Ён – стары знаёмы
і некалі
ўмеў
усміхацца.
Алоўкам пішу
на зжаўцелай
ад часу
паперы:
“Паўль!
Я жывы!
Я быў тут
у дзве тысячы васямнаццатым!”

Акуратна мацую
цыдулку
на слуп
прыдарожны,
на якім ужо
безліч
такіх цыдулак:
“Наперадзе небяспека –
будзьце асцярожныя!”
“Не памінайце ліхам
вольнапісанага
Задуму!”

“Мама!
Я згубіўся!
Адшукай мяне, мама!
Я адзін
сярод
чужых
незнаёмых
людзей...”
Чытаю.
Успамінаю,
што я згублены таксама
і да мамы
гатовы
бегчы
нават
па вадзе.

Марыя!

Твой Сын ведае,
што такое
пакуты,
ведае,
як бязвольнае цела
памірае.
Ён усемагутны
нават да крыжа
прыкуты,
і Ён можа рабаўніку
адчыніць
дзверы Раю.

Гэтак сталася,
што чалавечая смерць –
развязка кожнай
жыццёвай драмы.
Але ці зможа,
ці зможа Ён зразумець,
як гэта –
застацца
ТУТ
аднаму,
без мамы?

Марыя!

Ты была побач,
калі Ён канаў
на крыжы,
Ён бачыў цябе і Яму,
пэўна,
яшчэ больш балела...
Цікава, а як бы Ён
далей жыў,
калі б
ТЫ
на Ягоных
руках
памерла?..

***II***

Ноч пахне небам,
бязмежна-глыбокім,

загадкава-чорным.
Магчыма, у той чарнаце
быў схаваны
Святы Грааль.
Зарапад.
Зоркі сыплюцца з неба,
бы зерне
ў жорны...
А тым часам Шапэн
пакланіўся
і сеў за раяль.

Музыка сноў
і музыка злоснае явы.
Музыка стратаў,
балючых,
раптоўных,
маўклівых.
Светлыя дні
сталі шэрымі днямі
і нават
цяжка ўспомніць,
ці быў хоць калісьці
шчаслівым.

Сняжынкамі
зоркі блішчаць
у зялёнай траве.
Пакалоў сабе пальцы,
збіраючы іх
у далоні,
каб падкінуць у неба,
бо кожная зорка жыве
толькі там
і не зможа блішчаць
нават
у найбагатай
кароне.

Але не дакінуў,
і зоркі памерлі
пад раніцу –
сталі звычайнай расою,
халоднай,
празрыстай.
Добрыя сны

не заўсёды
запамінаюцца –
іх запісваю
зорнай расой
на зжаўцелым
лісці.

### *III*

Зноў іду
па забытай зарослай дарозе,
якою праходзяць
позна ці рана
і кожны П'еро,
ад пачуццяў цвярозы,
і кожны палкоўнік
Аўрэліяна.

Сцямнела.
Хмарыць.
Пэўна, будзе дождж.
А, можа,
страшная навальніца,
бы над Гамораю,
калі маланка,
як ахвярны нож,
бязлітасна чэрава небу
ўспорвае.

Хтосьці з дзяцінства
баіцца навальніц,
мабыць, больш,
чым абяцанага канца свету –
сядзіць з абразом
у руках
у святле бліскавіц.
А вось адзін мой сябар
ад бліскавіц
прыпальваў
цыгарэты.

Ён памёр ад анкалогіі
тры гады таму.
Апошні допіс
застаўся
ў ягоным

Фэйсбуку:
“Сябры, магчыма,
патрэбныя
каму
кнігі? Аддам
у добрыя рукі...”

Ушчэнт разлятаюцца
даўнія мары,
якія даўно
перамараны й пераменены.
Але можна насунуць на нос
акуляры,
назваць сябе
Джонам Ленанам –

і памерці ад старасці
ў дзевяноста
снежаньскім вечарам
недалёка ад дому.
І ніхто не даведаецца
як гэта проста –
быць Джонам Ленанам
нікому не вядомым.

Нікому не вядомым,
нікому не патрэбным,
як і мой фотаздымак
праз сотню гадоў,
на якім я ў футболцы
з напісам
*So ist das Leben...*
іду па дарозе
ўздоўж
чыіхсьці
слядоў,

па дарозе,
якой не відаць
ні канца і ні краю.
Паабапал якое –
вянкі на драўляных крыжах.
Гэта знакі пакінулі тыя,
хто крочыў да Раю,
але не дайшоў:
абяссілеў,
стаміўся

і змогся,
на жаль.

І я не дайду.
Упаду ў неадольнай знямозе,
пэўна,
стаўшы адным
з гэтых шэрых самотных крыжоў,
што як іншыя,
будзе стаяць пры дарозе,
як знак, што я некалі
гэтай
дарогай
ішоў...

Пастарэў на стагоддзе,
даўно ўжо не бачу сноў
і цяпер не ведаю,
як мне з табою сустрэцца.
Ты там,
у Краіне
рамонкавых
дываноў,
куды маё сэрца
спалоханай птушкай
імкнецца.

Твой мабільны цяпер
па-за зонай доступу –
набіраю чарговы раз.
Бездапаможна
сціскаю
ў кулакі далоні.
Але думкі мае
даляцяць
да цябе
праз прастору і час –
ветрыкам цёплым
цябе
пацалуюць
у скроню...

...А тут
халодны
прадзімны
стаіць
лістапад...

*2018*

Паліна Качаткова



...здрады не існуе –

ёсць няспраўджаныя чаканні...

# Да вялікай вады

***Апавяданне***

*Заканчэнне.*

*Пятая частка тэксту пад агульнай назвай "Кватэра №0". Пачатак у газеце "Наша Ніва" за 7 студзеня 2013 года, працяг "Хлопчык у кватэры №0" – "Дзеяслоў" №83, "Лядоўня ў кватэры №0" – "Дзеяслоў" №89. Папярэдняя частка "Татэль "Цішыня" – у "Дзеяслове" №93.*

Летам прывіды ў Мінску знікаюць праз недахоп вільгаці ў паветры.

Горача і суха – няма вялікай ракі.

Дождж ратуе горад летам.

Вада з неба.

Неба пацямнее, збяруцца хмары. Халодны і празрысты, як прывід, дождж абрынецца на горад.

Слова ёсць такое – "лунуць". Знікнуць.

Але амаль заўсёды застаецца след.

Прывіды ў камяніцах туляцца да сценаў і зліваюцца з імі.

Прывід – камяк вільгаці.

Старыя сцены – старыя прывіды. Новыя сцены – новыя прывіды.

Калі прачнуцца пасля трох гадзін ночы, прыслухацца,

прынюхацца, выпрастаць руку з-пад коўдры, можна адчуць тых, хто жыў тут да цябе, калі жыў, калі ты не першы на гэтым месцы.

Руйнуюцца сцены, прывіды знікаюць.

І хто цяпер згадае, дзе ў Мінску быў гатэль “Парыж”?

Прывіды з гатэльных нумароў разляцеліся па скрыжаваннях.

Няма памяшкання, няма прывідаў.

Дзяўчыны жыла ў кватэра ў доме, які стаяў на месцы гатэля “Парыж” на скрыжаванні праспекта Скарыны і вуліцы Леніна.

1997 год.

Вечарамі ў кінатэатры “Цэнтральны” праходзілі дыскатэкі. Столікі з ежай і алкаголем. Пад столлю ў цемры круціўся люстраны шар, білася музыка ў сценах “Цэнтральнага”.

Адбіткі люстранога шара – бліскучае срэбра на тварах наведнікаў.

Круціўся шар, раскідваў водбліскі. Цені мітусіліся на сценах.

Па суботах дыскатэкі адбываліся і ў цэнтры горада – на Кастрыніцкай плошчы – усю ноч да рання.

Карнавал.

Ужо мінулі два рэферэндумы.

Але заставаліся ілюзіі.

На рэферэндуме 1995 года Дзяўчына была назіральніцай у пасёлку Прывольны па Магілёўскай шашы. У Прывольным усё было ў яблыневай квецені. Да ўчастку для галасавання вяла прысада з яблыняў. Над участкам зранку, удзень і нават увечары 14 траўня лунаў сцяг бел-чырвона-белы. Сцяг сярод ружовай яблыневай квецені.

Бліжэй да апоўначы, калі вынікі былі прыблізна зразумелыя, Дзяўчына выйшла, прайшла сярод яблыняў да чырвонага “Альфа-Рамэа”, на якім прыехаў яе забіраць знаёмы прадпрымальнік.

Плюхнулася на сядушку, а ён сказаў: “Ну, што пра...лі краіну!”

Гэты дзень быў цёплым.

Далей давялося жыць у краіне, якая зрабілася іншай.

Летам 1997 года Дзяўчына атрымала замову ад прыватнага выдавецтва на кнігу “Як выжыць у сучаснай турме”.

Сядзельцаў, якія былі гатовыя падзяліцца правіламі жыцця за кратам, хапала. І тых, якія сядзелі яшчэ да Незалежнасці – па ўсім СССР.

Дзяўчына пайшла на Залатую Горку.

Там жыў Дрофа.

Аголены па пояс, увесь у татуіроўках, варыў грыбны суп і кампот. У вялізных рондалях. У яго двухпакаёвай кватэры сядзелі алкаголікі, якія чакалі, калі ўсё зварыцца.

– Аказваеце сацыяльную дапамогу? – спытала Дзяўчына.

– Так, – адказаў ён.

Яго маці была настаўніца.

– Грыбы ў лесе назбіраў, а ягады на дачах узяў “без спросу”.

Ён распавядаў пра далёкія савецкія зоны, дзе выдавалі ім “зайцевыя полушубки” і “зайцевыя сапожки”.

Дзяўчына падумала, што несправядліва будзе, калі ў кнізе не будзе пра жанчын. Спытала ў Дрофы, ці ведае ён жанчын, якія не супраць падзяліцца досведам жыцця за кратамі.

– Прывядзіце Крысу! – загадаў Дрофа.

І тыя, хто чакаў супу, пабеглі ў бок Вайсковых могілак.

І вось ужо вядуць Крысу (Ларысу), якая абапіраецца на мыліцу. Яе падрымліваюць з двух бакоў.

– Яна на могілках жабрує каля царквы Аляксандра Неўскага, – патлумачыў Дрофа, – пакуль сядзела, сястра прадала кватэру. Ларыса цяпер жыве ў падвале.

Ларыса распавядала, як пасадзілі яе за тое, што ўдарыла нажом мужчыну, які з непавагай ставіўся да яе. А жыла яна да гэтага на Берасцянскай, была салісткай у ВІА. На зоне з ёй спрабавалі пазнаёміцца лесбіянкі, падсоўвалі ёй у швейную машынку цыдулкі з прапановамі.

– А што вы ім адказалі?

– Адказала: “Я друзей на зоне не ищу!”

***

Тым часам жыццё ішло сваёй чарадою.

У вазоне, які стаяў у Дзяўчыны на лядоўні, заквітнела белая амазонская лілея – Эўхарыс (*Eucharis*).

Дзяўчына ведала: гэтыя кветкі з’яўляліся кожны раз, калі даводзілася пераязджаць.

Так і цяпер.

– Былі Улазіны, а цяпер Вылазіны, – сказала Сяброўка – бландзінка з тварам адсутным, як у гіпсавай фізкультурніцы ў парку.

Знайшла магчымасць завітаць познім вечарам, зазірнула з тортам “Мінскім”.

Вакно без фіранак ярка свяцілася ў цемры.

Абажур на кухні знялі.

Лямпачка, адна лямпачка давала зыркае неабароненае святло.

Зруйнаваны побыт. Перасунутыя са звыклых месцаў рэчы.

Торт з грыбочкамі на стол – адсунуты, перасунуты, на ім стаялі, калі здымалі абажур.

Дэмантавалі белую кухню “Хозяюшка”, адключылі і вымылі лядоўню з выявамі матылёў і крылатак.

Пачалі есці торт “Мінскі” з гарбатай. Апошні вечар у кватэры.

– Я распавяду вам гісторыю, – сказала Дзяўчына. – Гісторыю пра каменіцы, людзей і сяброўства. У горадзе быў доктар, ён жыў у двухпавярховым асабняку ў стылі мадэрн. Доктар меў маладую жонку, яе звалі Паліна Антонаўна. У 70-я гады Паліна Антонаўна хадзіла да маёй бабулі ў госці, дарыла мне дарэвалюцыйныя цацкі, цацачны посуд, мэблю і плюшавага Мішку, набітага пілавіннем. Вельмі вялікі і цяжкі Мішка. І цвёрды. Мы з сяброўкамі апраналі яго ў мае дзіцячыя паўзуны, сукенкі, нагавіцы. Ён рабіўся падобны да дзіцяці. Лапы ў яго можна было прыводзіць у любы стан – ён мог і сядзець, і стаяць. Аднойчы, бліжэй да восені, калі Паліна Антонаўна была ў гасцях, прыйшлі да нас два сталыя мужчыны пілаваць дровы. А яна пазнала іх і сказала, што падчас акупацыі яны мелі папулярную кавярню ў цэнтры горада. Былі кампаньёны, разам асуджаныя пасля вайны, разам паехалі на Поўнач валіць лес. У будынку, дзе была кавярня, зрабілі музей. Паліна Антонаўна часта прыходзіла да нас, калі прасавалі ў доме пасцельную бялізну, а на вуліцы ліў дождж. Так і запомнілася – круглы стол, на якім бабуля прасуе бялізну, дождж за вакном, аповеды, якія слухаюцца так, каб пасля забыць. Пах гарачага праса, вільготны, з

адценнем пральнага парашку. І гісторыі, якія можна слухаць, а можна не.

Кухня з зыркай лямпачкай і цемрай ў голым вакне выглядала, як сцэна.

– І вось яшчэ адна гісторыя, сказала Дзяўчына, – пра ўладу і партакрата. Гэта было даўно, у 50-я гады. Гісторыя, якую распавёў чалавек, бацька якога быў тады ў партыйным кіраўніцтве. Адзін з сакратароў гаркама партыі ў выніку ўнутрыпартыйных гульняў быў паніжаны да больш дробнай пасады. А да гэтага падчас дэманстрацый на пралетарскіх святах – 7 лістапада і 1 траўня – ён стаяў на трыбуне на плошчы і вітаў разам з іншым начальствам працоўныя масы, якія праходзілі міма трыбуны. Пасля таго, як панізілі, яго не запрасілі стаяць на трыбуне. І давялося падчас дэманстрацыі прайсці ў калоне разам з працоўнымі масамі. Пасля дэманстрацыі ён прыйшоў дадому і застрэліўся. Ён не застрэліўся тады, калі яго панізілі. А толькі пасля таго, як прайшоў у калоне міма трыбуны. Перамена ролі стала шокам. Адчуваў сябе наверсе, а раптам атрымаўся там, дзе тыя, кім кіраваў. А былыя калегі-кіраўнікі па-ранейшаму на трыбуне. А ён у іншым месцы, скінуты з п'едэстала. Відавочнасць: вось ён стаяў і яго віталі, а вось ён ідзе ў калоне і сам махае рукой. Ён не эліта, ён – маса. Усё – канец жыцця.

– А яшчэ я магу распавесці гісторыю пра здраду, – сказала Дзяўчына.

– Здрады не існуе, – адказала Сяброўка, – ёсць няспраўджаныя чаканні.

Крэмавыя грыбочкі на торце "Мінскі" – не толькі прыгожыя, але і смачныя

Кватэра, у якой жыла Дзяўчына, была ліквіднай – яе лёгка было прадаць. Там зрабілі кавярню "Утопія" – аформленую пад "савецкае настальжы" – партрэты Гагарына, выява першаня спадарожніка, газета "Правда".

Бутэлькі з густымі прывабнымі сіропамі розных колераў: мятны-зялёны, малінавы, лімонны, какосава-белы, карамельна-брунатны, цёмна-вішнёвы, цёмна-шакаладны, жоўта-дынны.

– Ці можна з'есці ў вас марозіва?

– Не-е-е, – у расцяжку адказала дзяўчына за стойкай, – у нас нічога нельга.

–???

– Толькі кава і гарбата. Можна з сіропам.

Набярэжная Свіслачы. Граніт. Шэрая шурпатасць. Непразрыстая вада.

Ёсць такое слова – "лунуць".

Лунуць – знікнуць без следу.

Адно след застаецца, і застаюцца цені на шэрых шурпатых сценах.

Перад дажджом моцна пахнуць кветкі на клумбах, а ў кватэрах абуджаюцца прывіды.

Дзяўчына пакінула горад і паехала да вялікай вады.

Але цень разгубленай Дзяўчыны не пакіне горад.

***

Лепель – горад з вялікім возерам у самым цэнтры, якое так і называецца Лепельскае. Параходзік "Фартуна".

Дамкі на беразе возера з прычаламі, на якіх навязананыя чаўны.

Касцёл святога Казіміра ў стылі класіцызму, набажэнствы аднавіліся ў 1993 годзе.

Драўляная царква 1844 года.

Гарадская забудова канца 19 – пачатку 20-га стагоддзя з чырвонай цэглы.

Надпісы – кнігарня і нават бюро рытуальных паслугаў – аформлены на беларускай мове.

Вельмі прыгожыя людзі з блакітнымі празрыстымі вачыма.

На гербе Лепеля – Пагоня.

А яшчэ ў Лепелі ёсць чыгуначны тупік – канец дарогі.

Горад, дзе добра сустрэць старасць.

– Вы прыехалі, а Цмок у возеры здох, аж да Полацку смярдзела, – распавяла бабуля ў Лепелі. – Быў, жыў, пакуль не здох.

***

Дзяўчына набывала крэйду. Адзін белы кавалак, каб пасвянціць яго на Свята Трох Каралёў у касцёле Святога Казіміра і напісаць на дзвярах свайго новага дома C+M+B і год.

– Як вам яе... Як лепей даць.

Прадавачка бярэ крэйду як батон у краме – асцярожна цэлафанам.

– А што?

– Вы яе есці не будзеце?

– Не.

– А ведаеце, бяруць есці.

– І шмат такіх?

– Хапае. Белую крэйду ў асноўным для гэтага і бяруць.

– Хто бярэ?

– Шмат хто. Дзецям бяруць. Жанчына адна прыходзіць сталага ўзросту. Кажа, што з дзяцінства спажывае.

– Так і кажа?

– Так і просіць, каб не кранаді крэйду рукамі. Бярэ скрынку за раз. І твар у яе белы, як крэйда.

***

А цяпер сінопсіс – тэкст пра Мінск у часе паміж двума аўтарытарнымі рэжымамі. Кароткі час. Разбураны Берлінскі мур, распалася і савецкая імперыя. Рухнула сістэма. Кватэры, якія савецкія спецслужбы выкарыстоўвалі для сустрэч куратара з агентамі, пачалі часткова прадаваць. Кватэры месціліся звычайна альбо на першым паверсе – першая ад увахода – альбо на апошім паверсе, каб можна было прайсці праз гарышча з іншага паверха. У адну такую кватэру трапляе гераіня. Гэта праспект – на той час праспект імя Францыска Скарыны. Рэшткі і сведчанні былой эпохі не адразу прыкметныя, губляюцца сярод пераробак пазнейшых часоў. Сталінскі ампір, дамы, пабудаваныя палоннымі з абпаленай вайной цэглы. Прывіды, трывожнае пачуццё.

*Люты 2019 года*



Аляксандра Хамянок



...зразумець –

значыць стаць крыху смялейшай...

# Ліст у будучыню

***Імпрэсія***

*З падзякай да маёй бабулі Аляксандры Рыгораўны*
*і настаўніцы беларускай мовы Галіны Мікалаеўны.*

Калі я атрымала гэты ліст, то нават не дачытала яго да канца. Занадта доўгі, задужа журботны, залішне прыватны. Ды ўвогуле, вельмі дарослы для маіх сямнаццаці. Вельмі далёкі.

У школе нам задалі напісаць сачыненне пра Чарнобыльскую аварыю. Але як пісаць аб тым, чаго мы не памяталі і аб чым не размаўлялі? Праз два месяцы школу заканчваць, здаваць экзамены – вось гэта было сапраўды "трагічна".

Што я сама ведала пра Чарнобыль? Ён асацыяваўся з майскімі выходнымі і парадам. На той парад упершыню за многа гадоў мы (сястра і я) з бацькамі не пайшлі, бо з'ехалі ў Віцебскую вобласць. Тата потым расказваў, што нам пашанцавала быць далёка, бо быў выбух. А тым,

хто застаўся на Магілёўшчыне, дзе мы жылі, – не. Вось і ўсе веды. Таму прыйшлося прасіць маю бабулю, якая з'ехала з Гомельскай вобласці ў пачатку 90-х, распавесці мне пра падзеі пад назвай "Чарнобыль".

Гэты ліст ад яе.

Крыху пазней Святлана Алексіевіч у адным з інтэрв'ю скажа, што *"...нас выкінула ў будучыню, у чарнобыльскую рэальнасць. Мы жывем у д'ябальскай чарнобыльскай лабараторыі, здабываючы для ўсіх веды пра страшную будучыню"*.

Я не зусім разумела, пра што яна.

Той кавалак газеты з інтэрв'ю я захавала. Ён перажыў маё студэнцтва, тры пераезды (лічыце, шэсць пажараў), быў маім талісманам падчас навучання ў пісьменніцкай школе і ўсё яшчэ чакае аўтографа. Ліст таксама захаваўся – папера, на жаль, бабулю перажыла. Сёння яе аповед бліжэй, чым пятнаццаць год таму. Я чытаю і перачытваю яго, бо разумею, адчуваю, спачуваю. То быў ліст у будучыню, да мяне трыццацігадовай. І да вас, хто чытае гэтыя радкі, колькі б вам ні было. Да ўсіх тых, хто яшчэ не адказаў сабе на пытанне: *"А ці варта ведаць?"*

"Мы жылі на адлегласці 75 кіламетраў па прамой. Але пра падрабязнасці я даведалася ад пляменнікаў, якія жылі ў вёсцы бліжэй – за 18 кіламетраў. Вось што яны расказвалі.

Пра выбух на станцыі яны чулі, аблокі бачылі, але небяспекі не адчувалі. Ніхто пра яе не паведамляў. Толькі першага мая дэманстрацыю адмянілі, а ў вёску прыехалі аўтобусы з людзьмі, якія сталі ўгаворваць жыхароў хутчэй з'язджаць, нічога з сабой не беручы. Вядома, ніхто не згаджаўся на гэта. Дайшло да таго, што дзяцей сілай садзілі ў аўтобусы і дазвалялі ўзяць з сабой толькі самае неабходнае: падушку ды коўдру.

Па дарозе людзям сказалі, што іх вязуць у раённы цэнтр. Тым, у каго былі сваякі, раілі з'язджаць да іх. І чым далей, тым лепш. У першую чаргу вывозілі маладых маці з дзецьмі, потым – астатніх. Але многія засталіся ў вёсцы, бо баяліся за хаты, рэчы, жывёлу. І гэта нягледзячы на тое, што за аўтобусамі прыехала міліцыя, якая павінна была ўсё гэта ахоўваць. Старыя наракалі на ўладу, цяжэй за ўсё было менавіта ім.

Праз нейкі час пакінутую жывёлу забрала дзяржава. У вёску нікога не пускалі, не дазвалялі забраць кінутыя рэчы. Там засталіся толькі сабакі і каты.

Але наш пляменнік здолеў з кімсьці дамовіцца, аформіў дазвол і праехаў праз пост. Ён забраў сваю мэблю і прывёз яе ў нашу вёску. У дом яе не ўносілі, пакінулі ў хляве. Улетку з Польшчы прыехалі сястра пляменніка з мужам, які быў ваенным і змог дастаць дазіметр. Ён не казаў, якія лічбы паказаў прыбор, але мэблю трэба было выкідаць. Яе пашкадавалі, некалькі разоў мылі, чысцілі, сушылі і з часам перанеслі ў дом. Трохгадовага хлопчыка, які жыў у тым доме, потым паставілі на ўлік у паліклініцы. Яго кожны год вазілі на аздараўленне: спачатку разам з маці, потым аднаго.

Тая вёска падлягала абавязковаму адсяленню. Там усё памерла, зарасло пустазеллем. Каб пахаваць кагосьці на мясцовых могілках, трэба было дамагацца дазволу ўехаць на забруджаную тэрыторыю.

Паступова па радыё, тэлевізары, у газетах сталі распавядаць пра небяспеку радыяцыі. Высветлілася, што нават у нашай вёсцы гэтая небяспека захоўвалася. У школу часта прыязджалі людзі з дазіметрамі. Нам казалі, што ў памяшканні паказанні нізкія, а на школьнай пляцоўцы – высокія. І

нам забаранілі выводзіць дзяцей на вуліцу, у лес, у поле. Піянерскі лагер на беразе возера зачынілі. Спыніўся рух цеплаходаў і ракет на падводных крылах па Прыпяці.

Нас папярэджвалі, што нельга збіраць шчаўе ні ў лесе, ні ў агародзе, есці ягады і грыбы. Але дзеці ўсё роўна елі. Сёй-той з вясковых піў малако, хоць гэтае малако спачатку перастала збіраць нават для дзяржавы. Але потым зноў пачалі браць. Казалі, што яно перапрацоўваецца і ідзе на тэхнічныя патрэбы.

Пасля дажджоў на паверхні лужын і рэчкі быў зеленавата-жоўты налёт, падобны на пылок ад квітнеючых вербаў. У роце заўсёды было горка, асабліва ў прыезджых. Яны так і казалі: "Усё нармальна, а як пад'ясі тут у вас – гарыць у роце".

У краму вялікімі партыямі завозілі малако, смятану, тварог, марскую капусту ў слоічках, рыбу. У школе дзецям кожны дзень давалі арэхі і паўднёвую садавіну: бананы, апельсіны, мандарыны, гранаты. Фруктовыя сокі стаялі прама ў класах – іх дзецям дазвалялася піць колькі заўгодна.

Мы, настаўнікі, па чарзе ездзілі на аздараўленне з дзецьмі – там і працягвалі навучанне. Праз два-тры гады ў паловы з нашых вучняў лекары знаходзілі павялічаную шчытападобную залозу. Маладыя бацькі пачалі з'язджаць у іншыя вобласці. Там ім давалі працу, давалі ці будавалі жыллё.

Праз тры гады пасля выбуху мы здалі сваю карову на мясакамбінат. Але найперш трэба было яе вымыць, і абавязкова з парашком. На мясакамбінаце сказалі, што радыяцыя асабліва ўядаецца ў поўсць. Нам пашанцавала – нашу карову адразу прынялі. Хтосьці вазіў па некалькі разоў, усё з радыяцыяй прызнавалі.

Людзі не ведалі праўды: адны арганізацыі ставілі забараняльныя знакі, жоўтыя сцяжкі, там, дзе радыяцыйны фон быў большы за пяць кюры на квадратны метр, іншыя – іх здымалі, таму што трэба было даплочваць людзям грошы за радыяцыю. Народ іх называў "грабавыя".

Жыць было страшна".

Сачыненне я напісала на "выдатна". Хутчэй за ўсё гэтую адзнаку мне паставілі авансам: у настаўнікаў часта ёсць асаблівае чуццё, што добрая адзнака можа ператварыцца ў нешта большае. У маім выпадку так і здарылася. За што і дзякую, бо я нарэшце зразумела, пра які страх распавядала Святлана Аляксандраўна, пра які страх пісала мне мая бабуля.

А зразумець – значыць стаць крыху смялейшай.

## Уладзімір Маякоўскі



...грацьму, пакуль
на апошнім канцэрце
вам не скажу *пакуль* я...

# Флейта-пазваночнік

***НАЦЕ!***

Праз гадзіну па адным у чысты завулак
брудным тлушчам адсюль пацячэце назад.
А я паадчыняў вам столькі вершаў-шкатулак,
я – бясцэнных слоў мантач і магнат.

Вось вы, мужчына – з вусамі ў капусце
недаператураўленай, як вашае жыццё;
вось вы, жанчына –
з пудраю ў найгусцейшым гусце,
вустрыцаю з ракавіны рэчаў гледзіце.

Будзеце на мятліка паэтавага сэрца,
брудныя, грувасціцца ў галёшах і без галёш,
па адным і дзікай зграяй, з перцам і з імберцам –
ашчацініць ножкі стагаловая вош.

*Пераклад з рускай Андрэя ХАДАНОВІЧА.*

Ды абрыдне сёння мне, грубаму гуну,
вам на смех крыўляцца, грымасячы плач, –
і я зарагачу ды радасна плюну,
плюну ў твар вам
я – бясцэнных слоў магнат і мантач.

*1914*

## А ЎСЁ-ТАКІ

Вуліца правалілася, нібы нос сіфілітыка.
Рака – юрлівай слінай па летнім чэраве.
Зняўшы бялізну аж да апошняга лісціка,
пахабна сады разваліліся ў чэрвені.

Я выйшаў на плошчу,
спалены сквер
надзеў на галаў, як рыжы парык.
Людзі жахаюцца: рот мой – ашчэр,
дзе б'ецца нагамі непражаваны крык.

Але не асудзяць, не скажуць "камедыя".
Як прароку, кветкамі ўсцелюць мне след.
Бо кожны правалены нос добра ведае:
я – ваш паэт.

А калі суд ваш страшны – не п'яныя чуткі,
праз агонь і руіны з чорнымі зданямі,
як святыню, мяне на руках панясуць прастытуткі
і пакажуць богу ў сваё апраўданне.

І бог заплача над вершам, заахае:
не словы – у горле зліпаюцца курчы!
І пабяжыць па небе з кніжкай маёй падпахаю,
і будзе чытаць знаёмым, нервова курачы.

*1914*

## ПАСЛУХАЙЦЕ!

Паслухайце!
Калі зоркі запальваюць –
значыць – гэта камусьці патрэбна?
Значыць – камусьці важна, каб зоркі былі?
Значыць – хтось называе тыя плявочкі
срэбнымі?

І праз завеі пылу паўднёвай зямлі
ірвецца –
баіцца спазніцца –
да бога,
плача,
цалуе яму жылістыя рукі,
просіць абавязкова –
хоць зорку для неба сляпога! –
клянецца –
не вынесе гэтай бяззорнай мукі!
А потым
ходзіць трывожна,
але трываючы вусціш.
Некаму кажа:
“Цяпер не страшна?
Не горка?
Болей святла?”
Паслухайце!
Калі зоркі запальваюць –
значыць –
гэта патрэбна камусьці ж?
Значыць – яно неабходна,
каб кожны вечар
над дахамі
хоць бы адзіная зорка была?!

*1914*

### *ВАМ!*

Вам, што пражываеце за оргіяй оргію,
маеце ванну й клазет з падагрэвам!
Над газетай – з прадстаўленымі да Георгія –
сорам вачэй не дзярэ вам?!

Вам, што пілі раскошу нагбом бы,
помнячы войны толькі з падручніка, –
лепей не ведаць, як вырвала бомбай
ногі ў Пятрова паручніка!..

А калі б ён, прыведзены на забой,
раптам убачыў, зранены,
як вы перапэцканай у катлеце губой
юрліва падпяваеце Севяраніну!

Ці вам, бяздарным, ласым да блуду,
жыццё аддаюць ахвяры?!

Я лепей ваду ананасную буду
блядзям падаваць у бары!

*1915*

## ГАЙНЭПАДОБНАЕ

З вачэй – маланкамі – бліскі:
“Я з іншай
цябе заспела!
Ты самы подлы,
ты самы нізкі...” –
б’е ў чорнае
сэрца мне,
белая.
Не грыміце лірыкай, любая,
бо мне фізіка не чужая:
раз маланка не стала згубаю –
то і гром,
дальбог, не спужае.

*1920*

## ГОРА

Марна біўся аб вечар
вецер нечалавечы.
Кроплі крывавым рэхам
мацалі гонту стрэхам.
І аўдавелая ўночы
поўня пайшла адзіночыць.

*1920*

## ФЛЕЙТА-ПАЗВАНОЧНІК

### *Пралог*

За ўсіх вас,
мае любыя і нялюбыя госці,
што вісяць абразамі ў душы маёй келлях,
я падыму ў развітальным тосце
вершамі поўны чэрап – мой келіх.

Ёсць думка
на тэме жыцця і смерці
кропку паставіць куляй.

Грацьму, пакуль
на апошнім канцэрце
вам не скажу *пакуль* я.

Памяць!
У залу сваю ўсіх пакліч,
каб сабраліся каханыя, селі:
хай вочы ў вочы,
аблічча ў аблічча
зноў адгуляюць былыя вяселлі.
Хай, цела ў цела, раскошу без краю
поўнач нясе паўночніку.
А я вам сёння на флейце зайграю.
На сваім пазваночніку.

***1***

Вёрстамі мну я вулічны гоман.
Крокі да мукі звыклі тае.
Што за нябесны Гофман
выдумаў цябе, выклятая?!

Скокам радасці – ходнік вузкі.
Свята – вясёлыя фарбы чэрпае.
Думаю.
Думак крывавыя згусткі,
лезучы вонкі, баляць у чэрапе.

Мне,
у кім цудаў грыміць навальніца,
няма з кім выйсці ў святочную гушчу.
Зараз вазьму ды грымнуся ніцма,
аб Неўскі праспект сабе голаў раструшчу!
Вось я блюзнерыў.
Бога, – крычаў, – не існуе.
А бог, пераблытаўшы пекла і рай,
з глыбіняў зямлі мне яе, незямную,
вывеў і кажа:
кахай!

Бог задаволены.
Ёсць у палоне
чалавек, што ад болю здзічэў і вымер.
Бог пацірае ручак далоні.
Думае бог:
пачакай, Уладзімір!

Гэта ж ён так прыдумаў, што мушу
я прапасці, не сцяміўшы, *хто* ты.
Гэта ж ён так зрабіў, каб належала мужу,
і паклаў на раяль чалавечыя ноты.
Калі да вас падкрасціся ў спальнічцы,
вашу коўдру перажагнаць непрыкметна,
ведаю –
паленай поўсцю запахнеце ў паніцы,
бы д'ябламі смажаныя ў апраметнай.
А я замест гэтага да ранку ранняга
ў вусцішы, што цябе кахаць павялі,
біўся
ды крыкі ў радкі выграньваў,
ужо звар'яцелы амаль ювелір.
У карты б гуляць!
У віно
горла ўтапіць бы засмягламу стогну.
Не трэба цябе!
Не хачу!
Усё адно,
я ведаю,
хутка здохну.

Калі ты, госпадзе,
ёсць,
калі зорныя высі
ты выткаў, нібы дыван стракаты,
мне ў болі, божа, з'явіся,
што ўсяго мяне рве – горш, чым каты!
Судзейскі ланцуг надзень.
Чакай, я хутка з візітам.
Буду пунктуальны.
Не спазнюся ні на дзень
Слухай,
Усявышні інквізітар!

Сцісну рот.
Я трываць гатоў.
Не выпушчу крык з закушаных губ я.
Прывяжы да камет, як да конскіх хвастоў,
і пусці наўгалоп –
хай мяне раздзіраюць аб зорнае зуб'е.
Ці лепей так:
як душу з цела выселю,
перад табой
на судзе схаладзею,
ты,

Млечны Шлях перакінеш, як вісельню,
і выб'еш зямлю з-пад ног ліхадзею.
Катуй, як хочаш.
Чвартуй. Душы.
Я сам табе, праведнік, рукі вымыю.
Толькі –
чуеш! –
вырві яе мне з душы,
прагані яе з галавы мае!

Вёрстамі мну я вулічны гоман.
Крокі да мукі звыклі тае.
Што за нябесны Гофман
выдумаў цябе, выклятая?!

***2***

У небе,
што знікла ў атрутным тумане,
дзе абадраныя хмары, бы ўцекачы,
я запалю апошняе ў свеце каханне,
нібы румянец сухотніка, уначы.

Вы,
што звыкліся з глебай сырою,
хай залунае радасць людская.
Слухайце!
Кідайце зброю.
Вылазьце з акопаў.
Вайна пачакае.

Нават калі,
ад крыві ап'янелы, як Бахус,
бой ідзе! –
сэрца каханню адкрыта.
Мілыя немцы!
Я ведаю,
на губах у вас
гётэўская Маргарыта.
Француз
на штыку, шчаслівы, загіне,
з усмешкаю разаб'ецца падстрэлены авіятар,
згадаўшы пяшчотныя
вусны багіні –
твае, Травіята.

Ды што мне чары ў ружовым бутоне,
што стопчуць стагоддзі цяжкой хадой.
Да новых ног прыпадайце сёння!
Мой гімн – з табой,
фарбаванай,
рудой.

Ад эпохі,
вастрэйшай ад вастрыя,
што стагоддзям бароды рэжа з агідаю,
застанешся, відаць,
толькі ты –
і я,
каго з горада ў горад любоў твая кідае.

Уцячэш за мора, дзе халодна,
дзе начамі ў норах стыне кроў, –
я ў цябе ўцалую скрозь туманы Лондана
вогненныя губы ліхтароў.

У сквар пустэльні пацягнешся караванам,
туды, дзе львы і завеі пяску, –
табе
пад пылам, ветрам ірваным,
пакладу Сахарай распаленую шчаку.

З усмешкай пахваліш адвагу:
"Як шпагу
трымае тарэадорчык!"
Зверам, падкошаным рэўнасцю,
лягу, –
любай кроў сваю дорачы.

Выйдзеш на мост, рассеяная –
думаць,
чаму віры табе мілыя.
Гэта я
пад мостам разліўся Сенаю,
клічу,
шчэрачы зубы згнілыя.

З іншым запаліш у хмельным агні
Стрэлку або Сакольнікі.
Гэта я ваблю цябе з вышыні
поўняй, прагны ды голенькі.

“Памірай!”, –
мне вайна загадвае.
Ці загіну,
гнаны загадам?
Ды апошнім будзе
імя тваё,
на губах, разбітых снарадам.

Скончу Святой Аленай?
Нескаронай каронай?
Выплыву ў моры жыццёвай маны?
Я – роўны кандыдат
на сусветныя троны
і на
кайданы.

Быць царом загадваеш мне ты,
царству майму – быць чаканнем.
Твой твар на сонечным золаце царскай манеты
загадаю народу:
“Чаканім!”

А там,
дзе тундрай свет выліняў,
дзе з ветрам паўночным вядзе рак*а* таргі,
на ланцугах надрапаю – імя Ліліна,
і ланцугі цалавацьму ў цемрадзі катаргі.

Слухайце, людзі,
што неба згубілі ў тумане,
што, як звяры, ашчацінілі зброю!
Гэта, магчыма,
апошняе ў свеце каханне,
нібы сухотны румянец, палае зарою.

*3*

Забуду год, месяц, будні і святы я,
хай піша самота і хопіць паперы ёй, –
пакуль пакутуюць словы, распятыя
нечалавечай містэрыяй!

Сёння, у пастку зmax заблены,
зайшоў я да вас, –
а ў доме няладна.
Ты нешта хавала ў сукенцы ядвабнай,

і плыў у паветры пах ладану.
Рада?
Халоднае “вельмі”.
Збянтэжаны розум шукае парады
і роспач раве ў чорным вэлюме.

Паслухай,
усё ж
не схаваеш трупа.
Вусцішным словам хімера
шчэрыцца!
Кожнай цягліцай,
бы ў рупар,
трубіць:
памерла, памерла, памерла!
Не,
няпраўда!
Жыве!
(Як я назад, без мілай?)

Ямы вачэй, як дзве
выкапаныя магілы.

Магілы глыбеюць.
Няма болей дна там.
А хісткія дні –
ўніз галовамі.
Душу нацягнуў я над прорвай канатам
і крочу, жанглюючы словамі.

Ведаю,
зношвае стома людзей,
душыць нудой, калі жарсць адляцела.
А ты маёю душой маладзей,
запрасіўшы сэрца на свята цела.

Ведаю,
жарсць тут купляюць за грошы.
Нічога,
не ўпершыню –
цябе замест моднай парыжскай раскошы
адзену ў дым тытуню.

Каханне маё
па дарогах, як кон,
як божае слова апостал, – нясу так.

Цябе карануе карона з карон,
а ў ёй мае словы –
сузор'ямі сутарг.

Як сланы стопудовымі гульнямі
перамогу вянчалі Піраву,
твае думкі граміў вершаванымі кулямі.
Марна.
Цябе не вырву.

Радуйся,
дасканалая,
ты даканала!
Такая туга,
што цяпер –
толькі дабегчы хутчэй да канала
і сунуць голаў – вадзе ў ашчэр.

Губы губам –
дала, не шукала іх,
каб дакрануўся й астыў.
Бы пакаянна цалую ў халодных скалах
высечаны манастыр.

Бразнулі дзверы,
аж цёмна ўваччу:
ён заходзіць,
радасці – поўная торба.
Я,
разрываючы горла,
крычу:
"Добра!
Сыходжу!
Добра!
Твая застанецца.
Адзежак нашый ёй,
каб вольныя крылы скаралі.
Каб не сплыла.
Камянямі на шыі
жонцы навесіш пярлінаў каралі!"

Ночы
гулкае рэха!
Адчаю пятлю – як на шыі распусціш?!
Ад плачу майго і смеху
пысу пакою скурчыла вусціш.

Ды ўваскрэсла ў відзежы старое ўсё,
на кіліме – зоры позірку Лілінага,
быццам новаму Бяліку вобраз прымроіўся
асляпляльнай царыцы Сіёну біблійнага.

У пакутах
ля ног
той, якую аддаў назаўжды,
я ўкленчыў, разгублены цынік.
Кароль Альберт,
што ўсе згубіў гарады,
побач са мною задораны імяніннік.

Спеліць краскі і травы вясна залатая,
у жыццё ўсіх стыхій спавітая!
А я наўзахлёб глытаю
вершы свае ядавітыя.

Ты, што сэрца абакрала мне
і ранаю
развярэдзіла ў душы ўсю брыду маю, –
дар мой прымі, каханая,
можа быць, я нічога больш не прыдумаю.

Сённяшні дзень фарбуйце – у святы.
Творыцца
роўная крыжу містэрыя.
Бачыце, як
прыбіты, распяты
цвікамі слоў на паперы я.

*1915*

### ***ЛЮБЛЮ: фрагменты з паэмы***

#### ***Юнаком***

Юнацтву заняткаў маса.
Граматыкам вучым дурняў, дурніц мы.
Мяне ж,
толькі вышыблі з 5-га класа,
як сталі ў маскоўскія кідаць вязніцы.
У вашым маленькім
утульненькім свецiку
на кожную спальнічку –
па кучаравым паэціку.
Што знойдзеш у гэтых балонкавых лірыках?

Мяне вось
любіць
вучылі
ў Бутырках.
Што мне туга па Булонскім лесе?!
Што мне куротныя ўздыхі ды пляжыкі?!
Я вось
"Бюро пахавальных працэсій"
любіў
праз "вочка" сваёй каталажкі.
Глядзяць на сонца ў нудоце багемнай:
"Нашто нам
дурнога свяцілка праменне?"
А я
за сонечны зайчык
на столі турэмнай
аддаў бы тады паўсвету – не меней.

### *Мой універсітэт*

Французскую ведаеш?
Дзеліш?
Множыш?
Скланяць умееш?
Навука файная!
Скажы –
а з домам спецца
ці зможаш?
Ці зразумееш мову трамвайную?
Малы чалавечык –
носам у сшытках,
ледзь выйдзе з яйка –
па кніжку лезе.
А я вучыўся чытаць па шыльдах,
гартаў старонкі з бляхі й жалеззя.
Хтось возьме зямлю,
схаваную ў шафе, і
тыкае ў глобус –
то ў Прагу, то ў Падую.
А я
бакамі вучыў геаграфію,
бо на зямлю
начлегамі
падаю!
Хай гісторык над рэбусам б'ецца, гадае:
– Ці была барада ў Барбаросы рудая?
Кіньце! Я ведаю лепей, чым вы,

гісторыю
вуліц ды корчмаў Масквы!
Бярэ Дабралюбава (зло яго гідзіць),
ды прозвішча – супраць,
аж кпіць з яго ведаў.
Я
тоўстых
з дзяцінства прывык ненавідзець,
калі прадаваў сябе
дзеля абедаў.
Навучыцца,
сядзе, –
расказвае даме,
бо хоча бліснуць ідэйкай нясвежай.
А я размаўляў
з аднымі дамамі,
сумоўнічаў з воданапорнаю вежай.
Акно слыхавое мае ўвушшу
усё, пра што я ў ночы прашу.
А дах,
разносячы
слова прарочае,
цяжка язык свой –
флюгер –
варочае.

## ***Што выйшла***

Болей чым можна,
болей чым нельга –
болей,
чым разам да зорнага днаісці –
камяк сардэчны разросся да неба:
неба кахання,
неба нянавісці.
Збіваецца
цяжкай ношай
хада так!
Ці мне, асілку,
рыдаць
па-юначы?
А ўсё ж цягнуся,
сардэчны прыдатак,
косым сажнем плечы згінаючы.
Вяршкамі верша ўзбухаю –
не выліцца,
няма куды больш – і поўнюся занава.

Набраклы паэзіяй –
свету карміліца,
гіпербала
правобразу Мапасанава.

## *Так і са мной*

Як у гавань родную – флоты,
як цягнік – на станцыю родную,
да цябе –
бо маё святло ты! –
зноў вяртаюся незваротна я.
Як скупы спускаецца рыцар
сутарэнню свайму скарыцца,
тваім сэрцам,
жыццё і згуба мая,
нібы скарбам,
любуюся, любая.
Так прыходзяць з працы ўначы,
бруд змываюць,
здымаюць стому.
Хіба ж я,
да цябе ідучы, –
не іду,
шчаслівы,
дадому?!
Рукатворны – не ўнікнеш гліны.
Пералётны – знойдзешся ў лецe.
Так і я –
штодня,
штохвіліны –
да цябе,
расстаўшыся ледзьве.

*1922*

Станіслаў Ежы Лец



...нават у яго маўчанні

былі граматычныя памылкі...

# З непрычасаных думак

**Е**ўнух сказаў: “Што мне адна кабета?! Мушу мець гарэм!”

Еўнухі размнажаюцца кастрацыяй.

Ён авалодаў навукай, але не апладніў яе.

Ён быў п’яным Айчынай, у тым ліку яе алкаголем.

Ён выглядаў, як ліліпут праз павелічальнае шкло.

Ён гаворыць такія банальнасці, што толькі пакладзі на музыку – і будзе хіт.

Ён жыве з Музай! Ужывае кантрацэптыўныя сродкі.

Ён здзейсніў забойства: забіў чалавека! У сабе.

Ён? Мае энцыклапедычную неадукаванасць!

Ён меў чыстае сумленне. Яшчэ не ўжыванае.

Ён на аднойназе з тымі азадкамі, якія цалуе.

Ён нагадвае вош на лысіне. Вакол поўна бляску, а аднак – вош.

Ён напісаў музыку да танца святога Віта.

Ён пралюбабяздзейнічаў з чужой жонкай.

*Працяг. Пачатак у №98.*

*Пераклад з польскай Міхася МІРАНОВІЧА.*

Ён ставіць сябе перад першымі. Мае рацыю. Бо з'яўляецца нулём.

Ён хацеў пазнаць людзей знутры. Яму ж прапанавалі, каб зрабіў гэта не з таго боку.

Ёсць вялікія словы, такія пустыя, што можна ў іх зняволіць народы.

Ёсць краіны, у якіх кулінарная кніга была б падрыўной літаратурай.

Ёсць людзі, якія маюць указальны язык.

Ёсць людзі, якія не ўмеюць зразумець свабоду, але дасканальна могуць арганізаваць няволю.

Ёсць малое нішто і ёсць Вялікая Нікчэмнасць.

Ёсць спектаклі такія слабыя, што не могуць сысці са сцэны.

Ёсць характары нязломныя, але гнуткія.

**Ж**ывыя сляды яго кахання запаўняюць дзіцячыя дамы.

Жыццё вымушае чалавека да мноства добраахвотных спраў.

Жыццё забірае ў людзей шмат часу.

Жыццё праходзіць, і няхай, калі яно такое дарагое!

Жыць вельмі шкодна. Хто жыве – той памірае.

**З**а кожным рогам падпільноўваюць некалькі новых напрамкаў.

За мумію самага брыдкага егіпцяніна трэба заплаціць больш, чым за самую прыгожую жывую жанчыну. Гэта сумна. Шчасце, што ў мяне няма грошай, а то я парушыў бы з-за нечуваных сум гэтую іерархію цэн.

Задумаемся: кодэкс павінен мацней караць за наўмыснае ці ненаўмыснае спрычыненне жыцця.

"Заўсёды глядзіце ў будучыню!" – часта крычаць спрытныя, якія ў гэты час крадуць у нас сучаснасць.

Заўсёды знойдуцца эскімосы, якія распрацуюць для жыхароў Бельгійскага Конга правілы паводзін падчас трапічнай спякоты.

Заўсёды існуе яшчэ вастрэйшая тупасць.

Заўсёды трэба быць толькі сабой. Конь без улана застаецца канём. Улан без каня – толькі чалавек.

Заўсёды тыранам належыць больш. Каб просты грамадзянін меў спакойны сон, тыран павінен спаць сном вечным.

З баязлівасці хаваў свае думкі ў чужых галовах.

З вопыту паляўнічага: на вялікіх цяжэй натрапіць, чым на малых.

Звычайны ар'ергард былога авангарда цяпер авангард новага ар'ергарда.

Згвалтаваць логіку мог толькі той, хто ёй авалодаў.

З гэтай свабодай таксама вялікая празмернасць! Сядзяць людзі чвэрць веку ў зняволенні, а потым выходзяць на волю і часта хутка паміраюць.

Здзейсніліся нашы смелыя мары, час ужо і нясмелых.

Зніклі белыя плямы з геаграфічных карт. Яны перанесены на карты гісторыі.

З падручніка дыскусіі: "Вымушанае маўчанне павінна быць нязмушаным".

З ранейшымі ўладарамі хавалі і іх жонак, нявольнікаў, жывёл і зброю і да т.п., з нашымі – толькі іх ідэі.

З раю выгналі толькі Адама і Еву. А як адтуль выбраліся на свабоду львы, арлы, малпы, блохі і г.д.? І нават яблыкі?

З рэцэнзіі: “Паэта характарызуе высакароднае ўбоства думкі”.

З чаго ўзнік – залежыць ад генетыкі, у што ператворышся – ад палітыкі.

З часоў вынаходніцтва чалавека ён удасканальваўся толькі адным – пратэзамі.

З шарэнгі нулёў лёгка стварыць ланцуг.

***І*** баязлівец жыве нянавісцю. Але хто пра гэта ведае?

І вечнасць даўней была даўжэйшай.

Ідзе дождж, кульгае па дарозе.

І з гусей, якія ўратавалі Капітолій, выйшлі, напэўна, цудоўныя скваркі.

І людаеды, бывае, ратуюць людзей з пашчы драпежніка.

Імклівы тэмп застою!

І муміфікацыя дзейнічае толькі абмежаваны час. Потым з’яўляюцца археолагі.

І нават самая прыгожая кабета мае гэты свой пачварны пол.

І несправядлівасць засталася несправядліва падзеленай.

Іншаму нулю здаецца, што ён менавіта той эліпс, па якім круціцца свет.

Іншы раз слова размнажаецца праз заіканне.

І сабака ў сталіцы брэша па-сталічнаму.

І слова можа быць кляпам.

І ўласная смерць не адгаворка для джэнтльмена!

Ішлі злачынцы з транспарантам: “Не мучце сумленне. Дайце яму спаць спакойна!”

І як толькі гэта дапусцілі – стварэнне свету!!!

***К***аб мець столькі слухачоў, колькі тых, хто падслухоўвае!

Каб уздзерціся вышэй, трэба скласці крылы.

Кайданы не любяць прыкоўваць увагу.

Калектыў не павінен быць ананімнай брацкай магілай.

Калі аднойчы пад пагрозай рэвальвера мне крыкнулі: “Грошы або жыццё!” – я пажадаў грошай.

Калі б мастацтва размовы было ў нас вышэйшым, то прырост насельніцтва быў бы ніжэйшы.

Калі б некаторых пасылаць усур’ёз, то яны б больш не вярнуліся.

Калі б смерці не было, людзі б задушыліся ў цеснаце на гэтым свеце.

Калі б я тады ведаў тое, што ведаю цяпер, то сёння гэтага і знаць бы не захацеў.

Калі б яшчэ казла адпушчэння можна было і даіць!

Калі жонка звяртаецца да цябе: “Ты чорт з рагамі”, – не перажывай з-за таго чорта, але задумайся над тымі рагамі.

Калі запахлі фіялкі, лайно сказала: “Ну што ж, дзейнічаюць на танным кантрасце!”

Калі канібал есць відэльцам і нажом – гэта прагрэс?

Калі нараджаецца песімізм? Калі сутыкаюцца два розныя аптымізмы.

Калі не дзьме ніякі вецер, то і флюгер на даху мае характар.

Калі палітычныя анекдоты расказваюць пра звяроў – пэўна, насталі нялюдскія часы.

Калі плёткі старэюць, яны становяцца міфамі.

Калісь тэхніка дойдзе да такой дасканаласці, што чалавек ужо зможа абыходзіцца без сябе самога.

Калі ты адзіны паўдурак у натоўпе, не засмучайся – абавязкова знойдзецца твая палавіна.

Калі ў памылцы ёсць апіска, магчыма, усё ў парадку.

Калі ўсё павінна адпавядаць, нешта мусіць не адпавядаць.

Калі чалавек пераадолее міжчалавечую прастору?

Калі я бачу ў музеях прылады забойства за тысячагоддзі, якімі і сёння можна забіць чалавека, то думаю пра тое, які нікчэмны прагрэс людскога цела.

Калі яны прыйдуць да руля, многія паплывуць па Стыксу.

Канец сучаснай казкі: "І калі б не былі рэабілітаванымі, то жылі б яны да сённяшняга дня".

Кастры інквізіцыі не рассейваюць цемру.

Каханне дапамагае жыць? Наступнаму пакаленню.

Кветкі на магіле ворага пахнуць чароўна.

Клічнік, які сагнуўся ад старасці, становіцца пытальнікам.

Кожная вяршыня знаходзіцца над прорвай.

Кожны век мае сваё сярэднявечча.

Кожны хацеў бы жыць да канца свету, а некаторыя – яшчэ даўжэй.

Колькі ж геніяльнай літаратуры створана на следствах!

Колькі ж гэта разоў урываліся да скарбаў народнай мовы, каб яе ўзбагаціць.

Кот і сабака выдатна сумесна пэратраўліваюцца ў чэраве ваўка.

Краты сказалі: "Людзі сляпыя, ім патрэбна святло".

Кулак хацеў ударыць. Адзін палец адступіў: "Я толькі ўказваю!" – апраўдваўся ён.

Кульгае – значыць, ідзе.

***"Л***епшае заўтра" яшчэ не гарантуе "яшчэ лепшага паслязаўтра".

Люблю чалавека. Ніколі б яго не стварыў!

Людзі, аб'ядноўвайцеся! Глядзіце: нуль – гэта нічога, але два – гэта ўжо штосьці значыць.

Людзі блытаюць заканадаўства з прадпісаннямі вышэйстаячых.

Людзі раней былі бліжэй адзін да аднаго. Даводзілася. Зброя была толькі бліжняга бою.

Людзі, якія не маюць з мастацтвам нічога агульнага, не павінны мець з ім нічога агульнага. Гэта ж так проста!

Лягчэй ствараецца цвёрды рэжым з мяккіх падданых.

***М***агло быць горш. Твой вораг мог быць тваім сябрам.

Маладыя ваўкі ведаюць "Казку пра Чырвоны Каптурок" у зусім іншым выданні.

Маланка сама сабе асвятляе дарогу.

Мастацтва жыве не танна, а апантана.

Медаль “За павагу”.

Мінулае заўсёды трэба выклікаць, будучае само прыходзіць.

Многа б мог зрабіць мозг, калі б не мусіў думаць.

Многія з маіх сяброў сталі маімі ворагамі, многія непрыяцелі пасябравалі са мной. Але толькі абыякавыя засталіся мне вернымі.

Многія з тых, хто лез у свяцілы, павіслі на ліхтарных слупах.

Многія лічаць дыялектыку навукай пра дыялекты.

Многія рэчы не вынайдзены з-за немажлівасці іх назваць.

Многія, што прыйшлі толькі памачыць сабе ногі ў моры, былі справакаваны, каб стаць Калумбамі.

Можаш забіць чалавека молатам, і сярпом можаш чалавека забіць. Не кажучы ўжо пра серп і молат.

Можна б было сабе яшчэ пажыць шчасліва. Але як можна далей ад жыцця.

Можна круціць у зваротным напрамку катрынку, але не мелодыю.

Можна чхнуць і ў клетцы льва, але хітрасць у тым, каб паспець сказаць сабе: “На здароўе!”

Мудрасці павінна быць удосталь, бо ніхто яе не расходуе.

Мужчына заваёўвае жанчыну, паддаючыся ёй.

Музыка ручной работы.

Музыку можна заглушыць чым хочаш, але мелодыю – толькі мелодыяй.

Мы – грамадства станоўчае, з перавагаю нецвярозага стану.

Мы ведаем, што “Наперад! Наперад!”, але ў які бок?

Мы выпатрашылі з зямлі яе выкапні, а папаўняем яе нябожчыкамі.

“Мы заўсёды вяртаемся да нашага першага кахання”. Магчыма. Але кожны раз з іншай мэтай.

Мы змагаемся за самакіраванне, а не за самакіраўнікоў.

Мы з чырвоных насыпак для падушак рабілі штандары, а другія са сцягоў шылі наматрацнікі.

Мыслю, што я ёсць.

Мяняецца катэгарычны імператыў: раней выклічнікі нагадвалі дубіны, сёння – ракеты.

***Н***ават акуліст не здольны прачытаць у яе вачах нічога большага, чым тры дыяптрыі.

Нават на троне праціраюцца штаны.

Нават у яго маўчанні былі граматычныя памылкі.

На вочнай стаўцы труп не апазнаў свайго забойцу.

Навука – справа вялікіх. Драбнейшым дастаюцца павучанні.

Надзеі, бадай, збываюцца. Бо становіцца іх штораз меней.

Называецца гэта болем існавання. Што іншыя існуюць.

Найлепшым кляпам з’яўляецца веданне мовы.

Накрыўка труны з боку спажыўца не аздоблена.

На мінулым тыдні я ездзіў у правінцыю. Сустрэў там думкі, якія ніколі не прыязджалі ў сталіцу.

Напэўна, калі б я быў яйкам, дык хацеў бы сапсавацца і быць кінутым у дакладчыка, чым быць пушчаным на гогаль-могаль.

Народнае свята ў адной краіне было цудоўным. У гэты дзень усё было зачынена, нават жыхары.

На слупы грамадскага ладу часцей за ўсё абапіраецца балкон, з каторага прамаўляюць дэспаты.

Насмерць быў здзіўлены першы чалавек, у якога трапіла страла.

Натоўп крычыць адным вялікім горлам, але есць тысячай маленькіх.

На Усходзе нас называюць Захадам, а на Захадзе – Усходам.

Наша недасведчанасць дасягае ўсё больш далёкіх Сусветаў.

На што здалася, на самой справе, гуманітарная адукацыя? Хіба, на тое, каб быць добрым філатэлістам.

Нашы дні злічаны – статыстыкамі.

Нашы пункты гледжання супадаюць. Размова толькі пра тое, які на якога падае.

Не абдымайцеся аж да цеснаты!

Не акасцянець, але не размякнуць, стаяць на пасту, але не стаяць на месцы, быць гнуткім, але непахісным, быць львом ці арлом, толькі не жывёлінай, не быць аднабокім, але не мець двух твараў – цяжкая справа!

Неаслабнае напружанне абыякавасці.

Не будзем будаваць прытулкаў для ўбогіх духам.

Не будзем забываць, што Зямля і наваколле – гэта, на самой справе, глухая правінцыя.

Не будзь снобам. Ніколі не хлусі, калі за праўду плацяць болей.

Не валачыся ў хвасце прагрэсу, бо пры адступленні цябе абвінавацяць у тым, што з'яўляешся важаком дэзерціраў.

Не ведаю, хто з'яўляецца правадзейным, а я праванядзейны.

Не ведаю, ці была б рыба нямой, калі б мела столькі сакрэтаў, як мы.

Не верце яму, што ён такі дурны. Ён яшчэ дурнейшы.

Не выкарыстоўвайце перапынкаў у мысленні для размоў!

Не губляйце галавы! Жыццё хоча вас па ёй пагладзіць.

Не дайце сабе навязаць свабоду слова замест свабоды думкі!

Не дастаткова верыць у чалавека, трэба быць у ім упэўненым.

Не дасягай глыбіні заняпаду.

Не заседжвайся за сталом людаедаў – можаш на талерцы ўбачыць сябе.

Незнаёмства з законам не вызваляе ад адказнасці. Але знаёмства – часта.

Некаторым дзеясловам не хапае будучага часу.

Некаторыя блытаюць сваю эксгумацыю з уваскрашэннем.

Некаторыя бумерангі не вяртаюцца. Яны выбіраюць свабоду.

Некаторыя, едучы ў трамваі "сацыялізм", выйшлі на прыпынку "незалежнасць". Іншыя паехалі далей. Але назад трамвай не ідзе.

Некаторыя прымаюць турэмны распарадак за праект канстытуцыі.

Некаторыя хваробы хварэюць вылечваннем.

Некаторыя, што баяцца глянуць у твар будучага, нават не дапускаюць, што яно можа паказаць ім зад.

Не кожны мае шчасце быць ахвярай, некаторыя вымушаныя задаволіцца лёсам ка́та.

Некралог быў бы цудоўнай візітоўкай!

Не пішы крэда на паркане!

Непрыгожа падазраваць кагосьці, калі ёсць поўная пэўнасць.

Не сячы сук, на якім сядзіш, хіба толькі хочуць на ім цябе павесіць.

Не трэба падводзіць вынікі, няхай ідуць дадому самі.

Не трэба шукаць дзяўчат са свечкай.

Не чакай, дзяўчына, кахання, склаўшы ногі.

Не чмякайце вачыма!

Нешта даўно выпадкаў не здаралася!

Ніводзін арол не бывае аднабаковым, на другім баку мае рэшку.

Ніхто не хоча адчуваць смаку дражджэй у цесце, якое, уласна, дзякуючы тым дражджам і ўзнялося.

Ніхто ўжо цяпер не намагаецца стварыць штучнага чалавека. Маем дастаткова натуральных.

Нішто з'яўляецца вельмі ёмістым.

Нішто ў прыродзе не знікае, акрамя здзейсненых надзей.

Новыя поспехі геаметрыі: генеральная лінія не складаецца з незлічонай колькасці пунктаў гледжання.

Нонсэнс і бяссэнсіца адрозніваюцца сваім сэнсам.

Ну, прабіў галавой мур! І што ты будзеш рабіць у суседняй камеры?

Нуль – гэта яшчэ нічога адмоўнага.

Нявыказаныя словы ствараюць тваё ўнутранае меркаванне.

Нягледзячы на самыя цяжкія страты, заўсёды знаходзіцца больш герояў пасля перамог, чым перад імі.

Нягоднік, ты спіш спакойна, не ведаючы пра пагражаючае табе шчасце, над каторым думаюць для цябе тысячы людзей.

Нязменны аргумент пігмеяў: "Затое мы бліжэй да зямлі!"

Няма вяртання да пячор – нас ужо вельмі многа!

Няўдачлівы нават крапіву ўспамінае азадкам.

Няхай жыве чорнае будучае Афрыкі!

***О***, наколькі меней усяго магло б здарыцца на свеце, калі б не існавала слоў.

Опера не выкарыстала сваіх мажлівасцей – бо няма такога глупства, якое нельга было б праспяваць.

Ох, гэтыя аптымістыкі!

О, шчаслівыя часы, калі хадзілі пад мур толькі справіць малую патрэбу!

*(Працяг будзе).*



# Беларуская літаратурная крытыка: чаму гэта (не) працуе?..

***Круглы стол***

*Літаратура адбываецца ўнутры тэксту: пад вокладкай кнігі няма лайкаў, шэраў, прэзентацый, інтэрв'ю, сэлфакоў, гарачых сабак, каментароў і каментатараў.*

*Экстралітаратурныя чыннікі зусім нядаўна ўвайшлі ў поле тэксту як паўнавартасныя актары. Калі ў старазапаветныя часы XIX ст. плёткі і флуд абсарбаваліся часопіснымі і кніжнымі варыянтамі ўспамінаў і эпісталярыю, цяпер – прадукуюцца ў выглядзе тэксту, у рэальным часе і ў прасторы, дзе цяжкавата праводзіць якія-кольвек падлікі. Гэтая камунікацыйная труба бясконца выштурхоўвае з сябе далёка не шэрае рэчыва, у сувязі з чым аб'ём плётак як тэксту перавышае аб'ём самога літаратурнага твора – нават калі абмяркоўваецца раманіст, а не паэт.*

*Кантэнт гэты з'яўляецца бясплатным і, як дакляравана, заўжды застанецца бясплатным і лёгкадаступным, у адрозненне ад кніжак, якія трэба здабыць, прачытаць і, на жаль, зразумець.*

*Крытыка ў краіне, дзе крытыка не надта вітаецца, – з'ява дастаткова праблематычная. З аднаго боку, ёсць пэўныя ментальныя перашкоды ў тым, каб у вузкай супольнасці гаварыць наўпрост тое, што думаеш; з другога боку, пастаянна адчуваеш недахоп патрэбных інструментаў у сваім (пласт)масавым слясарным наборчыку (а яшчэ ж і новыя выпускаюцца!); з трэцяга – бачыш навокал дастаткова абыякавую атмасферу што да беларускай кніжкі наогул; з чацвёртага; з пятага; з шостага – аргументаў больш і больш. “Абы не працаваць”, як той казаў. Дарэчы, таксама аргумент: літаратурная крытыка як праца таксама малаверагодная. Яна можа быць прафесіяй, магчыма – пакліканнем, пераканааннем, але няцвёрдым, хутчэй вадкім, а ў пэўныя эпохі (як наша, напрыклад) і газападобным.*

*Дык крытыка ёсць ці крытыкі няма? Літаратура мае ў ёй*

*патрэбу, ці крытыка мае патрэбу ў літаратуры? На колькі адсоткаў праяўляецца стужка літаратуры, калі срэбра не вымываецца крытычнай кіслатой?*

*Функцыі крытыкі размытыя паўставаннем літаратурнай сітуацыі 2010-х – з узбуйненнем выдавецтваў, з'яўленнем цэлага шэрагу прэмій і ўзнагарод, развіццём новых медыяў, дзякуючы якім на першы план выходзяць стракатыя рэкламныя агляды, "дзясяткі найлепшых", рэпублікацыі пастоў у сацсетках. Крытычны тэкст перастае асэнсоўваць сам сябе як значнае выказванне, не знаходзіць сабе месца, дрэйфуе ці то ў літаратуразнаўчы аналіз, ці то ў публіцыстычную нататку. І нават у такім кшталце можа бытаваць далёка не ў кожным медыя. З другога боку, рэкламна-прэміяльны дыскурс не надта прагне дэканструкцыі: ва ўмовах замкнёнай прасторы сучаснай літаратуры на гэта трэба мець немалую адвагу, альбо будаваць кампліментарную літаратурна-крытычную рэпутацыю.*

*Якім чынам мусіць бытаваць крытыка цяпер і ці патрэбна ствараць пляцоўку для яе?*

*Пра ўсё гэта Саюз беларускіх пісьменнікаў і Беларускі Калегіюм пагутарылі летась 30 лістапада ў кнігарні "Логвінаў".*

**Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ**

**Ігар Бабкоў:** Я рады, што мы сабраліся працягнуць дыскусію пра беларускую літаратуру, беларускую крытыку. Гэта вельмі здаровае адчуванне, калі ўсе разумеюць, што штосьці важнае не прамовілася. Наўздагон першай дыскусіі ў нас была размова з Максімам Жбанковым. І тут Ціхан Чарнякевіч сказаў, што працяг патрабуецца.

**Ціхан Чарнякевіч:** Чаму мы сёння збіраемся гаварыць пра крытыку? Для мяне гэта амаль што пяшчотна блізкая галіна, за якую баліць і перажываецца. Увогуле, чым жыве крытыка, зусім не зразумела, таму што як такой яе, шмат хто кажа, не існуе. Наракаюць на адсутнасць крытыкі і журналісты, і пісьменнікі, і перакладчыкі. Выдаўцы таксама былі б не супраць, каб пра выдадзеныя імі кнігі пісалі значна больш і значна часцей. Мы знаходзімся ў такой сітуацыі, калі крытыкі вельмі мала, штосьці абагульняць пра яе даволі цяжка. Яна знаходзіцца ў стане ці то анабіёзу, ці то, магчыма, прагне нейкага ўваскрасення, але для гэтага пакуль што не знойдзеныя "прэпараты". Пры гэтым літаратары старэйшага пакалення ўвесь час згадваюць, як было раней. Той функцыі, якую раней адыгрывала крытыка, яна сапраўды цяпер не мае. Ідэалагічная? Не. Функцыя фармавання эстэтычнага поля? Ніякіх маніфестаў, як гэта было пры германцах XIX стагоддзя, калі крытыка была вельмі шчыльна звязаная з філасофіяй, таксама няма.

Што сёння разумеецца пад крытыкай? Як яна бытавала ў Беларусі спачатку? У часы "Нашай Нівы", пры маштабнай расійска-імперскай крытычнай прадукцыі, вялізных выдавецкіх машынах беларуская крытыка знаходзілася ў вельмі вузкім коле і фармавала якраз эстэтычныя прынцыпы, нейкім чынам перагукаючыся, магчыма, з сімвалісцкімі, постсімвалісцкімі, акмеісцкімі групаваннямі, якія прагнулі менавіта эстэтычнага асэнсавання літаратуры. Эстэтычнай была барацьба ў 1920-я гады, калі змагаліся некалькі больш ідэалагізаваныя, скажам так, літаратары з менш ідэалагізаванымі. Ні Багдановіч, які пісаў, што ніколі не будзе чысціць боты капіталу, ні Дубоўка ці Бабарэка не былі нацэленыя на продаж кніг. Стральцоў, у 1960-я гады пішучы пра Багдановіча, таксама не ставіў такую мэту.

У той жа час, калі браць прэтэнзіі да сучаснай крытыкі, мы бачым, што крытык нібыта абавязаны стаць прыдаткам да СМІ, да выдаўца, да ўмоўнай кнігарні. Ён папулярызатар, чалавек, які пашырае аўдыторыю, выходзячы на іншыя ўзроўні. Ён піша для хіпстараў, для студэнтаў ці школьнікаў, не ведаю, для каго яшчэ... Складае "топы", спісы, рэкамендацыі. Мне цікава, якою функцыя крытыкі бачыцца ўнутры самой супольнасці? Мне цікавы чытач крытыкі ва ўмовах, калі сам чытач літаратуры – немалая праблема. Якой мусіць быць крытыка цяпер? Якое месца яна займае?




*Удзельнікі круглага стала. Кнігарня "Логвінаў". 30 лістапада 2018.*

Заўсёды лічылася, што крытык дастае нейкі, магчыма, незаўважны твор і ставіць яго на абстрактную покуць. Цяпер пэўны твор падымае наверх літаратурная прэмія. Змянілася суб'ектнасць. І я хацеў бы ад нашай вузкай грамады пачуць, якім мусіць быць крытык сёння, калі ён вырашыў, што не стане фарміраваць эстэтычныя каноны і ў той жа час не хоча быць рэкламістам і піяршчыкам.

**Ігар Бабкоў:** А хто сказаў, што не хоча? Можа ён, наадварот, прагне ўпісацца ў новую капіталістычную рэальнасць?.. Калі мы абмяркоўвалі сітуацыю з літаратурай, гучала гіпотэза: паўстае зусім іншая культурная фармацыя, якая зжарэ раней ці пазней тыя практыкі, якія мы называем традыцыйна літаратурай. Гэтая фармацыя ў нас, у адрозненне ад развітых заходніх культураў, паўстае практычна без удзелу карпаратыўных монстраў. Самі аўтары раптам знаходзяць у сабе рэсурс: яны і крытыкі, і піяршчыкі, яны фармуюць уласную публіку. Калі ўявіць сабе асноўны мэсідж Марціновіча, скіраваны да крытыкаў, то гэта хутчэй "не замінайце", чым "дапамажыце".

Што з крытыкай? Зразумела, адной стратэгічнай магчымасці для ўсіх крытыкаў ужо не будзе ніколі. Сама культура распадаецца на розныя фрагменты, тыпы, стратэгіі. Нам трэба "прыдумаць схему". Якія магчымасці і стратэгіі паўстаюць у гэтай новай сітуацыі для беларускай крытыкі? Якія нішы ты бачыш?

**Ціхан Чарнякевіч:** Нішы ў нашай крытыкі цяпер вельмі вузкія. Ёсць інстытуцыялізаваныя аддзелы ў дзяржаўных выданнях, дзе крытычныя артыкулы выходзяць толькі таму, што там працуюць людзі і ім трэба нешта пісаць рэгулярна, запаўняць газетную/часопісную плошчу. Ёсць кніжныя блогеры, якія фоткаюць кніжачку для інстаграма і пішуць пра яе адзін абзац. Гэты адзін абзац з фотачкай можа існаваць у выглядзе кніжных сетак, скажам, якой мог бы стаць беларускі *Bookster*.

Ёсць стратэгія, калі крытык-фрылансер піша для пэўных выданняў. Для нас такія выданні – найбольш папулярныя сайты, то бок "Наша Ніва" і "Радыё Свабода". Час ад часу там з'яўляецца літаратурная крытыка. Таксама пад маскай літаратурнай крытыкі могуць з'яўляцца выказванні блогераў. Ці з'яўляецца гэта ўласна крытыкай? Мне, насамрэч, цікава самому ведаць, што такое крытыка?

**Ян Новік:** Існуе звычайны падзел на літаратурную тэорыю і літаратурную крытыку. Відавочна, што літаратурная крытыка так ці інакш нешта абслугоўвае, ці то чытача, ці то ідэалогію. Літаратурная крытыка дае выказванні кшталту "А горш, чым Б", а

літаратурная тэорыя кажа “А паходзіць з Б” ці “А злучана з Б”. Мне як філосафу куды бліжэй тое, што завецца літаратурнай тэорыяй. Спрэчкі пра смак фламастараў не надта цікавыя. Па сутнасці, гэта пытанне “чаму чалавек спараджае вакол сябе магчымыя сусветы?”. Літаратура не абслугоўвае нешта, а існуе як замкнёная сімвалічная прастора.

**Наста Грышчук:** Але чаму крытыка не можа існаваць, як мастацкая літаратура, такой сабе замкнёнай сістэмай, дзеля самой сябе? Калі літаратура – гэта практыка, якая даследуе і адлюстроўвае рэчаіснасць, то літаратурная крытыка – такая ж практыка, якая даследуе рэчаіснасць літаратурную. Калі глядзець адсюль, то яна не выступае ні з рэкламнай функцыяй, ні з ацэначнай. У прынцыпе, яна можа спалучаць і ацэнку фламастараў, і А, якое паходзіць з Б.

Калі казаць канкрэтна пра нашую рэчаіснасць, то цяпер усё залежыць не ад нейкай ідэалогіі і не ад рэкламы: цяпер літаратурная крытыка існуе кропкава, у залежнасці ад асобаў. У кожнага чалавека, які гэтым займаецца, ёсць сваё гледзішча, і адсюль ён танцуе. Таму казаць пра нейкае абагульненне даволі цяжка.

**Валянцін Акудовіч:** Згадаю любімага Парменіда: ёсць тое, што ёсць, а чаго няма, таго няма. За апошнія гадоў дваццаць колькі было вэрхалу з нагоды таго, што няма літаратурнай крытыкі!.. Ці яна не такая. Але пераважна, што няма. Калі яе няма дзесяцігоддзямі, то, мабыць, штосьці ў гэтым ёсць?.. І я магу наперад сказаць, што я вельмі цаню сённяшнюю інтэлектуальную працу (інтэлектуалы павінны хаця б гаварыць, калі не могуць нічога зрабіць), але выніку ніякага не будзе. Пакуль не будзе спакушальнікаў – не будзе літаратурнай крытыкі. Грошы – найлепшы спакушальнік. Вось адзін прыклад. Здаецца, у час другога Гедройца хтосьці прыдумаў на кожную кнігу з шорт-ліста замовіць крытычны тэкст. Плацілі (па нашай беднаце) неблагія грошы. Слухайце, якія класныя былі тэксты! Я па сёння іх згадваю. Бліскучыя! Якая патэнцыйная магчымасць літаратурнай крытыкі!..

**Андрэй Адамовіч** *(праходзячы праз кнігарню)*: Можна кароткае пытанне? Я пра спакусу... На апошнюю кнігу Марціновіча вы б напісалі за сто баксаў артыкул?

**Валянцін Акудовіч:** Не, за сто не напісаў бы. А за тысячу напісаў бы... А ўрэшце рэшт, можа і за тысячу не стаў бы.

Ведаеце, калі я пачынаў займацца крытыкай, я быў упэўнены, што гэта самы высокі жанр. Спачатку – жыццё, потым – проза, вершы, усё астатняе, і падсумаванне – якраз літаратурная крытыка. Мне, вядома, прыкра, што яе звялі да абслугоўвання, але ўрэшце рэшт, так амаль усюды. Гэтым крытыка трымаецца ва ўсім свеце. Буйныя выдавецтвы маюць свае каманды крытыкаў, якія працуюць аб'ектыўна, але разам з тым – абавязаныя пісаць пра кожную новую кніжку. Вось такая дваістасць.

Зараз таго наіву да важнасці крытыкі ў мяне няма. Яна ўсё-такі віхлянула кудысьці ў іншы бок.

**Наста Грышчук:** У мінулым годзе ў музеі Багдановіча сабраліся крытыкі і казалі пра тое ж: чаму ўсё кепска. Я паўтаруся: усё ў рэчаіснасці зводзіцца да матэрыяльнага існавання. Як не існуе літаратурных агентаў, так не існуюць не крытыкі ўвогуле – няма інстытуту. Адпаведна, людзі, якія крытыкай займаюцца, “прычэпліваюцца” да часопісаў, арганізацый, сайтаў... Усё банальна: хочацца кушаць. Крытык, можа, і высокае прызванне, але што тут зробіш?..

**Міхал Бараноўскі:** Хвіліну таму ты сказала, што крытыка сама па сабе літаратура. Графаманы пішуць вершыкі, прозу... Чаму ж ніхто не бярэцца проста так (раз гэта частка літаратуры, і вельмі пачэсная) пісаць крытыку?

**Наста Грышчук:** Чаму не бяруцца? Бяруцца.

**Ціхан Чарнякевіч:** Я нават прозвішчы магу назваць. Але не буду.

**Міхал Бараноўскі:** Але сярод аўтараў паэзіі, прозы вылучаюцца імёны, якія наўрад ці зарабляюць вялікія грошы. Чаму тады, калі гэтыя людзі ёсць, мы не ведаем пра іх масава?

**Наста Грышчук:** Таму што такая спецыфіка працы. Да крытыкі даходзіць увогуле менш людзей. Справа ў прапорцыі.

**Міхал Бараноўскі:** Зусім нядаўна прачытаў кніжку Ганны Кісліцынай "Blonde attack", якая выдавалася тыражом 500 экзэмпляраў. Гэта сярэдні тыраж мастацкай літаратуры. Значыць, магчыма? Магчыма. Але для гэтага, напэўна, трэба працаваць.

**Наста Грышчук:** Гэта адзінкавая з'ява. Колькі яшчэ крытычных кніг можна назваць? У параўнанні з прозай/паэзіяй.

**Ігар Бабкоў:** Я б змяніў перспектыву абмеркавання. Па-першае, дадаў бы значна больш аптымізму і, па-другое, – значна больш канцэптуальнасці. Мне здаецца, якраз з Ганны Кісліцынай пачаўся бунт беларускіх крытыкаў. Кісліцына, напэўна, першая ва ўсёй гэтай традыцыі напрыканцы дзевяностых паспрабавала радыкальна змяніць вобраз і ролю саміх крытыкаў. Не крытыка прыдатак да літаратуры, а літаратура – нагода для таго, каб выйсці ў прыгожай чырвонай сукенцы і расказаць, як я стамілася ад чытання гэтых вашых графаманскіх тэкстаў. Гэта было фантастычнае шоў канца 1990-х – пачатку нулявых. Усе з жахам глядзелі і чакалі, што яна скажа і пра каго. І гэта было абсалютна перпендыкулярна ўсім схемам і чаканням тагачаснай літаратурнай сцэны.

Калі Кісліцына – гэта крытыка-шоў, крытыка-спектакль, то потым дзве фантастычныя і мае ўлюбёныя аўтаркі крытыкі яшчэ раз зламалі парадыгму. Ліда Міхеева і Марыйка Мартысевіч зрабілі не менш важную рэч – змянілі ракурс бачання. Яны перасталі раздаваць эстэтычныя адзнакі ў дачыненні да літаратуры. Літаратурны тэкст для іх стаўся нагодай размовы пра грамадства, пра ўласныя перажыванні і г.д. Прычым, Ліда – сацыёлаг, а Марыйка скончыла наогул рускую філалогію. І нейкай праграмы адзінай у іх, канечне, няма. Але тэксты аднолькава нефарматныя ў дачыненні да старой каляіны. То бок, вы бачыце – як мінімум два разы зламаная парадыгма.

**Валянцін Акудовіч:** А Жбанкоў? Куды? Такая блукаючая камета...

**Ігар Бабкоў:** Тое, што робіць і рабіў Максім, – гэта ўвогуле асобны тэатр. Як ён любіць казаць, прыватны джаз. І зноў жа, літаратурныя тэксты – толькі нагода гаварыць пра нейкія важныя рэчы, якія адбываюцца з грамадствам. Уяўляеце, якая місія выплывае? Няма нічога больш дыягнастычнага ў дачыненні да рэальнасці, чым тая літаратура, якая гэтую рэальнасць адбівае. Які-небудзь няшчасны сацыёлаг, каб расказаць пра беларускае грамадства, будзе траціць кучу грошай, замаўляць апытанні... А тут вазьмі дзве кніжкі – Бахарэвіча і Станкевіча, альбо Славаміра Адамовіча і Алену Казлову – і вось абсалютна розныя праекцыі аднаго і таго ж грамадства, з рознымі перспектывамі. Уяўляеце, якое фантастычнае поле інтэлектуальнай работы? Галоўнае, гэта выхад за сітуацыю абслугі.

Літаратура – гэта аўтарскія галюцынацыі, але галюцынацыі не простыя, а з нагоды рэальнасці. Тэарэтык літаратуры ці літаратуразнаўца – акадэмічны даследчык: ён спрабуе зразумець, як гэтыя галюцынацыі паўсталі, якія ў іх карані?.. А крытык – гэта заўсёды крышачку шаман, вытлумачальнік і псіхааналітык, можа быць. Толькі не самога літаратара, а грамадства. Літаратар сніць і прагаворвае, лежачы на кушэтцы, неўсвядомленае, а крытык робіць з усяго гэтага прыгожы партрэт і выстаўляе яго ўсяму грамадству.

**Ціхан Чарнякевіч:** Я б хацеў абараніць усё-такі правы крытыкаў на ўласныя галюцынацыі. Я думаю, што мы знойдзем у гісторыі беларускай крытыкі добры тузін ці два імёнаў, дзе галюцынацыі крытычныя былі не менш важныя за галюцынацыі паэта, празаіка ці яшчэ каго-кольвек... Для мяне гранічна важна, што крытыка – гэта частка літаратуры, а ні ў якім разе не частка навукі ці медыя-прасторы. То бок, гэта літаратура і ёсць. Тое, што яна не праяўленая як жанр у поўнай сваёй ступені ў Беларусі, – так склалася. Але гэта менавіта галюцынацыі – з нагоды кнігі, з нагоды аўтара. Што перашкаджала Эліяту галюцыніраваць наконт Вергілія, а не

наконт сучасных яму амерыкана-англійскіх пупкіных?.. Нічога не перашкаджала. І кніжкі вельмі нядрэнныя выходзілі. Чаму крытыка як літаратура рэдка паўстае ў нас? Іншае пытанне. Але гэта дакладна не абслуга, як і літаратар не абслугоўвае ніякую рэчаіснасць...

**Ігар Бабкоў:** Працягнем размову пра некалькі бунтаў, якія радыкальна мяняюць сітуацыю з роляй крытыка. Вось з'яўляецца Ціхан, які гаворыць: "Добра, вы там бунтуйце, глядзіце свае спектаклі і галюцынацыі, а ў крытыкі ёсць свая, утульная, прыгожая і вельмі важная ніша, і я хачу абараняць яе і застацца ў гэтай нішы". Гэта трэцяя пазіцыя. Потым з'яўляецца пакаленне, як Жбанкоў любіць казаць, "маладой шпаны", з'яўляюцца новыя выданні, якія свядома задзіраюць усіх, прычым робяць гэта весела, адчайна правакатыўна, той жа "ЛітРаж", які знайшоў сваю нішу якраз у крышачку анархічным пацвельванні з усіх нашых новых капіталістаў, спектакляў... Як толькі з'яўляецца які-небудзь важны пісьменнік, які б'е сабе ў грудзі і пачынае крычаць, што ён прасунуў беларускую літаратуру на стагоддзі наперад, адразу з'яўляюцца тэксты на "ЛітРажы" і акуратненька з гэтым разбіраюцца.

**Валянцін Акудовіч:** Люблю Бабкова крытыкаваць... Глядзіце: Кісліцына – раз-два і знікла. Марыйка – за крытыку грошай не даюць, калі сам для сябе пішаш, – знікла. Жбанкоў – ён вольны, што пісаць, такі ў яго статус, але ён не піша, калі яму не плоцяць. Тое ж самае з маладымі, вясёлымі, харошымі... Яны пішуць, таму што сайты плоцяць. То бок я зноў да спакушальніка. Мая ўпэўненасць, што крытыка – гэта самае высокае ў літаратуры, – даўно пахіснулася. Я не выключаю, што патэнцыйна крытык можа быць "вышэй, па-над". Але ахвяраваць сваім творчым жыццём і напісаць штосьці большае, чым уласна проза і паэзія, мне здаецца, сёння ніхто не гатовы.

**Ігар Бабкоў:** Тое, пра што вы гаворыце, – палітэканомія вытворчасці сэнсаў. Хтосьці, напрыклад, працуе (калі казаць пра Захад) у акадэміі, ва ўніверсітэтах, і гэта дае ім стратэгічную пазіцыю адноснай фінансавай незалежнасці. Універсітэт – гэта такое месца, дзе выкладаеш, працуеш з сэнсамі і дзе твае тэксты адразу ідуць у працу. Потым, людзі не абавязаныя выдаваць па два тэксты на месяц. Чалавек можа напісаць два геніяльныя тэксты за жыццё, і гэтага, паверце, часам бывае дастаткова. І ўсё ж такі ёсць такая рэч, як самарэалізацыя. Ты сядзіш, чакаеш, пакуль складуцца зоркі, а зоркі ўсё не складаюцца... Пакуль не зразумееш, што трэба купляць білецік, каб нешта выйграваць. Трэба пісаць тэксты, каб быць у кантэксце. І тое, пра што мы гаворым, гэта, мне падаецца, радыкальнае ўскладненне магчымых роляў для крытыка. Крытык, напрыклад, у познесавецкія часы – гэта вельмі акрэсленая, просценькая задача, можа, не ідэалагічнага абслугоўвання, але такога выстаўлення іерархічных адзнак. Толькі некаторыя заваёўвалі правы з гэтым не лічыцца: Адамовіч, Бярозкін... Насамрэч, не так і мала. Вы калі ў "Нёмане" пісалі, ні на каго не зважалі, Валянцін.

**Валянцін Акудовіч:** Бярозкін – вось ужо хто вуха трымаў востра. А Адамовіч... Быў час, калі ўжо можна было бунтаваць. Вось калі дзе квітнела крытыка, дык гэта за савецкім часам. Са страшэннай сілай. Шмат хто станавіўся знакамітым на ўсю краіну, і нават больш, чым уласна пісьменнікі, таму што крытыкі выконвалі ідэалагічную задачу – задачу сацыялістычнай рэвалюцыі. Яны мусілі не проста кусаць і гаўкаць, а хапаць за лыткі, вырываць кавалкі мяса, а там ужо дастрэльвае КДБ... Гэта быў залаты час крытыкі!

*(Дружны нервовы смех.)*

**Міхал Бараноўскі:** Вось тут гаварылася пра грошы як спакусу. Але і твор мусіць быць спакусай. Бо крытык – яму ж не пра абы-што хочацца напісаць. Мне падаецца, вельмі важным складнікам мусіць быць сама літаратура як спакушальнік. І калі выказванняў мала, значыць, не так моцна яна спакушае...

**Валянцін Акудовіч:** Літаратуры няма, вы хочаце сказаць?

**Міхал Бараноўскі:** Я б так песімістычна не казаў, але нечага не стае.

**Валянцін Акудовіч:** Тэарэтычна вы маеце рацыю. Літаратура ў нас спакушальнік – ці не? Яшчэ варыянт пры адсутнасці спакушэння грашыма – гэта спакушэнне славай. Калі амбітны крытык хоча трошкі вядомасці, ён прыліпае да скандальнага літаратара, на якім грамадства факусуе ўвагу. Напісаць пра Бахарэвіча, умоўна кажучы.

**Наста Грышчук:** Мне здаецца, не трэба проціпастаўляць умоўнага спакушальніка ў выглядзе грошай і спакушальніка-літаратуру. Яны павінны існаваць разам як дзве аднолькава важныя часткі. На адных грошах нічога не зробіш, і на адной літаратуры, які б ты ні быў энтузіяст, доўга не праедзеш.

**Валянцін Акудовіч** *(задуменна)*: Не. Пратрымацца на грашах можна...

**Міхал Бараноўскі:** Яшчэ адна матывацыя, вельмі важная для мяне як для чытача крытычных тэкстаў. Яе можна азначыць як "глядзіце, што я знайшоў". Калі крытык звяртае ўвагу на малавядомага, але вартага аўтара. У мяне на такія тэксты самае вялікае запатрабаванне. Бо тыражы малыя, на рэкламу кніг грошай у выдавецтваў не так шмат, і трэба прыкладаць вялікія намаганні, каб самому адсочваць цікавых аўтараў. А крытык можа выступіць пасярэднікам.

**Наста Грышчук:** Каб нешта адбіраць, трэба перапрацоўваць масу матэрыялаў, вялізныя аб'ёмы. Каб была магчымасць нармальна, грунтоўна працаваць – патрэбныя грошы. Не таму, што ты хочаш узбагаціцца, – гэта проста неабходнасць. Інакш не атрымаеш незалежнай аб'ектыўнай поўнааб'ёмнай крытыкі.

**Ігар Бабкоў:** Мы гаворым пра сацыяльныя, прафесійныя структуры. За што патэнцыйны крытык можа атрымліваць грошы? Адна рэч, калі ён працуе праграмістам з дзевяці да дваццаці. Можа быць, ён пасля васьмі вечара, па дарозе дадому, будзе штосьці абдумваць, але гэта, ясна, не зусім тая работа, якая дазволіць яму рэалізавацца. Іншая рэч, калі ён працуе ў Інстытуце літаратуры Акадэміі навук. Альбо на кафедры літаратуры ці любой іншай гуманітарнай кафедры якога-небудзь з універсітэтаў. У нас дзясяткі і сотні людзей, якія займаюць гэтыя пазіцыі...

**Наста Грышчук:** У мяне была такая ілюзія, таму я пайшла пасля журфака ў "ЛіМ" – у адзіную літаратурную газету, куды можна было патрапіць на стаўку па размеркаванні. Але вельмі хутка ілюзіі разбурыліся. З аднаго боку – вядомая спецыфіка выдання. З іншага – нягледзячы на падабенства журналісцкай і літаратурнай працы, яны зусім розныя. І ў ідэале, калі ты крытык, то праца твая мусіць заключацца ў наступным: ты чытаеш усё, каб нічога не прапусціць, з гэтага нешта адбіраеш – і пішаш.

**Ігар Бабкоў:** Някепска вы прыдумалі...

**Наста Грышчук:** А як інакш? Медык працуе толькі медыкам.

**Ігар Бабкоў:** Мяне ўразіла размова з Вірджыніяй Шыманец, якая выдала па-французску Бахарэвіча. Вельмі шчырая і дэпрэсіўная размова, дзе гераіня гаворыць пра тое, што французскі кніжны рынак – абсалютная безнадзёга, 70-80% рынка падзеленыя паміж сямю карпарацыямі-монстрамі, і што застаецца незалежным выдаўцам... Насамрэч, рэальнасць нам увогуле нічога добрага не абяцала. Таму, мне здаецца, ёсць сэнс задавацца пытаннем, чаму беларуская крытыка існуе, нягледзячы на ўсё тое, пра што мы гаварылі.

**Ян Новік:** У мяне ўвогуле цудоўная ідэнтычнасць – я філосаф. І гэты рэфрэн – штодзённы: што б ты ні пісаў, гэта ніяк не паўплывае на надоі малака... Пры тым, што ёсць доўгія на гадзіну адказы, навошта гэта патрэбна, я звычайна кажу: для сябе. Я, прынамсі, бачу, што ў нас ёсць спакушальнікі, вельмі знаёмыя і вельмі блізкія. Гэта а) мяжа Беларусі; б) напрыклад, *ЕРАМ*. Колькі б ні плаціла выдавецтва, як капірайтар можна зарабіць болей. І за мяжой Беларусі як прафесар літаратуразнаўства ты заробіш болей. Тое ж з філасофіяй. Пафас мой у тым, што, можа, не трэба ў першую чаргу задавацца пытаннем, каму прадацца і каго абслугоўваць? Рабіць у першую чаргу тое, што вымагае нейкі ўнутраны стрыжань. Напрыклад, у

таго ж Бурдзьё (“Сацыялогія літаратуры”) ёсць досыць цікавае меркаванне, што калі літаратура сталая, у яе з’яўляюцца аўтаномныя правілы, якія дазваляюць есці хлеб з малаком, але рабіць так, як патрабуе літаратура ўнутры цябе.

**Ціхан Чарнякевіч:** Калі ўжо ўводзіць нейкія асабістыя канатацыі, для мяне крытычная залежнасць – мысліць. Трэба дачакацца, калі цябе пакліча кніга, калі ты падумаеш, што зразумееў яе, і потым пачаць разважаць. І ты атрымліваеш ад гэтага проста неверагодны кайф, насамрэч. Гэты кайф мне, напрыклад, значна важнейшы за грошы. Я думаю, ён мае чыста пісьменніцкія карані. Пісьменнік жа таксама піша не таму, што яму трэба 50 баксаў, груба кажучы. Нейкія іншыя, больш тонкія матэрыі, якія ён хоча ў сабе развярэдзіць і развярэдзіць у іншых, у чытачах.

**Ян Новік:** Атрымліваецца, у нас тут клуб ананімных наркаманаў, якія атрымліваюць кайф ад напісання тэкстаў. І ў той жа час мы разважаем, а хто б нам даваў грошы за тое, што мы шыр*а*емся.

**Ігар Бабкоў:** Пра гэтыя тэмы мусяць усё ж разважаць прафесійныя менеджары, і гэта зусім іншы кшталт гаворкі. Няма нічога горшага, як у момант, калі людзі разважаюць пра паэзію, пачаць разважаць пра грошы. То бок, знізіць узровень гаворкі. Сэнс збіраць паэтаў ці крытыкаў, каб паскардзіцца адно аднаму, што не плоцяць грошай?.. Гэта тэатр абсурду.

**Наста Грышчук:** Пытанне ў тым, чаму гэта не працуе?

**Ігар Бабкоў:** А мне здаецца, што цудоўна працуе, і мы з вамі абазначылі механізмы гэтай працы. У нас ужо ёсць крытыка як індывідуальны тэатр, прычым у розных версіях – і Кісліцына, і Жбанкоў. Калі Максім выходзіць і гаворыць, што яму патрабуюцца вострыя, як нож, тэксты, то ўсе адразу пачынаюць разумець, што ў культуры ёсць запатрабаванне такіх тэкстаў, вострых, як нож, а не “ля-ля-ля”. Мусіць з’явіцца штосьці звышвартае. Марыйка Мартысевіч і Ліда Міхеева – зноў жа, цэлы кірунак, якім могуць ісці дзясяткі людзей. Ціхан абазначыў унутраную ідэнтычнасць крытыкі, звязаную з аўтаномнасцю і самадастатковасцю літаратурнага свету. Ёсць яшчэ літаратурная традыцыя, той жа Багдановіч. І гэта важна. Памятаеце Эліята: пасля 25 год можна пісаць вершы толькі тады, калі вызначышся ў дачыненні да традыцыі?.. Аб гэтую традыцыю разбіваецца шмат хто. Многія расейскамоўныя літаратары, інтэлектуалы, як толькі ім задаюць пытанне аб традыцыі, ужо не могуць проста так наіўна існаваць у рускамоўным посткаланіяльным ландшафце. Іх перакідвае на білінгвізм, трылінгвізм...

Плюс крытыка як абслуга новай фармацыі. Не будзем ставіцца па-снобску да гэтай ролі. Насамрэч, уменне патрапляць у фармат – гэта таксама адзнака прафесіяналізму. Мне здаецца вельмі класным фарматным крытыкам Дзяніс Марціновіч. Простыя, густоўныя, фарматныя тэксты, якія дазваляюць чытачу або гледачу штосьці зразумець. Фарматнасць і работа ў новым рэжыме таксама могуць выступаць паважнай прафесійнай задачай крытыка.

І самае галоўнае – мы падышлі да сакрэтнага ядра, да ўнутранай наркаманістасці, да спакушэння сэнсам. Урэшце рэшт тое, што збірае ўсіх вакол літаратуры, – гэта не грошы, і не слава, і не сацыяльны прэстыж, а спроба зразумець, што мы тут робім, у гэтым свеце. Тое, што звычайна замыльваецца пасля чатырнаццаці год, калі людзі пачынаюць думаць, што ўсё забылі, альбо наадварот – усё ведаюць. Літаратура – анталагічны непакой, яна не дазваляе супасці з карцінкай. Крытык таксама развярэджвае гэтую застылую карцінку. Любая культура – застылая магма сэнсаў. Яны мёртвыя, і каб ажывіць іх, патрэбная жывая энергетыка тэкста, слова, чалавека, урэшце.

**Міхал Бараноўскі:** Мы казалі пра твор. Мы казалі пра чалавека, які хоча асэнсаваць гэты твор. Пра грошы, якія патрэбныя. Хацелася б згадаць таго, хто гэтыя грошы плоціць. Я не кажу пра выданне. Я кажу пра запатрабаванне. Калі б было чаканне на гэтыя тэксты, то было б больш замоў, больш тэкстаў. Значыць, на такі

“прадукт” запатрабавання мала. І як вынік крытыкі самі па сабе ёсць, а вось у літаратурным працэсе іх недастаткова для таго, каб цалкам гэтую сістэму абслугоўваць.

**Валянцін Акудовіч:** Калісьці даўно ў літаратурна-філасофскім сшытку “Зно” я друкаваў аднаго немца. Прысябраваліся, і ён кажа: “Валянцін, дзіўная сітуацыя. У нас на адну кніжку выходзіць некалькі дзясяткаў рэцэнзій. А ў вас на дзясятак кніжак адна рэцэнзія калі выходзіць – і тое не заўсёды”. Спашлюся на прыклад: у мяне выйшла ў Нямеччыне кніжачка “Код адсутнасці”, дык у Швейцарыі, Аўстрыі і ўласна ў Нямеччыне штук дзесяць рэцэнзій з’явілася. У Беларусі за ўвесь час існавання кнігі, а гэта гадоў дзесяць, я не памятаю хоць адной.

Гэта я да чаго? Тут шмат пра рамантызм крытыкі казалі... Але крытык як прафесіянал павінен атрымліваць зарплату. Як рабочы на будоўлі атрымлівае зарплату, як токар атрымлівае зарплату, як хто заўгодна – гэта прафесія. А вось гэтыя рамантыкі, якія таксама ў крытыцы павінны быць... Хай смокчуць.

Пра палітыку напішаш – паўсюль запрашаюць, плоцяць і г.д. А каб за метафізіку мне з тых нябёсаў хоць капейчына звалілася... Ды ні адной! Я выдаў пяць ці шэсць кніжак і за іх нічога не атрымаў. Ні разу. Ну, адзін раз... І ўсё адно я іх пішу і буду пісаць далей. Але я не кажу, што гэта нармальна. І тым больш – адносна крытыкі. Інстытут крытыкі – у шырокім сэнсе – як месца працаўладкавання крытыка, які хай сабе не надта заможна, але жыў бы і сям’ю карміў, – гэта мара. І пакуль рамантызм адносна крытыкі будзе існаваць, ніколі яна не складзецца ў з’яву, падзею сістэмную, працаздольную, эфектыўную і г.д. На жаль. А пакуль і знаку нідзе няма, каб хто думаў, як гэта зрабіць. Так, паэтычныя рэфлексіі.

**Ціхан Чарнякевіч:** Фактычна нам патрэбныя спадары менеджары. Не толькі крытыкам, але і літаратарам, каб яны маглі за свае шэсць кніг атрымліваць, як у згаданых германіях. Там працуе сістэма. Я сустракаўся з нямецкімі крытыкамі, якія ў харошых газетах працуюць: у Франкфурцкай, Ляйпцыгскай... Там ёсць, скажам так, сто газет, і ў кожнай – тыднёвы дадатак крытыкі. Але й немцы таксама плачуць, што не могуць жыць з крытыкі, і гэта такая жудасная прафесія, і трыста еўра за рэцэнзію – гэта слёзы, і яны не могуць карміць сям’ю.

Прафесія запатрабаваная, але за апошнія пяць гадоў колькасць аб’ёму, вызначанага на літаратурную крытыку, скарацілася дзе ўдвая, дзе – на 70%. Ідзе вельмі моцнае зразанне літаратурнай крытыкі па ўсіх, нават па самых старэйшых выданнях.

**Ігар Бабкоў:** Усё ж такі гэта зусім іншая рэч, калі ў краіне існуе культуріндустрыя, адпрацаваная, са сваёй палітэканоміяй, а не толькі са сваім механізмам паўставання сэнсаў... Я прачытаў не так даўно, што ў Нямеччыне штогод выходзіць 45 тысяч (?!) новых раманаў. За кожнай кнігай стаіць выдавецтва, якое хоча атрымаць прыбытак. Каб прадаць наклад, трэба вылучыцца на фоне астатніх 44 999 кніг. Так, культуріндустрыя працуе. Але гэта не абавязкова вялікае шчасце, разумееце? Шчасце, калі вы першы. А калі вы крытык, які абслугоўвае не топавую дзясятку літаратуры, а якога-небудзь няшчаснага правінцыйнага генія?.. У кожнай культуры ёсць свае гісторыі шчасця і няшчасця. Я за тое, каб мы ўсведамлялі адноснасць нашай кармы. Так, у нас усё бязладна, няма грошай, няма культур-індустрыі. Ёсць посткаланіяльная вайна, у якой кожны сам вызначае свой самурайскі чын і сваю задачу. Ёсць партызанскія атрады, ёсць асобна ўзятыя героі. Мне гэта анархізм падабаецца. Я лічу, што гэта прыўкрасна і што я гэтую карму заслужыў чымсьці харошым. Тое, што жабракі – дык і Бадлер быў жабраком, прабачце.

**Валянцін Акудовіч:** Мы сабраліся абмяркоўваць праблемы крытыкі ці нашыя эйфарыі?

**Ігар Бабкоў:** Грошы ёсць сэнс зарабляць. Гаварыць пра іх бессэнсоўна. А ўжо скардзіцца, што іх мала, – гэта бессэнсоўна ўдвая.

**Ян Новік:** У сённяшняй сітуацыі мне падаецца відавочным, што а) дзяржава нам нічога не заплаціць; б) “Логвінаў” ці яшчэ які выдавец таксама не маюць грошай;

в) на інстытуцкіх пазіцыях ты таксама будзеш ліпець. Але ёсць аўдыторыя. Калі не шукаць дзядзю Васю, які заплаціць, а працаваць адразу з аўдыторыяй і ствараць яе вакол сябе, праз пэўны час гэта можна канвертаваць.

**Ігар Бабкоў:** А можа, у гэтым і ёсць сэнс: не дакармліваць крытыка, каб ён быў злы.

**Валянцін Акудовіч:** Галодны крытык вельмі лёгка прадаецца.

**Наста Грышчук:** Ёсць і такі момант: нашая аўдыторыя даволі вузкая, гэта не ўся Беларусь, відавочна. І вельмі цесная супольнасць саміх літаратараў. Ёсць уціскі несвядомыя, неадмысловыя, кшталту “абы не пакрыўдзіць”, “нас і так мала”, “нельга пра сваё казаць кепска”, карацей, купляйце беларускае. Гэта ўвогуле самы забойны аргумент: не крытыкаваць, бо гэта ж сваё, па-беларуску, а значыць – прыўкрасна. Гэта няправільна, гэта шкодзіць самой жа літаратуры.

**Ян Новік:** Трэба пашыраць супольнасць. Гэта дасць магчымасць пазбегнуць названых праблемаў, і адначасова большая супольнасць – большая магчымасць канвертацыі.

**Зміцер Савельеў** (архітэктар): Як вызначыць, што патрэбна супольнасці, якая чытае крытыку? Як мусіць выглядаць той прадукт крытыкі, каб яго можна было чытаць не толькі вузкаму колу, але і больш шырокаму?

**Наста Грышчук:** Больш шырокаму – гэта вось тое, пра што спадар Валянцін казаў. Калі ты падсоўваешся да некага, хто ў цэнтры ўвагі, і адваёўваеш кавалак аўдыторыі. Такі даволі танны ход.

**Зміцер Савельеў:** Але які мусіць быць аб’ём крытычнага тэкста? Можна напісаць пяць радкоў – і дастаткова, а можна – дзесяць старонак...

**Наста Грышчук:** Калі ты можаш усё сказаць пра кнігу ў пяці радках – віншую.

**Валянцін Акудовіч:** Не блытайце рэкламны ролік і крытыку. “Харошая кніга, чытайце!” – гэта проста інфармацыя. Выдавецтва, якое не мае грошай на крытыка, так і піша.

**Ігар Бабкоў:** Які кантэкст крытыкі абсалютна мёртвы і не адродзіцца ніколі? Умоўна кажучы, секцыя крытыкі ў Саюзе беларускіх пісьменнікаў ці ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі. Штосьці фармальна агульнае для розных роляў.

**Валянцін Акудовіч:** Дый ці трэба пра гэта згадваць. Гэта сапраўды прамінулы час, іншая эпоха.

**Міхал Бараноўскі:** Наконт згуртаванняў. Я не ведаю, наколькі карэктна прыводзіць гэты прыклад... *Bookster* як спроба зрабіць сіндыкат крытыкаў, якія ствараюць кантэнт на адной платформе. Наколькі я ведаю, праект даволі цяжка рухаецца, а цяпер і амаль не рухаецца. То бок, згуртавацца спробы былі. І да канца яшчэ не кінутыя.

**Ціхан Чарнякевіч:** Сёння было абвешчана пра рэанімацыю *Bookster*. Паглядзім. Насамрэч, такія спробы інстытуцыялізацыі па ўсім свеце ёсць, у той жа Нарвегіі – Саюз літаратурных крытыкаў. Дом прыгожы на беразе мора, дзяржаўнае фінансаванне, і гэтак далей, і гэтак далей...

**Валянцін Акудовіч:** Не распавядайце на ноч. Я спаць не буду.

**Ціхан Чарнякевіч:** Я проста чытаў Вікіпедыю.

**Ігар Бабкоў:** Што рэальна зрабіць зараз, і дзеля чаго мы збіраемся, – гэта падтрымліваць адно аднаго. Гэта не каштуе амаль нічога, але дае энергію і адчуванне локця. Калі ёсць прыўкрасны *Bookster*, чаму б усім разам не захаваць яго?.. Калі ёсць у нас добрыя крытыкі, якія пішуць цудоўныя тэксты, ім трэба казаць пра гэта сёння, а не пісаць лісты на магілку. Трэба ствараць асяродак.

Калі згадаць дыскусію пра новую літаратуру, была мая гіпотэза, што аўтары твораць самі сябе. Яны самі сабе выдавецтва, і прамоцыя, і ўсё іншае... Крытыкі ў падобным становішчы. Вось гэтая посткаланіяльная і анархічная сітуацыя ў беларускай культуры – з недахопам грошай і сімвалічнага капітала – гэта сітуацыя, тым не менш, вельмі хуткіх сацыяльных ліфтаў. А сацыяльнае, палітэканамічнае і

сімвалічнае – яно, насамрэч, у сучасных грамадствах увесь час пераходзіць адно ў другое. Людзі, якія робяць, умоўна кажучы, чыста сімвалічныя рэчы і не клапоцяцца пра сацыяльны статус, раптам выяўляюць сябе сацыяльна абароненымі. Вось як Борхес. Сядзеў, сядзеў, сядзеў – а потым бац! – дырэктар Нацянальнай бібліятэкі, падарожжы па свеце і г.д.

**Валянцін Акудовіч:** Слухайце, у нас сітуацыя вельмі простая: сімвалічны капітал не канвертуецца ў грошы. І калі незнаёмыя людзі даведваюцца, што ў мяне за мяжой выдаваліся кніжкі, а я пляшку самага таннага піва не заўсёды магу сабе дазволіць... Яны нічога не разумеюць. У нас гэтая мяжа паміж сімвалічным капіталам і ўласна грошыкам абсалютна непераадольная, і няясна, калі яна пераадолеецца. Штосьці я не памятаю, каб мне хоць раз плацілі больш, чым таму, хто ніякага сімвалічнага капіталу не мае. Сімвалічны капітал мы зарабляем вось так, а калі грошы... праз іншую задніцу.

**Міхал Бараноўскі:** Калі метафару ліфта працягнуць, у ліфт патрапіць проста, але домік невысокі.

**Ян Новік:** А мне гэта нагадала разумовы эксперымент, калі чалавек, замкнёны ў ліфце, не адчувае ніякай розніцы: ці ліфт з паскарэннем падымаецца, ці падае на паверхню планеты.

**Ціхан Чарнякевіч:** Я думаю, шмат якія праблемы абазначылі, нейкія разломы зямной кары ўбачылі. Адтуль і трошачкі магмы на нас лінула... Я таксама мару пра асяродак, дзе б стала абмяркоўвалася беларуская літаратура. Пра віртуальны, хутчэй за ўсё, асяродак, чым нейкую інстытуцыю, дзе менавіта беларуская кніжка была б першаснай. Ідэя *Bookster* мне таксама блізкая. Пры тым што ў Расіі і ва Украіне шматлікія падобныя асяродкі ўжо існуюць. У нас яшчэ не. Можа быць, наша сённяшняя сустрэча, дзякуй усім удзельнікам, была пэўнай фокус-групай, на якой мы адпрацавалі новыя прыёмы, якія потым стануцца паўнавартаснымі новымі праектамі пра літаратуру, пра чытанне і кніжную сферу наогул.

Зінаіда Бандарэнка



...Не была ты ніколі пры знаці,
Не стаяла ў чарзе да стала.
Не прасілася слёзна: "Прызнайце..."
Проста з людам тутэйшым жыла...

# Эпоха Бураўкіна

## *Старонкі з кнігі "Мой шлях да Беларусі"*

*Літаратурны запіс Аляксандра ТАМКОВІЧА.*

*Фота з архіва Зінаіды БАНДАРЭНКА.*

Пачну з кур'ёзу.

Часам яны бывалі такія, што нават здзіўляешся, наколькі нашае жыццё падобнае да розных "мыльных опер".

Яшчэ падчас дырэктарства папярэдніка Генадзя Мікалаевіча Бураўкіна сакратаркай у прыёмнай працавала Станіслава Станіславаўна Каліноўская. У нас былі вельмі прыязныя адносіны, доўгі час нават сябравалі сем'ямі. Яна звольнілася з тэлебачання і, дзякуючы нашай пратэкцыі, уладкавалася ў ВПШ, дзе, як вядома, прарэктарам працаваў мой муж.

Аднойчы яна завітала ў дыктарскую, і я сказала: "Прывітанне, даражэнькая сакратарка! Як там мой Генадзь Мікалаевіч? Ён тэлефанаваў, калі мяне не было". Словы пачуў нехта з рэжысёраў, і гэтага было дастаткова, каб папаўзлі плёткі наконт маіх амурных адносінаў з Бураўкіным... Маўляў, у нас надзвычай жарсны раман... Не здзіўлюся, калі тыя плёткі дайшлі нават да жонкі Бураўкіна Юліі Якаўлеўны...


З Генадзем БУРАЎКІНЫМ.

І толькі зусім блізкія людзі разумелі, што я спытала пра свайго мужа Кап'ёва, бо, як і Бураўкін, ён таксама Генадзь Мікалаевіч...

Генадзь Мікалаевіч Бураўкін прыйшоў кіраваць тэлебачаннем замест Сямёна Пуцылева, якога літаральна выпіхнулі на пенсію. Кіраванне гэтага неадукаванага ў галіне мастацтва і культуры чалавека было самым горшым за час маёй працы да прыходу Генадзя Мікалаевіча.

Адразу ўсе ўбачылі, якая вялікая розніца.

Па-першае, Бураўкін быў вельмі культурным, дыпламатычным чалавекам. Ён унутрана адчуваў, што робіцца вакол. Шмат такіх сельскіх хлопцаў, што незвычайнай інтэлігентнасцю надзеленыя генамі бацькоў. Генадзь Мікалаевіч менавіта з такіх.

Другое. Як кіраўніку, яму даволі часта прыходзілася адбіваць розныя ўдары і адстойваць сваю пазіцыю, якая ў яго была вельмі моцнай. Калектыў гэта адчуў адразу ж. Усе ведалі, што яго асабіста прызначыў Машэраў, і тое, што галоўны кіраўнік Беларусі ставіцца да Бураўкіна надзвычай прыязна.

На першай жа лятучцы Генадзь Мікалаевіч папрасіў, усіх без выключэння, перайсці на беларускую мову, бо мы працуем на Нацыянальным тэлебачанні. Менавіта папрасіў, а не загадаў. Беларускасць прыйшла разам з ім, з першага дня.

Без перабольшвання і пафасу можна сказаць, што з 1978 года на нашым тэлебачанні пачалася эпоха Бураўкіна.

Мы з ім былі добра знаёмыя задоўга да прызначэння, сустракаліся на розных літаратурных імпрэзах. Таму цалкам зразумела, чаму менавіта Бураўкін з часам прызначыў мяне кіраваць дыктарскай групай і каардынаваць яе работу. Ён убачыў, што ў дыктараў няма свайго прафесійнага калектыву. Кожны трымаўся паасобку.

Для ўсіх рэдакцый пашырылася сетка і аб'ёмы вяшчання, а неўзабаве паявіўся і другі канал. Дарэчы, да стварэння тэлеканала "Мір" Генадзь Мікалаевіч таксама меў непасрэднае дачыненне.

На тэлебачанні працавалі людзі і з Расіі, таму некаторыя ўспрынялі патрабаванне-просьбу размаўляць на беларускай мове, скажам так, неадназначна. Але Генадзь Мікалаевіч быў чалавекам неканфліктным. Умеў размаўляць з людзьмі, пераканаць суразмоўцу, зрабіць яго сваім аднадумцам. Ніхто з расійцаў звальняцца не стаў.

Больш за тое, некаторыя, напэўна, для дэманстрацыі сваёй пазіцыі, амаль адразу перайшлі на беларускую мову. Бывала, атрымлівалася даволі смешна. Мая цёзка Людміла Бандарэнка вяла перадачы прамыслова-будаўнічага накірунку. На адной з перадач яна падводзіла рысу пад размову і сказала: "Я *цэлкам* з Вамі згодная". Зразумела, што правільна было сказаць "цалкам", і гэтая памылка выклікала смех. Потым – і ў самой Людмілы, калі ёй усё патлумачылі... Паважаю людзей, якія прымаюць гумар з разуменнем...

Пры Бураўкіну пачалі ўзводзіць новы будынак на Макаёнка, 9, і Генадзю Мікалаевічу прыйшлося крыху паменшыць энергію, якую ён аддаваў тэлебачанню. Будаваўся ён вельмі доўга, а я па сёння здзіўляюся, як у Генадзя Мікалаевіча на ўсё хапала часу.


*“Калыханка”. З Цімошкам і Буслікам. 1983 г.*

Між іншым, апошні паверх новага будынка павінен быў выглядаць не так, як гэта мы бачым сёння. Першапачаткова задумвалася, што там будзе стылізаванае пад чатыры экраны шкло, якія б атаясамлівалі сабой тэлебачанне. Быццам бы ў Фінляндыі было замоўлена адпаведнае шкло. Нават яго памеры туды перадалі. І раптам з Саўміна прыйшло паведамленне, што грошай няма...

Спонсараў тады ніякіх не было, а Машэраў ужо загінуў...

Генадзь Мікалаевіч вельмі перажываў, што верх будынка атрымаўся не такі, як задумвалася...

Студыйныя павільёны для здымак ужо былі там, а рэдактарскі корпус яшчэ вельмі доўга будаваўся. Даводзілася нагрыміраванымі, са зробленымі прычоскамі і ў парадных строях ездзіць з аднаго месца ў другое. Улічваючы, што тады рабілі першую лінію метро і раскапалі ўвесь праспект, мы ехалі нейкімі вакольнымі шляхамі. Часам дарога займала паўгадзіны. А вяртацца дадому калі-нікалі даводзілася ў 12 гадзін ночы.

Генадзь Мікалаевіч значна пашырыў колькасць гадзін перадачаў літаратурна-культурніцкай накіраванасці, сталі больш увагі надаваць дзіцячым, моладзевым рэдакцыям, і на тэлебачанні пачалі з’яўляцца новыя твары. Наспела неабходнасць абнавіць і дыктарскую групу. Сапраўды, мяне “разрывалі” – работа на тэлебачанні, канцэрты, камандзіроўкі па Беларусі, выезды за мяжу. Да таго ж мужчын у нашай прафесіі заўсёды было мала.

Аднойчы Генадзь Мікалаевіч запрасіў да сябе мяне і Галіну Феліксаўну Сядзельнікаву, якая была мастацкім кіраўніком дыктараў Беларускага радыё. Прапанаваў пагаварыць, параіцца наконт кадраў. Маўляў, трэба іх узмацніць і амаладзіць. Аб’явілі конкурс, аднак амаль ніхто не адгукнуўся. Тады Генадзь Мікалаевіч прапанаваў нам самім праехаць па абласцях.

У райцэнтрах падобныя мерапрыемствы праводзілі самастойна, а ў абласныя цэнтры з Галінай Феліксаўнай мы ездзілі асабіста. Так мы прыкмецілі брэсцкага дыктара Валянціна Аксенцюка, у якога была сям’я, жонка і двое дзетак. У выніку пераводу ў Мінск ён не толькі пачаў працаваць на Беларускім тэлебачанні, але ў хуткім часе атрымаў двухпакаёвую кватэру.

У астатніх абласцях не знайшлі нікога, аднак у Гомелі ўпершыню ўбачылі Анатоля Сыса. Ён адразу звярнуў на сябе ўвагу: высокі, хударлявы і крыху нязграбны. Калі ён пачаў гаварыць, то, як кажуць, дыкцыі было “поўны рот”. Я яго спыніла. Патлумачыла, што мы нічога не зразумелі.

“Спадарыня Зінаіда, тады я больш нічога не буду гаварыць, а лепш пачытаю свае вершы”, – сказаў Анатоль. Было заўважна, што ён саромеецца публічнасці. Як і тое, што ён таленавіты чалавек. Можна нават сказаць, што мы з Галінай Феліксаўнай былі ў шоку. Папрасілі расказаць пра сябе і ледзь не разам падумалі: “Божа мой, канешне, яму трэба дапамагчы!..”

Хоць вядоўца з Сыса быў, шчыра кажучы, ніякі, бо ў яго была праблема ў моўным апараце – такое здараецца, гэта прыродная праблема, якую ніякімі практыкаваннямі выправіць нельга, – аднак мы прапанавалі прыехаць на апошні тур конкурсу дыктараў у Мінск. Маўляў, каб яго паглядзела кіраўніцтва – можа, атрымаецца нейкім чынам “зачапіцца за сталіцу”.

І сапраўды, пачуўшы ягоныя вершы, Генадзь Мікалаевіч меў з ім гутарку. А потым па яго просьбе я вадзіла Анатоля да Ніла Гілевіча, які тады ўзначальваў Саюз пісьменнікаў і дапамог яму выдаць першую кнігу “Агмень”.

Зачапіцца за Мінск усё ж у Сыса атрымалася, калі ён скончыў Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт і адслужыў у войску два гады. Добра памятаю яго ліст да мяне з роднага Анатолю Гарошкава, куды ён вярнуўся пасля вайсковай службы: “Паважаная спадарыня Зінаіда! Я ў Гарошкаве. Сяжу на печы і думаю, пра Вас...”



*На прыёме ў Амерыканскай амбасадзе са Святланай БУРАЎКІНАЙ. 2011 г.*

Бураўкін пасля доўгіх ваганняў узяў яго на працу, але толькі ў якасці рабочага-кабельмайстра, бо іншых вакансій тады папросту не было.

Калі Анатоль Сыс чытаў вершы, усё было нармальна, але тэлевізійная работа складаецца не толькі з гэтага. Яму далі пакой у нашым інтэрнаце, і ўсё было б добра, бо Генадзь Мікалаевіч амаль адразу хацеў перавесці яго ў літаратурную рэдакцыю, а ў перспектыве бачыў яго там галоўным рэдактарам. На жаль, не атрымалася.

Сёння цяжка сказаць, што канкрэтна стала штуршком да бяды. Магчыма, так званая зорная хвароба, якую, на жаль, у сваім жыцці я бачыла не раз. У тым, што адбылося з Анатолем, бачу і сваю віну. Трэба было паспрабаваць спыніць яго ад самага пачатку, а не тады, калі залежнасць ад спіртнога стала дамінаваць над усім астатнім.

Пра дрэнную звычку ведалі ўсе. Яна не раз даводзіла Анатоля да рызыкі звальнення, аднак Бураўкін не спяшаўся з гэтым. Трымаў Сыса да апошняга, гаварыў: “Мне не хочацца закопваць ваш талент”. Анатоль прасіў прабачэння і яшчэ нейкі час працягваў працаваць на тэлебачанні...

Так атрымалася, што ў тыя часы Ніл Гілевіч стаў дэпутатам беларускага парламента і сышоў з пасады першага сакратара Саюза пісьменнікаў. Анатолю Сысу трэба была нейкая дапамога, і мы разам з ім прыйшлі ў Саюз пісьменнікаў да Леаніда Іванавіча Гаўрылкіна. Анатоль застаўся ў прыёмнай, а я зайшла ў кабінет. Калі Гаўрылкін даведаўся, каму трэба дапамагчы, ён пачаў крычаць: “Каму ты дапамагаеш! Ты не бачыш, што ён звар’яцеў і стаў ненармальным чалавекам? Мне сорамна чуць, што пра яго кажуць іншыя пісьменнікі...”

На гэтым я размову спыніла і выйшла з кабінета.

Аказалася, Анатоль стаяў пад дзвярамі і чуў усё. Яго вочы былі поўныя слёз...

Але ж Генадзь Бураўкін быў не толькі старшынёй Дзяржтэлерадыё – ён быў і праз усё жыццё заставаўся паэтам. А я, часта выступаючы на канцэртах майстроў культуры, кожнага разу імкнулася прадстаўляць беларускую паэзію. У творчасці ж Бураўкіна лёгка было адшукаць верш ці нават чатырохрадкоўе, якія сваім настроем былі вельмі прыдатныя для гэтых канцэртаў. Калі, напрыклад, выступаў Нацыянальны акадэмічны народны хор імя Г.І. Цітовіча пад кіраўніцтвам Міхаіла Дрынеўскага, нават рэдактар філармоніі прасіў: “Будуць дні культуры, пачынай з верша Бураўкіна”. Гэты верш безназоўны, але я прадстаўляла яго як “Беларуская песня”:

Не была ты ніколі пры знаці,
Не стаяла ў чарзе да стала.
Не прасілася слёзна: “Прызнайце...”
Проста з людам тутэйшым жыла.
Лёс ягоны цярпліва дзяліла,

Не падсмейвалася з-за вугла,
Галасіла на ранніх магілах,
Гулкі рэй на вяселлях вяла.
Не прымала маны і прынукі,
Не сцірала загару са шчок
І хавала сялянскія рукі
Пад сатканы самой хвартушок.
Засталася спагаднай і годнай,
Разбудзіла маўклівы абшар
Некрыклівая споведзь народа,
Васількавага краю душа.

...Менавіта пры Бураўкіну працаваў на тэлебачанні Уладзімір Някляеў і запісала некалькі перадач Святлана Алексіевіч. Што датычыцца апошняй, то я з самага пачатку казала – высокую ўзнагароду, Нобелеўскую прэмію, Святлана Аляксандраўна заслужыла ўсім сваім жыццём.

У яе перадач на тэлебачанні быў толькі адзін “недахоп” – адчувалася, што яна разумнейшая за многіх сваіх герояў. Яна расказвала пра іншых, а варта было расказаць пра яе саму.

У 1990-м Генадзь Бураўкін на тры гады з’ехаў узначальваць беларускае прадстаўніцтва пры ААН, але ў 1993 годзе вярнуўся і папрасіў Вярхоўны Савет вызваліць яго ад пасады. Потым кароткі час быў намеснікам міністра культуры і інфармацыі, але не прыняў падыходаў і патрабаванняў новай улады, перайшоў у часопіс “Вожык” і да 2001 года кіраваў ім.

Менавіта ў гэты час адбыўся адзін вельмі цікавы выпадак.

Яго дачка Святлана скончыла інстытут замежных моў. Але абрала іншы накірунак жыцця – вырашыла паспрабаваць сябе на тэлебачанні. Генадзь Мікалаевіч ужо не быў нашым начальнікам. Ён нечакана патэлефанаваў мне і з хваляваннем сказаў: “Зінаіда Аляксандраўна, не ведаю, як Вам сказаць... На тэлебачанні будзе праходзіць конкурс дыктараў, а мая дачка Света хоча стаць дыктарам. Я Вас аб адным прашу: пастаўцеся да яе не як да дачкі Бураўкіна, а як да звычайнай канкурсанткі. Калі ў яе ёсць здольнасці, дык рашэнне застаецца за Вамі, калі ж не, дык ні ў якім разе не рабіце нічога, каб прыняць яе. У нас з Вамі склаліся добрыя стасункі, калі мы разам працавалі, дык хай яны ніяк не паўплываюць на Вашае рашэнне цяпер”.

Словам, папрасіў не рабіць ніякай пратэкцыі. Апошняя і не спатрэбілася. Я нікому не сказала ніводнага слова. Святлана ўдзельнічала абсалютна на роўных з усімі астатнімі ўмовах. Але яна вылучалася сярод усіх канкурсантаў не толькі паводзінамі і знешнасцю, але нават артыкуляцыйна: у яе была свая адметная, мяккая жаноцкая манера гаварыць. На бездакорнай беларускай мове прачытала тэкст, крыху расказала пра сябе. Камісія адзінагалосна вырашыла прыняць яе на працу.

Нам патрэбныя былі дыктары інфармацыйнага плану. Яна адразу пачала чытаць выпускі навінаў і вельмі спадабалася гледачам. Ведаю гэта дакладна, бо ў нас існавала такая завядзёнка: не браць адразу чалавека ў штат, а каб месяц-другі папрацаваў дыктарам-практыкантам; мы нават абвяшчалі ў эфіры, што, маўляў, з сённяшняга дня пачынаюць працаваць новыя дыктары, і просім пісаць і тэлефанаваць, выказваючы сваю думку пра іх. Дык вось, тэлегледачы сімпатызавалі Святлане больш за астатніх практыкантаў.

Як у нас кажуць, Света ўвайшла ў эфір без якой-небудзь папярэдняй падрыхтоўкі. Канечне, я крыху дапамагала сваімі парадамі па адзенні, разам рабілі галасавыя практыкаванні, але ўсё гэта было непатрэбна. Сваёй манерай яна нагадвала мне нешта французскае. Асаблівы французскі шарм. Усё было добра, пакуль Генадзь Мікалаевіч выразна не абазначыў сваю пазіцыю. Перш за ўсё адносна беларускай мовы. Натуральна, улады пачалі з ім змагацца. У тым ліку і з дапамогай беларускага тэлебачання.

Святлана адпрацавала на тэлебачанні толькі паўгода.

Аднойчы я прыходжу ў дыктарскую, а яна раптам мне падае заяву і кажа: “Зінаіда Аляксандраўна, я буду звальняцца, бо не магу так больш. Тое, што я бачу па тэлебачанні, абсалютна непрыстойна”.

Яна чытала менавіта навіны, а я часта думала, што магілёўская навала хутка міне, і як усе, Света таксама дачакаецца тых часоў. А тут – заява.

На маё пытанне аб прычынах яна заплакала і сказала: “Я не магу здрадзіць свайму тату. Як я магу чытаць інфармацыю, дзе перакрэсліваецца пазіцыя майго таты”.

Некаторы час яна была беспрацоўнай, а потым мне патэлефанавалі з амерыканскай амбасады. Патлумачылі, што да іх на работу ўладкоўваецца Святлана Бураўкіна. Аднак без рэкамендацый (такое правіла) яны не прымаюць. Папрасілі напісаць. Я ахвотна пагадзілася і сказала пра Свету столькі добрых слоў, што на наступны дзень яны патэлефанавалі зноў: “Нічога пісаць не трэба. Нам дастаткова таго, што Вы ўжо сказалі!”

А ў другой палове 1990-х пачаліся зусім іншыя часы, калі Бураўкіну ўжо не давалі магчымасці выступаць са сваімі вершамі. Памятаю, я вяла ў Маладэчне фестываль беларускай песні, дзе мы выпадкова сустрэліся з Генадзем Мікалаевічам, які з вялікай цяжкасцю патрапіў на канцэрт. Ён распавёў, як дзяжурная ледзь не таемна пасяліла яго ў гатэлі, папярэдзіўшы: “Я вельмі добра ведаю і Вас, і Вашу паэзію, і даю Вам месца ў гатэлі пры ўмове, каб ніхто Вас не заўважыў”. Гаварыў гэта Генадзь Мікалаевіч за слязьмі на вачах... Запрашэнне на той фестываль ён атрымаў як звычайны глядач, а не як паэт і лаўрэат Дзяржаўнай прэміі і не як аўтар многіх папулярных песень.

Калі ж набліжалася 75-годдзе Генадзя Мікалаевіча, мне здавалася недаравальным не адзначыць гэта, і я ўзялася за яго арганізацыю – сама дамаўлялася з артыстамі і выступоўцамі. Вечарына адбылася ў канцэртнай зале Палаца мастацтваў. Праўда, не ўсе тады здолелі быць з тых, хто абяцаў. Не прыйшлі без тлумачэнняў Ігар Лучанок і Эдуард Зарыцкі. Абяцалі быць Ядзвіга Паплаўская і Аляксандр Ціхановіч (яны ж не толькі “Калыханку” спяваюць, але і “Белы снег”), аднак перад самым канцэртам Ядзя патэлефанавала: “Прабачце, мы не зможам быць...” Зрэшты, я ўдзячная ім за тое, што дапамаглі тады з апаратурай і асвятленнем. Праўда, перад самым канцэртам пачаліся перашкоды: у канцэртную залу доўга не дапускалі, а потым папярэдзілі, што нібыта ў сувязі з рамонтам будзе адключана святло. Аднак людзі сказалі: “Выйдзем на прыступкі і вечарыну будзем праводзіць там...” Тым не менш, хоць і з сумным адценнем, але ўсё прайшло добра. Гучалі вершы паэта і песні на яго словы, любімую ж бураўкінскую “Калыханку” спявала ўся зала.

Знакамітая “Калыханка” дэбютавала ў 1981 годзе. Словы песні напісаў Генадзь Бураўкін, а музыку Васіль Раінчык. Гэта быў выбух на ўсю краіну! Перадачу ўпадабалі ўсе, ад немаўлятак да дарослых. У 2008 годзе песню “Калыханку” паспрабавалі замяніць калыханкай у выкананні прыдворнай спявачкі, а зараз дэпутаткі Ірыны Дарафеевай, але гэта выклікала такую хвалю людскога абурэння, што бураўкінскі тэкст праз год давялося вярнуць.

Мне пашанцавала прыняць удзел у перадачах “Калыханкі” ў якасці “цёці Зіны”. Больш за тое, аднойчы гэтае словазлучэнне нават крыху “мадэрніравалі”. Маленькі хлопчык убачыў мяне на вуліцы і закрычаў: “Мама, глядзі! Цёця Буслік ідзе!”

Вельмі трапна пра Генадзя Мікалаевіча Бураўкіна напісаў паэт Павел Саковіч:

У Генадзя у Бураўкіна
Вочы – вострыя бураўчыкі!
Бачыць ён усіх наскрозь,
Яго ж – не заўважаюць штось.
А ён не крыўдзіцца, ані,
Пласты жыццёвыя буравіць,
І пройдуць, можа, дні, –
Фантан паэзіі ўдарыць.



Кастусь Цвірка



...Беларусь жыве,
яна не загіне...

# Мой дзве тысячы шаснаццаты

*Заканчэнне.*
*Пачатак у №98.*

***

З радасцю ўзяўся рыхтаваць да выдання ў нашай серыі Генадзя Кісялёва.

Вучоны-літаратуразнавец, гісторык, доктар навук – так кажуць пра яго даведнікі. Для мяне ж ён – выдатны пісьменнік. Толькі не "душашчыпальныя" раманы піша Генадзь Кісялёў, а літаратуразнаўчыя... не, не даследаванні (надта ж "вучонае" гэта слова), а хутчэй – расследаванні: разгорнуты перад чытачом захаплялньны працэс пошукаў звестак пра нашых, часта забытых ці паўзабытых, пісьменнікаў і грамадскіх дзеячаў пераважна XIX стагоддзя. Як цікавы дэтэктыўны раман, не адрываючыся, чытаў я, напрыклад, яго кнігу пра аўтараў "ананімных" паэм "Энеіда навыварат" і "Тарас на Парнасе" "Разыскивается классик" (пісалася яна па-руску, каб прывабіць да сябе больш шырокае кола чытачоў). Я нават меркаваў выдаць яе (ведама ж, па-беларуску), як і "літоўскія" паэмы Адама Міцкевіча, у беллітфондаўскай серыі "Беларускі гістарычны раман". Калі я сказаў пра гэта Генадзю, ён адразу ж узяўся перакладаць кнігу на родную мову. Праўда, выдаць яе ў той серыі не ўдалося праз фінансавыя прычыны. Тады

ён, істотна дапоўніўшы і дапрацаваўшы кнігу, выпусціў яе ў выдавецтве “Беларуская навука” пад назвай “Жылі-былі класікі”. Адзін з асобнікаў падараваў і мне з такім надпісам: “Падзвіжніку “Беларускага кнігазбору” Кастусю Цвірку ў напамінак, што і гэтая кніжка нарадзілася з тваёй ініцыятывы і што мне прыемна сказаць табе пра гэта. Г. Кісялёў, 9.8.05”. “І гэтая...” – мелася на ўвазе яго кніга “Кастусь Каліноўскі”, выдадзеная раней у “Беларускім кнігазборы”.

Пазнаёміў мяне з Генадзем Кісялёвым у Вільні, дзе ён служыў у дзяржаўным архіве Літвы, Адам Мальдзіс. Невысокага росту, у меру шчуплы, нешматслоўны, заўсёды сур’ёзны (нешта мне не ўзгадваецца яго смех), паважлівы да ўсіх, гатовы памагчы ў нечым кожнаму – такі астаўся ён у маёй памяці.

З ім часцяком даводзілася мне сустракацца і гутарыць. Асабліва калі мы разам рыхтавалі да выдання кнігазбораўскі том “Кастусь Каліноўскі. Творы, дакументы”. У ім Генадзь сабраў усё датычнае нацыянальнага героя Беларусі. Той, хто захацеў бы пісаць пра кіраўніка антыцарскага “мецяжу” на Беларусі нейкі свой твор, знайшоў бы ў кнізе ўсё неабходнае. Дарэчы, яе мелася выдаць “Мастацкая літаратура”, ды была там адхілена як “занадта нацыяналістычная”. Тады я сказаў Генадзю прынесці рукапіс мне.

Аднатомнік самога Генадзя Кісялёва ў серыі “Беларускі кнігазбор” я меркаваў выдаць таксама пры жыцці аўтара. Нават пытаўся ў яго, што туды ўключыць. Генадзь назваў мне толькі свой грунтоўны нарыс пра таго ж Кастуся Каліноўскага. Больш нічога мне не прапаноўваў: даваў прастор для выбару. Разам са складальнікамі тома – дачкой Генадзя Кісялёва Ліяй і былым яго супрацоўнікам у Акадэміі навук Вячаславам Чамярыцкім – мы, думаю, падабралі ўсё самае значнае і цікавае з ягонай творчасці.

***

Яшчэ адна радасць – у маіх руках Данута Бічэль, яе кнігазбораўскі том. У ім – і ў кожным вершаваным радку, і ў прозе – сама душа нашай па праўдзе беларускай паэтэсы. Я даў ёй поўную волю ў складанні аднатомніка. Хай людзі ведаюць, якіх талентаў родзіць наша беларуская зямля. У падараваным мне асобніку Данута Бічэль напісала: “Кастусю Цвірку з найвялікшай павагай да высокай прафесіі рэдактара і выдаўца, якую сумяшчае з прафесійнай навуковай дзейнасцю і творчасцю, з удзячнасцю і невытлумачальным пачуццём віны, што мне гэта незаслужана звалілася з Неба. Дзякуй. Данута Бічэль”. Якраз заслужана, Данута, вельмі заслужана.

***

Чытаю Леаніда Дайнеку. Даўно выказваў ён мне жаданне выдацца ў серыі “Беларускі кнігазбор”. І вот я выбіраю з яго даволі багатага набытку найбольш значнае, вартае нашаму выданню.

Пачынаў Леанід Дайнека як паэт. Таленавіты паэт.

Недзе ля Магілёва
Майго шчасця падкова.
Яе конь партызанскі
Згубіў выпадкова.

Такімі радкамі адкрываўся яго першы зборнік вершаў “Галасы”. Для мяне быў ён нечым прыцягальны, і я напісаў пра гэты зборнік рэцэнзію для “Полымя” – “Першая кніга паэта”.

Ды з часам Леанід Дайнека перайшоў на прозу. Яго прывабіла гісторыя. З-пад пяра паэта пачалі выходзіць раманы пра наша далёкае мінулае. На сённяшні дзень іх набралася ў яго да дзясятка.

Якія ж з іх выбраць для кнігазбораўскага аднатомніка?

Пачаў з “Жалезных жалудоў”. Прыцягальная тэма: утварэнне беларускай дзяржавы Вялікае Княства Літоўскае. Шырока, па-раманнаму разгортваецца дзеянне. Набіта рука ў Дайнекі, цвёрда трымае ён пяро. Выдатна вымалёўвае карціны беларускай даўніны. І героі яго – як жывыя. Кожны – са сваім норавам, са сваімі адметнасцямі. Можна б было ўзяць гэты раман для тома. Ды вось бяда: ці так, як трэба, паказвае аўтар гісторыю? Літву Міндоўга, хоць і прызнае яе месцазнаходжанне ў межах Беларусі, ён па сутнасці трактуе як Жамойць, як сучасную Летуву, надзяляючы яе жамойцкімі этнаграфічнымі пазнакамі, літоўскіх (г. зн. беларускіх) князёў называе кунігасамі, хоць так ніхто іх у гісторыі не клікаў. Нават рупіць Марцінавічу (мусіць, для каларыту) укладваць у вусны Міндоўгавым ваярам чыста жамойцкія (летувіскія) словы і выразы: Пяркунас (Пярун), каймас (вёска), вадас (правадыр), аўшра (дзянніца), цёвас (бацька)... І ўсё гэта ў той час, калі нашы пазбаўленыя абэцэдараўшчыны гісторыкі пераканаўча паказалі, што летапісная Літва – гэта Беларусь, а літвіны – зусім не жамойты, а старажытныя беларусы.

Сказаў пра ўсё гэта Леаніду Дайнеку. Ён пагадзіўся ўсюды замяніць сваіх “кунігасаў” на “князёў”. Але для таго, каб выратаваць раман, гэтага мала. Трэба, думаецца, памяняць тут усю канцэпцыю.

Пазнаёміўшыся з усімі раманамі Леаніда Дайнекі, я прапанаваў яму ўключыць у кнігазбораўскі том два з іх – “След ваўкалака” і яшчэ не апублікаваны “Іліоты”. Аўтар не пярэчыў. Праўда, потым першы раман вырашана было замяніць яго новым, можна сказаць, цалкам аўтабіяграфічным раманам “Сын ільва, дачка Зеўса – Леанід і Зінаіда”.

***

Перачытваю прозу Аляксандра Пушкіна. Як проста, без аніякага мудрагельства і “не растекаясь мыслию по дереву” ён піша! Які цуд – яго “Капітанская дачка”, “Дуброўскі”, “Аповесці Белкіна”, нават “Арап Пятра Вялікага”! Пра сваю пісьменніцкую манеру сам ён казаў так: “Точность и краткость – вот первые достоинства прозы. Она требует мыслей и мыслей – без них блестящие выражения ни к чему не служат”. Недарэмна ж так любіў пушкінскую прозу Леў Талстой, вучыўся ў яго пісаць. Павучыцца б і нашым літаратарам у Пушкіна.

***

Пазваніў Леанід Левановіч – прапануе выдаць яго ў серыі “Беларускі кнігазбор”. А чаму б і не? Адных “класікаў” на дзвесце запланаваных тамоў не набярэш. У кожнага сур’ёзнага пісьменніка знойдуцца вартыя нашай серыі творы. Чаму ж іх хаваць ад чытача? Хай людзі бачаць, якая багатая і разнастайная наша беларуская літаратура.

***

Добра сказаў у “Народнай волі” экс-прэзідэнт Украіны Віктар Юшчанка: “Кожная нацыя пачынаецца з мовы. Мова – гэта аснова дзяржаўнасці... Калі вы страцілі мову, вы страцілі, можна сказаць, усё...”

***

Усюды чую: Беларусь – незалежная дзяржава. Але якая незалежная дзяржава можа так занядбана, так зняважліва ставіцца да мовы карэннага народа, кіраваць якім узяліся яго правадыры, як гэта робіцца ў нас? Мы ўсё яшчэ пад моцнай пятой нашай вялікай усходняй суседкі, якая вядзе як быццам незаўважную, “ціхую”, але сапраўдную вайну супраць Беларусі праз метадычную, глабальную яе русіфікацыю, а значыць, асіміляцыю ўсёй нацыі, старажытнай нацыі беларусаў. Вядзе гэтую вайну рукамі саміх беларусаў, што не пазбыліся рабскай пакорлівасці перад

велікарусамі, перад імперскімі “дзяржымордамі”, якіх стрымліваў ( ці рабіў выгляд, што стрымлівае?) нават іх верхавод Ленін.

***

Якія нечаканыя бываюць сустрэчы!

Сядзім з Ірынай Багдановіч за столікам у вестыбюлі Нацыянальнай бібліятэкі над рукапісам аднаго з кнігазбораўскіх тамоў. Насупраць прысела сярэдніх гадоў жанчына. Пачула, што мы гаворым па-беларуску і, папрасіўшы прабачэння, пачала абурацца ўладамі за іх занядбанне мовай свайго народа, а пад канец папрасіла дазволу прачытаць нам свой верш:

Наша мова ад Бога нам дадзена
І больш не будзе нікім яна ўкрадзена.
Бо жыве яна ў нас ад спрадвеку
І сталявацца у ёй чалавеку.

Працуе жанчына геадэзістам, далёка ад філалогіі. Значыць, у народзе схавана жаданне бачыць сваю прыродную мову на належным ёй высокім пасадзе, спее пратэст супраць ганебнай русіфікацыі.

***

Выстаўка скульптур Льва і Сяргея Гумілеўскіх, бацькі і сына, у Мастацкім музеі. Які цуд! Будзе жыць, не загіне Беларусь, раз ёсць у нас такія выдатныя мастакі, патрыёты нашай усё яшчэ заняволенай Бацькаўшчыны.

***

Перачытаў – з перапынкамі – выдадзеныя ў нашым “Кнігазборы” абедзве кнігі Яна Скрыгана: “Сэрцу горкая далячынь” (дзённікі”) і “Добра, што я іх ведаў”(эсэ, не – праўдзівыя апавяданні пра сяброў-пісьменнікаў), падрыхтаваныя руплівай дачкой пісьменніка Галінай. Во дзе сапраўдная, высокая проза! А мова! І чытаць яе цікавей за самы цікавы раман. Вельмі шкада, што такі мізэрны наклад (усяго па 200 асобнікаў) гэтых выдатных кніг.

***

Першая дэкада сакавіка. Хмурнавата. Лапіны снегу ў горадзе з кожным днём усё больш “з’ядае” туман. Угары носяцца чародамі нейкія залётныя птушкі. Праводжу адных вачамі: паляцець бы за імі (ці з імі?) ў маю Зялёную Дуброву!

***

Пабываў на святкаванні гадавіны БНР каля кінатэатра “Кастрычнік”. Якая радасць: мора бел-чырвона-белых сцягоў! А колькі моладзі! Значна болей, чым летась. Усюды чуецца наша родная, гвалтоўна выгнаная з дзяржаўнага ўжытку беларуская мова. Вось дзе яна, Беларусь. Хоць прарасійскія халуі загналі яе ў рэзервацыю, яна жыве, яна не загіне, раз у нас такая адухоўленая, такая адданая ёй моладзь.

***

У “Харвесце” выйшла мая аўтарская кніга – “На скрыжалях вякоў” (гістарычныя творы). Можна б было толькі парадавацца, Ды от заходжу праз нейкі час у бліжэйшую да мяне кнігарню “Кнігачэй” (калькаваная назва!), каб даведацца, як разыходзіцца кніга, і не бачу яе на паліцах. Чаму? Касірка агаломшыла: усе асобнікі маёй кнігі забрала назад “Белкніга”. Разам з усімі кнігамі серыі “Неизвестная история”. Нібыта “на экспертызу”. Што гэта за экспертыза такая, мне не адказалі. Званю Анатолю Тарасу, які распачаў і паспяхова вядзе гэтую серыю.

Ён і праясніў прычыну “изъятия из продажи” кніг па беларускай гісторыі: нібыта нейкаму прыезджаму з Масквы высокаму чыноўніку трапіліся яны на вочы, і ён, пачытаўшы там пра тое, як некалі Маскоўская Русь вяла агрэсіўную вайну супраць Беларусі (ВКЛ), абурыўся: як жа так – мы сябруем, а ў вас выдаюцца кнігі антырасійскага накірунку. Сваё абурэнне дзеяч з Масквы выказаў у самых высокіх нашых інстанцыях, якія нібыта і распарадзіліся “изъять” з кнігарняў Беларусі кнігі серыі “Невядомая гісторыя”: не ведалі дасюль беларусы, хай і цяпер не ведаюць сваю сапраўдную гісторыю. Так жа лягчэй зрабіць іх рускімі.

***

Яшчэ адзін экс-прэзідэнт Украіны Леанід Кучма па радыё “Свабода”: “Саюз з Расіяй – гібель для Украіны”. А для Беларусі?

***

Ашаламаніла, выбіла з каляіны вестка: памёр Ніл Гілевіч! Ці знойдзецца ў нас яшчэ такі неадступны, такі мужны і бескампрамісны змагар за Беларусь?

***

Пасядзеў на вечарыне памяці Паўла Місько. Вельмі цікавы, самабытны беларускі пісьменнік. Асабліва паланіла мяне яго мова, жывая, надзвычай каларытная і багатая мова нашай Случчыны. Прапанаваў у сваім выступленні яго нашчадкам падрыхтаваць аднатомнік Паўлавага выбранага ў “Беларускім кнігазборы”. Толькі ці парупяцца?

Пазнаўся я з ім яшчэ ва ўніверсітэце. Запомнілася яго дабрата, спагадлівасць да мяне, першакурсніка, што бегаў з інтэрната на Маскоўскай разам з ім на лекцыі ў холад без паліто: ён быў трошкі старэйшы.

***

З двухтомавай расійскай кнігі афарызмаў “Формула успеха” захацелася выпісаць такія: “Усомниться – значит, утратить силу” (А. Бальзак), “Неразумная трата времени есть разновидность самоубийства” (Дж. Галіфакс), “Важно уметь воспринимать все спокойно” (Фарадэй), “Движение – кладовая жизни” (Плутарх), “Упавший духом гибнет раньше срока”(А. Хаям), “Неизменный оптимизм умножает силы” (К.Л. Паўэм), “Живите своей жизнью и забудьте о своем возрасте”(Жан Поль), “Счастье в браке – это дело совершенно случайное” (Дж. Остэн). Заўважыў: выказванні аўтарытэтных людзей памагаюць сцвердзіць сябе, прыдаць уэўненасці ва ўласных сілах.

***

Калі б усё, нават самую малую драбязу, нешта нават самае звычайнае, вельмі занудлівае рабіць з прыемнасцю, з ціхай радасцю, без спешкі, усё тваё жыццё стала б прыемным, радасным. Такі от прыйшоў мне ў галаву афарызм.

Але як палюбіць тую занудлівую работу? Можа, узяць ды і палюбіць? Прымусіць сябе любіць яе. От жа Гогалеў Акакій Акакіевіч (“Шынель”) так упадабаў зусім нецікавую, здавалася б, нават абрыдную штодзённую павіннасць, як перапісванне сухіх казённых папер, што клаўся вечарам спаць “улыбаясь заранее при мысли о завтрашнем дне: что-то Бог пошлет переписывать завтра?.. Там, в этом переписванье, ему виделся какой-то свой разнообразный и приятный мир. Наслаждение выражалось на лице его”. Падазраю, што на такую думку навяло Гогаля ўласнае перапісванне сваіх твораў, калі рыхтаваў іх да друку.

***

Святлана Алексіевіч, апраўдваючыся на сустрэчы з калегамі-літаратарамі за сваю “небеларускасць”, назвала сябе “касмапаліткай”. А быць жа касмапалітам – значыць, не прызнаваць сябе належным да свайго народа, нацыі, адарвацца ад зямлі, не мець пад нагамі грунту. Як жа так можна жыць? Паміж зямлёй і небам?

***

Толькі на пачатку красавіка вырваўся ў сваю Зялёную Дуброву. Як тут ціха! Адны толькі перасвісты птушак. Ды на маім дварэ лагоднае палопванне драўлянага ветрачка на шосце – ён і сёлета будзе паказваць мне, адкуль, з якіх канцоў свету прылятае да мяне ў госці вецер. Жыць бы тут зімой і летам, як некалі, падпарадкоўвацца б толькі гэтаму ветру ды сонцу ў небе.

***

Узяўся наводзіць лад на сваёй сядзібе. Як люба мне парадкаваць раней высаджаны сад, абразаць лішняе на дрэвах, абкопваць іх, прышчапляць на галінках нешта новае, больш цікавае, высаджваць новыя дрэўцы і кусты, з вясны да восені корпацца ў агародзе. Здаецца, толькі б і займаўся ўсім гэтым, жыў бы тут бязвыезна. Ды – не-не – і еду ў Мінск, дзе ў мяне астаўся і “гарадскі” клопат. Як кінуць яго, калі ён таксама л*ю*бы мне? Гэта – мой “Беларускі кнігазбор”. І завіханне на зямлі, і рыхтаванне годных серыйных тамоў ды іх выпуск у свет – для мяне радасць. Яна – заўсёды са мною.

***

На вулічнай Вікцінай лаўцы – яе былы зяць Лявон Заяц. Сядзіць, выцягнуўшы ўперад нагу з укручаным нейкай анучынай ступаком. Зімой недзе добра пагуляў, ішоў, ківаючыся, даўгой залужскай вуліцай дадому, ужо ўночы, і не заўважыў, як зляцеў з нагі чаравік. А быў добры мароз. І ён босай нагой ступаў па снезе. Адмарозіў. І паўступака адрэзалі ў бальніцы. Ды яму нічога: смяецца. І на машыне сваёй прыджгаў сюды з Залужжа: прылаўчыўся неяк ціснуць увязанай нагой без пяткі на газ. Хоць ужо не малады, даўно мае ўнука, дзед, але што зробіш, калі кроў у жылах бунтуе.

***

Пачуў ад Насці Акуліч прымаўку: “Салому еж, а форсу не губляй”. “Форс” – сінонім слову “гонар”?

***

Пазваніў Генадзь Вінярскі: наша кампутаршчыца Ларыса аддрукавала матэрыялы да чарговага тома “Беларускага кнігазбора” – аднатомніка выбраных твораў Рыгора Семашкевіча. Які гэта быў выдатны паэт, выдатны празаік, выдатны даследнік літаратуры! Сама развінаў свае крылы, калі яго забрала няпрошаная смерць. У дваццаць чатыры гады. Як бы пабагацела наша літаратура, калі б не яна. Я з вялікай ахвотай узяўся рыхтаваць яго выніковую кнігу ў залатой серыі. І вось кідаю свой сад-агарод ды еду ў Мінск. Каб скампанаваць яго аднатомнік да друку. І каб не забыліся беларусы свайго сабрата, вялікага патрыёта роднага краю.

Еду цягніком. Да раз’езда Фалічы (гэта сем ці восем кіламетраў ад маёй Зялёнай Дубровы) прымчаў сваім “горным” веласіпедам. Гравейкай ехаць лёгка, нават цікава. Едзь і любуйся зялёнымі ляснымі шатамі і травянымі палянамі. У Фалічах аддаў веласіпед на захоўванне майму сябру Францішку Сянькоўскаму, былому лесніку. Адсюль да Мінска ехаць (з перасадкай у Асіповічах) тры з лішнім гадзіны. Дабірацца такім спосабам сама лепш: едзеш ні ад кога не залежна, спакойна, з расслабленасцю.

Можна няспешна падумаць пра ўсё. Не трэба турбавацца і як вярнуцца назад: у любы час сеў на цягнік, а ў Фалічах – на веласіпед, і я – у сваім Эдэме.

***

Завіталі да мяне ў Зялёную Дуброву госці – школьнікі са Старых Дарог. Цікаўная, дапытлівая моладзь, пераважна старшакласнікі. Але калі я паказваў ім свой “прыватны” этнаграфічны музей, яны моцна мяне расчаравалі.

– Ну, адкажыце, што гэта? – пытаюся, паказваючы на кросны.

– Ткацкий станок, – адказваюць.

На спрадвечныя вясковыя калёсы кажуць – “телега”, на прасніцу – “прялка”, на жорны – “жернова”.

Многія рэчы нядаўнага сялянскага побыту зусім назваць не могуць. Вот падвёў іх да ярма на сцяне.

– Што гэта?

Маўчаць, паціскаюць плячыма. Толькі адзін з іх нясмела выказвае здагадку:

– В это впрягали лошадь.

– Для коней меўся хамут, – тлумачу, – а гэта – ярмо. Для каго яно прызначалася?

– Может, для быка...

– Не для быка, а для вала, – растлумачваю.

– А что такое вол? – пытаюцца. Мусіў адказаць:

– Гэта бык, толькі лягчаны.

– А што такое – “лягчаны”?

Давялося адказаць, хоць былі тут і дзяўчаткі, вельмі “папулярна”:

– Бык, якому выразалі яйцы.

У 1950-х гадах, калі я вучыўся ў Старых Дарогах, тут усюды гучала свая, беларуская мова. Гучыць яна, хоць радзей, і сёння. А ў школах, як цяпер убачыў, не толькі не вучаць па-належнаму родную мову, а, наадварот, адвучваюць ад яе. Робяць беларусаў чужынцамі на сваёй зямлі.

***

“Матчына мова”. Якая яна ўжо наша мова матчына? Ці не бальшыню мацярок даўно змусілі перайсці, хоць і на блізкую, але чужую, рускую мову. Беларуская мова – гэта мова нашай зямлі, мова нашых дзядоў і прадзедаў, нашых продкаў. І як можам мы ім здраджваць?

***

Жанчына ў тэлевізары пра расліны ў сваім агародзе на дачы: “яны мне як дзеці”. Акурат такое ж адчуванне і ў мяне: мне люба даглядаць іх, любавацца імі, ведаць, што ад мяне яны растуць і квітнеюць, што яны – мае гадаванцы, дзеці. Гэтак жа, як і свае дзеці, яны даюць радасць. Гэтая радасць, любасць да ўсяго, чаму ты даеш жыццё, відаць, закладзена ў прыродзе. Каб не перапынялася жыццё на зямлі.

***

Што гэта робіцца з прыродай? Ні вясной, ні летам я, здаецца, упершыню сёлета не пачуў над нашым полем у Зялёнай Дуброве песню жаваранка. А цяпер, калі паспела збажына, не чуваць і спрадвечнага голасу перапёлкі. Я нават спецыяльна прайшоў вечарам за калгасны сад, дзе жаўцее жытам шырокае поле. Ціха. Ні гуку. Нібыта ўсё вымерла. Не пачуў і паскрыпвання ў полі і ў садзе заўсёднага раней драча. Няўжо гэтак труцім мы ўсё жывое рознай хіміяй?

***

Шлэп-шлэп-шлэп... Гэта, бачу з акна, у нейкіх шлёпанцах на босую нагу ідзе-

спяшаецца пад мой ганак Вікця. Выходжу ёй насустрач. Расказвае: яе сын Казя ўпусціў у калодзежы вядро, мо з гадзіну боўтаўся там шостам з убітым цвіком, каб дастаць. А цяпер нідзе не відаць ні вядра, ні самога Казі.

– Падыдзіце, калі ласка, паглядзіце ў калодзезь: можа, туды ўкінуўся. Я не дабачваю.

Падышоў з ёй, пагледзеў.

– Няма там Казі, – кажу.

– То павадзіце гэтай жардзінкай: мо наткнецца на мяккае?

Павадзіў.

– Не, няма там нічога, – кажу і тут бачу за вуліцай Казю. – А вунь "мяккае" ідзе сюды.

***

Ужо сцямнела, калі зайшоў Вікцін Казя. На твары – трывога. Гэта ж сабраўся ўжо ён спаць, "памыў ногі", а тут падыходзіць пад яго адчыненае акно Насця Акуліч, якой ужо амаль дзевяноста, і пытаецца ў яго: "Казя, ці ваша кароўка прыйшла? Маёй жа яшчэ няма..."

– Нешта з галавой зрабілася ў старой: даўно ж няма ў нас кароў. Давайце пройдзем пад яе хату: каб не пайшла Насця шукаць карову – камары з'ядуць дзе ў лузе.

Пайшлі. Стаіць Насця каля свайго двара, расчыніла насцеж вялікія вароты, каб упусціць карову, глядзіць у бок выгану, за шчаку трымаецца.

– І кароўка не прыйшла, і бычок прапаў недзе, – бядуе.

Я абняў Насцю, невысокую, шчупленькую, прытуліў да сябе:

– Насця, дарагая, ідзі спакойна спаць: у Дуброве ж усе каровы даўно паздавалі ў заготскот, цяпер нашы каровы – аўтакрама, – смяюся. А ў душы – плачу.

Паслухала, паплялася ў двор, у цямноту. Мы з Казем засталіся стаяць: каб не ўздумала ўсё ж ісці шукаць поначы.

Толькі калі ў хаце запалілася святло, вярнуліся дадому.

***

Гады два назад пасадзіў паўзбоч сваёй сядзібы дубок. Прыжыўся, умацаваўся і во цягнецца ўсімі галінкамі ўверх, да сонца. Кожны дзень праходжу паўз яго і ўсёй істотай адчуваю, што разам з ім расту, цягнуся да сонца і я, набіраючыся ад дуба моцы.

***

Казімір Камейша ў сваёй кнізе "Ад Кромані да Свіцязі" вельмі правільна дакарае калегу-паэта, які піша, што яго лірычныя героі "жнуць лён": "Калі гэта было ў нас, каб лён жалі, а не рвалі?" Толькі мушу паправіць тут і самога Казіміра Камейшу. "Рвалі" лён толькі паднявольныя калгаснікі, што адбывалі для калгаса павіннасць. Калі ж высявалі лён для сябе (а з яго ж ткалі некалі палотны ды ўсё адзенне), то яго з поля беражна, з любоўю б р а л і, а не рвалі. Прыклад са "Слоўніка беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча": "Пашлі бабы лён браць" (Малыя Аўцюкі Калінкавіцкага раёна).

***

Міхаіл Прышвін: "У человека на свете есть две радости: одна – в молодости выйти из дома, другая – в старости вернуться домой".

***

Спаткаў ужо амаль дзевяностагадовага Мікалая Понтуса з недалёкіх ад нас Фаліч. У размове паведаў мне стары адну са сваіх згадак з часоў нямецкай акупацыі. Перад вайной ён скончыў пяць класаў. Усю вайну заставаўся з бацькамі ў Фалічах,

дзе стаялі немцы. Знайшоў хлопец недзе будзёнаўку, уздзеў на галаву і чэша сабе па вуліцы. Ды тут – немец, афіцэр. Ухапіў яго за плячук і тыцкае пальцам у вялікую чырвоную зорку на шлеме:

– Ленін, Сталін, Молатаў? А ну вытры мне гэтай шапкай боты!

Нібы выконваючы грозны загад, нагнуўся хлопец з будзёнаўкай у руках перад нямецкім ботам ды раптам круць з рук немца. Але немец з размаху такога даў яму нагцака каваным ботам пад зад, што хлопец, як мяч, узляцеў уверх. Перакруціўшыся разы два, усё ж ускочыў на ногі і – наўцёкі. Так і не выпусціўшы з рук чырвоназорую будзёнаўку. Але немец больш яго не чапаў. Стаяў і моўчкі глядзеў услед савецкаму піянеру.

***

Чытаю ў прэсе: у сталіцы Беларусі "дзейнічаюць" 45 праваслаўных абшчын, многія з якіх налічваюць па 3-5 тысяч прыхаджанаў. Акрамя дзеючых тут будуюцца яшчэ 23 новыя праваслаўныя культавыя комплексы. Што тут скажаш: ідзе адкрытая русіфікацыя, інакш кажучы, заваёва Беларусі рускай праваслаўнай царквой. Некалі крыжакі, каб захапіць пабольш нашай тэрыторыі, будавалі на ўскраінах беларускай дзяржавы свае замкі, адкуль нібыта дзеля пашырэння хрысціянства і рабілі на нас свае ўзброеныя налёты. Сёння не на ўскраінах, а ў самым сэрцы Беларусі свабодна вядзе асіміляцыю беларускага народа агрэсіўная РПЦ.

***

Мітрапаліт РПЦ Кірыл зрабіў на тэле вялікае "адкрыццё": "Россия никогда не была тюрьмой народов".

***

З "правільнай" кнігі ўкраінца Натана Рыбака "Пераяслаўская рада": "Хмельницкий не раз останавливал свой усталый взгляд на белоголовых хлопчиках, словно воробьи сновавших у дороги... думал радостно: «Вот им суждена иная доля. Может быть, проживут без раздора и войны. Без издевательств и обид... Теперь, когда с Москвой соединились, своей цели достигнем»".

***

Убачыў на мінскай вуліцы пажылога чалавека на мыліцах – без адной нагі. На куртцы прышыты квадрат з бел-чырвона-белым сцягам. Бязногаму не страшна. А каб насіў гэту "крамолу" звычайны чалавек?

***

Супынілі на вуліцы маладыя людзі, абвешаныя нейкай апаратурай (два хлопцы і танклявая дзяўчынка). Просяць як выпадковага сустрэчнага ("мінака") адказаць на іхнія пытанні. Пра Мінск. Адказаў з ахвотай. На адно з тых пытанняў – "Как вы считаете, достаточно ли чистый наш город?" – адказаў зусім не так, як яны чакалі: "Лічу Мінск самым брудным горадам у Еўропе: паглядзіце, як засмечваюць яго шыльды вуліц, названыя імёнамі бальшавіцкіх правадыроў – Леніна, Дзяржынскага, Калініна, Свярдлова, Валадарскага, Фрунзэ, Апанскага, Кнорына, Мяснікова і іншых прыгнятальнікаў беларускага народа. Даўно пара ачысціць наш горад і ад прысвечаных ім помнікаў".

Хоць і тыцкалі мне пад рот мікрафон, але я не чуў, каб дзе прагучаў мой голас – па радыё ці па тэлевізары.

***

Узяўся памалу рыхтаваць да выдання ў "Беларускім кнігазборы" двух славутых

нашых гісторыкаў – Мітрафана Доўнар-Запольскага, матэрыялы якога прыслала мне з Гомеля даследчыца Валянціна Лебедзева, і Канстанціна Тышкевіча, том якога склаў Валодзя Васілевіч. Якія выдатныя былі гэта дзеячы! І якія вялікія патрыёты Беларусі. Яшчэ ў XIX стагоддзі яны выступалі за яе дзяржаўную самастойнасць, абаранялі ад цемрашалаў мову свайго народа. “Не могу не выразить сожаления, что наша филологическая наука еще далека от признания за белорусским языком каких-либо прав на существование”, – пісаў Доўнар-Запольскі ў 1892 годзе. Нібы палемізуючы з сучаснымі імперцамі, якія ўсё яшчэ не бачаць розніцы паміж беларусамі і рускімі, у этнаграфічным нарысе “Белорусы” ён пераканаўча паказаў самабытнасць беларускага народа. “Общий колорит белорусской речи, фигура и одежда белоруса резко выделяют его от великоросов и малоросов”, – даводзіў вучоны. Гэтак жа шанаваў мову свайго народа і Канстанцін Тышкевіч, з якім, дарэчы, сябраваў Ян Чачот. Не ў прыклад пыхліваму апалячанаму панству ён, патомны граф, не цураўся простага селяніна, мужыка, з усёй павažлівасцю заходзіў у яго хату, запісваючы беларускія народныя песні.

***

Прыйшла чарга выдаваць у нашай серыі і Барыса Сачанку. Мне ўдвая гэта прыемна. Адно – што мы таварышавалі з ім. Са студэнцкай пары. З таго часу, калі ён, паступіўшы ва ўніверсітэт на журналістыку, прыехаў на вучобу. У першы ж дзень у сваім інтэрнацкім пакоі на Бабруйскай ён сабраў бліжэйшых студэнтаў, пераважна літаратараў, якія пачыналі ўжо недзе публікавацца, і выклаў на стол даволі багатыя па студэнцкіх мерках палескія частункі з ладнай пляшкай чысцюткага першаку, за якім добра гаварылася не толькі пра літаратуру. Другое – што ён быў першы, хто фінансава падтрымаў мой “Беларускі кнігазбор”, калі працаваў на пасадзе галоўнага рэдактара Беларускай энцыклапедыі.

Рыхтую том Барыса Сачанкі разам з яго старэйшай дачкой Галяй, пісьменніцай Галінай Багданавай. Як жа лепш паказаць чытачу гэтага па-свойму цікавага пісьменніка? Думаю, самае цікавае ў яго – гэта творы пра сваё Палессе, пра родны край, пра перажытае ім самім. Таму ў раздзеле “Аповесці” мы намерыліся даць “Вечны кругазварот”, эпіграфам да якога аўтар узяў радкі Якуба Коласа: “О, край родны, край прыгожы! Мілы кут маіх дзядоў”, прысвечаны мацеры твор “Засталіся толькі ўспаміны...”, аповесць-рэквіем пра ваеннае ліхалецце “Апошнія і першыя” і “Родны кут” пра чарнобыльскую бяду. Вельмі змястоўныя раздзелы “Апавяданні” і “Эсэ, публіцыстыка”. Усе гэтыя творы даюць, я сказаў бы, поўнае ўяўленне пра характар творчасці Барыса Сачанкі, пра асобу самога пісьменніка, праўдзівага патрыёта роднай зямлі, які асабліва ярка выказаў сябе ў запісах розных гадоў – пра сяброў-пісьменнікаў, пра балючыя ахвяры сталінізму, пра злачыннае занядбанне чынавенствам мовы і культуры ўласнага народа. Выдатна дапоўняць том раней не публікаваныя пісьмы Барыса Сачанкі да розных асобаў, што падабраў у архіве Віктар Жыбуль.

---

“Дзеяслоўцы” шчыра віншуюць
шаноўнага **Кастуся Аляксеевіча ЦВІРКУ**
з васьмідзесяціпяцігоддзем і зычаць яму
бадзёрага настрою, моцнага здароўя,
натхнення на новыя творы!

Валянцін Акудовіч



...свабоду нельга заваяваць —
яе можна толькі дачакацца...

# Інтэлектуалы і Плошча

***З новай кнігі "Трэба ўявіць Сізіфа шчаслівым. (Хронікі беларускага інтэлектуала)"***

*Працяг. Пачатак у №№95-98.*

Інтэлектуалы таксама людзі, і нішто чалавечае іх не абмінае. У завею яны настаўляюць каўнер, у спякоту хаваюць нос пад брылём, зімой чакаюць Калядаў, а ўвесну – калі жанчыны распрануцца. Хаця, адрозна ад іншых, інтэлектуалы пры гэтым яшчэ думаюць "трохі пра вечнае" (Янка Брыль). Ну, не абавязкова пра ўласна вечнае, аднак прынамсі пра тое, што не ўбачыш вокам. Што можна спазнаць адно нястомным думаннем.

А менавіта: як чарапахі трымаюць зямлю, куды хаваецца на ноч сонца, чаму яблык падае на дзірван, а гравітацыя працінае ўсё што ёсць і, магчыма, нават тое, чаго няма. Калі па-добраму, дык яшчэ на самым пачатку сваіх крамзалёў мне трэба было дэканструяваць панятак "інтэлектуал", каб кожнаму было бачна, што я разумею пад гэтым лацінізмам. Толькі неяк не склалася раней. Таму паспрабую зараз...

Адкрываючы сайт *Belintellektuals.com*, арганізатары прапанавалі мне дыскусію на тэму: "Чым ёсць інтэлектуал?"

Фрагментамі з яе я і распачну раздзел, прысвечаны загалоўным героям нашага часу.

**Аляксандр Адамянц**: *Слова "інтэлектуал" адсылае нас да еўрапейскага культурнага кантэксту... З гэтага і пытанне: ці ёсць падставы казаць пра "беларускіх інтэлектуалаў"? Ці не з'яўляецца выкарыстанне гэтага тэрміну штучным, механічным пераносам заходніх рэалій на беларускую глебу? Магчыма, для нашага беларуска-расейскага культурнага арэала больш арганічным выступае слова "інтэлігенцыя"?*

**Валянцін Акудовіч**: У мяне алергія на даведкавую літаратуру. Таму я ніколі не даведаюся, як прэзентуюць дэфініцыі "інтэлектуал" і "інтэлігент" тлумачальныя слоўнікі. Сам я іх розніцу вызнаю гранічна проста. Інтэлектуал – гэта эўрыстычная катэгорыя, а інтэлігент – этычная. Класічны расейскі інтэлігент у сваёй масе быў не вельмі адукаваным чалавекам і гэтую сваю хібу кампенсаваў этычным імператывам. Але паколькі этычнае як цэлае ўжо даўно аказалася наўсцяж інтэграваным у тэхналагічныя практыкі сучаснай цывілізацыі, дык інтэлігент застаўся без канстытуючай яго функцыі.

Зрэшты, у дэфініцыі "інтэлектуал" цяпер таксама хапае праблемаў з каптуром. Паколькі ў шырокім сэнсе інтэлектуал – гэта той, хто займаецца разумовай (інтэлектуальнай) працай, дык ужо сёння інтэлектуалам можна назваць калі не кожнага, дык кожнага другога. А з улікам таго, што колькасць фізічнай працы, як толькі фізічнай, неўзабаве стане блізу нуля, дык перспектываў у гэтай дэфініцыі таксама не бачна. Але паколькі ў беларусаў яе раней не было, а знайшлася адно кагадзе, дык для сябе я яе абараніў мерай *эўрыстыкі*, каб як найдалей развесці інтэлектуалаў, якія займаюцца "механічнай" разумовай працай, ад тых, для каго інтэлектуальная дзейнасць ёсць формай эўрыстычнай творчасці.

**Вольга Шпарага:** *У адным з сваіх эсэ вы сцвярджаеце, што той, хто заангажаваны лёсам Беларусі, мусіць перадусім вызначыць праблемай самога сябе, стаць самастойным суб'ектам беларускай прасторы. Інакш кажучы, вызначаць сабе ў задачу не паслугаванне нейкай Ідэі, да прыкладу, нацыянальнай, а крытычнае стаўленне да гэтай Ідэі і да самога сябе як да яе носьбіту (нават калі праз гэта давядзецца адмовіцца ад Ідэі...). Для мяне гэтая ваша тэза і азначае заклік стаць інтэлектуалам. Але, разам з тым, ці не азначае гэта і той факт, што ў Беларусі пакуль няма інтэлектуалаў? І ці лічыце вы сябе інтэлектуалам?*

**В.А.:** Інтэлектуалаў (і ў маім, эўрыстычным разуменні) у нас даволі. Прынамсі, тыя асяродкі, у якіх я пераважна знаходжу сябе, складаюцца менавіта з іх. Магчыма, і залішне самаўпэўнена, але сябе я таксама тарную з інтэлектуаламі. Як жа яшчэ назваць чалавека, які здольны закахацца ў прыгожую думку, як у прыгожую жанчыну? А можа і яшчэ мацней!..

Што праўда, сёння адбываецца татальная мінімізацыя ролі інтэлектуала. Гэтаму свету інтэлектуал як інтэлектуал зрабіўся, лічы, непатрэбным. Яму даволі палітыка, паліттэхнолага і журналіста... Толькі нягледзячы на відавочнасць гэтай тэндэнцыі, мне ўяўляецца надзвычай істотным, каб у Беларусі выразна акрэсліўся яркі, адметны і эўрыстычны інтэлектуальны дыскурс. Без яго Беларусь будзе заставацца няпоўнай. Моцна няпоўнай.

**В.Ш.:** *Так сталася, што ў еўрапейскай культуры, прынамсі да эпохі постмадэрну, інтэлектуаламі былі высокаадукаваныя людзі. Аднак інтэлектуаламі іх рабіла не толькі адукацыя, а разуменне неабходнасці свайго актыўнага ўлучэння ў тыя працэсы, што адбываліся ў грамадстве. У гэтым сэнсе, традыцыйным для еўрапейскага інтэлектуала, быў удзел у палітыцы (аб гэтым у прыватнасці нагадвае і М. Фуко). Хаця, недзе з 60-х, сітуацыя на Захадзе мяняецца, і гэта звязана з тым, паводле Фуко, што масам робіцца непатрэбнай кіруючая роля інтэлектуала,*

*паколькі цяпер яны і без падказак пачынаюць разумець, што адбываецца вакол... У звязку з гэтым у мяне будуць наступныя пытанні: ці магчымы інтэлектуал па-за палітыкай; ці абавязкова мусіць інтэлектуал быць гуманітарыем і філосафам; у якіх стасунках, на ваш погляд, сёння знаходзяцца філасофія і палітыка?*

**В.А.:** Тут я хутчэй салідарызуюся з тым Фуко, які фіксуе страту інтэлектуалам сваёй ролі, чым з вамі, Вольга. Насамрэч, у сучаснай рэальнасці інтэлектуал і ягоная праца непатрэбныя ні ўладзе, ні масаваму чалавеку. Хутчэй наадварот – яны ім толькі замінаюць. Калі каму сёння хоць часткова і патрэбны інтэлектуальны плён, дык гэта паліттэхнолагам (яшчэ раз нагадаем паноўную трыяду: палітык, паліттэхнолаг, журналіст), якія зрэдзьчас ім карыстаюцца для сваіх зусім не інтэлектуальных мэтаў. І таму на вашае запытанне: "*ці магчымы інтэлектуал па-за палітыкай?*" я без сумневу адказваю: толькі там яму і месца. А калі інтэлектуал ідзе ў палітыку, дык ён перастае быць інтэлектуалам. Дакладней, ён сам мусіць выкінуць на сметнік увесь свой інтэлектуалізм, бо яму, як палітыку, гэта будзе адно замінаць. З вядомых мне беларускіх інтэлектуалаў толькі Уладзімір Мацкевіч спрабаваў удзельнічаць у рэальнай палітычнай барацьбе. Хаця я зусім не ўпэўнены, што ягоны інтэлектуалізм яму там дапамагаў.

**В.Ш.:** *І ўсё ж такі, калі інтэлектуал не ўдзельнічае ў палітычнай барацьбе наўпрост, дык ці трэба яму пазбягаць і крытыкі гэтай барацьбы, дакладней – тых кантэкстаў, у якіх гэтая барацьба адбываецца? Інакш кажучы, ці патрэбна інтэлектуалу крытыкаваць сацыяльнае і палітычнае?*

**В.А.:** Вольга, я бачу, што вам вельмі карціць, каб я сказаў: так, інтэлектуалу неабходна аналізаваць, крытычна асэнсоўваць (а яшчэ лепей – ствараць новую) палітычную рэальнасць. Але ж праблема не стаіць гэткім чынам: трэба ці не трэба? Праблема якраз у тым, што сучаснаму беларускаму інтэлектуалу ад гэтага занятку не выкруціцца – хіба адно збегшы ў вартаўнікі ці вар'яты. Бо калі ён жадае быць публічна запатрабаваным хаця б у пэўных колах грамадства і пры гэтым яшчэ зарабляць грошы з свайго інтэлекту, дык яму адно і застаецца займацца альбо аналітычнай журналістыкай (здаецца, атрымаўся аксюмарон), паліттэхналогіяй ці непасрэдна палітыкай (і першае, і другое, і трэцяе, як ужо казалася, кастрыруе ў ім уласна інтэлектуала).

Нідзе болей і нікому інтэлектуал сёння не патрэбны і задарма. Таму дыскурс палітыкі, як глухая беларуская багна, ужо амаль праглынуў шэраг найбольш адметных беларускіх інтэлектуалаў. Да прыкладу, пералічу хоць колькі прозвішчаў, згаданых похапкам: Алесь Анціпенка, Уладзімір Абушэнка, Лявон Баршчэўскі, Валерка Булгакаў, Аляксандр Грыцанаў, Сяргей Дубавец, Юрый Дракахруст, Андрэй Дынько, Максім Жбанкоў, Уладзімір Мацкевіч, Аляксандр Фядута...

Мой уласны выпадак не шмат розніцца ад іншых. Усёй сваёй сутвай я заангажаваны ў тое, што прыблізна можна пазначыць як *метафізіка адсутнасці*. Аднак вось ужо колькі год не магу ўцячы ў тую адсутнасць, бо нікому, акрамя мяне самога, метафізіка сёння не патрэбная. А вось калі згаджаюся казаць пра сацыяльна-палітычнае, дык цягнуць ва ўсе бакі: і ў часопіс, і ў газету, і на радыё... Ды часам яшчэ і капейчыну заплоцяць за "крытыку сацыяльнага і палітычнага". А з трансцэндэнтнага не памятаю, каб хоць адзін нішчымны грошык каліываліўся.

**В.Ш.:** *І як на ўсе сучасныя праблемы можам рэагаваць мы, інтэлектуалы?*

**В.А.:** Тут займеннік «мы» наўрад ці будзе дарэчы, бо працоўнае месца інтэлектуала знаходзіцца ў адзіноце. І таму калі і ёсць у інтэлектуалаў нейкая агульная задача – дык гэта пашыраць і вялічыць дыскурс інтэлектуалізму...

Аднак жа ўсё існуе, каб быць прыдатным дзеля нечага, – заўважыце Вы. Ну так. Толькі каб не было інтэлектуальнага дыскурсу, дык ці адбыліся б мы з вамі як інтэлектуалы, а значыць ці адбыліся б і ўвогуле? Можа, інтэлектуалізм паўстаў і сфармаваўся як дыскурс зусім не дзеля «нечага», а толькі для «некага». Можа,

ён і існуе адно дзеля таго, каб было куды прыйсці і было дзе застацца тым, каму кон уплёў у зялёнае вецце жыцця папяровую стужку інтэлектуалізму?

Зрэшты, а чым яшчэ ёсць і само жыццё, як не ўсяго толькі месцам, куды можна прыйсці і дзе можна застацца на нейкі час?

**P.S.** Радыкальна насуперак маёй пазіцыі феномен інтэлектуала тлумачыў Уладзімір Мацкевіч.

“Часам ІНТЭЛЕКТУАЛЫ нешта ствараюць. Але гэта не ёсць сутнасцю іхняга існавання. Сутнасць інтэлектуалаў акурат у спажыванні. Яны не творцы, а спажыўцы. У тым ліку і інтэлектуальных прадуктаў. ІНТЭЛЕКТУАЛЫ роўна настолькі ІНТЭЛЕКТУАЛЫ, наколькі яны спажываюць інтэлектуальную прадукцыю. Яны чытаюць філосафаў і мысляроў мінулага. Чытаюць для таго, каб выносіць меркаванні ў сучаснасці” *(“Самавызначэнне беларускага інтэлектуала”).*

***

Гэтай дыскусіі ўжо шмат год. Што і казаць, за прамінулую пару рамантызму ўва мне значна паменела. І каштоўнасць інтэлектуалізму як такога ўжо не бачыцца настолькі бясспрэчнай, як раней. Разам з тым наша інтэлектуальная рэвалюцыя па-ранейшаму ўяуляецца мне феерычнай падзеяй. І сама па сабе, і як магчымасць нарэшце спатоліць прагу мыслення, ад якога мы былі адлучаныя невядома колькі часу. Але найбольш актуальным у ёй было тое, што без крытычнай рэфлексіі і самарэфлексіі мы заставаліся неспазнанымі дзеля саміх сябе і з гэтага як бы недапраяўленымі для астатняга свету. Між іншым, з гэтай сітуацыі непрааналізаванасці і неадрэфлексаванасці Беларусі ў пачатковыя гады незалежнасці атрымалі шэраг вельмі сур’ёзных сацыяльна-палітычных праблемаў ды канфліктаў...

Якраз пра ўблытанасць інтэлектуалаў у каламуць рэальнасці я і хацеў бы распавесці далей.

Святлана Алексіевіч у адным з сваіх інтэрв’ю сказала прыкладна наступнае: “На барыкадах немагчыма разгадаць загадку жыцця. Барыкада – гэта не месца для мастака”. Неўзабаве на Радыё “Свабода” Юры Дракахруст запытаўся: ці згодны я з такім меркаваннем?

– Часткова спадарыня Святлана мае рацыю, – пагадзіўся я, – барыкада не месца для мастака. Але мастак – гэта не нейкі штучны голем, а чалавек у рэальным жыцці. І ў гэтага чалавека ёсць свая грамадзянская пазіцыя, калі яна, зразумела, ў яго ёсць, нейкія ідэалы і каштоўнасці, якія ён гатовы аберагаць, а часам нават і бараніць на барыкадах. Інакш кажучы, на барыкады ідзе не мастак, а грамадзянін.

Пачынаючы ад знакамітых “Дзядоў” (Маскоўскіх могілак) на шматтысячных шэсцях ды мітынгах можна было сустрэць бальшыню нацыянальнай эліты: літаратары, філосафы, мастакі, музыкі... Каго тут толькі не было! Відаць, яны першыя адчулі ў сабе патрэбу грамадзянскага чыну, дашчэнту вынішчанага ў людзях за семдзесят год панавання камуністычнай ўлады.

Гэтак з аднаго боку, а з другога – *вылез з бульбы* нацыянальны чалавек, які раней, можа, і не ведаў, што хоча быць не толькі “пашпартным беларусам” (Сяржук Сакалоў-Воюш), а канкрэтным, такім жа канкрэтным, як француз ці швед. І калі над натоўпам залуналі бел-чырвона-белыя сцягі, а з мегафонаў загучала ўпэўненая беларуская мова, ён у момант зразумеў, чаго яму раней не хапала дзеля *поўнага шчасця*.

Лічы, за дваццаць год вулічнага супраціву спачатку камуністычным ўладам, а затым народнаму дыктатару здарылася столькі драматычных і анекдатычных гісторый, што нават калі б усе беларускія інтэлектуалы салідарна пагадзіліся распавесці іх дзеля шматтомнай эпапеі, дык і тады гэта была б адно нішчымная

частка. Таму я нават і думаць не думаю пра нейкую маштабную панараму. Ды і не з маімі здольнасцямі пра нешта такое думаць. Я толькі сыпану на старонкі гэтага друкапісу жменьку-другую персанальных успамінаў ды некалькі калектыўных рэфлексій, бо без апошніх якія гэта мемуары інтэлектуала.

***

Вясёлая гэта – справа змагацца з дыктатурай. Гэта як катацца на чортавым коле, калі баішся вышыні. І страшна да жудасці, і дух пераймае ад захаплення.

Палітычны каляндар вулічнага супраціву шмат год трымаўся на трох кітах: Дзень Волі (25 сакавіка), “Чарнобыльскі шлях” (26 красавіка) і “Дзяды” (пачатак лістапада). Яшчэ заўсёды (прынамсі, раней) было даволі іншых вулічных забурэнняў з самых розных сітуацыйных падзеяў, аднак не стану іх пералічваць, бо спіс непатрэбна задоўжыцца, як да мэтаў майго аповеду.

Ужо за некалькі дзён да чарговага шэсця пачыналася лёгкае хваляванне: якім будзе надвор’е, колькі народу збярэцца, стануць улады разганяць мітынгоўцаў ці гэтым разам абыдзецца? Але найбольш трывожыў “хапун”. І калі ён будзе, дык наколькі жорсткім? Тут між іншым згадалася, як аднойчы мы сыходзілі на Плошчу з рэдакцыі часопіса “Крыніца” і дзяўчаты з тэхнічнага аддзела літаральна трымалі нас за рукі, каб не хадзілі, бо сёння дакладна будуць і лупцаваць, і хапаць.

– Вы ж таленавітыя, разумныя і нават мудрыя, – казалі яны, – дык што вам з гэтым натоўпам разам рабіць?!

Тады я з посмехам запытаўся:

– А хіба менш таленавітымі і разумнымі былі Сартр ці Фуко, калі парыжскай вясной 1968 года стаялі на барыкадах?

Назаўтра калега, паплечнік і паэт Леанід Галубовіч сфармулюе ўжо сваю версію адказу на запыт дзяўчат:

“Мітынговасць зацягвае, як алкаголь. Кожны з нас пакутуе за Айчыну ў меру сваёй любові да яе. Іду ў шматтысячнай калоне пад бел-чырвона-белымі сцягамі і, пераадольваючы боль у страўніку, крычу разам з усімі “Жыве Беларусь!”, ясна пры тым усведамляючы, што не жывем ні я, ні яна, а – хварэем, што час не лечыць нас, а набліжае агонію.

Але мы ствараем міт, бо ведаем, што толькі ў міце адраджаецца з попелу птушка Фенікс...

Што нам дае гэта, апроч надзеі? Адчуванне ўласнага дачынення да стварэння міту – ілюзіі нашага зямнога існавання.

Таму, трываючы боль у страўніку, я крычу на ўвесь Сусвет: “Жыве Беларусь!” укладаючы ў гэтыя словы адзін-адзіны сэнс: Госпадзе, я – грэшны раб Твой, злітуйся – даруй мне грахі мае...” *(“Зацемкі з левай кішэні”)*.

Дарэчы, яшчэ адзін наш калега, літаратурны крытык Анатоль Сідарэвіч назаўтра не з’явіўся на працу, бо, схоплены і збіты на горкі яблык амапаўцамі, нэндзіўся за кратамі...

***

Звычайна, прынамсі на пачатку змагарнага чыну, мы збіраліся адмысловым хаўрусам: Алесь Анціпенка, Вячаслаў Ракіцкі, Ігар Бабкоў і я. Сустрэўшыся, адразу дамаўляліся, дзе спаткаемся пасля таго, як амапаўцы з міліцыянтамі разгоняць мітынгоўцаў. Тады мабільнікаў яшчэ не было, а ўцякаў звычайна кожны сам за сябе. (Так мелася болей шанцаў праслізнуць скрозь разрывы ў карных аблогах.) Шчасліва ўправіўшыся з уцёкамі, мы зноў хаўрусаваліся разам, каб адзначыць гэтую падзею. О, якой магутнай радасці была тая эмоцыя пасля перажытых хваляванняў ды страхаў!

Зразумела, калі ўлада не разганяла і не хапала, дык мы ўсё роўна потым

рушылі ў нейкі офіс або кавярню, каб завяршыць падзею некалькімі куфлямі піва ці чаркай-другой (трэцяй-чацвёртай) чаго-кольвек мацнейшага. Цягам *мірнай маніфестацыі* да нас звычайна далучаліся сустрэтыя падчас шэсця сябры ды прыяцелі і часам “на піва” збіралася даволі шмат народу.

Між іншым заўважу, што гэтыя грамадска-палітычныя акцыі давалі эфектыўную магчымасць выпадковых сустрэч з тымі, каго ўжо даўно не бачыў. І такіх выпадковасцяў кожны раз здаралася не адзін дзясятак. Больш за тое, многія і прыходзілі на палітычныя акцыі не столькі каб змагацца за вольную волю, колькі каб паказаць сябе іншым, што яны таксама ў трэндзе. Таму само ў сабе шэсце пераважна адбывалася ў фармаце броўнаўскага руху, бо шмат каму карцела выхваліцца перад найбольшай колькасцю знаёмцаў.

Што да постфактумных сябрынаў пасля шэсцяў – дык гэта, як кажуць, асобная гісторыя. Там столькі здаралася розных цікавостак! На гэты момант паперадзе ўсіх астатніх чамусьці згадалася адна вялікая піўніца ў Траецкім прадмесці.

Не ў першы раз шэсце канцавалася мітынгам на сходах Опернага тэатра. Толькі мы ўжо даўно не слухалі палымяныя выступы палітыкаў (а што там было слухаць?), і таму як толькі адтапталі само шэсце, дык адразу пачалі маракаваць, у якой з піўніцаў даць адпачынак стомленым нагам. А як вызначыліся ды завіталі, то я меў неверагодна пазітыўнае ўражанне. Піўніца была бітма набітая аднымі маніфестантамі, якія таксама да часу збеглі ад мітынговай нуды. І з гэтага, як вадаспад, без спыну шумела мова, феерверкам раз-пораз выбухала “Жыве Беларусь!” і суладна воклічам грукалі куфлі, расплюхваючы па драўляных стольніцах белую пену.

Тады падумалася, чаму б на прышлы Дзень Волі заклікаць народ не на ўжо абрыдлыя шэсце ды мітынг, а адразу ў піўніцы? І мне ўявілася як а чацвёртай гадзіне 25 сакавіка наступнага года гэтыя тысячы і тысячы маніфестантаў запалоняць у цэнтры Мінска (і не толькі ў цэнтры) усе піўніцы, кавярні ды рэстарацыі і ўсюды вадаспадам будзе шумець мова, расквечаная воклічамі “Жыве Беларусь”.

Натуральна, нічога з гэтай маё мары не атрымалася...

***

Жартуючы, часам казаў: за гады і гады мітынгаў, шэсцяў і да таго падобных акцыяў я, напэўна, стаптаў не адну пару чаравікаў, і калі б *нашыя* хай сабе на некалькі дзён атрымалі ўладу, дык спехам запатрабаваў бы хоць якой кампенсацыі: скажам, пару новых чаравікаў. Толькі яны і дзіркі ад абаранка не атрымаюць, не тое што ўладу.

І зразумеў я гэта даўно, вельмі даўно (ды шмат разоў пра тое пісаў). Дык дзеля чаго тады хадзіў на Плошчу, і нават цяпер, здараецца, абуваю тыя стаптаныя чаравікі?

Ноччу самае прыгожае – зорнае неба над галавой і святло ў акенцы тваёй хаты пасля доўгай дарогі. Днём – зграбны конь на квяцістым поплаве і бел-чырвона-белыя сцягі над плошчай. А яшчэ людзі пад гэтымі сцягамі.

Да таго ж мне моцна падабаецца дыхаць халодным ветрам свабоды. Гэта зусім іншае, чым пачувацца вольным за пісьмовым сталом у абкураным катуху. Тут толькі інтэлектуальная мужнасць, а на плошчы жывая эмоцыя, ускрыленая ўласнай адвагай.

Толькі калі я кажу пра “адвагу”, то маю на ўвазе адвагу “выйсці на Плошчу” (Галіч), а не ўпартае стаянне супраць ашалелых ад нянавісці амапаўцаў, каб скрываўленым іх дубінкамі зваліцца пад шчыты, а потым быць закінутым, як труп, у закратаваную машыну.

Выступаючы на прэзентацыі “Слоўніка Свабоды” (2002 г.) перад шматлікімі

ўдзельнікамі змагарнага супраціву я сказаў страшэнна крамольную рэч (асабліва як на той, яшчэ не пераможаны, час). А менавіта:

– Кожная вайна за свабоду канцуецца альбо паразай тых, хто за яе ваюе (згадаем Спартака, Кастуся Каліноўскага, Чэ Гевару...), альбо паразай самой свабоды, калі яе ваяры перамагаюць. Бо заваяваную свабоду верагодна ўтрымаць адно тэрорам ці дыктатурай, як гэта было ў выпадку Францыі ці Расіі...

Свабоду нельга заваяваць — яе можна толькі дачакацца (ці не дачакацца). Але яе можна дачакацца адно ў тым разе, калі мы яе будзем чакаць, і чакаць менавіта як свабоду.

Толькі не трэба блытаць чаканне з пасіўным перабываннем у абыякавасці. Калі мы моцна некага чакаем, дык рыхтуемся да сустрэчы. Чаканне свабоды — гэта падрыхтоўка да сустрэчы са свабодай.

Адсюль і паўстае задача кожнага, хто заангажаваны прыйсцем свабоды на Беларусь: мацаваць і вялічыць прастору яе чакання. А сродкі ў гэтай справе могуць быць самыя розныя: ад культурніцкай працы да палітычных акцыяў. Толькі пры гэтым трэба выразна ўсведамляць, што сэнс і культурніцкай працы, і працы палітычнай не ў заваяванні свабоды, а ў стварэнні сітуацыі яе масавага чакання. І калі мы ў сваім мностве станем чакаць свабоду — яна Беларусь не праміне!

...Цікава, што ледзьве я паспеў скончыць сваю прамову, як з крэсла ўсхапіўся малады мужчына і раззлавана выгукнуў:

– Спадар Акудовіч, як вы можаце такое казаць? Вы ж філосаф!

***

За ўсе тыя гады і гады хаджэнняў у супраціў міліцыянты з амапаўцамі ні разу не скруцілі мне рукі. Ужо пасля ўдзелу ў першых шэсцях з “хапуном” яно неяк само сабой зразумелася, што калі ты не маеш намеру з уласнай волі патрапіць за краты, то забудзься на сорам. У тым сэнсе, што як бяда ў злаякаснай форме наблізілася канкрэтна – уцякай. Ну, зусім не абавязкова адразу на злом галавы. Маючы некалькі вольных хвілінаў (у абодвух сэнсах), пачынай хуценька аналізаваць сітуацыю: вылічы, куды лепей адступацца, за які рог павярнуць, у які дворык схавацца. А калі ўжо становіцца ясным, як божы дзень, што ўсё такое ганарлівае не ўратуе, дык тады зусім не саромся – давай драпака на ўсе ногі. Звычайна доўга за табой не бягуць, калі ты паводле прыкметаў не патрапляеш пад тых, каго “ціхарам” наказана схапіць у першую чаргу.

Дарэчы, наконт *паводле прыкметаў.*

17 кастрычніка 1999 года адбыўся знакаміты “Марш Свабоды”. Што да колькасці ўдзельнікаў, дык гэта было адно з самых буйных шэсцяў апошняга часу. Толькі знакамітым “Марш Свабоды” стаўся праз іншы маштаб. На спуску вуліцы ля парка Горкага да ракі Свіслач калону маніфестантаў паспрабавалі запыніць выштукаваныя з некалькі столак шыхты амону. А маніфестанты спыняцца не захацелі. І пачалася крывавая бойка. Да таго ж пад рукой апынулася *зброя пралетарыяту* – складзеная для замены ходніка плітка.

Усялякае здаралася і раней, і потым, але каб так білі і ганялі амапаўцаў, я болей ніколі не бачыў. Афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі назаўтра паведамлялі, што толькі ў шпіталі патрапіла больш за паўсотню праваахоўнікаў...

Аднак я не маю намеру пераказваць тую падзею, як такую. Я зусім пра іншае...

Мы з Алесем Аціпенкам, натуральна, таксама маніфеставалі. А паколькі са мной быў сын Цімох – тады яшчэ школьнік, – дык маці ультыматыўна наказала мне нікуды не лезці, тым болей не адпускаць сына ад сябе. З гэтага мы ўтрох запыніліся на самым пачатку спуску перад мастом і напята сачылі за грамадзянскай вайной па-беларуску, што разгортвалася метраў на сто ніжэй. Раптам непадалёку

рэзка затармазіла міліцэйская машына, з яе выскачылі міліцыянты і кінуліся наўпрост да нас.

“Нарэшце мяне таксама схопяць”, – мільганула думка, бо не мог жа я бегчы на ўсе ногі, пакінуўшы сына. Але схапілі не мяне, а толькі аднаго Алеся і, жорстка скруціўшы, пацягнулі ў машыну...

Па заўтра яго ўжо судзілі і неўзабаве адпусцілі з невялікім пакараннем. Аказваецца, Алеся зняволілі замест невядомага нам мужчыны ў падобнай скуранцы, які на горкі яблык збіў міліцэйскага капітана.

Карацей, майго сябра схапілі *паводле прыкметаў*, распаўсюджаных сярод “ціхароў”, якія і выклікалі групу захопу. А я гэтым сюжэтам скарыстаюся яшчэ дзеля таго, каб удакладніць сваю навуку вулічнага супраціву: так, не трэба саромецца ўцякаць дзеля самога сябе. Разам з тым ніхто ніколі не можа ведаць напэўна, што пасля выправы на Плошчу начаваць будзе ў роднай хаце пад пярынай, а не на голых турэмных нарах. Усе сітуацыі наперад ніколі не пралічыш. Таму я заўсёды адпаведна апранаўся і набіраў поўныя кішэні цыгарэтаў, а цяпер яшчэ туды ж піхаю розныя пігулкі, бо, як вядома, *гады бяруць сваё*.

Напісаўшы апошнія парады, весела пасміхнуўся. За гэтыя два дзесяцігоддзі супраціву народнаму дыктатару ён (супраціў) так засмеціў свядомасць, што ўжо нават не думаеш, быццам калі-небудзь усё будзе інакш.

***

Вулічныя падзеі даволі часта мелі працяг у самых розных палітычных (і не толькі) фарматах. А ўжо апісанай вышэй a priori было наканавана мець іх столькі, што ні ў які мех тыя фарматы не запхнеш.

Натуральна, адразу пачаліся масавыя арышты. Міколу Статкевіча, аднаго з галоўных завадатараў, арыштавалі сярод першых. А вось кіраўніцтва БНФ аператыўна вырашыла сысці ў падполле. Праз колькі там часу хованак у іх наспела патрэба сустрэцца разам, каб абмеркаваць, як жыць далей? Тады яны прыдумалі сабрацца ў Вячаслава Ракіцкага як бы на дзень яго народзінаў (што ўжо прамінуў) і гучна адсвяткаваць (а ў зацішку ад гаманы правесці паседжанне Рады). Вячаслаў папрасіў мяне прыйсці раней (тады мы жылі побач), каб дапамагчы. Там ужо быў Вінцук Вячорка, які, аказваецца, і хаваўся ў Ракіцкага.

Народу пакрысе болела, ужо хутка трэба было сядаць за стол, як патэлефанавала жанчына і сказала, што купа нашых гасцей застрала ў ліфце яшчэ на першым паверсе.

Зрабілася трывожна. Праз колькі хвілінаў Вячаслаў адвёў мяне ў вітальню і папрасіў:

– Валянцін, мне трэба заставацца тут. А ты спусціся па лесвіцы і паглядзі, што там да чаго?

Яшчэ спускаючыся, пачуў ваярскую песню, якую напятымі галасамі спявалі сябры Рады, схопленыя ў палон ліфтам. Я пастукаў у кабіну. Яны пачулі стук, і песня ўмомант загрымела, здаецца, на ўвесь дом. Нарэшце я дапетрыў: нашыя ваяры ўпэўненыя, што за дзвярыма іх чакаюць супрацоўнікі КДБ, якія і спланавалі гэтую аперацыю з ліфтом.

Тады я стаў грукатаць кулакамі з усёй сілы і крычаць: гэта Валянцін Акудовіч, гэта Валянцін Акудовіч...

Дэманстрацыя мужнасці тут жа захлынулася. А пакуль праз дзверы абмяркоўвалі сітуацыю, дык з’явіўся і рамонтнік з начыннем. Толькі мы не сталі чакаць ліфта, а як праход прыадкрыўся, дык па лесвіцы цугам паспяшалі наверх.

Прысаромленыя канспіратары, што ўздумалі кагалам ісці на таемную сходку, яшчэ доўгі час пачуваліся няёмка. Аднак напоі былі добрыя, сябрына з тадышніх

славутасцяў спагадлівая... Карацей, Рада БНФ абмеркавала ўсё, што хацела абмеркаваць, а мы ў гэты час прамаўлялі тосты. Я свой наўмысна падрыхтаваў і вывучыў дзеля гэтай сустрэчы. Не палянуюся пераказаць яго яшчэ раз, бо надта ж запомніўся той канспіратыўны дзень народзінаў.

...Чалавеку толькі здаецца, што ён прагне Бога, грошай, свабоды. Насамрэч ён усюды і заўсёды прагне аднаго – утульнасці. Іншая справа, што нехта пачувае сябе няўтульна без Бога, нехта без грошай, а хтосьці – без свабоды.

Але што найперш скажа вернік, калі адшукае сцежку да Бога? Падзячыць Богу за прытулак у вечнасці.

А што перадусім зробіць бядак, калі трохі назбірае грошай? – Прыдбае сабе катух.

А чым зоймецца вызвалены ад прыгнёту, як толькі набудзе свабоду? Ён сядзе з сябрамі за стол і, падняўшы чарку, скажа:

– За ўтульнасць быцця!

Чалавек не птушка. Ён не любіць бясконцасць прасторы і беспрытульнасць волі. Таму чалавек увесь час будуе сцены і акрэслівае межы.

Мяжа — гэта зусім не тое, што раз'ядноўвае людзей, мяжа — гэта тое, што атуляе чалавека ад скразнякоў бязмежжа.

Чалавек можа знайсці сабе прыстанак дзе заўгодна, але кожны, хто здалёк вяртаўся на радзіму, ведае, што адразу за памежным слупом робіцца і зацішней, і цяплей, нават калі ён вяртаецца ў непагадзь...

І што б там ні казалі іншыя, але наша прага незалежнай краіны паходзіць не з любові да свабоды, самастойнасці ці чаго там яшчэ, а з патрэбы беспрытульнага сэрца, што прагне, як уласным домам, атуліцца Беларуссю ад скразнякоў бязмежжа.

***

Не зусім выспаны, назаўтра я ўжо ехаў у роднае мястэчка Свіслач, што знаходзіцца за сем кіламетраў ад мяжы з Польшчай. Рэч у тым, што некалькі год таму гродзенскія краязнаўцы на свіслацкіх могілках знайшлі магілу Віктара Каліноўскага, старэйшага брата Кастуся, які спеліў у ім прагу волі.

Пасля гэтага напрыканцы кастрычніка сюды штогод стаў збірацца народ, каб ушанаваць памяць пачынальнікаў беларускай справы. Звычайна найболей людзей было з Гродна і Мінска. Ды якія тут бывалі людзі! Не падабаюцца мне пералікі, таму адно заўважу, што менавіта тут я пазнаёміўся і адразу пасябраваў з маім любімым бардам Віктарам Шалкевічам.

Мы ехалі на машыне брата Юры. Але гэтым разам з намі яшчэ былі Уладзімір Арлоў, Валянціна Аксак і Лявон Баршчэўскі, які хаваўся ад уладаў на кватэры Арловых. Па дарозе завіталі да філосафа і паэта Алега Бембеля, што трымаў паслушэнства ў Жыровіцкім манастыры. Напрыканцы сустрэчы выпадкова згадалі візіт Лукашэнкі ў манастар, і я моцна насварыўся на Алега.

Яшчэ раней, калі Юры Хадыка з Уладзімірам Сіўчыкам больш за 20 сутак трымалі ў турме галадоўку, Аляксандр Лукашэнка, шукаючы як залагодзіць абуранае грамадства, прыехаў у Жыровіцкі манастыр, і святары раскаталі перад ім дарожку. Пра гэта нават як бы ўхвальна распавёў Алег.

– Цар Ірад быў перад вамі, а вы яму крывавую дарожку пасцялілі і галовы перад імі схілілі, – раз'ятрана адгукнуўся я.

Відавочна, мая эмоцыя была залішняй. Праваслаўная царква заўсёды заставалася ўсяго толькі адным з інстытутаў дзяржавы. І паводзіла сябе адпаведна. Дык чаго тут ятрыцца?

Сябры далікатна прамаўчалі і не сталі мяне ўпікаць. Толькі нейкі час насцярожана пазіралі ў мой бок, паколькі раней не бачылі мяне ў стане шалёнай утра-

пёнасці. А такое, што праўда, гады ў рады, са мной здаралася. Напэўна, залішне шмат нянавісці, абурэння ды страхаў назбіралася за тыя дні, што пачыналіся з 17 кастрычніка.

Да бацькоў мы прыехалі падвячоркам. Нас ужо чакаў багаты стол і ўсхваляваныя тата з мамай ды сястрой. Такіх гасцей у іх яшчэ ніколі не было.

Як кажуць, мы добра пасядзелі, смачна павячэралі і дасхочу выспаліся. Назаўтра развітваючыся, бацькі атрымалі мноства шчырых кампліментаў ад шаноўных гасцей. Нават запомніліся словы Лявона: цяпер я ведаю, скуль у Вас такія сыны...

Пад гэты час з Гродна і Мінска ў Свіслач ўжо прыехалі два паўнюткія аўтобусы, а яшчэ шмат легкавікоў з розных месцаў. Згуртаваўшыся ў ладную калону, мы з разгорнутымі бел-чырвона-белымі сцягамі рушылі да цэркаўкі на гары, побач з якой была магіла Віктара Каліноўскага. Толькі падышлі да помніка, як з цэркаўкі шугануў натоўп раз'ятраных бабулек, якія, наглядзеўшыся па тэлевізіі пра крывавую бойню 17 кастрычніка, палічылі, што мы прыехалі ў Свіслач рабіць рэвалюцыю. Чамусьці найбольшую ўвагу ў іх выклікаў барадаты і санавіты Уладзімер Арлоў. Яны атачылі яго, махалі кулачкамі, а некаторыя сваімі торбачкамі нават спрабавалі хвастануць па славутым пісьменніку. Спачатку гэта выглядала смешна, аднак хутка мне зрабілася сумна. Гэтак жа сама пасля паўстання мужыкі лавілі па лясах касінераў Каліноўскага ды здавалі іх царскім уладам. І тады падумалася зусім скрушнае: паспаліты беларус ніколі не змагаўся з уладай, ён заўсёды змагаўся толькі з уласнымі героямі...

***

Не ведаю, чаму так, але міжсобку мы рэдка згадваем сюжэты з гісторыі нашага былога вулічнага супрацІву. А цяпер, калі праз уласнае заданне я быў змушаны вярнуцца ў тыя гады, дык драматычныя сітуацыі і смешныя анекдоты насунуліся гарластым натоўпам. Відаць, гэта шалёная энергетыка таго часу сваёй астачай на шматкі парвала татальную непразрыстасць маёй памяці. Толькі прабачце, успаміны, я цяпер належу не вам, а структуры і кампазіцыі аповеду, які чым далей, тым мацней выяўляе ўжо сваю ўладу. Канечне, я магу трохі пасвavoліць, але хіба адно трохі...

Эмацыйна мне найболей шкада эпізода з арыштам сына. Цімох быў у “Маладым фронце” і разам з сябрамі заклікаў да байкоту выбараў. Яго схапілі і судзілі. Ён быў яшчэ непаўнагадовым, і турма яму не пагражала. Разам з тым была пагроза, горшая за колькі там сутак у камеры. Сын толькі што паступіў ва ўніверсітэт, туды, дзе вучаць за дзяржаўныя грошы. А каб яго адтуль выключылі за “палітыку”, то няшчасныя бацькі не змаглі б яму дапамагчы вучыцца на платным аддзяленні хоць якой інстытуцыі.

Экзістэнцыйна гэтыя некалькі тыдняў былі ці не самымі складанымі ў маім жыцці. Разам з тым я ці не ўпершыню напоўніцу захапіўся сваім сынам. Тая мера годнасці, з якой ён трываў і арышт, і судзілішча, і ўсе астатнія выпрабаванні, выклікалі ў мяне шчыры гонар за яго.

Як ні дзіўна, анекдатычных сітуацый было ці не болей, чым драматычных. У дзень аб'яўленага яднання Беларусі з Расіяй (2 красавіка 1996) пратэстоўцы апынуліся ў пастцы паміж двума шчыльнымі шэрагамі амапаўцаў, якія рухаліся па праспекце насустрач адны адным, а праходы ў двары былі раней заблакаваныя. Уцякаць не было куды, ды тут на вочы патрапіла прадуктовая крама. Заскочылі, таўчэмся ў чаканні: зойдуць арыштоўваць – не зойдуць? Тады я і кажу: хлопцы, давайце станем у чаргу па батоны.

Пакуль пагроза мінула, нават некалькі батонаў набылі і пакаштавалі (смаку не памятаю)...

Адзін раз я ўсё ж такі фізічна “пацярпеў” у змаганні з *крывавым рэжымам.* Па сканчэнні нейкага мітынгу Пазняк запрапанаваў ісці да будынка Беларускага тэлебачання і патрабаваць там эфіру (раней такое ўжо аднойчы было атрымалася). Пакуль дайшлі, там ужо падрыхтаваліся да сустрэчы. АМАП, міліцыя – да халеры ўсяго ўсякага. Мы натоўпам пачалі ціснуць на іх, а яны лупцавалі нас дубінкамі. Я і не заўважыў, як апынуўся на самым перадзе. Натуральна, атрымаў дубінкай. Але не па галаве ці плячах, а па лытцы.

Потым цэлы тыдзень выхваляўся, быццам атрымаў не шнар, а ганаровую стужку з чырвоным надпісам “за мужнасць”.

***

Зрэшты, хопіць экзістэнцыйных драмаў і смяшлівых показак. Бо як на пачатку раздзела логіка аповеду патрабавала рэфлексіі стасоўна феномена інтэлектуалізму, так цяпер яна чакае (зачакалася) гісторыі аб тым, як плошча сталася Плошчай, а тая, у сваю чаргу, зрабілася сінонімам (і сімвалам) усяго вулічнага супраціву.

Гэта здарылася ў сакавіку 2006 года, пасля чарговых прэзідэнцкія выбараў. Я і па сёння не магу зразумець, чаму наш народны дыктатар не забараніў гэтыя масавыя паслявыбарчыя сходы. Ён жа з іх амаль заўсёды меў з каптуром сур’ёзных палітычных праблемаў! Толькі не кажыце мне пра Канстытуцыю. Я не ўпэўнены, што Аляксандр Лукашэнка хоць аднойчы прачытаў яе ад пачатку да канца. Хаця калі нават аднойчы і прачытаў, дык для яго палітычнай практыкі гэта не мела ніякага значэння. Што лічыў патрэбным забараняць, тое і забараняў, не зазіраючы ў “святцы” і не зважаючы ні на закон, ні на міжнародных назіральнікаў.

Разам з тым, не забараняючы гэтыя сходы выбаршчыкаў, *ён* кожны раз вельмі сур’ёзна да іх рыхтаваўся. Яшчэ задоўга да дня выбараў усе дзяржаўныя сродкі не толькі паскудна ганілі апазіцыю, а яшчэ тупа запалохвалі грамадства крывавымі сцэнарамі, якія быццам ужо спланавалі ворагі Прэзідэнта.

Няма ахвоты нават пералічваць усе тыя ганебныя захады, што рабіла ўлада, каб змінімізаваць колькасць мітынгоўцаў на плошчы. І на гэты раз у яе шмат што атрымалася. Але галоўнае, яна напампавала горад страхам. Я наўмысна ехаў на плошчу тралейбусам (раптам метро перакрыюць) і ўзіраўся ў вуліцы – там амаль не было людзей. Я ніколі не бачыў такім пустым Мінск...

Якім жа магутным было маё ўзрушэнне, калі ўбачыў поўную плошчу народу. Спачатку нават вачам сваім не даў веры. Скуль яны тут узяліся?

У гэты вечар (19 сакавіка) на Кастрычніцкай плошчы было сапраўднае свята свабоды. Сюды, пераадолеўшы страх забароны публічнага збору, прыйшлі тысячы і тысячы людзей, каб пасля выбараў падтрымаць сваіх кандыдатаў.

Раптам і з ніадкуль усчалася шалёная завея, аднак яна нікога не напалохала, хаця яе штучнае паходжанне выглядала найбольш верагодным. Нечакана “мінскае кола філосафаў” разам з літаратарамі, кінулася ў скокі і танчыла, пакуль завея гэтаксама раптам не сцішылася.

Толькі нядзеляй свята і скончылася, у панядзелак пачыналася ўжо палітыка. Таму ў панядзелак я не збіраўся на плошчу. Аднак увечары адзін за адным пачалі тэлефанаваць сямейнікі, каб паведаміць, што на плошчы ставяць намёты і яны маюць намер заставацца там да ранку. Хоцькі-няхоцькі давялося цягнуцца туды. Бо як такое можа быць, каб мужык грэўся пад пярынай, калі яго дзеці і жонка ўсю ноч мерзнуць на снезе. Праўда, потым так склалася, што недзе пасля гадзіны ночы я з дачкой і жонкай вярнуўся дахаты – а сын вярнуўся толькі назаўтра днём.

Праз дзень на занятках па філасофіі ў Беларускім калегіуме студэнтаў было значна меней, чым звычайна. Што не здзівіла. Бываюць дні, калі філасофія безнадзейна саступае жывому жыццю...

Адно павітаўся, як мяне адразу запыталіся пра мінскі “майдан”. Я перад лекцыямі зазірнуў туды, але мне найменей хацелася гаварыць на гэтую тэму. І вось чаму...

Я быў захоплены мужнасцю маладых людзей, што цяпер бадзёрыліся каля намётаў (ці ў намётах). Аднак разам з тым я разумеў, што Плошча трымаецца не столькі іх мужнасцю, колькі нейкай мудрагелістай прыдумкай улады, якой чамусьці пакуль патрэбна, каб ля ганка Дома прафсаюзаў нейкі час пастаялі і намёты, і людзі. А як толькі ўладзе гэты гармідар станецца лішнім, на пляцы праз гадзіну будзе гуляць адно вецер, ганяючы папяровае шмаццё.

Мне не хацелася казаць пра ўсё гэта маладым людзям, якія ў той момант былі апанаваныя гераічным шалам, але я сказаў. Бо як патрэбная духоўная адвага, каб да ранку лічыць зоры над Плошчай, гэтаксама патрэбная інтэлектуальная адвага, каб не хаваючыся праўды ясна ўсведамляць, *хто* і *што* табе дазваляе праяўляць тут сваю мужнасць...

А 24 сакавіка, калі я яшчэ спаў, патэлефанаваў брат і коратка запытаўся:

– Ты дзе?

Брат працаваў побач з Плошчай і я адразу ўсё зразумеў – там ужо пуста. Міжволі мяне ахапіла ціхая радасць, паколькі так склалася, што гэтай ноччу з маёй сям’і на Плошчы нікога не было. Але потым зрабілася сорамна за сваё эгаістычнае шчасце. Бо ў тых, хто гэтай ноччу заставаўся на Плошчы, таксама былі бацькі, браты, сёстры... І ўсім ім цяпер балюча ды страшна, паколькі пад ранак намётавы лагер пабурылі, а ўсіх ягоных насельнікаў перасялілі за краты.

***

Магутнае рэха ад падзеяў на Плошчы ўзмацніў Дзень Волі (25 сакавіка), калі, нягледзячы на шматлікія арышты і разгромлены намётавы лагер, тысячы людзей сабраліся ў скверы Янкі Купалы. На мітынгу Аляксандр Казулін заклікаў згуртавацца ў калону і пайсці да турмы на Акрэсціна, каб патрабаваць вызвалення арыштаваных на Плошчы. Не ўсе адгукнуліся, аднак падтрымаў таксама шмат хто. І там зноў была “вайна”. Упершыню спецслужбы скарысталі шумавыя гранаты, і па горадзе імгнення разнесліся чуткі, што ёсць забітыя (насамрэч іх не было)...

Вось праз усе гэтыя падзеі разам звычайная плошча сталася Плошчай. Такі яе статус афіцыйна нідзе не зафіксаваны, толькі гэта ўжо не мае значэння. У прыклад скарыстаюся дыскусіяй “Плошча і Аўтар” у рэдакцыі часопіса “pARTisan” (2006, №4). Мадэравала Вольга Шпарага. Між іншым, гэтая дыскусія толькі распачынала ў часопісе цэлы блок грунтоўных артыкулаў і эсэ, прысвечаных Плошчы.

І яшчэ пра тэхнічны момант. Паколькі гаворка задоўжылася на шэсць вялікіх часопісных старонак, то я адлюструю яе толькі ў фармаце канспекта.

**Вольга Шпарага**: Нумар часопіса прысвечаны тэме “Аўтар і Плошча”. Ключавая ідэя размовы: як увогуле Плошча ўплывае на аўтара і сам аўтар уплывае на Плошчу, ці прынцыповы ўплыў Плошчы на аўтара, ці адбываюцца з ім нейкія істотныя трансфармацыі, і наадварот – як ён можа трансфармаваць Плошчу?

**Алесь Анціпенка**: Я хацеў бы даведацца, чаму абраная такая тэма? Больш натуральна выглядаюць, скажам, плошча і герой, плошча і натоўп, плошча і асоба, плошча і палітык, а вось аўтар...

**Максім Жбанкоў**: Мяне таксама здзіўляе такая фармулёўка. Мне, напрыклад, больш цікава было б запытацца, ці быў аўтар у Плошчы, ці ёсць у яе аўтар, і ці ёсць зараз Плошча?

**А.А.**: Ці былі аўтары на Плошчы?

**М.Ж.**: Аўтары былі – але ці аўтары Плошчы?

**А.А.**: Напэўна, Вольга, вы маеце на ўвазе аўтара як чуйную асобу, як такога канструктара сацыяльных сэнсаў, які пабываў, скажам, у пэўнай унікальнай сітуацыі (а нашая Плошча была ўнікальнай сітуацыяй) і вынес адтуль не толькі досвед, але і фармулёўкі тых сэнсаў, якія паўсталі ў гэтай сітуацыі.

**М.Ж.**: Гэта было месца, дзе, як мне падаецца, якраз адбывалася тая самая славутая "смерць аўтара" (Р. Барт). Той жа Хадановіч, напрыклад, прыходзіў на Плошчу, і яна яго паглынала, ён яе не адбудоўваў, а рабіўся яе часткай. Былі там тыя ж хлопцы з "N.R.M." – з імі было тое самае. Былі Арлоў, Бартосік, шмат хто быў... Мы ўсе, дарэчы, там былі. Але ж мы туды прыходзілі не як аўтары, да якіх нехта звяртаецца па нейкую канцэптуальную дапамогу. Насамрэч, у мяне было пачуццё, што я туды прыходзіў, як хлопчык у першы клас. Вучыцца вось гэтай, так бы мовіць, пазаканцэптуальнай энергетыцы.

**В.Ш.**: Мне здаецца, ёсць яшчэ адно вымярэнне публічнасці, што паўплывала на мяне. Цягам часу адбылася пэўная трансфармацыя – перажыванняў, маёй уласнай творчасці, успрыняцця іншых аўтараў. Раптам усё гэта набыло новае значэнне менавіта публічна. Калі мы, убачыўшы адзін аднаго на Плошчы, зразумелі, што ў нас, да прыкладу, чытачоў нашмат болей, чым мы меркавалі. Ці суаўтараў...

**А.А.**: Напэўна, трэба адмыслова казаць пра сацыяльную сутворчасць, пра сацыяльнае суаўтарства. Не проста аўтар – той, які піша раман ці вершы, а менавіта сацыяльны аўтар. І якраз, можа быць, самае важнае для нас – новая генерацыя аўтараў, якая ўзнікла пасля гэтых падзеяў, пасля гэтых учынкаў.

**Валянцін Акудовіч**: Акрамя вас, Вольга, я не ведаю нікога з літаратараў ці філосафаў, у творчасці якіх Плошча нешта б перамяніла канцэптуальна, нават калі яны сітуацыйна адгукнуліся на гэтую падзею тымі ці іншымі тэкстамі... Праўда, Плошча надзвычай актуалізавала адзін спецыфічна інтэрнэтаўскі жанр: у LiveJournal з'явілася цэлая плойма дзённікаў тых, хто быў на Плошчы, а пасля патрапіў у вязніцу. Гэтая літаратура (калі можна назваць яе літаратурай) тады відавочна пераўзыходзіла паводле запатрабаванасці ўсё ўласна мастацкае. І нават тыя выдатныя тэксты, што ствараліся з нагоды ўсіх гэтых падзей – скажам, вершы Сяргея Прылуцкага ці Андрэя Хадановіча – у плане катарсіса напэўна саступалі турэмным дзённікам. Наіўная і непасрэдная фіксацыя "рэальнасці Плошчы" эмацыйна (і сэнсава) уздзейнічала куды мацней за хоць які прафесійны артэфакт. Аднак досыць хутка наўпроставая рэляцыя жывой плыні падзеяў вычарпала сябе. Што і натуральна. У адрозненне ад уласна мастацкага твора, публіцыстычны рэзануе адно з сітуацыйнымі эмоцыямі і, значыць, губляе сваю актуальнасць разам з пераменай сітуацыі.

Безумоўна, толькі гэтыя маладыя хлопцы/дзяўчаты з намётамі былі Аўтарам (а мы ўсе – яго чытачамі/гледачамі). Яны адначасна тварылі і містэрыю, і спектакль, і перформанс. І гэта было страшэнна прыгожа, бо няма нічога больш прыгожага за мужнасць. Магчыма, толькі там на Плошчы я зразумеў, што мужнасць – катэгорыя перадусім эстэтычная.

**А.А.**: Для мяне відавочна, што Плошча была месцам учынку. Людзі здзяйснялі ўчынак ужо самім фактам таго, што туды прыйшлі. Гэта месца дзеяння. І гэтых людзей было шмат. Паўстала атмасфера, калі людзі сапраўды адчулі патрэбу ва ўчынку. Той, хто ехаў і вёз лекі, адчуў патрэбу ва ўчынку. Ён не ішоў туды, як на Плошчу і, можа быць, не збіраўся там сядзець у намёце. Ён проста хацеў далучыцца.

**М.Ж.:** А ці не падаецца вам, што ў Плошчы быў іншы аўтар? І гэта не тыя хлопцы і дзяўчаты, што там атабарыліся, і не лідэры апазіцыі, якія ўвесь час палохаліся моладзевай ініцыятывы і не ведалі, што з ёй рабіць. Вам не падаецца, што галоўным аўтарам Плошчы была ўлада. Менавіта яна зрабіла магчымым як пачатак гэтай акцыі, так і яе драматычны фінал. Ці не яна сама насамрэч зрэжысавала ўсё тое, што адбылося?

**В.А.**: Часткова я згодны, толькі назваў бы ўладу не Аўтарам і не рэжысёрам, а ўсяго толькі “пастаноўшчыкам” гэтай тэатралізаванай дзеі. І па сёння ніхто не можа адказаць, чаму ўлада дазволіла цягам некалькіх дзён стаяць намётаваму лагеру на Плошчы і з якіх меркаванняў ён быў згамаваны менавіта ў *тую ноч* (а не раней ці пазней)? Інакш кажучы, для мяне бясспрэчна, што менавіта ўлада акрэсліла і трымала фармат гэтай падзеі (час, месца, колькасць намётаў і г. д.). Разам з тым я не адмаўляюся ад сваёй пазіцыі: Аўтарам была не ўлада, а тыя маладыя (і не толькі маладыя) людзі, што жылі ў намётах, як і тыя, хто іх абараняў, дапамагаў, падтрымліваў сваёй прысутнасцю побач. Рэч у тым, што на Плошчы любая дзея ператварае чалавека ў Аўтара. Калі нехта паедзе ў лес і разгарне там намёт – гэта будзе ўсяго толькі часовае месца жытла. А як толькі ён паставіць той самы намёт на Плошчы, яна адразу робіць яго Аўтарам, найменш, перформанса, а здараецца, як у нашым выпадку, поўнафарматнай драмы.

**Артур Клінаў**: Я ўспрымаю праблему «Аўтар і Плошча» як дзве метафары: Аўтар – гэта культура, а Плошча – гэта соцыум. На Беларусі існуе дзве Плошчы і два Аўтары: ёсць Плошча дзён горада, карнавалаў, за якой стаіць адзін аўтар і адна культура, а ёсць Плошча, якая была ўвесну гэтага года, за якой стаяў іншы аўтар з іншай культуры. У мяне ёсць такая правакацыйная думка: тыя, хто выйшлі на Плошчу, былі людзьмі, якія пачулі голас той, іншай, свабоднай культуры. Гэтыя людзі не палітыкі, гэта людзі менавіта свабоднай культуры.

**В.А.:** Калі б вы, Артур, не скарысталі тэрмін «культура», дык я б з вамі цалкам пагадзіўся, але... Рэч у тым, што культура не можа мець аўтара, яго мае толькі мастацкі артэфакт. Культура – гэта пэўная сума адсарбаваных і трывала зафіксаваных элементаў жыццядзейнасці чалавека (у тым ліку і “мастацкай” жыццядзейнасці). А ўласна мастацтва ёсць заўсёды бунтам, і перадусім – супраць культуры, якая па азначэнні нерухоміць усе несістэмныя парыванні. Культура – жорстка дэтэрмінаваная сістэма, з якой можна патрапіць у дыскурс свабоды толькі праз мастацкі ці змагарны акт.

**М.Ж.:** Тады варта запытацца: ці «скончылася» сакавіцкая Плошча як месца паўставання новага Аўтара разам са скасаваннем намётавага лагера?

**В.А.:** Ніякі спектакль не можа доўжыцца вечна. Але зусім не істотна, што ён так хутка скончыўся. Істотна, што ён быў і што ён быў прыгожым. Колькі можна ўсё ў змаганні за свабоду вымяраць адно канкрэтным палітычным вынікам?! Сакавіцкая Плошча падарыла нам такую прыгажосць, якая (прынамсі, асабіста для мяне) мае вартасць большую за якую лакальную палітычную перамогу. Памыляецца той, хто лічыць, быццам усе праблемы сучаснай Беларусі завязаныя на аўтарытарнай уладзе. Як на мае глузды, дык асноўная праблема палягае зусім у іншым, а менавіта ў тым, што Беларусь яшчэ для шмат каго не настолькі прыгожая і адметная, каб яе можна было палюбіць і праз гэтую любоў змагацца за яе. Мяркую, сакавіцкія падзеі многіх умацавалі ў іхняй любові да сваёй краіны.

*P.S.* Ужо за межамі нашай дыскусіі дадам, што сярод гэтых *многіх* быў эмігрант, будучы лаўрэат прэміі Гедройца Макс Шчур. Ён шмат год жыве ў Чэхіі і, паводле ягоных словаў, за некалькі гадзінаў да разгрому намётавага лагера напісаў верш, які канцавала наступная страфа:

Вы, пэўна б, з мяне смяяліся,
каб бачыць мяне маглі.
Ды гэта праз вас я, памятайце,
магу глядзець без нянавісці
на мапу сваёй зямлі.

## Даробак-4

Яшчэ не пачаўшы сваю пісаніну, я ўжо наперад ведаў, што ні пра каго персанальна не буду пісаць дрэнна. Няма ў маёй натуры паклікання ганіць людзей, ды і месца лепей ашчаджаць на добрыя словы.

Не зусім да месца, аднак чамусьці якраз тут прычапілася і не адпускае адна эўрыстыка Жыля Дэлёза. Ён інтэрпрэтаваў шалёную ідэю Фрыдрыха Ніцшэ пра "вечнае вяртанне" наступным чынам. Маўляў, вечнае вяртанне – выбарачнае. Не ўсялякая праява волі да панавання замацоўвае сябе ў быцці настолькі трывала, каб зноў адбыцца пры новым вяртанні гэтага быцця, бо негатыўныя сілы схільныя да самаадмаўлення.

З чаго атрымліваецца, што негатыўнае не вяртаецца і, такім чынам, аднойчы з'явіўшыся, потым назаўжды знікае з быцця. Адно толькі станоўчае як праява існага – існуе заўсёды. Відаць, тут не лішне будзе яшчэ заценіць, што яно існуе не як тоеснасць, а толькі як рознасць, што і ўтварае магчымасць станаўлення ды адбывання быцця.

Простымі словамі кажучы, усялякае паскудства і да яго падобнае мае кароткі век. Дык чаго на такое звяртаць увагу? Мы ж гадуем вечнае.

Разам з тым, калі ты звяртаешся да мінулага, то перад табой раз-пораз паўстаюць сітуацыйныя калізіі, якія і не зразумела як развязаць?

Звычайна ў розныя свае гады чалавек бывае моцна розным. А часам і зусім іншым чалавекам у параўнанні з тым, з кім ты сябраваў ці плённа супрацоўнічаў доўгі час.

Дык у чым тут праблема? А ў тым, што, апісваючы пару прыязнага суладдзя з пэўным чалавекам, ты ўжо ведаеш, якім ён станецца для цябе потым. І як ты да яго будзеш ставіцца. Можа, і не надта каб добра. Ці яшчэ горай...

Карацей, для мяне гэта зусім не шараговая праблема – адрадзіць і ўтрымаць тадышнюю пазітыўную эмоцыю. Бо акрамя твайго героя ты ж таксама ўжо радыкальна перайначыўся. Не кажучы пра тое, што за прамінулыя гады ад твайго некалі ўсеахопнага чалавекалюбства ўжо ўвогуле не так і шмат засталося...

Цяпер я разумею, чаму з маладой пары не знікаюць з памяці банальныя радкі нейкай турысцкай песенькі: «Страшнее потерять не уменье удивлять, а уменье удивляться».

Можа, гэта была мне містычная засцярога? Можа і так. Аднак хіба яна магла засцерагчы ад выжытага ў цябе самім жыцця?

І ўсё ж я буду ўпарціцца, каб вярнуць і падзеям, і маім героям тую радасную эмоцыю, з якой ішоў ім насустрач у сваім прамінулым.

ВЫТОКІ

Эма Яленская



...ахоплівае нейкае адчуванне зайздрасці, што яны ў сто разоў шчаслівейшыя за нас, адукаваных і цывілізаваных...

# Вёска Камаровічы ў Мазырскім павеце

*Заканчэнне. Пачатак у №97-98.*

*Пераклад з польскай Уладзіміра ВАСІЛЕВІЧА.*

## VII

Палескі народ яшчэ мала верыць у дабрачынны ўплыў цывілізацыі і застаецца ў баку ад усяго, што яму здаецца навіною. Ён давярае толькі таму, што яму вядомае і выпрабаванае некалькімі пакаленнямі, а на ўсё новае глядзіць з падазронасцю, заўсёды дапускаючы, што сваю ролю адыгрывае ў ім нейкая “нячыстая” сіла. Калі ў суседні маёнтак упершыню прывезлі касілку, спачатку было цяжка знайсці работнікаў для яе абслугоўвання, бо людзі баяліся наблізіцца да гэтае пякельнае машыны. Яшчэ пару гадоў таму назад сяляне з Камаровічаў, угледзеўшы маладога чалавека, які ехаў на веласіпедзе, хрысціліся і замыкаліся ў хатах, перакананыя, што нейкую новую штуку прыдумаў “нячысты”. Зразумела, што паступова, калі тут з’явіліся чыгункі, землябобчыя машыны, паравыя вінакурні і г.д., то і прадузятасць да новых з’яў павінна была паволі адступаць. Людзі

ўжо пачынаюць усё больш раўнадушна глядзець на іх і прывыкаць. Можа, з цягам часу яны і самі пачнуць схіляцца да шматлікіх змен. Характар іх, аднак, настолькі кансерватыўны, што нельга дапусціць, каб уплывы цывілізацыі хутка падзейнічалі на іх. Паляшук спакойна слухае расповеды, парады, рэкамендацыі, ківае галавою, час ад часу паўтарае: "але! неўжэ ж!" і, здавалася б, што ён пераканаўся. Але на самой справе гэта зусім не так; праз хвіліну ён далей робіць сваё, нібыта нават увагі не звяртаючы на тое, што было яму гаворана.

Тое самае адбываецца і з лячэннем. У воласці ёсць аплочваемы воласцю фельчар, ёсць невялікая аптэка і нават шпіталь на некалькі ложкаў. Аднак людзі не карыстаюцца гэтымі выгодамі. Калі хтосьці захварэе, то напачатку доўгі час на гэта наогул не звяртаюць ніякае ўвагі. Потым, калі хвароба ўзмацняецца, збіраюць суседак, і тыя нешта раяць і прапануюць розныя лекі. Калі гэта не дапамагае, звяртаюцца да знахаркі. Толькі калі і яе старанні не дапамогуць, у самым крайнім выпадку звяртаюцца да фельчара, але заўсёды неахвотна, наракаючы на яго і на ягоныя лекі. Я дапускаю, што калі б яны маглі лячыцца задарма, то ахвотней звярталіся б да фельчара. Той жа, у сваю чаргу, акрамя таго, што яму плоціць воласць, заўсёды штосьці бярэ і ад сваіх пацыентаў. Было ў мяне некалькі выпадкаў, калі хворыя ахвотна ішлі да панскага доктара, бо той не вымагаў яд іх аплаты. Нават потым вельмі хвалілі яго і ў знак падзякі прыносілі яму ў падарунак яйкі. Але расставацца з грашыма дзеля такога няўлоўнага дабрадзейства, як лячэнне – гэта для іх надзвычай прыкрая неабходнасць, і яны марудзяць да апошняе хвіліны і ідуць па дапамогу тады, калі ўжо ніякае лячэнне не можа аказацца паспяховым. Знахаркі маюць большую папулярнасць, бо з імі лягчэй разлічыцца: гарнец жыта, кавалак сала, намётка або фартух – гэта найвышэйшая плата для знахаркі. Доктару ж трэба плаціць грашыма, што для палешука ўяўляе вялікую розніцу.

Таму род знахароў і знахарак не выгасае на Палессі: усе яны жывуць багата, бо іх майстэрства добра аплочваецца. Знахарка – гэта, як правіла, старая жанчына, самаўпэўненая, балбатлівая і вясёлая, як кажуць, "*лепетуха*". Яна любіць пагаварыць, ахвотна пра ўсё расказвае, і толькі пры згадванні пра яе ўмельства яна робіць таямнічы выраз твару, і ні пра што ад яе нельга даведацца. Калі б яна раскрыла свае сакрэты, то адразу ж страціла б сваю ўладу. Навучыць можна толькі маладзейшых за сябе, але і з тых – не шмат каго. Знахаркі, паводле народных перакананняў, бываюць двух тыпаў. Адны добрыя, патрэбныя, што лечаць хваробы, умеюць адвесці беды і няшчасці і ў ліхія хвіліны прыходзяць на дапамогу. Другія ж – больш набліжаныя да чараўніц, часцей шкодзяць, чым дапамагаюць. Гэта *ведзьмы*, якія маюць сувязь са злымі духамі, раздаюць любісту, часам і труцізну, і заўсёды выклікаюць прымхлівую боязь. Таму на Палессі чалавек з маленства настолькі прывыкае да веры ў чарадзейства, у незвычайныя здарэнні, у незямныя сілы, якія часта прыносяць шкоду, што гэты звыштануральны свет здаецца яму другой прыродай. Жывучы ў рэальным свеце, ён на кожным кроку бачыць вынікі дзейнасці духаў, пастаянна час ад часу сустракаецца з імі, мае з імі бясконцыя стасункі.

Знахарка валодае ўсімі спосабамі. Калі каровы не даюць малака, значыць, відавочна хтосьці іх зачараваў і трэба зняць сурокі. Пры гэтым знахарка штосьці гаворыць, шэпча, робіць розныя знакі, і каровы зноў пачынаюць даваць малако. Калі кураняты або гусяняты не растуць, значыць, ім нашкодзілі ліхія вочы. Гэтаму можа даць рады толькі знахарка. Да яе звяртаюцца пры кожнай хваробе, пры любой бядзе, і трэба прызнаць, што часта вера вылечвае і робіць цуды.

Ведзьма ж надзелена вялікай, амаль неабмежаванай уладаю і звычайна выкарыстоўвае яе на зло. Яна ўмее набываць разнастайныя постаці, але часцей за ўсё падкрадаецца да аборы ў выглядзе чорнай жабы і адбірае ў чужых кароў малако. Найбольшыя крыўды яна чыніць суседкам у купальскую ноч, і тады

трэба вельмі сцерагчыся, бо ведзьма ўсю ноч па свеце валочыцца, вышукваючы ахвяры. Каб уберагчы карову ад яе чараў, трэба абсеяць абору вакол крапівою і макам. Перш чым ведзьма ўвойдзе ў абору, яна павінна пазбіраць мак і апячы сабе рукі крапівою. Тым часам заспявае певень, і яна ўжо не зможа шкодзіць. Трэба таксама павесіць на дзвярах грамнічную свечку. Тады яна не асмеліцца пераступіць парог і са злосці так пакусае свечку, што на ёй і назаўтра выразна застануцца сляды ад зубоў. Ставяць таксама барану пры дзвярах; калі нейкае стварэнне наблізіцца да яе, напр., жаба ці мыш, то іх забіваюць. Адразу пасля гэтага сапраўдная ведзьма пачынае хварэць, і па гэтым можна яе пазнаць. Было адзін раз такое здарэнне. Гаспадыня, пільнуючы ў купальскую ноч сваю маёмасць, заўважыла, што да аборы набліжаецца чорная свіння. Яна здагадалася, што гэта, мусіць, ведзьма, і, схапіўшы вялізны кол, пачала яе біць з усяе сілы. Свіння не магла ні абараняцца, ні ўцякаць, а толькі жаласна вішчэла. На наступны дзень адна з жанчын у вёсцы, якую ўжо падазравалі ў чарадзействе, захварэла, а праз тыдзень, калі выйшла з хаты, была яшчэ ўся распухлая ад атрыманых удараў. Тады ўсе пераканаліся ў сваіх здагадках, а тая жанчына мусіла спыніць сваю шкодную дзейнасць. Дбайная і прадбачлівая гаспадыня ўсю купальскую ноч варыць у вадзе *цэдзілку* (палатно, праз якое цэдзяць малако) з уторкнутымі ў яе шпількамі і іголкамі. Ведзьма адчувае ў гэты час уколы, вельмі мучыцца і прыходзіць у хату папрасіць агню, кавалак лучыны і да т.п. Але нічога не трэба ёй даваць. Па начах ведзьмы з некалькіх вёсак злятаюцца на агульныя нарады, садзяцца на вяршынях дубоў і дамаўляюцца, адкуль якая будзе сабе здабываць багацце. Ведзьме заўсёды шанцуе, бо яна на ўсё ўмее ўздзейнічаць. У той час як навокал здыхае жывёла, яе статак застаецца ў добрым стане. Яна адбірае малако ў кароў сваіх суседак ("цягне малако"). Але такое малако нядобрае, у ім ніякага смаку, і яно моцна смярдзіць. Затое смерць ведзьмы бывае вельмі цяжкая. Канае яна некалькі дзён і так мучыцца, што нават пакрыўджаныя ёю злітваюцца і даруюць ёй усё яе зло. Яна кідаецца на пасцелі, махае рукамі; часам робіць такія рухі, нібыта доіць карову. Здаралася, што зграі чорных птушак з неспакойным крыкам зляталіся на дахі. Калі душа з яе вельмі доўга не можа выйсці, то часам блізкія вымушаны зрываць дах і столь; тады яна памірае больш спакойна.

Жыве ў Камаровічах даволі вядомая ўсім жанчына, якой прыпісваюць велізарную ўладу і веды. Яна валодае тысячамі сакрэтаў, якія, на жаль, часцей ужывае на нядобрыя справы. Яна замяшана ў кожнай крымінальнай справе ў наваколлі; некалькі разоў была абвінавачана ў забойстве, але заўсёды ўмела выйсці непакаранаю. Яна гатуе розныя лекі і нават атруту, прычым настолькі моцную, што дастаткова малой дозы, каб ёю забіць чалавека. Я чула, хоць прызнаць гэта за поўную праўду і не магу, што тую атруту гатуюць такім спосабам: спайманую "г*а*дзіну" моцна звязваюць, вешаюць за хвост на сцяне і б'юць яе з усяе сілы, пакуль не здохне. Гадзіна шалее, выпускае пену і шмат яду. Той яд к*а*пае на спецыяльна падкладзеныя кавалкі хлеба, якія потым сушаць і пераціраюць на паршок. Каб каго атруціць, гэты парашок можна насіць пад пазногцем. Падаючы гарэлку, дастаткова намачыць у ёй палец, і яна стане смяротнаю. Таму пры частаванні каго-небудзь гарэлкай заўсёды трэба спачатку самому надпіць пару кропель з кілішка. Такі звычай тут існуе паўсюдна. Жанчына гэтая, Малання, мае велізарны вопыт. Да яе звяртаюцца дзяўчаты, якім пагражае непажаданае мацярынства. Яна так добра ўмее даць ім рады, што амаль не было яшчэ выпадку, каб дзяўчына стала маткаю. Лечыць яна таксама і ад бясплоддзя, і ад няшчаснага кахання, і ад здрады хлопца, і ад мужавай нявернасці. Калі ж яна не можа распазнаць нейкую хваробу, то прыпісвае яе сурочванню. Адзін малады чалавек, што служыў у панскім двары, часта пакутваў ад мігрэні. Жадаючы пазнаёміцца з Маланняй, ён пайшоў да яе параіцца. Доўга яна прыглядалася да хлопца, не даваяраючы яго

шчырасці, нарэшце вынесла прысуд, што хтосьці, зайздросцячы ягонай маладосці і прыгажосці, сурочыў яго. Дала яму нейкае вады жаўтаватага колеру і загадала кожныя тры дні перад узыходам сонца абмываць ёю твар, беручы спачатку ваду ў рот і потым выліваючы яе на далоні. Наколькі гэтае лякарства магло быць карысным, не ведаю, бо засталося нявыкарыстаным.

На любоўныя справы ведзьмы і знахаркі таксама аказваюць немалы ўплыў. Існуе мноства спосабаў, накіраваных на з'яднанне сэрцаў каханага або каханай. "Вілкі і кручок" – гэта косткі кажана, схопленага жыўцом і ноччу занесенага ў новым гаршку ў мурашнік, дзе ён мусіць ляжаць тры дні, пакуль мурашкі не абгрызуць яго цалкам – з'яўляюцца беспамылковым сродкам, каб прываражыць любога жаданага, ці адпрэчыць нялюбага чалавека. Дзеля гэтай жа мэты служыць і нітка, якую працягнулі праз вочы жывога вужа і якую трэба неўпрыкмет працягнуць праз адзенне таго, каго прагнуць мець за мужа ці каханка. Аднак, мне здаецца, што такія жорсткія спосабы існуюць найбольш у фантастычных мроях, чым у сапраўднасці, і сумняваюся, каб калі-небудзь яны былі ўжываныя. Ёсць таксама разнастайныя напоі, якія знахаркі ўмеюць прыгатаваць, і раяць, каму патрэбна, у якасці чараўнічага сродку, але сваіх сакрэтаў нікому не давяраюць, і вельмі цяжка нешта пэўнае пра гэта даведацца. Вера ў незвычайныя сродкі настолькі моцная і такая шчырая між людзей, што яны без найменшага вагання ідуць да знахаркі ці да знахара пры любой патрэбе і самыя звычайныя з'явы прыпісваюць іх уздзеянню. Адна замужняя жанчына, якую моцна любіў і шанаваў муж, расказвала мне, што пасля доўгага сямейнага жыцця той не захацеў ні глядзець на яе, ні знаць, і нават зусім пакінуў яе і падаўся за іншаю ў далёкі край. Са сваёю бядою адправілася яна да знаёмага знахара, які пасля зробленых ім закляццяў і замаўлення сказаў ёй, каб чакала свайго мужа ў вербную нядзелю пасля заходу сонца. Як толькі сцямнела, пачалася страшэнная бура са снегам і шалёным віхрам (было гэта ранняй вясною). Пад хату пад'ехаў воз, а ў ім няверны муж; ён расчулена кінуўся да жонкі, гэтак жа чула быў прыняты ёю, і ад тае пары ў шчырым каханні шмат гадоў пражыў з ёю. Калі хтосьці зычыць зла з'яднанай пары, то дастаткова кінуць на іх жменьку пяску, калі тыя вяртаюцца ад шлюбу дадому, і тады яны перастануць кахацца, і ніколі ім дабра не павядзецца. Калі хочуць нашкодзіць нейкай пары, то дастаткова пакласці перад коньмі маладых, што едуць да шлюбу, дзевяць струкоў гароху, у якіх знаходзіцца па дзевяць зярнятаў. Коні, нягледзячы на ўсе намаганні вазніцы, не зрушаць з месца.

Аднак самая страшэнная помста – гэта *завітка*. Яна выклікае панічны страх і неапісальную пагрозу. Трэба быць невераемным зайздроснікам, мець вельмі злое сэрца, каб зрабіць каму-небудзь завітку. Тым не менш, гэта здараецца часта і прыводзіць да жахлівых вынікаў. Калі завітка зроблена толькі са злосці, несправядліва, без прычыны, то ўсе яе вынікі ўпадуць на таго, хто яе рабіў. Калі ж, наадварот, яна мела слушныя прычыны для гневу, то бяда вінаватаму! Нішто не зможа дапамагчы яму, і лёс будзе помсціць яму за зробленыя злачынствы. Завітка робіцца наступным чынам: жанчына, якая мае крыўду, напр., на суседку, вырашае зрабіць на яе полі завітку. Туды яна ідзе апоўдні, распранаецца дагала, расплятае валасы і выбірае ў жыце суседкі 7 каласоў, звязвае іх чырвонай ніткаю, прыгінае да зямлі і гаворыць: "Кручу, кручу на опакі, штоб не було у N. ні хлеба, ні мукі", або якія іншыя злосныя пажаданні, напр., каб расхварэлася ўся сям'я, каб павыдыхала ўся жывёла і г.д. Суседка, знайшоўшы на сваёй ніве такую завітку, упадае ў роспач, бо прадчувае пагрозу бяды і не ведае, як ад яе пазбавіцца. Калі яна зусім невінаватая, то можа вырваць каласы і занесці іх уночы на могілкі, там пакласці на якой-небудзь магіле, і няшчасці адвернуцца ад яе. Але пайсці адной у цёмную ноч на могілкі – страшная выправа. З усіх бакоў высоўваюцца жудасныя прывіды, яны пужаюць, гукаюць, чапляюцца, нават хапаюць за адзенне.

А азірацца нельга, бо ўсё прападзе, і зноў трэба будзе ісці. Калі ж яна сапраўды мае грэх на сумленні, то нічога ёй не дапаможа, і ўсе беды будуць пераследаваць яе. Пару гадоў таму назад адна жанчына з Заполля, Аксеня Лабачова, украла ў свае суседкі пару вязак ільну; тая зрабіла ёй на полі завітку, жадаючы ёй смерці. Бабуля, якая жала непадалёку ад яе загону, расказвала мне, што калі Аксеня дайшла да завіткі на сваёй ніве, то збялела, як труп, і хоць старалася яшчэ жаць, але рукі ў яе трэсліся, галава круцілася, і яна мусіла вярнуцца дахаты. Потым на працягу трох дзён яна ў цяжкіх пакутах канала. Усіх баб склікалі, але нічога яны не маглі парадзіць. Прыбыў і фельчар, але, уражаны, паспяшаўся як мага хутчэй знікнуць, бо гарачка была такая моцная, што проста кідала яе на пасцелі, яна адпіхвала ўсіх так, што вымушаны былі яе звязаць, і толькі тады яна сканала. Звычайна ж, калі ўбачаць завітку, то нават і не спрабуюць абараняцца, і з абыякавай пакорлівасцю чакаюць прызначанай ім бяды. На маё пытанне, чаму ўжо некалькі месяцаў хворая жанчына не лечыцца, муж яе адказаў з поўным спакоем: “Да не, панейко, уж яна будзе хварэць да Петра, так уж ей задалі”. І сапраўды, каля св. Пятра ёй зрабілася лепей, і цяпер яна зусім здаровая.

Мне здаецца, што ва ўсім гэтым істотным фактарам часта з’яўляецца моцна ўзбуджаная фантазія і вера ў тое, што як зроблена, то так і павінна быць і што ніякая сіла не пераможа таго, што прызначана. А гэтая фантазія настолькі жывая, яскравая, што яны дакладна бачаць і чуюць, адчуваюць і дакранаюцца да звышнатуральных, чыста духоўных рэчаў. Напрыклад, людзі, якія ходзяць пасля смерці, для тутэйшых сялян – такая звычайная з’ява, як і рэальныя людзі, якія ходзяць пры жыцці. Іх трохі палохаюцца, мучаюцца гэтымі наведваннямі, але палічылі б за дурнаватага таго чалавека, які не верыць у існаванне духаў, альбо ўсумніўся ў тым, што можна хадзіць пасля смерці. Ходзяць жа звычайна тыя, хто, паміраючы, не пакінуў усяго ў поўным парадку на гэтым свеце. Напрыклад, знахар, які не даверыў нікому сваіх таямніц; бацька, які несправядліва пакрыўдзіў аднаго са сваіх дзяцей. Ходзяць яны, пакуль ім гэта прызначана, і нічога тут нельга зрабіць. Парою, калі яны ўжо вельмі дакучаюць сваім няспынным снаваннем па хаце, можна іх напалохаць, нечакана запаліўшы грамнічную свечку. Тады яны знікнуць, пакінуўшы толькі густы дым альбо імглу. Але гэта дзейнічае нядоўга. Калі яны папросяць пра што-небудзь, то абавязкова трэба гэта выканаць. Просяць жа звычайна нейкую дробязь. Чула я, напрыклад, што адна баба пасля смерці доўга дакучала сваёй нявестцы, прыходзячы кожную ноч, пакуль нарэшце не папрасіла шчопаць маку. Гэты мак нявестка павінна была пажаваць, пагрызці; баба загадала загарнуць яго потым у анучку, завязаць чырвонаю ніткаю і закапаць на сваёй магіле. І з той пары больш не прыходзіла. Каб перашкодзіць такім хаджэнням пасля смерці, нябожчыкаў часта хаваюць босымі, думаючы, што гэта не дазволіць ім свабодна хадзіць. Аднак не заўсёды такое дапамагае. Таму часта прывальваюць магілу вельмі цяжкой калодаю ці каменнямі. Але разумнейшыя насміхаюцца з гэтага, гаворачы, што зробленае ніяк не дапаможа, паколькі “цень усюды перэлезе”. Заказваюць таксама жалобны малебен, але, на іх думку, гэта не надта дапамагае.

Трэба, аднак, прызнаць, што ўяўленне пра замагільнае жыццё нябожчыкаў набывае часамі ўзрушальныя формы. Памяць пра памерлых не знікае зусім; наадварот, яна ўвесь час працягваецца і праяўляецца ў абрадзе пад назваю *Дзяды*. Два разы на год, увосень і вясною, адбываецца гэтая ўрачыстасць – з абавязковым зборам блізкіх людзей, з сапраўднай першабытнай наіўнасцю. Вясною ў Праводную нядзелю, якая завецца *Святою*, з кожнае хаты ідуць на могілкі, прыносяць з сабою гарэлку, розныя стравы і яйкі, засцілаюць абрусам магілу і, пасеўшы каля яе, закусваюць. Успамінаюць сваіх памерлых са словамі: “Памяні, Божэ, майго бацька, нехай у царстве небеском сoподчывае і нам з таго сьвета

попрыяе". Рэшткі закускі пакідаюць на магіле. Увосень, напачатку лістапада, урачыстасць *дзедоў* звычайна прыпадае на суботу. Напярэдадні трымаюць строгі пост. У суботу раніцай гаспадыня нясе ў царкву на набажэнства пасвяціць за душы нябожчыкаў абавязковую на гэты дзень страву – *канун*. Складаецца ён з разваранага ў вадзе мёду і трох булачак з пшанічнае мукі, якія завуць *пампушкі*; потым іх мачаюць у гэты мёд. Пасля набажэнства прыбіраюць і вычышчаюць усю хату, а пад вечар садзяцца за стол. На *покуці* гарыць васковая свечка, на стол выстаўляюць стравы, і кожны з прысутных адкладвае ў асобную міску першы кавалак з кожнае стравы, льюць туды таксама і гарэлку перад тым як выпіць. Пачынаючы вячэру, гаспадар хрысціць лыжкаю канун, які стаіць пасярод стала, і кажа: "Сьвятые дзеды, прыходзіце к нам вечэраць, прашу вас на вечэру!" Потым міску з ядою, адкладзеную для нябожчыкаў, адносяць на могілкі. Настрой ва ўсіх урачысты і паважны.

Апрача духаў памерлых, наш народ ведае шмат іншых звышнатуральных істот, дзейнасць якіх бывае часцей шкодная, чым карысная. Існуць, праўда, у яго разуменні анёлы (*Янгалы*), але гэтыя, бадай што, вельмі мала ўмешваюцца ў людскія справы; жывуць яны ў *раю* і служаць Богу. Анёлаў-ахоўнікаў наш народ наогул не ведае. А на зямлі найчасцей дзейнічае *злый* – чорт, які ўмее ператварацца ў розныя постаці, шкодзіць людзям, спакушае іх на зло, падгаворвае да п'янства і крадзяжу, чыніць розныя свавольствы, напр., на роўнай дарозе выварочвае цяжка накладзеныя вазы, у зімовую пару насылае снежныя віхуры і скіроўвае на зусім не тыя дарогі і г.д. Існуе два віды гэтых чарцей: старэйшы, а можа і некалькі старэйшых, якія аддаюць распараджэнні, і ніжэйшыя, якіх вельмі шмат і якія выконваюць загады. Часамі можа здарыцца, што такі з ніжэйшага раду *злый* аказваецца пасланы на службу чалавеку, а гэты апошні абавязкова прадае яму за гэта сваю душу. Але як такія дамоўленасці ажыццяўляюцца, пра гэта я не магла даведацца.

У кожнай хаце, у кожнай гаспадарцы жыве г. зв. *Дамавік* – істота няўлоўная і вельмі шкадлівая. Ніхто яго ніколі не бачыў, але тое, што ён вырабляе, далося ў знакі кожнаму. Гэта ён уночы, калі ўсе спяць спакойным сном, заязджвае коней, гойсаючы на іх па палях і так іх вымучваючы, што пад раніцу бедныя жывёліны запарваюцца і пакрываюцца пенаю (ад гэтага дапамагае падвешаная над дзвярыма стайні забітая сарока). Дамавік так дражніць сабак, якія прыснулі, што тыя зрываюцца і жаласна выюць. Ён знянацку адгукаецца трэскам і грукатам у коміне і па сценах, палохае адзінокіх жанчын, выхоплівае зэдлік з-пад сядзячага, і той падае на зямлю. Яго ўсе ненавідзяць, але не могуць нічога зрабіць супраць яго штукарстваў і вымушаны спакойна цярпець.

Ёсць таксама і *Злыдні* – малыя, гарбатыя, скручаныя стварэнні, у вялізных ботах і ў шапках; час ад часу нападаюць яны на пэўную хату, і тады ўжо там нічога не вядзецца. Звычайна яны пасяляюцца ў падпеччы, адтуль робяць выхады па ўсёй гаспадарцы і адбіраюць ўсялякі прыбытак (*спор*). Яны і ў гаршкі з ежаю заглядваюць, і ў лепшую кашу пяску падсыплюць, у самае тлустае малако вады дальюць, у дзяжы хлеб папсуюць, у курэй яйкі павыкрадаюць, не даюць збіцца маслу, ва ўсім шкодзяць і надакучаюць. У выніку хата, дзе яны пасяліліся, бяднее, і ў яе закрадваецца галеча. З'яўляюцца яны часам без усялякае прычыны, але можна іх таксама наклікаць празмернай пагоняй за прыбыткам, нястрыманасцю ў працы. Калі, напр., хто, падсілкоўваючыся, працуе, дык можна быць упэўненым, што на яго "злыдні" нападуць.

Калі я гаварыла пра дзяцей, то згадвала пра *Начнікоў*, якія адбіраюць у немаўлятак сон, б'юць іх, казычучы ці шчыкаючы іх уночы.

У лесе жыве *Лесный Дзед*. Ён хаваецца ў глыбокіх і недасягальных балотах і вабіць да сябе заблукалае быдла, так што часта бедная карова, хоць і ведае

дарогу ў вёску і адчувае, што трэба вяртацца, аднак усё далей накіроўваецца ў лес і, нарэшце, гіне ад ваўкоў, якія нападаюць на яе. Але супраць гэтага ў знахароў ёсць свае сродкі: яны ўмеюць рабіць на дрэвах такія знакі ("засекі"), што згубленая жывёліна не зможа далей кроку ступіць, і стаіць, як укапаная, хоць бы і цэлы дзень, пакуль яе не знойдуць. Але часам і такое адшукванне сярод лясных прастораў бывае вельмі цяжкім і непасільным. Тады можна ўпрасіць знахара, каб той накіраваў жывёліну дадому. Знахары не любяць выкарыстоўваць такі сродак, напэўна, баючыся помсты ляснога дзеда. Аднак у крайнім выпадку, калі ўсе пошукі засталіся безвыніковымі, хапаюцца і за гэты. Якім спосабам карыстаецца знахар у такім выпадку – гэта ахутана глыбокай таямніцай; ён толькі перасцерагае, каб вароты ў двор і дзверы ў абору былі шырока адчыненыя, бо жывёла, гонячыся што ёсць духу, можа разбіць сабе аб іх галаву, бо не зважае тады ні на якія перашкоды. Трэба падпільноўваць яе, і як толькі жывёліна ўскочыць на падворак, як мага хутчэй зачыняць за ёю дзверы. Прыбягае згубленая карова спацелая, дрыжачая, спалоханая, і ўжо ў аборы доўга яшчэ з трывогаю азіраецца, нібыта нешта страшнае бачыць за сабою. Расказваючы пра гэта, дадаюць ад сябе: "Недобрэ так рабіць".

*Русалка* – гэта дзяўчына, якая, быўшы нарачонаю, памерла, не дачакаўшыся шлюбу. На працягу ўсяго года яна хаваецца дзесьці па лясах, а вясною выходзіць са свайго сховішча і, перапоўненая прагаю кахання, шукае сярод маладых мужчын свайго нарачонага. Аднак яна і іншых мужчын прыварожвае да сябе, адбіваючы ад жонак і нявест, таму ў жанчын і нянавісць да іх. Расказваюць, што русалка – гэта вялізных памераў жанчына з поўнымі і пукатымі грудзямі, з расплеценымі валасамі, прыбраная ў раскошныя строі з блёсткамі, *вельмі чапурна*. Яна бегае па палях сярод жыта з пранікам у руцэ; схопленага забіве гэтым пранікам альбо прытуляе да грудзей і казыча да смерці. У некаторых мясцовасцях Палесся яшчэ захоўваецца вельмі арыгінальны звычай выгнання Русалкі. Выбіраюць сярод вясковых дзяўчат самую прыгожую, адмыслова апранаюць і раным-рана са смехам і крыкам выганяюць яе з вёскі пры ўсеагульнай весялосці. Трэба памятаць, што выганяюць яе адны толькі жанчыны і дзяўчаты; мужчыны не бяруць удзелу. У Камаровічах, аднак, я не чула пра гэты звычай. Ёсць некалькі песень пра Русалак, але няшмат з іх можна даведацца пра тое, як уяўляюць сабе гэтую постаць у народзе.

Наколькі ўсе гэтыя вераванні шчырыя, меркаваць цяжка. Мне здаецца, што ў свядомасці жанчын не ўзнікала дагэтуль ніякіх сумненняў, і забабонныя абрады яны выконваюць з непахіснай вераю ў паспяховасць іх вынікаў. Мужчыны, маючы большыя сувязі з навакольным светам, пачынаюць больш крытычна глядзець на існуючыя звычкі, часам нават зняважліва адгукаюцца пра старадаўнія ўяўленні – асабліва тыя з іх, хто пабываў у далёкіх краях і доўгі час жыў там у зусім іншым асяроддзі людзей; яны адкрыта насміхаюцца над мясцовай адсталасцю. Аднак, і яны не ўхіляюцца ад абрадаў, бяруць ва ўсім удзел і паступова, з надыходам старасці, у іх пачынаюць забывацца ўражанні з далёкага свету, і прыроджаны кансерватызм бярэ верх над нейкімі часовымі ўплывамі, і яны вяртаюцца да таго, чым былі ззамаладу. Уплыў асяроддзя настолькі моцны, і асяроддзе гэтае мае такі маналітны і значны характар, што супраціўляцца яму не можа не толькі просты цёмны вясковец, але нават цывілізаваны і адукаваны чалавек. Я ведаю мясцовых жыхароў з універсітэцкай адукацыяй, якія, калі захварэе жывёліна, пасылаюць па знахара, і свой зубны боль яны лечаць замовамі, а на могілкі не пайшлі б увечары ні за якія скарбы на свеце. Я ўжо не кажу пра цэлы клас аканомаў, ляснічых, гаспадынь, забабоннасць якіх знаходзіцца на ўзроўні самага цёмнага люду.

Пра народнае лячэнне вельмі цяжка атрымаць дакладныя звесткі. Перш за ўсё з вялікай неахвотаю сяляне раскрываюць спосабы лячэння перад тымі, хто можа крытычна паставіцца да іх. Даволі далёкія стасунскі з панскім дваром парадзілі

іх пэўны недавер, а пастаянная боязь выглядаць смешнымі не дазваляе ім быць адкрытымі: “Ой, паны, усюды насьмеюцца!” Калі запытаеш пра параду, як трэба лячыць, яны неахвотна дзеляцца ёю, перакананыя, што яна не будзе скарыстаная. Самі ж, аднак, часта прыходзяць з просьбаю памагчы пры хваробе, але больш пажаданым для іх у гэты час становіцца які-небудзь прысмак, чым лякарства; просяць заўсёды варэння або яблык, часам віна, і за гэта вельмі ўдзячны. Ахвотна потым шукаюць паратунку ў вядомым ім ужо лякарстве, як, напрыклад, у хініне. Бо з усіх хвароб, можа быць, ліхаманка больш за ўсё іх і мучыць. Увосень і вясною яна пануе паўсюль і бывае такая цяжкая для лячэння, што парою на працягу некалькіх месяцаў не дае спакою і нярэдка заканчваецца сухотамі або поўнай вычарпанасцю арганізму. Завуць яе *трасца*. Найгоршым тыповым праклёнам бывае: “Трасца тваей маці!” Часта таксама здараюцца тыф і рэўматычныя гарачкі. Затое воспа і іншыя высыпкі сустракаюцца вельмі рэдка. Часам лютуе сярод дзяцей шкарлятына. Славуты палескі каўтун таксама не мае ахвяраў у Камаровічах, хоць у наваколлі ёсць цэлыя вёскі, заражаныя гэтай хваробаю. Адносна вялікая смяротнасць пануе сярод дзяцей, хоць дакладных звестак пра гэта мы не маем, бо валасная статыстыка вельмі адвольная. У Камаровіцкай воласці з яе насельніцтвам прыкладна 4500 чалавек памірае кожны год 80-100 душ.

Дадам тут яшчэ пару агульнаўжываных лекавых сродкаў.

Ад болю зубоў выкарыстоўваюць адвар з дубовае кары, якім палошчуць рот па некалькі разоў, нават калі ўжо зуб перастане балець. Кладуць на пульс рукі з хворага боку цёрты хрэн, ён шчыпле і на нейкі час прыносіць палёгку. Часцей, аднак, звяртаюцца да замаўлення. Адбываецца яно наступным чынам. Калі выйдзе месяц (без месяца замаўленне зусім не дапамагае), хворага выводзяць з хаты і загадваюць яму ўглядацца ў дыск свяціла. Шаптуха ж, паклаўшы палец на хворы зуб, паціху гаворыць такія словы: “Як дуб у лесе далёко, як месяц у небе усоко, як камень у моры глыбоко. Як гэты тры браты зберуцца, то нехай табе зубы разболяцца”. І тройчы дадае малітву “Багародзіца”. Можна таксама і самому сабе дапамагчы. Першы раз убачыўшы ў небе месяц-маладзік, трэба ўзяць крысо адзежыны ў руку, перахрысціцца ім і, гледзячы на месяц, праказаць прыведзенае вышэй закляцце.

Ад болю галавы яе перавязваюць хусткаю, намочанай у воцаце. Калі галава баліць ад чаду, кладуць у вушы свежыя журавіны і часта іх змяняюць.

Калі саспявае скула, яе абкладваюць пшанічнай мукою, змяшанаю з мёдам, што і дапамагае ёй хутчэй прарваць.

Ад рэўматызму і ламаты ў касцях ужываюць смажанае конскае сала на спірце. Гэтай маззю націраюць балючыя месцы – кажуць, што вельмі хутка дапамагае.

Ад хваробы св. Валянціна – вялікай хваробы – даюць піць вынутыя з-за вуха парасяці костачкі, сцертыя на парашок і звараныя.

Калі павінен з’явіцца каўтун, тады суставы баляць, у галаве шуміць і ўсё ные. Тады не трэба перашкаджаць каўтуну, а наадварот, трэба яму дапамагчы. Дзеля выпрабавання, ці гэта сапраўды каўтун збіраецца звівацца, носяць на шнурку ягнячую воўну, увязаную нізка на грудзях, пад ямкаю. Калі каўтун мусіць звіцца, то гэтая воўна зблытаецца і скруціцца за некалькі дзён. У такім выпадку трэба піць настоеныя на гарэлцы сушаныя і сцертыя мухаморы, і валасы адразу пачнуць звівацца. Дапамагае таксама барвенак: яго запарваюць у вадзе і п’юць. Каўтун нельга зразаць самавольна. Альбо здараецца, што ён сам спадзе, альбо яго можа ў Вялікую суботу зняць знахарка, пры гэтым яна ўжывае разнастайныя шэпты. Тады яго трэба занесці да вады і ўтапіць. Кажуць, што паколькі ў гэты дзень у царкве здымаюць Хрыста, то і каўтун можна зняць.

Пры нястраўнасці ў жываце з вялікай прыемнасцю ўжываюць рыцынавы алей, лічачы яго вельмі смачным лякарствам.

Жанчынам адразу пасля нараджэння дзіцяці часта даюць звараны ў віне ці нават у гарэлцы перац і карыцу, што павінна служыць дзеля хутчэйшага ачышчэння. Потым пояць іх рамонкам. Дзіцяці таксама ў першыя два дні нічога акрамя рамонку не даюць. Калі здарыцца, што пасля родаў недастаткова хутка надыходзіць ачышчэнне, ад чаго ўзмацняецца гарачка і нападаюць розныя болі, рыхтуюць для хворай моцнае, але часам эфектыўнае лякарства: мурашнік разам з мурашкамі заварваюць у вадзе, потым выварочваюць палатно і прыкладваюць да страўніка. Я ведаю адну маладую жанчыну, якая пасля такога лячэння хутка ачуняла, хоць перад гэтым, здавалася, была блізкая да смерці. Яшчэ пры такіх самых выпадках даюць адвар з жытніх ражкоў.

Ад няплоднасці лечацца па-рознаму. Наступны сродак, як сцвярджаюць, беспамылковы: трэба знайсці ў лесе бярозу, што зраслася з дубам, перад поўняю сашкрэбці трохі кары з аднаго і з другога дрэва, заварыць і выпіць. Другі сродак агульнавядомы: пупавіну ад нованароджанага здаровага дзіцяці сцерці на парашок і выпіць з вадою ці гарэлкаю. Выкарыстоўваюць яшчэ і такі спосаб: выразаюць па кавалачку з кашулі жонкі і мужа, шматкі гэтыя спальваюць, і попел даюць выпіць разам з вадою мужчыну. Адна жанчына расказвала мне, што 12 год не мела дзяцей, за што яе муж біў, і ўся сям'я здзекавалася, думаючы, што яна сама сабе наўмысна шкодзіла нейкімі спосабамі, каб не раджаць, і толькі пасля ўжывання гэтага сродку зацяжарыла і мела потым аж дзевяцёра ўцех, і сярод іх трох дзяўчынак за адзін раз нарадзіла. Аднак ёсць выпадкі, калі ніякія лекі не могуць дапамагчы; можна нават па знешнім выглядзе зразумець, што пэўная асоба патомства мець не будзе – “нема ў ней народу”. Такія людзі, якія не могуць мець дзяцей, самі звычайна нараджаюцца падчас другой квадры. Народжаныя ў поўню, на маладзіку ці ў апошнюю квадру заўсёды плодныя.

Калі я гаварыла пра дзяцей, то згадвала пра некаторыя лекі, якія ўжываюцца ўсімі. Тут жа дадам, што ад сутарагаў ім даюць піць адвар з карэнняў півоні. Відаць, гэта аказваецца вельмі эфектыўным, бо з гародчыка ў панскім двары заўсёды выкрадаюць усю півоню. Высыпку і каросту ў малых дзяцей змазваюць алеем альбо смятанкаю, часам свежым маслам.

Жаўтуху (*жоўтонку*) у дзяцей лечаць купаннем у моркве; вараць у вадзе моркву і купаюць у ёй тры дні запар.

У адвары з макавых лушпаек купаюць капрызных дзяцей, каб лепей спалі.

Ад болю страўніка і наогул ад усіх хвароб дзецям робяць купанне ў адвары старой саломы, выцягнутай са страхі.

Паміраючага кладуць на голых дошках і моцна сціскаюць яму рукі. Паляць пры ім таксама грамнічную свечку, каб яму лягчэй было паміраць.

Ад ран, як у людзей, так і ў жывёлы, служыць сабранае лісце “падорожнічка, олюшніка, малінніка” і маладзенькія бярозавыя лісточкі, сабраныя абавязкова ў дзень Купалы. Ад чарвякоў жа, што завяліся ў ранах у свойскай жывёлы, у сабак, часам нават і ў людзей, дапамагае наступная замова. Перад усходам сонца, або пасля заходу, на трэці дзень маладзіка, гледзячы на пакутніка нібыта абыякава, так, каб ніхто не здагадаўся, трэба пералічыць на пальцах да дзевяці наступным чынам: пачынаючы ад першага пальца да пятага і зноў на той самай руцэ да чацвёртага, потым ад чацвёртага да першага, да пятага і назад да першага. Так трэба лічыць кожны дзень па тры разы. Тры дні паўтараюць гэтае замаўленне, і чэрві самі высыплюцца, і ўжо на трэці дзень ніводнага не застанецца. Даюць таксама ад ран пэўны гатунак неачышчанага шкіпінару, вядомага тут як “шпіганар”.

Хваробы горла, на якія часта хварэе нерагатая жывёла, лечаць адварам з зелля, якое завецца “багуном”. Кладуць ім таксама ў вушы часнок. Часам вушы надразаюць, а яшчэ моцна націраюць горла жалезам ад сякеры. Наогул супраць хвароб свойскай жывёлы так шмат ужываюць антымоніума (сурмы), што гэта нават увайшло ў

прыказку, калі гавораць, што чагосьці дадзена празмерна: “перэдаў антымоніі”. Дзеля паляпшэння апетыту прызначаным на ўбой кабанам даюць кветкі багуну.

Каровам адразу пасля ацёлу даюць у корм так званую *траянку*: рознае запаранае збожжа, змяшанае разам. Калі ў кароў часам узнікаюць трэшчыны ці раны на вымені, то шмаруюць балючыя месцы салам або смятанаю.

Раны ў жывёл на языку націраюць мазямі з мёду, часныку і гусінага памёту, і гэта нібыта добра дапамагае.

Калі хочуць, каб гарбузы і бручка былі салодкія, то перад засяваннем трэба на адну ноч вымачыць насенне ў вадзе з цукрам.

Сеючы буракі, трэба ўторкнуць у граду калок, да якога былі прывязаныя кросны старой бабы, тады яны добра ўродзяць і будуць вельмі смачныя.

## VIII

Святы ўяўляюцца нашымі сялянамі не толькі як дні рэлігійнай і царкоўнай урачыстасці, але яшчэ і як вясёлыя і доўгачаканыя дні года. Адпачынак, забава, агульная весялосць, markup рознакаляровыя строі, лепшая за паўсядзённую страва, – усё гэта становіцца прычынаю таго, каб зрабіць са святаў нібыта залатую нітку, якая снуецца паміж шэрай пражы будзённага жыцця, зззяючы прыгожым і чароўным бляскам. Пры гэтым святы ўтвараюць народны каляндар. Простыя людзі маюць вельмі недакладнае ўяўленне пра гады, месяцы, стагоддзі. Народ наш лічыць час паводле святаў: “Тыдзень перэд Піліпоўкой”, “назаўтра по Радоўніцы” і г.д.

Дадам тут слоўца пра разнастайныя святочныя абрады.

Свята Божага Нараджэння, *Рожство*, альбо часцей *Коледы*, святкуюць з вялікай урачыстасцю. На калядную куццю да вечара нельга ўжываць вараных страў. Гаспадыня занята прыбіраннем хаты: мые лаўкі, сталы, вокны і нават сцены, калі яны не пабеленыя, вымятае хату і сенцы і стараецца ўсяму надаць святочны выгляд. Пад вечар ідзе да святара, якому заносіць у падарунак гаршчок ячменнай кашы і булку хлеба, а наўзамен атрымлівае г. зв. *малітву* – бутэльку свянцонае вады, якую ўсе, хто ёсць у хаце, павінны пакаштаваць у час вячэры напярэдадні Ражства. Калі на небе засвецяць першыя зоркі, на стол кладуць каласы, па адным з кожнага снапа, а потым, калі з іх высыплюць зярняты, лічаць іх і варожаць: колькі зярнят, столькі ў наступным годзе будзе стагоў. Каласы ж звязваюць, вешаюць над абразамі і ўвосень засяваюць імі першы загон. Таксама рассцілаюць сена на стале пад абрусам, а на “покуці”, у “каробцы”, напоўненай сенам, ставяць міску з *куццёю*. Куцця – гэта ячменная каша, згатаваная з алеем. Пасля вячэры сена са стала кладуць у тую самую каробку, дзе яно ляжыць усе тры святочныя дні, потым частку аддзяляюць жывёле і трохі даюць курам у “катух”, бо ад гэтага яны добра нясуцца. Перад вячэраю гаспадар выходзіць з хаты і гаворыць: “Мароз, мароз, хадзі з намі куццёвацы! Да нашэй грэчкі не помарозь! Да нашэго проса не помарозь!” На вячэру падаюць звычайна некалькі страў: бураковы боршч з грыбамі, часам з рыбаю, грачаныя аладкі з алеем, булачкі з пшанічнае ці грачанае мукі (*пампушкі*) з макавым малаком або з *сытою*, яшчэ прасяны крупнік і, нарэшце, заўсёды на заканчэнне – куццю. Таксама п'юць шмат гарэлкі. Калі пачынаюць есці куццю, дзяўчаты крышку крадуць яе і хаваюць у хустку, а потым, ідучы спаць, кладуць яе сабе пад галаву. Хто ў гэтую ноч прысніцца дзяўчыне, той стане яе мужам. З-пад абруса выцягваюць сена. Калі акажацца доўгае сцябло, гавораць, што той вырасце высокі. Глядзяць таксама на зоркі. Калі яны свецяць ясна, то ўраджай будзе добры. Калі чарнее дарога, а снегу так мала, што на выезджаных месцах відаць зямлю, дык авёс і гародніна будуць добрыя. Дзяўчаты варожаць яшчэ гэтак: кідаюць у начоўкі некалькі зярнят бобу, кожная памячае сваё, і трасуць начоўкі: чыё зярнятка выпадзе, тая неўзабаве выйдзе замуж.

Пасля вячэры дзяўчаты збіраюцца ў невялікія гурты (хлопцы таксама, але асобна) і ідуць па вёсцы калядаваць. *Коляднічкі* падыходзяць пад вакно хаты і пачынаюць такімі словамі: “Добры вечэр, пане господару, ці сьпіш, ці лежыш, ці ўсё добрэ чуеш, ці засьпеваці? Ці з ласкі колядку даце?” З хаты адказваюць, каб спявалі. Гэтыя песні не заўсёды маюць набожны змест. Гаворыцца ў іх пра нараджэнне Хрыста, але таксама і пра дзяўчыну, якая сваёй прыгажосцю зачаравала трох хлопцаў, і пра варанога каня незвычайнай адвагі, і пра зялёныя квітнеючыя сады. У адной жа з іх – проста выпрошваецца ўзнагарода. Тым толькі ад звычайных песень яны адрозніваюцца, што пасля кожнае страфы паўтараецца: “*Сьвятый вечэр!*” Мелодыя манатонная і аднолькавая ва ўсіх песнях. Калі яны заканчваюць спяваць, з хаты ім выносяць невялікі дар: кавалак сала, пару яек, трохі круп і да т.п.; часам даюць ім па некалькі капеек. Дары гэтыя, якіх назапашваецца даволі шмат (бо спевы доўжацца на працягу ўсяго святочнага перыяду), збіраюць сумленна, прадаюць у карчме, а грошы аддаюць у царкву. Калі гаспадары марудзяць з дарамі для каляднікаў, то з-за вакна нагадваюць: “Кароткіе сьвіткі, померзлі лыдкі, кароткіе кожушкі, померзлі душкі”. Скончыўшы спевы, кажуць: “От, гэтым словом, жывіце з Богом – сьвятый вечэр! І з саседкамі – сьвятый вечэр! З сваімі дзеткамі – сьвятый вечэр! З усімі намі, з прыяцелямі – сьвятый вечэр! Не бавіце, хутко дарыце – сьвятый вечэр!”

У першы дзень свята ўся вёска, прыбраная ў святочнае адзенне і ў чыстыя кашулі, ідзе ў царкву на набажэнства. Потым надыходзіць абед, які складаецца не менш як з трох страў: гэта боршч або капуснік з мясам, часам крупнік з малаком, свежыя каўбасы, мяса свіное, або прасяная каша з салам, часам аладкі з тварагом і заўсёды гарэлка. Ядуць шмат і з апетытам. Урэшце рэшт кладуцца спаць, ці гасцююць па хатах. Ні вялікіх збораў, ні танцаў пакуль няма. А ўвечары каляднікі зноў спяваюць песні.

Наваголнюю куццю (*Васілья*) спраўляюць так, як і напярэдадні Ражства Хрыстовага. У гэты дзень вячэраюць з “куццёю”. Называецца яна “другая куцця”. На гэты раз дзяўчаты таксама крадуць трошкі куцці і кідаюць у міску з вадою. Калі яна выплыве наверх – дзяўчына выйдзе замуж; калі пойдзе на дно – будзе сядзець дома і далей. Вечарам хлопцы ідуць “шчодроваць” па вёсцы, пры гэтым вядуць з сабою “казу”. Паводле звычаю, тут павінна прысутнічаць толькі каза, але дзеля забавы прадстаўляюць таксама і іншых жывёл: каня, вала. Гэты абрад дае магчымасць разыграць своеасаблівы маскарад: адзін прыбіраецца ў дзеда, другі – у цыгана, іншыя – у каралёў ці жанчын. Пераўвасабленні заключаюцца пераважна ў фарбаванні твару сажаю, у прывязванні вялізных барод, парыкоў і гарбоў. “Каза”, апранутая ў вывернуты кажух, мае галаву, зробленую з пакулля і палатна, бараду і рогі. Вядзе яе на вяроўцы дзед з вялікім кіем. Суправаджаюць яе музыкі – з барабанам і скрыпкаю. Каза скача, танцуе, ківае галавою, круціцца, а дзед штохвіліны лупіць яе кіем, у той час калі іншыя спяваюць адпаведныя моманту песні на вясёлую, жывую мелодыю. Нарэшце дзед кажа: “Поклоніся, козунька, пану господару да й господыні”. Каза пачынае перад кожным рабіць паклоны. Звычайна найперш з казою прыходзяць у панскі двор, дзе атрымліваюць пачастунак і некалькі злотых, потым ідуць у кухню, у фальварак, дзе іх усюды гасцінна сустракаюць. Гучаць узаемныя жарты, чыняцца розныя свавольствы; дзеду не раз падпальваюць бараду, цыган крадзе курэй і г.д. Часам цыган варожыць паненкам і панічам. Варожбы гэтыя, наспех прадказаныя нібыта на картах, заўсёды аднолькавыя: усім абяцаюць сто гадоў жыцця, прыгожую жонку або прыгожага мужа і “багато грошы”. У вёсцы “каза” таксама мае вялікі поспех. Натоўпам яе водзяць ад хаты да хаты, да позняе ночы яна скача і танцуе і нават на наступны дзень адведвае рэшту хат у вёсцы.

Дзень Васілля нічым не адрозніваецца ад іншых свят. Кожны, хто можа, ідзе

ў святочным убранні ў царкву. Муж і жонка ў гэты дзень выказваюць узаемна пажаданні адзін аднаму: “Дай нам Божэ, штоб мы за год зноў таго дня дочэкалі ў шчасцю, у здарові”. Абед выстаўляюць паводле магчымасці.

Перад святам Трох Каралёў спраўляюць трэцюю куццю. Дзяўчаты ў гэты дзень варожаць так: некалькі арэхаў, з якіх кожны пазначаны адной з дзяўчат, кладуць у кучку на стале і хуценька накрываюць далоняй; калі каторы выкаціцца з-пад далоні, значыць тая, якою ён памечаны, выйдзе замуж.

Свята Трох Каралёў (*Крэшчэнье*) вельмі ажыўленае. У гэты дзень праваслаўная царква з вялікай урачыстасцю адзначае асвячэнне вады. У Камаровічах паблізу няма вялікае вады, таму вяскоўцы вымушаны здавальняцца асвячэннем студні, што знаходзіцца на двары ў фальварку. Бацюшка ў суправаджэнні працэсіі ідзе да студні і асвячае ваду; адразу ж сярод натоўпу пачынаецца вялізны рух: кожны жадае як мага хутчэй зачэрпнуць вады і чым паболей занесці дадому. Бо такую свянцоную ваду трэба заўсёды мець у хаце: ёю абмываюць нованароджаных дзетак, каб добра раслі; ёю акрапляюць цялятак, як толькі яны прыйдуць на свет – гавораць, што потым “не будзе ўрочлівэ”.

Перыяд ад Хрышчэння да пачатку Вялікага посту – самы вясёлы на працягу года. Гэта сапраўды карнавальны час: пры адноснай заможнасці людзей і іх прыроджанай ахвоце да забаў ён праходзіць надзвычай весела. Гаспадарчыя работы тады не надта вялікія, хатнія запасы яшчэ не вычарпаныя; марознае, але здаровае паветра і доўгія вечары настройваюць на сяброўскія зборышчы. Менавіта ў гэты час адбываецца шмат вяселляў, наўкола гучна і весела. У гэты час усталёўваецца зімовая дарога, якая дазваляе людзям, што жывуць у бліжэйшых вёсках, узаемна наведваць сваіх крэўных. Такія адведзіны збіраюць у адну хату кумоў і суседзяў, там іграе музыка і адбываецца “вечорынка”. Пасля яе ідуць другая і трэцяя, бо кожны хоча пачаставаць сяброў у сябе. Хлопцы і дзяўчаты ўгаворваюць сваіх бацькоў зладзіць бяседы і забавы. Уся вёска кожны вечар грыміць ад жывой музыкі, якую суправаджаюць спевы і вясёлыя выкрыкі разгулянай моладзі. Для палескай хаты характэрна вялікая гасціннасць і заўсёды шчодры і раскошны прыём. На стале, засланым чыстам абрусам, з’яўляюцца місы з ядою, каля іх ляжаць драўляныя лыжкі, паколькі тут прынята есці некалькім асобам з аднае міскі. Калі не хапае за сталом месца, то садзяцца па чарзе. Тым часам іншыя, у чаканні сваёй чаргі, працягваюць танцаваць. На стол падаюць боршч альбо крупнік з салам, потым у адной місе тварог з растопленым салам, а побач аладкі з грачанае мукі. Кожны бярэ ў пальцы аладку і зачэрпвае ёю крыху тварагу. Яешня з бітых яек лічыцца вялікім прысмакам, смажаць яе на масле. Часам пры вялікім зборышчы гаспадыня мусіць разбіць у яе са дзве капы яек. Вараць таксама сушоныя чорныя ягады з мёдам, або свайго вырабу макароны на малацэ. А на астатняе звычайна падаюць прасяную кашу з салам або з мёдам – страву, якую вельмі любяць. З’еўшы яе, кажуць: “По кашы, то уж не будзе пашы”. Гарэлкі заўсёды і ўсюды п’юць як найбольш. Гаспадары павінны запрашаць гасцей па некалькі разоў, каб елі і пілі; яны абавязаны прымушаць іх да гэтага – тады толькі іх будуць лічыць ветлівымі, інакш госці будуць гаварыць: “Усего було. Толькі пынукі не було”.

Запусты (*Месоед*) бываюць надзвычай вясёлыя. Цэлы тыдзень перад Вялікім постам не спыняюцца забавы і гулянкі. Ядуць таксама як найсмачней, нібыта робячы запас сіл і весялосці на доўгае і шчырае выкананне посту.

З надыходам Вялікага посту ўсе забавы спыняюцца, замаўкае музыка. Аднак ніякае набожнасці ў гэты дзень не назіраецца. Пасля смачнага запуснага харчавання ўсе, маладзейшыя і старэйшыя, жанчыны і мужчыны ідуць разам у карчму “зубы полоскаць”, а пад вечар усе п’яныя, ледзьве трымаюцца на нагах. А маладыя жанчыны, у якіх у гэтым годзе нарадзілася дзіця, купляюць чвэрць кварты гарэлкі і нясуць да сваіх бабак, каб з імі разам выпіць і пост распачаць.

Адначасова з Вялікім постам у вёсцы настае цішыня, пачынаюцца работы ў полі. Варожаць на тое, якога чакаць ураджаю. Калі першы на весну месячык “маладзік” мае апушчаныя ўніз ражкі, дык жыта будзе “ядрэнэ”. Тое самае, калі журавы прылятаюць не разам у статку, а цягнуцца паволі, па адным. Калі ўбачыш вясною першага хрушча, трэба яго спаймаць, і калі пад ім паміж ножак ёсць многа маленькіх шарыкаў, нібыта яечак, то напэўна ўродзяць грэчка, лён і гародніна. Менвіта ў гэты час жанчыны маюць шмат працы каля кроснаў. Лён, спрадзены да каляд, снуюць цяпер на станок, і ў кожнай хаце большую частку дня чоўнік бегае паміж шэрых нітак. Ткуць таксама рознымі ўзорамі чырвоныя “пояскі”, прывязаныя да цвіка ў сцяне. Пафарбаваная воўна сохне над дзвярыма, здалёку вабячы вока прыгожым чырвоным колерам. За кроснамі жанчыны спяваюць: старэйшыя – набожныя, “сьвятые” песні пра Хрыста, пра яго жыццё і пакуты, пра розных святых і благаславёных, а маладзейшыя – звычайныя свецкія песні, у якіх расказваецца пра казацкае каханне, пра нявернасць каханкаў, пра помсту дзяўчыны, пра цяжкі лёс “малодкі” ў мужавай хаце пры злоснай свякрусе. У пагодныя дні дзяўчаты пачынаюць заводзіць веснавыя песні (“весьнянкі”), у якіх, як звычайна, гаворыцца пра каханне, пра работу за кроснамі і ў якіх прабіваецца нейкая весялосць і радасць ад абуджэння вясны. Адна з такіх песень, мне здаецца – цікавы помнік з тых часоў, калі татары кожную вясну нападалі на нашу зямлю і, можа, нават заходзілі ў тутэйшыя ваколіцы. Гэта песня пра трох сясцёр, схопленых у лесе страшнымі ворагамі: адна з якіх была забітая, другую ўзялі ў палон, а трэцяя з цяжкасцю ўцякла дадому. У час посту адбываецца таксама першы выган жывёлы на пашу. З гэтым заўсёды спяшаюцца, бо вясною пачынае не хапаць корму; асабліва калі зіма надта зацягваецца, жывёла часам здыхае з голаду. І хоць лугі яшчэ шэрыя, а лясы ледзьве толькі пачынаюць пускаць першыя пупышкі, вясковую жывёлу выганяюць з аборы. Адбываецца гэта з не абы-якой урачыстасцю. Гаспадар акрапляе статак хрышчэнскай свянцонай вадой і выганяе яго з аборы свянцонай вярбой: “кабы звер не подхадзіў”. У варотах ляжыць замкнуты замок і сырое яйка – жывёла павінна прайсці праз іх. Пастухам даюць з кожнае хаты крыху сала і пару яек, а яны ўжо пякуць сабе ў лесе яешню і частуюцца ёю.

Набліжэнне свята Вялікадня радасна вітаюць. Перад Вербнай нядзеляй (“Вербна”) хтосьці ад царквы едзе ў лес па свежыя галінкі і прывозіць поўны воз вербных коцікаў. Кожны павінен мець такую галінку, таму каля воза збіраецца натоўп. Царкоўны служка прадае свой тавар за нейкія пару капеек. Грошы гэтыя ідуць на царкву. Дзяўчаты часам упрыгожваюць сваю вербачку каляровай стужкай. Назаўтра ўсе ідуць у царкву, а пасля набажэнства жартам б’юць адзін аднаго пасвяцанай вярбою, кажучы: “Не я б’ю, верба б’е, за тыдзень Велікдзень. Будзь здароў, як вада, будзь багат, як земля”. У гэты дзень абед хоць і посны, але надзвычай багаты: даюць аўсяны кісель з мёдам, які лічаць за вялікі прысмак і яшчэ не менш як дзве стравы.

У Вялікі чацвер (“*Чыстый Чэцьверг*”) увечары падаюць вячэру на ўспамін Божае вячэры. Называюць яе “Тайняй”. Стравы выключна посныя, і гаспадыня стараецца, каб у гэты дзень была рыба. Велікодная споведзь адбываецца на працягу ўсяго посту. Спавядаюцца звычайна пасля полудня, а да прычашчэння ідуць назаўтра зраніцы. Споведзь – адна з прыемных хвілін у штодзённым жыцці. Ідуць звычайна ўсім гуртам, дзяўчаты святочна апранутыя, у чаканні сваёй чаргі, каб скараціць час, пра нешта гавораць між сабою, прагульваючыся каля царквы. Дзяцей бацюшка спавядае па некалькі разам. За споведзь святару плоцяць па пяць капеек.

Вялікая Пятніца і Субота прысвячаюцца прыгатаванню свянцонага. У суботу ўвечары фарбуюць яйкі, пры гэтым ніякай асаблівай урачыстасці няма. Робяць гэта ў кожнай хаце. Яйкі вараць крута, потым апускаюць іх на некалькі

хвілін у гарачую, ужо пафарбаваную ваду. Фарбу купляюць у яўрэяў – гэта анілінавы чырвоны парашок. Часам таксама дзеля атрымання жоўтага колеру выкарыстоўваюць лушпінне цыбулі. Фарбуюць шмат яек, разлічваючы не менш як па 10 на кожнага чалавека. У заможных гаспадарках дзецям часта даюць да трох дзясяткаў. Называюць гэтую суботу "красна". У гэты ж дзень усе ідуць у царкву на вячэрняе набажэнства ("усюночна").

Назаўтра, на "Велікдзень" усё мае святочны выгляд. Па ўсёй вёсцы ззяюць прыгожыя строі. У кожнай хаце запальваюць свечкі. Пасля набажэнства, на якім святар пасвяцае падрыхтаваныя ў кашолках прадукты, вяртаюцца дадому і пачынаюць святочнае снеданне, на якое пасля сямітыднёвага посту ўсе збіраюцца вельмі хутка. Спачатку ядуць яйка, пры гэтым жадаючы сабе: "Дай нам, Божэ, за год дождаць краснаго яйца ў шчасцю, у здарові!" Запіваюць гарэлкаю і пераходзяць да больш сытнай стравы. Сярод свянцоных страў абавязкова павінны быць: запечанае парася, пакроенае на кавалачкі сала, пірагі з пшанічнае мукі і сыр. У багацейшых падаюць на стол яшчэ свіную кілбасу-крывянку з кашаю і свіной крывёю, масла і свініну. Ядуць многа, і часта запіваюць гарэлкаю. А халодная і сытная ежа пасля доўгага посту часта выклікае моцную нястраўнасць. У гэты дзень на вёсцы пануе поўная цішыня, кожны сямейнік цэлы дзень знаходзіцца ў сваёй хаце і цешыцца святочнай бяздзейнасцю. Гаспадыня, замучаная святочнымі прыгатаваннямі, часцей за ўсё кладзецца спаць. Пад вечар, калі спрыяе надвор'е, садзяцца на прызбах і гамоняць. Танцаў і музыкі ў гэты дзень ніколі не бывае.

Толькі назаўтра пачынаюцца адведзіны з хаты ў хату. Дзеці носяць сваім бабкам свянцоныя яйкі з пажаданнямі і віншаваннем. Моладзь забаўляецца яйкамі: адзін трымае ў руцэ яечка, а другі стукае па ім; чыё яйка разаб'ецца, той мусіць аддаць яго, і пры гэтым гавораць: "Хрыстос васкрэс!" Або – двое становяцца адзін супраць аднаго, робяць пасярэдку маленькую ямку і коцяць па зямлі яйкі адно насустрач другому: чыё ўпадзе ў ямку, той выйграе. Вядома, што пры гэткіх гульнях трэба мець шмат яек. Тады маладыя ідуць на хітрыкі і выкрадаюць у бацькоў увесь запас. У гэты дзень ужо вараць абед, часцей падаюць гарачыя кілбасы і боршч з мясам. Увечары пачынаюцца танцы і гульні, якія звычайна працягваюцца некалькі наступных дзён. Велікодных песень мне чамусьці напаткаць не давялося. Косткі ад свянцонага старанна збіраюць і закопваюць у канцы поля – гэта ахова ад градабою.

У Праводную нядзелю, якая завецца *Радаўніца*, спраўляюць веснавыя дзяды. Пра гэтую ўрачыстасць я згадвала ў іншым месцы, толькі дапоўню тут, што ў гэты дзень у другі раз фарбуюць яйкі, каб было што занесці на магілу дзядам.

У дзень св. Юр'я (*Юр'еў дзень*, 21 красавіка) перад усходам сонца выганяюць жывёлу ў поле на засеянае жыта, дзе запасваюць на руні. Называецца гэта "выгнаць на росу". Гэта павінна засцерагаць жывёлу ад усялякай шкоднай травы і ад тухлай нездаровай вады. Ад гэтае расы і малако ў кароў прыбывае.

Зялёныя Святкі адзначаюць так, як і ўсе іншыя святы, з той толькі розніцай, што паўсюль уторкваюць зялёныя галінкі і дрэўцы. Дзеля гэтае мэты служаць пераважна маладыя клёнікі, якіх па лясах вельмі шмат. Ля варот, ля дзвярэй пры ўваходзе ў хату, каля плота, ля студні – усюды зелянеюць свежа ссечаныя дрэўцы; і ў самой хаце абразы, печ, вокны, столь упрыгожаны зелянінаю. Дрэўцы і галінкі застаюцца на месцы да св. Яна.

У гэты дзень пачынаюцца ўрачыстыя забавы: паленне вогнішчаў, песні, танцы і свавольнасці. Звычай святкавання Купалы цяпер вельмі пераследуецца духавенствам і паліцэйскімі ўладамі як перажытак, што застаўся з паганскіх часоў. Таму часцей у тых вёсках, дзе жыве хто-небудзь з улады, гэтага дня не святкуюць, але затое дзе-небудзь паблізу гуляюць з падвойнай ахвотаю. Гэтак жа атрымліваецца і тут: у Камаровічах, перад вачыма ў духавенства не асмельваюцца адкрыта распальваць вогнішчы, затое ў Заполлі Купала асвечана сапраўднай

паганскай урачыстасцю. Пад вечар з усяе вёскі цягнуць на воз усе дрэўцы, што засталіся ад Зялёных святкоў, старыя жэрдкі, трэснутыя колы, зношаныя лапці, разнастайны непатрэбны хлам і трыумфальна вязуць куды-небудзь за вёску, на шырокае, адкрытае месца, дзе звальваюць у вялікую кучу. Кожны кідае ў гэты стос сваё дрэва і выказвае пры гэтым розныя пажаданні: “Каб мае просо так усоко вырасло! Штоб мой лён так усокій быў!” Спачатку раскладваюць адно вогнішча, потым іх узнікае ўсё больш, агонь пераносіцца з месца на месца ўсё далей, выбухае навокал у незлічоных полымях, ды так, што і неба чырванее ад зарыва. Хлопцы скачуць праз агонь, дзяўчаты доўгімі шнурамі танцуюць вакол вогнішчаў. Часам адгукаюцца бубен і скрыпка, заглушаныя спевамі, якія разносяцца далёка. Дзяўчаты ў вянках з палявых кветак заляцаюцца да хлопцаў, а потым уцякаюць у поле, на луг, і гонкі за імі працягваюцца, пакуль хопіць сіл. Хлопцы стараюцца пазрываць у дзяўчат вянкі і кінуць іх у агонь. Гулянне працягваецца дапазна, ды і наогул ніхто ў гэтую ноч не спіць спакойна. Гэтая ноч таямнічая, поўная ўсялякіх чараў і невыказнай магічнай сілы. Папараць выстрэльвае цудоўнай кветкаю, а шчаслівец, які яе знойдзе, можа стаць уладальнікам усіх скарбаў на зямлі, але пры ўмове, што сам, адзін, пройдзе праз цёмныя густыя лясы пасярод пачвар, што падпільноўваюць яго. Такіх смельчакоў нялёгка знайсці, бо такі “уж хіба нічого не баіцца”. Ведзьмы ўночы маюць вялікую сілу, і іх трэба вельмі асцерагацца, каб не нанеслі шкоды дзецям і не адабралі ў кароў малака. Таму добрая гаспадыня не спіць у гэтую ноч. Бо на св. Яна ведзьма раскладвае сабе агонь у дзікіх лясных закутках пад старым дубам і скача цераз вогнішча. Праз гэта яна набывае сілы і ўмельства адбіраць малако ў чужых кароў. На Купалле да ўзыходу сонца трэба збіраць розныя лекавыя зёлкі, бо менавіта такія маюць карысныя ўласцівасці. Гэтаксама раненька, перш чым узыйдзе сонца, трэба пасціскаць капусныя галоўкі, тады яны будуць добра расці і ў іх не будуць заводзіцца чэрві. Нарэшце, раніцою на небе дзеюцца дзівосы: “соўнейко грае”. Устае яно з-за лесу малое-малюткае, раптам падскоквае ўгору, выпускае з сябе вялікае чырвонае праменне так, што нібыта ўсё неба купаецца ў крыві. Сонца круціцца калясом, потым зноў знікае і зноў пры раптоўных падкідваннях па некалькі разоў уздымаецца і, нарэшце, спакойна выплывае, абліваючы зямлю сваім залатым святлом. Хоць купальскія песні, якія таксама называюць і Русалкамі, на першы погляд, падобныя да іншых песень, аднак маюць крыху адметны характар. У гэтых песнях жанчына заўсёды пераважае над мужчынамі, з’едліва насміхаючыся з іх кахання; смелая і ваяўнічая, але, нарэшце, пераможаная, яна мучыцца пад цяжкім ярмом замужжа і мужавай сям’і. Ні ў якіх іншых песенных групах не сустрэнеш такой выразнай перавагі жанчыны над мужчынам.

Дзе-нідзе паляць вогнішчы і на дзень Тройцы, але, мне здаецца, толькі тады, калі на св. Яна, у будзённы дзень, гаспадары не хацелі адрывацца ад працы. Наогул жа ўсё гэта адбываецца на “Івана”.

У дзясятую нядзелю пасля Вялікадня непадалёку ад Камаровічаў, ля маленечкай капліччкі, што стаіць у лесе, на Навасёлкаўскй зямлі, адбываецца кірмаш і вялікае царкоўнае набажэнства. З некалькіх парафій з’язджаецца духавенства. Яўрэі ў скалочаных наспех латках заўзята вядуць гандаль. Ажно з Петрыкава прыбываюць ганчары з міскамі і іншым разнастайным гліняным начыннем; з-пад Турава прывозяць сіты і рашоты; гспадары гоняць на продаж коней, цялят і бычкоў. Можна тут набыць сярпы, косы, сякеры, шапкі і боты, каляровыя хусткі і вышываныя фартухі, соль, алей і рыбу. З навакольных вёсак тлумы сялян цягнуцца “на дзясятуху”; там гаманліва і гучна. Пад вечар дарогі запаўняюцца групамі жанчын, што вяртаюцца дамоў, ці самотных, на добрым падпітку вяскоўцаў, якія ахрыплымі ад гарэлкі галасамі заводзяць песні і часта завяршаюць ноч у канаве.

Перад св. Пятром зноў пост, чатырохтыднёвы. Завецца ён *Петроўка*. Вельмі скардзяцца на гэты пост мужчыны, бо менавіта падчас яго ідзе цяжкая праца – касьба, а пры посным харчаванні яе цяжка адолець. Таму і гавораць, што гэты пост прыдумалі бабы, каб за гэты тэрмін яны змаглі сабраць масла і сыр.

6 жніўня, на вялікае свята *Спаса* ў камаровіцкай царкве адбываецца ўрачыстае набажэнства, на якое з'язджаецца шмат навакольнага люду. У гэты дзень асвячаюць прызначанае на насенне збожжа і садавіну, асабліва яблыкі. Тыя, хто не маюць сваіх уласных садоў, ціснуцца ў панскі двор па садавіну. Ля варот на возе, запоўненым яблыкамі, сядзіць стары ляснічы і прадае іх. Потым усе разам накіроўваюцца ў царкву. Старэйшыя і больш набожныя жанчыны ідуць перад Спасам на споведзь.

На працгу восені мясцовыя жыхары адзначаюць некалькі вялікіх свят: гэта *Прачыста*, 15 жніўня; *Удзвіжэне* г. зн. Узняцце Крыжа, 14 верасня; *Пакровы*, 1 кастрычніка; дзень св. Філіпа, 14 лістапада, перад якім ідзе двухтыднёвы пост пад назваю *Піліпоўка*. Святы гэтыя праходзяць весела, а калі на іх прыпадае прастольнае свята, то сцякаецца тлум людзей з усяе ваколіцы. Далучэнне да такіх урачыстасцяў становіцца адной з найвялікшых прыемнасцяў у жыцці тутэйшых сялян.

Калі засяваюць жыта, у кожнай хаце таксама бывае пэўная ўрачыстасць. У спакойны бязветраны дзень гаспадар бярэ ў кораб асвечанае на Спаса зерне, да якога дасыпае зярняты з каласоў ад каляднае куцці, потым адкройвае акраец ад свежае булкі хлеба, а таксама кладзе куплёную ў царкве "праскурку" і свянцоную соль; усё гэта ён загортвае разам і ідзе ў поле. Вярнуўшыся дадому, дае самым блізкім суседзям і ўсім у сваёй сям'і па кавалачку таго хлеба і праскуркі, а таксама па шчопаці солі, і ўсе з'ядаюць гэта з узнятым настроем і праніклівасцю.

Напярэдадні св. Андрэя таксама бывае весела. Дзяўчаты збіраюцца па хатах на варажбу. Увесь дзень напярэдадні яны шчыра посцяць, каб забяспечыць сабе шчаслівы лёс. Увечары складваюць на падлозе маленькія спечаныя булачкі, кожная з якіх умоўна азначае адну з прысутных дзяўчат. Чыю булачку схопіць сабака, тая пасля Новага года выйдзе замуж. Набіраюць таксама вязку дроў, і калі паленцаў атрымаецца да п*а*ры, то будзе вяселле. Яшчэ бяруць жменю канапель і, ідучы праз вуліцу, сеюць іх за сабою са словамі: "Андрэй, Андрэй, я на цебе пушчу, я канапелькі сею, скажы мне праўду, з кім я буду на шлюбе стаяць". І хто ўночы прысніцца, той у будучым стане мужам. Хай бы сабе ўжо і снег ляжаў, але ўсё роўна кожная дзяўчына засявае на агародзе крыху лёну і канапель. Калі на весну пасеянае рана і хораша ўзыходзіць, то ў замужжы яна будзе шчаслівая; калі не, то наадварот; калі зусім нішто не ўзыйдзе, то ёй пагражае смерць.

На лістапад прыпадаюць восеньскія *Дзеды*, пра якія я ўжо згадвала ў іншым месцы.

Восень – гэта пар*а хатняй* працы, якая збірае ўсю сям'ю каля дамашняга агню. Па вечарах у кожным акне весела свеціцца бляск ад печы і запаленага лучніка, што звешваецца са столі. Жанчыны з прасніцамі, спяваючы песні, сядзяць на лавах; старая матка завіхаецца каля печы, кожную хвіліну яна мкнецца да калыскі і закалыхвае да сну немаўля. Мужы і браты плятуць лапці, робяць лыжкі, карабы і вярэнькі, або рыхтуюць вупраж для валоў і коней. Нейкай чароўнай непасрэднасцю, сапраўднай першабытнасцю пазначана гэтае жыццё, настолькі простае і нескладанае, што, гледзячы на яго, цяжка паверыць, што гэтыя людзі жывуць у Еўропе і з'яўляюцца дзецьмі XIX стагоддзя. Увосень галоўная праца жанчын – гэта прадзенне воўны і лёну. Ткаць пачынаюць пасля Ражства, праводзяць за гэтай работай усе вечары. Тады і збіраюцца дзяўчаты на "вечарніцы" ў нанятую за агульны кошт хату і там прадуць. Замужнія жанчыны рэдка бываюць на гэтых зборышчах, бо іх мужы, раўнівыя і клапатлівыя наконт іх маральнасці, неаднойчы накладваюць на гэтыя пасядзелкі сваё суровае *veto*. Вечарніцы праходзць з вялікай ажыўленасцю і часам працягваюцца да позняе

ночы. Палешукі жывуць надзвычай дружна, грамадою, не разумеючы, як можна жыць у самотнасці; яны папросту баяцца яе, і таму тым ці іншым чынам разам арганізуюць агульныя забавы, абдумваюць спосабы, як сабрацца большай грамадою. Ёсць шмат калектыўных гульняў, якімі захапляецца моладзь. Адна з іх – *у персьня* – заснаваная на тым, што ўдзельнікі садзяцца ў рад каля сцяны, а адна дзяўчына, трымаючы пад фартухам пярсцёнак, ідзе ўздоўж таварышак і гаворыць: “З кута іду, золото несу, гадайце, бояры, гдзе положу”, і робіць выгляд, што той ці другой кладзе пярсцёнак, але непрыкметна перадае толькі адной з іх. Тыя, што сядзяць падалей, павінны адгадаць, каму. Хто не адгадае, ідзе ў круг, а дзяўчына, якая несла пярсцёнак, займае яе месца. У “сляпую бабку” гуляюць наступным чынам. Камусьці аднаму завязваюць вочы, і той павінен хапаць іншых. Калі схопіць каго, пытаецца: “А гдзе ты буў?” – “Под лаўкою”. – “А гдзе та лаўка?” – “Мышы паелі”. – “А гдзе тэ мышы?” – “Коток порваў”. Тады здымаюць павязку ў яго з вачэй і пытаюцца ў схопленага: “Да нашто непраўду кажэш!” і завязваюць яму вочы. Гуляюць яшчэ ў *гускі*. Адзін выступае воўкам, другі старшай гуссю, астатнія трымаюцца ля яе, нібыта каля маткі, а яна павінна бараніць свой статак. Воўк выскоквае з-за хаты. Тады матка крычыць: “Гускі, лебедзі, уцекайце! Воўк ідзе!” Дзеці адказваюць: “Мы воўка не боімса, да з воўком пожэнімса”. Воўк хапае іх па адным, пакуль матка не застанецца сама. Тады ён накідваецца на яе.

Наш селянін наогул не можа наракаць на сваё сумнае жыццё. Пры больш значнай працы і адукаванасці ён змог бы стаць яшчэ больш багатым, але нават і таго, што ён сёння мае, яму хапае дзеля дастатковага ўтрымання сям’і і дзеля задавальнення сваіх нешматлікіх патрэб. Ціхае, аднастайнае жыццё без вялікіх уражанняў і моцных узрушэнняў схіляе яго да весялосці і робіць надзвычай дружалюбным. Неаднойчы, калі бачыш гэтую непасрэдную весялосць, гэтую шчырую, ледзь не дзіцячую наіўнасць, ахоплівае нейкае адчуванне зайздрасці, што яны ў сто разоў шчаслівейшыя за нас, адукаваных і цывілізаваных.



Ірына Бароўская



...Ці зладжу я з самім сабой – не знаю,
І аб адным цябе малю:
Не папракай, што я кахаю,
Не праклінай, што я люблю...

# У сузор'і Трыяды

***Водгулле песеннай лірыкі***

*Паэты, пакідаючы нас, узлятаюць на неба. І ўтвараюць карагод паэтычных зорак...*

*Угледзелася ў начное неба, і чамусьці падалося мне, што найярчэй загарэліся ў небе тры Зоркі, утварыўшы Трыяду лірычных мелодый, мелодый вечнага жыцця песень, якія стварылі разам з народам нашыя Творцы...*

## Ave, Maria!

*Песенная спадчына Максіма Танка*

Станаўленне Максіма Танка як паэта адбывалася ў першую чаргу пад зоркаю песні, аб чым ён пакінуў свае доказныя, пераканаўчыя і разам з тым маляўніча-метафарычныя запісы ў дзённіку "Лісткі календара" і шматлікія ўспаміны пра свой жыццёвы і творчы шлях, а таксама згадкі пра таварышаў па пяру.

Ужо ў запісе ад 30 ліпеня 1935 года ён адзначае, што зноў

“зачапіўся за фальклор, як піяны за парог” (здарылася гэта пасля пачутых песняў у роднай Пількаўшчыне). Ці не адчуваецца тут нейкая нават боязь празмернага ўплыву народнай паэзіі? Невыпадкова тут прысутнічае і пэўная пераклічка з вядомым тэзісам Максіма Багдановіча аб тым, што ў песеннай творчасці не варта трымацца выключна фальклорных першаўзораў. Тым больш, што падобныя асацыяцыі ў абодвух класікаў узніклі ад знаёмства з творчасцю заснавальніка нашай новай песеннай традыцыі Яна Чачота (якраз у гэты час Язген Іванавіч знаёміўся з запісамі ягоных песняў).

Як бы там ні было, але зорка народнай песні надзвычай шчодра свяціла маладому паэту на пачатку ягонага творчага шляху, прычым не толькі роднай – беларускай, але і блізкіх рускай і польскай. Якраз у гэты перыяд ён з захапленнем занатоўвае з вуснаў маці польскамоўную (хутчэй за ўсё нашую “крэсавую”, бо там вельмі многа беларускіх слоў і выразаў, сінтаксічных адпаведнікаў) песню-скаргу дзяўчыны, што згубіла свой вяночак, адзначаючы сапраўдную паэзію ў гэтай, здавалася б на першы погляд, немудрагелістай дзявочай трагедыі. А праз некаторы час Яўген Іванавіч пераклаў на беларускую мову дзве цікавыя (па словах самога паэта) польскія рэвалюцыйныя песні “Народ сярмяжны, народ рабочы” і “Хоць нас усе праклінаюць амбоны”, шпраг народных, адна з якіх, відаць, з разбойніцкага фальклору: *Гаварылі, гаварылі, Што разбойніка забілі, А пасеклі ў лесе веццe, Разбойніка ж нясе вецер...*

У галодныя веснавыя дні 1938 года поруч з запісамі пра тое, што “няма амаль сілаў хадзіць”, ён па памяці запісваў чутую некалі ад школьнага сябра Аляксандра Роўды цудоўную беларускую песню “Ой, узышлі, узышлі тры месяцы ясны”, і згадвае маладую спявачку А. Орса-Чарняўскую, салістку студэнцкага хору Рыгора Шырмы.

Яўген Іванавіч працягвае векавую беларускую традыцыю, калі ўслед за Купалам, Коласам называе сябе і сваіх калегаў песнярамі, не ўкладваючы ў гэтае найменне нейкага ацэначнага пачатку, а паказваючы тым самым непарыўную сувязь з нацыянальнай песеннай гісторыяй як вызначальнай у развіцці беларускага мастацкага слова:

Прыйдзем яшчэ, вёска, твае песняры,
Не з торбаю песняў жабрачых:
Бярозавым смыкам на струнах зары
З табой заіграем іначай. [1, т. 6, с. 54]

Танкаўская песня набывала адметнае гучанне ў поўнай адпаведнасці з ягонымі ідэаламі бурных і супярэчлівых часоў рэвалюцыі, класавага і сацыяльнага змагання, вайны. І кампазітары ўслухоўваліся ў схаваную музыку яго твораў, якую імкнуліся абудзіць для слухача даволі своеасаблівым чынам. Так, яны лічылі, што найбольш яскрава складаны Танкаўскі тэкст мажліва ўвасобіць у гераічнай песні, кантаце, араторыі, а многім творам неабходна надаць не сольнае, а харавое гучанне. Невыпадкова ў зборнік “Харавы вянок: Хоры на вершы М. Танка” [2] увайшлі найбольш вядомыя песні паэта гераічнага і патрыятычнага гучання, што заўважаецца нават па загалоўках твораў: “Калісьці бура на Карпатах”, “Два арлы”, “Казак гнаў каня” і іншыя. Сапраўды, падчас надзвычай адметную будову танкаўскіх вершаў вельмі цяжка ўвасобіць у звыклым музычным ладзе масавай песні, як і яе незвычайную сімволіку, гіпербалізацыю. Ці не таму існуюць і пэўныя праблемы з ідэнтыфікацыяй той з’явы, якая носіць паэтычнае найменне “Танкаўская песня”? Бо даволі часта кампазітары бралі толькі невялічкія ўрыўкі з вершаваных тэкстаў, прычым разам з гэтым мянялі і загалоўкі твораў, або нават перакладалі на іншыя мовы, часцей за ўсё на рускую: Э. Манвелян “Анна – любовь моя”, Г. Юдзін “Обелиск в Витебске”, В. Шабалін “Березе”, “Весна-красна”,

"Жаворонок" і шмат іншых. Аднак у цэлым у спадчыне народнага песняра можна вылучыць некалькі яскравых песенных груп, і, ў першую чаргу, варта адзначыць творы эпохі ваеннага ліхалецця.

Як сімвал сусветнага змагання дабра і зла, святла і цемры, успрымаецца песня "Два арлы". У гэтым творы антытэза будуецца па прынцыпе паралелізму. Такі прыём дасягае вялікай моцы, калі спалучаецца са стыкам (словамі, якімі заканчваецца вершаваны радок і пачынаецца наступны): *Першы арол чорны. Чорны – смерць салдата, што ляжыць, паранен, на траве прымятай. А другі арол – увесь белы, яснакрылы, Вернае каханне Заручонай, мілай.*

У выключна народнай традыцыі пабудавана песня "Казак гнаў каня" (В. Шабалін), дзе смерць героя нагадвае падобныя трагедыі са шматлікіх народных твораў пра гібель адважнага хлопца ў барацьбе з ворагам. Аб гэтым сведчаць і традыцыйныя для паэтыкі народнай песні сталыя эпітэты (*куляю злой, гадзінай ліхой, востры клінок, палын адзінокі*), якія, праўда, у пэўных аспектах падвяргаюцца мадэрнізацыі. Так, традыцыйны для фальклорных першаўзораў воран-крумкач *не смеў казака Будзіць у даліне шырокай*, бо звыклая сцішанасць, што заўсёды спадарожнічае смерці, саступае магутнаму гучанню велічнай падзеі, значнасць якой выразна гіпербалізуецца. Востры клінок нават у мёртвай руцэ хоча дастаць да снежных Карпатаў, вараны пытае дарогі да роднага дому героя, а ягонае іржанне чуецца на далёкім сінім Доне. Падобная паэтызацыя, сімвалізацыя канкрэтнай смерці неабходна паэту для сцвярджэння велічнага подзвігу, бо ягоны клінок і нават пасля фізічнай смерці вісіць расплатай над галовамі ворагаў. Разам з тым матывы рэквіему не дамінуюць, хаця агульнае гучанне напоўнена стрыманай узнёсласцю і аптымістычным смуткам.

Падобныя матывы стануць вызначальнымі ў песнях "Развітанне", "Партызанскія акопы", "Пасылае маці думы", якія поўнацю заснаваны на прыёме паралелізму, аднаго з асноўных у беларускай народнай і прафесійнай традыцыі:

Пакахай, як цвет чарэшні,
Сэрца, пакахай.
Правядзі мяне ты з песняй,
З песняй сустракай.

Праўда, развітанне закаханых, традыцыйнае ў сваёй аснове і сваіх зваротах, напоўнена новымі прыкметамі рэчаіснасці (сустрэча прызначаецца ў партызанскім атрадзе).

Падчас элегічнасць трагедыйных песняў М. Танка змяняецца магутным гучаннем пратэсту і закліку, як у творы "Не шкадуйце, хлопцы, пораху", якая сваёй інтанацыяй нагадвае славутыя "Партызаны" Я. Купалы.

Не шкадуйце, хлопцы, пораху,
Куль гарачых і гранатаў.
Ўсе, каму свабода дорага,
Падымайцеся на ворагаў,
На катаў!

Ён ужо адчувае музыку помсты – "чуюць з страхам песню ворагі", бо ў поўнай адпаведнасці з кантрастным успрыняццем рэчаіснасці пушча адначасова і магільнік для захопнікаў, і прытулак для сокалаў-партызан, а магутная гіпербала ўзмацняецца вульгарызмамі, што ў цэлым не ўласціва жанру песні (*жывым звяр'ю не вырваца, банду воўчу, гады*). Гукавая арганізацыя радкоў скіравана на стварэнне эмацыянальнага закліку, што яскрава відаць у прыведзеных вышэй радках. Асананс *а,* паўторы груп *ора-гара-гра, орага-орага* надаюць выразнасць гэтай песні. Загаловак гучыць на пачатку і ў фінале твора, выразна падкрэсліваючы

яго публіцыстычны, пабуджальны характар. Вар'іраванне пачатковага і заключнага радкоў страфы паглыбляе асноўную паэтычную ідэю твора, надаючы яму сэнсавую важнасць.

На пэўны час у савецкіх кампазітараў (а на словы паэта будуць пісаць песні прадстаўнікі розных савецкіх краін: В. Шабалін, А. Тактакішвілі, Э. Манвелян, Л. Шульгін і інш.) складзецца ўяўленне, што М. Танк – паэт толькі выразна грамадзянскага гучання. Ці не таму з'явіцца песня "Грай жа, музыка", прысвечаная ўслаўленню шчаслівай калгаснай долі, дзе ў пачатку і ў канцы паўтараецца слова *дай* ("Дай жыту светлы май, дождж і пагоду, Вецер з усходу... Дай мне, дай!"), што выразна акцэнтуе аўтарскую думку, завастрае ўвагу слухача на адпаведным выказванні? Не вельмі будзе вылучацца на агульным фоне тагачаснай масавай песні "Гураля хата", дзе ў чарговы раз у савецкай паэзіі і музыцы ўсхваляюцца мясціны, па якіх некалі хадзіў вялікі правадыр. Гэтым жа грашыць і песня "Тост за дружбу". Або песня "Вяселле", дзе нават на ўрачыстым свяце маладых сцвярджаецца, што *першаю песняй Заўжды ў нас па праву Песня, у якой мы Радзіму славім*. Ды і сам паэт у "Лістках календара" згадваў, што ў нас і любоўная лірыка не існуе ў чыстым выглядзе. У гэтым плане яго надзвычай цікавіла творчая спадчына М. Багдановіча, "пасля смерці якога ўсё яшчэ не знайшлося ў нас прадаўжальніка яго цікавага і надзвычай плённага напрамку" [1, т. 6, с. 21]. Сам паэт яшчэ ў згаданы перыяд спрабуе апаэтызаваць рэчаіснасць, як у песні "Бярозе", дзе аўтар у думках песціць высокі стан улюбёнага дрэва. Або ў песні "Развітанне", дзе на першы план выходзіць не толькі грамадзянскі пачатак і вялікая асабістая трагедыя. Магутна, нібы само возера, загучала песня "Нарач", дзе паэт прызнаўся ў вечнай любові да роднай з дзяцінства Нарачы.

Наогул, лірыка-філасофскі характар паэзіі М. Танка, асабліва пейзажнай лірыкі, натхняў шматлікіх кампазітараў на стварэнне шырока распеўных твораў, характэрнай асаблівасцю якіх становіцца свабодная імправізацыя, эмацыянальная адкрытасць, рамантычная ўзнёсласць. Ці не таму большасць з іх можна і трэба называць песнямі-рамансамі? Ад песні раманс адрозніваецца выкарыстаннем больш складаных выразных сродкаў, кампазіцыйных прыёмаў і мастацкіх структураў, цеснай сувяззю паміж паэтычным тэкстам і музыкай, больш выразнай роляй суправаджэння: "А што гэта за даліна?", "Сасна", "Вясновая навальніца", "У навальніцу", "Нарач", "Клубамі чорны дым віўся", "Ну і вечар вясновы", "Памяць", "Заря уже тлеет", "Жаворонок", "Весна-красна". У структуру твора "Ну і вечар вясновы", як у Багушэвіча, уплятаецца народная песня, ці, хутчэй, адбываецца стылізацыя народнай. Тое ж тычыцца і жартаўлівай песні "На камарыным вяселлі", якая пераклікаецца са славутымі народнымі пра вяселле камара і мухі.

Якраз праз жартаўлівую песеньку "Анэтка", дзе нясмелы хлопец прыводзіць да дзяўчыны сваіх сяброў, пакуль, нарэшце, сам не прызнаецца ў каханні, лірычную "Няма сцежкі карацейшай", ішла дарога да велічнай "Ave, Maria" і славутых "Завушніц". У гэты перыяд ён імкнецца кардынальна змяніць гучанне сваёй песні, пазбавіць яе гучнасці (як тэматычнай, так і вобразна-выяўленчай), рыторыкі, залішняй узнёсласці, вярнуцца да звыклай танальнасці народных першаўзораў. Спачатку паэт галоўных герояў сваіх твораў надзяляе звыклым беларускім менталітэтам, яны не столькі дзейнічаюць, колькі сузіраюць. Герой звычайна нясмелы, сціплы. І толькі паступова сіла кахання перамагае ўсё. У свеце застаюцца толькі ён і яна, і магутнае каханне, якое і тут роўнавялікае вялікім з'явам прыроды.

Падобных магутных усплескаў самага вялікага пачуцця, па сутнасці, не было ў беларускай паэзіі, калі, зразумела, не згадваць сілу гучання Купалаўскай любоўнай лірыкі. У "Завушніцах", музыку да якой падабраў і цудоўна праспяваў Уладзімір Мулявін, паказана нараджэнне сапраўднага кахання-страсці беларуса: ціхмянае

сціплае прызнанне, узмоцненае замовамі, перарастае ў песню-апафеоз пачуцця, якое ўжо немагчыма стрымаць.

Ці не таму ў шматлікіх творах яскрава прадстаўлены такі стылістычны прыём, як паўтор. Гэты спосаб экспрэсіўнага выдзялення, фіксацыі ўвагі выразней заўважаецца, калі адно з паўтораных слоў прапусціць. У гэтым выпадку яскрава адчуваецца страта інтэнсіўнасці, напружанасці дзеяння, скандэнсаванасці пачуцця [3, с. 29]. Лацінскі выраз "Ave, Maria" паэт у аднайменнай песні паўтарае ў канцы кожнай страфы (страфічная эпіфара), і кожны раз ён гучыць па-рознаму: то як узвышанае "Радуйся, Марыя", то як горкі ўздых, то як пратэст марнай загубы маладосці, прыгажосці дзяўчыны, якая магла быць каханай і стаць маці. Без гэтага стылістычнага прыёму песня не ўяўляецца, бо паўтор воклічу з каталіцкай імшы стварае атмасферу захаплення, чароўнасці, надзеі, радасці жыцця і расчаравання. Нанізванне моўных канструкцый (назоўнік і азначальныя словы) выражае ў гэтым песенным творы любаванне паэтам маладой манашкай: *Ты адгадаеш: стан непакорны, Ножкі, якімі б на карнавалах І захапляла і чаравала, Смуглыя рукі, грудзі тугія, Ave, Maria!* Увесь твор пабудаваны на антытэзе святла і змроку, прыгажосці чалавечага цела і аскетызму, зямнога і нябеснага: *Цябе атрутаю апаілі, Ружанцам рукі табе скруцілі. Смялей парві ты яго, не бойся! У полі недзе шуміць калоссе... О, як бы жалі рукі такія, – Ave, Maria!*

Калі гаварыць аб своеасаблівай творчай манеры паэта, то многія яго даследчыкі адзначалі незвычайную вастрыню метафарычнага чуцця: "Яго метафара не гоніцца за яркай, вонкавай абалонкай, а канцэнтруе вакол сябе дадатковыя штрыхі, дэталі, параўнанні, у выніку разгортваецца ў складаны вобразны комплекс" [4, с. 132]. Якое багацце настрояў заключана, напрыклад, у метафарычнасці вобраза ў аднайменнай песні: *Плача хмара без жалю, Стогне вецер без болю. Ды не плача дзяўчына Без прычыны ніколі.* У дадзеным прыкладзе наглядаецца дзеяслоўная метафарызацыя, пры якой у пераносным значэнні выступаюць дзеясловы са значэннем пэўных пачуццяў, настрою, эмацыянальнага стану. Побач з метафарай выступае паралелізм, які звязвае трагічны настрой прыроды з адпаведным у настроі чалавека.

Эвалюцыя танкаўскай песні ад фальклорных узораў, рамантычнай экзальтацыі перад з'явамі прыроды, захопленасці рэвалюцыйнымі і ваеннымі подзвігамі народа да выключнай рамансавасці і страснасці ў любоўных творах ўвасоблена ў песні "Быць чалавекам я рад", дзе спалучаны многія аўтарскія знаходкі (ампліфікацыя, градацыя, фігуры паэтычнага сінтаксісу).

Усё гэта сведчыць, што песенная лірыка Максіма Танка – выключны этап у станаўленні беларускай прафесійнай песні.

## Я хаджу закаханы ў твае краявіды...

*Песенная лірыка Ніла Гілевіча*

Ніл Гілевіч – пранікнёны майстра песні, на словы якога кампазітары стварылі шэраг цудоўных твораў, што сталі сапраўды візітоўкай і самога паэта і ўсёй Беларусі ў цэлым. Галоўныя вехі жыццёвага і творчага лёсу Ніла Сымонавіча непарыўна звязаны з песняй: гэта і шчымлівыя дзіцячыя ўспаміны жаночага спеву ў час жніва, і актыўная навукова-фалькларыстычная дзейнасць, якая "вылілася" адным са славутых яго даследаванняў "Паэтыка беларускай песеннай лірыкі". Менавіта пра песню ў самым шырокім яе разуменні паэт заўсёды згадвае з захапленнем, замілаваннем і шчырасцю. І не толькі ў навуковых трактатах ці лірычных запісах, бо яны для паэта рэальныя, жывыя, нібы тая беларусачка са славутай імпрэсіі "Лесам песня ішла":

Сосен зябкія плечы
Дымка ўжо спавіла,
Мне насустрач здалечы
Лесам песня ішла.

Наіўна-ўзнёслая ў сваёй някідкай прыгажосці, ці прыгожая ў сваёй юнацкай наіўнасці, Песня ў ярка-белай блузцы, з дзвюма косамі на спіне – гэта адметнае ўвасабленне-сімвал беларускага характару, светапогляду, надзей і спадзяванняў. Як у славутага Купалы, у загалоўках ягоных твораў часта сустракаецца ўлюбёны тэрмін – “Няма агідных песень у прыродзе...”, “Песня пра Балгарыю”, “Вечаровая песня самотніцы”, “Лес і песня” і шмат іншых. І гэта толькі ў зборніку “Повязь” (1987), дзе да таго ж ёсць асобны вялікі раздзел “Песні”, куды ўвайшлі дваццаць два творы. Паэт заўсёды гаворыць аб сваёй вялізнай любові да песеннай творчасці, асабліва фальклорнай, розных народаў і, у першую чаргу, славянскіх.

У песні кожнага народа ён здольны знайсці тыя залацінкі, што надаюць ёй непаўторнае аблічча і выключны нацыянальны каларыт. Як і вялікі песняр, Гілевіч і ў сваіх тэарэтычных даследаваннях, і ў сваёй творчай практыцы сцвярджае, што ўбачыць, адчуць і распазнаць зернейка будучай песні можна толькі беларускай душою. Толькі ў такім выпадку песня загучыць, толькі тады яна стане прыналежнасцю гэтай зямлі, гэтага народа, па ёй пазнаюць беларуса ў свеце. Менавіта ў поўнай адпаведнасці з гэтымі прынцыпамі і заснавана ўласна-песенная традыцыя Ніла Гілевіча.

Песняй для паэта найперш становіцца ўвесь край, уся родная Беларусь:

Мой лёс,
Мой вечны боль,
Мая не выспяваная давеку
Песня.

Гэта ягоны “храм прасветлены”, бо “душа мая і ў небе будзе трызніць Беларуссю”. Ці не таму ніхто так шчыра, узнёсла і ў той жа час так проста пасля “Спадчыны” Я. Купалы і “Люблю” К. Буйло не прызнаваўся ў любові і павазе да роднага краю, выключнай знітаванасці і жаданні растварыцца ў ім:

Я хаджу, закаханы ў твае краявіды,
І шапчу як прызнанне: о, мой край дарагі!
Зноў нясу табе ў споведзь і трывогі, і крыўды,
І надзеі, і ўцехі, і любоў, і грахі.

Менавіта выключная шчырасць, стрыманасць пачуццяў адыгралі галоўную ролю ў шырокай папулярнасці славутай песні “Вы шуміце, бярозы”, дзе ўсё здаецца такім звычайным, будзённым, а ў рэшце рэшт раскрываецца магутная сіла паэтычнага ўздзеяння. Невыпадкова да сённяшняга часу песня папулярная і ў іншых народаў. Іншы раз аўтар не можа стрымаць эмоцыі, голас яго мацнее і разносіцца па ўсёй нашай старонцы, як у песні “Край мой беларускі”. Рытарычныя воклічы, якія на першы погляд не вельмі адпавядаюць жанру песні, набываюць выразна новую функцыянальную ролю і гучаць надзвычай меладычна і паэтычна, невыпадкова ажно пяць кампазітараў напісалі на гэтыя словы музыку. Наогул, і ў песні Ніл Сымонавіч можа застацца трыбунам, асабліва калі ён лічыць, што пафаснасць, адкрытае сардэчнае хваляване дазваляюць больш дакладна і ўсебакова спасцігнуць аўтарскую задуму, пераняць трывогу і неспакой, веру і спадзяванні:

За векам век плыве-цячэ,
А мы ідзем, ідзем!.. І што ж?

О, як далёка нам яшчэ
Да Беларусі!

Равуць вятры, грымяць грамы,
Пыл засціць вочы нам, і ўсё ж,
І ўсё ж мы дойдзем, дойдзем мы
Да Беларусі!.. (“І ўсё-такі дойдзем!..”)

Але ўсё ж такі ў песнях пра каханне Н. Гілевіч застаецца пранікнёным лірыкам. Хаця цяжка вылучыць, дзе завяршаюцца песні-споведзі, песні-прызнанні і пачынаюцца любоўныя. Як і ў народнай традыцыі, дзеянні адбываюцца на фоне прыроды. Калі ёсць каханне, спадзяванне на сустрэчу, душа поўніцца радасцю, спявае, каханая заклікае:

Паглядзі, як вышыў
Май даліну ў кветкі!
Як вясна бушуе
І як цешыць вока! (“Ты яшчэ далёка”)

Адзін з яскравых ўзораў – песня “У бацькоўскім кутку”, дзе каханне разгортваецца на фоне родных сэрцу краявідаў. А таксама песні “У прысадах вечаровых”, “Не пытайся, маці”, “Вечаровая песня самотніцы”.

Сама сустрэча і чаканне яе – эмацыянальная частка лірыкі кахання. Найчасцей на першы план выступаюць перажыванні закаханага юнака:

Ціхім сумам сэрца ные,
І чакаю дзень пры дні я... (“Што ж ты, ягада-каліна”)

Падчас гэты малады чалавек уяўляецца бездапаможным перад такой грознай сілай:

Ці зладжу я з самім сабой – не знаю,
І аб адным цябе малю:
Не папракай, што я кахаю,
Не праклінай, што я люблю. (“Мой лёс – каханне”)

Даволі часта паэт захоўвае паэтыку беларускай народнай песні, перадае адпаведныя прынцыпы яе будовы, інтанацыі, вобразна-меладычны лад. Так, песня “Што ж ты, ягада-каліна” цалкам заснавана на аснове класічнага паралелізму, калі паміж адпаведнымі сітуацыямі чалавечага жыцця праводзяцца паралелі са з’явамі прыроды.

Але ў большасці песняў Н. Гілевіч выступае як філосаф, які вітае гэтае жыццё з усімі яго радасцямі і смуткам, што існуюць на гэтым свеце, як дзень і ноч, жыццё і смерць. Ён бачыць, як зараджаецца першае каханне, як хлопец шукае сваю зорачку, як дзяўчына пытаецца ў сонца, у расы, у птушынага шчэбету – ці сапраўды яна знайшла шчасце (“Пачакай, не спяшайся, любы”), як хлопец не чуе таго, што даўно пачулі сосны, кветкі, вясна (“Ты яшчэ далёка”), і толькі зімою будзе прыходзіць туга і шчымлівыя ўспаміны (“Сонечныя гурбы”). Прыкметы кахання даволі кволыя, нібы крыльцы і спевы той жаўраначкі, таму далёка не кожны можа іх адчуць (“Жаўраначка”). Многія даволі часта і праходзяць міма самага светлага пачуцця, а потым усё жыццё згадваюць яго і шкадуюць аб страчаным. Прыгожым паэтычным вобразам, сімвалам расстайнага кахання, якое можа несці не толькі тугу і сум, але і шчырую падзяку за тое, што адбылося, што дало крылы і прымусіла спяваць сэрца, выступіла песня “Палыновая ростань”:

Заўтра недзе далёка
Ты ўсміхнешся міжволі:

Неба нізкім не стала,
Свет не здаўся малым...
І мая мне дарога –
Белай стужкай у полі, –
А па ўзбоччы дарогі
Толькі шызы палын.

Песні Ніла Гілевіча – душэўныя і пранікнёныя, што перадаецца праз лексіку гэтых твораў. І майстэрства паэта – менавіта ў выкарыстанні семантычнага багацця слоў і спалучэнняў іх у радку суадносна з творчай задумай.

Кожная песня Ніла Гілевіча – гэта твор шырокага спектру моўных сродкаў.

Урачыста-ўзнёслы стыль радку надаюць паэтызмы, якія дапамагаюць выказаць аўтару думкі ўзнёсла-прыгожа пры апісанні прыроды, прадмета або пэўных дзеянняў:

Першая-найпершая
Вястуння весніх дзён (“Жаўраначка”);

Пасівералі губы,
Пасеклася чало (“Бярзы ў яркай стыні”);

Ціхага ветрыка лёт,
Што галубіць зямлю (“У бацькоўскім кутку”).

Першароднасцю бачання свету ўзбагачае вобраз метафара, якая спрыяе стварэнню выключна ўзнёслага светаўспрымання. Напеўнасць лірыкі, так неабходная для стварэння песні, залежыць не толькі ад ужывання пэўных прыёмаў, але ад сэнсу, ад эмацыянальнай афарбоўкі песеннага твора. Якраз у песнях, дзе неабходна перадаць рамантычнае адчуванне жыцця, дасягаецца гэта з дапамогай метафарызацыі стылю паэтычнага выказвання.

Даволі шырока выкарыстоўвае паэт індывідуальна-аўтарскія метафары, у якіх адбываецца “актыўны ўзаемаабмен паміж літаральным цэнтральным значэннем і яго патэнцыялам значэнняў, што выклікаюць пэўныя асацыяцыі. Кожнае слова, што ўваходзіць у яе склад, мае свой канататыўны патэнцыял, як і асноўнае слова, якое ўжыта ў пераносным сэнсе” [6, с. 51]. Метафара выяўляецца ў працэсе ўзаемадзеяння слоў, яна патрабуе пэўнага кантэксту для рэалізацыі свайго значэння.

З пэўнай колькасці індывідуальна-аўтарскіх метафар у песнях Ніла Гілевіча можна выдзеліць некалькі мадэляў словазлучэнняў, па якіх будуецца гэты троп.

Разнавіднасцямі метафары лічыцца адухаўленне і персаніфікацыя. Мова паэзіі Ніла Гілевіча – мова эмоцый, экспрэсіі, таму для перадачы пачуццяў, перажыванняў, адухаўляецца, персаніфікуецца прырода, што суадносіцца з аўтарскім светаўспрыманнем. Часцей за ўсё ў песнях персаніфікуюцца наступныя рэаліі:

- Месяц:

Ходзіць месяц, выглядае...
Не міргай мне, ясны месяц,
І з мяне дарма не смейся (“Зорачка”);

Месяц хітра смяецца над хатай,
Быццам кажа: “Сама вінавата” (“Вечаровая песня самотніцы”).

- Дрэвы:

Клёны-ясені спяць,
Сны шчаслівыя сняць (“Вечаровая песня самотніцы”).

- Прыродныя з’явы:

Мароз сярдуе і пячэ (“Жаўраначка”).

- Поры года, часы сутак:

> Паглядзі, як вышыў май даліну ў кветкі (“Ты – яшчэ далёка”);
>
> Вечар сцеле туман над крыніцай...;
> Вечар іх атуліў шызакрылы (“Вечаровая песня самотніцы”).

- Сэрца чалавека:

> Ці знаеш, як цяжка ўздыхае яно,
> Калі цябе стрэнуць няўдачы? (“Ці ведаеш ты маё сэрца?”).

Персаніфікацыя дазваляе злучыць элементы чалавечага жыцця са светам прыроднага акружэння, паказаць пры гэтым цесную сувязь чалавека і прыроды.

У песнях Ніла Гілевіча лірычнага зместу выяўлена метанімія розных відаў:

– стан, адносіны чалавечага жыцця абазначаюцца па іх знешняму выразу, прымеце:

> Ці знаеш, як радасна б’ецца яно,
> Пачуўшы знаёмыя крокі? (“Ці ведаеш ты маё сэрца?”);
>
> Хто б падумаў тады,
> Што на сэрцы, як камень,
> Буду горыч насіць? (“Я паеду адна”).

– пэўныя дзеянні абазначаюцца назвай органаў, пры дапамозе якіх яны здзяйсняюцца:

> Яна прыйдзе, хутка прыйдзе...
> Не пакіне сэрца ў крыўдзе (“Зорачка”);
>
> “Помні і не забудзь!”—
> Шапталі мне горача вусны (“Сонца ў азерцы”).

Вынікам індывідуальнага бачання свету выступае ў песенных радках перыфраза. Добра пабудаваная, яна можа стаць дасканалым сродкам моўнай экспрэсіі, што асабліва прыдатна для песеннай лірыкі, дзе гэты троп значна ўзмацняе выяўленчую сілу паэтычнага слова. Перыфраза – гэта загадка, ключ да якой схаваны ў радках:

> Колькі доля ні судзіць мне далёкіх вандровак –
> Я вярнуся навекі ў засень клёнаў тваіх (“Я хаджу закаханы”).

Так прыгожа адкрывае паэт нам сваю мару застацца назаўсёды толькі на зямлі роднай Беларусі.

Як прызнаваўся сам Ніл Гілевіч, ён не пісаў песні, ён пісаў вершы, на якія кампазітары стваралі мелодыі. Але, вядома, ён – стваральнік песеннай лірыкі, які цудоўна адчуваў і па-майстэрску перадаваў глыбінныя перажыванні душы. Радкі яго вершаў-песень насычаны разнастайнымі моўна-выяўленчымі сродкамі (на якіх мы спыніліся толькі часткова), што садзейнічае больш вобразнаму адлюстраванню рэчаіснасці, узбагачае песенныя тэксты новымі семантычнымі адценнямі і сэнсавымі нюансамі.

## “Па той зямлі, дзе ўсё табою дыша...”

*Песенная лірыка Генадзя Бураўкіна*

Яго песні прыходзілі да нас у дзяцінстве, калі мы яшчэ добра не ўсведамлялі і

гэты сусвет, і нават саміх сябе, а засыналі пад ласкавы рэчытатыў матулі, ці, хутчэй за ўсё, пад цудоўныя словы тэлевізійнай "Калыханкі" [8, т. 1], з якой паўстае для дзіцяці жыццё ў яго найярчэйшых праявах. Бо ўсё, аказваецца, адухоўлена ў гэтым свеце – і дзень, і сінія цені, і дзіўныя, загадкавыя зоркі-сплюшкі, і нават гулі з казкамі, што схаваліся пад падушкі. "*Баю-бай, баю-бай, Вачаняты закрывай*" – чуе маленькае дзіця, і перад ім прабягаюць дзівосныя зайкі, буслы, што "*ў гняздо схавалі свае доўгія насы*", – увесь антураж класічнай народнай калыханкі, няма адно толькі коціка-муркоціка, а разам з ім *Спяць і мышкі, і стрыжы. Спяць машыны ў гаражы.*

Шчаслівыя дзеці, што мелі ў дзяцінстве такую дзівосна-чароўную калыханку – вобразную, паэтычную, ласкавую, таямнічую; гэты ўрок дабрыні і сапраўднай паэзіі застанецца з імі назаўсёды, і яны навучацца бачыць у сваім жыцці светлае і радаснае, узнёслае і прыгожае ў гэтым дзівосным свеце. Як, напрыклад, "*залатога сонца сын*" ("Песенька пра сонечнага зайчыка") [8, т. 2, с. 152], які, нібы чароўная палачка, абнаўляе сусвет: *І ярчэй палаюць стужкі, І званчэй спяваюць птушкі, І цвітуць твае вяснушкі, І смяецца неба сінь.* Бураўкінская песня прыходзіць да нас у маленстве, прыходзіць дзеля таго, каб застацца назаўсёды з намі, з людзьмі, якія крочаць па гэтай зямлі, самай прыгожай на свеце. *Толькі дзе б за морам ні жыў я, Беларусь мая снілася мне* ("Я не ганю землі чужыя...") [8, т. 2, с. 98]. Гэта – крэда песні Генадзя Бураўкіна, якая перадае споведзь народа васількаваго краю.

Сам паэт з уласцівым яму грамадзянскім запалам услаўляў Бацькаўшчыну: *А калі не спяваць аб Радзіме, Дык навошта наогул спяваць?* [8, т. 2, с. 98]. Для Генадзя Бураўкіна Беларусь – благаславёны край, зямля пад белымі крыламі, як сказаў бы любімы ім Уладзімір Караткевіч. Ці не таму ў паэта чытаем: *І ўзляціш ты, мой бусел, вястун дарагі. У задымленым небе над зямлёй Беларусі, Над маёй галавою ты робіш кругі* ("Белыя крылы") [8, т. 2, с. 148]. З гэтай святой для кожнага беларуса птушкай, што каля самага сонца робіць свае чароўныя кругі, з яе белымі-белымі крыламі звязана і каханне, і надзея, і шчасце – звычайнае, чалавечае і разам з тым такое паэтычнае.

Толькі надзвычай улюбёны чалавек можа шчыра дзякаваць долі за тое, што нарадзіўся ён на зямлі, дзе Бог жыве: *Дзе Нарач мые сінія шаўкі, І п'юць з Дняпра паўдзённыя вясёлкі, Дзе з салаўямі дражняцца шпакі І жыту голас дорацъ перапёлкі* ("Я ўдзячны лёсу") [8, т. 2, с. 219]. Зямля, дзе *патухаюць, цямнеюць высі. Зоркі ўспыхваюць над сінявой*, дзе можна быць закалыханым, зачараваным і *роснай сцежкаю, і рэчкай ціхаю*, *дзе чаруюць туманы і шапатлівая мова васількоў* ("Зачарованая мая") [8, т. 1, с. 195], дзе чаромхавая квецень змяняецца зусім рэальнай завірухай, уяўляецца нам нейкім белым казачным каралеўствам ("Снежная імпрэсія" ["Завіруха"]) [8, т. 1, с. 300]. Менавіта таму паэт заклікаў не забывацца пра даўнюю казку маленства, вяртацца на сустрэчу з дзяцінствам: *Покуль ніва красуе, І не высахлі рэкі, Прыязджайце дахаты...* – бо можа здарыцца так, што *стрэнуць вас Толькі пустая буслянка Ды над лугам Старая ахрыплая каня...* ("Прыязджайце дадому!") [8, т. 1, с. 23]. І толькі Маці на гэтым свеце ўратуе сваё дзіця ад няшчасця, *скажа праўду святую, шчырай ласкай атуліць.* З ціхім сумам нагадвае паэт памятаць *родныя вочы, цёплыя рукі, над калыскай усмешку* ("Песня пра маці") [8, т. 1, с. 23].

Бадай што не знойдзецца ў нас цяпер "сур'ёзнага" паэта такога ўзроўню, які напісаў столькі адметных песняў пра каханне, як Генадзь Бураўкін. Яго песенны сусвет кахання – таямнічы, загадкавы, чарадзейны. Тут усё незвычайна, і нават рэальныя рэчы, нібы чароўная палачка, пераўтвараюць наваколле: *Клёны росамі ззяюць, Птушкі сонца гукаюць, Росам зоры варожаць, Успамінам трывожаць Маё сэрца* ("У прысадах цяністых...") [8, т. 1, с. 69]. Як прыгожа апяваў тут Генадзь Бураўкін каханне, нават ні разу не згадаўшы само слова. І гэта пасля Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Аркадзя Куляшова, Ніла Гілевіча:

У прысадах цяністых
Я сустрэўся з табой,
Маёй светлаю, чыстай
Веснавою журбой,
Маёй ціхаю казкай,
Маёй першаю ласкай.
Тут мы часта хадзілі
Ля альтанак пустых,
Ціхім шэптам будзілі
Юных клёнаў лісты.
Новых сцежак шукалі,
Першых промняў гукалі...

Яго каханая – золатавалосая, яе худзенькія плечы асыпае зорны звон, на яе голас ляцяць салаўі, яна сціплая і верная ў каханні, – вось чаму яе расплеценую касу і румяныя вусны не можа забыць аўтар, які гатовы прынесці ёй *крыло вясёлкі* і ўплесці ў касу, аддаць *альтанкі ўсе і скверы, Свой светлы лёс, і летуценні, і прызнанні, аддаць навек адной* (“Першае спатканне”) [8, т. 2, с. 159]. Паэт хоча, каб у шчасці ён быў не адзіны, – *Хай ні на міг Не адцвітаюць нашы кветкі І для ўсіх цвітуць,* і гатовы разам з каханай падараваць кветкі ўсім людзям, бо *Ты ўсё роўна без каханай – Палавіна чалавека* (“Напамін халасцяку”) [8, т. 2, с. 72]. Пройдзе ўсё на свеце, душа напоўніцца трывогаю і святлом, але першае каханне застанецца назаўсёды.

Генадзь Бураўкін – выдатны майстар песні, які цудоўна ведаў спецыфіку гэтага слоўна-музычнага жанру. Ён выразна працягнуў класічныя народныя спеўныя традыцыі. Хаця ў выключна фальклорным стылі ў яго вытрыманы толькі дзве песні – “Матылі” [8, т. 2, с. 163] і “Конь незацугляны” [8, т. 2, с. 155]. У першай з іх псіхалагічны паралелізм і страфічны дапамагаюць стварыць карціну абуджэння, росвіту і часовага здранцвення прыроды, што так натуральна адпавядае асноўным этапам быцця беларуса і дазваляе яшчэ раз убачыць, як бягуць гады жыцця. Аднак гэта навявае зусім не самотныя, а наадварот, жыццесцвярджальныя, аптымістычныя думкі. Другая песня нагадвае шчырыя, разумныя народныя споведзі закаханага хлопца, што разам са сваім верным сябрам здабывае каханне.

Вернасць Генадзя Бураўкіна класічным традыцыям захоўваецца ў майстэрскім стварэнні мастацкага вобраза, шчырасці інтанацый, творчым асэнсаванні і ўспрыманні вобразна-выяўленчых сродкаў і мастацка-стылёвых прыёмаў народнай песні.

Некалі Арыстоцель пісаў, што для паэта “важней за ўсё – быць здатным да метафараў. Толькі гэтага нельга запазычыць ад іншага. Гэта – адзнака таленту, бо складаць выбітныя метафары – значыць бачыць падабенства” [9, с. 56]. Менавіта метафары робяць мову мілагучнай і ўзнёслай. Гэта добра ведае Генадзь Бураўкін, невыпадкова сусвет яго песні становіцца выключна метафарычным. Па сутнасці, адной велізарнай разгорнутай метафарай сталі песні “Зачараваная мая”, “Па той зямлі...” [8, т. 1, с. 172]. Стварэнне вобраза чаўна, у якім да весніц каханай плывуць ціша і сон, – выключная мастакоўская знаходка аўтара. Як і вобраз каня, што капытом разбівае сон, паклажы летуценняў, і суседкі, якую герой цалуе краскамі, росамі, кветкамі, промнямі, цішаю, думкамі – але так хочацца пацалаваць вуснамі (“Суседка”) [8, т. 2, с. 81]. Песня паэта заўсёды зіхаціць адметнымі параўнаннямі, што дазваляе яму зрабіць жывапісны, наглядны, па-мастацку завершаны вобраз, абудзіць фантазію, усхваляваць пачуцці. Так, песня “Незнаёмка” [8, т. 1, с. 244] амаль цалкам заснавана на адметных параўнаннях, што так дакладна перадаюць захапленне аўтара вабнай дзяўчынай: *Як ветразь, над блакітнай блузкай Касынка белая плыла, І шаўкавістай пасмай лёну Каса ляжала на плячы*; на фоне снежнай завірухі даволі цікавы вобраз стварае радок *як паходня, твой шаль ружавее* [8, т. 1, с. 300]. З чым толькі не параўноўвалі месяц! Але і тут паэт арыгінальны першаадкрывальнік. Яго

радкі *Поўня белая яблыкам спелым На далоні твае ўпадзе* (“Зачараваная мая”) [8, т. 1, с. 195] адразу выклікаюць асацыяцыі пра Эдэм, Еву і забаронены плод, які так хочацца пакаштаваць. Ля чаўна мараў і сну *Ляжыць вясло зламанае, нібыта Сіваваронкі шызае крыло* [8, т. 1, с. 172]. Па-свойму ўяўляе паэт і вянкі, сплеценыя дзяўчатамі на вяселле: *Быццам стомлена прыселі Ім на рукі матылі* [8, т. 2, с. 163].

Вельмі цікавыя ў паэтыцы песеннай лірыкі паэта ўзоры метаніміі, хоць гэта даволі рэдкі прыём для падобных твораў. Так, сонечнага зайчыка ён называе *залатога сонца сын* [8, т. 2, с. 152], былое каханне – агеньчыкам, што некалі апёк герояў і згас пад халодным дыханнем: *Што паробіш, калі пагас Пад дыханнем тваім халодным Той агеньчык, што некалі нас Нечакана апёк мімаходам* (“Больш табе я не пазваню”) [8, т. 1, с. 250], родную Беларусь – *сястрою мілай*, а каб расказаць пра вернасць юнацкім ідэалам і замену іх матэрыяльнымі турботамі, ён проста канстатуе: *У сяброў па садах сыта звоняць сініцы. І крычыць недасяжна ў небе мой журавель* (“Колькі б нам за жар-птушкаю ўслед ні ганяцца”) [8, т. 1, с. 147].

Генадзь Бураўкін – майстар паэтычнага сінтаксісу. Як паэт выключнага тэмпераменту, ён вельмі любіў рытарычныя фігуры і па-майстэрску імі карыстаўся. Рытарычныя пытанні, воклічы, звароты дапамагаюць у радку перадаваць атмасферу ўсхваляванасці, сцвярджаць свае сімпатыі і антыпатыі, увасабляць імклівасць дзеяння: *Гэта ўсё, безумоўна, не нова. А ці трэба, каб новым было Поле бацькава, матчына мова І над хатай буслова жытло?* [8, т. 2, с. 98]; *А калі не спяваць аб Радзіме, Дык навошта наогул спяваць?* (тамсама); *І няхай заўсёды свеціць Залатога сонца сын!* [8, т. 2, с. 152]; *Што, як ноччу ў акно пагрукаю, Недасяжная і спакусная?* [8, т. 2, с. 81]; *Калі яшчэ на сцежцы вузкай Цябе сустрэну ля сяла?* [8, т. 1, с. 244]. Перакананне, вера ў вечнасць ідэалаў гучаць у наступных радках: *За туманам, за дымам Свеціць неба рачной сінявой. Застанецца Радзіма, Застанецца Радзіма жывой* (“Франтавыя дарогі”) [8, т. 2, с. 146].

З іншых стылістычных прыёмаў найчасцей паэт выкарыстоўвае падваенні: *белы снег, белы снег, белы снег; засыпае нас снег, засыпае* [8, т. 1, с. 300]; *прыязджайце дадому, прыязджайце дадому; прыязджайце да маці, прыязджайце да маці* [8, т. 1, с. 231]; градацыю: *Я праміну агні, шляхі і перашкоды; І ўсю сваю Любоў, даверлівасць і веру...* [8, т. 2, с. 159]; анафары і эпіфары: *Помню песні твае, Помню цёплыя рукі, Помню косы твае...* [8, т. 2, с. 149]; *А каханне першае А каханне першае А каханне першае Помніцца* (“Каханне першае помніцца”) [8, т. 2, с. 162]. Асаблівы паэтычны настрой стварае выкарыстанне асіндэтона і полісіндэтона: *Адбалела. Прайшло. Адплыло. Не пакінула нават суму... А быць можа, і не было? А быць можа, я ўсё прыдумаў?..* [8, т. 1, с. 250], калі спалучэнне бяззлучнікавасці з рытарычным пытаннем значна ўзмацняе пачуцці тугі і самоты: *Як з-за хмаркі сонца выйшла, Ён уміг залез на вішню, Між лістоў зусім не лішні, Хітрым вокам падміргнуў* [8, т. 2, с. 152], што дапамагае або выразна запаволіць, або выразна паскорыць развіццё дзеяння ў залежнасці ад мастацкай задачы.

Часам аўтар стварае адпаведны вобраз у межах сінтаксічнага перыяду (два перыяды ў “Калыханцы” і тры ў песні “У прысадах цяністых”). Падобнае спалучэнне з інверсіяй, антытэзай, эліпсісам, абрывам стварае адметную паэтыку песеннай лірыкі Генадзя Бураўкіна, у чым і бачыцца яе выключная спеўнасць, даўно заўважаная беларускімі кампазітарамі.

Але яшчэ многа твораў выдатнага Майстры чакаюць свайго ўдумлівага прачытання. Многія вершы пакладзены на музыку, але будзе зусім не дзіўна, калі многія іншыя знойдуць свайго таленавітага кампазітара, які вызваліць, абудзіць схаваную ў тэксце арыгінальную мелодыю. І тады словы, сатканыя ў радкі, у меладычна-чароўныя карункі, знойдуць сваё другое жыццё, увойдуць у душы і сэрцы людзей і будуць радаваць іх дзівосным і непаўторным голасам, саграваць палкім сэрцам слыннага паэта-песенніка.

*Неба і зоркі... Загадкавы і таямнічы свет нябёсаў, як і загадкавасць тых радкоў, што нам разгадваць і разгадваць, слухаць чароўныя мелодыі песень, спяваць калыханку немаўляці, натхняцца музыкай і словамі, спатольваць душэўную смагу, дакранаючыся да светлых і чыстых крыніц...*

*Акорды і боскія гукі магутных хораў, якія дасылаюць у неабсяжны космас мажорныя і лірычныя поклічы, быццам стараючыся данесці да душ стваральнікаў несмяротных радкоў сваю падзяку і ўдзячнасць. Тады зоркі, пачуўшы іх, успыхваюць яшчэ ярчэй і дасылаюць на зямлю свой шчыры водгук-адказ.*

Л і т а р а т у р а:

1. Максім Танк. Збор твораў у шасці тамах. Т.6. – Мінск : Мастацкая літаратура, 1981.
2. Харавы вянок : Хоры на вершы Максіма Танка / уклад. В. Роўда, уступ Д. Дзядзюля. – Мінск : Беларусь, 1985. – 96 с.
3. Малажай, Г.М. Лінгвістычны аналіз тэксту / вуч. дапам-к / Г.М. Малажай. – 2-е выд, дапрац., дапоўн. / – Мінск: Вышэйшая школа, 1982. – 367 с.
4. Арочка, М.М. Стыль пісьменніка : зб. арт. / Акадэмія навук / – Мінск : Вышэйшая школа, 1974.
5. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы : У 5-ці тамах – Мінск : Беларуская Савецкая Энцыклапедыя імя П. Броўкі, 1977 – 1984.
6. Вовк, В.Н. Языковая метафора в художественной речи. Природа вторичной номинации /В.Н. Вовк – Киев, Навукова думка, 1986. – 143 с.
7. Томашевский, Б.В. Теория литературы. Поэтика / Б.В. Томашевский – Москва : Аспект, Прогресс, 1999. – 334 с.
8. Бураўкін, Г. Выбраныя творы : У 2 т. / Г. Бураўкін – Мінск : Маст. літаратура, 1986.
9. Аристотель. Сочинения : В 4 . / Т. 4 / Аристотель – М. : Мысль, 1983. – 672 с.



Уладзімір Сіўчыкаў



…рана, самастойна і ўдала абраў свой шлях, усё жыццё займаюся любімай справай…

# Касмічны і зямны

***Штрыхі да творчага партрэта Івана Міско***

Першая запамінальная, акцэнтаваная, але завочная сустрэча з Іванам Якімавічам Міско адбылася ў маім родным Жодзіне. Завочная таму, што хоць і бачыў яго на адкрыцці помніка Маці-патрыётцы, але падысці і пазнаёміцца тады, у далёкім 1975 годзе, калі быў трэцякурснікам Мінскай мастацкай вучэльні, не насмеліўся. Таму гэта была хутчэй сустрэча з творам майстра, усталяваным ім у суаўтарстве са скульптарамі Мікалаем Рыжанковым, Андрэем Заспіцкім і дойлідам Алегам Трафімчуком.

Творчая супраца гэтага квартэта манументалістаў аказалася настолькі ўдалай, што іхні наступны плён, помнік Максіму Горкаму, быў усталяваны ў 1981 годзе пры Свіслачы, у Цэнтральным дзіцячым парку, які носіць імя рускага пісьменніка. Гэта парк і майго дзяцінства, пазней пры ім доўгі час мясціўся і мой выдавецкі офіс. (Між іншым, Іван Міско не раз публічна выказваўся на карысць ідэі перайменаваць яго ў парк імя Якуба Коласа, бо да Другой сусветнай вайны на яго тэрыторыі

стаяў дом Народнага паэта Беларусі.)

У гады зусім яшчэ маладой Рэспублікі Беларусь пашчасціла ў Доме дружбы весці з Іванам Якімавічам зацікаўленую гутарку пра імаверны конны помнік дзяржаўнаму і ваеннаму дзеячу Вялікага Княства Літоўскага, князю Багуславу Радзівілу як заснавальніку Багуслаў Поліса, цяперашняга Жодзіна.


*Іван Місько з медалём Ігара Лучанка. Фота У. Сіўчыкава.*

Тры гады таму надарылася паездка на навукова-практычную канферэнцыю ў Пружаны. Запрасіў на яе педагог і літаратуразнаўца Міхась Кенька. Ён прэзентаваў публіцы свой пераклад выдадзенай мною гістарычнай аповесці Юзафа Ігнацага Крашэўскага “Кароль у Нясвіжы. 1784”, а таксама прадставіў гасцям Пружанскага палацыка барэльеф вялікага польскага і беларускага пісьменніка, створаны Іванам Міско адмыслова для краязнаўчага музея.

Адразу ў двух музеях – у літаратурным і ў музеі поліэтнічнай культуры мястэчка Ракаў – лёсіла пабываць летась падчас “Ракаўскага фэсту”. Стварылі іх мае колішнія ўніверсітэцкія выкладчыкі Вячаслаў Рагойша і Таццяна Кабржыцкая. І тады вельмі прыемна было пабачыць на Рагойшавай сядзібе мемарыяльную дошку з профілем і надпісам “Гэты дом часта па-сяброўску наведваў класік беларускай літаратуры Уладзімір Караткевіч”. Аказалася, што аўтар яе зноў жа – Іван Міско!

З падачы Вячаслава Рагойшы ўсяго за чатыры кіламетры ад Ракава зрабіў скульптар і мемарыяльную дошку “Палачанка”, якая нагадвае пра лецішча, якое здымаў у вёсцы Якуб Колас.

Цесны свет: Міхась Кенька працуе ў маёй *alma mater* на філалагічным факультэце на кафедры тэорыі літаратуры, якую да апошняга часу ачольваў Вячаслаў Пятровіч Рагойша. А вось на правах літаратурнага сакратара Івана Міско запрасіў мяне спадар Кенька ў майстэрню-музей, якая месціцца ў Верхнім горадзе, у цэнтры нашае сталіцы і мае статус філіяла Музея гісторыі горада Мінска. Прызнаюся, люблю бываць у мастакоўскіх майстэрнях, бо заўсёды пануе ў іх творчая, інтрыгоўная атмасфера.

Уваход у гэтую майстэрню адметны: там не звычайны ганак, а наадварот, штосьці кшталту бруствера, але з граніту. А ўсё таму, што падчас залеваў майстэрню не раз залівала, бо не спраўлялася з вадою ліўневая каналізацыя сістэмы недалёкай Нямігі, і праз тое цярпелі, а то і гінулі не толькі творы, але і архіўныя дакументы. Пры дзвярах прышрубаваная даволі масіўная шыльда, але аніякая забранзавеласць гаспадару не ўласцівая.

Скульптар, у адрозненне ад палітыка ці эстраднага спевака, – асоба не вельмі публічная і паяўляецца на людзях хіба што на адкрыцці выставы або манументальнага твора. Але за якія паўтары гадзіны, як хадзілі мы разам развітацца з кампазітарам Ігарам Лучанком, двойчы перанялі Івана Якімавіча ягоныя знаёмцы ў Аляксандраўскім скверы. Паважліва прывітаў, назваў па імені і па бацьку капітан ганаровай варты на прыступках Дома афіцэраў, павіталі, паціснулі руку міністры, дзяржаўныя чыноўнікі і культурныя дзеячы, а тэлежурналісты выстраіліся ў

чаргу на кароткае інтэрв'ю. А пасля чаргі, адстоенай ва ўніверсаме "Цэнтральны", маладая касірка будзённа адказала на маё пытанне: "Так, мы яго ведаем! Бывае заходзіць да нас, асабліва з акцёрам-купалаўцам Генадзем Аўсяннікавым!"

Заслужаны дзеяч мастацтва, Народны мастак Рэспублікі Беларусь, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР, лаўрэат прэміі Саюзнай дзяржавы, ганаровы грамадзянін Слоніма і Слонімскага раёна, кавалер медаля Францыска Скарыны і ордэна Юрыя Гагарына, і ў свае 87 гадоў камунікуе надзвычай проста і ахвотна, нават калі пасярод гаворкі ўключаю дыктафон.

***– Можа, памятаеце, Іван Якімавіч, мы з Вамі калісьці гаварылі пра помнік заснавальніку Жодзіна князю Багуславу Радзівілу?***

– Помню, помню. Гэтая тэма мяне і сёння грэе. Але ў горадзе з аўтазаводам, які мае шалёныя прыбыткі, не могуць знайсці сродкі нават на ўязды знак з бронзы і граніту, на "Маці Божую", адлюстраваную на гарадскім гербе! Гэта ж колькі скандалаў было! Я напісаў дзве скаргі на так званых жодзінскіх мэраў – міністру культуры і старшыні Мінскага аблвыканкама. Абвяшчаўся конкурс, але ў журы ўваходзілі не творцы, а скрозь адміністратары ды чыноўнікі. А "мэр" дык і ўвогуле публічна заяўляў: "Я тут гаспадар – што хачу, тое і раблю!" Шкада, але Багуслаў Радзівіл у іх і сёння, як кажуць маладзёны, не ў трэндзе. Але хачу расказаць яшчэ вось пра што. Некалькі гадоў таму прайшла рэстаўрацыя помніка Маці-патрыёткі. Падшыванцы ці яшчэ хто залезлі на помнік і зламалі адзін штык. Прыйшлі рэстаўратары, а мяне не запрасілі, нават не параіліся. Каб не аднаўляць помнік як след, яны ўзялі дый паспілоўвалі і іншыя штыкі!

***– Дзікунства несусветнае!***

– Пасля сваёй "рэстаўрацыі" яны змясцілі пры помніку шыльдачку "Ахоўваецца законам"! Дык хто гэта – рэстаўратары або вандалы, якія знявечылі мастацкі твор?!

***– Будзем спадзявацца, што новы старшыня гарвыканкама акажацца больш адукаваным і дальнабачным. А ў Жодзіне ў Вас, па-мойму, сваякі?***

– Так. Там жыў і працаваў мой стрыечны брат, які пайшоў ужо з жыцця, але засталася ягоная ўдава. Унукі і цяпер там жывуць. А вось на маёй радзіме, на Слонімшчыне, са стрыечных анікога ўжо няма, усе сышлі. Засталіся толькі вельмі далёкія, але бываць там, як сёлета часта гаворыцца, на малой радзіме, хочацца...

***– Але пагадзіцеся, Іван Якімавіч, гэта няўдалы, некарэктны ідэалагічны штамп. Адна з паэтычных кніг Васіля Жуковіча нават пайменавана: "Не завіце радзіму малой!"***

– Згодны! Тым болей, як кажа адзін мой даўні знаёмец: "Што такое малая радзіма сёння? Гэта могілкі!" Прыязджаеш на радзіму, а ідзеш на могілкі! Хаця што маюць на ўвазе найперш, калі кажуць пра малую радзіму? Гэта месца, дзе прайшло тваё дзяцінства, дзе зрабіў свае першыя крокі! Тэма, якую я цяпер хваравіта ўспрымаю, якую акцэнтую як старшыня манументальнай рады па Мінскай вобласці і як першы намеснік старшыні нашай рэспубліканскай рады – гэта нашы крыніцы. Вада з іх у дзяцінстве падавалася найсмачнейшаю. Раней халадзільнікаў не было, таму і мае



*Помнік Максіму Горкаму ў мінскім Цэнтральным дзіцячым парку яго імя.*

бацькі, і нашы суседзі сыры ды малако ставілі ў праточную крынічную ваду. Мы, дзеці, ведалі, хто дзе хавае, але ані разу не парушылі святасці, ані разу нічога не скралі.

Тэма аднаго з цяперашніх нашых нацыянальных пленэраў – "Вада і камень", і там, дзе крыніца дасяжная, пажадана ўсталяваць скульптурную пластыку, увекапомніць і гэтую нашу спадчыну.

***– Але ж да крыніц трэба ставіцца вельмі асцярожліва і далікатна! У Жодзіне царква нібыта стала апекавацца папулярнай у гараджан крыніцаю пры Плісе. Паклалі такую груваасткую бетонную пліту, а да яе і такую мажную лесвіцу з абрыву, што крыніца тая прыдушаная і цяпер ледзь ліпіць!***

– Зразумела, бо ва ўсім павінны дзейнічаць прафесіяналы! Я шэсць разоў узначальваў Дзяржаўную экзаменацыйную камісію ў нашай Акадэміі мастацтва і бачыў шмат таленавітай моладзі. Таму і прасіў, каб вопытныя педагогі ў Акадэміі і на курсавыя, і на дыпломныя работы ўзялі сёлета тэму "Вада і камень". А на маёй радзіме, на Слонімшчыне, старшыня райвыканкама прасіў, каб падказаў яму, калі ўбачу цікавыя праекты, бо пастараецца паспрыяць перавесці іх у матэрыял і ўсталяваць пры крыніцах ці рэчках. Але, зразумела, не можа быць аднаго шаблону ў розных, адметных месцах.


*Эскіз помніка Льву Сапегу.*

***– Мне здаецца, што як станоўчы прыклад можна разглядаць помнік "Вілляна" ў Вілейцы, дзе Уладзімір Слабодчыкаў усталяваў сімпатычную скульптурную алегорыю рэчкі, на якой стаіць горад. А вось, можа, банальнае пытанне: ці ёсць у Вас самы любімы, самы шанаваны Ваш твор?***

– Над якім творам працуеш, той і любімы. А, бывае, паглядзіш на яго праз тыдзень і заўважаеш масу недахопаў, бывае, што і зусім расчароўваешся.

***– А з кім з беларускіх творцаў складаліся ў Вас найбольш прыязныя ці сяброўскія стасункі?***

– З Генадзем Аўсяннікавым – ён мой дарагі сябар і госць. З незабыўным, неверагодна таленавітым Ігарам Лучанком. З паэтам Анатолем Іверсам – ягоная сям'я ратавалася падчас вайны на нашым хутары пад Слонімам... Усіх не згадаць, але многія і сёння бываюць у маёй майстэрні.

***– А над помнікам канцлеру Льву Сапегу для Слоніма Вы працуеце ўжо больш за дзесяць гадоў…***

– Даволі хутка ў Слоніме будзе праводзіцца Дзень пісьменства і друку. Міністэрства культуры выйшла з прапановаю, і Слонімскі гарвыканкам абвясціў конкурс. Хаця мной распрацаваны праект куды раней, чым дзесяць гадоў таму. Калісьці ў працы над ім спрыяў мой зямляк, паэт Алег Лойка, партрэт якога я таксама ляпіў і якому абавязкова ўсталюю мемарыяльную дошку. На жаль, стаўленне да многіх ініцыятыў прыземленае. Калісьці нават быў адкрыты рахунак на помнік Сапегу. І што вы думаеце? Аніхто нават капейкі не ахвяраваў! Было б выдатна, каб мара не толькі слонімцаў споўнілася! Зазначу толькі, што створаны праект у суаўтарстве з маладзейшымі калегамі Уладзімірам Пініным і Сяргеем Логвіным.

***– А як складваецца сітуацыя з помнікам Казіміру Семяновічу? Скульп-***

***турны партрэт тэарэтыка артылерыі і касманаўтыкі, галаву ў высокім капелюшы вылепілі Вы гадоў з дзесяць таму…***

– Калі не ўсе пятнаццаць! Размаўляў я, шукаў падтрымкі нават у вайскоўцаў-ракетчыкаў у Віцебску. Усе “за”, ніхто не “супраць”, але ж перапытваюць: “А сродкі ў цябе ёсць?” “Каб яны ў мяне былі, – адказваю, – дык гаворку з вамі не вёў бы!”

***– Але Ваш шэраг касмічных канструктараў куды даўжэйшы…***

– Як мінімум, трэба было б назваць житомірца, акадэміка Сяргея Каралёва, а таксама двух случакоў – канструктара ракетных рухавікоў Сямёна Козберга і начальніка касмадрома Байканур Канстанціна Герчыка.

***– Адзін з маіх сяброў і калегаў, амаль што Ваш зямляк Міхась Скобла любіць казаць: “Хочаш насмяшыць Бога, дык падзяліся з людзьмі сваімі планамі!” А мой зямляк, літаратар Алесь Аркуш наадварот – агучвае свае задумы, маўляў, калі паабяцаю людзям, дык неадменна мушу давесці, напісаць абвешчанае. Як Вы да гэтага ставіцеся?***

– Часам я дзялюся сваімі планамі, але найчасцей тое і не здзяйсняецца.

***– Вы ўсё ж чалавек крыху прымхлівы. Пагадзіцеся, ёсць нешта містычнае ў тым, што трэснула ледзь не напалам гліняная галава, партрэт астролага Паўла Глобы, які спрабуе прадказваць будучыню і, кажуць, нават не раз кансультаваў першую асобу нашай краіны…***

– Ды якая там містыка – проста забыўся ўкруціць на ноч гэты эскіз у пластыкат! А што тычыць планаў, дык я не раз казаў: давайце створым нацыянальны план манументальнай прапаганды хаця б гадоў на пяць! Але, зноў жа, як планаваць, калі няма фінансаў? Я, дарэчы, выказваўся і пра тое, каб хаця палова дыпломных праектаў (роспіс, мазаіка, скульптура...) выпускнікоў нашай Акадэміі мастацтва былі запланаваныя да ўвасаблення ў матэрыяле ў канкрэтных месцах і прафінансаваныя. У замежных краінах паспяхова праводзяцца пленэры, пасля якіх творцы ледзь не бясплатна пакідаюць арганізатарам свае работы. Напрыклад, у 2000 годзе ліванскі горад Алія ахвотна прыняў і ўсталяваў пасля міжнароднага сімпозіума па скульптуры маю кампазіцыю “Космас”. А ў нашай дзяржаве разуменне значнасці падобных пленэраў сёння няма.

***– Іван Якімавіч, Вы шчаслівы творца, пра якога найперш гавораць “касмічны скульптар”. Нядаўна ў нашай сталіцы на вуліцы Касманаўтаў усталявалі ваш памятны знак “Беларусам – героям космасу”, на якім адлюстраваныя Пятро Клімук, Уладзімір Кавалёнак і Алег Навіцкі. Але, пагадзіцеся, фактычна беларусаў-касманаўтаў куды болей, чым гэтая “кананічная” тройца. Падчас нядаўняга Міжнароднага касмічнага кангрэса ў Мінску касманаўт Алег Арцем’еў з борта арбітальнай станцыі павітаў дэлегатаў пабеларуску. Агульнавядома, што беларускія карані маюць першы ў свеце касманаўт Юры Гагарын і першая жанчына-касманаўт Валянціна Церашкова. Калі грунтоўна ўгрызціся ў біяграфіі касманаўтаў, дык можна знайсці яшчэ дзясяткі цікавостак…***

– Тут склалася такая традыцыя: можна мець дзядоў ці нават бацькоў-беларусаў, але ўсё вызначаецца месцам нараджэння незалежна ад таго, падабаецца нам гэта ці не.



*Скульптурны партрэт Казіміра Семяновіча.*

***– Але, мабыць, гэта недасканалы прынцып! Калі праваабаронца Алесь Бяляцкі, бацькі якога з Гомельшчыны, нарадзіўся ў Карэліі, дык ён што, не беларус?! Альбо не беларус літаратар Зміцер Вішнёў, народжаны ў Венгрыі ў сям'і вайскоўца, які праходзіў там службу?..***

– Спрачацца не буду, зазначу іншае. Пра гэта не прынята казаць, але Пётр Міронавіч Машэраў прымаў Валянціну Церашкову на беларускай зямлі проста фантастычна. А пасля яго, колькі яна ні прыязджала ў Мінск, ніхто ніколі яе не прыняў! Хіба гэта не крыўдна?! Другі прыклад сённяшняга стаўлення да людзей. Пасля адкрыцця памятнага знака беларускім касманаўтам мне ніхто не сказаў ні “дзякуй!”, ні “да пабачэння!” А між тым я адмовіўся ад аўтарскага ганарару, хоць 22 000 беларускіх рублёў – гэта харошая сума! Калегі потым пыталіся: “І навошта ты гэта зрабіў?!” Ініцыятыва, аказваецца, і сёння караецца.



*Скульптурны партрэт Валянціны Церашковай.*

***– А Вас, Іван Якімавіч, не папракалі ў сэрвільнасці і кан'юнктурнасці, у тым, што асваенне космасу – гэта і палітычнае спаборніцтва, што касмічная тэма модная, а вы проста ўдала эксплуатуеце яе?***

– Ды папракалі, хоць і працую я ў ёй як скульптар шэсць дзясяткаў гадоў – ад запуску першага савецкага штучнага спадарожніка Зямлі і да сённяшняга дня. Прычым працую практычна без канкурэнцыі. Не раз наязджаў і ў знакаміты Зорны гарадок, ма́ю там майстэрню, шмат каго з касманаўтаў ляпіў з натуры. Але на радзіме нярэдка даводзілася чуць і такое: “Гэта не наша, не беларуская тэма! Гэта нікому не патрэбна! Тут не праўда жыцця, а суцэльная ідэалізацыя і ўслаўленне герояў, а ў іх ліку чужых – астранаўтаў ды тайканаўтаў!”

А вось мая ілюстрацыя наконт праўды ў жыцці і творчасці. Вера Мухіна зрабіла вельмі шмат працаў, але самая знакамітая – адна: “Рабочы і калгасніца”. Калі мы былі студэнтамі Акадэміі мастацтваў, дык спрабавалі паставіць натуршчыка з натуршчыцай у мухінскія позы. Ніяк, ну аніяк не становяцца! Колькі ні круцілі – і рукі, і ногі, а не становяцца! А вось Вера Мухіна так кампазіцыйна выбудавала, што верыш, што гэта праўда.

Або часам даводзіцца чуць: “Вось на фатаграфіі тут ямка, а тут барадаўка!” Але ж гэта не аб'ём, гэта не характар! Цягам жыцця чалавек мяняецца – мяняецца прычоска, мяняецца структура і форма галавы, затое ёсць дэталі, якія вымалёўваюць сталую, нязменную канструкцыю!

***– У Вас у майстэрні ёсць два рарытэты, з якіх, мабыць, не дазваляецца нават пыл здзьмухваць. Я маю на ўвазе люстэрка і міжпакаёвыя дзверы, скрозь спісаныя аўтографамі Вашых сяброў і гасцей. Хто запачаткаваў гэтую традыцыю, адкуль яна?***

– З Байканура. Касманаўты перад палётам выходзяць з гасцініцы, а на дзвярах нумара, у якім жылі, неадменна пакідаюць аўтографы. Адтуль гэтая традыцыя перакачавала і да мяне. На жаль, частка калекцыі загінула, бо проста выгарэла ад святла і сонечных промняў. Аказваецца, самыя лепшыя фламастары – тыя, што ў металічнай або ў шкляной аправе. А першы аўтограф на люстэрку зрабіў Пятро Клімук: паправіў перад ім прычоску дый кажа: “Іван, у мяне ёсць флама-

стар, якім можна карыстацца нават пад вадою. Давай я табе пакіну свой подпіс, а мае калегі, якія наведаюцца да цябе пазней, хай таксама распішуцца на гэтым люстэрку!" Пасля прыехаў Георгій Берагавой і пагадзіўся: "Хай будзе так, як на Байкануры!" Пакінула тут свой роспіс і маці касманаўта №1 Ганна Цімафееўна Гагарына, якая бывала ў майстэрні шмат разоў.

***– А вось на дзвярах унізе, каля самай падлогі, бачу я пазнавальны подпіс аднаго палітыка.***

– Ён жа тады быў толькі дэпутатам, а не Прэзідэнтам... Але, канечне, кожны аўтограф тут – гэта лёс, гэта гісторыя, згадваць і расказваць пра іх можна бясконца. Адзін раз скарыстаў я гэтую калекцыю і ў меркантыльных мэтах. Калі ў майстэрню злодзеі наведаліся ці не ў пяты раз, я паказаў яе тагачаснаму міністру ўнутраных спраў, а той даў каманду, і ахоўную сігналізацыю ўсталявалі мне на наступны дзень!

***– Неяк Вы прызналіся, што марыце напісаць кнігу...***

– Толькі што ў выдавецкай серыі "ЖЗЛБ" выйшаў альбом пра мяне пад назваю "Зорны шлях". Я ім, а найперш якасцю паліграфічнага выканання, страшэнна незадаволены. Сам жа цягам дзесяцігоддзяў вяду асабіста-творчыя дзённікі. Агульных сшыткаў з імі таксама дзясяткі. Спадзяюся аднойчы перачытаць іх, выбраць лепшае дый падрыхтаваць да друку.

***– У Вас нямала розных узнагарод і званняў. Як Вы ставіцеся да іх?***

– Самая дарагая мне – Дзяржпрэмія СССР 1977 года за помнік Маці-патрыётцы ў Жодзіне. А што тычыць своечасовасці званняў, дык згадаю, як заходзіў я да Рыгора Шырмы павіншаваць яго са званнем Героя Сацыялістычнай Працы, дык ён са скрухаю заўважыў: "Што ж яны нарабілі?! Я, васьмідзесяцігадовы, з гэтай зоркай і выйсці ўжо анікуды не змагу: ногі баляць". Амаль што ў такім узросце ўшанавалі маю працу званнем Народнага мастака, але я не хачу быць няўдзячным. Чалавеку прыемная любая пахвала і ўзнагарода.

***– Я бачу Вас шчаслівым чалавекам...***

– Гэта так: я рана, самастойна і ўдала абраў свой шлях, усё жыццё займаюся любімай справай, якая дорыць мне маральнае задавальненне, грамадскае і дзяржаўнае прызнанне.

Геаграфія твораў Івана Міско надзвычай шырокая – ягоныя помнікі стаяць на радзіме Пятра Клімука ў Тамашоўцы і ў Брэсце, на радзіме Уладзіміра Кавалёнка ў Крупках, у гонар сумеснага палёту Валерыя Быкоўскага і Зігмундта Ена ў нямецкім Патсдаме, а ў гонар палёту Пятра Клімука і Міраслава Гермашэўскага – у Віцебску, мемарыяльныя дошкі акадэміку Сяргею Каралёву і касманаўту Юрыю Гагарыну ў Зорным гарадку пад Масквой, надмагільны помнік касманаўту Георгію Берагавому – на Новадзявочых могілках. Персанальныя выставы скульптара праходзілі ў самых прэстыжных галерэях і музеях, а касманаўт Алег Навіцкі дэманстраваў сто ягоных твораў касмічнай тэматыкі проста на арбіце экіпажа Міжнароднай касмічнай станцыі.

Не скажаш, што гэты мастак, касмічны і зямны, – асілак з выгляду, як уяўляецца многім скульптар, але, бясспрэчна, – гэта волат духу, волат працы і таленту.

Іван Якімавіч дваццаць гадоў адпрацаваў у Мастацкім музеі пад кіраўніцтвам легендарнай Алены Васільеўны Аладавай, вёў актыўную выкладчыцкую дзейнасць, шмат падарожнічаў і дагэтуль не расстаецца з фотакамерай, мае шмат сяброў і знаёмцаў па ўсім свеце. На гарбату да яго і сёння ахвотна завітваюць знакамітасці, а на экскурсіі – школьнікі і студэнты не толькі са сталіцы.



Леанід Галубовіч



...усё скончаецца бойкай і –

перамогай...

# Узвысіцца над рэчаісным

***Уладзімер Арлоў. Паручнік Пятровіч і прапаршчык Здань. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – (Бібліятэчка часопіса “Дзеяслоў”; вып. 23). – 252 с.***

Гістарычнае і нацыянальна-дзяржаўнае мысленне Уладзімера Арлова праявілася ад самага пачатку яго літаратурнай працы, паколькі было фундаментальна закладзена прафесійнай адукацыяй і ў далейшым скарыстанае яго пісьменніцкім талентам. Сучаснаму чытачу добра помныя яго лепшыя папулярна-асветніцкія выданні: “Таямніцы полацкай гісторыі”, “Адкуль наш род”, “Краіна Беларусь”, а таксама выбітныя кнігі мастацкай прозы: “Дзень, калі ўпала страла”, “Рэквіем для бензапілы”, “Сны імператара”, “Ордэн Белай Мышы” і зусім нядаўняя – “Танцы над горадам”. Ад шмат якіх тут упомненых яго твораў вее мройна-ўзвышаным крылом паэтычнага натхнення. Асабліва ад самнамбулістычных танцаў на гарадскіх дахах... І трэба сказаць, вершаваны ўнёсак У. Арлова ў сучасную літаратуру не менш вядомы і бярэ свой пачатак яшчэ з яго полацкага жыцця і першага пераходнага зборніка *вершаў у*

*прозе* “Там, за дзвярыма” (1991), які, дарэчы, маецца і ў маёй хатняй бібліятэцы з аўтографам, дзе аўтар цытуе фрагмент аднаго з уласных твораў:




Хто запомніць?
Хто пачуе?
Хто зразумее
галасы нашы?

Гэтыя пытанні, на жаль, актуальныя да сённяшняга часу. І адказы на іх усё яшчэ няпэўныя нават у самых аптымістычных нашых творах, подумках і развагах. Пасля ў Арлова былі зборнікі “Фаўна сноў” і “Паром праз Ла-Манш”, за апошні з якіх ён быў уганараваны прэміяй “Еўрапейскі паэт свабоды” ў Гданьску (2010). З сукупнасці ўсёй яго творчасці відочна, што Уладзімер Арлоў заўсёды быў схільны да пэўнага сінтэзу сур’ёзнай палітычнай публіцыстыкі, гістарычна-меладраматычнай прозы і грамадзянска-лірычнай паэзіі... Валодаючы шырокім драматычным досведам нашага мінулага, маючы цвяроза-саркастычнае стаўленне да сучаснага, ён умудраецца захоўваць упэўнена-іранічны погляд не толькі на беларускае *светлае* будучае...

Мне здаецца, што менавіта балады, сабраныя ў зборніку “Паручнік Пятровіч і прапаршчык Здань” (назва мне, прызнаюся, не надта падабаецца, але яна, відаць, звязана з рэкламна-камерцыйным складнікам выдання), што выйшаў у 2018 годзе пры бібліятэчцы часопіса “Дзеяслоў”, і з’яўляюцца мастацкім *прадуктам* таго самага сінтэзу ці, інакш кажучы, – цэльна згарманізаванай літаратурнай задумы гісторыка, пісьменніка і паэта.

Уладзімер Арлоў смела (мастацкімі і досведна-энцыклапедычнымі сродкамі) ўводзіць нацыянальную беларускую гісторыю і культуру ў шырокі кантэкст агульнаеўрапейскай цывілізацыі. Яго абсалютна не турбуе *ўсходняя* ідэалагічная скіраванасць беларускага электарата (і, мажліва, некаторых ягоных чытачоў). Ён захоплены пожадам сутнаснага і існіннага – праўдай жыцця і мастацкай празорлівасцю. Спалучэннем былога з будучым, дзякуючы адзінаму вектару фізічнага і духоўнага руху. Я заўсёды па добраму ўспрымаў і радаваўся творчым удачам У. Арлова. Вось і цяпер чытанне яго кніжкі, баладны сюжэт якой накрэслены на аснове біяграфічнай датычнасці аўтара да большасці яе гістарычна-вандроўных калізій, прынесла мне не толькі эстэтычнае, але пазнавальнае задавальненне.

Змест зборніка балад выбудаваны ўпоравень з пэўным прамінулым часам і паралельным яму аўтарскім мройна-фрывольным дапасаваннем сучаснасці. Паэтычная задума кожнага твора трымаецца на пэўнай гістарычнай фактуры тых ці іншых яе эпізодаў, якую аўтар *выгульвае* на шворцы (кампутарнай мышцы) ў сучасных рэаліях. Карціна Усходняй Еўропы падаецца ў розных эпахальных праекцыях і, дзякуючы адмысловым літаратурным прыёмам, якімі Арлоў выдатна валодае, даводзіцца да чытача і ўспрымаецца ім ужо на сваім досведна-свядомасным зломе кожнай канкрэтнай сітуацыі твора. Безумоўна і відавочна, што аўтар кіруе баладнымі дзеямі і сюжэтамі, але не перабольшвае сваёй волі і не узурпуе іх ходу, а эвалюцыйна дэмакратызуе працэс мастацкага і гістарычнага светаўладкавання.

Ярка прасочваецца, як зямная эвалюцыя адладжвае машыну заходнееўрапейскай цывілізацыі, укручваючы туды сваімі зубцамі і шасцяронкамі беларускую нацыю з яе грамадска-палітычнымі, сацыяльнымі, навуковымі, культурнымі і творчымі выбітнымі асобамі і знакавымі праявамі пэўнага часу.

Уласна я падзяліў для сябе балады на чатыры ўмоўныя групы: ***лірычна-эратычныя*** (“Кат Бальтазар”, “Мёд”, “Апошняя жанчына Казановы”), ***гістарычна-асветніцкія*** (“Аркады Падуі”, “Сура Шэйнбліт”, “Вуліца Саламеі”), ***грамадска-палітычныя*** (“Гвірабі”, “Алека”) і ***літаратурная*** (“Паэтычны фэст у Друскеніках”).

Па магчымасці коратка паспрабую даць характарыстыку кожнай з балад.

Полацкая балада “Кат Бальтазар” ёсць унутраным маналогам прафесійнага карніка. Размова вядзецца пра раздвоенасць асобы (кат і спагаднік, катуе і любіць), гэта як бы спрадвечны сімвалічны вобраз дабра і зла. Так было ў мінулым і так ёсць сёння: кат – пры часах Трэцяга Літоўскага статута і кат – у сучаснай Беларусі пры электронных тэхналогіях (не зважаючы на зацверджаныя ў ААН правы чалавека)... Аўтар эквілібрыстычна валодае мовай памяці і прадчуванняў.

кат Бальтазар праціраe інструменты
раскладае інструменты па шуфлядках
мые стамлёныя рукі
глядзіць на доўгія пальцы
маці хацела каб сын стаў лекарам

кат Бальтазар хоча Юсту
трымціць ад жадання
вылівае на голаў карэц вады
вылівае ў гарляк кухаль мёду-трайняку
як жа катаваць яе божа!
у кожнай прафесіі свае недахопы
кат Бальтазар
гушкаецца на арэлях бяссоння і сну
устае падыходзіць да вакна
глядзіць на цёмную Дзвіну
адказвае на званок з Нью-Ёрку
вяртаецца да кампутара
піша раман пра сучаснае каханне

Чытачу пасылаецца спакуслівая магчымасць умоўнага дапушчэння, што можа нават сам кат Бальтазар і пісаў гэтую баладу, хаваючы свой твар за ўласнымі біяграфічнымі падтэкстамі... Бо такі чалавек па сваёй боскай сутнасці.

Балада “Мёд”, як на маё разуменне, занадта *здуманая*, таму ў тэксце шмат пераробаў, зрэшты, падобнае сустракаецца і ў прозе У. Арлова: памятлівая эратычна-сэксуальная ўзбуджанасць, якая натхняе аўтара на творчы акт...

праз год пасля таго мёду
Нінка спакусіць мяне ў лазні
сцягне праз голаў сукенку
скажа з нявіннай усмешкай
пастаў мне палку
атрымаецца цэлых дзве

Аднак трэба заўважыць, што сцэны падлеткавай цнатлівасці і безграхоўнага лёгкага юру выпісаны аўтарам вельмі ярка і жарсна-запамінальна... На жаль, героі балады рана і безразважна гінуць, і гэты натуралістычны, можна сказаць, у пэўнай меры і спавядальны твор ёсць помнікам іх зямнога, акрыленага, але нядоўгага жыцця (“Вкушая, вкусих мало меда, и се аз умираю”, 1-я Кніга Царстваў).

Што тычыцца багемскай балады “Апошняя жанчына Казановы”, то, найперш, адцемім, што У. Арлоў, бадай, самы эратычны (калі не сказаць больш) сучасны беларускі паэт і пісьменнік, які валодае самым вытанчаным стылем пісьма, пры ўсёй зваблівасці тэмы стараючыся (хоць і не заўсёды) пазбягаць вульгарызмаў і цынічнай юрлівасці. Трэба аддаць належнае гэтаму ягонаму таленту, бо ён распальвае пачуцці нават самага халоднага чытача. Шкада, праўда, што канцоўка

твора пушчана на *самацёк*, не раўнуючы як, прабачаюся, пры нястрымным ці не ў час перарваным сэксуальным акце... І ўсё ж – любоў не менш помная, чым каханне:

у мемуарах ён піша пра ўсіх сваіх жанчын
згадвае кожную на імя на вусны на лоні
на галасы водары пахі
кожная цудоўна пахла
чым больш пацела
тым саладзейшым гэты пах рабіўся

У баладзе "Аркады Падуі" аўтар распавядае сучаснаму чытачу *"гісторыі відавочна прысутныя"*. Шуткуючы, можна сказаць, што гэтая балада Арлова ўбірае ў сябе ўсе балады Шніпа, бы акіян – рэкі, а калі сур'ёзна, то наогул усю гісторыю еўрапейскага асветніцтва. Яе можна назваць і інтэлектуальнай, бо дзякуючы гістарычнай эрудыцыі аўтара, тут спалучаны між сабою шмат імён і фактаў пэўнага часу (а да ўсяго, многа адсылаў і фрагментарных цытат). Усё завязана на Францішку Скарыну і ўсё ад яго, як ад жыватворнай крыніцы, расцякаецца далей па тэксце... Галоўная выснова твора, што ўсе мы, не зважаючы на нашу прамінуласць ці наступнасць, пражываем зямное жыццё ў адным часе – вечнасці, і ўсе мы ўзаемазвязаныя і ўзаемазалежныя... Таму нават такія разняволеныя страфы, відаць, разлічаныя на прыцягальнасць, бы той яблык на дрэве пазнання, выклікаюць гарманічную асацыяцыю старажытнага і сучаснага:

на сцяне базілікі направа ад увахода
графіці з лічбамі
такое ты бачыў у Горадні на Каложы:
*тут я і Нэлі саграшылі*
*пачалі 21.30 скончылі 22.15*
відаць былі школьнікі
або настаўнік і вучаніца
або вучань і настаўніца
настаўніца анатоміі
як некалі ў цябе

твой сябар дзяліўся:
з настаўніцай займаемся 45 хвілін
з дацэнткай акадэмічную пару
дацэнтка любіла казаць вам
*сэкс дае адчуванне што мы жывыя*

А слова дае нам адчуванне вечнасці. Пра што, пэўна, і хацеў сказаць аўтар балады.

Валынская балада "Сура Шэйнбліт" – гэта Бярдзічаў і неадназначны гістарычны замес нацыянальных драм і трагедый: беларусы, яўрэі, балгары, грузіны, рускія, украінцы... Найперш габрэйкі і... могілкі... Але аўтар пераконвае нас, што

Смерць ніколі не просіць
просіць – Любоў
сустрэч
узаемнасці
пяшчоты
жарсці
вернасці
лістоў
званкоў
эсэмэсак
радасці
болю

*немножко денег*
просіць – Любоў!

Аднак не ўтрымліваецца, каб абачліва не запытацца словамі ўедлівага чытача:

няўжо твая гісторыя з Бярдзічавам
як і ўсе гісторыі на свеце
пачалася і скончылася
немаведама навошта?

Балада "Вуліца Саламеі", як і папярэдняя, густа насычана гістарычным часам і асацыятыўным асобасным спектрам (неўміручымі імёнамі). Тут і абрушаны стопавярховы Сусветны гандлёвы цэнтр у Нью-Ёрку, і Данбас з АТА, і Драгобыч, і Аксана Забужка, і Алена Кіш, і Багуміл Грабал, і Мілан Кундэра... Наогул, як і ў іншых баладах, аўтарам выкарыстоўваецца метад супрацьпастаўлення: кат Бальтазар і пажадная яму "вядзьмарка" Юста, шарфюрэр Карл Гюгтэр і яго ахвяра Бруна Шульц і г.д.; і не толькі супрацьпастаўлення герояў, але ідэй і ідэалогій, задум і здзяйсненняў, мінулага і будучага... Метафарычна вандруючы па львоўскіх кавярнях, аўтар міжвольна пераўвасабляецца ў іншых герояў, апынаючыся ў даўнім часе і дзіўных сітуацыях. Аднак нязменна адно – заўсёды і паўсюль ён імкнецца за сваім творчым духам, надаючы высакароднасці зямному гістарычнаму часу. Ён атачае чытача хмельна-эратычным трызненнем, прасцей кажучы, уводзіць яго ў своеасаблівы мройна-мастацкі транс:

Тарапаку ты піў з Аксанай Забужкай
вы гулялі па палях і лугах
вострава Готланд Швецыя
займаліся тэорыяй і практыкай літаратуры
уначы ты штудыяваў
Палявыя даследаванні ўкраінскага сэксу

А вось балада "Гвірабі", натуральна, мае грузінскі змест і замес з прыцягнутымі па асацыяцыі персанажамі гістарычнага і цяперашняга часу. Яе лірычна-тонкі настрой, як пахкая бруя настоенага вінаграднага віна, што, хмельна пераліваючыся пад сонцам, ліецца ў бяздонны рог грузінскай гасціннасці... Не вызнаць ад такой словачыннасці эстэтычнага задавальнення – грэхападобна.

царыцу звалі Тамара
Руставелі напісаў за Тамарай
*Рыцара ў тыгравай шкуры*
Грузія прысвяціла Руставелі
купюру 100 лары
царыцы Тамары Грузія прысвяціць
купюру 50 лары
паэты цэняцца даражэй за царыц
магчыма і за цароў
цары маюць іншую думку

У нашым выпадку, будзем спадзявацца, што балада "Гвірабі", напісаная за часам Лукашэнкі, у гэты ж час і будзе адпаведна ацэненая.

Адна з найбольш аб'ёмных, балканская балада "Алека", заснаваная як бы на рэальнасцях аўтарскага жыцця, усё ж мае фантасмагарыстычны характар, вылуплены з падсвядомых асацыяцыйных напластаванняў гістарычнай памяці. Метамарфозы сучаснага нацыянальнага інтэлекту і менталітэту на фоне падступаючай агрэсіўнай расейскай імперскасці ды глабальнай прагматычнасці.

хто гэта сказаў пра час:
мы тут былі і адбыліся?
маўляў мілы прытулак
пяшчотны і эфемерны
твой варыянт пазбаўлены лірыкі:
былі і не адбыліся
развеяліся ў экзістэнцыйным тумане
у мірным пяшчотным прытулку
дзе над ложкамі схіляюцца
пачвары і дэманы

Колішнія царскія паручнік Пятровіч і прапаршчык Здань, прозвішчы якіх выбіты на помніку ў Балгарыі (*"фамилии какие-то нерусские"*), кантрастуюць з двума расейскімі праваднікамі ў цягніках замежнага накіравання (Калянам і Ваванам)... Праз усё выяўляецца спадчынная традыцыя вялікадзяржаўнасці (альбо патугаў на яе). Але што найбольш падвышае і так высокі цэнз творчага таленту У. Арлова, дык гэта тое, што, вольна фантазуючы, ён умее ўвасабляць у арыгінальгую мастацкую карціну як змроенае, так і рэальнае жыццё, прычым у лёгкай чытэльнай, нярэдка іранічнай манеры. Беларускі паэт, які едзе ў Балгарыю атрымліваць прэмію *Алека* і сутыкаецца з праваднікамі "русского мира" (супрацьстаянне ідэй і ідэалогій)...

калідор з прыбіральняй
Сцяпанавіч з півам
Сцяпанавіч: *хороша ты русская земля!*
ты маўчыш
*здесь на твоей недоношенной мове*
*никто уже не говорит*
*не заговорит никогда*
*я знаю что говорю*
*я здесь вырос*
ты маўчыш

Усё сканчаецца бойкай і – перамогай. Чыёй? Таго, хто хоча міру. І паэта, вядома, які

вядзе музу да пісьмовага стала
там усё звычайна і адбываецца
музе даспадобы што адбываецца
даспадобы што ты шэпчаш на вушка
дрэнныя словы
што ты пішаш дрэнныя словы на снезе
даспадобы што пішаш асадкай
муза кажа: як у часы Троі
ставіш ёй на пісьмовым стале
незалік па гісторыі

Ну і апошняя балада, якая завяршае кніжку – "Паэтычны фэст у Друскеніках". Як мне падаецца, гэты тэкст напісаны аўтарам як своеасаблівае пасляслоўе і з'яўляецца спробай тлумачэння ўсёй творчай задумы гэтага зборніка. У. Арлоў дзеліцца шматлікімі і паасобнымі літаратурнымі праявамі аўтарскай свабоды слова, якія праяўляюцца пры знешніх абставінах уціску, падчас іх мастацкіх пасылаў бязвольнаму і памяркоўнаму грамадству... У кантэкст уведзена безліч паэтаў і пісьменнікаў розных народаў, ад вялікіх постацяў мінуўшчыны да жывых сучасных класікаў і маладзейшага пакалення...

бачыш як у дзверы
з баявой харугваю фэсту

урываюцца
Дантэ з Хаданавічусам
Муракамі з сакэ і сакурай
венесуэльскі паэт з калашнікавым
*and Others*
дзесьці за сцэнай
Бон Джові спявае песню
на твой даўні верш
*it's all thee same*
*only the names have changed*
*усё па-ранейшаму*
*толькі імёны змяніліся*

Не выпадае спрачацца. Усё як заўсёды.

Падводзячы рысу пад напісаным, што можна сказаць у высновах? Бадай, варта парадавацца, што ў сучаснай беларускай паэзіі з'явілася новая чытэльная кніжка, напісаная інтрыгоўна і займальна, вольна і ў меру распусна, іранічна і гранічна шчыра, гратэскна і грунтоўна... Не толькі для галавы, але і для душы. Пакуль што падобнай літаратуры ў нас бракуе. Дапускаю, што нехта пакажа на яе лёгкасць, аднак гэта будзе толькі павярхоўны погляд, бо насамрэч такой насычанай інтэлектуальнай фактуры і энцыклапедычнай працы мы і блізка не знойдзем на старонках іншых паэтычных выданняў. Прымем да ўвагі і тое, што аўтар, будучы ў пашанотным узросце, маючы заслужаны гонар і ўзнагароды, усё яшчэ па-маладому азартна спрабуе ісці з часам у нагу: адчувае попыт у маладога чытача, а таксама літаратурную і выдавецкую канкурэнтнасць і кан'юнктуру кніжнага рынку (хоць у нашых умовах казаць пра такія рэчы, мабыць, не зусім сур'ёзна і ранавата)... Як публічная асоба Уладзімер Арлоў паводзіць сябе даволі талерантна, але пры гэтым ніколі не спазняецца і паўсюль паспявае. Ён спакойна піша, раз і назаўжды заняўшы сваю адметную нішу ў нашым сучасным красным пісьменстве і знайшоўшы адданых прыхільнікаў уласнай творчасці. Многія ведаюць, што ў літаратурных і калялітаратурных колах у яго шмат зайздроснікаў. Пасля выхаду гэтай кнігі іх адназначна не паменее.



# Колер крылаў

## *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»*




**Роберт ван Гулік. Следства вядзе суддзя Дзі: восем кітайскіх дэтэктыўных гісторый. Пер. з англ. Г. Янкуты. – Мінск: Кнігазбор, 2019. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; Бібліятэка часопіса “ПрайдзіСвет” “PostScriptum”). – 232 с.**

Роберт ван Гулік — нідэрландскі пісьменнік і ўсходазнаўца, найбольш вядомы дзякуючы цыклу твораў пра суддзю Дзі, “Шэрлака Холмса Старажытнага Кітая”, які расследуе загадкавыя злачынствы ў падуладных яму акругах. У апавяданнях са зборніка “Следства вядзе суддзя Дзі” аўтар выкарыстоўвае прыёмы, распрацаваныя кітайскай дэтэктыўнай літаратурай, у тым ліку паралельнае расследаванне некалькіх злачынстваў адначасова. Дзякуючы часопісу “ПрайдзіСвет” і Саюзу беларускіх пісьменнікаў, цяпер і беларускамоўны чытач мае магчымасць пазнаёміцца з прыгодамі знакамітага дэтэктыва і яго памочнікаў у выдатным перакладзе Ганны Янкута.




**Марыя Мартысевіч. Сарматыя. — Мінск: А.М. Янушкевіч, 2018. — 44 с.**

У “эпісталярнай паэме“ Марыі Мартысевіч апісваецца гісторыя кахання, якая, сыходзячы з анатацыі, мела месца невядома калі і невядома дзе... Сарматы — напаўміфічныя качэўнікі, апісаныя яшчэ Герадотам. Іх плямёны засялялі Паўночнае Прычарнамор’е ў III–IV ст. н. э. Праз тузін стагоддзяў ад іх пачала весці свой род шляхта Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, адмяжоўваючыся такім чынам ад сялянскага саслоўя. Аўтарка паэмы спрабуе пачуць водгулле гэтага “старога добрага шляхецкага сарматызму” ў Беларусі XXI стагоддзя.

*...Мора сармата – гэта пара партоў,*
*у якія яго не пускаюць без пашпартоў,*
*і калі яго выпускаюць зь цёмнай каморы,*
*ён як абвараны бегае ад мора да мора.*
*Рытуал прывітаньня з морам, разьвітаньня з морам –*
*мора найпрост кіруе ягоным гуморам.*
*Тыдзень ляжыць на хвалях – і год жыве.*

*Мора сармата разьліваецца ў яго ў галаве...*

**Сяргей Палуян. След, вечна жывы. — Мінск: Кнігазбор, 2018. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; выпуск 114). — 336 с.**




Аснову выдання складае творчая спадчына самабытнага публіцыста, крытыка, празаіка і паэта Сяргея Палуяна, адшуканая даследчыкамі ва ўкраінскай і беларускай перыёдыцы. У кнізе ўпершыню найбольш поўна прадстаўлены ўспаміны пра пісьменніка, яго родных і знаёмых, мастацкія творы, прысвечаныя яму, матэрыялы пра радаслоўе Палуянаў. Укладальнікі кнігі, руплівыя літаратуразнаўцы Таццяна Кабржыцкая і Вячаслаў Рагойша, ставяць Сяргея Палуяна поруч з Янкам Купалам, Максімам Багдановічам, Вацлавам Ластоўскім, рашуча і доказна ўпісваюць яго асобу ў панараму гісторыка-філасофскіх, эстэтыка-культурных характарыстык беларускага Адраджэння пачатку XX ст.

**Вольф Рубінчык. Выбраныя мухі і катлеты. – Мінск: Шахплюс, 2018. – 136 с.**




Гэта восьмая кніга мінскага палітолага, перакладчыка і, як сцвярджае ў прадмове аўтар (дарэчы, кандыдат у майстры спорту па шахматах), – “даследчыка шахматнай мінуўшчыны”. Складаецца яна з думак, назіранняў, разваг, мініяцюр, многія з якіх былі змешчаны на незалежным ізраільска-беларускім сайце *belisrael.info*, а некаторыя заўважаліся і больш масавымі інтэрнэт-рэсурсамі: “Радыё Свабода”, “Наша Ніва”, “Новы час”, “Краязнаўчая газета”. Кніга адрасавана шырокаму колу “правільных”, як зноў-такі ўдакладняе аўтар, чытачоў.

**Анхела Эспіноса Руіс. Колер крылаў. — Мінск: Кнігазбор, 2019. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; выпуск 116). — 248 с.**




У кнігу Анхелы Эспіноса Руіс “Колер крылаў” увайшлі паэтычныя творы (як новыя, так і выбраныя з ранейшых кніг), а таксама апавяданні і калумністыка. Асобным раздзелам прадстаўлены пераклады з бенгальскай, ангельскай, іспанскай, польскай, рускай, чэшскай і японскай моў. Кніга была выдадзеная як узнагарода пераможцы літаратурнай прэміі Міхася Стральцова з фармулёўкай *за пачуццёвае і метафарычнае багацце паэтычнай мовы і адважнае імкненне асэнсаваць таемнасць беларускага быцця.*

*Я прыйшла з ніадкуль – ні з таго, ні з сяго,*
*Цёплым брызам пайднёвага краю.*
*“Ты чыя?” – кажуць мне. Я прыйшла з ніадкуль,*
*І са слоў помню толькі “Кахаю”.*



# Нашыя аўтары

**Акудовіч Валянцін** – філосаф, эсэіст. Аўтар кніг «Мяне няма. Роздумы на руінах чалавека», «Разбурыць Парыж», «Код адсутнасці». Лаўрэат прэміі Беларускага ПЭН-цэнтра (Прэмія імя Алеся Адамовіча) (2001), літаратурнай прэміі «Гліняны Вялес» (2007), прэміі «Залатая літара» (2012). Нарадзіўся ў 1950 годзе ў мястэчку Свіслач на Гарадзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Бабкоў Ігар** – паэт, празаік, філосаф. Аўтар кніг «Solus Rex», «Герой вайны за празрыстасьць», «Адам Клакоцкі і ягоныя цені», «Засынаць, прачынацца, слухаць галасы рыб», «Хвілінка» і інш. Лаўрэат літаратурных прэмій «Гліняны Вялес» (1993), «Залаты Апостраф» (2011), імя Ежы Гедройца (2014). Нарадзіўся ў 1964 годзе ў Гомелі. Жыве ў Мінску.

**Бандарэнка Зінаіда** — дыктарка Беларускага Тэлебачання. Працавала вядоўцаю Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі. Рэпрэзентоўвала Беларусь на фестывалях у СССР і за мяжой. Народная артыстка Беларусі (1985). Нарадзілася ў 1939 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Бароўская Ірына** – літаратуразнаўца. Друкавалася ў часопісах «Роднае слова», калектыўных зборніках, альманаху «Палац». Аўтарка манаграфіі «Паэтыка беларускай песеннай лірыкі», удзельніца шматлікіх навуковых канферэнцый – міжнародных, рэспубліканскіх, абласных і інш. Нарадзілася ў 1968 годзе ў Мазыры. Жыве ў Гомелі.

**Васілевіч Уладзімір** – фалькларыст, этнограф, перакладчык. Працаваў у БДПУ імя М. Танка. Перакладае з польскай мовы. Нарадзіўся ў 1952 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Галубовіч Леанід** – паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг «Таемнасць агню», «Споведзь бяссоннай душы», «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча», «Сыс і кулуары», «З гэтага свету», «Поўня». Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Вароніна на Клеччыне. Жыве ў Мінску.

**Гізун Алесь** – паэт, празаік. Творы друкаваліся ў часопісах «Дзеяслоў», «Жырандоля», «Макулатура» ды інш. Нарадзіўся ў 1983 годзе ў Баранавічах, дзе і жыве.

**Гіль (Гілевіч) Мікола** — празаік, перакладчык, публіцыст. Аўтар кніг прозы і публіцыстыкі «Ранішнія сны», «Пуд жыта», «Ёсць на зямлі крыніца», «Тэлеграма з Кавалевіч», «Пасеянае – узыдзе», «Камандзіроўка ў Вішанькі», «Кім і Валерыя» і інш. Нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Слабада на Лагойшчыне. Жыве ў Мінску.

**Дранько-Майсюк Леанід** — паэт, празаік, эсэіст, перакладчык. Аўтар кніг «Вандроўнік», «Тут», «Над пляцам», «Акропаль», «Стомленасць Парыжам», «Гаспода», «Цацачная крама», «Анёлак і я», «Кніга для спадарыні Эл», «...Натуральны, як лінія небасхілу» і інш. Лаўрэат прэміі «Залаты апостраф» (2005). Нарадзіўся ў 1957 годзе ў Давыд-Гарадку. Жыве ў Мінску.

**Качаткова Паліна** – празаік, публіцыст, журналіст. Даследчыца творчасці Максіма Багдановіча. Аўтарка кніг «Матылі», «Гняздо-2», «Міхась Кукабака». Нарадзілася ў 1968 годзе ў Оршы, дзе і жыве.

**Корань Вадзім** – філолаг, паэт. Асноўная сфера інтарэсаў – літаратура Беларусі XVII–XVIII стст. Нарадзіўся ў 1983 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Лец Станіслаў Ежы** – польскі паэт. Майстар кароткага філасофскага парадоксу. У цыклах афарызмаў «Непрычасаныя думкі» (*Myśli nieuczesane*) пры дапамозе жарту, іроніі, сарказму, гульні словаў выказваў пратэст супраць дагматызму і любых формаў гвалту з асобы. Нарадзіўся ў 1909 годзе ў Львове (Аўстра-Венгрыя). Памёр у 1966 годзе.

**Маякоўскі Уладзімір** – расійскі паэт, драматург. Адзін з найбуйнейшых паэтаў XX ст. Рэфарматар паэтычнае мовы. Творчай манеры У. Маякоўскага ўласцівыя рамантычнае светаадчуванне, іранічная аголенасць пачуцця, зліццё аўтара з лірычным героем, устаноўка на прамы зварот да аўдыторыі, канцэнтраваная эмацыйнасць і энергія верша. Нарадзіўся ў 1893 годзе ў сяле Багдадзі, Кутаісская губернія (сучасн. Грузія). Памёр у 1930 годзе ў Маскве.

**Мірановіч Міхась** – паэт-гумарыст, перакладчык. Аўтар кніг «Міранізмы», «Жартачкі». Лаўрэат прэміі імя Кандрата

Крапівы (2002). Нарадзіўся ў 1948 годзе ў вёсцы Старына на Ушаччыне. Жыве ў Віцебску.

**Міско Іван** – скульптар, фотамайстар, педагог. Працуе ў галіне станковай і манументальнай скульптуры. Народны мастак Беларусі (2008). У Мінску адкрыта яго майстэрня-музей (2013). Аўтар помніка ў гонар маці-патрыёткі ў Жодзіне, Максіму Горкаму ў Мінску, Максіму Танку ў Мядзелі (усе ў суаўтарстве), шматлікіх партрэтаў касманаўтаў, дзеячаў беларускай гісторыі і культуры, твораў дробнай пластыкі. Нарадзіўся ў 1932 годзе ў вёсцы Чамяры Слонімскага раёна. Жыве ў Мінску.

**Рублеўская Людміла** — паэт, празаік, крытык, драматург, нарысіст. Аўтарка кніг паэзіі «Крокі па старых лесвіцах», «Адукацыя», «Замак месячнага сяйва», прозы «Старасвецкія міфы горада Б*», «Сэрца мармуровага анёла», «Пярсцёнак апошняга імператара», «Шыпшына для пані», «Сутарэнні Ромула», «Ночы на Плябанскіх млынах», «З'яўленне Інфанты», «Дагератып» і інш. Лаўрэатка прэміі «Залаты апостраф» (2004), прэміі імя Ф. Багушэвіча (2011). Нарадзілася ў 1965 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Свентахоўскі Усевалад** – мастак. Працуе ў галіне графічнага дызайну, кніжнай графікі, каліграфіі. Творы экспанаваліся на выставах у Беларусі, Расеі, Сербіі, Польшчы, Летуве. Творы захоўваюцца ў фондах Музея сучаснага выяўленчага мастацтва ў Мінску. Нарадзіўся ў 1966 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Сідарук Ігар** — паэт, драматург, празаік. Аўтар кніг «Чарнабел», «Моўкнасць», «Павучальныя гісторыі дзядзечкі Сіда Рука», «Квадратная варона» і інш. Нарадзіўся ў 1964 годзе ў Кобрыне. Жыве ў Кобрыне.

**Сіўчыкаў Уладзімір** — паэт, празаік, публіцыст, перакладчык, драматург, мастак. Аўтар кніг «Гульня ў тастамант», «Лісты да брата», «Высакосны год», «Бювар», «Уладзевы гісторыі», «Багоўка», а таксама альбомаў «Жодзінцы» і «Рыцары Пагоні і Арла» (сумесна з А. Марачкіным). Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Жодзіне. Жыве ў Мінску.

**Слінка Віктар** — паэт. Аўтар кніг паэзіі «Апошні снег», «Штольні вясны», «Арахна». Лаўрэат прэмій «Гліняны Вялес» (2001), «Залаты Апостраф» (2005). Нарадзіўся ў 1972 годзе ў вёсцы Козікі на Берасцейшчыне. Жыве ў Мінску.

**Тамковіч Аляксандр** – публіцыст. Аўтар кніг «Асобы», «Будзіцелі», «Інтэрв'ю, якіх не было», «Лёсы», «Без палітыкі», «Супраць плыні», «Жыццё пасля кратаў», «Мазаіка жыцця» і інш. Лаўрэат прэміі ПЭН-цэнтра імя Алеся Адамовіча (2011). Нарадзіўся ў 1963 годзе ў Ашмянах на Гарадзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Хадановіч Андрэй** — паэт, перакладчык. Аўтар кніг паэзіі «Лісты з-пад коўдры», «Старыя вершы», «From Belarus with love», «Сто лі100ў на tut.by», «Бэрлібры», «Несымэтрычныя сны», «Нататкі таткі», «Цягнік Чыкага-Токіё» і інш. Перакладае з ангельскай, французскай, польскай, украінскай і інш. моваў. Лаўрэат прэміі «Залаты апостраф» (2007), прэміі імя Карласа Шэрмана (2017). Нарадзіўся ў 1973 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Хамянок Аляксандра** – празаік. Выпускніца Школы маладога пісьменніка. Аўтарка кнігі казак «Прыгоды Эліс». Лаўрэатка Міжнароднага творчага конкурсу «Прарочая мара» ў намінацыі «Проза» (Самара, 2016). Нарадзілася ў 1984 годзе ў Мсціславе. Жыве ў Мінску.

**Цвірка Кастусь** – паэт, празаік, перакладчык, фалькларыст, этнограф. Аўтар кніг «Рака дарог», «Зялёная Дуброва», «Чарназём», «Слова пра Сыракомлю...», «Лодка долі тваёй», «Лісце забытых алеяў», «Воўчая выспа» і інш. Лаўрэат прэміі «Залаты апостраф» (2011). Нарадзіўся ў 1934 годзе ў вёсцы Зялёная Дуброва на Старадарожчыне. Жыве ў Мінску.

**Шпілька Тадора (Будовіч Таццяна)** – паэтка. Аўтарка кнігі вершаў «Дуэль паглядаў». Нарадзілася ў 1977 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Яленская Эма** – польскамоўная пісьменніца, фалькларыстка і этнограф. Аўтарка аповесцяў «Двор у Галінішках», «Віленская кальварыя», «Ад кахання», «Буслы», «Пярсцёнкі», «Жанчына, пуху марны», «Юбілей», «Тры пакаленні», «Як адламаная галінка», «Маці» і інш. Нарадзілася ў 1864 годзе ў вёсцы Камаровічы на Мазыршчыне. Памерла ў 1919 годзе ў Вільні.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**

**Лаўрэаты літаратурнай прэміі**
**«Залаты апостраф» —**
**за лепшыя публікацыі ў часопісе «Дзеяслоў» у 2018 годзе:**

***«Паэзія».*** **Васіль ЗУЁНАК. За нізкі вершаў**
**“Ты сам сабе і шлях, і перамога”, №92 і “На ўсе часы”, №95.**

***«Проза».*** **Уладзімір СЦЯПАН. За нізку мініяцюраў “Букет”, №95.**

***«Дэбют».*** **Марыя БАДЗЕЙ. За нізку вершаў “Лоўля вятроў”, №96.**





**«Дзеясло\u045eцы» шчыра віншуюць новых лаўрэатаў!**

Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры перадруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Аляксандра Абуховіча, Юрыя Дзядзінкіна, Юрыя Іванова, Анатоля Клешчука, Яўгена Коктыша, Уладзіміра Крука, Івана Місько, Уладзіміра Сіўчыкава, Віктара Стралкоўскага, Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.